# «ДЗЕВЯНОСТА ПЕРШЫ», «ДЗЕВЯНОСТА ДРУГІ», «ДЗЕВЯНОСТА ЧАЦЬВЕРТЫ», «ДЗЕВЯНОСТА ПЯТЫ» — ВОДГУКІ І АЦЭНКІ

## «ДЗЕВЯНОСТА ПЕРШЫ»

«Дзевяноста першы» — гэта ўзор жарснай публіцыстыкі, прадоннага аналізу падзеяў, прарочых высноваў. Сяргей Навумчык — правая рука Зянона — пісаў профілі дзевяноста першага году, у якім вырашаўся лёс незалежнай дзяржавы Беларусь. Знайшоўся неспакойны Беларус і распавёў пра падзеі, як ён бачыў іх, як непасрэдна ўспрымаў.

І захмар’е, і дол,
і халодны позірк,
і душэўная трывога.
Ацэнку дасьць час.
За ім — слова!

*Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі*

Навумчык — выдатны аўтар. У яго добры стыль, ён умее трымаць увагу і напружаньне. Гэта звышчытэльны тэкст. 500-старонкавы фаліянт прачытваецца на адным дыханьні.

*«Наша Ніва»*

Час ідзе, нешта забываецца, а потым зьяўляюцца тыя мэмуарысты, якія помняць добрае, зьвязанае зь імі самімі, і забываюць тое, што, можа, ня надта добрае было зь імі, або гэтае ня надта добрае хочуць перакласьці на чужую адказнасьць, на чужыя плечы. Ва ўсякім разе, у тых кнігах, якія я прачытаў пра той час, у мяне такое адчуваньне было. Таму тое, што Сяргей дае дакумэнты, дае атмасфэру таго часу, — мне здаецца, гэта вельмі важна.

*Генадзь Бураўкін, паэт, першы прадстаўнік незалежнай Беларусі ў ААН*

Захапляюся — часам са сьлязой у вачах — дэталямі, якія проста ўцягваюць чытача ў апісаныя падзеі. Кніга «Дзевяноста першы» — каштоўны архіў, які чытаецца як раман.

*Івонка Сурвіла, старшыня Рады БНР*

Гэты важкі том — найлепшы адказ як тым, хто лічыць, нібыта незалежнасьць звалілася на беларусаў зь неба, так і тым, хто мяркуе, быццам нацыянальна-дэмакратычныя сілы на чале з БНФ у нашай найноўшай гісторыі пацярпелі паразу. Насамрэч яны ў неверагодна складаных умовах дасягнулі галоўнай мэты — краіна атрымала Незалежнасьць.

*Уладзімер Арлоў, пісьменьнік*

Гісторыю, як вядома, пішуць пераможцы. Са спазьненьнем на 20 гадоў мы дачакаліся і сваёй гісторыі пра пераможны 1991 год.

*Дзьмітры Гурневіч, журналіст*

# «ДЗЕВЯНОСТА ДРУГІ»

На пачатку 60-х гадоў мінулага стагодзьдзя тагачасная моладзь зачытвалася мэмуарамі Ільлі Эрэнбурга «Люди, годы, жизнь», зь нецярплівасьцю чакала іх працягу. У іх быў выкрыты мэханізм сталінізму, іншымі, зразумела, сродкамі. І калі надышоў нэасталінізм у брэжнеўска-суслаўска-андропаўскім выкананьні, ён ужо ня здольны быў яе, моладзь, «повернуть назад». Бо ў сьвядомасьці «шасьцідзясятнікаў» пасьпела насьпець Будучыня.  У пэўным сэнсе сэрыю кніг, якую задумаў і ажыцьцяўляе Сяргей Навумчык, можна назваць «Людзі, час, Беларусь», хоць яны не зусім мэмуары, а мо і не мэмуары зусім. Ёсьць, ёсьць прыкметы таго, што беларуская моладзь, дзякуючы кнігам Сяргея, усё глыбей асэнсоўвае, як дзейнічае мэханізм нацыянальнай здрады, і разумее, як ёй супрацьстаяць.

*Сяргей Ваганаў, журналіст*

Першая палова 90-х — гэта пэрыяд гісторыі Беларусі, які цяперашняя ўлада хоча калі не забыць, то прынізіць. «Успамін ад тых дзён — адчуваньне страчанага часу», — піша Сяргей Навумчык пра 1992 год. Але сам жа і зьняпраўджвае гэтую журботную выснову, бо сьведчыць як удзельнік падзеяў пра беспрэцэдэнтны акт волі нашага народу: сабраныя Народным Фронтам амаль паўмільёна подпісаў за свабодны, дэмакратычны, нармальны шлях для незалежнай Беларусі.

*Вінцук Вячорка, мовазнаўца*

# «ДЗЕВЯНОСТА ЧАЦЬВЕРТЫ»

Сяргей Навумчык напісаў вельмі цікавую кнігу, якая, дзякуючы стылю і пачуцьцю гумару аўтара, чытаецца на адным дыханьні. Але галоўнае, што там ня схлушаны аніводны факт. Часта бывае прыкра, калі чытаеш хлусьню пра тое, чаму сам быў сьведкам. У кнігах Навумчыка такога няма.

*Сяргей Дубавец, пісьменьнік*

Гэта хроніка палітычнага жыцьця, якое было ў Беларусі.

*Сяргей Антончык, лідэр рабочага руху пачатку 1990-ых*

Сяргей Навумчык досыць аб’ектыўна ацэньвае расклад палітычных сіл у нашай краіне напярэдадні і падчас прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году. Ён прыходзіць да высновы, зь якой цяжка не пагадзіцца: на тых выбарах і Кебіч, і Аляксандар Лукашэнка рэпрэзэнтавалі блізкія між сабою палітычныя пазыцыі, у аснове якіх ляжала імкненьне да пераўтварэньня Беларусі ў калёнію ўсходняга суседа ўзамен на моцна жаданую імі найвышэйшую ўладу на гэтай тэрыторыі.

*Лявон Баршчэўскі, дэпутат Вярхоўнага Савету XII скліканьня*

Такая кніжка — выдатная зьява.

*Радзім Гарэцкі, акадэмік*

# «ДЗЕВЯНОСТА ПЯТЫ»

Значная  частка тэксту прысьвечана красавіцкай галадоўцы ў памяшканьні парлямэнту, рэфэрэндуму і выбарам 1995 году. Паводле сваёй трагічнай значнасьці ў найноўшай гісторыі Беларусі гэтыя падзеі, бадай, пераважаць гісторыю злачыннага зьнікненьня вядомых беларускіх грамадзян. Такія злачынствы ня маюць маральнага тэрміну даўнасьці.

*Пётра Садоўскі, першы амбасадар Беларусі ў Нямеччыне*

Кніга выдатна адпавядае жанру «нон-фікшн». У кнігах гэтага жанру выкарыстоўваюцца мастацкія прыёмы раскрыцьця вобразаў і такая спэцыфічная кампазыцыйная арганізацыя твораў – сцэна за сцэнай. У выпадку зь Сяргеем Навумчыкам гэта ня толькі сцэна за сцэнай, але і год за годам. І можна сказаць, што гэта ў пэўным сэнсе ўзорны нацыянальны «нон-фікшн».

*Ганна Кісьліцына, літаратурны крытык*

Лёгкі стыль аўтарскага выкладаньня робіць, здавалася б, сур’ёзную гістарычную літаратуру «надрыўнай», кшталту майстроў дэтэктыўнага альбо фантастычнага жанру.

*Сяргей Пульша, аглядальнік газэты  «Новы час»*

Аўтар не нэўтральны, ён нефармал, бэнээфавец, апазыцыянэр, дэмакрат, пацярпелы, герой, удзельнік, зацікаўленая асоба... Усё так. Толькі гэта ня мінус, а фарматная дадзенасьць. Яе галоўная рыса – не абмежавальнасьць, а сумленнасьць сьведкі, эмоцыя часу, а не ягоны асадак, не наратыў прафэсара, а праўдзівасьць летапісца.

*Аляксандар Лукашук, дырэктар Радыё Свабода*

Гэта каштоўнае, дакладнае дасьледаваньне па найноўшай гісторыі змаганьня за незалежную Беларусь пагрунтована на дакумантах, на летапісе друку, на ўспамінах і архіўных матар'ялах і на вопыце ўласнага ўдзелу ў палітычным працэсе той пары. Асаблівай каштоўнасьцю кнігі зьяўляецца тое, што яна адлюстроўвае дух таго часу, сваістае адчуваньне падзей, часам апісаных скрупулёзна да найменшых дэталяў.

*Зянон Пазьняк, старшыня Апазыцыі БНФ*
*у Вярхоўным Савеце XII скліканьня*

Узяла ў рукі на хвіліну пагартаць і не змагла адарвацца, хоць вельмі балюча чытаць усе падрабязнасьці таго, што мы, учарашнія дзеці, бачылі збоку, а аўтар – знутры. Як быццам ізноў разанула па сэрцы. Як тады, калі мы даведаліся пра вынікі рэфэрэндуму (у мяне дагэтуль зьвініць у вушах крык маёй тагачаснай сяброўкі, вельмі-вельмі ціхай дзяўчынкі Наташы – «Ня можа быць!» на ўсю кавярню). Як тады, калі глядзелі, як здымаюць «Пагоню» з будынка на плошчы Незалежнасьці, і плакалі. Спадзяюся, што некалі ўрыўкі з кнігі ўвойдуць у падручнікі, па якіх будуць вучыцца калі ня нашы дзеці, то ўнукі – дакладна.

*Мілана Міхалевіч, настаўніца*

*Усё было страшна, але ніхто ня ведаў страху.*

Віктар Гюго, «Дзевяноста трэці»

**Сяргей Навумчык. Дзевяноста трэці.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2018. 536 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Аляксандар Лукашук*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

У пятым томе хронікі новай беларускай дзяржаўнасьці канца XX стагодзьдзя аднаўляецца ва ўсёй вастрыні барацьба ў парлямэнце за і супраць вайсковых саюзаў, за энэргетычную незалежнасьць і супраць увядзеньня прэзыдэнцтва, ашаламляльныя здабыткі і паразы нацыянальнага адраджэньня і дэмакратыі, галоўныя дзейныя асобы і драматычныя наступствы іх выбару для свабоды — 1993 год вачыма ўдзельніка, дэпутата Вярхоўнага Савету Беларусі (1990–1995).
Папярэднія кнігі цыклю — «Дзевяноста першы», «Дзевяноста чацьверты», «Дзевяноста пяты» і «Дзевяноста другі».

У кнізе скарыстаныя фатаздымкі Сяргея Грыца, Уладзімера Кармілкіна, Уладзімера Сапагова, Галіны Навумчык, Франака Вячоркі, газэты «Свабода», матэрыялы сайтаў «Вытокі» і «Міжнародны беларускі архіў», а таксама архіву аўтара.


FOL

ISBN 978-0-929849-22-5

# ЗЬМЕСТ

## АПОШНІ МІРНЫ ГОД

Яшчэ ніхто ня зьнік, ня зьбіты АМАПам, не сядзіць на «Акрэсьціна», не галадае ў «Валадарцы», не шукае рыфмы на нарах «Амэрыканкі», ня просіць аб памілаваньні, ня выключаны з унівэрсытэту, ня выкінуты з працы, ня выштурхнуты ў эміграцыю.

Яшчэ бел-чырвона-белы сьцяг лунае над парлямэнтам, міліцыянты і памежнікі носяць форму з Пагоняй, юбілеі БНР, зьезды беларусаў замежжа, канфэрэнцыі БНФ адбываюцца ў галоўных залях сталіцы, восем з кожных дзесяці першаклясьнікаў вучацца па-беларуску, незалежныя газэты выходзяць стотысячным накладам, кнігі пра сапраўдную гісторыю друкуюцца дзяржаўнымі выдавецтвамі.

Яшчэ не прынятая канстытуцыя, ня ўведзенае прэзыдэнцтва, не пачаўся рэфэрэндумны шал.

Але ўжо ачомалася ад здранцьвеньня мінулае. Ужо бярэ рэванш у палітыцы, у эканоміцы, у войску. Яно ўжо тут.

93-ці, апошні мірны год, магчыма, самы шчасьлівы ў люстэрку незалежнасьці.

Такое беларускае шчасьце — абы не было вайны.

Хоць яна была.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

# АД АЎТАРА

Новы 1993 год я сустрэў разам з Аляксандрам Лукашэнкам.

У электрычцы Менск — Барысаў.

Мы былі не адны, а ў кампаніі жанчын — разам са Станіславам Шушкевічам і яшчэ некалькімі вядомымі асобамі.

Праўда, кампанія была віртуальная (хоць слова такога тады яшчэ ня чулі): насамрэч я ні з кім нікуды ня ехаў, а проста навагодні нумар «Звязды» надрукаваў жартаўлівае апытаньне сярод пасажырак электрычкі, каго б яны хацелі бачыць у якасьці Дзеда Мароза ля навагодняй ялінкі.

Жарт калег-журналістаў, аднак, не парадаваў: я лічыў, што газэты надаюць празьмерную рэкляму гэтаму дэпутату, які ўжо выразна засьведчыў свае антыдэмакратычныя і прарасейскія погляды.

Увогуле ж палітычны 1993 год пачаўся не каляндарна, а 3 лютага, калі на галасаваньне была пастаўленая прапанова скасаваць пастанову Вярхоўнага Савету аб прыпыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС, прынятую ў дзень абвяшчэньня незалежнасьці, 25 жніўня 1991.

…Ішло вечаровае пасяджэньне, у вокны пад купалам Авальнай залі ўжо зазірнула цемра. Спачатку прапанова не набрала патрэбнай колькасьці галасоў. Камуністы патрабавалі перагаласаваць. Шушкевіч сказаў, што часта парушаў рэглямэнт, але цяпер ня хоча гэтага рабіць.

Камуністы настойвалі. І раптам сьпікер пайшоў на парушэньне рэглямэнту: паставіў на галасаваньне варыянт пастановы, якая не была распаўсюджаная сярод дэпутатаў у пісьмовай форме.

Дэпутаты-фронтаўцы паўскоквалі зь месцаў, але камуністы ўжо націснулі кнопкі.

Рашэньне было прынята.

«За» прагаласавалі, у ліку іншых, Станіслаў Шушкевіч і Аляксандар Лукашэнка.

«Камуністамі не тлуміце сабе галавы, яны — палітычны фальклёр, у эпігонаў не бывае будучыні» — так адразу пасьля аднаўленьня кампартыі супакойваў чытачоў тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» пісьменьнік зь Беласточчыны Сакрат Яновіч. Але ўжо найбліжэйшыя падзеі паказалі, што мае рацыю ня ён, а лідэр апазыцыі Зянон Пазьняк, які ўвязаў рэанімацыю камуністычнай партыі з наступам праімпэрскіх сілаў. На другі дзень пасьля галасаваньня «Звязда» надрукавала рэпартаж з прэс-канфэрэнцыі старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча, узяўшы загалоўкам ягоную цытату: «Нас у Эўропе ніхто не чакае».

«Всё равно мы вас загоним в Россию!» — заявілі дэпутаты-камуністы Лявону Баршчэўскаму ў кулюарах сэсіі.

«Мы зноў засталіся з нашымі мёртвымі сам-насам, — сказаў на хвалях Радыё Свабода праз некалькі гадзінаў пасьля рашэньня Вярхоўнага

Савету дасьледчык камуністычных рэпрэсіяў журналіст Аляксандар Лукашук. — Як цяпер ісьці ў Курапаты, што казаць нашым дзядам, якія ляжаць пад соснамі? Як растлумачыць, чаму вернутая зь небыцьця партыя-вампір, ненажэрная людаедзкая банда, што дзесяцігодзьдзямі гвалтавала беларускі народ, ірвала на кавалкі ягоныя землі і прадавала іншаземным дзяржавам, таптала мову і паліла кнігі, душыла лепшых сыноў і дачок і тысячамі клала ў вялікія і малыя Курапаты, на тры гады кінула ў акупацыю, а потым працягнула гэтую акупацыю сама, пасыпаўшы на разьвітаньне радыеактыўным попелам ды подла схаваўшы сваё чарнобыльскае злачынства ад людзей?..

188 дэпутатаў Вярхоўнага Савету рэанімавалі КПСС-КПБ. Апроч партыйных сакратароў сярод іх ёсьць навукоўцы і настаўнікі, генэралы і дырэктары... Страхавітаму камуністычнаму Вію ўзьнялі павекі — і быццам нічога, ніхто не зьнерухомеў».

Лукашук ня ведаў, натуральна, пра будучую нататку Яновіча ў «ЛіМе», але прадчуваў:

«Зараз хутка знойдуцца спэцыялісты паразважаць, што аднаўленьне дзейнасьці КПСС-КПБ нічога не мяняе ў Беларусі.

Гэта ня так. Роспуск кампартыі ў жніўні 1991 году — адзіны, першы і апошні акт хаця б умоўнай справядлівасьці. Ніхто не панёс пакараньня асабіста. Усё, абсалютна ўсё сышло з рук. І таму пастанова, прынятая парлямэнтам 3 лютага — ня толькі сорам на ўвесь сьвет. Гэта, найперш, трыюмф катаў і абраза мільёнаў ахвяраў — і тых, хто ўжо ляжыць у зямлі, і тых, хто, як дзеці Чарнобылю, туды заўчасна пойдзе.

Нашы мёртвыя цяпер могуць пакінуць нас, бо мы не абаранілі іх ад пасьмяротнае зьнявагі. І тады гэта знак непапраўнае бяды. Бо так, бяз памяці, без аховы продкаў загінем, сыдзем у нябыт з карты Эўропы, і толькі кампартыйныя пацукі будуць лётаць ненажэрнымі зграямі па чарнобыльскіх абшарах таго, што некалі звалася Беларусяй».

Цытата доўгая, але ў кнізе будзе шмат цытатаў.

Вельмі шкадую, што ня вёў дзёньнік, не фіксаваў факты, не запісваў свае ўражаньні, адчуваньні. Не было часу і на лісты. Між тым зь цягам часу адчуваньні забываюцца, сьціраюцца ў памяці і падзеі, а тыя, якія памятаюцца — за гады дэфармуюцца пад узьдзеяньнем наступных уражаньняў, новых прыхільнасьцяў ці старых антыпатыяў. Магчыма, з гадамі ацэнкі робяцца больш правільнымі і дакладнымі — ды вось толькі зьнікае рэзкасьць дэталяў. Мне, аднак, хочацца даць чытачу магчымасьць ня толькі ўбачыць той час маімі вачыма, вачыма ўдзельніка падзеяў, але і пачуць галасы таго часу, галасы маіх паплечнікаў і нашых апанэнтаў — так, як яны гучалі менавіта ў 1993-м, на сэсіях Вярхоўнага Савету, на мітынгах, у газэтнай палеміцы, у рэпартажах журналістаў.

Але вось кароткая цытата. «Беларускі парлямэнт, абраны яшчэ да абвяшчэньня незалежнасьці краіны, складаецца ў асноўным з былых партыйных функцыянэраў. Таму наўрад ці пастанова беларускага парлямэнту аб скасаваньні забароны дзейнасьці найбуйнейшай у КПСС рэгіянальнай арганізацыі можа кагосьці зьдзівіць», — пракамэнтавала менскае галасаваньне ў лютым уплывовая нямецкая газэта Frankfurter Allgemeine Zeitung.

І цытата яшчэ карацейшая: «Незалежнасьць — не ікона, на якую трэба маліцца», — заявіў дэпутат Дзьмітры Булахаў.

18 студзеня 1993-га, напярэдадні аднаўленьня сэсіі Вярхоўнага Савету, Станіслаў Шушкевіч сабраў невялікую групу дэпутатаў, выставіўшы за дзьверы журналістаў. Я быў ня толькі дэпутатам, але і журналістам, і таму адразу ж раскрыў прэсе таямніцы сьпікера. Галоўная зь іх была ў тым, каб зрабіць яшчэ болей таямніцаў: ён згадзіўся з прапановай лідэраў парлямэнцкай большасьці — пракамуністычнай групы «Беларусь» — адмовіцца ад разьдзелу «Рознае» ў парадку дня сэсіі.

«Рознае» — так называліся першыя паўгадзіны пасяджэньня сэсіі (пачатак быў у 9.30), падчас якіх любы дэпутат меў тры хвіліны для выступу ці дэпутацкага запыту без аглядкі на зацьверджаны парадак дня (хоць часам «Рознае» выкарыстоўвалася і па тэме, якая была вынесеная на сэсію, у тым выпадку, калі не ўдавалася атрымаць слова, бо сьпіс жадаючых выступіць быў даўгі і сьпікер прапаноўваў «спыніць абмеркаваньні» (Шушкевіч рабіў такія прапановы ўсё часьцей, і яны з энтузіязмам прымаліся парлямэнцкай большасьцю). Для выступу ў «Розным» трэба было запісвацца, звычайна твая чарга падыходзіла праз дзень-два. Тое была гарантаваная тэрыторыя галоснасьці, і мы, дэпутаты БНФ, асабліва цанілі «Рознае» яшчэ і таму, што гэта быў адзіны момант сэсіі, які ўвечары без купюраў перадаваўся па радыё і тэлебачаньні.

Якраз напярэдадні нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, не пусьцілі на супольнае пасяджэньне прэзыдыюмаў Вярхоўнага Савету і Саўміну (што было парушэньнем закону), на якім Шушкевіч разам

з Кебічам вырашылі захаваць пераважна дзяржаўную ўласнасьць на зямлю. Увесь 1993 год мы будзем дамагацца ад Вярхоўнага Савету рашэньня ўвесьці інстытут прыватнай уласнасьці на зямлю — безвынікова. А вось разьдзел «Рознае» нам удасца адстаяць, і хоць падчас нашых выступаў Шушкевіч часам адключаў мікрафон, мы выкарыстоўвалі свае тры хвіліны напоўніцу.

Прыводжу фрагмэнты выступаў у «Розным» у гэтай кнізе — паводле ўсіх правілаў парлямэнтарызму, даючы слова і нашым палітычным апанэнтам. Праўда, зь некаторымі скарачэньнямі — у кнігі таксама ёсьць рэглямэнт.

…Калі ўвечары 3 лютага дэпутаты-камуністы накіроўваліся ў гатэль «Менск», каб абмыць перамогу, ля Галоўпаштамту яны маглі сустрэць ня менш шчасьлівых людзей. Калекцыянэры скуплялі першы стандартны выпуск беларускіх паштовых марак: у дзевяці колерах на іх была толькі адна выява — «Пагоня». Не алоўкам беларускім студэнтам у дзесяці экзэмплярах намаляваныя на чужыне, не з-пад прэса Ўладзімера Шыманца ў друкарні пад Парыжам выціснутыя — мільёны, дзясяткі мільёнаў марак з нацыянальным, а цяпер ужо дзяржаўным гербам былі выпушчаныя афіцыйна. І — пайшлі ў кожную беларускую сям'ю (электроннай поштай тады яшчэ не карысталіся), і некалькі гадоў гэтыя маленькія маркі падарожнічалі на капэртах у Беларусі і ў замежжы, пацьвярджаючы, што — жыве Беларусь.

Год быў багаты на падзеі, якія потым назавуць трыюмфам новага этапу нацыянальнага Адраджэньня — такія, як сьвяткаваньне 75-х угодкаў БНР і Першы зьезд беларусаў сьвету. З адлегласьці

дзесяцігодзьдзяў год сапраўды ўспрымаецца як вяршыня дасягнутага нацыянальнымі дэмакратычнымі сіламі. Але гэткай самай адметнасьцю быў і наступ на заваёвы дэмакратыі, на беларускую Незалежнасьць праімпэрскіх сілаў.

«Складаны, нават заблытаны год» — сказаў пра дзевяноста трэці ў інтэрвію адмыслова для гэтай кнігі Зянон Пазьняк.

Паспрабуем разблытаць.

***Анатоль Лябедзька*** *(Ашмянская выбарчая акруга № 265, Гарадзенская вобласьць): Я, паважаныя дэпутаты, дальбог ня ведаю, чым так праславіў нашу Беларусь Карл Маркс, каб яго прозьвішча насіла вуліца, на якой знаходзіцца Вярхоўны Савет. Гэта не такое простае пытаньне, і я асабліва лічу, добра, што ў нас у рэспубліцы застаўся такі памяркоўны падыход да помнікаў, да перайменаваньня вуліц, але гэта асаблівы момант. Бо Вярхоўны Савет — гэта палітычны орган, і ўлічваючы, што для нас (мы прызвычаіліся да гэтай назвы)... усё ж такі нават ужо ў блізкім замежжы многія палітыкі вельмі нядобра ўспрымаюць вось гэтую зьяву... Відаць, гэта штрышок, які адмоўна ўплывае на той агульны палітычны партрэт, які складваецца аб нашай рэспубліцы ў замежжы. Таму я зьвяртаюся з дэпутацкім зваротам да старшыні Менскага гарадзкога Савету, каб усё ж такі тэрмінова было разгледжана гэтае пытаньне. І я думаю, што асоба гэтага чалавека, відаць, дастойна таго, каб вывучалі яе гісторыкі, а таксама рэвалюцыянэры ў нейкіх марксісцкіх гуртках. Але калі мы думаем пра нейкі аўтарытэт нашай дзяржавы ў блізкім і далёкім замежжы, мы павінны прыняць пэўныя захады.*

*Выступ у «Розным»*

## ШУШКЕВІЧ ВЫСТУПАЕ ЗА РЭФОРМЫ

Пры словах «Апазыцыя БНФ» я адразу ўяўляю наш пакой нумар 363 на трэцім паверсе правага крыла (калі стаць тварам да фасаду) Дому ўраду. Апазыцыя БНФ атрымала яго ў 1990 годзе ў выніку звароту Зянона Пазьняка да тагачаснага старшыні Вярхоўнага Савету Мікалая Дземянцея. Ён быў адносна вялікі, мэтраў 50–60, ля сьцяны стаяў пісьмовы стол у форме літары Т, уздоўж вокнаў — два шэрагі крэслаў. Паўсотні чалавек там маглі свабодна ўсесьціся, але такая вялікая колькасьць дэпутатаў зьбіралася рэдка (у 1993 годзе — перад пачаткам лістападаўскай сэсіі, калі на пасяджэньне Апазыцыі БНФ прыйшоў міністар унутраных спраў Уладзімер Ягораў).

Прыходзілі і актывісты-франтаўцы, і экспэрты Ценявога кабінэту, і журналісты (хаця ўнізе, на першым паверсе, стаяў міліцыянт, але дэпутату было лёгка правесьці хоць дзесяць чалавек без усялякіх дакумэнтаў, дастаткова было сказаць «Гэта са мной»). Якраз у 1993-м намаганьнямі дэпутаткі Менскага гарсавету Галіны Вашчанкі Народны Фронт атрымае памяшканьне на Варвашэні, 8, якое надоўга ператворыцца ў штаб дэмакратычных сілаў, і колькасьць наведнікаў у 363-м пакоі зьменшыцца, але ён застанецца цэнтрам апазыцыйнага жыцьця і месцам выпрацоўкі стратэгічных рашэньняў.

Сэсія пачыналася ў 9.30 з «Рознага», але перад гэтым дэпутаты Апазыцыі звычайна заходзілі ў наш пакой — абмеркаваць нейкія дэталі тактыкі дый проста перакінуцца словам. Звычайна там ужо была Галя Сямдзянава, яна прыходзіла першай.



Пасяджэньне Апазыцыі БНФ у 363-м пакоі Дому ўраду.

Зьбіраліся ў пакоі ў часе вялікага (14.00–16.00) перапынку (малы, ад 12.00 да 12.30, звычайна выкарыстоўвалі на перакус у буфэце). І, канешне, некалькі гадзінаў праводзілі пасьля пасяджэньня, якое звычайна завяршалася ў 18.00. У першыя хвіліны звычайна былі ўзбуджаныя, бо не пасьпявалі астыць ад дэбатаў у Авальнай залі, але потым супакойваліся і пачыналася спакойнае абмеркаваньне.

У пачатку 1993-га ў мяне зьявіўся фотаапарат для каляровай стужкі, так званая «мыльніца», і ўвечары пасьля пасяджэньня я зрабіў пару здымкаў у нашым 363-м пакоі, якія потым часта публікаваліся; зьмяшчаю іх і ў гэтай кнізе. Здаецца, яны ці не адзіныя фатаздымкі ў пакоі парлямэнцкай апазыцыі за тыя гады.

Цяпер мне падаецца, што гэтая паўцемра, у якой сядзяць дэпутаты, добра перадае нашыя тагачасныя настроі — аднаўленьне дзейнасьці КПБ-КПСС аптымізму не дадавала.

10-ю сэсію, якая пачалася яшчэ ў кастрычніку 1992-га, тую самую, на якой быў забаронены рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах, а ў лютым 1993-га адноўленая дзейнасьць кампартыі, мы ў паведамленьні Апазыцыі БНФ вызначылі яе як «сэсію глухога і глыбокага тупіка… Чарговы раз ня здолела дэпутацкая большасьць прыняць найважнейшы закон аб уласнасьці на зямлю. Зноў прадэманстравана нежаданьне вырашыць пытаньне на карысьць народа. Закон адкладзены… Пытаньне аб зямлі дэпутаты большасьці выключылі з усіх прапанаваных законапраектаў аб прыватызацыі маёмасьці».

Увядзеньне права прыватнай уласнасьці на зямлю было адной з нашых галоўных мэтаў і на наступнай, нечарговай 11-й сэсіі, якая распачалася 23 сакавіка. А галоўнай задачай парлямэнцкай большасьці было далучэньне Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД.

У пачатку сэсіі я вынес прапанову аб стварэньні адмысловай камісіі, якая б вывучыла выкарыстаньне ўрадам валютных сродкаў. На папярэднія запыты дэпутатаў апарат Саўміну даў раздрукоўку выдаткаў на замежныя камандзіроўкі — сумы, з улікам тагачаснага сярэдняга заробку 15–25 даляраў, уражвалі, за тры паездкі чыноўнік мог набыць кватэру ў сталіцы. Але гэта хаця б фармальна адпавядала закону. Куды больш пытаньняў выклікала разьмеркаваньне валютных крэдытаў і валютнай выручкі дзяржаўных прадпрыемстваў — і вось гэта

было таямніцай, інфармацыю не ўдалося атрымаць нават парлямэнцкай камісіі па зьнешнеэканамічных сувязях. Аднак мая прапанова не прайшла — большасьць дэпутатаў прагаласавала за тое, каб не ўключаць пытаньне ў парадак дня.

Вяртацца пад Маскву або жыць самастойна? На сэсіі ўпершыню выявілася розьніца ў поглядах на вэктар разьвіцьця Беларусі паміж Станіславам Шушкевічам і Вячаславам Кебічам, якія зрабілі даклады аб сытуацыі ў краіне. Уласна, ім давялося выступаць некалькі разоў (у выпадку са сьпікерам парлямэнту гэта яшчэ была і прадугледжаная Канстытуцыяй справаздача). Натуральна, я ня буду стамляць чытача падрабязным пераказам палажэньняў выступаў двух найвышэйшых кіраўнікоў, але тут і пазьней дам тыя фрагмэнты, якія, па-першае, добра характарызуюць сытуацыю, якая склалася ўвесну 1993-га, а па-другое, адлюстроўваюць розьніцу палітычных пазыцый Шушкевіча і Кебіча.

## Не зьмяняць курс, не віхляць, не спыняцца

Эквілібрыстыка ў палітыцы і эканоміцы — не сынонімы балянсаваньня і меры.

У сваім дакладзе «Аб эканамічнай сытуацыі, стане і разьвіцьці эканамічных адносін з краінамі Садружнасьці Незалежных Дзяржаў» Шушкевіч назваў ключавыя праблемы ўмацаваньня дзяржаўнасьці — такімі, якімі яны былі на другім годзе беларускай незалежнасьці. Я б сказаў, што гэта была цэнтрысцкая, умераная праграма. І калі адкінуць зразумелую стылістычную і лексычную розьніцу, дык, мяркую, пад большасьцю палажэньняў мог

бы падпісацца і Пазьняк. Пад большасьцю — за выключэньнем некаторых, пра што крыху ніжэй.

Шушкевіч дакладна ахарактарызаваў агульную танальнасьць большасьці падкантрольных Саўміну СМІ — пра што мы, дэпутаты БНФ, казалі і раней, але гэта нарэшце прагучала з вуснаў найвышэйшай службовай асобы:

«У галовы людзей настойліва ўбіваецца думка, што дзеяньні некалькіх палітыкаў прывялі да развалу эканамічнай народнагаспадарчай сыстэмы былых рэспублік, а цяпер — краінаў СНД. Давайце паглядзім на нашу эканамічную палітыку ў рэтраспэктыўным пляне, і тады стане зразумелым яе сёньняшні выток, якасны стан, узровень рэалізацыі і пэрспэктывы. Эканоміка БССР фарміравалася як неад’емная частка эканомікі ўнітарнай дзяржавы. Яна была арыентаваная на забесьпячэньне мэтаў былога СССР, у першую чаргу — на падтрымку ваеннага патэнцыялу ў супрацьстаяньні дзьвюх звышдзяржаў. Эканоміка Беларусі, уманціраваная такім чынам у гаспадарчы мэханізм былога СССР, згубіла, калі хочаце, не набыла самастойнасьці і трапіла ў вельмі моцную эканамічную залежнасьць».

Тое самае казалі і дэпутаты Апазыцыі БНФ, калі настойліва прапаноўвалі парлямэнцкай большасьці падвесьці рысу пад старымі падыходамі і пачаць ствараць умовы для самастойнага гаспадараньня. Некаторыя заканадаўчыя прапановы эканамічнага характару нам удалося правесьці, але большасьць была адкінутая.

У пачатку 1993-га камуністы на чале з Кебічам загаварылі пра стварэньне «эканамічнага саюзу».



Станіслаў Шушкевіч на трыбуне Вярхоўнага Савету.

«Але што прадугледжвае гэты новы тып эканамічнага саюзу? — пытаўся Шушкевіч. — Давайце перастанем лавіраваць, адкінем усе слоўныя шырмы і скажам нашаму народу прама: гэты новы тып можа быць толькі адным — эканамічным саюзам у межах канфэдэрацыі дзяржаў або яшчэ дакладней — канфэдэратыўнай дзяржавай. Калі гэта так, тады ня трэба гуляць у эканамічную і палітычную эквілібрыстыку. Няхай новую эканамічную праграму прадыктуе новы цэнтар у Маскве».

Пры гэтым небясьпеку вайсковага саюзу Шушкевіч усьведамляў цалкам рэалістычна:

«Найбольш магутная падтрымка ініцыятыў у гэтым кірунку ідзе зноў жа ад прадпрыемстваў рэспублікі, якія раней уваходзілі ў склад ваенна-прамысловага комплексу (ВПК). Кіраўніцтва многіх,

але, на шчасьце, ня ўсіх падобных прадпрыемстваў мяркуе, што ўключэньне Рэспублікі Беларусь у сыстэму калектыўнай бясьпекі дасьць ім шанец калі не на будучыню, дык на эканамічнае выжываньне. Наіўна разважаць, што абарончы саюз будзе гарантаваць нашай абароннай прамысловасьці стабільныя заказы... Эканоміка былога Саюзу абвалілася, ня вытрымаўшы велізарнага цяжару ВПК, гонкі ўзбраеньняў. Няўжо можна спадзявацца, што гэты цяжар, захаваны ў некранутым выглядзе, змогуць вытрымаць эканоміка і бюджэт, народ Беларусі?»

Далей Шушкевіч вызначыў стратэгічны накірунак эканамічнай рэформы, які супадаў з тым, што цягам больш як двух гадоў прапаноўвала Апазыцыя БНФ, прагрэсіўныя дэпутаты, і што ўдалося (хай і не ў ідэальным варыянце) закласьці ў заканадаўчыя акты:

«На маю думку, трэба ісьці ў тым накірунку, які мы вызначылі, не зьмяняць курс, не віхляць, не спыняцца... Меры, ажыцьцёўленыя Вярхоўным Саветам і ўрадам на першым этапе рэформаў, садзейнічалі фармаваньню рынкавай інфраструктуры, станаўленьню недзяржаўнага сэктару эканомікі. Прыняцьце такіх заканадаўчых актаў, як аб уласнасьці, прадпрымальніцтве, банках, арэндзе, аб каштоўных паперах, аб акцыянэрных таварыствах, блёку зьнешнеэканамічных законаў, дазволіла стварыць неабходныя прававыя і эканамічныя перадумовы альбо, я б сказаў, нават умовы разьвіцьця рынкавых адносінаў».

І тут варта сказаць, як з цягам часу — праз дваццаць пяць гадоў — зьмянілася ўспрыманьне некаторых фактаў. Калі ў Авальнай залі я слухаў гэтыя словы Шушкевіча, успрымаў іх скептычна.

Так, нешта прынята, але ж гэта толькі ў лепшым выпадку дзясятая частка ад тых заканадаўчых праектаў, якія распрацавала Апазыцыя і прапаноўвала на кожнай сэсіі. Усё гэта вельмі і вельмі мала, можна сказаць — нішто. Такім было маё ўспрыманьне ў дзевяноста трэцім.

Праз дваццаць пяць гадоў я па-іншаму гляджу на сытуацыю.

Так, канешне, калі б парлямэнцкая большасьць прыняла ўсе нашыя законапраекты, Беларусь сёньня была б іншай. Але, аналізуючы тое, што было прынята (некаторыя з законаў Шушкевіч пералічыў у сваім выступе) — прыходзіш да высновы, што гэтыя законы адпавядалі патрэбам часу, а ў нечым нават і апярэдзілі час. У наступныя дзесяцігодзьдзі ў іх толькі ўносілі папраўкі, аснова ж заставалася тая, якая была закладзеная ў пачатку 1990-х Вярхоўным Саветам XII скліканьня. Я маю на ўвазе найперш законы ў эканамічнай, адукацыйнай і сацыяльнай сфэры. Добра ведаючы склад дэпутацкага корпусу, дзіўлюся гэтаму факту — безумоўна, дэпутаты, як гаворыцца, «скокнулі вышэй галавы».

Ніякая наступная кадэнцыя беларускага парлямэнту (ці таго, што называлася парлямэнтам) і блізка не падышла паводле ўзроўню прафэсіяналізму да першага парлямэнту незалежнай Беларусі. Але бяда была ў тым, што, прымаючы сапраўды неблагія законы, большасьць дэпутатаў не былі палітыкамі, не адчувалі палітычных патрэбаў часу, і што яшчэ горай — ставілі пад сумнеў незалежнасьць, якую яны пад ціскам БНФ абвясьцілі ў жніўні 1991-га.

Але ўжо тады, у 1993-м, мне было прыемна пачуць пра адзін закон, які Шушкевіч адзначыў

у іншым сваім выступе: «Закон Рэспублікі Беларусь “Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях” закладае падмурак для вырашэньня ўсіх канфліктаў і спрэчак, для захаваньня надалей плюралізму і талерантнасьці, уласьцівых нашаму грамадзтву, нашаму народу». Гэта быў «мой» закон: як сакратар Камісіі па пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, я ўзначальваў групу па ягоным стварэньні. Слова «стварэньне» тут абсалютна да месца — бо тое сапраўды была творчая праца, з удзелам ня толькі дэпутатаў ды экспэртаў, але і герархаў канфэсій — мітрапаліта Філарэта і тагачаснага кіраўніка каталіцкай царквы ў Беларусі Кандрусевіча (ён яшчэ ня быў мітрапалітам). З таго часу ў мяне склаліся добрыя адносіны з уладыкам Філарэтам. Наш законапраект у выніку зь невялікімі папраўкамі быў прыняты Вярхоўным Саветам — але ўжо ў часы Лукашэнкі быў скасаваны, замест яго зрабілі іншы, які праваабаронцы крытыкавалі за дыскрымінацыйныя палажэньні.

З дакладу Кебіча прывяду толькі адзін урывак:

«Дзякуючы намаганьням усіх узроўняў улады, гаспадарчых структураў, нам удалося захаваць адносна прымальны сацыяльны фонд па найважнейшых складніках. Я маю пры гэтым на ўвазе тое, пра што ўжо не аднойчы казаў: у нас ніхто не галадае, ніхто ня мерзьне, ніхто дзяржавай не пакінуты на волю лёсу. Іншая справа — цяжка дзяржаве, цяжка і народу.

Тым ня менш шматлікія абаронныя прадпрыемствы апынуліся на мяжы банкруцтва. І адна з галоўных прычынаў — складанасьць загрузкі іх вузкаспэцыялізаваных магутнасьцяў.

Ужо на 1 студзеня гэтага году наша запазычанасьць Расеі складала 112 мільярдаў рублёў. Такая, на жаль, горкая праўда. Адзінае выйсьце: на погляд ураду, гэта эканамічны саюз, пабудаваны на шматбаковай аснове. Што такі саюз патрэбны, у мяне асабіста не выклікае сумненьняў…

Тым больш што стварэньне добраахвотных саюзаў зь іншымі дзяржавамі цалкам адпавядае артыкулам 10 і 11 Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце нашай рэспублікі».

Гучала гэта як — самі, без Масквы, ня можам,

***Зянон Пазьняк*** *(Ангарская выбарчая акруга № 9, г. Менск). Я хачу засяродзіць вашу ўвагу на пытаньні, пра якое дэпутаты Апазыцыі Народнага фронту нястомна нагадваюць вось ужо тры гады і невырашэньне якога зьяўляецца пастаяннай прычынай бяды ў нашай эканоміцы і ў цэлым у жыцьцёвых дачыненьнях грамадзтва. Размова ідзе пра абавязковасьць увядзеньня нацыянальнай валюты. Уводзіць яе патрэбна было ўчора, а рыхтавацца ўвесь гэты час. На жаль, час згублены, а наша дзяржава дапусьцілася да ганебнага ўльтыматуму з боку суседняй краіны. Аднак і па сёньняшні дзень ні Нацыянальны банк, ні ўрад, ні Вярхоўны Савет ня вызначылі пазыцыяў па гэтым пытаньні... Гэта ўжо відавочна, што мы маем справу з пэўнымі кіруючымі асобамі, якія сьвядома штурхаюць да пагібелі нашу краіну дзеля ўратаваньня сваіх эгаістычных інтарэсаў... Я хацеў бы зьвярнуць увагу народных дэпутатаў, якія не знаходзяцца ў палоне ілюзіяў, на абавязковасьць прыняцьця на гэтай сэсіі Пастановы Вярхоўнага Савету аб даручэньні Нацыянальнаму банку і ўраду прыступіць да ўвядзеньня беларускай нацыянальнай валюты на Беларусі. Калі і ў якім часе адбудзецца гэтая акцыя — справа асобая і канфідэнцыяльная, але прыняць такую пастанову неабходна, каб гарантаваць рэформу і адпаведную фінансава-крэдытную палітыку, запабегчы нечаканасьцям і ініцыятывам суседняй краіны. Цяпер ужо адлік часу пайшоў не на гады і нават не на месяцы.*

*Выступ у «Розным»*

## ЧАМУ НЕ ЎВЯЛІ ТАЛЕР

Грошай заўсёды не хапае.

У 1993-м іх не хапала асабліва. Жонка працавала ў менскай гарадзкой газэце «Добры вечар» і атрымлівала разам з ганарарам… колькі ж рублёў? Яна ня здолела адказаць на гэтае пытаньне.

І ўвогуле, ніхто са знаёмых ня змог прыгадаць свой заробак у 1993 годзе ў рублях. І не таму, што прайшла чвэрць стагодзьдзя, а зусім зь іншай прычыны.

Увесь год заробак мяняўся. Ён рос, прычым рос імкліва. Але гэта быў ня той выпадак, калі падвышэньне заробку радуе. Панавала інфляцыя, і калі ў студзені курс даляра быў 500 рублёў, дык пад навагоднюю ялінку ў сьнежні ўзьняўся да 7 000.

Такім чынам, за год «зайчык» патаньнеў у 14 разоў. Адпаведна, ледзь не штодня павялічваліся і цэны. І хоць паралельна з ростам даляра падвышалася і зарплата, але рабілася гэта са спазьненьнем і далёка не кампэнсавала страты: так, у пачатку году намінальны налічаны сярэдні заробак быў 12 939 рублёў, а ў канцы — 162 480. За год ён узьняўся ў 12 разоў (тым часам рубель патаньнеў у 14). Але цэны расьлі яшчэ шпарчэй.

Увогуле, паколькі заробак увесь час мяняўся, дык бессэнсоўна яго называць, лічбы нічога ня скажуць тым, хто ня жыў у той час. А хто жыў — папросіць перавесьці ў даляры.

Калі вельмі абагульніць, у сярэднім заробак у бюджэтнай сфэры ці на дзяржаўных прадпрыемствах у 1993 годзе вагаўся ў межах 15–25 даляраў. Старшыня Вярхоўнага Савету Шушкевіч атрым-

ліваў 80 даляраў, міністар — 50 даляраў (столькі ж атрымліваў і дэпутат на сталай працы ў парлямэнце). Мая жонка, працуючы карэспандэнтам, разам з ганарарамі, мела 35–40 даляраў, і гэта лічылася вельмі добрым заробкам.

У верасьні газэта «Свабода» надрукавала артыкул пра розьніцу ў пэнсіях паміж цывільнымі і вайсковымі пэнсіянэрамі, якія прыехалі на жыхарства ў Беларусь (пераказваючы размовы апошніх у сабесе, кшталту «гэтаму Шушкевічу галаву адкруціць»). Аўтар публікацыі пісаў, што народная артыстка Стэфанія Станюта ў верасьні 1993-га атрымала пэнсію 47 235 рублёў. «Няблага? Гледзячы з чым параўноўваць», — пісала газэта і тут жа прыводзіла памер пэнсіі былога савецкага афіцэра, якая, у залежнасьці ад выслугі гадоў, была ад 69 да 80 тысячаў рублёў. Звычайная пэнсія былога інжынэра ці настаўніка вагалася ў межах ад 20 да 42 тысячаў рублёў (10–20 даляраў).

Калі выйшла газэта, афіцыйны курс даляра быў 2 тысячы; такім чынам, пэнсія ў вялікай актрысы была 23 даляры, і гэта лічылася добрай пэнсіяй. Былы савецкі вайсковец, адпаведна, меў болей, 40 даляраў — на ўзроўні зарплаты намесьніка міністра. І ў два разы вышэй, чым у настаўніка або лекара.

Кошты на сьнежань 1993 году, калі перавесьці ў даляры, былі такія, за кіляграм: хлеб — 2 цэнты, грэчка — 10 цэнтаў, макароны — 15 цэнтаў, ялавічына — 60 цэнтаў, масла — адзін даляр, каўбаса вараная — адзін даляр.

На гэтым фоне рэкляма фірмы «Пушэ» ў «Народнай газэце», якая прапаноўвала новыя аўтамабілі

«Пэжо-405» ад 13 000 даляраў, магла ўспрымацца зьдзекам.

І ўсё ж менавіта ў 1993 годзе аўтамабіляў на вуліцах беларускіх гарадоў значна пабольшала — канешне, ня новых, а патрыманых, прыгнаных зь Нямеччыны. Людзі неяк круціліся, выкарыстоўвалі новыя магчымасьці, многія падпрацоўвалі.

Мая сястра, выкладчыца Віцебскага мэдыцынскага інстытуту, вязала шалікі, рукавіцы, нейкую іншую вопратку і везла яе на кірмашы ў Польшчу. За адну паездку ўдавалася зарабіць 50, а то і 100 даляраў — добрая падтрымка для сям'і з двума дзецьмі. Адно што на польскіх дарогах іх, здаралася, спынялі рэкеціры — і пад пагрозай зброі грошы даводзілася аддаваць.

Польская паліцыя ніяк не рэагавала (рабавалі ж ня польскіх, а беларускіх грамадзянаў), і аднойчы я пайшоў да Шушкевіча. Як звычайна, Шушкевіч заявіў, што гэта — не ягонае пытаньне. Тады я расказаў пра сытуацыю з трыбуны Вярхоўнага Савету, пасьля чаго міністар унутраных спраў Уладзімер Ягораў сказаў мне, што праблема палягае ў адсутнасьці адпаведных двухбаковых дамоўленасьцяў — што мог бы зрушыць кіраўнік дзяржавы, але Шушкевіч гэтым не жадаў займацца.

Увогуле праблема злачыннасьці, але ўжо на тэрыторыі Беларусі, часта ўздымалася ў выступах дэпутатаў, і амаль заўсёды яны зьвязвалі яе зь бескантрольнай міграцыяй у Беларусь жыхароў былых закаўкаскіх рэспублік, якія, як казалі дэпутаты, узялі пад кантроль практычна ўсе рынкі. Канешне, было зразумела, што карані праблемы значна глыбей, яны сацыяльныя і эканамічныя, але ў размовах кіраўнікі Міністэрства ўнутраных спраў таксама

ўвязвалі рост злачыннасьці зь бескантрольнай міграцыяй. На гэта я адказваў, што яшчэ ў 1991 годзе мы прапаноўвалі стварыць дзяржаўную мяжу з Расеяй.

І паколькі я закрануў гэтую тэму, пракамэнтую пазьнейшыя шматлікія заявы Лукашэнкі пра «ліхія дзевяностыя», якія ня толькі ён адзін увязвае найперш са злачыннасьцю.

Злачыннасьць была, прычым здараліся і гучныя выпадкі — менавіта ў 1993 годзе, у траўні, у цэнтры Менску было ўчыненае першае ў гісторыі Беларусі «замоўленае» забойства — быў застрэлены ўладальнік фірмы «Камінвэст» Аляксандар Лісьнічук, а ў верасьні ля свайго дома быў забіты старшыня Горадзенскага аблвыканкаму Дзьмітры Арцыменя.

Але вось дадзеныя ў дынаміцы. У 1991 годзе было зарэгістравана 81,3 тысяча злачынстваў, у 1992 — 93,7 тысячы злачынных выпадкаў, у 1993-м — 99,8 тысяч. Гэта быў апошні «поўны год» адноснай дэмакратыі і свабоды.

У першым «поўным» годзе прэзыдэнцтва Лукашэнкі колькасьць зарэгістраваных злачынстваў дасягнула 131,7 тысячаў. Празь дзесяць гадоў прэзыдэнцтва, у 2004 годзе — 166 тысяч (і гэта пасьля прыняцьця новага Крымінальнага Кодэксу, у якім была зьменшана колькасьць правапарушэньняў з крымінальнай адказнасьцю), а ў 2005 годзе — 195 тысяч («Беларусь. 1991–2006. Итоги». Пад рэдакцыяй Марыны Загорскай, Вадзіма Сяховіча і Аляксандра Старыкевіча, Менск, 2008).

Між іншым, у 1993 годзе колькасьць жыхароў Беларусі была максымальная — 10 319 000 чалавек; адмыслоўцы зьвязваюць гэта з ростам міграцыі.

## Зарабляць, нічога не вырабляючы

Абавязковым элемэнтам менскага пэйзажу 1993 году былі хлопцы ля пунктаў абмену валюты, а фразай, якая гучала зь іх вуснаў — «Доллары, марочки, российские рубли!»

У 1993 годзе Беларусь усё яшчэ заставалася ў зоне абароту расейскага рубля, а «зайчык», уведзены ў сярэдзіне 1992 году, меў статус разьліковага білета Нацыянальнага банку і імкліва падаў у адносінах да расейскай валюты, дасягнуўшы курсу 2:1.

Яшчэ ўвосень 1990-га на другую сэсію Вярхоўнага Савету мы вынесьлі пакет эканамічных законапраектаў, які прадугледжваў пераход да рынкавай эканомікі і пазбаўленьне вялікай залежнасьці ад іншых рэспублік СССР, найперш ад Расеі. Мы прапаноўвалі рыхтаваць увядзеньне ўласнай грашовай адзінкі (Пазьняк прапаноўваў назваць яе «талерам»). З моманту абвяшчэньня незалежнасьці ў жніўні 1991-га патрабаваньне ўвядзеньня нацыянальнай валюты было адным з асноўных, нароўні са стварэньнем уласнага войска. У красавіку 1992 году ў «Канцэпцыі эканамічнай рэформы», распрацаванай Апазыцыяй БНФ, асобны разьдзел быў прысьвечаны правядзеньню валютнай рэформы і стварэньню фінансавай сыстэмы з нацыянальнай грашовай адзінкай (Тэкст Канцэпцыі ўпершыню апублікаваны 16 красавіка 1992-га ў «Народнай газэце» і зьмешчаны ў кнізе Зянона Пазьняка «Цяжкі час», 2010, с. 356–363).

Налічыўшы ў стэнаграмах сэсіяў Вярхоўнага Савету за 1993 год сотню патрабаваньняў увядзеньня паўнавартаснай нацыянальнай валюты, я спыніў

падлік. Праціўнікамі гэтага выступалі Станіслаў Шушкевіч, Вячаслаў Кебіч і старшыня Праўленьня Нацыянальнага банку Станіслаў Багданкевіч.

Праз шмат гадоў я быў надзвычай зьдзіўлены, прачытаўшы ў адным з інтэрвію Багданкевіча такія словы: «Існавала непрыняцьце ўвядзеньня нацыянальнай валюты з боку нашых органаў улады, парлямэнту. Гэта разглядалася некаторымі дэпутатамі як выхад з рублёвай зоны. І ніякія пераконваньні не дапамагалі дамагчыся ад іх згоды на ўвядзеньне нацыянальнай валюты» («Беларусь. 1991–2006. Итоги», с. 295).

Нібыта правільна, але неабходна ўдакладніць дэталі. У 1992–1993 гадах не старшыня праўленьня Нацбанку, а дэпутаты Апазыцыі БНФ пераконвалі парлямэнцкую большасьць у неабходнасьці ўвядзеньня нацыянальнай валюты, а Станіслаў Багданкевіч якраз даказваў, што гэтага рабіць ня варта.

Між іншым, яшчэ ў 1990 годзе Пазьняк прапанаваў вярнуць гістарычны назоў — талер.

У ліпені 1993-га расейскі ўрад абвясьціў грашовую рэформу, увёўшы замест старых новыя банкноты — не папярэдзіўшы ўрады былых савецкіх рэспублік, якія, як і Беларусь, заставаліся ў зоне расейскага рубля. Рэформа мела канфіскацыйны характар, абмен быў абмежаваны эквівалентам 100 даляраў на аднаго чалавека, і гэта абрынула курс «зайчыка». «У гэтых умовах кіраўніцтва Беларусі так і не наважылася прыняць рашэньне пра ўвядзеньне нацыянальнай валюты, хоць інтарэсы нашай дзяржавы пільна вымагаюць такога кроку», — заявіў 25 ліпеня Сойм БНФ, чарговы раз запатрабаваўшы адстаўкі старшыні Саўміну

Вячаслава Кебіча і старшыні Праўленьня Нацыянальнага банку Станіслава Багданкевіча.

У верасьні Багданкевіч заявіў, што «зайчык» увогуле будзе зьліквідаваны — паводле двухбаковага пагадненьня паміж Менскам і Масквой, да 1 студзеня 1994 году маюць быць створаныя «перадумовы для аб'яднаньня грашовых сыстэмаў».

Тады ж, у верасьні1993-га дэпутат Апазыцыі БНФ і член фракцыі БСДГ, супрацоўнік Кантрольнай палаты Віталь Малашка надрукаваў артыкул «Палітыка з двайным дном», з падзагалоўкам «Мафія будзе вельмі шкадаваць, калі гэты ўрад пойдзе ў адстаўку», у якім паказаў, што замаруджваньне эканамічных рэформаў і адмова ад увядзеньня нацыянальнай валюты — вынік ня толькі коснасьці мысьленьня кіраўніцтва краіны, але і карупцыйных схемаў.

Асаблівае месца ў гэтых схемах, на думку дэпутата Малашкі, належала Нацыянальнаму банку:

«Маючы добрыя сувязі і спрыт, можна рабіць грошы зусім нічога не вырабляючы — не купляючы і не прадаючы. Тут галоўнае ўважліва сачыць за сюрпрызамі, якія падкідвае наш Нацыянальны банк. Увесну Нацыянальны банк абвясьціў курс безнаяўнага расейскага рубля да беларускага 1:2, і паехалі наяўныя ў Расею цэлымі валізамі: давёз да Смаленску мільён, пераводзь назад празь Беларусь пад падстаўную фірму, і на тваім рахунку ўжо два мільёны, абнаявіў — вязі зноў, і будзе чатыры. Галоўнае мець наяўнымі расейскімі рублямі, а гэта ўвесну пры паралельным хаджэньні грошай было няцяжка. Навошта нешта вырабляць, сеяць, жаць?

Мець наяўныя грошы ў вялікіх памерах маглі тыя, хто меў «сваіх» людзей у банках.

«Або згадайце летні жарт, калі курс безнаяўнага даляра быў штучна падняты да 2000 рублёў, гэта ў той час, калі на «чорным рынку» наяўны даляр каштаваў 1100–1250 руб., — працягваў дэпутат. — Парадаксальная сытуацыя: ва ўсім сьвеце наяўныя і безнаяўныя грошы каштуюць аднолькава, а ў нас можна было купіць на рынку даляры, прадаць іх банку па безнаяўным курсе, атрымаць чэк і абмяняць яго ў краме на наяўныя грошы (за пэўны хабар). А потым ізноў ісьці на рынак і купляць даляры, каб зноў здаць іх у банк… Таму, калі Нацыянальны банк у канцы жніўня падняў курс даляра да 2800 руб., а расейскі рубель зафіксаваў на ўзроўні 1:1,5, шмат што стала зразумелым. Складваецца ўражаньне, што «музыку» Нацыянальнаму банку нехта замаўляе. Але ж не спэцыяльна дзеля карысьці дробных валютчыкаў і «чаўночнікаў» нашая фінансавая сыстэма выпісвае такія піруэты, дарэчы, магчымыя толькі ва ўмовах рублёвай зоны. У краінах, якія ўвялі свае валюты (Эстонія, Латвія), такіх афёраў не назіраецца» («Свабода», №10, верасень 1993).

Тое, пра што пісаў у 1993-м дэпутат і супрацоўнік Кантрольнай палаты Віталь Малашка, праз гады пацьвердзіў бізнэсовец і выдавец Пётра Марцаў, калі распавядаў пра гутарку з кіраўніцай аднаго з банкаў:

«— Пётра, чаму вы не бераце ў мяне крэдыт?

Я кажу:

— Ну як? Гэта ж працэнты трэба плаціць. Са сваімі грашыма лягчэй працаваць.

Тут яна ўпершыню дала мне зразумець, як працуе банк.

— Вазьміце ў мяне крэдыт на мільён даляраў.

— І куды мне яго ўкласьці? У мяне ўжо ўсё расьпісана, цяпер лішніх зьдзелак няма.

— А вы проста вазьміце, у рублях. І канвэртуйце, перавядзіце ў валюту.

— Ну?

— Больш нічога не рабіце.

Банкірка […] растлумачыла мне, што грошы можна зарабляць проста з грошай. Канвэртуеш рублёвыя рэсурсы, а калі курс рубля падае, прадаеш траціну даляраў і закрываеш крэдыт. Усё астатняе застаецца ў цябе. […] навучыла мяне зарабляць на інфляцыі, ня робячы нічога. Натуральна, нейкімі грашыма я дзяліўся зь ёй і з […], які у той час быў старшынём банку. Тады ж нічога не было: ні страхавых кампаній, ні залогаў — можна было падаць банку любую фальшывую дамову, даць банкіру адкат памерам 10% ад сумы і, атрымаўшы крэдыт, узяць і зваліць. Мы так і рабілі» (Саша Раманава. Марцев. Logvino literatūros namai, Вільня, 2016, с. 136–137).

Я прыбраў прозьвішчы — словы Марцава не пацьверджаныя дакумэнтальна, але яны паказваюць слушнасьць нашых тагачасных заяў пра асабістую зацікаўленасьць банкаўскіх кіраўнікоў у тым, каб як мага даўжэй ня ўводзіць нацыянальную валюту і адцягваць стабілізацыю фінансавай сыстэмы.

Імклівая інфляцыя трымала людзей у стане няўпэўненасьці за будучыню. Людзі ўвязвалі інфляцыю і эканамічныя цяжкасьці з дэмакратыяй і незалежнасьцю, чаму ў немалой ступені спрыяла дзяржаўная прэса; але пра гэта — у іншым месцы.

***Валянцін Голубеў*** *(Алібегаўская выбарчая акруга № 15, Менск): Запыт да кіраўніцтва ўраду, зь якім я выступаю ад свайго імя і ад імя народнага дэпутата Зінаіды Пяньковай. Да нас зьвярнуліся тэхнічныя работнікі школ. Мы пасьля восеньскіх страйкаў настаўнікам зарплату павысілі, тэхпэрсанал застаўся на той самай мяжы. І цяпер у іх сярэдняя зарплата 3–3,5 тысячы рублёў (у той час — прыблізна пяць даляраў — С. Н.). Шаноўныя народныя дэпутаты! Шаноўныя прадстаўнікі ўраду! Давайце ўявім, ці можа чалавек, які мае дзяцей, мае сям'ю, пражыць на такую зарплату. Таму мы зьвяртаемся да ўраду з просьбай засяродзіць асаблівую ўвагу на гэтай катэгорыі работнікаў, якія працуюць у школах, якія працуюць зь дзецьмі, і прыняць рашэньне аб павышэньні ім заработнай платы.*

*Выступ у «Розным»*

## ЯК ЖЫЛІ ДЭПУТАТЫ

— Вось тут, Сярожа, пад панэльлю можна прымацаваць пераключальнік, ён ня будзе нікому бачны. Ад яго працягнуць дрот пад капот, дзе сыстэма запальваньня. І калі нехта паспрабуе сагнаць машыну, ён проста не завядзе рухавік бяз гэтага патаемнага пераключальніка. Я на сваёй «Волзе» такое паставіў. Ёсьць яшчэ некалькі карысных штучак, прыганіце як-небудзь машыну да мяне ў гараж, за пару дзён усталюю.

Я ўявіў Васіля Быкава, які корпаецца ў гаражнай яме пад маім аўто, і прыдумаў нейкую нагоду, каб адмовіцца. Ужо пазьней, калі ў Празе слухаў ягоныя «аўтамабільныя» расповеды, пашкадаваў: Васіль Уладзімеравіч любіў поркацца з аўтамабілем, і для яго гэта быў адпачынак, спосаб «адключыцца» ад пісьмовага стала.

Праўда, самога Быкава за рулём я ніколі ня бачыў. Але падвозіць яго з пасяджэньняў Сойму ці нейкіх іншых мерапрыемстваў даводзілася часта, бо якраз у студзені 1993-га я абзавёўся сваім першым аўтамабілем.

Прыгнаў зь Нямеччыны чырвоны «Міцубісі-кольт» 1980 году выпуску — аўтамабіль ня новы, затое ня трэба было ісьці на паклон да Кебіча, каб набыць без чаргі новыя «Жыгулі». Тады прыгнаныя з Заходняй Эўропы аўто называліся «іншамаркамі» — як быццам у Беларусі была свая аўтамабільная вытворчасьць. Увогуле, машына была неблагая, як казала мая жонка, прыёмістая, хаця кожныя тры-чатыры месяцы трэба было рабіць нейкі дробны рамонт: ляцела то адно, то другое.

Праз год пасьля набыцьця мая «міцубісі» праславіцца на ўсю краіну ў дакладзе Лукашэнкам — як сымбаль карупцыі ды асабістай нясьціпласьці ў шэрагах апазыцыі.

З набыцьцём першай у жыцьці машыны жыцьцё зьмянілася — здавалася, што пасьпяваю зрабіць у некалькі разоў болей.

Але і клопатаў зьявілася болей — прычым ад першага дня, з моманту рэгістрацыі ў менскай ДАІ на праспэкце Дзяржынскага.

На машыну трэба было атрымаць нумары, і тады гэта займала дзень, а то і болей, чаканьня ў чарзе. Мне параілі зьвярнуцца да старшыні менскай ДАІ падпалкоўніка Анатоля Сідарэні.

Прыходжу да Сідарэні, тлумачу, у чым справа.

— Няма праблемы. Вы які нумар хочаце?

— У сэнсе?

— Якія там хочаце лічбы?

— Ды мне ўсё роўна.

Сідарэня паглядзеў на мяне як на дзівака.

— Ведаеце, — кажа, — тыя, хто да мяне дабіраецца, просяць спэцыяльныя нумары, вы першы мне такое кажаце. Ну дык я вам дам вельмі добры нумар.

Ён дастаў з сэйфа нумарныя знакі, нейкія паперы і сказаў, у які кабінэт я мушу зайсьці, каб у нечым расьпісацца.

Нумар быў MI 0975. Я і цяпер ня ведаю, што гэта азначала, але менскія даішнікі ад майго аўто шарахаліся.

Але ня ў першы дзень, бо ад начальніка ДАІ я паехаў, не прыкруціўшы нумары (трэба было сьвідраваць дзіркі), а прымацаваў іх пад пярэднім і заднім шклом (як мне і параілі ў аўтаінспэкцыі).

На праспэкце Дзяржынскага ў бок Дому ўраду мяне спыніў афіцэр ДАІ, капітан. Ён адразу сеў у маю машыну, запатрабаваў дакумэнты і пачаў допыт: «Значыць, набыў іншамарку? Напэўна, бізнэсмэн? А нумар прыкруціць — рукі не дайшлі? Зараз я табе запішу перавышэньне хуткасьці, зраблю дзірку. А магу і правы забраць. Шкада, няма прылады на алькаголь, ты б мне дыхнуў!»

Відаць, капітан быў нечым моцна раззлаваны або дзень у яго ня склаўся.

Гэта было першае сутыкненьне з інспэктарам ДАІ — і ў мяне, што называецца, адняло мову.

У мяне нават ня ўзьнікла думкі, што гэтую агрэсіўную тыраду я магу спыніць адным рухам, дастаўшы з кішэні дэпутацкае пасьведчаньне. Я ліхаманкава думаў, чым выкліканая такая агрэсіўнасьць і якое мне можа быць пакараньне.

Я заплаціў нейкі дробны штраф, капітан кінуў мне дакумэнты, і я паехаў. Хвілінаў праз дваццаць я ўжо быў у Авальнай залі, падышоў да Ўладзімера Заблоцкага (ён звычайна даваў мне аўтамабільныя парады). Заблоцкі сказаў, што такіх людзей, як той капітан, трэба ставіць на месца, што мне варта было спытацца ягонае прозьвішча, зрэшты, гэта неістотна, можна хутка знайсьці — вось якраз міністар МУС генэрал Ягораў у залі, праз гадзіну капітан будзе звольнены.

Я ўсё ж вырашыў не турбаваць міністра ў прыватнай справе.

Увогуле, ніколі не было жаданьня неяк выкарыстоўваць дэпутацкі статус, каб даказваць свае перавагі пры нейкіх асабістых патрэбах. І ў тую аўташколу я хадзіў паўгода, пару разоў на тыдзень, у тым ліку і ў часе сэсіяў — адмовіўшыся ад прапа-

новы намесьніка міністра ўнутраных спраў аформіць правы кіроўцы хутка і без праблемаў.

## Пра грошы, стрэс і залежнасьць

Заробак у дэпутатаў Вярхоўнага Савету быў розны, у залежнасьці ад месца працы. Ня ведаю, колькі атрымлівалі нашыя палітычныя апанэнты, якія былі старшынямі ды дырэктарамі, а вось што датычыць дэпутатаў Апазыцыі БНФ, дык зарплата на сталай пасадзе ў парлямэнцкай камісіі вагалася ў межах 40–50 даляраў, ну а хто сумяшчаў дэпутацтва зь іншай працай — атрымлівалі столькі ж, колькі і іх калегі на заводзе ці ў інстытуце. Ведаю, што заробак Пазьняка некалькі гадоў быў частка стаўкі навуковага супрацоўніка — 15 даляраў (паколькі значную частку часу ён праводзіў не ў інстытуце, дык лічыў немагчымым атрымліваць там зарплату ў поўным аб'ёме). Але ўсе мы штомесяц атрымлівалі гэтак званыя «дэпутацкія» — у савецкія часы гэта было 50 рублёў, а ў 1993-м нешта каля 5 даляраў.

У тыя гады істотнай матэрыяльнай падтрымкай лічыліся замежныя камандзіроўкі. Праўда, дэпутаты Апазыцыі мелі іх няшмат.

Паводле нарматыву, на дзень выдаткоўвалася ў сярэднім 100 даляраў на гатэль і 30 так званых сутачных. Як правіла, гатэль для членаў урадавых і службовых дэлегацый аплачваў прымаючы бок, але бухгальтэрыя не патрабавала вяртаць выдаткаваныя грошы, якія за тыдзень складаліся ў даволі салідную суму.

Неяк мы зьвярнуліся з дэпутацкім запытам адносна выкарыстаньня валюты супрацоўнікамі

Саўміну на замежныя камандзіроўкі, пасьля доўгіх пярэчаньняў такая інфармацыя была нам пададзеная, і лічбы ўразілі. За адну камандзіроўку ў ЗША ці Японію некаторыя міністры, іх намесьнікі, супрацоўнікі апарату Саўміну атрымлівалі па 3–4 тысячы даляраў (за гэтыя грошы ў тыя часы ў Менску можна было набыць кватэру). І такіх камандзіровак у іх было па некалькі на год. На гэтым фоне 199 даляраў, атрыманых Баршчэўскім, Заблоцкім і Пазьняком на паездку ў ЗША і Канаду цягам 30 дзён на запрашэньне беларускай дыяспары, выглядалі даволі сьмешна. Дзякуй Богу, беларусы замежжа — людзі гасьцінныя, і апазыцыянэры там не галадалі. А вось як Валянцін Голубеў на навуковай канфэрэнцыі ў Польшчы, дзе кошты былі нашмат вышэйшыя за нашы, здолеў выжыць некалькі дзён на 16 даляраў — для мяне загадка.

Дэпутаты Вярхоўнага Савету, як сьведчыў аналіз, скарысталі валюты на замежныя паездкі ў дзясяткі разоў меней за саўмінаўскіх чыноўнікаў. А дэпутаты Апазыцыі БНФ за шэсьць гадоў кадэнцыі парлямэнту ўвогуле выехалі ў замежныя камандзіроўкі з выкарыстаньнем валютных сродкаў некалькі разоў (я — толькі аднойчы, у 1991 годзе ў Беласток). Пазьняк за гэтыя шэсьць гадоў, паводле маіх падлікаў, быў у замежжы толькі шэсьць разоў — і ні аднаго даляра ня ўзяў зь бюджэту (калі не лічыць тых 30-ці ў 1991 годзе). Кожная камандзіроўка дэпутатаў зацьвярджалася на пасяджэньні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, і тут ужо дбайна сачылі, каб ня дай Божа нехта з апазыцыі ня быў уключаны ў якую афіцыйную дэлегацыю.

Так што з замежных камандзіровачных нам, апазыцыянэрам, жыць не давялося.

Канешне, мы не перабіваліся з хлеба на ваду. І 16 даляраў на тры дні ў камандзіроўку для Голубева — больш, чым месячны заробак школьнай прыбіральшчыцы, пра які казаў той самы Голубеў з трыбуны Вярхоўнага Савету. Але ў парлямэнт абраліся людзі, якія, у большасьці, ужо зрабілі кар'еру ў сваёй прафэсійнай сфэры. Таму ў заробку мы не былі на нізе — скажам, недзе на ўзроўні старэйшага вайсковага афіцэра, гэта недзе крыху вышэй сярэдзіны. Ва ўсякім разе, калі ў тым самым 1993-м я на сваёй машыне зачапіў нечыя «жыгулі», дык рамонт чужой машыны за 180 даляраў на некалькі месяцаў абрынуў наш сямейны бюджэт.

У Вярхоўны Савет мы абраліся не ў юначым узросьце, самаму маладому дэпутату Апазыцыі БНФ — Міколу Маркевічу — было 28, найстарэйшаму — настаўніку з Плешчаніцаў Паўлу Холаду — 55, у такім веку ня часта завязваюцца сяброўствы, дый ня можа такога быць, каб у групе з трох дзясяткаў розных людзей усе паміж сабой пасябравалі. Але пастаянны нацiск з боку палітычных апанэнтаў спрыяў зьяднанасьці.

Я не цікавіўся футболам і ня ўдзельнічаў у дэпутацкіх трэніроўках ды матчах, якія звычайна праходзілі ў спарткомплексе вайсковай часткі ва «Ўруччы». А вось Юры Беленькі, Сяргей Антончык, Віталь Малашка ўдзельнічалі ў матчах. Адным з капітанаў быў Генадзь Карпенка. Асабліва вылучаўся Лявон Баршчэўскі, некалькі разоў у Авальнай залі я чуў, як Лявон распавядаў пра знаёмства ў дзяцінстве зь легендарным савецкім футбалістам Львом Яшыным. Як і Яшын, Лявон быў брамнікам і сваім уменьнем лавіць мячы заслужыў жартаўлівую характарыстыку: «Бярэ ўсё, акрамя хабару».



Дэпутаты Апазыцыі БНФ на вясельлі Лявонція Зданевіча. Зьлева направа: Сяргей Антончык, Ірына Голубева, Валянцін Голубеў, Зянон Пазьняк, Юрась Беленькі, Алена і Лявонці Зданевічы, Сяргей Навумчык, Уладзімер Заблоцкі, Лявон Баршчэўскі.

А вось пра Аляксандра Лукашэнку казалі ў іншай танальнасьці: нібыта падчас матчу ён б’е па нагах, прычым ня толькі «чужых», але і «сваіх». Пацьвердзіць альбо абвергнуць гэта не магу: ня быў ні на водным матчы.

Затое магу сьведчыць, што ў стаўленьні да алькаголю калегі займалі сярэднестатыстычнае месца. Пры пэўнай нагодзе маглі ўзяць чарку-другую. Але ніколі не напіваліся, увогуле я ня бачыў калег па апазыцыі на моцным падпітку.

Захаваліся здымкі, зробленыя ў 1993 годзе на вясельлі Лявонція Зданевіча. На стале — «Советское шампанское», гарэлка, здаецца, «Пшанічная». Валянцін Голубеў, Сяргей Антончык, Лявон Баршчэўскі, Зянон Пазьняк, Уладзімер Заблоцкі… Лявон Баршчэўскі нешта расказвае, Пазьняк сьмяецца.

Быў і амэрыканскі госьць — Васіль Мельяновіч, які ў канцы вечара падараваў дзяўчатам па 5 даляраў, не абы-якія грошы па тым часе.

Сёньня я зьдзіўляюся, што з улікам штодзённага псыхалягічнага напружаньня ў часе сэсіі, няспынных сутыкненьняў з нашымі палітычнымі працаўнікамі, сустрэчаў у не заўсёды прыязных аўдыторыях, зь якіх ты выходзіў псыхалягічна і фізычна спустошаным — мы не прыбягалі да алькаголю як простага, праверанага спосабу пазбавіцца ад стрэсу часьцей.

Але гэтае штодзённае нэрвовае напружаньне не прайшло бясьсьледна — у 41 год пайшоў з жыцьця Ігар Гермянчук, у 50 — Ігар Пырх, заўчасна пайшлі Генадзь Грушавы, Барыс Гюнтэр, Яўген Цумараў, Галіна Сямдзянава. Дыягназ амаль ва ўсіх — рак. Магчыма, гэта зьвязана і з Чарнобылем (мы шмат езьдзілі ў забруджаныя раёны), але я ўсё ж зьвязваю гэтыя заўчасныя сьмерці зь няспынным, на некалькі гадоў, стрэсам.

Завязаліся і кампаніі. Цеснае сяброўства было ў Сяргея Антончыка і Валянціна Голубева — яны жылі побач. З Валянцінам у мяне адносіны былі больш цесныя, чым зь іншымі дэпутатамі. Мы зьбіраліся сем'ямі — звычайна ў Голубевых, у кватэры, некалькі разоў выяжджалі на нашай машыне да іх на «дачу». Гэта быў участак кілямэтраў за дзесяць ад Менску, які Валянцін атрымаў, але там толькі і было, што поле. Затое можна было раскласьці вогнішча і пасмажыць бульбу.

А на наш участак, які мы ўзялі ў супольным з супрацоўнікамі «Народнай газэты» садовым таварыстве, мы нікога не запрашалі — бо ён быў далёка ад Менску, недзе ў раёне Фаніпалю. За два

гады мне толькі і ўдалося, што выкапаць катлаван. Цесьць мой Леанід Максімавіч, які працаваў бухгальтарам у будаўнічай арганізацыі ў Глуску, узяўся дапамагчы зяцю, і мы разам паехалі ў Дзяржынск, у нейкую будаўнічую арганізацыю. Гадзіну хадзілі па калідорах — ні пра кран, ні пра цэглу цесьць дамовіцца ня здолеў. Выглядала, што трэба было даваць хабар. Гэтага я не хацеў.

Зруб, які мы набылі, так і стаяў у цесьця на двары некалькі гадоў. Зразумеўшы, што нічога мы не пабудуем, прадалі ўчастак (здаецца, за 160 даляраў), а ўжо калі былі ў эміграцыі, цесьць прадаў і зруб. Нічога з будаўніцтвам не атрымалася і ў Голубевых. Канешне, і бяз хабару мы маглі б узьвесьці нешта на сваіх участках — дастаткова было зьвярнуцца ў камэрцыйны банк па крэдыт і ў гаспадарчае ўпраўленьне Саўміну па рабочую сілу. Але гэта азначала б — патрапіць у залежнасьць.

Вось такога — патрапіць у залежнасьць — мы баяліся болей за ўсё.

Калі ўвосень 1992 году я сышоў са сталай працы ў Вярхоўным Савеце, мы з жонкай зарэгістравалі прыватнае інфармацыйна-аналітычнае агенцтва.

Канешне, можна было б пайсьці да прэзыдэнта якога банку і папрасіць крэдыт хаця б на некалькі тысяч даляраў, на кампутары. Думаю, далі б. Але гэта азначала — залежнасьць. Зарабілі на кампутар толькі праз паўгода. Але патрэбнае было памяшканьне. Я ведаў, што ў новым корпусе Дому друку ёсьць пустыя пакоі, якія здавалі некаторыя камэрцыйныя фірмы. Гэта былі прыватныя выдавецтвы, якія вялізнымі накладамі гналі таннае чытво для бязьмежнага расейскага рынку. Я пайшоў да аднаго

з кіраўнікоў выдавецтва, якому падпарадкоўваўся Дом друку — але той заявіў мне, што пакояў няма.

Пра такі вынік папярэджваў мяне Ігар Гермянчук, які таксама прыглядаў памяшканьне для сваёй «Свабоды». Ён сказаў, што пакой мне здаваць няма сэнсу, бо хабар зь мяне ня возьмеш. Кіраўнікі дзяржаўных структураў маўкліва, але недвухсэнсоўна давалі зразумець нават дэпутатам Вярхоўнага Савету: трэба «даць на лапу». Ігар параіў ісьці да Георгія Траяна, начальніка гаспадарчага ўпраўленьня Саўміну, у ведамстве якога было выдавецтва. Той памаўчаў, потым сказаў: «Я не магу гэта вырашыць без каманды Кебіча. І раю табе зьвярнуцца да яго. Можа быць, ён нават падкажа табе нейкі больш цікавы бізнэс, чым журналістыка».

Расшыфраваць такую параду можна было паразнаму. Я зразумеў так, што мне прапануюць палітычную зьдзелку, і да Кебіча не пайшоў.

Некаторыя мае калегі па апазыцыі пасьля спыненьня дэпутацкіх паўнамоцтваў не маглі знайсьці сабе працу (хоць закон гарантаваў ім раўнацэннае «дадэпутацкаму» працоўнае месца), былі вымушаныя працаваць ці на будоўлях звычайнымі мулярамі, ці грузчыкам у супэрмаркетах.

А маглі ж забясьпечыць сябе і ўнукаў, варта было толькі асабіста папрасіць Кебіча. Ім дапамаглі б, стварылі б бізнэс (як стварылі яго дзясяткі людзей з кебічаўскага атачэньня), але паводле сцэнару, зафіксаванага Гётэ ў «Фаўсце» — калі не душу, дык палітычную пазыцыю трэба было прадаць.

Не прадаліся.

***Яўген Цумараў*** *(Шабаноўская выбарчая акруга № 10, г. Менск). Я хацеў бы працытаваць ксэракопію арыгіналу газэты «Беларуская Рада» (я буду цытаваць на расейскай мове, як яна выдавалася) ад 10 сьнежня 1917 году, дзе апісваюцца падзеі, якія адбыліся на Усебеларускім зьезьдзе. Як вядома, гэта той устаноўчы зьезд, які быў разагнаны на загад з Масквы... «Но этот величественный день под конец был омрачен неслыханным нахальством представителя, по его словам, латышского народа, а, вернее, просто (прабачце, буду цытаваць, як напісана) нахального большевика, который предложил нам, истинным сынам многострадальной, но отныне свободной белорусской нации, он имел дерзость предложить нам выбросить наше бело-красно-белое знамя. Какая бульварная дерзость, какое оскорбление всему белорусскому народу. Нехорошую услугу он оказал большевикам, их представитель. Крики возмущения, поднятые кулаки, крики “вон!” и “долой!” были ответом на его речь». Я далей цытую стэнаграму: «... Алексиевский подходит и целует знамя... Какой позор мы сейчас пережили, какие темные люди, но таких учителей, как этот латыш, нам не нужно. (Бурные аплодисменты и овации. Несколько человек подбегают и поднимают его на руки, и качают). Необходимо защищать знамя и почитать его. (Бурные аплодисменты). “Няхай жыве вольная Беларусь”, — так гордо сказал весь народ устами своих достойных представителей. Так написано на бело-красно-белом знамени».*

*Выступ у «Розным»*

## СЬВЯТКУЕМ 75-Я ЎГОДКІ БНР

Аднойчы вясной 1989 году ў кавярні я ўбачыў мастака Алеся Пушкіна. Ён сядзеў за столікам зь нейкай дзяўчынай, яны гутарылі, і ў мяне хапіла тактоўнасьці не навязваць сваю кампанію. Я заўважыў, што Пушкіна пазнаюць, але ніхто не падыходзіць; беларусы — людзі сьціплыя. Газэты толькі што надрукавалі фатаздымак Алеся на праспэкце ля Дому друку з плякатамі, прысьвечанымі гадавіне незалежнасьці БНР. У паўтарамільённым горадзе ён быў адзіны, хто зладзіў з нагоды 25 сакавіка публічную акцыю (здаецца, адзіны і ў дзесяцімільённай Беларусі).

Калі б мне тады сказалі, што праз тры гады я буду першы за ўсю гісторыю Вярхоўнага Савету, хто зь яго трыбуны павіншуе з днём незалежнасьці БНР — я б не паверыў.

Не паверылася б і ў тое, што яшчэ праз год адзначаць сьвята выйдуць дзясяткі тысяч людзей.

Адзначэньне 75-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў сакавіку 1993-га прыгадваюць як найбольшы нацыянальны трыюмф — нароўні зь Першым зьездам беларусаў сьвету, які прайшоў у ліпені. Мяркую, зьезд ня быў бы такім прадстаўнічым, калі б не сакавіцкае сьвята, якое паказала беларусам замежжа, што ў краіне нацыянальныя сілы здольныя дамагчыся ўшанаваньня найважнейшай для беларусаў у XX стагодзьдзі падзеі.

Ушанаваньне незалежнасьці БНР пачалося там, дзе яно і не было заплянавана — на пасяджэньні Канстытуцыйнай Камісіі Вярхоўнага Савету. 11



Праект
Па стану на 11.03.93

КАНСТЫТУЦЫЯ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Мы, народ Рэспублікі Беларусь (Беларусі),

зыходзячы з адказнасці за сучаснае і будучае Беларусі,

усведамляючы сябе паўнапраўным суб'ектам сусветнага супольніцтва і пацвярджаючы сваю прыхільнасць да агульначалавечых каштоўнасцей,

грунтуючыся на сваім неад'емным праве на самавызначэнне,

абапіраючыся на шматвяковую гісторыю развіцця беларускай дзяржаўнасці,

аддаючы належнае пошукам справядлівага грамадскага ладу на старажытнай зямлі Беларусі, якія знайшлі адлюстраванне ў Статутах Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамайцкага, Статутных граматах Беларускай Народнай Рэспублікі, Канстытуцыях Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а таксама ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь,

імкнучыся зацвердзіць правы і свабоды кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь,

жадаючы забяспечыць грамадзянскую згоду, непахісныя ўстоі народаўладдзя і прававой дзяржавы,

прымаем гэту Канстытуцыю — Асноўны Закон Рэспублікі Беларусь.

РАЗДЗЕЛ I. АСНОВЫ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА ЛАДУ

Артыкул 1. Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава.

Рэспубліка Беларусь валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку.

Рэспубліка абараняе сваю незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, канстытуцыйны лад, забяспечвае законнасць і

Праект Канстытуцыі, дзе згадвалася пра ВКЛ і БНР. Сакавік 1993.

сакавіка Камісія прыняла тэкст прэамбулы новай Канстытуцыі.

Мне давялося быць членам Канстытуцыйнай камісіі, і ў маім архіве захаваўся праект Асноўнага закону паводле стану на 11 сакавіка 1993 году (роўна за два тыдні да 75-х угодкаў незалежнасьці БНР).

Паводле гэтага праекту, у прэамбуле Канстытуцыі былі такія радкі:

« Мы, народ Рэспублікі Беларусь (Беларусі),

… аддаючы належнае пошукам справядлівага грамадзкага ладу на старажытнай зямлі Беларусі, якія знайшлі адлюстраваньне ў Статутах Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, Статутных граматах Беларускай Народнай Рэспублікі, Канстытуцыях Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а таксама ў Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь,

… прымаем гэтую Канстытуцыю — Асноўны Закон Рэспублікі Беларусь».

Як бачыць чытач, у прэамбуле згадваліся і ВКЛ, і БНР, і БССР.

Дзень 25 сакавіка ня быў абвешчаны сьвяточным (хоць мы неаднаразова прапаноўвалі Вярхоўнаму Савету гэта зрабіць), але пазьней, прыгадваючы 75-я угодкі БНР праз чвэрць стагодзьдзя, некаторыя будуць казаць, што сьвята было адзначана на дзяржаўным узроўні; іншыя зробяць асьцярожнае ўдакладненьне — «амаль на дзяржаўным».

Ні адно, ні другое не адпавядае сапраўднасьці: адчуваньне высокага статусу сьвята надаў удзел ва ўрачыстым пасяджэньні ў будынку філярмоніі старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча (Кебіч ня браў удзелу), але найперш — ма-




Калёна БНФ рухаецца па праспэкце Скарыны.

савасьць наладжанага БНФ і БЗВ сьвята, якое адбылося ў нядзелю 21 сакавіка.

І якое не разганяў АМОН.

## Дзьве хвіліны пра шматтысячнае шэсьце

Пра стаўленьне ўлады да сьвята можна меркаваць па рэпартажы аб шэсьці і мітынгу, які прайшоў у выпуску інфармацыйнай перадачы «Панарама» увечары ў тую самую нядзелю. Ён цягнуўся толькі дзьве хвіліны, пры гэтым было сказана, што мітынг правялі «суполкі БНФ і БЗВ». «Дзьвюххвілінны рэпартаж скончыўся, а я здранцьвела сядзеў перад экранам, — пісаў аглядальнік газэты Менскага гарадзкога Савету «Добры вечар» Максім Грэк (псэўданім  Максіма Гілевіча). — Як жа можна так



Удзельнікі шэсьця ў гонар 75-х угодкаў незалежнасьці БНР.

не паважаць свой народ, каб найбуйнейшую падзею апошняга часу падаць у гэткім выглядзе?»

Аглядальнік «Добрага вечара» прадставіў чытачам поўную карціну падзеі:

«У нядзелю ў сталіцы краіны адбылося буйнейшае палітычнае мерапрыемства. Тысячы і тысячы менчукоў, прадстаўнікі многіх гарадоў, беларусы блізкага і далёкага замежжа ладзілі сьвяткаваньне 75-х угодкаў беларускай незалежнасьці, — пісаў Максім Грэк. — Не суполкі БНФ і БЗВ, а больш пяцідзесяці палітычных партый і арганізацый Беларусі, якія падтрымалі ініцыятыву Беларускага Народнага Фронту і Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў і стварылі арганізацыйны камітэт па




Перад мітынгам у парку Янкі Купалы.

сьвяткаваньні юбілею, бралі ўдзел у сьвяточным шэсьці і мітынгу. Сотні дзяржаўных сьцягоў, харугваў з выявамі гістарычных асобаў Беларусі, лёзунгаў і плякатаў лунаялі над праспэктам Скарыны.

Шэсьце пачалося ўрачыстым маршам БЗВ. Восем яго харугваў пад барабанны бой прайшлі праз жывы калідор гараджан па галоўнай магістралі Менску. Ішлі мужчыны, якія прысягнулі на вернасьць сваёй Бацькаўшчыне, гатовыя ў любую хвіліну са зброяй у руках выйсьці на яе абарону».

Гэты марш потым шматкроць згадваўся і ў афіцыйным друку, і ў выступах прарасейскіх дэпутатаў на сэсіях Вярхоўнага Савету — як прыклад патэнцыйнай бясьпекі для «грамадзянскага міру



Мітынг у парку Янкі Купалы.

і стабільнасьці». Насмрэч праімпэрскія сілы былі напужаныя рашучасьцю беларускіх патрыётаў.

«Сьледам рушылі калёны партый і грамадзкіх арганізацый, — працягваў Максім Грэк. — Невыпадкова тэлебачаньне не паказала дэманстрацыю агульным плянам — калёну, якая расьцягнулася ледзь не на ўвесь праспэкт, суполкай БНФ назваць было б цяжка.

Невыпадкова ня ўбачылі гледачы твары тых, хто стаяў ля помніка Янку Купалу, бо гэта былі людзі вядомыя і паважаныя ў краіне. Людзі, якіх немагчыма было б абазваць «недасьведчанымі» альбо «экстрэмістамі» — Васіль Быкаў, лідэр БНФ, старшыня парлямэнцкай апазыцыі Зянон Пазьняк, народныя дэпутаты ВС — старшыня Беларускай са-



Зянон Пазьняк, Радзім Гарэцкі, Васіль Быкаў, Галіна Сямдзянава, Валянцін Голубеў, Сяргей Навумчык, Уладзімер Заблоцкі, 21 сакавіка 1993.

цыял-дэмакратычнай Грамады Алег Трусаў і старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч, Лявон Баршчэўскі, Анатоль Вярцінскі, Валянцін Голубеў, Мікалай Крыжаноўскі, Сяргей Навумчык, намесьнік старшыні Менгарсавету, старшыня гарадзкой рады БСДГ Анатоль Гурыновіч, рэдактар штотыднёвіка «Культура» паэтка Вольга Іпатава, віцэ-прэзыдэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, старшыня філіі ТБМ у Маскве Аляксей Каўка, старшыня БЗВ падпалкоўнік Мікола Статкевіч, старшыня гарадзкой Рады ТБМ прафэсар Мікола Савіцкі, прафэсар, доктар эканамічных навук Уладзімер Кулажанка, дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі Мікола Анцыповіч,

рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей Законьнікаў, рэдактар газэты «Наша слова» Эрнэст Ялугін, гісторыкі Віталь Скалабан і Міхась Чарняўскі, публіцыст Аляксандар Лукашук і многія, многія іншыя.

Невыпадкова не пачулі мы па тэле і выступаў на мітынгу, бо акцыя набыла яскравы палітычны характар. І ня толькі таму, што сувэрэнная Беларусь дагэтуль не адзначае сваё сьвята на дзяржаўным узроўні. Але і таму, што гаворка ў сквэры Янкі Купалы ішла пра дзень сёньняшні. Прамоўцы неаднаразова ўспаміналі беспрэцэдэнтную заяву прэм’ера Беларусі Вячаслава Кебіча (пра саюз з Расеяй і ўваходжаньне ў сыстэму калектыўнай бясьпекі СНД — С. Н.) і неаднаразова давалі жорсткую ацэнку як неканстытуцыйнай і здрадніцкай яго пазыцыі па пытаньнях эканамічнага саюзу і ваеннай блякіроўкі з Расеяй. Ну, ці ж магло тэлебачаньне афіцыйнай улады праінфармаваць сваіх гледачоў пра тое, што ці ня кожныя тры хвіліны тысячы грамадзянаў Беларусі патрабавалі ад ураду і асабіста ад таварыша Кебіча падаць у адстаўку?

Ні слова не сказалі афіцыйныя камэнтатары пра непадробную атмасфэру сьвята, якая панавала ў горадзе. Не сказалі пра ўсьмешкі на тварах, пра жарты і прыўзьняты настрой, пра маляўнічасьць і прыгажосьць калёнаў, пра мілагучныя ладныя сьпевы падчас канцэрту, які адбыўся пасьля мітынгу. Не ўспомнілі яны і пра гуканьне вясны, наладжанае маладымі беларусамі ў сквэры Янкі Купалы. Афіцыйнае тэлебачаньне не сказала пра СЬВЯТА» («Добры вечар», 23 сакавіка 1993).

Не сказала, бо для тых, хто кантраляваў тэлебачаньне, абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі сьвятам не было.

## «Ганарыцца тым добрым, што ў нас было»

Дзень 25 сакавіка пачаўся з выступу на сэсіі Вярхоўнага Савету Анатоля Вярцінскага, які ўзяў слова ў разьдзеле «Рознае». Пры гэтым ён ня быў запісаны папярэдне, але, да гонару Шушкевіча, ён даў Вярцінскаму слова па-за чаргой.

Вярцінскі: «Паважаны Старшыня! Паважаны Вярхоўны Савет! Я хацеў бы нагадаць, што сёньня, 25 сакавіка, роўна 75 гадоў назад у гісторыі нашай Радзімы, у гісторыі беларускага народа адбылася гістарычная падзея: была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. І хацеў бы зьвярнуць увагу на той радасны знамянальны факт, што ўпершыню за ўсе 75 гадоў сёлета, у гэтыя вясновыя дні гэтая гадавіна адзначаецца як нацыянальная, вялікая гістарычная падзея. Давайце павіншуем адзін другога з гэтай знамянальнай датай. Дзякуй за ўвагу». (Апляндысмэнты).

Шушкевіч: «Дзякуй. Мы павінны ганарыцца тым добрым, што ў нас было. Думаю, тыя, хто выступае цяпер супраць гэтага, зь цягам часу зразумеюць, што гэта быў добры, вельмі добры ўчынак тых, кім мы можам ганарыцца да сёньняшняга дня. І я думаю, што наш абавязак — быць сёньня на сьвяткаваньні. Што да мяне, я буду на гэтым сьвяткаваньні».

Станіслаў Станіслававіч дарэмна спадзяваўся: праз некалькі хвілінаў на трыбуну ўзьняўся дэпутат-вэтэран Міхаіл Качан і заявіў пра стварэньне ў Вярхоўным Савеце фракцыі камуністаў — каб, сярод іншага, «растлумачыць беларускаму народу авантурызм і згубнасьць курсу на рэстаўрацыю капіталізму, які яму навязваюць», а дэпутат генэрал



Старшыня Рады БНР Язэп Сажыч на плошчы перад Домам ураду.

Валянцін Сарокін абрынуўся з абвінавачваньнямі ў нацыяналізьме ў бок БЗВ, «БНФ, іншых нацыяналістычных экстрэмісцкіх партый і грамадзкіх арганізацый».

Міністар абароны Павал Казлоўскі пайшоў яшчэ далей, ацэньваючы шэсьце актывістаў БЗВ у гонар 75-годзьдзя БНР — «такое шэсьце пад барабанны бой страявым крокам, дзе можа яшчэ факел даць камусьці ў руку, вельмі нядобрыя асацыяцыі выклікае» — відавочна, міністар меў на ўвазе нацысцкія шэсьці ў Нямеччыне ў 1930-х гадах. Пры гэтым Казлоўскі не згадаў, што ў тым шэсьці бралі ўдзел і вэтэраны Другой сусьветнай вайны, якія змагаліся з нацызмам.

(Качан, Сарокін і Казлоўскі выступалі па-расейску; увогуле, практычна ўсе нашыя апанэнты на сэсіях Вярхоўнага Савету заўсёды прамаўлялі не на беларускай мове. У кнізе я цытую выступы ў перакладзе на беларускую, за рэдкімі выключэньнямі.)

І ўсё ж камуністам сапсаваць сьвята не ўдалося. Увечары ў будынку філярмоніі адбылося ўрачыстае пасяджэньне, заля вітала ў прэзыдыюме старшыню Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Язэпа Сажыча і Данчыка, якія адмыслова прыляцелі на сьвяткаваньне са Злучаных Штатаў, а таксама Станіслава Шушкевіча, Ніла Гілевіча, Зянона Пазьняка, Юрася Хадыку. Абвяшчэньне Беларускай Народнай Рэспублікі было названа гістарычнай падзеяй, вызначальнай для станаўленьня беларускай дзяржаўнасьці.

Праўда, мне прысутнічаць на гэтай урачыстасьці не давялося: Зянон Пазьняк папрасіў, каб я паехаў у Беласток, бо тамтэйшыя беларусы вельмі хацелі мець на сьвяткаваньні дэпутата парлямэнту, для іх удзел прадстаўніка Апазыцыі БНФ быў вельмі важны. Давялося ехаць — і выступіць разам з тагачасным амбасадарам Беларусі ў Польшчы Уладзімерам Сянько; на другі дзень разам з жонкай мы гасьцявалі ў сям’і Сянько ў Варшаве. Была добрая вячэра і добрая гутарка.

Рыхтуючы гэтую кнігу, я паспрабаваў адшукаць у беластоцкай газэце «Ніва» згадку пра ўрачыстае пасяджэньне ў Беластоку — але ў нумарах за тыя дні пра тое адзначэньне ўгодкаў БНР не было ні радка.

***Валянцін Сарокін*** *(Беларуская рэспубліканская арганізацыя вэтэранаў вайны і працы).*
*Встречаясь в перерывах между сессиями со своими избирателями-военнослужащими, изучая их взгляды и мнения, я столкнулся с проблемой, поднятой офицерами, касающейся активных попыток отдельных политических партий, общественных организаций в связи с так называемой БЗВ проникнуть в Вооруженные Силы республики и на почве оголтелого национализма столкнуть людей с оружием. БЗВ — это, по сути, малочисленная организация, которая существует только в некоторых частях Минского гарнизона, состоящая из группы офицеров, не пользующихся поддержкой в войсках или уволенных из рядов Вооруженных Сил Республики Беларусь за хулиганствующее поведение и пьянство. БЗВ является военно-политическим отрядом, военным органом БНФ, других национальных экстремистских партий и общественных организаций и ведет в Вооруженных Силах республики политическую, я подчеркиваю, политическую деятельность, направленную на срыв программ реформирования армии, на внедрение в процесс военного строительства Вооруженных Сил опасной болезни национализма, на фальсификацию исторического прошлого Беларуси, на преднамеренное разжигание ненависти к своему славянскому соседу России, насаждение недоверия к офицерам небелорусской национальности.*

*Выступ у «Розным»*

# ГАЛІНА СЯМДЗЯНАВА РАТУЕ БЕЛАРУСАЎ

Нянавісьць адчувалася фізычна. «А по-русски можете говорить?» — перапынілі мяне ўжо на першай фразе.

У часе дэпутацтва мне давялося ўдзельнічаць у сотнях сустрэчаў, выступаць і ў прыязных аўдыторыях, і сярод тых, хто быў настроены крытычна, але такой канцэнтрацыі агрэсіўнай варожасьці, як у той дзень у вайсковай частцы пад Менскам, адчуваць не даводзілася ні да таго, ні пасьля.

Я прыехаў туды на запрашэньне старшыні Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў падпалкоўніка Міколы Статкевіча, каб у якасьці дэпутата абараніць афіцэраў-актывістаў БЗВ, якіх звальнялі з войска. БЗВ выступала за незалежнасьць Беларусі, нэўтралітэт, за выхаваньне моладзі на нацыянальных каштоўнасьцях.

Кіраўніцтва Міністэрства абароны на чале з Паўлам Казлоўскім распачало супраць актывістаў сапраўдную вайну, паводле ўсіх правілаў стратэгіі і тактыкі. Афіцэрскі сход у вайсковай частцы пад Менскам вёў намесьнік камандзіра па палітычнай частцы, і што мяне ўразіла, ягоныя абвінавачаньні ў «нацыяналізьме» сустракалі падтрымку большасьці афіцэраў.

«Гэта ня наша войска», — падумалася мне.

Войска сапраўды назваць беларускім не паварочваўся язык. Сытуацыя ва Ўзброеных Сілах Беларусі ў 1993 годзе была не нашмат лепшая, чым у год папярэдні. І хоць у апошні дзень 1992-га ўсе афіцэры былі прыведзеныя да прысягі (увесь год мы дамагаліся гэтага), але ў шмат якіх частках афіцэры



Апазіцыя Беларускага Народнага Фронту

НАРОДНЫ ДЭПУТАТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ | НАРОДНЫЙ ДЕПУТАТ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

№ 6. 04 1995 г.

Старшыні Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь
сп. ШУШКЕВІЧУ С.С.

Уносім, ад імя Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, прапанову дапоўніць парадак дня XI нечарговай Сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь наступным пытаннем:

"Аб перападпарадкаванні Ўзброеных Сіл Рэспублікі Беларусь".

Праект Пастановы па гэтым пытанні прыкладаецца.

Просім распаўсюдзіць гэтыя дакументы сярод дэпутатаў.

Неабходнасць уключэння ў парадак дня і тэрміновага разгляду гэтага пытання абумоўліваецца тым, што Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, якому цяпер падпарадкаваныя Узброеныя Сілы, да гэтай пары не прыступіў да выканання дадзенага яму да I сакавіка г.г. Вярхоўным Саветам даручэння пачаць рэалізацыю зацверджанай на X сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі "Ваеннай дактрыны Рэспублікі Беларусь". Замест гэтага кіраўніцтва ўрада і яго адпаведныя структуры прапаноўваюць Вярхоўнаму Савету прыняць рашэнне аб адмове ад прынцыпу ўзброенага нейтралітэту як стрыжня названай Ваеннай дактрыны. Улічваючы, што ўрад пакуль што не адпраўлены ў адстаўку, а таксама тую акалічнасць, што амаль ва ўсіх краінах свету ўзброеныя сілы падпарадкоўваюцца прэзідэнту або парламенту гэтых краін, на наш погляд, наспела неабходнасць вырашыць гэтае пытанне.

Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь:

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ Рэспублікі Беларусь
САКРАТАРЫЯТ СЕСІІ
08. 04. 1995
Уваходны №

Прапанова Апазыцыі БНФ на сэсіі Вярхоўнага Савету.

былі незадаволеныя, што на цырымонію вынесьлі дзяржаўны бел-чырвона-белы сьцяг.

У 1992–93 гадах у Беларусь зь Нямеччыны былі выведзеныя тысячы былых савецкіх афіцэраў (называлася лічба — да 40 тысяч). 30 чэрвеня 1993-га дэпутат Аляксандар Лукашэнка, выступаючы на сэсіі з патрабаваньнем адстаўкі Шушкевіча, скажа: «Вы ўчора выказаліся з нагоды арміі: нягодныя, лішнія людзі ў арміі і гэтак далей. А калі той самы Пазьняк і Апазыцыя, вашыя калегі казалі вам, што ня трэба з Германіі разьмяшчаць тут войскі, вы якую пазыцыю займалі?.. Я тады галасаваў за тое, каб гэтыя хлопцы былі ў Беларусі, і сёньня ўпэўнены, што ў нас няма лішніх людзей, у тым ліку і вайскоўцаў».

Мы сапраўды былі супраць прыняцьця афіцэраў, якіх выводзілі з Групы савецкіх войскаў у Нямеччыне — іх пасылала туды Масква, Расея зрабілася правапераемніцай СССР, фактычна не падзяліўшыся зь Беларусьсю ніякай былой агульнасаюзнай маёмасьцю за мяжой — а значыць, Расея і мусіла ўзяць на сябе абавязкі перад афіцэрамі і іх сем’ямі. Але Шушкевіч з намі не пагадзіўся.

Сацыяльныя праблемы ў пэўнай ступені ўдалося зьняць, Нямеччына пабудавала жытло для былых савецкіх афіцэраў, а вось палітычныя настроі навапрыбылых нікуды не падзеліся. У абсалютнай сваёй большасьці яны выступалі супраць незалежнасьці Беларусі (і праклiналі таго самага Шушкевіча за «развал Саюзу»), патрабавалі ўвядзеньня расейскай мовы ў якасьці другой дзяржаўнай. Многія зь іх папоўнілі камуністычныя, прарасейскія і праімпэрскія арганізацыі, якія аб’ядналіся ў «Народное

движение Беларуси» на чале з супрацоўнікам апарату Саўміну Сяргеем Гайдукевічам.

Найбольшым непрыманьнем незалежнасьці Беларусі вылучаўся «Саюз афіцэраў», які ўзначальваў генэрал Дзьмітры Іваноў.

«Я чуў, як выхваляўся адзін з ваяўнічых і нахабных запасьнікоў-іваноўцаў. Расея, маўляў, абавязкова верне свае землі аж да Аляскі… “А як зь Беларусьсю?” — запытаў я. “Такой страны никогда не было и не будет”, — з салдафонскай прамалінейнасьцю адказаў ён», — пісаў у лісьце ў тыднёвік «Літаратура і мастацтва» маёр у адстаўцы, вэтэран вайны, сябра БЗВ Генадзь Лагуновіч («ЛіМ», 16 красавіка 1993).

## Штаб Галіны

У гэтым кабінэце генэралы паводзілі сябе як курсанты — бо кадры, як сказана, вырашаюць усё, а начальнік упраўленьня кадраў Міністэрства абароны вырашае лёс гэтых кадраў. Хай нават ён пакуль і палкоўнік — ператварэньне штабу Беларускай вайсковай акругі ў Міністэрства абароны новай незалежнай дзяржавы зблытала пасады і званьні, і падпалкоўнікі камандавалі палкоўнікамі, а генэралы атрымлівалі прызначэньні ад палкоўнікаў. Так і яму, Івану Зубко, пасьля службы ў розных вайсковых акругах давялося вярнуцца ў родную Беларусь ды разьмяркоўваць на пасады тых, хто ўчора, можа, і не заўважыў бы яго.

Жанчыны ж у гэты кабінэт заходзілі толькі ў ролі афіцыянтак (прынесьці чай) альбо ў якасьці просьбітак, жонак афіцэраў, у строга вызначаныя дні і гадзіны прыёму. А гэтая заявілася адразу, ды

яшчэ пачала патрабаваць справаздачы пра перавод афіцэраў з такім націскам, быццам ня ён, палкоўнік Іван Зубко, а яна, дэпутатка Галіна Сямдзянава, камандавала палком у Тушкургане і брыгадай у Кандагары.

Палкоўнік запатрабаваў ад дэпутаткі пакінуць кабінэт і нават паспрабаваў — ветліва, але настойліва — дапамагчы ёй гэта зрабіць. Тое было вялікай памылкай, і неўзабаве міністар абароны Казлоўскі давёў, што канфліктаў зь Сямдзянавай у яго хапае і безь ягонай, палкоўніка, дапамогі, і што ціснуць на гэтую жанчыну — сабе даражэй. Не пускаць яе ў будынак міністэрства немагчыма — паводле закону як дэпутат яна мае права. Гэта што — свайго часу Сямдзянава дамаглася адказу ад міністра абароны СССР маршала Язава. Ну а ўжо яму, генэрал-палкоўніку, на запыты Сямдзянавай даводзіцца адказваць у трохдзённы тэрмін. А запыты пра перавод афіцэраў-беларусаў Сямдзянава накіроўвае няспынна. Нічога не паробіш — у няпростыя часы жывем.

Затое пасьля сутычкі ў палкоўніка знайшліся сябры дзяцінства — 17 сакавіка ў прамым радыёэтэры на ўсю Беларусь прагучала ягонае імя, з вуснаў той самай Сямдзянавай, якая выступала ў якасьці кіраўніка створанага пры БЗВ камітэту «Вяртаньне».

Галіна Сямдзянава патлумачыла, што камітэт «быў створаны менавіта таму, што ўсе пытаньні, якія паўсталі перад нашымі людзьмі — не вырашаюцца. Апазыцыя і раней казала, што Саюз распадзецца, што войска будзе таксама пакінута, будзе прадстаўлена само сабе, што трэба як мага хутчэй ствараць беларускае войска, трэба як мага хутчэй

ствараць Міністэрства абароны. Наш Вярхоўны Савет увесь час выступаў супраць гэтага, наш Вярхоўны Савет не хацеў, каб мы стваралі Міністэрства абароны… Чаму мы выступалі за стварэньне ўласнай арміі? Таму што мы ведаем, армія — гэта ня толькі тэхніка, ня толькі самалёты і танкі, армія — гэта ў першую чаргу людзі. Гэта афіцэры, прапаршчыкі і іх сем’і… Вярхоўны Савет прыняў пастанову аб тым, каб да 1 студзеня гэтага году з гарачых кропак вывесьці ўсіх вайскоўцаў. Што мы маем? Гэтыя людзі дагэтуль ня выведзеныя».

Шмат афіцэраў-беларусаў, якія служылі па-за межамі Беларусі, зьвярталіся ў Менск з просьбай праходзіць службу на Бацькаўшчыне. Але на люты 1993 году, паводле адказу Міністэрства абароны на дэпутацкі запыт Сямдзянавай, з «гарачых кропак» у Беларусь было вернута 749 афіцэраў і 184 прапаршчыкі. «Лёс тых людзей, якіх вярнулі сюды — ён увогуле дзіўны, таму што гэтыя людзі, трапіўшы сюды, шмат хто не атрымліваюць ні кватэры, ні пасад ніякіх. Іх звальняюць з войска!» — абуралася Сямдзянава ў радыёэтэры.

Галіна Сямдзянава нарадзілася ў сям’і марскога афіцэра ў Гдыні, разам з бацькамі пераяжджала ў розныя месцы Савецкага Саюзу (у тым ліку і ў Беларусі), скончыла палітэхнічны інстытут у Куйбышаве (спэцыяльнасьць — інжынэр-хімік) і працавала ў сыстэме ваенна-прамысловага комплексу. Вярнуўшыся на зямлю дзяцінства, у 1980-я працавала інспэктарам Наваградзкага гарадзкога камітэту народнага кантролю. Чытача не павінен уводзіць у зман назоў установы — ні да народу, ні да кантролю такія камітэты ня мелі ніякага дачыненьня, гэта былі цалкам падпарадкаваныя

райкамам структуры для пакараньня дробнага начальства за дробныя парушэньні.

У дэпутаты Сямдзянава была вылучаная калектывам аўтапарку ў Наваградку — як яна казала сама, за прынцыповасьць у выкрыцьці злоўжываньняў работнікаў гандлю; апошнія гады існаваньня СССР былі часам дэфіцыту на ўсе колькі-небудзь каштоўныя тавары. Канкурэнтаў у яе было шасьцёра: дырэктар масларобчага камбінату, дырэктар швейнай фабрыкі, дырэктар аўтапарку, галоўны інжынэр заводу… Але, як выглядала, улады падтрымлівалі загадчыка дзіцячым аддзяленьнем мясцовай бальніцы, і стаўка на яго падавалася бяспройгрышнай: ну ці шмат людзей будуць супраць? Здавалася, разьлік быў правільны: лекар выйшаў у другі тур, заняўшы першае месца, амаль на дзьвесьце галасоў адстала ад яго Сямдзянава. Але ў другім туры Галіна Сямдзянава перамагла.

Да Наваградку даходзіла інфармацыя пра бурлівае мітынговае менскае жыцьцё, пераважна — у інтэрпрэтацыі камуністычнай прапаганды. І на пасяджэньне дэмакратычных дэпутатаў увесну 1990-га Сямдзянава прыйшла, кіруючыся жаданьнем паглядзець, што ж уяўляюць зь сябе гэтыя «нефармалы» і «экстрэмісты». Першае пасяджэньне, як памятаю, яна сядзела моўчкі — назірала. Потым пачала падаваць рэплікі. А ўжо ў сярэдзіне чэрвеня падпісала і заяву аб стварэньні дэпутацкай фракцыі БНФ, а ў ліпені — Апазыцыі БНФ. Пазьней у інтэрвію наваградзкай газэце яна скажа выбаршчыкам, што па-іншаму паглядзець на сьвет яе прымусілі «Архіпелаг ГУЛаг» Салжаніцына і дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту.

Галіна была шчырай, не хавала сваіх перакананьняў, ня стрымлівала сябе ў ацэнках і магла пайсьці на тое, што ў палітыцы называецца «прамое дзеяньне» і адбываецца вельмі рэдка, у экстрэмальных абставінах. Але менавіта такія дзеяньні мяняюць абставіны, а часам і ходу гісторыі. Тое, што яна першая ўнесла ў Авальную залю бел-чырвона-белы сьцяг у пачатку Сэсіі Незалежнасьці, можа падацца выключна сымбалічным учынкам. Але вось — тое, што сапраўды паўплывала на лёс нацыі.

25 жніўня 1991 году, калі ўжо былі абвешчаныя факты падтрымкі камуністычным кіраўніцтвам БССР маскоўскіх путчыстаў, першы сакратар ЦК кампартыі Малафееў даў знак старшыні Вярхоўнага Савету Дземянцею — маўляў, зараз дасі слова мне. І, не чакаючы абвесткі сьпікера, павольна, пагаспадарску пайшоў да трыбуны. Мы паўскоквалі зь месцаў, а Галіна ўбегла на трыбуну і закрыла сабой мікрафон.

Першы сакратар, сама пасада якога дзесяцігодзьдзямі выклікала піетэт, пашану, страх, трымценьне — быў сагнаны намі з трыбуны ў прамой трансьляцыі, і гэта бачыла ўся Беларусь. Камуністы — у шоку. «Священник остановился при виде такого посрамления божьей святыни и не посмел служить панихиду в таком месте» (Гогаль, «Вий») — Дземянцей спыніў пасяджэньне, а пасьля перапынку падаў у адстаўку.

Далей сэсію вёў Шушкевіч, былі зноў пастаўленыя на галасаваньне прапановы дэпутатаў БНФ, і празь некалькі гадзін Беларусь была абвешчаная незалежнай дзяржавай.

Яна ня бралася за некалькі спраў адразу. Галіна вызначала для сябе нейкую тэму і мэтанакіравана,



Галіна Сямдзянава ў Авальнай залі.

сыстэмна над ёй працавала. З уласьцівай ёй уедлівасьцю і ўвагай да самых дробных і, здавалася б, нязначных дэталяў, на якія большасьць махнула б рукой. Але часта аказвалася, што якраз яны і былі важныя, і выраз «д’ябал хаваецца ў дэталях» набываў амаль прамы сэнс, бо ўменьне закласьці падвох у законапраект было ўласьцівасьцю нашых апанэнтаў.

Так было ў 1992 годзе са зборам подпісаў за рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах, калі прыйшлося выконваць казуістычныя патрабаваньні, а потым вырываць у старшынь выканкамаў завераныя пячаткай падпісныя лісты. Ведаю выпадак, калі Сямдзянавай давялося іх вырываць сваімі рукамі з рук чыноўніка, які не жадаў аддаваць аркушы з тысячамі сабраных фронтаўцамі подпісаў.

Не раскрыю таямніцы, сказаўшы, што ў выпадку перамогі Пазьняка на прэзыдэнцкіх выбарах менавіта Сямдзянава была б прапанаваная на пасаду міністра абароны. Зрэшты, гэта не было сакрэтам і ў пачатку 90-х, і неяк на адным прыёме генэралы мне сказалі, што хоць шмат у чым і нязгодныя з Пазьняком, але ў нечым ён мае рацыю, ну але вось «жанчыну паставіць камандаваць войскам — мы такога ня прымем ніколі».

Я адказаў, што што міністар абароны ў дэмакратычных краінах — гэта палітык, а не камандзір, а жанчыны — ня горшыя палітыкі за нас. «Міністар — найперш кіраўнік ведамства. А што галоўнае для ведамства? Галоўнае — бюджэт. Самі ж кажаце, нагадваў я, што не хапае на рамонт тэхнікі, што патрэбная салярка і гэтак далей. Ну вось выйдзе на трыбуну парлямэнту генэрал і папросіць павялічыць асыгнаваньні, напрыклад, на тыя самыя гаруча-змазачныя матэрыялы. Тады ўздымецца са свайго месца старшыня аграрнай камісіі Гаркун, які на кожнай сэсіі вырывае зубамі мільярды для «працаўнікоў палёў і фэрм», і вас праглыне за адзін прыём, а лямпасы і генэральскія зоркі разьдзяруць старшыні калгасаў. А калі бюджэт міністэрства будзе прадстаўляць Сямдзянава, ніводны дэпутат, калі толькі ён не самагубца, не захоча ваяваць з Галінай, прасьцей націснуць кнопку «за» і забыць». — «Гэта так, зь Сямдзянавай асабліва не паспрачаесься», — пагадзіліся генэралы.

Што Сямдзянава дамагаецца сваёй мэты — кіраўнікі Міністэрства абароны ведалі якраз па камітэце «Вяртаньне». Галіна займалася вяртаньнем, а затым і ўладкаваньнем беларусаў-афіцэраў і іх сем’яў няспынна і, як мне здавалася, кругласу-

тачна. Штаб камітэту — ва ўсякім разе ў мяне было такое адчуваньне — пераносіўся туды, дзе была Сямдзянава, ці то ў наш 363-ці пакой апазыцыі на трэцім паверсе Дому ўраду, ці ў штаб-кватэру БНФ на Варвашэні, 8, альбо на Плошчы ў часе мітынгу.

У сваёй кнізе «Імёны Свабоды» Уладзімер Арлоў піша, што калі міністрам абароны будзе жанчына, у кабінэце абавязкова будзе партрэт Галіны Сямдзянавай. Я перакананы, што партрэт Галіны будзе ў вайсковым ведамстве незалежна ад полавай прыкметы яго кіраўніка, і спадзяюся, што калінебудзь асобную кнігу пра Сямдзянаву возьмуць у рукі і нашчадкі чатырох тысяч беларускіх афіцэраў, дзякуючы ёй вернутых на Радзіму.

## Пра званьне генэрала і гонар афіцэра

Згуртаваньне вайскоўцаў можа быць узводам, ротай, батальёнам — а вось калі дадаць прыметнік «Беларускае», боегатовасьць рэзка мяняецца. Так у пачатку 1990-х у Беларусі лічылі многія, праўда кожны — са сваім знакам.

20 жніўня 1991 году на плошчы перад Домам ураду на мітынгу супраць маскоўскага праімпэрскага пучу выступіў афіцэр з пагонамі падпалкоўніка, які заявіў пра стварэньне Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў і выказаў перакананьне, што «гарантыяй незваротнасьці дэмакратычных зьмен і сувэрэнітэту могуць стаць толькі дэпартызаваныя нацыянальныя вайсковыя злучэньні». З гэтага моманту ўраджэнец Случчыны, выпускнік і выкладчык Менскай вышэйшай інжынэрнай зэнітнай ракетнай вучэльні, кандыдат тэхнічных навук Мікалай Статкевіч зрабіўся прыкметнай фігурай у

палітычным жыцьці краіны. Увесну 1992-га ён быў адным з ініцыятараў Антыкрызіснага пагадненьня, падпісанага Шушкевічам, Кебічам, сілавымі міністрамі і лідэрамі дэмакратычных партый, якое прадугледжвала супольныя дзеяньні ў выпадку рэальнай пагрозы сувэрэнітэту.

Аднак актыўнасьць Статкевіча і ягоных паплечнікаў па БЗВ, якія цягам усяго году патрабавалі ад кіраўніцтва міністэрства прывесьці афіцэраў беларускіх Узброеных сілаў да прысягі (на другім годзе незалежнасьці гэта яшчэ не было зроблена) — выклікала незадаволенасьць генэралаў.

У траўні 1993-га, незадоўга да абароны доктарскай дысэртацыі, Статкевіч быў звольнены з войска з фармулёўкай «за дыскрэдытацыю званьня афіцэра». Вялікая група палітыкаў і прадстаўнікоў інтэлігенцыі выступіла з публічным пратэстам.

Заява «Не дамо расправіцца з патрыётамі Беларусі» была апублікаваная ў некаторых выданьнях у канцы траўня:

«Сотні гадоў наш народ пазбаўлялі права на існаваньне, зьневажалі, зьнішчалі. Гісторыя дала Беларусі шанец адрадзіцца. Але ў краіне па-ранейшаму пануюць намэнклятурна-камуністычныя сілы. Каб пазьбегнуць адказнасьці за развал эканомікі і раскраданьне нашых багацьцяў, яны гатовыя пахаваць парасткі дэмакратыі і зьнішчыць нашую незалежнасьць, зацягнуўшы Беларусь у ваенны саюз. Калі ж патрыёты Беларусі выступаюць супраць гэтага — намэнклятура пачынае зь імі вайну. Асаблівую нянавісьць антыбеларускіх сілаў выклікае Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў (БЗВ)… Сапраўдная мэта звальненьня Міколы Статкевіча — запалохаць

вайскоўцаў, не пакінуць сумневу ў антыбеларускім курсе вайсковага кіраўніцтва краіны».

Сьпіс падпісантаў адкрываецца імем Васіля Быкава, тут Апазыцыя БНФ практычна ў поўным складзе на чале зь Зянонам Пазьняком, а таксама дэпутаты Інэса Драбышэўская, Генадзь Карпенка Валеры Курдзюкоў, Анатоль Лябедзька, Ніна Салдатава ды іншыя, акадэмікі Станіслаў Астапчык і Ўладзімер Камароў, член-карэспандэнт Акадэміі навук Іван Нікітчанка, прафэсар Уладзімер Кулажанка, навукоўцы гісторыкі Анатоль Грыцкевіч, Генадзь Сагановіч, Міхась Чарняўскі, Георгі Штыхаў, літаратары Сяргей Законьнікаў і Адам Мальдзіс, празаік Барыс Сачанка акторка Таццяна Мархель. Пад лістом — подпісы старшыні Беларускай сялянскай партыі Яўгена Лугіна, намесьніка старшыні Аб’яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі Міхася Пліскі, прадстаўніцы жаночага Хрысьціянска-дэмакратычнага руху Ганны Сурмач.

Аднак адзінае, што маглі зрабіць аўтары звароту, якія ня мелі ні ўлады, ні мэханізмаў рэальнага ўплыву на кіраўніцтва Міністэрства абароны — гэта выказаць маральную падтрымку, выступіць у абарону БЗВ у прэсе і на сэсіі Вярхоўнага Савету. Для афіцэраў гэты было маральнай падтрымкай, для генэралаў — пустым гукам. Усьлед за Статкевічам былі звольненыя ўсе афіцэры, якія стаялі перад трыбунай у верасьні 1992 году ў часе прыняцьця прысягі на вернасьць Беларусі.

У гэтай справе кіраўніцтва Міністэрства абароны знайшло надзейных саюзьнікаў у дэпутацкім корпусе, найперш намесьніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савету па абароне Леаніда Прывалава і намесьніка начальніка ўпраўленьня бясьпекі

Саўміну Валерыя Паўлава, дэпутата ад вэтэранскай арганізацыі Валянціна Сарокіна, былога начальніка палітупраўленьня Беларускай вайсковай акругі генэрала Анатоля Новікава.

У інфармацыйным бюлетэні «Служым Айчыне!», які выходзіў на старонках тыднёвіка «Літаратура і мастацтва», у кастрычніку 1993-га вэтэран вайны Ўсяслаў Войніч напісаў, што тыя, хто цкуе актывістаў БЗВ, «страляюць у сьпіну незалежнай Беларусі».

Аўтар артыкулу адзначаў, што «Беларускае Войска па сёньня яшчэ надта далёка ад таго стану, каб стаць нацыянальным», што «сёньняшняя прызыўная моладзь ужо некалькі гадоў жыла пад бел-чырвона-белым сьцягам, пад Пагоняй, сталела ў атмасфэры нацыянальнага Адраджэньня, а яе зноў спрабуюць засунуць у антынацыянальнае асяродзьдзе. Цераз год-другі ў войска пойдзе масавы наплыў выпускнікоў беларускамоўных школ (вынік увядзеньня Закону аб мовах, прынятага ў 1990 годзе — С. Н.), а тут іх сустракаюць “Равняйсь”, “Смирно”, разбаўленыя мацяршчынай, а ўсе праявы нацыянальнай сьвядомасьці нівэлююцца пад адно слова “нацыяналізм”».

…Задоўга да верасьня і Кебіч заявіў, што «яшчэ адно адзначэньне Аршанскай бітвы — і Расея перакрые нам нафту», і Міністэрства абароны ўключылася ў прапагандысцкую кампанію супраць сьвяткаваньня Дня беларускай вайсковай славы. Затое ў лютым у Цэнтральным доме афіцэраў правялі міжнародную навукова-практычную канфэрэнцыю ў гонар 50-годзьдзя суворaўскіх вайсковых вучэльняў. У часе канфэрэнцыі актывісты БНФ прыйшлі да Дому афіцэраў — «был выставлен немногочи-




Пікет БНФ ля Дому афіцэраў у часе канфэрэнцыі, прысьвечанай Сувораву.

сленный, но достаточно крикливый пикет оппозиции, расцвеченный бел-чырвона-белыми стягами».

Апошняя цытата з згадаваньнем дзяржаўнага ў той момант сьцяга належыць чалавеку, які пад гэтым самым сьцягам кляўся ў адданасьці незалежнай беларускай дзяржаве, і ўзятая зь ягонай кнігі, пра якую варта сказаць больш падрабязна хаця б каб лепей уяўляць, якія асобы кіравалі Ўзброенымі сіламі Беларусі ў гады іх станаўленьня.

У кнізе «Дзевяноста другі» я пішу, што пасьля абвяшчэньня Незалежнасьці «ці не адзіным генэралам, які выказваў бясспрэчную ляяльнасьць да беларускай дзяржавы, быў … Пётра Чавус» (с. 43).

І сапраўды — выказваў. Прызначаны ў сьнежні 1991 году міністрам у справах абароны, а пазьней — як выканаўца абавязкаў міністра абароны, генэрал-

палкоўнік Чавус пераконваў дэпутатаў, у тым ліку і дэпутатаў БНФ, у тым, што вітае незалежнасьць Беларусі. І нават даваў інтэрвію газэце «Навіны БНФ», на што не адважваліся іншыя, «цывільныя» міністры. Таму мы актыўна падтрымлівалі Чавуса і дамагаліся менавіта ягонага прызначэньня на пасаду міністра абароны (ім у выніку стаў Павал Казлоўскі). І асабліва адстойвала Чавуса — горача і імпэтна, як умела гэта рабіць толькі яна — Галіна Сямдзянава.

Мая кніга выйшла выйшла ў ліпені 2017-га, а праз месяц у Менску я набыў мэмуары Пётры Чавуса «Жизнь — Отечеству, честь — никому!» (Минск, «Ковчег», 2013).

Кніга ўразіла.

Асобны разьдзел прысьвечаны суворАўскім вучэльням і мае мэтай «защитить доброе имя А. В. Суворова и отстоять родное училище от нападок доморощенных национал-радикалов, дать решительный отпор злопыхателям», паколькі Суворау «на Белой Руси» «принял непосредственное участие в освобождении белорусского народа от векового и религиозного угнетения со строны шляхетской Речи Посполитой». Генэрал у зьдзеклівым кантэксьце выказваецца пра Вітаўта Вялікага, Канстанціна Астроскага, Тадэвуша Касьцюшку, Кастуся Каліноўскага — і з павагай пра «сталинских маршалов» Будзённага і Цімашэнку.

Пётра Чавус выяўляе поўнае неразуменьне тагачаснай палітычнай сытуацыі ў краіне, міністрам у якой быў (у кнізе Гайдукевіч выконвае даручэньні Пазьняка), у саміх войсках (кіраўніцтва БНФ сустракаюць у дывізіях ганаровай вартай і аркестрам — вышэй я прыгадаў, як сустрэлі мяне

ў вайсковай частцы ва Ўруччы). Чавус грэбліва піша пра Гарбачова, пра Шушкевіча, пра Народны Фронт — за развал «великого СССР» («Окна здания выходили в сторону штаба Народного Фронта, и было видно, что по ночам во всех кабинетах горел свет, потому что там усиленно работали. И понятно, над чем…»)

Калі хаця б адной фразай генэрал удакладніў, што ў пачатку 90-х ён меў адну пазыцыю, а потым яе зьмяніў, пад узьдзеяньнем абставінаў або ў выніку пераасэнсаваньня — не было б пытаньняў. Але гэтага няма, і плач па развале «единой страны» ды зьедлівыя рэплікі на адрас «националистов» я чытаў з усьведамленьнем, што і генэралы могуць быць дыпляматамі і па-акторску хаваць свае сапраўдныя думкі за прыгожымі фразамі,

Але ранейшыя свае словы пацьвярджаю: тады Чавус сапраўды выказваў ляяльнасьць да незалежнасьці і павагу да БНФ.

За два гады, якія пасьля ўнівэрсытэту я праслужыў з лейтэнанцкімі пагонамі ў ракетнай вайсковай частцы пад Лепелем, на палігонах у Дрэтуні і ў Капусьціным Яры, у мяне ня ўзьнікла ніводнай нагоды сумнявацца ў вартасьці выразу «слова афіцэра». Зрэшты, генэральскія зоркі часам бяруцца ня толькі ваеннай хітрасьцю, але і проста хітрасьцю.

Так што — па-генэральску.

Апяклі радкі, прысьвечаныя Галіне Сямдзянавай: «дама, которая всё время задавала малозначительные вопросы», «самые дилетантские».

Не па-афіцэрску!

***Сяргей Бубневіч*** *(Валожынская выбарчая акруга № 58). Прайшоў Новы год, а за ім і Каляды, але ў Валожыне ня ўсе рады. І сапраўды, чаму тут радавацца валожынцам, калі ў кватэрах тэмпэратура паветра такая, як і на двары. Навагодні дзед мароз замарозіў паліклініку, дзіцячы сад, кінатэатар, пашкоджана цеплавая сетка. А дом нумар 10 па вуліцы Гагарына, паводле расказаў яго жыхароў, у сёлетнім ацяпляльным сэзоне яшчэ ні разу не ацяпляўся. Хачу дадаць, што Валожын, бадай, адзіны горад, які ня мае цёплага водазабесьпячэньня, а хто жыве ў канцы вуліцы Савецкай, дык ня мае аніякай вады, як і адказу ад мясцовых улад у гэтым пытаньні… Таму зьвяртаюся з запытам да Савету міністраў Рэспублікі Беларусь, прашу абмеркаваць гэтае пытаньне і дапамагчы адзін раз матэрыяльна.*

*Выступ у «Розным»*

## КРАІНАЙ КІРУЮЦЬ ШУШКЕВІЧ І КЕБІЧ

Радзіма бывае вялікая і малая, а начальства — намінальнае і рэальнае. Апошняе, канешне, больш паважанае.

Калі трактарыст калгасу імя Леніна дэпутат Бубневіч сказаў пра тое як мерзнуць валожынцы, па Авальнай залі пракаціліся рэплікі — «Ну і Кебіч!», «Францавіч забыўся, што “трэба дома бываць часьцей!”».

Кебіч быў родам з Валожынскага раёну, і такая сытуацыя на малой радзіме прэм’ера, натуральна, выклікала кпіны дэпутатаў.

І дарэмна: гэта хоць і сьведчыла пра вынік эканамічнай палітыкі ўраду, але, на мой погляд, хутчэй казала на карысьць прэм’ера як чалавека. Бо ён не скарыстаў свае неабмежаваныя магчымасьці для добраўпарадкаваньня «свайго» раёну — натуральна, коштам іншых раёнаў.

А вось Станіславу Шушкевічу, каб паклапаціцца пра сваю «малую радзіму», дастаткова было, напрыклад, патынкаваць будынак дзяржфілярмоніі, што на плошчы Якуба Коласа ў Менску — акурат там стаяў дом, дзе прайшло ягонае дзяцінства.

Шушкевіч і Кебіч адрозьніваліся, і характарам, і палітычнымі поглядамі, і кар’ерай да прыходу ў палітыку, але вялікая частка насельніцтва ўспрымала іх як амаль што адно цэлае — тое, што прыйшло замест першага сакратара ЦК як «галоўнага начальніка».

Пазьней, прыгадваючы гады кіраваньня гэтага дуўмвірату, будуць казаць пра «разгул кебічаўскай дэмакратыі» — з сымпатыяй, і пра «час шушкеві-

чаўскага безуладзьдзя» — з асуджэньнем. Абедзьве фармулёўкі недакладныя.

А ў той час даводзілася чуць — ШушКебіч, часам жартаўліва, але здаралася — і з раздражнёнасьцю. Апошняе было выклікана, пераважна, пагаршэньнем жыцьця. Пры гэтым людзям было няважна, хто канкрэтна нясе за гэта большую адказнасьць. Фармальна пасада Шушкевіча як старшыні Вярхоўнага Савету была вышэйшай, чым у старшыні Савету міністраў Кебіча. Але, паводле Канстытуцыі, старшыня парлямэнту ня быў кіраўніком дзяржавы — ён лічыўся «найвышэйшай службовай асобай».

І пры гэтым Шушкевіч «быў намінальным кіраўніком дзяржавы, а рэальныя рычагі кіраваньня эканомікай былі ў старшыні Савету міністраў» — пацьвердзіў пазьней Кебіч у сваіх мэмуарах.

Намэнклятурай Вячаслаў Кебіч успрымаўся як «свой», Станіслаў Шушкевіч — як «чужы»: і за дэмакратычныя погляды, і за беларускую мову і, канешне, за ўдзел у падпісаньні Белавескіх пагадненьняў. Пры гэтым неяк ня згадвалася, што і Кебіч у Віскулях паставіў свой подпіс.

Але і тыя, хто цікавіўся палітыкай і ўважліва сачыў за сэсіямі Вярхоўнага Савету, часта не маглі разабрацца, хто ёсьць хто, хто за каго і хто супраць чаго.

Кебіч быў вылучаны на пасаду старшыні Савету міністраў яшчэ Бюро ЦК, Шушкевіч сваю палітычную кар’еру зрабіў на хвалі дэмакратыі і пры падтрымцы Народнага Фронту.

З Кебічам нібыта ўсё было проста: вылучэнец намэнклятуры, яе інтарэсы і абараняе. У пазыцыі Шушкевіча разабрацца было куды больш цяжка. Так, за незалежнасьць і сувэрэнітэт, за нэўтралітэт



Станіслаў Шушкевіч
і Вячаслаў Кебіч.

і супраць уваходжаньня ў сыстэму калектыўнай бясьпекі — але і за ўваход Беларусі ў зону расейскага рубля. Крытыкуе ўрад за бязьдзейнасьць і правалы ў забесьпячэньні палівам — і заяўляе, што з Саўмінам можна працаваць, адкідае прапанову БНФ аб фармаваньні кааліцыйнага ўраду. Нібыта за свабоду слова — але выключае мікрафоны дэпутатам Апазыцыі.

Дзе лёгіка, што тут кампраміс, што прадуманы ход, што асабістае перакананьне, што выпадковасьць, што проста слабасьць, няздольнасьць адстаяць сваю пазыцыю? — мог задацца пытаньнем дапытлівы чалавек і не знайсьці адказу. Папраўдзе, і мы, дэпутаты, непасрэдна задзейнічаныя ў гэтых працэсах, адказу ня ведалі.

Зразумець падзеі 1993 году, увогуле пэрыяд пачатку 1990-х, немагчыма бяз спробы аналізу асобаў і палітычных пазыцый гэтых двух лідэраў. Клясычных іх біяграфіяў пакуль няма. Праўда, трэба прызнаць, абодва напісалі мэмуары: «Моя жизнь, крушение и воскрешение СССР» Станіслава Шушкевіча (РЭСПЭН, Масква, 2012) і «Искушение властью. Из жизни премьер-министра» Вячаслава Кебіча («Парадокс», Менск, 2008). Іх я і буду цытаваць у сваёй кнізе.

І ацэньваючы Кебіча, мне давядзецца часта згадваць Шушкевіча, а гаворачы пра Шушкевіча — цытаваць Кебіча. Нікуды не падзецца: у беларускай гісторыі гэтыя дзьве постаці застануцца побач.

Для абодвух 1993-ці быў апошнім поўным годам знаходжаньня ва ўладзе.

## «Мой рэйтынг — 75–80%, я праходжу ў першым туры»

Накіды да партрэту Кебіча я мог бы скласьці з цытатаў зь ягоных мэмуараў.

«Для мяне няма сумневу, што сапраўдны замоўшчык развалу Савецкага Саюзу знаходзіцца за акіянам».

«Шчыра кажучы, відавочная зацікаўленасьць БНФ ва ўвядзеньні нацыянальнай валюты яшчэ больш пераканала мяне ў тым, што сьпяшацца з гэтым ня варта».

«Прадстаўнікі БНФ больш былі падобныя не на дэпутатаў, а на паўп’яных хуліганаў, перакананых у сваёй беспакаранасьці».

«Чым меней заставалася часу да адкрыцьця сэсіі Вярхоўнага Савету, тым больш нахабна і адкрыта дзейнічалі актывісты БНФ».

«Як мы ні ахоўвалі свае вайсковыя часткі, актывісты БНФ, нібы прусакі, пранікалі туды скрозь самыя малыя шчыліны».

«Зрабіўшы стаўку на прымусовае "адраджэньне" беларускай мовы, а гэта не магло не суправаджацца русафобскімі матывамі, БНФ паставіў на кульгавую палітычную кабылку».

«Людзі маглі б патрапіць на падобныя нацыяналістычныя вуды і падтрымаць БНФ».

«Клопат пра народ служыў для БНФ толькі прапагандысцкай заслонай. Яму патрэбная была толькі ўлада. Прычым непадзельная. Нацыяналізм паўсюдна аднолькавы».

«Актывісты БНФ лічылі сваім абавязкам акалочвацца вакол люмпэн-пралетарыяту».

Гэткія выказваньні раскіданыя па ўсёй кнізе Кебіча, іх дзясяткі, калі ня сотні, і я мог бы напісаць, што яны цалкам характарызуюць аўтара і на гэтым паставіць кропку.

Але гэта было б ня поўнай праўдай. І нават — няпраўдай, бо быў і іншы Кебіч.

Мне казалі, што кніга напісаная ня Кебічам (у якасьці аўтара называюць журналіста Ігара Асінскага, зрэшты, ён і пазначаны ў выходных дадзеных як рэдактар), і што рабілася яна для аднаго чалавека — Лукашэнкі, адсюль і танальнасьць ацэнак. Ахвотна веру.

Веру і ў тое, што калі б прэзыдэнтам быў, напрыклад, Пазьняк, дык у кнізе было б напісана, што на зьездах народных дэпутатаў СССР Кебіч хай і ціха,

але дыстанцыяваўся ад артадаксальнага кіраўніцтва ЦК КПБ. Што на першай сэсіі Вярхоўнага Савету XII скліканьня Кебіч прапанаваў на пасаду міністра друку рэдактара часопіса «Полымя» Сяргея Законьнікава. Што ў жніўні 1991 году ён падтрымаў выступ Пазьняка за Незалежнасьць. Што менавіта ён увосень 1991-га прапанаваў Шушкевічу запрасіць Ельцына ў Белавескую пушчу — каб паразмаўляць пра кошты на энэрганосьбіты, і потым тое спатканьне паставіла кропку ў існаваньні СССР. Што на сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй у Міры ў 1992 годзе Кебіч казаў пра нацыянальнае Адраджэньне і падтрымліваў дзяржаўнасьць беларускай мовы. Што ніводзін дэпутат Апазыцыі БНФ, які прыходзіў да прэм’ера з праблемамі сваёй выбарчай акругі, не заставаўся незадаволеным.

І ўсё гэта было б поўнай праўдай, і я быў бы першы, хто б гэта пацьвердзіў.

Калі я упершыню ўбачыў Кебіча ў Авальнай залі ў траўні 1990-га, ён зрабіў на мяне вельмі добрае ўражаньне сваёй энэргічнасьцю, сабранасьцю, здольнасьцю выступаць рацыянальна, без намёку на камуністычныя догмы.

Што ж здарылася з чалавекам, якога вясной 1990-га Васіль Быкаў называў «прэм’ерам спадзяваньняў», і патрабаваньне адстаўкі якога ў 1993-м Апазыцыяй БНФ выносілася на кожную сэсію як галоўны пункт парадку дня?

У кнізе Кебіч піша, што ён быў кадравым афіцэрам выведкі, і калі гэта сапраўды так, дык многія ягоныя дзеяньні (асабліва ў накірунку аб’яднаньня з Расеяй) атрымліваюць лягічнае тлумачэньне. Многія, але ня ўсе.

Думаю, што тут сышліся некалькі прычынаў.

Па-першае, Кебіч, які вучыўся ў беларускай школе, хутка зразумеў, што кар'еру трэба рабіць, у прамым і пераносным сэнсе, на іншай, на расейскай мове. У сваёй кнізе ён прыводзіць даволі красамоўны фрагмэнт:

«Памятаю, на пасяджэньні партыйнай камісіі, якая, праводзячы сумоўе, высьвятляла, наколькі палітычна, ідэалягічна і маральна чалавек сасьпеў для ўступленьня ў КПСС, мяне запыталі?

— Якая мова для вас родная?

— Была беларуская, а цяпер расейская.

— Як гэта так?! — зьдзівіліся члены камісіі, падазрона разглядаючы мяне і, напэўна, рыхтуючыся даць мне ад варот паварот.

— Вельмі проста. Раней я думаў на беларускай мове, цяпер думаю на расейскай. Значыць, яна і ёсьць родная, паколькі менавіта на ёй афармляюцца ўсе мае самыя патаемныя думкі».

«Толькі праз некалькі гадоў я зразумеў, што ён валодае ўнікальным дарам быць сваім як сярод партнамэнклятуры, гэтак і ў асяродку дэмакратычна настроеных дэпутатаў, не зашораных догмамі КПСС. Я неаднойчы быў сьведкам ягонага пераўвасабленьня, але ніколі не асуджаў яго, думаючы, што па-іншаму для карысьці справы рабіць нельга», — піша пра Кебіча ў сваёй кнізе Шушкевіч.

Па-другое, Кебіч адчуваў, у які бок рухаюцца настроі грамадзтва.

Не выключаю, што калі б ішлі дэмакратычныя рэформы, адбываліся свабодныя выбары, Кебіч імкнуўся б падстройвацца пад іх — як гэта было ў жніўні і ў верасьні 1991 году. Але ў 1993-ім значная частка грамадзтва стамілася ад няўпэўненасьці і

чаканьня лепшага жыцьця і была ня супраць вяртаньня ў былыя часы.

І таму ён каяўся ў падпісаньні Белавескіх пагадненьняў і дамагаўся «эканамічнага саюзу» з Расеяй як панацэі ад канчатковага эканамічнага краху. Менавіта Кебіч, задоўга да Лукашэнкі, зробіць стаўку на савецкія міты як на прынаду для старэйшага пакаленьня, правакуючы настальгію па камуністычным мінулым.

Увогуле, як мне падаецца, Кебіч адносна лёгка паддаваўся ўплыву ня толькі зьнешніх абставінаў, але і атачэньня.

І тут прывяду фрагмэнт з кнігі былога міністра замежных справаў Пятра Краўчанкі, які лічыўся «сваім» у камандзе Кебіча.

«Вячаслаў Францавіч у палітыцы заўсёды быў адзіночкай і па савецкай традыцыі дбайна сачыў за тым, каб нехта з падначаленых раптам не абышоў яго самога. Ён не адчуваў неабходнасьці ў паўнавартаснай камандзе, якую яму замяняла кола набліжаных сяброў і паплечнікаў.

Самым блізкім да Кебіча чалавекам быў дзяржсакратар Генадзь Данілаў. Акрамя Данілава ягонай асаблівай прыхільнасьцю карысталіся таксама віцэ-прэм’ер Мікалай Косьцікаў і кіраўнік справамі Саўміну Мікалай Каўка.

Яшчэ адным удзельнікам гэтага нефармальнага арэапагу быў Віктар Старавойтаў — загадчык сталоўкі Дому ўраду. Справа ў тым, што Кебіч быў нераўнадушны да моцных напояў і любіў багатыя застольлі. А таму Старавойтаў быў яму проста неабходны, каб рэгулярна накрываць стол.

Дарэчы, як пагаворвалі, Старавойтаў быў чалавекам Эдуарда Шыркоўскага, так што шэф КДБ у

падрабязнасьцях даведваўся пра ўсё, што адбывалася на кебічаўскіх пасядзелках. А менавіта там, за чаркай каньяку, часта вырашаліся самыя важныя дзяржаўныя пытаньні.

Я далёкі ад таго, каб маралізаваць і асуджаць Вячаслава Францавіча. Але лішак сьпіртнога адбіваўся на ім надзвычай нэгатыўна. Ён разбураў сам сябе, а адначасна разбураў і сыстэму ўлады… З чалавека сканцэнтраванага і дзелавога Кебіч паступова рабіўся ўсё больш неабавязковым, забыўлівым і індыфэрэнтным… Нават традыцыйным сабутэльнікам ён мог нешта паабяцаць за сталом, а потым забыць» (Пётра Краўчанка, «Беларусь на распутье, или Правда о Беловежском соглашении», Время, Москва, 2006, с. 218–219).

І сапраўды: бяда (і палітычная віна) Кебіча ў тым, што ён дапусьціў блізка да сябе людзей, якія вельмі хутка пераканалі яго ў ягонай ледзь не мэсіянскай ролі, а самі ўспрынялі краіну як сваю вотчыну, якую можна спачатку абрабаваць, а потым тое, што застанецца — сьпіхнуць усходняму суседу. У апараце Саўміну былі створаныя ўпраўленьні і аддзелы, якія ад імя Кебіча ўзялі на сабе кіраваньне міністрамі, прызначанымі Вярхоўным Саветам. Гэта былі цалкам антыканстытуцыйныя структуры, але яны з кожным днём (у літаральным сэнсе) набіралі ўладныя паўнамоцтвы.

Адным з найбольш блізкіх да Кебіча лічыўся начальнік упраўленьня бясьпекі Саўміну Генадзь Данілаў, яму быў нададзены ранг «дзяржсакратара» (таксама не прадугледжаны Канстытуцыяй). Данілаву з дапамогай сваіх намесьнікаў дэпутатаў Генадзя Казлова і Валерыя Паўлава ўдалося ўзяць пад кантроль Міністэрства абароны і дыктаваць

сваю волю генэралу Казлоўскаму. Зь міністрам унутраных спраў Уладзімерам Ягоравым і старшынём КДБ Эдуардам Шыркоўскім гэткае не прайшло.

І менавіта атачэньне Кебіча пераканала яго ў тым, што трэба браць уладу цалкам, непадзельна. І з ролі другога пераходзіць на першага.

«Першы» — гэта было сымбалічнае слова для беларускай намэнклятуры. «Першы» — так асабліва набліжаныя і набліжаныя ня надта называлі першага сакратара ЦК КПБ.

І таму зусім лягічна, што ў рэанімацыі мінулага прыгадалі пра Машэрава.

«Наш Пётр Міронавіч» — апублікавала «Советская Белоруссия», а сьледам і іншыя дзяржаўныя газэты ў лютым 1993-га інтэрвію з Кебічам да юбілею першага сакратара ЦК кампартыі Беларусі ў 1965–80 гадах Машэрава. З тэксту выбудоўвалася постаць сумленнага, адказнага, кваліфікаванага, сьціплага кіраўніка, занепакоенага лёсам беларускага народу.

«Іх Пётр Міронавіч» — парыраваў Аляксандар Лукашук у газэце «Свабода», паказаўшы, у чыім абліччы — натуральна, Кебіча — намэнклятура плянуе зьдзейсьніць рэінкарнацыю камуністычнага кіраўніка БССР.

«Момант удалы, эканоміка не рэфармуецца і ў людзей расьце адчай, віна за гэта перакладаецца на «дэмакратаў», — пісаў Лукашук. — Жахлівая праўда пра крывавае мінулае ўскалыхнула была грамадзтва, але зараз сілы нацыі, відаць, ужо на зыходзе, і яна анэмічна пераносіць тупіковую гонку цэнаў, забарону рэфэрэндуму, рэанімацыю партыі катаў. Ідэі незалежнасьці, дэмакратыі, агульначалавечых каштоўнасьцяў і свабодаў у вачах значнай

часткі насельніцтва скампрамэтаваныя: каўбасы не пабольшала, парадку паменшала. Стала горш, а было — лепш. Таму гэтыя выбаршчыкі гатовыя аддаць галасы за любога, хто зробіць як было. Пра цану таго, як было, ніхто ўжо ня згадвае» («Свабода», № 3–4, сакавік 1993).

Гэтым «любым» (націск можна ставіць на абодва склады) намэнклятуры, канешне, бачыўся толькі Кебіч, хаця прэзыдэнцтва яшчэ было ня ўведзенае і нам, дэпутатам Апазыцыі БНФ, удавалася бляхаваць яго прыняцьце ў праекце Канстытуцыі. Да моманту, пакуль за прэзыдэнцтва ня выступіла група дэпутатаў, якія адносілі сябе да цэнтрыстаў — Генадзь Карпенка, Віктар Ганчар, Дзьмітры Булахаў ды іншыя.

Пазьней некаторыя зь іх зробяць стаўку на Лукашэнку, але ў пачатку 1993-га ў якасьці фаварыта гучала іншае імя: «Я не прымаю і не ўспрымаю заявы аб наяўнасьці ў нас у рэспубліцы двух лідэраў, — заявіў на сэсіі парлямэнту Віктар Ганчар. — І ў сувязі з гэтым скажу так: насьпеў час старшыні Савету міністраў рабіцца ня лідэрам каманды, а проста лідэрам».

Як прыгадваў праз чвэрць стагодзьдзя тагачасны старшыня Віцебскага аблвыканкаму Ўладзімер Кулакоў, недзе ў сярэдзіне 1993-га Кебіч сабраў сваіх паплечнікаў, кіраўнікоў рэгіёнаў і заявіў пра намер балятавацца ў прэзыдэнты. «Давайце абярэм вас Вярхоўным Саветам», — прапанавалі прэм’еру. «Не, толькі ўсенародна. Вось Іван Антановіч сьцьвярджае, што ў мяне рэйтынг — 75–80%, і я праходжу ў першым туры», — адказаў прэм’ер, які меў улады ня менш за першага сакратара, але хацелася яшчэ і народнай любові.

Іван Антановіч у той момант — кіраўнік створанага пры Саўміне аналітычнага цэнтру з багатым камуністычным мінулым — загадчык аддзелу культуры ЦК КПБ, сакратар і член Палітбюро расейскай камуністычнай партыі. І зь ня менш тытуляванай будучыняй: пры Лукашэнку — міністар замежных спраў.

Аднак Кебіч разумеў, што сапраўдная аналітычная служба знаходзіцца ў іншым месцы. Цягам году ён імкнуўся падпарадкаваць сабе КДБ (так і не ўдалося — пяць разоў гэта галасавалася, і кожны раз нам удавалася заблякаваць рашэньне).

Увогуле, з пункту гледжаньня ўмацаваньня асабістай улады імкненьне падпарадкаваць сабе спэцслужбы выглядала лягічным. Шмат якія ягоныя крокі выглядалі слушнымі, калі расцэньваць іх з пазыцыі ўмацаваньня асабістай улады. Але — ня з пункту гледжаньня разьвіцьця дэмакратыі.

«Ведаеце, якое паняцьце цалкам адсутнічае ў герархіі сьветапоглядных каштоўнасьцяў прэм’ера, якое слова ніводнага разу не сустрэлася паміж чатырма зь лішкам тысячаў слоў пра “іх Пятра Міронавіча”? — завяршаў свой артыкул Аляксандар Лукашук. — Гэта слова — “свабода”».

І гэта пры тым, што менавіта свабодай, а больш дакладней, парасткамі свабоды і дэмакратыі скарыстаўся Кебіч, калі ў пачатку 1990-га на пленуме ЦК дамогся свайго прызначэньня на пасаду старшыні Саўміну. Хоць у той момант яму давялося выявіць і пэўныя дыпляматычныя здольнасьці, уменьне дамаўляцца.

Магчыма, зьдзіўлю чытача, але з Кебічам мне было размаўляць прасьцей, чым з Шушкевічам: ён сапраўды мог «падстроіцца» пад суразмоўніка (у

дадзеным выпадку маю на ўвазе камунікацыйныя здольнасьці і ацэньваю гэтую якасьць як станоўчую і для палітыка неабходную).

Я няшмат разоў быў у кабінэце Кебіча сам-насам (ва ўсіх выпадках прычыны былі не палітычныя, а зьвязаныя з праблемамі маёй выбарчай акругі), але ніводнага разу тое, пра што я прасіў, не засталося без увагі (хай можа і ня ў тым аб'ёме, у якім я прасіў). І пры гэтым Кебіч імкнуўся навязаць нейкі асабісты кантакт.

Вось хоць бы такі выпадак.

Недзе летам ці ў пачатку восені 1990 году, у першыя месяцы дзейнасьці Вярхоўнага Савету, у аднапакаёўцы на вуліцы Казінца, якую мы з жонкай здымалі, зазваніў тэлефон. Гэта быў Кебіч. Ён сказаў, што мае намер стварыць Міністэрства ў справах нацыянальнасьцяў (альбо Міністэрства ў справах грамадзкіх арганізацый, ці ў справах рэлігій, цяпер ужо ня памятаю дакладна), а крэсла міністра хоча прапанаваць майму бацьку (тады — сакратару Віцебскага абкаму партыі).

У тым часе ў мяне былі няпростыя палітычныя адносіны з бацькам — пасьля пасады дарадцы ЦК КПСС у Аўганістане яму «сьвяціла» падвышэньне, але я сваёй грамадзкай актыўнасьцю рэзка спыніў ягоную кар'еру. Я сказаў, што ідэя стварыць міністэрства добрая, ну але, натуральна, вырашаць за бацьку не магу, лепей было б Вячаславу Францавічу самому патэлефанаваць у Віцебск.

Гэтая гутарка ня мела ніякага разьвіцьця — міністэрства не было створанае, але нават калі ўявіць, што Кебіч хацеў «купіць» апанэнта — трэба прызнаць, што такі званок сьведчыў ня толькі пра палітычную, але і ў пэўным сэнсе пра дыпламатыч-

ную здольнасьць Кебіча. Пры гэтым нічога асаблівага Кебіч ад мяне атрымаць ня мог — я быў адным з трыццаці дэпутатаў БНФ і адным з 340 дэпутатаў парлямэнту. Хоць я перакананы, што тое ня быў блеф, што намер Кебіча быў сапраўдны.

Проста гэта адзін з тых выпадкаў, калі ягоныя ідэі зьнікалі гэтак жа хутка, як і зьяўляліся.

## Слабае месца беларускай намэнклятуры

Калі шматгадовы кіраўнік савецкай дзяржавы казаў, што сын не адказвае за бацьку, ён ці то забыўся, ці то не пажадаў дагаварыць: бацькі таксама не павінны адказваць за дзяцей. У Беларусі з пачатку нацыянальнага руху 80-х у некаторых бацькоў спыталі за дзяцей.

І да станоўчых якасьцяў Кебіча я б аднёс тое, што ён не адыграўся на першым намесьніку старшыні Камітэту па эканоміцы і плянаваньні (былы Дзяржплян) Рыгору Вячорку — за ягонага сына Вінцука Вячорку, аднаго зь лідэраў БНФ. Я магу ацаніць гэтую якасьць з уласнага вопыту і досьведу нашай сям'і — калі бацька вярнуўся з Кабулу, першае, што яму паказалі ў ЦК, была інфармацыя пра маю дзейнасьць.

Канешне, Кебіч няблага разьбіраўся ў эканоміцы — але ў той старой, сацыялістычнай эканоміцы. Тут ён якраз саступаў таму самаму Рыгору Вячорку, які меў такі самы або нават большы партыйны досьвед, але адначасна быў здольны ўспрыняць новае.

Увогуле, Рыгор Мікалаевіч Вячорка быў адным зь нешматлікіх людзей у апараце Савету міністраў, які выклікаў павагу, мяркую, ня толькі ў мяне, але

і ў іншых дэпутатаў апазыцыі. Ён ніяк не атаясамліваўся са звыклым стандартным вобразам былога партыйнага кіраўніка (кулаком аб стол, мат як спосаб камунікацыі, бяздумнае выкананьне высокіх загадаў). Ён быў інтэлігентным, па-сапраўднаму адукаваным чалавекам.

Апошняй пасадай Вячоркі перад абвяшчэньнем незалежнасьці была — намесьнік старшыні Дзяржпляну, калі старшынём быў Кебіч, перад гэтым абодва нейкі час мелі роўныя пазыцыі (Вячорка — загадчык аддзелу ЦК, Кебіч — другі сакратар Менскага абкаму), і пасаду старшыні Дзяржпляну, зь якой Кебіч пойдзе на прэм'ера, мог бы заняць і Вячорка. У гэтым выпадку можна толькі ўяўляць, які быў бы лёс Беларусі.

Але — гэта толькі гіпотэза, а вось што я ведаю дакладна — у пачатку 90-ых Вячорка кансультаваў эканамічную групу Ценявога кабінэту Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Так, многія распрацоўкі Апазыцыі, на вялікі жаль, былі адрынутыя парлямэнцкай большасьцю, але шмат якія ўвасобіліся ў пэўныя палажэньні законаў. Пры гэтым «саўмінаўская» Праграма пераходу да рынкавай эканомікі, распрацоўкай якой Рыгор Вячорка кіраваў — была прынятая Вярхоўным Саветам у 1992 годзе. Па тых часах гэта быў крок наперад, істотны адрыў ад сацыялістычнай сыстэмы гаспадараньня.

Аднак слабасьць беларускай намэнклятуры была ня толькі ў тым, што мала хто з кіраўнікоў быў здольны ўспрыняць новае ці зрабіць рывок наперад.

Сытуацыя ў кіруючай эліце ў апошнія гады існаваньня БССР вызначыла шмат у чым і сытуацыю ў пачатку 90-х, у першыя гады незалежнасьці і, як вынік, у наступныя дзесяцігодзьдзі.

Адна з прычынаў, чаму ў Беларусі не атрымаліся дэмакратычныя рэформы, а пагроза страты незалежнасьці існуе ўжо дзесяцігодзьдзі — амаль нулявая нацыянальная сьвядомасьць камуністычнага кіраўніцтва ў канцы 80-х. Тых, хто выступаў за нацыянальнае адраджэньне, партыйныя сакратары ўспрымалі ў якасьці клясавых ворагаў.

І як вынік, менавіта камуністычнай прапагандай у грамадзтва былі трывала закладзеныя міты пра БНФ як пра «экстрэмістаў», «радыкалаў» і таму падобная лухта — чаго не было ў Эстоніі, Латвіі, Літве і нават, у такой ступені, ва Ўкраіне. Гэтыя міты адыгралі фатальную ролю ў 1994-м.

Да прыкладу, першы сакратар ЦК літоўскай кампартыі Бразаўскас і кіраўнік «Саюдзісу» Ландсбергіс на Зьезьдзе народных дэпутатаў СССР супольна адстойвалі інтарэсы сваёй рэспублікі. А ў БССР кіраўніцтва ЦК зрабіла ўсё, каб не дапусьціць ніводнага лідэра БНФ на той зьезд у якасьці дэпутата. Устаноўчы зьезд БНФ у 1989 годзе не дазволілі правесьці ў Менску — ён адбыўся ў Літве, а памяшканьне далі на распараджэньне таго самага сакратара ЦК Бразаўскаса. У Літве кіраўнікі ЦК падтрымалі «Саюдзіс» і ўзначалілі змаганьне за Незалежнасьць — у Беларусі кіраўніцтва ЦК узначаліла змаганьне супраць Незалежнасьці, аж да 25 жніўня 1991-га, калі дзейнасьць кампартыі спынілі.

У Беларусі нацыянальна арыентаваных кіраўнікоў (а такія былі, хоць і зусім няшмат) адсунулі на другія ролі. Хай бы гэтыя «другія ролі» і былі высокімі пасадамі, але ня гэтыя людзі вызначалі палітыку (калі коротка, яны не ўваходзілі ў склад дзесяці — пятнаццаці членаў Бюро ЦК КПБ).

Я магу па пальцах адной рукі пералічыць партыйных кіраўнікоў вышэйшых за ранг першага сакратара райкаму, якія б сымпатызавалі нацыянальнай ідэі — нават у яе, так бы мовіць, камуністычным разуменьні (гэта значыць — з захаваньнем кіруючай ролі кампартыі).

У канцы 80-х, акрамя ўжо згаданага Рыгора Вячоркі, такімі былі намесьніца старшыні Савету міністраў Ніна Мазай, загадчык аддзелу навукі ЦК КПБ Міхаіл Дзямчук, сакратар Віцебскага абкаму партыі Іосіф Навумчык і сакратар Менскага гаркаму партыі Пётра Краўчанка. (Пазьней, у першыя гады незалежнасьці, адказным стаўленьнем да беларушчыны вызначыліся былы супрацоўнік ЦК міністар інфармацыі Анатоль Бутэвіч; Дзямчук заняў пасаду віцэ-прэм'ера). Канешне, прыгадваюцца імёны члена ЦК старшыні Дзяржтэлерадыё Генадзя Бураўкіна і загадчыка сэктару літаратуры Сяргея Законьнікава, але гэта былі не «прафэсійныя» партыйныя кіраўнікі.

З адыходам на пэнсію ў 1986-м з пасады сакратара ЦК па ідэалёгіі Аляксандра Кузьміна, які дапамагаў Васілю Быкаву ды іншым пісьменьнікам, і прыходам у кабінэт галоўнага ідэоляга Валерыя Пячэньнікава, адносіны партапарату з нацыянальнай інтэлігенцыяй зрабіліся проста варожыя. (У сваіх мэмуарах тагачасны першы сакратар Саюзу пісьменьнікаў СССР Уладзімір Карпаў піша, што за часы свайго сакратарства Пячэньнікаў ніводнага разу не наведаў Саюз пісьменьнікаў Беларусі — інжынэр паводле адукацыі, ён проста ня ведаў, пра што размаўляць зь літаратарамі. Тут важным мне бачыцца не адмова ад «кіраваньня літаратурай» —

кіраваньне працягвалася, ды яшчэ якое — а нежаданьне спрыяць нацыянальнай культуры.)

І калі раней у асяродку партыйных кіраўнікоў стаўленьне да беларускай мовы, да нацыянальнай гісторыі было, пераважна, абыякавым, дык з 1986 году яно зьмянілася на агрэсіўна-непрымальнае.

Асабліва яскрава гэта выявілася пасьля стварэньня БНФ і на выбарах спачатку народных дэпутатаў СССР, а потым і ў Вярхоўны Савет XII скліканьня; вынікі апошніх і прадвызначылі лёс Беларусі.

Кебіч да нацыянальнага Адраджэньня ставіўся, як мне падаецца, абыякава — у тым сэнсе, што ня надта спрыяльна, але і не варожа. Сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй, якія ладзілі яму дарадцы, ён успрымаў як неабходны элемэнт падтрыманьня іміджу кіраўніка. Шушкевіч жа падкрэсьліваў прыхільнасьць да Адраджэньня, і ягоны ўдзел ва ўрачыстасьцях, прысьвечаных 75-м угодкам БНР ды ў Першым зьезьдзе беларусаў сьвету падвысіў іх статус.

Для абсалютнай большасьці намэнклятуры зь яе нацыянальным нігілізмам такое стаўленьне было незразумелае.

## «Прашу адключыць мікрафон!»

Са Станіславам Шушкевічам мы нарадзіліся ў адзін дзень — праўда, з розьніцай у 27 гадоў. Роўна столькі, колькі цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, спаўняецца незалежнасьці Беларусі. Нібыта і больш за чвэрць стагодзьдзя, а адчуваньне — імгненьне праляцела.

На кожным этапе палітычнай кар’еры Шушкевіча падтрымліваў Беларускі Народны Фронт. Прычым гэтая падтрымка была вызначальнай: безь яе ён ня стаў бы ні дэпутатам, ні віцэ-сьпікерам, ні старшынём парлямэнту.

Пры гэтым мы атрымалі зусім ня тое, на што разьлічвалі.

З аднаго боку, Шушкевіч істотна паспрыяў таму, каб ініцыятыва БНФ аб наданьні бел-чырвона-беламу сьцягу і гербу «Пагоня» статусу дзяржаўных сымбаляў увасобілася ў рашэньне Вярхоўнага Савету. Ягоны подпіс у Віскулях пад пагадненьнямі аб ліквідацыі СССР дазволіў Беларусі стаць незалежнай дэ-факта (дэ-юрэ яна была абвешчаная незалежнай 25 жніўня 1991 году). Гэта, бясспрэчна, вельмі важныя дасягненьні Шушкевіча, якія ўпісалі ягонае імя ў гісторыю.

Але падчас красавіцкіх страйкаў 1991 году Шушкевіч стаў на бок камуністычнай намэнклятуры (ніхто не зрабіў для абяззбройваньня рабочага руху столькі, як Шушкевіч, пісалі ў тыя дні «Навіны БНФ»). У 1992 годзе ён выступіў супраць правядзеньня рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах, за які было сабрана больш за 440 тысяч подпісаў, не зьбіраў сэсію, якая павінна была прызначыць дату плебісцыту, і ў выніку ініцыятыва БНФ правалілася.

Гаворачы пра ўзаемаадносіны Шушкевіча з дэпутатамі, прычым розных палітычных лягераў, выкажу сьмелае меркаваньне: магчыма, выкладчыцкі досьвед парадаксальным чынам паўплываў на тое, што яму так і не ўдалося выбудаваць адносіны з дэпутатамі — ні з намэнклятурай, што

было, праўда, вельмі складана, ні з апазыцыяй, што можна было зрабіць даволі лёгка.

Але для гэтага, пэўна, патрабавалася мець нейкія якасьці, якіх у яго не было. Ці прынамсі ня мець рысы характару, якая ў Шушкевічу выяўлялася на кожным кроку: мэнтарскага стаўленьня, магчыма, выпрацаванага гадамі выкладчыцкай працы. Усё ж дэпутаты — што былыя сакратары райкамаў ці генэралы, што навуковыя супрацоўнікі акадэмічных інстытутаў ці журналісты — гэта не студэнты, а людзі з вышэйшай адукацыяй і пэўнымі прафэсійнымі дасягненьнямі.

Вышэй я прыгадаў ацэнку Шушкевічам унікальнага дару Кебіча быць сваім і сярод намэнклятуры, і сярод дэмакратаў: сам жа ён мог быць чужым і для першых, і для другіх, і пры гэтым псаваць адносіны з тымі, хто да яго ставіўся вельмі прыязна (магу аднесьці і сябе да гэтай катэгорыі).

Працытую ўласныя словы, сказаныя ў траўні 1993 году аглядальніку «Звязды» Валянціну Жданко: «Кажуць, што вельмі рэдка сустракаецца талентператвараць сваіх ворагаў ва ўласных сяброў. Калі так, то дар Станіслава Станіслававіча яшчэ больш унікальны: ён можа сваіх прыхільнікаў зь мінімумам намаганьняў настройваць супраць сябе. За тры гады ён аддаліў ледзь ня ўсіх сваіх палітычных паплечнікаў. Так, большасьць зь іх прыйшлі з Плошчы, яны не заўсёды суадносілі рэальнае з магчымым, у іх не хапала вопыту. Значыць, трэба было дапамагаць набіраць гэты вопыт, вучыць іх — гэта хоць і цяжка, але больш карысна, чым выстаўляць іх на пасьмешышча на радасьць апанэнтаў. Але заўважце, што дэпутаты Апазыцыі ў адносінах з Шушкевічам вытрымліваюць такт,

я ўжо не кажу пра супадзеньне поглядаў на шэраг пытаньняў».

Прызнаюся, што гэтыя словы былі сказаныя для аднаго чытача газэты: для Шушкевіча. Я ўсё яшчэ спадзяваўся, што ён знойдзе спосаб супрацоўнічаць з дэпутатамі Апазыцыі — ці, хаця б, перастане адключаць нам мікрафоны ў Авальнай залі. Словы «Прашу адключыць мікрафон» гучалі зь ягоных вуснаў усё часьцей, што нязьменна выклікала радасьць у нашых апанэнтаў.

Калі візыты да Кебіча па праблемах жыхароў выбарчай акругі давалі станоўчы вынік (хоць гэта яму нічога не каштавала), дык я не магу прыгадаць ніводнага выпадку, калі б я выйшаў з кабінэту Шушкевіча задаволеным ці хаця б не расчараваным. Канешне, да Шушкевіча мы зьвярталіся ня з просьбамі выдаткаваць будматэрыялы, а з палітычнымі прапановамі — і на кожную чулі адказ: «У мяне няма паўнамоцтваў», альбо варыянт — «Выносьце ў камісіі Вярхоўнага Савету», ці — «Хай вырашае Вярхоўны Савет» (запіс адной такой гутаркі ў кастрычніку 1993-га прыводжу ў гэтай кнізе).

Калі Ельцын у 1990–1992 гадах вылучыў (у тым ліку і з дэпутацкага корпусу) плеяду маладых рэфарматараў і прасунуў іх на кіруючыя пасаду ва ўрадзе ці ў рэгіёнах, дык Шушкевіч ня тое што ня вылучыў нікога з маладых дэпутатаў апазыцыі на нейкія ключавыя пасады (а ён гэта мог), але і рабіў усё магчымае, каб іх «задзьвінуць». І ў гэтым, на мой погляд — вялікая гістарычная віна Шушкевіча.

Зьнішчэньне першай за дзесяцігодзьдзі плеяды незалежніцкіх палітыкаў, якія на канец кадэнцыі Вярхоўнага Савету XII скліканьня набылі досьвед дзяржаўных дзеячоў, давяршыў Лукашэнка.

## Ці мог у Беларусі быць свой Гавэл

У сваіх успамінах Шушкевіч неаднаразова згадвае Макіявэлі. Вялікага флярэнтыйца звычайна цытуюць, калі хочуць паказаць звыродлівасьць палітычных нораваў, патлумачыць адсутнасьць ва ўладароў прыстойнасьці ды маральных прынцыпаў, увогуле, разабрацца ў тым, што называюць псыхалёгіяй улады. Але я прывяду цытату іншага характару, якая на першы погляд тычыцца чыста вайсковых аспэктаў і нават нюансаў фартыфікацыі — але насамрэч мае да нашай тэмы самае непасрэднае дачыненьне.

«Для ўладара, — піша Макіявэлі, — заўсёды бывае надзвычай важна ведаць, ці можа яго дзяржава ў выпадку неабходнасьці абараняцца ўласнымі сродкамі або павінна быць вымушаная зьвяртацца для сваёй абароны да чужой дапамогі. Каб думка мая была ясная, я павінен сказаць, што лічу здольнымі абараняцца сваімі сродкамі толькі такіх уладароў, якія маюць дастатковую колькасьць людзей і сумы грошай, каб у любым часе выставіць значнае войска, якое можа вытрымаць бітву з ворагамі. А дзяржавамі слабымі, якія маюць патрэбу ў чужой абароне, я лічу такія, чыё войска нагэтулькі нязначнае, што ня ў стане вытрымаць адкрытай бітвы, а можа толькі служыць гарнізонам падчас аблогі ворагамі крэпасьцяў, якія належаць дзяржавам».

Гэта — не пра ваенны нэўтралітэт, далучэньне да сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД альбо да NATO.

Калі ўявіць, што агрэсар — палітычны праціўнік (камуністычная намэнклятура), грошы — бюджэт (які фармаваўся зноў жа апанэнтамі — парлямэнц-

кай большасьцю), тады пад войскам варта разумець палітычную партыю. Гэта аксіёма. У палітычнай традыцыі лідэр дзяржавы павінен абапірацца на партыю або палітычны рух.

У адрозьненьне ад Кебіча, якога падтрымлівалі кіруючая намэнклятура і дырэктарат прадпрыемстваў, у Шушкевіча такой падтрымкі не было. Ён не абраў ніводную з ужо існуючых палітычных арганізацый і не стварыў новую. На пытаньні журналістаў адказваў, што партыі, якая б у поўнай ступені адпавядала ягоным поглядам, не існуе.

Для больш аб'ектыўнай ацэнкі палітыка часам карысна паставіць яго ў кантэкст часу і нават геаграфіі.

Пачнём з усходняй суседкі Беларусі. На чале Расеі быў абраны народам прэзыдэнт Барыс Ельцын — як і ў Шушкевіча, у яго абвастрыліся адносіны з кіраўніцтвам іншай галіны ўлады, але якраз у гэтым годзе Ельцын пайшоў на яшчэ большае абвастрэньне: спачатку рэфэрэндум, які выйграў, а потым і роспуск Вярхоўнага Савету.

На поўдні кіраваў Леанід Краўчук — таксама ўсенародна абраны прэзыдэнт, які не сьпяшаўся ні з палітычнымі, ні з эканамічнымі рэформамі. Але ў яго не было супрацьстаяньня з выканаўчай уладай, з кіраўнікамі якой ён хадзіў тымі самымі «цэкоўскімі» калідорамі.

У Літве ў выніку ўсенародных выбараў да ўлады прыйшоў Альгірдас Бразаўскас — да яго краінай кіраваў лідэр «Саюдзісу», сьпікер парлямэнту Вітаўтас Ландсбергіс. Калі неўзабаве пасьля сваёй перамогі Бразаўскас прыехаў зь візытам у Менск, на сустрэчу ў залю прэзыдыюму было не прабіцца — месцы занялі былыя партыйныя сакратары, якія

прыйшлі падтрымаць колішняга калегу па кампартыі. Аднак іх настрой хутка быў сапсаваны ўжо першымі словамі высокага госьця: маўляў, ён не камуніст, а сацыял-дэмакрат, а Літва — незалежная краіна, ніякіх «СССР».

Гунтыса Улманіса, прадстаўніка цэнтрысцкага Сялянскага саюзу, прэзыдэнтам абраў парлямэнт. У Латвіі дынамічна адбываліся палітычныя і эканамічныя перамены, галоўнай праблемай была наяўнасьць вялікай часткі расейскамоўнага насельніцтва, якая, у асноўнай масе, не прымала незалежнасьці краіны.

Улманіс быў адзіным кіраўніком суседняй краіны, які ў 1993 годзе не прыяжджаў у Менск. Усенародна абраны прэзыдэнт Польшчы, легендарны лідэр «Салідарнасьці» і ляўрэат Нобэлеўскай прэміі Лех Валэнса наведаў Менск з афіцыйным візытам, выступіў у Вярхоўным Савеце, усклаў кветкі ў Курапатах. Рэформы ў Польшчы былі найбольш радыкальныя і, у выніку, пасьпяховыя.

Як бачым, усе чацьвёра былі прэзыдэнтамі, хай і з розным аб'ёмам паўнамоцтваў. У такой сытуацыі нам было значна цяжэй утрымаць краіну ад прэзыдэнцтва — колькасьць дэпутатаў, якія пагаджаліся з увядзеньнем прэзыдэнцтва ў Канстытуцыі, павялічвалася, і прыклад суседніх краінаў адыграў тут, як мне падаецца, не апошнюю ролю.

З усіх названых лідэраў Шушкевіч быў адзіны, хто не абапіраўся ні на партыю, ні на вынікі ўсенароднага галасаваньня. Ён упарта не жадаў знаходзіць паразуменьня зь Беларускім Народным Фронтам і не выяўляў інтарэсу да іншых дэмакратычных партый.

У сваіх успамінах Кебіч напіша, што Зянон Пазьняк, іншыя лідэры БНФ нібыта «не вылазілі з кабінэту» Шушкевіча і былі ягонымі фактычнымі дарадцамі. Гэта — няпраўда. У сваім інтэрвію для гэтай кнігі Пазьняк сказаў, што Шушкевіч ніколі не зьвяртаўся да яго па параду. Тыя самыя дэпутаты БНФ (і аўтар гэтых радкоў), якія хадзілі да Шушкевіча ў 1991 годзе адразу пасьля ягонага абраньня, у 1993-м былі ў ягоным кабінэце вельмі рэдкімі гасьцямі. Трапіць да старшыні Вярхоўнага Савету дэпутатам было лёгка, нас прапускалі адразу (дарэчы, тое самае тычылася і Кебіча), але паходы гэтыя страцілі ўсялякі сэнс.

Але ў часы, пра якія мы гаворым, быў кіраўнік краіны, які, як і Шушкевіч, не абапіраўся ні на якую партыйную структуру.

Вацлаў Гавэл быў абраны ў 1993 годзе прэзыдэнтам Чэхіі і, па вялікім рахунку, абапіраўся выключна на свой аўтарытэт і на аўтарытэт невялікай групы былых дысыдэнтаў. Але тое быў аўтарытэт, які сягаў далёка за межы Чэскай Рэспублікі. Калі мы сустрэліся са сталым прадстаўніком Беларусі ў ААН Генадзем Бураўкіным у часе яго прыезду на радзіму ў адпачынак, ён адным словам патлумачыў мне, чаму Беларусь ня выйграла ў Чэхіі спаборніцтва за месца ў Радзе бясьпекі: «Гавэл». Ён лічыўся маральным аўтарытэтам і сымбалем дэмакратычных пераменаў ва Ўсходняй Эўропе.

Але, калі ацэньваць менавіта ў кантэксьце міжнародных адносінаў, у Шушкевіча быў козыр куды больш важкі, чым дысыдэнцкае мінулае Гаўла.

Можна толькі ўявіць, які б галаўны боль атрымалі заходнія лідэры, колькі б самітаў і перамоваў давялося ім праводзіць, якія намаганьні прыкла-

даць, калі б Менск не адмовіўся ад ядзернай зброі. Яшчэ ўчора нікому не вядомая Беларусь стала б у цэнтры міжнароднай палітыкі — магчыма, на доўгія гады.

Канешне, у аднамомантным і без усялякіх умоваў адмаўленьні ад ядзернага ўзбраеньня заслуга далёка не аднаго Шушкевіча — за бязьядзернасьць на выбарах 1990-га выступаў Народны Фронт, мы, дэпутаты БНФ, патрабавалі ўнесьці гэта ў Дэкларацыю аб сувэрэнітэце, дэпутаты Вярхоўнага Савету галасавалі за ратыфікацыю адпаведных пагадненьняў. Але менавіта Шушкевіч пры падпісаньні Белавескіх пагадненьняў у Віскулях і пазьней у Алма-Аце заявіў, што Беларусь адмаўляецца ад ядзернай зброі без усялякіх умоваў, і менавіта ён праводзіў ратыфікацыю міжнародных пагадненьняў. Урэшце, менавіта ён і ніхто іншы быў кіраўніком гэтай самай першай у гісторыі дзяржавы, якая адмовілася ад ядзернай зброі без усялякіх умоваў.

Але гэта ніяк не было скарыстана для ягонага міжнароднага аўтарытэту.

І для аўтарытэту Беларусі, па вялікім рахунку — таксама. Калі не лічыць тых ста зь нечым мільёнаў даляраў дапамогі, якія краіна атрымала пасьля візыту Шушкевіча ў сярэдзіне 1993 году ў Вашынгтон. Але гэта мізэр у параўнаньні з тымі мільярдамі, якія атрымлівала Расея.

Застаецца фактам, што гэты рэсурс — імідж краіны, якая адмовілася ад ядзернай зброі — ня быў у поўнай ступені скарыстаны ні для аўтарытэту краіны, ні для іміджу яе кіраўніка (у апошнім, зрэшты, немалая віна тагачаснага міністра замежных спраў Краўчанкі, які працаваў выключна на імідж Кебіча).

Ну а ці мог Шушкевіч стаць «беларускім Гаўлам»? — часта чуюцца такія пытаньні. Яшчэ часьцей пытаюцца — «Чаму беларускім Гаўлам не зрабіўся Пазьняк, які таксама меў імідж дысыдэнта?» Шушкевіч ня мог — таму што быў членам КПСС? Пазьняк ня здолеў, бо не сядзеў у турме?

Мне такія пытаньні падаюцца абсурднымі, і я звычайна раю іх аўтарам памяняць месцамі ўмовы — а ці мог бы Гавэл стаць прэзыдэнтам у Беларусі?

Мой адказ — ён нават ня быў бы абраны ў парлямэнт (як не была абраная ў Вярхоўны Савет абсалютная большасьць тых, хто меў дачыненьне да беларускага нонканфармісцкага руху).

Па маім глыбокім перакананьні, заслугі Шушкевіча перад міжнароднай супольнасьцю за адно толькі мірнае пахаваньне імпэрыі куды большыя, чым міжнародныя заслугі Гаўла, а чалавек, які б зрабіў у Чэхіі нешта супастаўляльнае з адкрыцьцём Курапатаў, як тое ў Беларусі зрабіў Пазьняк, быў бы прызнаным рэальным лідэрам нацыі.

Перад Гаўлам у Чэхіі (зрэшты, як і перад Валэнсам у Польшчы або Жэлевым у Баўгарыі) не стаяла праблема, якая паўстала перад беларускімі дэмакратычнымі палітыкамі: праблема нацыянальнага адраджэньня, праблема захаваньня мовы. Чэская, польская і баўгарская нацыі даўно былі сфармаваныя, і там размова на роднай мове не магла быць пададзена палітычнымі праціўнікамі як нешта вельмі страшнае, а заклік аднавіць імпэрыю ня зьявіцца пропускам на найвышэйшую пасаду.

## Не па-хрысьціянску

«Бабуля, сапраўдная хрысьціянка-каталічка, пастаянна вучыла мяне шукаць у людзях добрае і нагадвала пра гэта пры кожным зручным для яе выпадку, — прыгадвае Шушкевіч. — Знайсьці ў чалавеку дрэннае вельмі лёгка, лягчэй, чым добрае, яно на паверхні, — казала яна, — а ты шукай добрае, яно заўсёды ёсьць, але схаванае. Толькі калі людзей любіць будзеш, толькі тады здолееш шчасьлівым стаць».

Парада сапраўды хрысьціянская, і Шушкевіч кіраваўся ёй на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савету. На вялікі жаль, у дачыненьні да некаторых пэрсанажаў гэтай кнігі парада аказалася не ўнівэрсальнай.

Узаемаадносіны Шушкевіча і Кебіча шмат што вызначылі ў палітычнай будучыні Беларусі і ў пэўнай ступені адлюстроўвалі супрацьстаяньне паміж дэмакратычнымі, праэўрапейскімі сіламі і тымі, хто імкнуўся вярнуць у краіну старыя парадкі, а яе саму — у арбіту Масквы.

Адлюстраваньне не было палярным: абодва выступалі за «адзіны» (гэта значыць, расейскі) рубель, абодва былі супраць датэрміновых парлямэнцкіх выбараў, абодва былі за ўвядзеньне пасады прэзыдэнта (але Кебіч — за больш «моцнага»). Абодва заяўлялі, што «ў Эўропе нас не чакаюць».

У тых, хто толькі слухаў сэсіі Вярхоўнага Савету, сапраўды магло скласьціся ўражаньне, што Шушкевіч і Кебіч калі не аднадумцы, дык і не антаганісты.

Зьнешне сапраўды ўсё было спакойна.

Вось што прыгадвае Кебіч пра іх дамоўленасьць пасьля абвяшчэньня незалежнасьці і абраньня Шушкевіча старшынём Вярхоўнага Савету ў жніўні-верасьні 1991 году:

«Дамовіліся, што, не паступаючыся прынцыпамі, будзем дзейнічаць, сыходзячы з уласных уяўленьняў пра мэтазгоднасьць таго або іншага рашэньня, але ніколі не ператвараць будзённую палеміку ў сварку, не пераходзіць на асобы, пазьбягаць пасьпешлівых ацэнак і абразаў. Сваё слова стрымалі абодва. Ад Станіслава Шушкевіча ні ў гады майго прэм'ерства, ні пасьля адстаўкі я ня чуў на свой адрас брутальных выпадаў. Крытыку — так, брутальнасьці — не. Не дапускаю такіх выказваньняў і я. Хоць, размаўляючы ў тыя гады кожны дзень, часам шмат гадзінаў запар, сябрамі мы так і не зрабіліся» (с. 163).

І яшчэ:

«Са Станіславам Шушкевічам, да прыкладу. Мы разыходзіліся па шмат якіх пазыцыях унутранай і зьнешняй палітыкі. Часта спрачаліся, прычым горача. Але ў канчатковым выніку заўсёды прыходзілі да кансэнсусу, знаходзілі патрэбнае рашэньне» (с. 260).

Гэтак — у мэмуарах, тым часам як рэальнасьць не была такой ідэалістычнай, і адносіны паміж імі абвастрыліся ў сакавіку 1993 году на глебе нэўтралітэту Беларусі. Зробленая прыхільнікамі Кебіча спроба адстаўкі Шушкевіча ў чэрвені, рэзкая крытыка Шушкевічам ураду ў верасьні, нарэшце, атака на старшыню Вярхоўнага Савету ў сьнежні — сюжэты гэтай кнігі, і тут я ня буду іх апісваць падрабязна, толькі прывяду цытату самога Шушкевіча зь ягоных мэмуараў:

«Нямала дэпутатаў, супрацоўнікаў Вярхоўнага Савету і Савету міністраў, якія былі ў даверных са мной адносінах, папярэджвалі мяне пра падвойную гульню Кебіча, пра яго апантанае жаданьне мяне “падседзець”, іншымі словамі, скампрамэтаваць. Іх аргумэнты не здаваліся мне пераканаўчымі. Спасылкі былі пераважна на шчырыя выказваньні прэм’ера ў нецьвярозым стане… — Трымайцеся ад Кебіча далей, ён яшчэ больш-менш, але бліжэйшыя падначаленыя такія, што дзеля заваёвы прыязнасьці шэфа могуць раздушыць, абліць паклёпам, разжаваць і выплюнуць каго заўгодна» (с. 175).

Я ня чуў выказваньняў Кебіча ў нецьвярозым стане, а грунтаваўся выключна на тым, што было бачна кожнаму, хто хаця б чытаў інтэрвію тых людзей, што сабраліся вакол Кебіча ў апараце Саўміну: ні слова сымпатый да нацыянальнага адраджэньня, да беларускай мовы, да прынцыпаў дэмакратыі і зусім не прыхаваная нянавісьць да таго, што сам Шушкевіч называў «беларушчынай», імкненьне зьліквідаваць незалежнасьць Беларусі і максымальна прывязаць яе да Масквы.

Дзіўна, чаму Шушкевіч ня бачыў гэтага палітычнага антаганізму, зразумелага пачаткоўцу курсу паліталёгіі. Хіба што забыўся на тое, пра што сам кажа: «Навукоўцы павінны лепш за іншых ведаць, што пранікненьне ў палітыку абавязвае папярэдне нешта зразумець у навуцы пра ўладу — паліталёгіі, авалодаць ёй на практыцы. Яны ж, як правіла, набіваюць у палітыцы гузакі, працуючы мэтадам спробаў і памылак» (с. 267).

На пачатку 1993 году было відавочна, што ўрад Кебіча ня здольны ні вывесьці краіну з крызісу, ні правесьці патрэбныя эканамічныя рэформы.

Раз-пораз крытыка ўраду прарывалася і ў заявах Шушкевіча (асабліва рэзкая — у верасьні, калі абвастрыўся паліўны крызіс). Да гэтага часу вызначылася і розьніца ў падыходах абодвух кіраўнікоў да будучыні Беларусі: Шушкевіч бачыў краіну нэўтральнай, Кебіч выступаў за максымальна шчыльнае ваеннае супрацоўніцтва.

Мы ў апазыцыі лічылі, што ў такой сытуацыі лягічным крокам павінна было быць ініцыяваньне Шушкевічам адстаўкі ўраду, і гэта было галоўнае нашае да яго патрабаваньне ў 1993 годзе. Форму Шушкевіч мог абраць якую заўгодна, у залежнасьці ад канкрэтных абставінаў, але найбольшы эфэкт мела б заява на сэсіі Вярхоўнага Савету ў прамой тэлерадыётрансьляцыі. Ці, калі парлямэнт не засядаў, выступ па тэлебачаньні.

Канешне, гэтаму мусіла папярэднічаць падрыхтоўка дэпутатаў. І тут Шушкевіч мог разьлічваць на Апазыцыю БНФ і «Дэмакратычны клюб», які хоць і заставаўся ў «замарожаным» стане, але пры экстрэмальных сытуацыях мабілізоўваўся. Карпенка, Ганчар, Булахаў не былі б саюзьнікамі, яны мелі сваю гульню, але шмат каго з кіраўнікоў гаспадарак можна было б перацягнуць на свой бок.

Але паводзіны дэпутатаў, у чым Шушкевіч меў магчымасьць пераканацца, залежалі ад настрояў грамадзтва, асабліва ад людзей на Плошчы. Мы наўпрост казалі Шушкевічу, што падтрымаем ягоныя дзеяньні, калі яны будуць рашучымі (далей у кнізе будзе запіс нашай зь ім гутаркі ў пачатку кастрычніка 1993-га).

Я быў перакананы тады і не зьмяніў свайго меркаваньня цяпер, што, нягледзячы на спад мітынговай актыўнасьці, калі б Шушкевіч заклікаў людзей

на Плошчу (як у тым самым кастрычніку гэта зрабіў Ягор Гайдар у Маскве) — БНФ сабраў бы дзясяткі тысяч людзей.

А далей — адстаўка ўраду Кебіча, фармаваньне пераходнага кааліцыйнага ўраду, новыя парлямэнцкія выбары.

Аднак для гэтага Шушкевіч мусіў сапраўды пайсьці на сьмелыя крокі, але гэткае ён лічыў радыкалізмам; Шушкевіч не стамляўся паўтараць, што займае цэнтрысцкую пазыцыю.

Потым шмат хто напіша пра памылковасьць такой пазыцыі, але я хачу працытаваць публікацыю палітоляга Валера Карбалевіча, якая зьявілася ў тым часе, летам 1993 году:

«Папулярнасьць Шушкевіча ў значнай ступені абумоўленая ягоным сфармаваным іміджам палітычнага цэнтрыста. У гэтай сувязі неабходна заўважыць, што пра палітыку цэнтру як найбольш аптымальную палітычную лінію можна казаць у дачыненьні да нармальнага дэмакратычнага грамадзтва ў спакойныя пэрыяды жыцьця. А вось на пераходным крызісным этапе разьвіцьця грамадзтва, калі яно стаіць перад неабходнасьцю ажыцьцяўленьня кардынальных структурных рэформаў, сытуацыя крыху іншая. Пры такіх умовах цэнтрызм плённы, калі ў краіне рашуча ажыцьцяўляюцца рэформы. Гонар і слава цэнтрыстам, якія настойліва, пасьлядоўна і мэтанакіравана вядуць грамадзтва па шляху пераўтварэньняў, адбіваючы атакі кансэрватараў, што спрабуюць затармазіць працэсы абнаўленьня, і радыкалаў, што імкнуцца ажыцьцявіць іх рэвалюцыйным мэтадам, адным рыўком. Аднак ва ўмовах нашай рэспублікі, калі рэформы практычна застапарыліся, у выніку чаго

крызіс паглыбляецца, цэнтрызм беспэрспэктыўны. Палавінчатасьць і непасьлядоўнасьць, спробы задаволіць усіх толькі пагаршаюць сытуацыю і завяршаюцца палітычным банкруцтвам… Калі браць гістарычныя аналёгіі, дык сумны палітычны лёс клясычных цэнтрыстаў Керанскага, Гарбачова таму пацьверджаньне. Урокі гісторыі кажуць, што цэнтрызм можа быць сродкам, а ня мэтай» («Европейское время», № 4, 1993).

Увесь 1993 год Шушкевіч імкнуўся прытрымлівацца цэнтрысцкай пазыцыі; вынік — пэрсанальна для яго — надышоў 26 студзеня наступнага, 1994 году, калі бальшыня дэпутатаў прагаласавалі за ягоную адстаўку.

А яшчэ праз паўгода пайшоў у адстаўку і Кебіч — пасьля прайграных прэзыдэнцкіх выбараў, якіх ён разам са сваім атачэньнем гэтак настойліва дамагаўся.

***Анатоль Вярцінскі** (Ракасоўская выбарчая акруга № 5, Менск). Тры мінуты гісторыі, тры сьведчаньні гісторыкаў трох эпох. Плютарх прыводзіць словы палкаводца Пампэя: «Ці магу я думаць пра законы, калі я ўзброены?» Сьведчаньне другое — нямецкага гісторыка пачатку нашага стагодзьдзя, ён прыводзіць выступ сацыял-дэмакрата Носке ў Райхстагу 25 красавіка 1907 году: «Панове, мілітарызм і абароназдольнасьць — гэтак жа далёкія адно ад аднаго, як неба ад зямлі». Сьведчаньне трэцяе — гісторык Афанасьеў піша: «Атавізм імпэрскага мысьленьня — яшчэ адна сур'ёзная перашкода на шляху рэформаў. Аднак расейскае кіраўніцтва (і ня толькі афіцыйнае) не дыстанцыюецца ад «канструктыўных» плыняў «нацыянал-патрыятызму», але і дазваляе сабе ў той ці іншай форме разыгрываць расейскамоўную карту. Між тым нагнятаньне напружанасьці ў адносінах з бліжнім замежжам і расейскімі нацыянальна-тэрытарыяльнымі ўтварэньнямі нясе цалкам рэальную пагрозу крывавай вакханаліі, вынікам якой можа быць вяртаньне краіны да таталітарнага рэжыму». Я прывёў тры сьведчаньні гісторыкаў трох эпох. Камэнтары ў «Розным» не практыкуюцца, і, я думаю, яны тут непатрэбныя.*

*Выступ у «Розным»*

# ЛЮДЗІ СА ЗБРОЯЙ ЗАПОЎНІЛІ АВАЛЬНУЮ ЗАЛЮ

У Авальную залю нельга было заходзіць са зброяй.

Але пісталетаў, стрэльбаў і нават кулямётаў там — хопіць на роту.

Увогуле Авальная заля — памяшканьне, бясспрэчна, гістарычнае. Тут увосень 1939 году было зацьверджанае аб'яднаньне Ўсходняй і Заходняй Беларусі. У гэтай залі 27 ліпеня 1991-га была прынятая Дэкляроцыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце, а праз год, 25 жніўня 1991-га, была абвешчаная незалежнасьць Беларусі. Яшчэ праз чатыры месяцы, у сьнежні, былі ратыфікаваныя пагадненьні аб спыненьні існаваньня СССР, а ў сакавіку 1994-га прынятая першая Канстытуцыя незалежнай Беларусі.

Ад моманту будаўніцтва Дому ўраду ў сярэдзіне 1930-х гадоў Авальная заля зазнала некалькі рэканструкцыяў, але некранутымі засталіся скульптурныя барэльефы з абодвух бакоў над прэзыдыюмам: некалькі дзясяткаў чалавек, з кулямётамі і стрэльбамі, сымбалізуюць тэмы «Кастрычнік у Петраградзе» і «Кастрычнік у Беларусі».

У мяне заўсёды было ўражаньне, што зброі на тых барэльефах болей, чым людзей.

Напэўна, гэта адзінае ў краіне памяшканьне, дзе ў розныя часы пабывалі ледзь ня ўсе прыкметныя дзеячы палітыкі, навукі, літаратуры і культуры Беларусі — ад Чарвякова і Панамарэнкі да Машэрава і Сьлюнькова, ад Купалы і Коласа да Быкава і Бураўкіна. А таксама — госьці: Гарбачоў, Ельцын, Валэнса, Ландсбергіс, Грамыка (залічым і яго ў гэты

шэраг — ён запісваў сябе ў пашпарце расейцам). Праўда, ня ўпэўнены, што туды заходзілі Караткевіч і Барадулін — яны не былі дэпутатамі. Але вось Алеся Адамовіча я аднойчы на пасяджэньне прывёў.

У часе працы Вярхоўнага Савету нашага, XII скліканьня заля была тым месцам, дзе ішлі пленарныя пасяджэньні Вярхоўнага Савету, дзе абмяркоўваліся законы і пастановы, зацьвярджаліся члены ўраду і заслухоўваліся іх справаздачы.

Некаторыя пасяджэньні ішлі ў тэле- і радыётрансьляцыі, за вельмі рэдкім выключэньнем, калі рабіліся закрытыя пасяджэньні (напрыклад, па тэме ўвядзеньня грошай або вываду ядзернай зброі), на іх заўсёды прысутнічалі акрэдытаваныя журналісты, а з абвяшчэньнем незалежнасьці частымі гасьцямі былі дыпляматы.

Падзеі ў Авальнай залі былі навідавоку. Але яны былі толькі вяршыняй парлямэнцкага айсбэрга.

Вельмі важным элемэнтам працы парлямэнту былі пасяджэньні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, які складаўся з 23 дэпутатаў — сьпікера, яго намесьнікаў і старшыняў пастаянных камісій. Яны зьбіраліся адзін раз на два-тры тыдні. Паводле Канстытуцыі, паўнамоцтвы Прэзыдыюму былі значна меншыя, чым у Вярхоўнага Савету, але фактычна ён выконваў функцыі своеасаблівага калектыўнага прэзыдэнта — аж да памілаваньня асуджаных на сьмяротнае пакараньне. На Прэзыдыюм журналісты, як правіла, не дапускаліся, але дэпутаты маглі прысутнічаць, чым мы актыўна і карысталіся.

Аднак з пачатку 1993 году Шушкевіч пачаў праводзіць закрытыя пасяджэньні Прэзыдыюму — што не было прадугледжана ні Канстытуцыяй, ні

рэглямэнтам. пасяджэньні Прэзыдыюму стэнаграфаваліся.

Была яшчэ праца ў камісіях, дзе рыхтаваліся законапраекты і часам разглядаліся найбольш важныя тэмы, такія, як тая самая калектыўная бясьпека. Пратаколы камісіяў вяліся нерэгулярна, уласна, гэта лічылася неабавязковым. У мяне захавалася некалькі запісаў з пасяджэньняў нашай камісіі па пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правах чалавека.

Але было і тое, што не прадугледжвалася Часовым рэглямэнтам Вярхоўнага Савету, але ў канчатковым прыняцьці рашэньняў адыгрывала ролю вельмі значную, а часам і вызначальную.

Я маю на ўвазе тое, што звычайна называецца «сустрэчамі ў кулюарах».

У строгім сэнсе паняцьця «кулюарныя перамовы» паміж палітычнымі групамі я магу прыгадаць толькі адны, у траўні 1990 году ў справе абраньня старшыні Вярхоўнага Савету, тады мне давялося выконваць ролю кур’ера паміж дэпутатамі дэмклюбу і кіраўнікамі ЦК. А звычайна гэта былі размовы — у фае перад Авальнай заляй у часе перапынкаў, у нумарах гатэляў «Менск» і «Кастрычніцкая» пасьля пасяджэньняў. У комплексе сталовак у Доме ўраду, да якіх трэба было ісьці даўгім, ледзь не кілямэтровым падземным калідорам. І, канешне, у парлямэнцкім буфэце, акурат пад Авальнай заляй.

Ня ведаю, як цяпер, а тады у буфэце былі чатырыпяць нізкіх столікаў, за якімі маглі сесьці па чатыры чалавекі, і пара дзясяткаў высокіх круглых сталоў, ля якіх можна было толькі стаяць. Усе дэпутаты за імі аднамомантна не ўмясьціліся б, разьлік быў на тое, што, зьеўшы сваю порцыю сасісак (яны там

падаваліся нават у часы самага жорсткага дэфіцыту) і выпіўшы каву, чалавек саступіць месца іншаму.

Але сыходзіць звычайна не сьпяшаліся, і ў залі ўтвараліся некалькі кампаній па тры — пяць чалавек. Прычым часьцей за ўсё тое былі спантанныя кампаніі: ты падыходзіў туды, дзе было вольнае месца, і зусім не абавязкова апынаўся сярод палітычных аднадумцаў. Напрыклад, тваімі суседзямі маглі быць артадаксальныя вэтэраны або «крепкие хозяйственники», ці — кіраўнікі райвыканкамаў. Часам гэта маглі быць міністры або віцэ-прэм'еры (Кебіча, як і Шушкевіча, у часы іх старшынёўства я ў буфэце ніколі ня бачыў).

Уласна, палітычныя прыхільнасьці ці пасады пры гэтым ня мелі ніякага значэньня, не магу ўявіць, каб нехта камусьці сказаў нешта кшталту «Ведаеце, у нас тут свая кампанія і канфідэнцыйная размова, паспрабуйце пашукаць іншае месца».

Канешне, можна было есьці моўчкі, і табе б ніхто не перашкаджаў, але звычайна ты далучаўся да гаворкі, альбо нават уздымаў новую тэму.

Звычайна нават самыя непрымірымыя ў Авальнай залі праціўнікі за сталом у буфэце ці ў сталоўцы знаходзілі або нейкую зусім нэўтральную тэму, або новы паварот той, вакол якой дэбатавалі ў Авальнай залі, але абмяркоўвалі ўжо ў спакойнай форме. Канешне, і спрачаліся (гучныя галасы Валянціна Голубева або Аляксандра Лукашэнкі чуліся ўжо з калідору). І хоць ніякіх фармальных рашэньняў за сталамі не прымалася, але значнасьць такіх «буфэтных» размоваў для гэтых самых рашэньняў была вялікая.

## Пытаньне дзяржаўнай здрады

Зь Мечыславам Грыбам я быў знаёмы, можна сказаць, зь дзяцінства — нейкі час вучыўся ў адной школе разам зь ягоным сынам. Потым, ужо ў сярэдзіне 1980-х, працуючы ў віцебскай абласной газэце, прапанаваў яму, ужо начальніку абласнога ўпраўленьня міліцыі, паўдзельнічаць у тэлефоннай «прамой лініі». Ён пагадзіўся, што зьдзівіла калег у рэдакцыі. Але падначаленыя генэрала былі зьдзіўленыя яшчэ болей: некалькі гадзінаў генэрал адказваў на пытаньні віцяблянаў, да такой адкрытасьці ў тых сьценах не прывыклі.

У пачатку 1990 году Грыб пайшоў на выбары ў Вярхоўны Савет БССР не па якой-небудзь вясковай акрузе, як большасьць кіраўнікоў, а ў Віцебску. Барацьба была цяжкая, у другі тур ён выйшаў разам з актывістам БНФ, старшынём клюбу «Ўзгор'е» Ігарам Цішкіным — і перамог. А потым, на першай сэсіі, быў абраны старшынём парлямэнцкай камісіі па пытаньнях нацыянальнай бясьпекі, абароны і барацьбы са злачыннасьцю. З таго моманту я ня памятаю, каб Грыб апранаў генэральскі мундзір.

Яшчэ ў 1992 годзе камісія Грыба ня ставіла пад сумнеў нэўтралітэт Беларусі і не выступала з ідэяй далучэньня краіны да сыстэмы калектыўнай бясьпекі.

У пачатку 1993-га пазыцыя членаў камісіі і Мечыслава Грыба кардынальна зьмянілася, і была выказаная прапанова далучыцца да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы краінаў СНД (ДКБ), падпісанай 15 траўня 1992 году ў Ташкенце. На пачатак 1993 году ў арганізацыю ўваходзілі Армэнія, Казахстан, Кіргізстан, Расея, Таджыкістан, Узбэкістан.

Часта кажуць, што з прыходам Лукашэнкі на пасаду прэзыдэнта ў 1994 годзе Беларусь спыніла працэсы эўрапейскай інтэграцыі і разьвярнулася ў бок Расеі. Увогуле, гэта правільная ацэнка, калі мець на ўвазе вэктар і інтэнсіўнасьць руху. Але не зусім дакладна адносна часу.

Насамрэч, стратэгічны выбар — ня Захад, а Ўсход — быў зроблены ў 1993 годзе, калі Вярхоўны Савет прыняў рашэньне далучыцца да сыстэмы калектыўнай бясьпекі краінаў СНД. Так ужо стагодзьдзямі склалася, што менавіта ваенны саюз з тым або іншым партнэрам лічыцца самым галоўным з усіх іншых саюзаў, і ў выпадку зь Беларусьсю рашэньне, прынятае ў красавіку 1993-га, мела вынікам прывязку да расейскага ваенна-прамысловага комплексу на дзесяцігодзьдзі.

Але рашэньне не было аднагалосным — мы выступалі супраць, і некалькі дзён у Авальнай залі, а потым і на старонках газэт, на мітынгах і сустрэчах з выбаршчыкамі даказвалі шкоднасьць такога саюзу.

На наступных старонках я прывяду аргумэнты як прыхільнікаў, гэтак і праціўнікаў далучэньня Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі — і ў чытача, адрозна ад нас, удзельнікаў той драматычнай дыскусіі, ёсьць магчымасьць ацаніць слушнасьць пазыцыяў з адлегласьці часу.

Мы разглядалі Дамову (фактычна, гэта быў ваенны саюз) як форму кантролю Масквы ня толькі над узброенымі сіламі, але і над палітыкай незалежных краінаў у галіне бясьпекі. Асабліва нас насьцярожвала верагоднасьць удзелу беларускіх вайскоўцаў у ліквідацыі канфліктаў у закаўкаскім і

сярэднеазіяцкім рэгіёнах — што прадугледжвалася статутам ДКБ.

У выступах на сэсіі дэпутаты Апазыцыі БНФ дзясяткі разоў казалі, што беларускія хлопцы не павінны гінуць за чужыя інтарэсы, і гэтае перакананьне мела падтрымку ў насельніцтва. У прававых і палітычных аспэктах дамовы, аднак, людзям разабрацца было значна цяжэй.

## Ініцыятары і прыхільнікі ваеннага саюзу

Хто канкрэтна ў Менску ініцыяваў далучэньне Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД, якая насамрэч кантралявалася і кантралюецца маскоўскім Генштабам — да гэтага часу застаецца невядомым. Яшчэ ўвосень 1992 году на сэсіі Вярхоўнага Савету з такой прапановай выступіў старшыня новаўтворанага Саюзу афіцэраў генэрал-лейтэнант Дзьмітры Іваноў. Генэрал ня быў дэпутатам, яму далі слова на патрабаваньне дэпутатаў-вэтэранаў.

Гэты Саюз афіцэраў быў створаны нібыта для абароны сацыяльных правоў вайскоўцаў, аднак адразу заявіў антынезалежніцкія пазыцыі (прыкметна, што і праз чвэрць стагодзьдзя на вэб-сайце Мазырскага раённага аддзяленьня арганізацыі — праклёны на адрас «нацыяналістаў», ініцыятараў «развалу вялікай Дзяржавы — СССР»).

Выступ Іванова ня быў асабліва заўважаны прэсай, новаўтвораны саюз падаваўся арганізацыяй маргінальнай — нібыта забыліся, колькі спачатку маргінальных ідэяў і лёзунгаў авалодвалі з цягам часу (а здаралася, што і імгненна) мільённымі масамі. Але на пасяджэньні дэпутацкай Апазыцыі БНФ мы абмеркавалі гэтую ідэю і вырашылі, што



Дэпутаты Валер Паўлаў, Алег Трусаў, Генадзь Казлоў і Вячаслаў Кузьняцоў..

яна значна больш сур’ёзная, чым можа падацца на першы погляд.

Магчыма, калі адчыняцца пэўныя архівы, імёны сапраўдных ініцыятараў будуць вядомыя. Асабіста я перакананы, што ініцыятыва ўсё ж была з Масквы, але не ад Ельцына і ягонага атачэньня, якія тады яшчэ не былі на акрэсьлена імпэрскіх пазыцыях (хоць імпэрскія інстынкты выяўлялі ўжо ў канцы жніўня 91-га).

Лягічным было б меркаваць, што ініцыятыва пайшла са спэцслужбаў, найперш — ГРУ (Галоўнага разьведвальнага ўпраўленьня Генэральнага штабу Міністэрства абароны Расеі). У адрозьненьне ад КГБ, якое пасьля распаду СССР фармальна раздрабілася, ГРУ засталося адзіным. Калі яшчэ пры

Хрушчову КГБ было забаронена вэрбаваць агентаў зь ліку партыйных апаратчыкаў і дэпутатаў ад Вярхоўнага Савету і вышэй, дык пра забарону такога кшталту на адрас ГРУ нічога не вядома.

У 2018 годзе, калі я пішу гэтыя радкі, брытанскія аналітыкі, абазнаныя ў дзейнасьці постсавецкіх спэцслужбаў, пішуць, што нават у пачатку 90-х, калі карупцыя разьела ўвесь дзяржаўны апарат Расеі і нават закранула былое КГБ, ГРУ заставалася «ў форме».

Зрэшты, ГРУ — ня што іншае, як «баявы меч» расейскага Міністэрства абароны (як КГБ свайго часу быў «баявым мячом» КПСС), і было б надзвычай дзіўна, калі б гэтая своеасаблівая зброя не была скарыстаная ў рэалізацыі галоўнай стратэгічнай мэты ваеннага ведамства — усталяваньня максымальнага кантролю над суседнімі краінамі, уцягваньня іх у арбіту ваенных інтарэсаў Расеі.

Застаецца фактам, што ў Беларусі актыўнымі прыхільнікамі ідэі далучэньня ад самага пачатку былі супрацоўнікі апарату Саўміну, а менавіта — Упраўленьня грамадзкай бясьпекі і абароны, якое ўзначальваў дзяржсакратар Генадзь Данілаў. Ягоным першым намесьнікам быў Генадзь Казлоў, дэпутат Вярхоўнага Савету і каардынатар групы «Беларусь» (якая фактычна і складала падкантрольную Кебічу парлямэнцкую большасьць).

Менавіта Казлоў адыгрываў у Вярхоўным Савеце ролю «шэрага кардынала» і выступаў з прарасейскімі ініцыятывамі. Казлоў быў суседам Шушкевіча ў доме на вуліцы Дразда, пры гэтым, калі дом засяляўся, яны ўжо былі выразнымі палітычнымі апанэнтамі і пры жаданьні Казлова яго б маглі пасяліць у іншы пад’езд; вось жа чамусьці Казлоў

ня выявіў такога жаданьня. Пры Лукашэнку ён сыдзе з палітычнай арэны — «маўр зрабіў сваю справу» — на нечаканую для тых, хто сачыў за ягонай грамадзкай біяграфіяй, пасаду дырэктара гатэлю «Плянэта».

Другім намесьнікам Данілава быў таксама дэпутат, вайсковец Валер Паўлаў (у Вярхоўны Савет абраўся ў званьні падпалкоўніка, у апошнія месяцы кіраўніцтва Кебіча атрымаў генэрал-маёра; пазьней ён зьедзе ў Маскву).

У палітычным аспэкце ініцыятыву далучэньня Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі падтрымліваў яшчэ адзін супрацоўнік апарату Саўміну — кіраўнік Камітэту па сацыяльнай абароне вайскоўцаў, асобаў шараговага і кіруючага складу органаў унутраных спраў, вайскоўцаў-інтэрнацыяналістаў, звольненых у запас (адстаўку) і членаў іх сем'яў пры Савеце міністраў.

Я прывёў поўны назоў чынавенскай пасады Сяргея Гайдукевіча, хоць была ў яго і пасада грамадзкая — кіраўнік створанага ў піку БНФ «Народного движения Беларуси», якое аб'ядноўвала, здавалася, усе антынезалежніцкія арганізацыі — ад адносна масавай партыі камуністаў да сэкцыі пісьменьнікаў-марыністаў; уваходзілі туды Саюз афіцэраў і Славянскі сабор «Белая Русь» зь ягонай выразнай праімпэрскай шавіністычнай праграмай.

Вось гэтыя арганізацыі і асобы прасоўвалі ідэю АДКБ — праз Саўмін, празь Вярхоўны Савет і праз падкантрольную ўраду прэсу. У пачатку 1993-га далучэньне да АДКБ зрабілася палітычнай мэтай Кебіча і падкантрольнай яму дэпутацкай большасьці.

А на нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету прапанову ўключыць у парадак дня пытаньне аб калек-

тыўнай бясьпецы ўнёс дырэктар саўгасу «Гарадзец» Шклоўскага раёну, дэпутат ад 310-й Шклоўскай выбарчай акругі Аляксандар Лукашэнка.

## «Не народ служыць арміі, а армія народу»

Сярод трох сотняў фігураў скульптурных барэльефаў, што ўпрыгожваюць Авальную залю і фае Дому ўраду, ёсьць парыскія камунары і нямецкія рэвалюцыянэры, піцерскія матросы і беларускія сяляне, ёсьць шахцёр, жанчына-інжынэр, фізкультурніца, калгасьніца і нават парашутыст. Няма толькі партызан. Што натуральна: скульптуры рабіліся ў сярэдзіне 1930-х, яшчэ да вайны.

Але забыць пра партызанскае мінулае ніяк не выпадала.

«Я прасіў бы гэта падтрымаць, інакш нашы Ўзброеныя сілы ў 1994 годзе перастануць быць і боегатовымі, і баяздольнымі. Гэта будзе нешта падобнае на дрэнна ўзброеныя і разрозьненыя партызанскія фармаваньні», — сказаў Мечыслаў Грыб, пад «гэтым» маючы на ўвазе далучэньне да сыстэмы калектыўнай бясьпекі.

І вось што прыкметна: спачатку Грыб заяўляў на нечарговай сэсіі, што далучэньне да АДКБ выклікана ў большай ступені прычынамі эканамічнымі, чым уласна палітычнымі: «У Дамове аб калектыўнай бясьпецы больш эканомікі, чым палітыкі... Таму што тут зьвязаны і прамысловы комплекс, зьвязаная і баяздольнасьць нашай арміі. Гэта пытаньні эканамічныя».

Прычым гэтае перакананьне старшыня парлямэнцкай камісіі выказваў неаднойчы.

Мечыслаў Грыб: «Я яшчэ адзін раз пацьвярджаю і хачу абгрунтаваць, што гэтае пытаньне мае большае дачыненьне да эканамічнага становішча… І чаму? Сваё палітычнае стаўленьне да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы Вярхоўны Савет і кіраўнікі Рэспублікі Беларусь выказалі ўжо ў наступных шматбаковых і двухбаковых пагадненьнях. Папершае, пра гэта выразна сказана ў Дамове аб стварэньні СНД. Другое. Аб супольных мерах у дачыненьні да ядзернай зброі. Трэцяе. Аб супольнай дзейнасьці па дасьледаваньні і выкарыстаньні касьмічнай прасторы. Чацьвёртае. Аб паўнамоцтвах найвышэйшых органаў СНД у пытаньні абароны і іншым. Пра гэта таксама гаварылася ў двухбаковай Дамове, заключанай паміж Расейскай Фэдэрацыяй і Рэспублікай Беларусь. Таму я мяркую, што гэтае пытаньне не палітычнае, а хутчэй належыць да сфэры эканамічнай. Яно непасрэдна тычыцца пытаньняў жыцьцезабесьпячэньня нашых Узброеных сіл».

Спроба зьвесьці тэму да праблемы забесьпячэньня войска тэхнікай і палівам выклікала пярэчаньні апазыцыі.

Зянон Пазьняк: «Мяне крайне зьдзіўляюць тлумачэньні спадара Грыба аб тым, што пытаньне аб калектыўнай бясьпецы не зьяўляецца палітычным пытаньнем. Гэта пытаньне, якое ўнесена ў нашу Канстытуцыю і датычыцца нэўтралітэту, пытаньне, якое ў прынцыпе зьменіць статус нашай дзяржавы. І кіраўнік камісіі выходзіць і пачынае дэпутатам тлумачыць, што гэта не палітычнае пытаньне, гэта эканамічнае. Што гэта за тлумачэньне? Я лічу, што, па-першае, гэтае пытаньне нельга ўносіць і ставіць яго на галасаваньне, таму што яно прынцыпова



Прамаўляе Зянон Пазьняк. Ззаду — дэпутат Лявонці Зданевіч.

зьмяняе становішча нашай дзяржавы ў сьвеце. Яно прынцыпова датычыцца сувэрэнітэту нашай дзяржавы... Я выступаю катэгарычна супраць пастаноўкі такога пытаньня ўвогуле на галасаваньне і заклікаю народных дэпутатаў: калі такое пытаньне будзе пастаўлена, не галасаваць за яго. Дэпутатаў Апазыцыі я прашу ўвогуле выйсьці з залі. І я зьвяртаюся да сваіх выбаршчыкаў: усімі сродкамі супрацiўляцца, калі такое рашэньне будзе прынята, такой пастаноўцы пытаньня і такому рашэньню. Гэтае пытаньне паставіць пад сумнеў сувэрэнітэт нашай дзяржавы. Гэта пытаньне дзяржаўнай здрады».

Заяву Мечыслава Грыба пра эканамічныя прычыны далучэньня да сыстэмы калектыўнай бясьпекі я камэнтаваў ад мікрафона.

Сяргей Навумчык: «На мінулай сэсіі мы ратыфікавалі пагадненьне з Расеяй, у тым ліку і аб матэрыяльна-тэхнічным забесьпячэньні Ўзброеных сіл, вайсковых заказах і гэтак далей. Як я разумею, не народ служыць арміі, а армія народу, не дзяржава служыць арміі, а армія дзяржаве. Калі мы ратыфікуем, калі мы падключым гэтую калектыўную бясьпеку, такім чынам мы можам ня мець дзяржавы. А тут нам кажуць, што, бачыце, мы ня будзем мець арміі. Будзем мець армію. Нарэшце, апошняе. Мне было дзіўна чуць такую прапанову ад дэпутата Грыба. Не ад старшыні камісіі, а ад дэпутата Грыба, абранага па Віцебскай акрузе, якая сумежыць з дэсантнай дывізіяй, якая першая паляцела ў Аўганістан. І я думаю, Мечыслаў Іванавіч, вы лепш, чым я, ведаеце колькі трунаў з нашымі хлопцамі адтуль вярнулася. Я прашу ўсіх вас вельмі сур'ёзна ўзважыць, перш чым вы будзеце галасаваць. І апазыцыя ня будзе галасаваць за гэтую прапанову, будзеце за яе несьці адказнасьць самі».

Міхаіл Мачуленка, былы другі сакратар Магілёўскага абкаму КПБ: «Паважаныя народныя дэпутаты! Вы зараз здолелі пераканацца, наколькі спрытна адбываецца маніпуляцыя ў самым важным... Пытаньне эканамічнага саюзу без пытаньня аб калектыўнай бясьпецы ня будзе працаваць!»

Гэта быў той самы Мачуленка, які на сэсіі 25 жніўня 1991 году першым з партыйных сакратароў падтрымаў выступ Пазьняка за Незалежнасьць, паколькі баяўся, што прыйдзе Ельцын. Цяпер ён ужо нічога не баяўся.

## «...Я чацьвёрты раз ля гэтага мікрафона прамаўляю»

Наступную прамову можна было б прапусьціць — калі б ня вынікі выбараў 1994 году. Такі ўжо лёс кожнага, хто будзе пісаць пра пачатак 1990-х: надаваць гэтаму чалавеку ўвагу непрапарцыйна значна большую, чым ён рэальна меў у тым часе.

Рэдка які выступ Лукашэнкі абыходзіўся без таго, каб не згадаць пра «антызаконнасьць» распаду СССР.

Аляксандар Лукашэнка: «Вы ведаеце маю пазыцыю, я чацьвёрты раз ля гэтага мікрафона прамаўляю і выступаю прыхільнікам калектыўнай бясьпекі. А цяпер, паважаны Валянцін Голубеў, каб вы не ўсьміхаліся, я б вам і вашым калегам хацеў сказаць наступнае. Спыніце вось гэтыя інсынуацыі і хлусьню. Вось меў рацыю Сарокін (генэрал, дэпутат ад вэтэранскай арганізацыі — С. Н.), калі сказаў: пачытайце Дэкларацыю, на якую вы ўвесь час спасылаецеся і стваральнікам якой вы сябе лічыце, — Дэкларацыю аб сувэрэнітэце. Там чорным па белым у апошніх артыкулах напісана: не саюз нейкі і сыстэма калектыўнай бясьпекі, а большае — заключэньне Саюзу, уваходжаньне ў саюзную дзяржаву. Пра якую Канстытуцыю, пра якія парушэньні вы кажаце?»

Расшыфрую словы Лукашэнкі — ён меў на ўвазе, што ў артыкуле адзінаццатым Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце было сказана, што Беларусь «прапануе неадкладна прыступіць да распрацоўкі Дамовы аб саюзе сувэрэнных сацыялістычных дзяржаваў». Унясеньне гэтага артыкулу было адной з прычынаў, чаму дэпутаты БНФ пакінулі залю

на апошняй стадыі прыняцьця Дэкларацыі (тэкст Дэкларацыі рыхтаваўся дэпутатамі БНФ, у часе абмеркаваньня мы выступалі з папраўкамі і прапановамі больш за сто разоў). У дадзеным выпадку Лукашэнка меў на ўвазе, што палажэньне Дэкларацыі аб уваходжаньні ў «саюзную дзяржаву» было ня выканана — а цяпер, маўляў, дэпутаты БНФ спасылаюцца на словы пра нэўтралітэт, замацаваныя ў Дэкларацыі.

Стэнаграма не перадае горычы і абурэньня, зь якімі вымаўляў Лукашэнка словы пра невыкананьне рашэньня аб «новым Саюзе» — калі незалежная Беларусь існавала ўжо больш як паўтара года. Шкада, што такія пасажы не насьцярожылі тых дэпутатаў, якія праз год падтрымалі вылучэньне Лукашэнкі на пасаду прэзыдэнта. Зрэшты, Дзьмітры Булахаў у гэтым самым 1993-ім заявіў, што «Сувэрэнітэт — не ікона, на якую трэба маліцца».

## Па тэлефоне, тэрмінова, у нумар!

Лёс шмат якіх рашэньняў у Вярхоўным Савеце залежаў ад колькасьці чалавек у Авальнай залі. Апазыцыя БНФ звычайна была на пасяджэньнях у поўным складзе (хіба што нехта прыхварэў або меў нейкую пільную справу ў сваёй акрузе), а парлямэнцкая большасьць хоць заўсёды і складала большасьць, але паўсотні дэпутатаў адсутнічалі. Дырэктары заводаў, старшыні выканкамаў, намесьнікі міністраў лічылі больш важным месцам свае службовыя кабінэты, а не парлямэнцкія крэслы.

На абмеркаваньне пытаньня аб калектыўнай бясьпецы апарат Саўміну сабраў максымальную колькасьць дэпутатаў, пры галасаваньні нас можна

было «задушыць» элемэнтарнай арытмэтычнай перавагай.

Больш складана было з Шушкевічам — ён вёў сэсію, і ад яго залежала шмат. Сваё стаўленьне да нэўтралітэту Шушкевіч выказаў адназначна: «Я ўпэўнены, што прынцып імкненьня да нэўтралітэту, замацаваны ў Дэклярацыі аб сувэрэнітэце, павінен вызначаць зьнешнюю палітыку Беларусі ня толькі цяпер, але і на наступнае стагодзьдзе».

Катэгорыямі стагодзьдзяў прыхільнікі Кебіча не апэравалі, затое былі вельмі дасьведчаныя ў арганізацыі рознага кшталту грамадзкага і індывідуальнага ціску. Адну такую махінацыю на сэсіі прадэманстравалі, але няўдала.

Уладзімер Самашчаў, пастаянны прадстаўнік Савету міністраў Рэспублікі Беларусь у Расейскай Фэдэрацыі: «Паважаныя народныя дэпутаты! Гэта ня мой дакумэнт, але я хацеў бы яго ўсё ж-такі прачытаць. “Менск, Дом Ураду, таварышу Шушкевічу. Калектыў вопытна-экспэрымэнтальнага заводу… калектыў бюро заводу “Агрэгат” вылучаў дэпутатам у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь таварыша Шушкевіча, і дае яму наказ — падтрымаць прапанову аб стварэньні адзінага абароннага саюзу з Расеяй, Казахстанам…” і гэтак далей. Для чаго я гэта прачытаў? Я проста хачу сказаць: гэтыя таварышы абралі нашага старшыню, і ён павінен лічыцца ня толькі са сваім меркаваньнем, але і зь меркаваньнем сваіх выбаршчыкаў. А як я разумею, Станіслаў Станіслававіч як паступае? Ён супраць гэтага саюзу. І яму, займаючы гэтую пасаду, лёгка вось так усімі намі маніпуляваць, прасоўваючы сваю ідэю. Прычым гэта, таварышы, лёсавызначальнае пытаньне».

Гэта быў удар пад дых.

Канешне, калектыў прадпрыемства, які вылучаў дэпутата, нават калі б ён і цалкам падпісаўся пад такім зваротам — яшчэ ня ўсе выбаршчыкі, больш за тое, зусім нязначная іх частка. Уласна, тэарэтычна выбаршчыкаў увогуле магло сярод іх ня быць — у буйным горадзе ўстанова альбо прадпрыемства маглі месьціцца на тэрыторыі аднаной акругі, а супрацоўнікі жыць у іншых. І тым ня менш, мы выбіраліся паводле закону, які прадугледжваў вылучэньне ад працоўных калектываў, і калі гэты калектыў зьвяртаўся да ўжо абранага дэпутата — гэтаму надавалася ўвага. Такая ўжо існавала традыцыя.

Да прыкладу, я быў вылучаны ў дэпутаты станкабудаўнічымі заводамі імя Камінтэрну і імя Кірава і заўсёды выконваў просьбы дырэкцыі, прафкаму, неяк нават зачытваў з трыбуны сэсіі прапанову аб стварэньні Асацыяцыі станкабудаўнічай вытворчасьці. Ведаю, што некалькі разоў на гэтых заводах камуністы арганізоўвалі кампанію за адкліканьне мяне як дэпутата.

Вось нататка «Мандат на стол!» у камуністычнай газэтцы «Мы и время» ў жніўні 1993-га:

«Рабочыя і служачыя Віцебскага станкабудаўнічага заводу ім. Камінтэрну выступілі з ініцыятывай і пачалі збор подпісаў з мэтай адклікаць народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь С. І. Навумчыка. Іх актыўна падтрымалі жыхары Чыгуначнага раёну г. Віцебску.

У свой час Сяргей Іосіфавіч быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты менавіта гэтым калектывам. Аднак спадзяваньні выбаршчыкаў не апраўдаліся. Свае перадвыбарчыя абяцаньні дэпутат Навумчык,

на думку выбаршчыкаў, ня выканаў, але тым ня менш часта падмацоўваў свае выступы спасылкай на тое, што гаворыць ід іх імя.

Выяўляецца, нардэп Навумчык некалькі перабольшыў, і даверам выбаршчыкі яго ня балуюць. Зрэшты, ён даўно зь імі не сустракаўся. Напэўна, таму, што апынуўся ў “вузкім коле рэвалюцыянэраў”».

І подпіс: «В. Андрэеў, г. Віцебск, па тэлефоне» — вось як тэрмінова рэдакцыя патрабавала гэтую інфармацыю, каб пасьпець паставіць у нумар важную навіну.

Ніякіх наступстваў для мяне гэта ня мела, у мяне на тым самым заводзе і ў акрузе хапала прыхільнікаў, дый закону аб адкліканьні дэпутатаў не было — але і прыемных эмоцыяў такая публікацыя не выклікала.

Словам, існаваў даволі адчувальны спосаб маральнага ціску на дэпутата праз калектыў, які яго вылучаў. Яго і паспрабавалі скарыстаць, даўшы зачытаць зварот Самашчаву (заўважу, дэпутату не ад Менску, дзе абіраўся Шушкевіч, а ад Глускай выбарчай акругі).

Але эфэкт трымаўся толькі некалькі сэкундаў — пакуль да мікрафона не падышоў дэпутат Апазыцыі БНФ Юрась Беленькі. Які, нечакана для нашых апанэнтаў, працаваў на тым самым прадпрыемстве.

Юрась Беленькі: «Я хачу даць сваю ацэнку таго, што адбылося на маім аб’яднаньні, а менавіта на прадпрыемстве, пра якое толькі што гаварыў дэпутат Самашчаў. Я ведаю, як адбываўся збор на гэтую канфэрэнцыю, хто гэта праводзіў — былы інструктар абкаму партыі. І мяне спрабавалі “душыць”… Ня трэба спэкуляваць такімі моман-

тамі, бо я ведаю, як адбывалася на маім аб’яднаньні гэтая працэдура».

Спроба маральнага ціску на Шушкевіча, такім чынам, не ўдалася.

## «Агульнасьць нашых славянскіх народаў, і гэтак далей»

Нэўтралітэт і бясьпека не зьяўляюцца антонімамі, а вось спалучыць нэўтралітэт з калектыўнай бясьпекай не дапаможа ні тактычная хітрасьць, ні стратэгічная манэўровасьць. І тады ў ход ідзе проста сіла — сіла большасьці.

Прыхільнікі калектыўнай бясьпекі пайшлі ў атаку іншым спосабам — прапанаваўшы выказацца кіраўнікам «профільных» камісіяў і членам ураду — міністру абароны, міністру замежных спраў і старшыні КДБ. Тут ужо эмоцый было меней.

Мечыслаў Грыб: «Аналіз разьвіцьця міждзяржаўных адносін падводзіць да высновы аб неабходнасьці стварэньня цяпер новага, незалежнага эканамічнага саюзу ў рамках СНД. Найважнейшай складовай часткай, на наш погляд, можа быць Дамова аб калектыўнай бясьпецы — гарант надзейнага эканамічнага супрацоўніцтва. Цеснае ваеннае супрацоўніцтва з краінамі СНД дазволіць завяршыць рэфармаваньне Ўзброеных сіл, забясьпечыць цывілізаваны вывад стратэгічных ядзерных сіл з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і забясьпечыць спрыяльныя зьнешнія і ўнутраныя умовы стварэньня і функцыянаваньня нашай дзяржавы. Мы аб калектыўнай бясьпецы ўжо казалі... Да гэтага ў нас ёсьць і аб’ектыўныя фактары. Гэта гістарычны




Пратэст ля Дому ўраду супраць падпісаньня Дамовы аб калектыўнай бясьпецы СНД.

вопыт і агульнасьць нашых славянскіх народаў, і гэтак далей».

Павал Казлоўскі, міністар абароны: «У НАТО нас ніхто не чакае, я дазволю сабе заўважыць як вайсковец… Расейская Фэдэрацыя плянуе браць за падрыхтоўку кожнага спэцыяліста праз дзясятае Галоўнае ўпраўленьне Генштабу па 1000 даляраў на месяц. З краінамі, якія ўваходзяць у дамову, аплата застаецца ў рублях… Для рэспублікі сёньня важна ўступленьне ў сыстэму бясьпекі ў рамках СНД. Рашэньне за вамі».

Жаданьне міністра спраўдзіцца — Беларусь зэканоміць тысячу даляраў на месяц за падрыхтоўку вайсковых спэцыялістаў у расейскіх акадэміях, абучыць іх бясплатна, але праз чвэрць стагодзьдзя практычна ўвесь генэралітэт і вышэйшы афіцэрскі

склад беларускага войска будуць выпускнікамі толькі расейскіх, і ніякіх іншых, акадэміяў. З адпаведным разуменьнем геапалітычных інтарэсаў.

Старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі выступаў з трыбуны сэсіі Вярхоўнага Савету якія тры-чатыры разы за ўсе гады, затое ў атмасфэры абсалютнай увагі: ніхто, нават Аляксандар Лукашэнка, не прагульваўся па Авальнай залі.

Эдуард Шыркоўскі: «Чаму ж мы так баімся Расеі? Закабаліць яна нас, ці што? Але мы ж сувэрэнная дзяржава. Давайце паглядзім, хто такая Расея. Я пазаўчора па тэлебачаньні чуў пра тое, што спадар Клінтан, прэзыдэнт ЗША, і спадар Ельцын дамовіліся аб тым, каб заключыць ваеннае пагадненьне паміж Расеяй і Злучанымі Штатамі Амэрыкі і ў найбліжэйшым часе пачаць супольныя манэўры. Дык чаго ж мы так іх баімся, калі нават Злучаныя Штаты не баяцца заключыць гэтую дамову?!

І яшчэ. Калі мы вырашаем гэтае пытаньне, то неабходна памятаць, што ў Расеі пражывае 1 мільён 200 тысяч беларусаў і ў Беларусі пражывае 1 мільён 300 тысяч расейцаў. Вырашаючы гэтае пытаньне — падпісваць ці не падпісваць, — трэба разумець усё гэта. Гэта рашэньне лёсаў людзкіх, гэта стаўленьне да нашых братоў-беларусаў там. Мы пра іх забываем, а іх — мільён. У Маскве толькі недзе 70 тысяч пражывае. Камітэт дзяржаўнай бясьпекі таксама вывучаў гэтае пытаньне, і мы прыйшлі да высновы, што варта падпісаць».

Якім чынам уступленьне Беларусі ў сыстэму калектыўнай бясьпекі палепшыць становішча беларусаў у Расеі — старшыня КДБ не патлумачыў. Пасьля сваёй адстаўкі ён папоўніць колькасьць

такіх беларусаў — пераедзе на сталае жыхарства ў Маскву.

Падтрымаў далучэньне Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі і міністар замежных спраў Пётра Краўчанка, заявіўшы, што нэўтралітэт ніяк не супярэчыць далучэньню да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы.

Паказальным быў выступ старшыні парлямэнцкай камісіі Вярхоўнага Савету па эканамічнай рэформе, дасягненьні эканамічнай самастойнасьці і сувэрэнітэту рэспублікі (такі быў афіцыйны назоў) Леаніда Козіка.

Леанід Козік: «Што ж атрымае Рэспубліка Беларусь, і што яна страціць? На жаль, мы нармальна ня можам адказаць на гэтае пытаньне... Безумоўна, сувязь з народам Расеі значна мацнейшая, бліжэйшая, бліжэй і больш зразумелая для нашых людзей. І наўрад ці народ Рэспублікі Беларусь, калі яму прыйдзецца выбіраць, падтрымае арыентацыю на дзяржавы Захаду, нават калі асобным палітычным лідэрам гэтага вельмі хочацца. У такім выпадку тым больш, на мой погляд, трэба правесьці перамовы з Расеяй аб нашым далейшым супрацоўніцтве як дзьвюх сувэрэнных дзяржаў, двух народаў, зьвязаных гісторыяй і сваяцтвам».

Леанід Козік прызнаўся, што ня ведае эканамічных выгодаў ад далучэньня да АДКБ. Але выступаў за саюз з Расеяй, бо — «сваяцтва».

***Мікалай Коваль*** *(Беларуская рэспубліканская арганізацыя вэтэранаў вайны і працы): Жители нашего города не воспринимают понятие «суверенитет», который отнимает у них право свободно перемещаться, свободно проживать и трудоустраиваться на территории бывших республик, выезжать к своим родным и близким. Каждый из нас видит, что экономика республики движется к развалу. Этому во многом способствует заключение беловежского Соглашения об образовании СНГ, неподписание Договора о коллективной безопасности в рамках Содружества Независимых Государств, непринятие закона о двойном гражданстве, двуязычии и другое. Чтобы отвлечь внимание честных тружеников от этих негативных моментов, недобросовестной политики, большинство средств массовой информации вдалбливает им в головы идеи о независимости республики, отказе от союза с Россией, представляя ее чуть ли не в образе врага белорусского народа. Вовсю ведется полемика, кто кого победил под Оршей в 1514 году, кто из литовских князей был большим благодетелем для белорусов и не был ли Суворов врагом наших предков.*

*Выступ у «Розным»*

# ЦІ ПАЛЯЦІЦЬ САМАЛЁТ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Дзень, калі Беларусь зрабілася незалежнай дэюрэ — 25 жніўня 1991 году. Гэты дзень у 1993-м наагул ня быў сьвятам, ён увогуле доўга ня будзе прыгадвацца — ні пры Шушкевічу, ні пазьней пры Лукашэнку, значнасьць яго пачне ўсьведамляцца нават дэмакратычнымі коламі толькі на другім дзесяцігодзьдзі незалежнасьці. На сэсіі ж дэпутаты — прадстаўнікі парлямэнцкай большасьці казалі пра Белавескія пагадненьні, падпісаныя ў сьнежні 1991-га.

Пры гэтым, у лепшым выпадку, Віскулі разумеліся як «меншае зло», на якое падпісанты былі вымушаныя пайсьці, бо калі б не стварэньне СНД (Садружнасьць незалежных дзяржаў) — ад Саюзу ўвогуле б нічога не засталося. Пры гэтым сам факт зьнікненьня СССР успрымаўся адназначна як адмоўная падзея.

Аляксандар Лукашэнка: «Паважаны Станіслаў Станіслававіч, скажыце, вы што, не зразумелі, што вам Вярхоўны Савет закідае? Мы ж вас не папракаем у тым, што вы падпісалі пагадненьні. Так, мы з вамі тут павінны адказваць за гэта. Хаця яшчэ раз падкрэсьліваю: я гэта кажу як чалавек, які не галасаваў і не падтрымаў СНД, не развальваў Саюз. Мы ў вас пытаемся: чаму вы не выканалі, падпісаўшы разам з Кебічам, пагадненьні ў Віскулях, чаму вы іх не выканалі?.. Мы ж вам паверылі. І больш за тое. Я вам магу нагадаць іншае. Вы выйшлі за кулісы, калі Вярхоўны Савет вагаўся, што ж рабіць, як быць, таму што дзяржаву валілі. Вы выйшлі за кулісы і

сказалі, што вы толькі што перагаварылі з Краўчуком. Яны ратыфікавалі Белавескія пагадненьні. Празь некаторы час мы даведаемся, што беларусы першымі ратыфікавалі — хай на гадзіну, хай на паўдня — Віскулёўскія пагадненьні. Таму, Станіслаў Станіслававіч, трэба набірацца мужнасьці. Калі вы дзесьці ня маеце рацыі, ня трэба круціць, а трэба казаць прама, што вы ня маеце рацыі».

Лукашэнка чарговы раз нагадаў, што ён — праціўнік распаду СССР, што за гэта не галасаваў, што ратыфікацыя Белавескіх пагадненьняў, на ягоную думку, адбылася падманам. Вось якую ацэнку кроку, які паспрыяў умацаваньню незалежнасьці новаўтворанай дзяржавы, даваў будучы першы прэзыдэнт гэтай дзяржавы. Гэта толькі адзін выступ Лукашэнкі зь дзясяткаў падобных, якія не маглі ня чуць тыя дэпутаты, якія ў 1994-м увойдуць у ягоную перадвыбарчую каманду.

## «Дзе мы знойдзем сваіх Мініна і Пажарскага?»

Бадай што самым апантаным ненавісьнікам беларускай незалежнасьці (калі не лічыць дэпутатаў-вэтэранаў) быў старшыня Магілёўскага аблвыканкаму Мікалай Грынёў: «Паважаныя Станіслаў Станіслававіч і Вячаслаў Францавіч! Я ніяк не магу падзяліць вашу пасылку, што мы таксама разам з вамі вінаватыя ў ратыфікацыі Віскулёўскіх пагадненьняў. Так, многімі з нас тады рухалі пачуцьці хутчэй пазбавіцца ад Гарбачова, і не паводле палітычных матываў. Мы ўсе бачылі, што яго бясконцая гаварыльня ўжо тады пачала бурыць эканоміку».

Іван Жыдзяляеў, кіраўнік будаўнічага трэсту, Ворша: «Прайшло крыху больш за год з моманту падпісаньня ў Віскулях пагадненьня аб ліквідацыі Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і аб стварэньні СНД. Пагадненьне ўспрынята станоўча большасьцю нашых дэпутатаў у мінулым годзе і падвяргаецца рэзкай крытыцы сёньня, і гэта ня дзіўна. Бо ў дакумэнтах, падпісаных у Віскулях, кожны з нас год таму бачыў адзіную эканамічную прастору, адзіную рублёвую зону, захаваньне эканамічнай цэласьці тых дзяржаў, якія ўвайшлі ў СНД».

Аб тым, што пагадненьні мелі станоўчы эфэкт для незалежнасьці, няма і намёку.

Пятро Пракаповіч, старшыня праўленьня Берасьцейскага аблсельбуду, пазьней, пры Лукашэнку — старшыня праўленьня Нацыянальнага банку: «Нам трэба ісьці больш сьмела на рашэньне палітычных пытаньняў. Я маю на ўвазе, у першую чаргу, неабходнасьць падтрымаць рашэньне сёмага зьезду народных дэпутатаў Расеі пра магчымасьць стварэньня канфэдэрацыі незалежных дзяржаў Эўропы і Азіі, гэта значыць стварыць ня толькі эканамічны саюз, але і палітычны».

Мікалай Канюшык, генэральны дырэктар агракамбінату «Заходні Буг» Берасьцейскай вобласьці: «Калі адна зь дзяржаваў-удзельніц эканамічнага саюзу падвергнецца агрэсіі, дзе мы знойдзем сваіх Мініна і Пажарскага, здольных аб’яднаць народы ў барацьбе з агрэсарам, ці будзем іх шукаць таксама шляхам усенароднага рэфэрэндуму? Таму ясна, як Божы дзень, што калі мы за эканамічны саюз, дык і за супольную калектыўную бясьпеку».

Усе чатыры цытаваныя вышэй дэпутаты былі кіраўнікамі, і несумненна, што такія настроі (не-

залежнасьць Беларусі, распад СССР — зло) яны культывавалі ў сваіх падначаленых.

## «Ад беларускай мовы паліва ў самалётах не дадасца і каўбасы ня будзе»

Самым баявым атрадам праціўнікаў незалежнасьці была група дэпутатаў-вэтэранаў у колькасьці трыццаці праверaных байцоў камуністычнай партыі.

Што б ні казалі пра намэнклятурных дэпутатаў, як бы ні ацэньвалі іх выбарчую кампанію ўвесну 1990 году, але нават з улікам фальсыфікацыяў на карысьць шмат каго зь іх, асабліва ў сельскай мясцовасьці, дзе не было назіральнікаў ад БНФ — за імі былі тысячы выбаршчыкаў. Сем, дзесяць, пятнаццаць тысяч грамадзянаў, якія пакінулі іх прозьвішчы ў выбарчых бюлетэнях.

Трыццаць дэпутатаў ад вэтэранскай арганізацыі зацьвярджаліся на сходзе арганізацыі вэтэранаў вайны і працы. Няправільна было б сказаць, што сход фармаваўся пад кантролем камуністычнага ЦК — яго ўдзельнікамі былі вэтэраны нагэтулькі артадаксальных сталінісцкіх перакананьняў, што маглі б паставіць на месца якіх заўгодна членаў ЦК.

У сакавіку 1993-га, пры зацьвярджэньні паўнамоцтваў аднаго дэпутата-вэтэрана замест памерлага, Лявон Баршчэўскі запытаўся, колькі чалавек за яго галасавала. Далі даведку: рэспубліканскі Савет вэтэранаў складаецца з 180 членаў, на сходзе прысутнічалі 138, прагаласавалі «за» 125, супраць — 3. Ну а ў 1990 годзе гэты Савет з 180 членаў прагаласаваў за 30 будучых дэпутатаў — гэта значыць, што за кожным зь іх было па шэсьць чалавек.

Гэтая «вэтэранская трыццатка» адыграла чорную ролю ў гісторыі Беларусі, заблякаваўшы шмат якія прагрэсіўныя прапановы і правёўшы шмат якія шкодныя рашэньні, пры галасаваньні за якія 20–30 галасоў і вырашалі лёс пытаньня.

Асабліва вызначыліся Міхаіл Качан і Валянцін Сарокін, якіх аж трэсла ад слоў «незалежнасьць», «Пагоня», «бел-чырвона-белы сьцяг».

Дэпутатамі-вэтэранамі былі былыя афіцэры Савецкай арміі (пераважна генэралы), героі Савецкага Саюзу і Сацыялістычнай Працы, колішнія сакратары абкамаў і райкамаў, а таксама — былыя кіраўнікі буйных прадпрыемстваў. Як, напрыклад, Аляксандар Авечкін, які шмат гадоў узначальваў аб'яднаньне «Маналіт» — флягман ваенна-прамысловага комплексу ў Віцебску.

Аляксандар Авечкін: «Эўфарыя сувэрэнітэту, якая ахапіла рэспубліку ў 1989–1990 гадах, прывяла да таго, што (я не хачу гаварыць з дапамогай якіх сіл) рэспубліка прыняла неабдуманае рашэньне аб падпарадкаваньні сабе прадпрыемстваў саюзнага міністэрства».

Калі Авечкін маляваў праблемы «ў выніку распаду СССР» толькі ў сваёй галіне, дык дэпутат-вэтэран, былы афіцэр Мікалай Лакцюшын ствараў карціну сапраўднага Апакаліпсісу. У 2009 годзе Лакцюшын скажа карэспандэнту «Газэты Слонімскай», што ў Вярхоўны Савет ён быў абраны «ад пяці раёнаў Горадзенскай вобласьці». Насамрэч ён быў абраны ад вэтэранскай арганізацыі паводле мадэлі, пра якую я пісаў вышэй — а кожны раён Горадзенскай вобласьці, як і іншых абласьцей, меў «сваіх» дэпутатаў (межы акругаў супадалі з

адміністрацыйным падзелам), а то і двух (калі райцэнтар быў вялікім горадам).

Мікалай Лакцюшын: «Пасьля Першай сусьветнай вайны Саюз 1922 году, аб'яднаньне ўсіх рэспублік дапамагло выйсьці ёй (Беларусі — С. Н.) з лапцей. Калі ўзяць пасьля Другой сусьветнай вайны, калі ў рэспубліцы кожны чацьвёрты загінуў і многія прамысловыя цэнтры, гарады, у тым ліку і Менск (канешне, дэпутат вымаўляў «Мінск» — С. Н.), былі зьнішчаныя, хто дапамог аднавіць усё гэта? Хіба сваімі сіламі беларусы маглі гэта зрабіць? Толькі ў адзінстве ўсіх рэспублік, у адзінстве ўсіх нацыянальнасьцяў, усяго Саюзу мы адрадзілі такі прыгажунгорад з шырокімі праспэктамі, плошчамі, як Менск, такія буйныя прадпрыемствы, як трактарны, аўтамабільны і іншыя прамысловыя гіганты. Хіба маглі б беларусы самі падняць усё гэта? На сёньняшні дзень усе кажуць пра "незалежнасьць" Беларусі. Скажыце, калі ласка, хто прэтэндаваў на "незалежнасьць" рэспублікі? У яе была свая Канстытуцыя, свой Вярхоўны Савет, свой урад. Яна член Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, неаднаразова, пачынаючы са Сталіна, падымаліся пытаньні аб тым, каб падняць нацыянальную культуру ў рэспубліках, у тым ліку размова ішла і аб мовах. Ніхто не заціскаў, а наадварот, казалі, што трэба падымаць гэтыя пытаньні».

Пра «клопат» Сталіна і ягоных падначаленых аб нацыянальнай культуры Лакцюшын мог ужо некалькі гадоў свабодна чытаць у прэсе — у тым ліку і пра «чорную ноч» з 29 на 30 кастрычніка 1937 году, калі былі расстраляныя больш як сто беларускіх літаратараў і іншых прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты; іх ненадрукаваныя рукапісы былі спаленыя.

Але ў гэтым Лакцюшын, як выглядала, ня бачыў вялікай бяды

«Бяда ў тым, што развалiўся Саюз!» — вынес вэрдыкт дэпутат-вэтэран.

І дадаў: «Ад таго, што, таварыш Трусаў, цяпер у войсках будуць размаўляць на беларускай мове, ад гэтага паліва ў самалётах не дадасца і каўбасы ня будзе!»

## «Навукова даказана ва ўсіх газэтах: ЦРУ!»

— Добра, хай будзе ваш конь, але на шчыце абавязкова трэба чырвоную зорку! — гэтак казаў у 1991-м у дзень зацьверджаньня «Пагоні» адзін з дэпутатаў-вэтэранаў, і гэта быў яшчэ ня самы апантаны прыхільнік савецкай атрыбутыкі.

Самым апантаным абаронцам камуністычнага мінулага быў генэрал-маёр у адстаўцы, старшыня Горадзенскага абласнога аддзяленьня Саюзу вэтэранаў Аўганістану Валянцін Сарокін. Яшчэ ў 1992 годзе Сарокін публічна ставіў пад сумнеў дзяржаўныя сымбалі — аж да выказваньняў, якія б у іншай краіне былі ўспрынятыя як абраза дзяржаўных сымбаляў. Гэтая прамова Сарокіна ў ваенным аспэкце будавалася выключна з пазыцыі Масквы.

Валянцін Сарокін: «Стварыўшы нацыянальнае войска, мы страцілі стратэгічнае і апэратыўнае кіраваньне, парушылі сувязь раньняга апавяшчэньня пра задумы процілеглага боку… Я разумею ці, правільней, не разумею народных дэпутатаў ад апазыцыі, якія, выконваючы пэўны заказ пэўных замежных арганізацый... і якія накіроўваюць усю сваю дзейнасьць...» (Шум у залі).

Старшыня: «…Вы выносіце абвінавачаньне, я пазбаўлю вас слова ў адпаведнасьці з Рэглямэнтам. Яшчэ раз прашу вас не ўжываць такіх выразаў».

Сарокін: «Навукова даказана ва ўсіх нашых газэтах, што акупляецца ўся праца з інстытутам Крыбла, ЦРУ і гэтак далей. Навошта мне перажываць?»

Старшыня: «Гаварыце пра інстытут Крыбла, гаварыце пра каго хочаце, але абвінавачаньня з гэтай трыбуны ня можа быць. Суд выносіць абвінавачаньне».

Сарокін: «Я не кажу пра гэта. Мне не зразумелая дзейнасьць апазыцыі, дэпутатаў Беларускага народнага фронту, якія накіравалі сваю дзейнасьць на распальваньне лютай нянавісьці да сяброўскай суседняй славянскай краіны — Расеі. Усе сапраўдныя патрыёты сваёй радзімы ня могуць ня бачыць, што бясьпека Беларусі — у дружбе з Расеяй».

Мелася на ўвазе — у аб'яднаньні.

## Лукашэнка: «Мы, демократы...»

Ніякай «лютай нянавісьці» да Расеі мы, канешне, не распальвалі. А вось нашыя апанэнты выяўлялі часам поўнае непрыманьне ўсяго беларускага, найперш — мовы. У гэтым сэнсе паказальны пасаж з аднаго з выступаў Лукашэнкі. Для адчуваньня танальнасьці даю безь перакладу на беларускую:

«И об мовах. Вы очень много об этом говорили. Не хочу обойти и этот вопрос. В этой связи я хотел бы сказать одно: силой мил не будешь и силой народ не заставишь разговаривать на той мове, на которой хотелось бы только тебе или большой группе народных депутатов или же граждан. Мы, демократы, мы об этом сказали. Дайте же право

выбора, пройдет время, и мы будем говорить на той мове, на которой вам так хочется. Но вопрос не в этом. Вопрос состоит в том, где же выход из той ситуации».

Дарэчы, у гэтым выступе Лукашэнка ці не ўпершыню заявіў, што «я сур’ёзна задумаўся аб ролі асобы менавіта ў наш цяжкі час і аб ролі асобы ў нашым парлямэнце».

Увогуле, у гэтым выступе Лукашэнка фактычна заявіў пра прыярытэты ўласных палітычных амбіцый, якія базаваліся на рэзкай крытыцы развалу СССР (хоць большасьць дэпутатаў прапусьціла іх міма вушэй):

«Я сапраўды лічу, што невыкананьне Белавескіх пагадненьняў, развал адзінай эканамічнай прасторы, а яшчэ раней Саюзу… Пад усімі гэтымі дакумэнтамі стаяць подпісы двух чалавек. Яны нават матэматычна не змадэлявалі тую сытуацыю, якая складзецца, і яны заслугоўваюць адстаўкі. І як бы мы тут ні гулялі, як бы мы тут ні спрабавалі сысьці і падыграць аднаму зь іх, усё гэта палітыканства. Я задумваўся і над тым, ці здолее дэпутацкі корпус прыняць хоць адзін з гэтых варыянтаў, як выхад з сытуацыі, якая стварылася. Думаю, што не. Ведаючы аб гэтым, думаю, што мне няма сэнсу заклікаць да нейкага варыянту, і я павінен заявіць: час вырашаць мы, паважаныя народныя дэпутаты, відаць, страцілі. Вырашаць будуць за нас. Вырашаць будуць выбаршчыкі. І добра, калі нам у гэтым будзе адведзена роля выканаўцы. У горшым выпадку мы будзем статыстамі, гэта значыць будзем стаяць на абочыне гісторыі і назіраць за тым, як яна сыходзіць міма нас».

Нарэшце, менавіта з вуснаў Лукашэнкі прагучала канкрэтная прапанова ўключыць у парадак дня сэсіі пытаньне аб далучэньні Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі:

«Я прапаную ўключыць у парадак дня пытаньне аб далучэньні Рэспублікі Беларусь да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы і прыняць па гэтым пытаньні пры наяўнасьці сёньня вельмі вялікай колькасьці народных дэпутатаў канкрэтнае рашэньне».

Прапанова Лукашэнкі была ўзмоцненая выступам дэпутата-вэтэрана, генэрал-маёра ў адстаўцы Васіля Сінчыліна, які фактычна прапанаваў аднавіць Саюз:

«Як магло здарыцца, што ў Белавескай пушчы былі праігнараваныя вынікі рэфэрэндуму 17 сакавіка аб захаваньні Саюзу. У дакладзе Станіслава Станіслававіча мы не атрымалі выразнага і яснага адказу, але затое маем вынік — поўны развал Саюзу. Узброеныя сілы расьцяганыя па рэспубліках, эканоміка пастаўлена на мяжу разрухі, расьце беспрацоўе, і народ наш з кожным днём галее. Людзі патрабуюць пакласьці канец гэтаму хаосу, нястрымнаму росту цэнаў, разгулу злачыннасьці. Народ чакае прамога адказу, куды мы ідзем і да чаго ідзем — да капіталізму ці сацыялізму. Яны зьвяртаюцца з заклікам праявіць палітычную мудрасьць і грамадзянскую мужнасьць, прыняць рашэньне аб стварэньні палітычнага, эканамічнага і абароннага саюзу з працоўнымі Расеі, Украіны, Казахстану і іншых рэспублік».

Генэрал не забыўся прыгадаць «працоўных» — у поўнай адпаведнасьці з марксісцка-ленінскай традыцыяй. А мог бы і пра дыктатуру пралетарыяту згадаць.

***Лявонці Зданевіч*** *(Машэраўская выбарчая акруга № 39, Менск): Апошнім часам рэзка павялічылася колькасьць скаргаў грамадзян на адмовы органаў улады ў выдзяленьні зямельных надзелаў для стварэньня фэрмэрскіх гаспадарак. «Я і мой муж настаўнікі, — піша Зінаіда Міхайлаўна Краўчанка з Быхаўскага раёну. — У нас трое дзяцей. Вырашылі ўзяць 7 гектараў зямлі. У гаспадарцы маем 5 галоў буйной рагатай жывёлы, трактар. Пасьля доўгага нашага блуканьня сельскі савет прыняў рашэньне выдзеліць зямлю. Далей гэтай паперы ходу не далі. Райвыканкам даў указаньне старшыні калгасу адмовіць. Пазюмка, старшыня райвыканкаму, дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, адказаў, што не ў яго інтарэсах раздаваць зямлю». За тры гады рэформы, абвешчанай Вярхоўным Саветам, у сфэры таварнай сельскай гаспадаркі зьмяніліся землеўладальнікі толькі на 0,5 працэнта агульнай плошчы сельскагаспадарчых угодзьдзяў. Працэс стварэньня фэрмэрскіх гаспадарак фактычна прыпынены. За першы квартал 1993 году створаны толькі 177 сялянскіх гаспадарак. Кожны пяты гектар фэрмэрскай зямлі — гэта балота і хмызьняк. Якія захады зьбіраецца рабіць Савет міністраў, каб... задаволіць тых грамадзян, якія напісалі заявы на атрыманьне зямельных участкаў год, два, тры гады назад і не атрымалі нічога?*

*Выступ у «Розным»*

# АПАЗЫЦЫЯ БНФ ВЫСТАЎЛЯЕ ПРАПАНОВЫ

Адным з галоўных аргумэнтаў прыхільнікаў уступленьня Беларусі ў сыстэму калектыўнай бясьпекі СНД была эканоміка.

Эканоміка ў тым выглядзе, як яна разумелася ўрадам і кіраўнікамі прадпрыемстваў — адміністрацыйнае разьмеркаваньне рэсурсаў, жорсткае выкананьне загадаў «цэнтру» і дэталёвае, да дробязяў плянаваньне, ад выпуску трактароў да жаночых панчох (з апошнімі, праўда, у СССР былі вялікія праблемы).

«...Калі б не было СНД, дык цяжкасьці ў эканоміцы былі б нашмат большыя. І гэта трэба прызнаць. Гэта добра ведала апазыцыя, настойваючы пастаянна на рэзкім адыходзе ад сувязяў, якія традыцыйна складаліся, і пераарыентацыі на Захад. Ім таксама вядома, што з боку нашых партнэраў па СНД непазьбежна былі б прынятыя крокі ў адказ, якія ніколі не былі б кампэнсаваныя магчымай падтрымкай Захаду. Інакш кажучы, нам прапаноўвалі рэалізацыю мадэлі «чым горш — тым лепш». Пытаньне толькі ў тым, што лепш апазыцыі і што горш беларускаму народу».

Гэта словы не дэпутата — вэтэрана камуністычнай партыі, а старшыні ўраду Вячаслава Кебіча на нечарговай сэсіі. Што ж насамрэч прапаноўвала апазыцыя і ў чым бачылі паратунак «генэралы» ваенна-прамысловага комплексу (ВПК)?

Самая моцная падтрымка ініцыятывы далучэньня Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі сыходзіла ад кіраўнікоў прадпрыемстваў ВПК, якія раней падпарадкоўваліся, як правіла, Маскве. Іх

часам называлі «чырвонымі дырэктарамі». За часамі СССР у невялікіх гарадах і нават у абласных цэнтрах такія прадпрыемствы выконвалі бюджэтатворную ролю, вакол іх круцілася ўсё, а генэральныя дырэктары адчувалі сябе ніяк не ніжэйшымі за самага высокага мясцовага начальніка: яны маглі даць, а маглі і ня даць грошы на школы, дзіцячыя садкі, паліклінікі, на рамонт дарог — на што заўгодна.

У Менску кіраўнікі гігантаў ВПК у адносінах з рэспубліканскім кіраўніцтвам паводзілі сябе больш стрымана (паколькі першая «пяцёрка» з гэтага кіраўніцтва ўваходзіла ў склад ЦК КПСС і, такім чынам, у партыйнай герархіі была на роўных з кіраўнікамі саюзных абаронных міністэрстваў). Але фінансавыя іх магчымасьці былі яшчэ большыя, чым у рэгіёнах — бо і прадпрыемствы былі буйнейшыя. З дасягненьнем незалежнасьці і распадам саюзнага ваенна-прамысловага комплексу значнасьць «генэралаў ВПК» пачала імкліва зьмяншацца, але ў 1993-м усё яшчэ захоўвалася. Яны аб’ядналіся ў розныя «навукова-прамысловыя» асацыяцыі, каб больш каардынавана ціснуць на ўрад.

У часе надзвычайнай сэсіі яны ўжо пачалі ціснуць і на Вярхоўны Савет — на патрабаваньне групы дэпутатаў некаторым кіраўнікам далі магчымасьць выступіць з трыбуны.

## «Прычына — у ідэалізаваным разуменьні сувэрэнітэту»

У Авальнай залі «чырвоныя дырэктары» паводзілі сябе вальяжна, як гаспадары, хоць і не былі дэпутатамі. Генэральны дырэктар вытворчага

аб’яднаньня «Гарызонт» Аляксандар Санчукоўскі пачаў свой выступ з ацэнкі дзейнасьці Вярхоўнага Савету і нават агрызнуўся на старшыню:

«Пры разглядзе тых або іншых праблем няма прафэсійнага падыходу. Бо ў парлямэнце дастаткова эканамістаў, юрыстаў, гісторыкаў, і кожнаму павінна, па ідэі, быць адведзена сваё прафэсійнае лобі. Мы, выбаршчыкі, гэтага не адчуваем. Асабліва калі разглядаюцца праблемы палітычнага характару, тут наогул поўны мікрафонны бунт...»

Старшыня: «Шаноўны Аляксандр Аляксандравіч, я прашу вас гаварыць па тэме. Вам ня дадзена права даваць ацэнку працы дэпутатаў, іх выступаў».

Санчукоўскі: «Я выступаю як просты выбаршчык, Станіслаў Станіслававіч, прашу мяне не перабіваць». (Шум у залі).

Як «просты выбаршчык» Санчукоўскі прапанаваў даць дадатковыя паўнамоцтвы Кебічу.

Акрамя яго, на запатрабаваньне групы дэпутатаў выступілі таксама прэзыдэнт Беларускай асацыяцыі прадпрыемстваў радыёэлектронікі, інфарматыкі і прыборабудаваньня Віл Ганчароў і генэральны дырэктар прамысловага аб’яднаньня «БелаўтаМАЗ», прэзыдэнт Беларускай навуковавытворчай асацыяцыі Міхаіл Лаўрыновіч.

Віл Ганчароў: «Так, і ўрад, і кіраўнікі прадпрыемстваў не бязгрэшныя, але глыбінная прычына, паводле нашага глыбокага перакананьня, хаваецца ў ідэалізаваным разуменьні сувэрэнітэту і нэўтралітэту некаторымі палітыкамі (тымі самымі дэпутатамі БНФ — С. Н.»), што прывяло да эканамічнай адасобленасьці, празьмернай ідэалізацыі і перабольшаньня ўласных сілаў і магчымасьцяў у перабудове і разьвіцьці эканомікі рэспублікі, якая




Пікет актывістаў БНФ ля Дому ўраду.

практычна ня мае сваіх сыравінных і энэргетычных рэсурсаў».

Тэзіс пра адсутнасьць (як варыянт — поўную адсутнасьць) сыравінных рэсурсаў пачаў эксплёатавацца з таго самага моманту ў 1990 годзе, як БНФ заявіў пра дасягненьне незалежнасьці як пра галоўную палітычную мэту. Аднак тады ж акадэмік Радзім Гарэцкі прадставіў даволі ўражлівую карціну наяўнасьці ў Беларусі радовішчаў карысных выкапняў; ён зрабіў даклад на пасяджэньні апазыцыі, паводле ягонай інфармацыі я падрыхтаваў прэс-рэліз, які разаслаў у СМІ, некаторыя палажэньні былі імі апублікаваныя.

Зрэшты, мяне зьдзіўляла іншае: «генэралы» ВПК адносіліся да самых высокааплочваных катэгорый, яны часта выяжджалі за мяжу, у так званыя капіталістычныя краіны, адкуль прывозілі вельмі

дэфіцытную ў той час электронную пабытовую тэхніку. Асаблівым попытам карысталіся відэамагнітафоны ды іншая электроніка, выробленая ў Японіі. Цяжка ўявіць, каб генэральныя дырэктары ня ведалі, што ў гэтай краіне ні нафты, ні вугалю, ні нейкіх вялікіх радовішчаў карысных выкапняў няма. Тым ня менш, яны актыўна эксплёатавалі тэзу пра немагчымасьць наладзіць эканоміку без залежнасьці ад расейскай (менавіта расейскай) сыравіны.

«Выхад — гэта стварэньне, а дакладней аднаўленьне эканамічнага саюзу і падпісаньне непарыўна зьвязанай зь ім дамовы аб калектыўнай бясьпецы ў першую чаргу з Расеяй і Казахстанам», — падсумаваў Ганчароў.

Выглядае, у працягнутую руку мы мусілі пакласьці сувэрэнітэт краіны.

Праз год Аляксандар Санчукоўскі будзе фігураваць у апытаньнях як найбольш верагодная кандыдатура на пасаду прэзыдэнта — усьлед за Кебічам, Пазьняком. Шушкевічам, Лукашэнкам. Але вылучацца ня будзе — узначаліць перадвыбарчы штаб Кебіча.

А яшчэ праз невялікі час, недзе ў канцы 1995-га, я сустрэну Санчукоўскага на першым паверсе Цэнтральнага ўнівэрсаму, у расшпіленай куртцы і крыху пад шафэ, што ніяк ня будзе спалучацца са звыклым вобразам саліднага генэральнага дырэктара прамысловага гіганту. Але ён ужо некалькі месяцаў як быў зьняты з пасады асабістым распараджэньнем Лукашэнкі, з абвяшчэньнем па тэлебачаньні. Разам зь ім у краме былі двое сяброў зь вядомымі на ўсю краіну прозьвішчамі, якія пры Кебічу таксама займалі генэральскія пасады, кожны ў сваёй сфэры. «Ну, калі вы, БНФ, нарэшце

ўжо зваліце гэтага Лукашэнку?» Ня памятаю ўжо, што канкрэтна я адказаў на гэтае пытаньне, але, напэўна, дваццаць гадоў улады нядаўна абранаму прэзыдэнту не даваў.

Тады ў такі доўгі тэрмін прэзыдэнцтва Лукашэнкі ні мне, ні Санчукоўскаму, ні ягоным сябрам паверыць было немагчыма. Гэтак сама, як гэтая кампанія колішніх паплечнікаў Кебіча не ўяўляла, што зусім хутка простая адстаўка будзе здавацца ледзь ня ласкаю — міністрам пад тэлекамэры будуць начэпліваць кайданкі.

## «Сэнс палітыкі ўраду — спадзяваньне на нафту з Расеі па нізкіх цэнах»

Нашым галоўным аргумэнтам супраць калектыўнай бясьпекі была верагоднасьць удзелу беларускіх вайскоўцаў у баявых дзеяньнях за межамі краіны, пра гэта мы казалі няспынна.

Але — ня толькі.

У чым жа бачыла апазыцыя прычыны крызісу, ад чаго перасьцерагала і што прапаноўвала? Працытую некалькі выступаў дэпутатаў БНФ у часе абмеркаваньня.

Зянон Пазьняк, старшыня Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце: «Пачынаючы з 27 ліпеня 1990 году, дня прыняцьця Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі, перад рэспублікай паўсталі новыя задачы. У жніўні 1991 году пасьля абвяшчэньня незалежнасьці ўзьніклі рэальныя магчымасьці ажыцьцяўленьня гэтых задачаў. Зь іх важнейшыя тры — дзяржаўнае будаўніцтва, адраджэньне нацыянальнай культуры і рынычная рэформа эканомікі. Для ўвасабленьня новых зада-




Збор подпісаў супраць ваеннага саюзу з Расеяй.

чаў павінна быць дасягнута абавязковая палітычная ўмова — абнаўленьне дзяржаўнага кіраўніцтва. Гэта значыць, калі абвяшчаецца новая незалежная дэмакратычная дзяржава, тады абавязкова праводзяцца новыя дэмакратычныя выбары. Стары парлямэнт і стары ўрад, створаныя пры таталітарным рэжыме, ня ў стане праводзіць дэмакратычныя і рынкавыя пераўтварэньні, ажыцьцяўляць новыя задачы. Гэта аксіёма».

Пазьняк лічыў неабходным нагадваць, што дэпутаты і сфармаваны яшчэ ў камуністычныя часы ўрад «пераседзелі» тэрмін, адведзены ім гісторыяй, але і гэты час быў змарнаваны.

«Што перашкаджала ўраду і старшыні Кебічу ўсе гэтыя гады праводзіць пераарыентацыю нашай прамысловасьці і ўсёй эканомікі на патрэбы

Рэспублікі Беларусь? — пытаўся лідэр апазыцыі. — Што перашкаджала не тармазіць, а ініцыяваць захаваньне і разьвіцьцё сельскай гаспадаркі? Што перашкаджала рэальна спрыяць стварэньню сапраўднай фінансава-крэдытнай і банкаўскай сыстэмы, садзейнічаць падрыхтоўцы ўвядзеньня нацыянальнай валюты? Што перашкаджала займацца канвэрсіяй ваеннай прамысловасьці? Што перашкаджала шукаць і ствараць другія і трэція крыніцы забесьпячэньня энэргарэсурсамі, і перш за ўсё нафтай і газам? Ёсьць жа досьвед іншых краінаў, ёсьць канструктыўныя прапановы. Ёсьць выйсьце. Чаму нічога не скарыстана? Чаму паставілі такім чынам Беларусь у залежнасьць ад расейскай нафтаздабычы, якая, дарэчы, згортваецца і дэградуе? Што перашкаджала ўраду ініцыяваць абгрунтаваную, зручную для разьвіцьця вытворчасьці падатковую палітыку? Што перашкаджае, нарэшце, праводзіць эфэктыўную барацьбу са злачыннасьцю і карупцыяй? Чаму ў дзяржаве фактычна адсутнічаюць неабходныя мэдыкамэнты, а мільёны даляраў, выдаткаваныя зь ведама старшыні Саўміну на іх закупку камэрцыйнымі структурамі, у якіх працуюць родзічы прэм’ер-міністра, выкарыстаныя не па прызначэньні?»

Сапраўды, узьнікала ўражаньне, што галоўным сваім палітычным рэсурсам Кебіч лічыць не падкантрольны яму парлямэнт і адданых кіраўнікоў рэгіёнаў, а добрыя адносіны з кіраўнікамі Расеі. Канвэртацыя сяброўства ў нафту магла б успрымацца і станоўча, калі б пры гэтым пільнаваліся ўласныя, нацыянальныя інтарэсы. А з гэтым ва ўрадзе былі, як мы лічылі, праблемы.



Ля Дому ўраду.

«Усе навокал нас будуюць свае незалежныя дзяржавы, свае дзяржаўныя інстытуты. Трэба будаваць і нам. Выклікае пэўнае недаўменьне заклік кіраўніка ўраду, зроблены 18 сакавіка, скасаваць найважнейшую палітычную каштоўнасьць нашай дзяржавы — нэўтралітэт і заключыць ваенны саюз зь нестабільнай Расеяй. Такія заклікі ня толькі супярэчаць Канстытуцыі, але і сьведчаць пра высьпяваньне дзяржаўнай здрады. Беларусі не патрэбныя ніякія ваенныя саюзы, тым больш з ваюючай велізарнай краінай, што знаходзіцца на парозе развалу і грамадзянскай вайны».

На завяршэньне свайго выступу Пазьняк выказаўся за зьмену кіраўніка ўраду: «Лічу, што Вяр-

хоўны Савет павінен запатрабаваць адстаўкі спадара Вячаслава Кебіча з пасады старшыні Савету міністраў… Незалежнасьць дзяржавы зьяўляецца найвялікшай каштоўнасьцю. І выклікае вялікае зьдзіўленьне, непаразуменьне, калі кіраўнік дзяржавы фактычна выступае за скасаваньне гэтай найвялікшай каштоўнасьці грамадзтва, калі ставяцца пад сумненьне яе нэўтралітэт і яе незалежнасьць».

Пазьняк унёс прапанову пра адстаўку Кебіча ў пісьмовай форме (гэтага патрабаваў рэглямэнт, інакш пытаньне ня ставілася на галасаваньне), але прагаласуюць 23 дэпутаты — толькі тыя члены апазыцыі, якія былі ў залі.

## «Рэнтабэльная вытворчасьць развальваецца на вачах»

Кожны дэпутат апазыцыі ў сваіх выступах ацэньваў прапанову аб далучэньні да сыстэмы калектыўнай бясьпекі як вельмі небясьпечную для сувэрэнітэту краіны.

Барыс Гюнтэр, дэпутат Апазыцыі БНФ: «Сёньня кожны з нас павінен прыняць сур’ёзнае рашэньне — быць ці ня быць нашай рэспубліцы дзяржавай у поўным разуменьні гэтага слова або зноў стаць вобласьцю імпэрыі, як прапануе наш прэм’ер.

На працягу трох гадоў працы нашага Вярхоўнага Савету было прынята некалькі праграмаў эканамічнага разьвіцьця, прапанаваных урадам. І як жа яны рэалізаваныя? Адказ напрошваецца сам сабой — ды ніяк, за выключэньнем аднаго пункту, а менавіта ў частцы лібэралізацыі цэнаў. І то гэта не дасягненьне Вячаслава Францавіча Кебіча, а аб’ектыўны працэс. Па гэтым шляху пайшла Расея, і ўрад вымушаны

быў існці гэтым самым шляхам. Пры гэтым стрымліваліся закупныя і розьнічныя цэны на асноўныя прадукты харчаваньня, што правакавала і правакуе вываз яго за мяжу і разбурае нашу сельскую гаспадарку. Вёска лямантуе ад гэтага бязьмежжа, і некалі рэнтабэльная вытворчасьць развальваецца на вачах. Пры манапалізьме вытворчасьці, мытных бар'ерах сумежных дзяржаў, што замінае ўвозу замежных тавараў, рэспубліканскі рынак адасобіўся, што дало права вытворцы нарошчваць цану і пры агульным скарачэньні вытворчасьці атрымліваць той самы, а мо і яшчэ большы прыбытак (я не кажа пра ўсе прадпрыемствы). Урадам ня зроблена ніводнага кроку для стварэньня рынкавай інфраструктуры».

Далей Барыс Гюнтэр прывёў прыклады карупцыі ў Гомельскай вобласьці: «Будаўніцтва мэдцэнтру так і засталося на паперы, затое 220 тысяч даляраў былі пералічаныя ў Галяндыю на закупку какава-бабоў. Вынік — ні какава-бабоў, ні даляраў... Акрамя таго, рэалізацыя 50 тысяч тон нафты была праведзеная без афармленьня мытнай грузавой дэклярацыі і аплаты падатку на экспарт, што ў выніку з улікам нядоімкі і пені без малога склала 1 мільён даляраў».

Тое, што сказаў Гюнтэр, было шырока распаўсюджанай зьявай: блізкія да ўлады прадпрымальнікі (як правіла, іх фірмы былі створаныя яшчэ пры ўдзеле партыйных і камсамольскіх камітэтаў), атрымлівалі ліцэнзіі на рээкспарт нафты — узамен абавязаньняў увезьці ў Беларусь прадукты харчаваньня альбо мэдыкамэнты.

Розьніцу (у Эўропе нафта каштавала нашмат даражэй) клалі сабе ў кішэню. Існавала і пэўная такса хабару за ліцэнзію; мне дакладна вядома,

што ў выпадку з подпісам другой-трэцяй асобы вобласьці яна дасягала ста тысяч даляраў; даўшы такі хабар, бізнэсовец атрымліваў мільёны. На гэтыя грошы потым і прыватызаваліся дзяржаўныя прадпрыемствы; шмат якія буйныя карпарацыі і ў рэгіёнах, і ў Менску паўсталі на гэтым мэханізьме.

## «Нельга давяраць дзяржаву людзям няшчырым»

Пра карупцыйныя вытокі эканамічнага крызісу сказаў і дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Антончык: «Не было б такога бязьмежжа зьнізу, калі б не было прыкрыцьця зьверху. А ўспомніце, колькі каштуе аб'ект, былы камандны пункт. Каля 60 мільярдаў рублёў. А за колькі яго спрабавалі прадаць? За 20 мільёнаў рублёў. А хто даваў каманду ахове не перашкаджаць вывозіць прадукцыю? Вы таксама ведаеце — намесьнік старшыні Саўміну Косьцікаў. Хто-небудзь адказаў? Дык жа не!»

Тэму працягнуў Лявон Баршчэўскі: «Усе нашы беды ня толькі ў Расеі. Наш дарагі ўрад ня змог, а можа і ня надта хацеў кантраляваць сытуацыю з рээкспартам сыравіны і тавараў з Расеі ў трэція краіны. Хто на гэтым добра набіў сабе кішэню, спадзяюся, у хуткім часе высьветліць незалежны суд… Нельга давяраць кіраваць дзяржавай людзям няшчырым, тым, хто ненавідзіць сувэрэнітэт, культуру, мову, звычаі народа, якім кіруе. Нельга давяраць рыначныя формы і фарміраваньне здаровай эканомікі камуністам, якія гістарычна засьведчылі сваю абсалютную няздольнасьць да гэтага…

Днямі падаў у адстаўку адзінаццаты за апошнія трынаццаць гадоў урад Бэльгіі ў сувязі са зьніжэнь-

нем тэмпаў эканамічнага разьвіцьця краіны. Куды ж трэба загнаць наша эканамічнае разьвіцьцё, каб вы, шаноўная большасьць, адправілі ў адстаўку свой выпеставаны яшчэ ў ЦК КПБ на дражджах былой ВПШ урад ці хоць бы яго кіраўніка?!»

Мікалай Крыжаноўскі, дэпутат Апазыцыі БНФ: «Урад, які ўзначальваецца Кебічам, падводзячы вынікі работы за 1992 год, адзначыў, што захоўваецца “…дэфармаваная ў адносінах да патрэб рэспублікі і магчымасьцей сыравіннай базы структура вытворчасьці. Вось у чым галоўная прычына”. Канец цытаты. Але нічога не рабіў і ня робіць для паляпшэньня становішча. Па-ранейшаму недапушчальна нізкі ўзровень інвэстыцый у структурную перабудову нашай эканомікі. Не выконваюцца і практычна ператвораны ў пустыя паперкі рэспубліканскія праграмы “Лён”, “Цукар”, “Збожжа” і іншыя. Працягваецца арыентацыя на павелічэньне аб’ёмаў закупкі бавоўны, адна тона якой каштуе больш як 1000–1200 даляраў. Штогод скарачаюцца пасевы льну, з-за недахопу гэтай чыста нашай беларускай сыравіны не на поўную магутнасьць працуе адзіны ў рэспубліцы Аршанскі льнокамбінат. Так нам вельмі цяжка будзе знайсьці на сусьветным рынку сваю беларускую эканамічную нішу».

Прыклад поўнага падпарадкаваньня прадпрыемстваў ВПК Маскве прывёў дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Папкоў: «Чаму адміністрацыя прадпрыемстваў ВПК імкнецца да гэтага ваенна-палітычнага саюзу? Каб пазьбегнуць адказнасьці. Я вам прывяду просты прыклад. Я працаваў на аб’яднаньні “Інтэграл” і добра ведаю, што там рабілася і як. У 1989 годзе (у канцы году) 300 мільёнаў рублёў прыбытку “Інтэграл” пералічыў проста так у канцы году ў

Маскву ў былое міністэрства. Гэта тыя сродкі, якія мусілі ісьці на разьвіцьцё гораду Менску, на разьвіцьцё раёнаў, у якіх жывуць рабочыя “Інтэгралу”, а гэтыя 300 мільёнаў (вы разумееце, што такое 300 мільёнаў на той час) зьніклі зь Беларусі».

У 1989 годзе прылаўкі былі ўжо паўпустыя, але цэны будматэрыялаў былі фіксаваныя. Таму няцяжка падлічыць, колькі жылых дамоў можна было пабудаваць за тыя пералічаныя ў Маскву 300 мільёнаў, калі ўзьвядзеньне 100-кватэрнага панэльнага дома абыходзілася ў сярэднім у паўтара мільёна рублёў: атрымліваецца невялікі горад.

## Прэм’ер-міністар Ценявога кабінэту выказвае прапановы

Паняцьце «ценявы кабінэт» у палітычны лексыкон уведзена брытанскай традыцыяй, паводле якой апазыцыйная партыя фармуе склад кабінэту зь ліку сваіх дэпутатаў — яны і сядзяць у першым шэрагу крэслаў у залі Палаты абшчынаў парлямэнту, насупраць дзейнага кабінэту. Гэтую залю зь зялёнымі скуранымі крэсламі, доўгім сталом са стосамі даведнікаў і крэслам сьпікера мне давялося наведаць, калі я быў у брытанскі парлямэнце. Пазнаёміўся я і са сьпікерам Бэці Бутройд, першай (і пакуль што адзінай) за доўгую гісторыю брытанскага парлямэнтарызму жанчынай на гэтай пасадзе.

У Брытаніі, у выпадку перамогі апазыцыйнай партыі на выбарах, «ценявы кабінэт» робіцца дзейным. Таму «ценявых» міністраў трымаюць у курсе ўсіх спраў ведамстваў, якія, магчыма, ім давядзецца ўзначаліць — гэта гарантыя пераемнасьці і стабільнасьці.

А ў нас стабільнасьць забясьпечвалася стрымліваньнем улады тымі, хто сеў у міністэрскія крэслы яшчэ ў камуністычныя часы. Калі літаральна, сядзелі яны, як я ўжо пісаў, ва «ўрадавым» сэктары (у першым шэрагу — Кебіч), ну а члены Ценявога кабінэту БНФ — на сваіх дэпутацкіх месцах, па ўсёй Авальнай залі.

Ценявы кабінэт узьнік амаль адразу пасьля стварэньня Апазыцыі БНФ. Калі ў жніўні і верасьні 1990 году мы рыхтавалі пакет законапраектаў да другой сэсіі, прыцягнулі да працы экспэртаў у розных галінах. Адна група выпрацоўвала канцэпцыю прыватызацыі, другая распрацоўвала зямельную рэформу, іншыя займаліся банкаўскай сфэрай, пытаньнямі абароны.

Узначальвалі групы дэпутаты. Дарэчы, прадстаўлены Апазыцыяй у кастрычніку 1990-га на сэсію пакет законапраектаў прывёў дэпутатаў парлямэнцкай большасьці ў шокавы стан: яны не чакалі, што мы зробім такую працу за такі кароткі тэрмін ды яшчэ кваліфікавана (дакумэнты прайшлі экспэртызу). Адзін за адным нашыя законапраекты адкідаліся, але шмат якія палажэньні былі прынятыя.

Тады, увосень 1990-га, і было вырашана ператварыць экспэртныя групы ў сталы дзейны орган — Ценявы кабінэт пры дэпутацкай апазыцыі (назоў, калі не памыляюся, прапанаваў Пазьняк). Прэм’ерам Ценявога кабінэту быў Уладзімер Заблоцкі. Пазьней структура кабінэту мянялася, найбольш істотныя зьмены адбыліся ў 1994 годзе, калі прайшлі прэзыдэнцкія выбары. Членамі кабінэту былі, пераважна, дэпутаты. Я адказваў за інфармацыйны блёк.

Канешне, Ценявы кабінэт (яго яшчэ часта называлі Ценявым урадам) працаваў без усялякіх дзяржаўных датацый, ніхто нікому нічога не плаціў — у нас проста не было на гэта грошай, а бізнэсоўцы не выяўлялі нейкага жаданьня нам дапамагчы. Але праца за некалькі галоў была зробленая вялікая: пяць эканамічных праграм і некалькі дзясяткаў законапраектаў. Па сутнасьці, была створаная канцэпцыя незалежнай беларускай дзяржавы (на жаль, рэалізаваная толькі часткова).

Уладзімер Заблоцкі меў досьвед працы ў прамысловасьці і цалкам не стэрэатыпныя, не сацыялістычныя падыходы да эканомікі. Можа быць, адзіным ягоным недахопам было — на пачатку дэпутацтва — занадта частае ўжываньне навуковай тэрміналёгіі, якую цяжка было ўспрыняць сакратарам райкамаў ды «крепким хозяйственникам». Камуністы Заблоцкага паважалі, бо нічога не разумелі. Але на пачатку 1993-га Заблоцкі прамаўляў ужо даходліва, і камуністы яго запаважалі яшчэ болей.

Іншая справа, што гэта ніяк не адбівалася на выніках іх галасаваньня.

Уладзімер Заблоцкі: «Што канструктыўнага прапануецца з боку апазыцыі? Гэта ўжо вядомыя прапановы, якія ўжо каму-каму, а ўраду былі прапанаваныя ў першую чаргу і, акрамя ўсяго іншага, у выглядзе заканадаўчых паправак. Яны былі зробленыя досыць даўно (яшчэ восеньню). Першае. Прызнаць, што Беларусь — дзяржава з усімі наступствамі з гэтай высновы. Другое. Падрыхтаваць прававы падмурак рэформы, у аснове якой — упарадкаваньне адносінаў уласнасьці, прызнаньне права дзяржавы на ўласнасьць, гэта значыць не

дзяржаўная ўласнасьць у ранейшым разуменьні, а ўласнасьць суб’екта, дзяржавы…

Новая бюджэтная палітыка прадугледжвае іншую падатковую сыстэму, якая будзе садзейнічаць вытворчасьці. Асобна паўстае пытаньне аб грашовай крэдытна-фінансавай палітыцы. Беларусь пры самастойнай палітыцы магла б пазьбегнуць гіпэрінфляцыі. Сукупная рэформа валюты, крэдытаў, цэнаў. Для гэтага неабходныя атрыбуты дзяржаўнасьці, мытні, мяжа. Нельга ўводзіць гэтыя сыстэмы, не забясьпечыўшы ўласную мытную прастору. Такая рэформа патрабуе волі, і перш за ўсё палітычнай.

Стабілізацыя курсу грашовай адзінкі і цэнаў створыць умовы для нармальнай працы прадпрыемстваў. Але яе стабілізацыя патрабуе таксама і прызнаньня для таго, каб быў стабільны курс тавару (у якасьці тавару — зямля і сродкі вытворчасьці, гэта значыць яны павінны быць на рынку як тавары). Структурная цэнавая рэформа дазволіць усталяваць суадносіны цэнаў па групах тавараў і ўнутры групаў.

…Ваенныя заказы, якія тут хочуць захаваць для таго, каб падтрымаць частку нашай эканомікі, патрабуюць ваеннага бюджэту гэткіх самых памераў, як і было раней. І мы дойдзем да таго, што 55 адсоткаў бюджэту будзе трацiцца на вайну. Мы гэтага хочам?»

Словы пра падатковую рэформу дэпутаты парлямэнцкай большасьці маглі зразумець і нават прыняць — яны і самі час ад часу патрабавалі зьменшыць падаткі (кожны — для сваёй галіны). Магчыма, яны, хоць і зь цяжкасьцю, але ўяўлялі ўласную мытную прастору і нават дзяржаўную

мяжу. Сродкі вытворчасьці як тавар? Чаму не — шмат у каго ўжо былі створаныя фірмы, куды перайшла дзяржаўная (ці, па-іншаму — народная) маёмасьць. Але было ў выступе Ўладзімера Заблоцкага тое, што ні пры якіх умовах больш як дзьвесьце чалавек у Авальнай залі дапусьціць не маглі — гэта каб на рынку ў якасьці тавару апынулася зямля.

Права прыватнай уласнасьці на зямлю — гэта быў апошні бастыён, які з усёй сілай абаранялі былыя і цяперашнія бальшавікі. І нашая прапанова раздаць да траўня 1993-га ўсім ахвочым па 10 сотак зямлі (гэта было б добрай падтрымкай у цяжкія часы) — не набрала належнай колькасьці галасоў.

## Лукашэнка просіць у КДБ паратунку

Лукашэнка любіў хадзіць у лазьню. Звычка пахвальная, для здароўя карысная, але ў выпадку з дэпутатам ад 310-й Шклоўскай выбарчай акругі яна сумяшчалася яшчэ і з палітычнай дзейнасьцю.

Не магу ўявіць сябе Шушкевіча, або Кебіча, або Пазьняка, якія б без патрэбы, маючы дома ванну або магчымасьць наведаць лазьню ў кампаніі сяброў, пацягнуліся б у грамадзкае месца, дзе зьбіраецца паўсотні, а то і болей малазнаёмых ці зусім незнаёмых людзей. Мне самому даводзілася быць у такіх сытуацыях — у часе студэнцкіх будатрадаў, у войску. У дзяцінстве, у Сідаравічах, пад Магілёвам, дзед браў мяне па «мужчынскіх» днях у агульную вясковую (здаецца, па нядзелях — бо ў суботу хадзілі жанчыны) — але ў дзедавай хаце не было ванны або душа, і ўвогуле, як гаворыцца, былі «зручнасьці ў двары».

У доме ў Лукашэнкі ванна была. Лукашэнка наведваў грамадзкую лазьню ў Шклове ня столькі з так бы мовіць гігіенічных прычынаў, колькі з палітычных. Ён, як прыгадвалі пазьней, наведваўся туды па выходных, калі там зьбіралася найбольш людзей і, канешне, апынаўся ў цэнтры ўвагі. Трэба прызнаць, тое быў добры спосаб ня толькі падтрымаць уласны рэйтынг, але і ведаць, чым жыве народ. Выглядае, што ў Шклове народ спавядаў тыя самыя ідэі, што і Лукашэнка, паколькі на прэзыдэнцкіх выбарах 1994 году за яго ў раёне прагаласавала 90% — больш, чым дзе-небудзь у краіне.

Лукашэнка лёгка знаходзіў агульную мову з жыхарамі невялікіх гарадкоў, мястэчак і вёсак, насельніцтва якіх потым сацыёлягі вызначаць як асноўны ягоны электарат. Са сталічнымі жыхарамі было цяжэй. Са сталічнымі ў яго не атрымлівалася.

І ўжо зусім немагчыма было з тымі, хто катэгарычна не падзяляў ягоных поглядаў. Калі Шушкевіч або Пазьняк маглі добра «трымаць удар» ад палітычных апанэнтаў, псыхалягічна ўстойліва ўспрымалі атакі і не выходзілі зь сябе (увогуле, гэта няпроста), часта адбіваліся дасьціпнай фразай ці жартам — дык Лукашэнка імгненна зрываўся, скідваўся ў гістэрыку.

Але 8 красавіка такой дыскусіі абмінуць не ўдалося.

Усе дні, пакуль Вярхоўны Савет абмяркоўваў пытаньне аб далучэньні да сыстэмы калектыўнай бясьпекі, на Плошчы былі актывісты БНФ. Некалькі дзясяткаў чалавек трымалі плякаты, бел-чырвонабелыя сьцягі. Калі ўвечары канчалася пасяджэньне сэсіі — людзей зьбіралася болей, і мы, дэпутаты БНФ, выходзілі да іх. Фронтаўцаў цікавілі падра-

бязнасьці абмеркаваньняў, а ў агульным раскладзе сілаў яны арыентаваліся досыць добра. У тым ліку — і ў пазыцыях дэпутатаў.

І таму калі на Плошчы зьявіўся Лукашэнка, актывісты БНФ выказалі ўсё, што пра яго думаюць. Я ня ведаю, што канкрэтна яму казалі, але дакладна гэта не была лаянка і дакладна гэта былі толькі словы. Ніякіх дзеяньняў не было, ніхто Лукашэнку і пальцам не крануў.

Увогуле, за амаль шэсьць гадоў кадэнцыі Вярхоўнага Савету XII скліканьня быў толькі адзін выпадак, калі чалавек пэўным чынам пацярпеў на Плошчы — пасьля правалу праімпэрскага маскоўскага путчу, 24 жніўня сакратар ЦК КПБ Валер Ціхіня быў апляваны людзьмі, якія сабраліся на Плошчы — пры гэтым дружына БНФ па камандзе Вячаслава Сіўчыка адразу ўзяла Ціхіню ў «кола» і правяла ў гатэль «Мінск». Я перакананы, што сярод тых, хто пляваў, «фронтаўцаў» не было — у нашых прыхільнікаў былі іншыя мэтады ўзьдзеяньня.

Лукашэнку ратаваць не давялося — яго не чапалі, проста выказалі ацэнку ягонай пазыцыі.

Але гэтага хапіла, каб на другі дзень на сэсіі Лукашэнка пачаў скардзіцца:

«Паважаныя члены Вярхоўнага Савету! Паважаны Станіслаў Станіслававіч! Я вас вельмі прашу ўважліва мяне выслухаць, я больш трох хвілін вашу ўвагу не займу. Перш чым па сутнасьці сказаць, я б хацеў зьвярнуцца да вас, Зянон Станіслававіч Пазьняк, як да чалавека, перад якім я абсалютна ні ў чым не вінаваты, і папрасіць, каб вы ці сваім “баевікам”, ці сваёй “шпане”, ня ведаю, як вы яе называеце, загадалі, каб больш... (Шум у залі). Вы мяне, калі ласка, не перапыняйце, я ў тры хвіліны ўкладуся.

Калі ўчора Антончык выступаў з трыбуны, вы яму далі сказаць. І я вам скажу, Станіслаў Станіслававіч, чаму я гэта кажу. Таму вы, калі ласка, папярэдзьце сваіх людзей: крычаць, калі ласка, крычыце, але нападкі прадпрымаць супраць народных дэпутатаў, я маю на ўвазе перш за ўсё супраць мяне... Таму я вас вельмі прашу, як чалавека, разьбярыцеся з тымі, каго вы ўчора прывялі на Плошчу. І вось тут сядзіць старшыня КДБ, калі гэта правакацыя, ён вам, спадар Баршчэўскі, скажа... Гэтая заява была ад трэцяга мікрафона не выпадковая, што вы там раздасьцё тэлефоны і пачняце камусьці пагражаць. Я асабіста вас не баюся».

(Пасаж на адрас Баршчэўскага быў выкліканы ягонымі словамі пра распаўсюд сярод выбаршчыкаў інфармацыі, хто з дэпутатаў галасаваў за калектыўную бясьпеку).

Выглядае, што Лукашэнка ўжо пасьпеў быў зьвярнуцца і да старшыні КДБ Шыркоўскага — праўда, ніякіх наступстваў гэта ня мела дый не магло мець у тыя часы: людзі на Плошчы законаў не парушалі, проста выказалі сваё меркаваньне, хоць і экспрэсіўным чынам.

Гэта ўжо ў іншыя часы за нязгоду з прэзыдэнтам Лукашэнкам КДБ будзе распачынаць крымінальныя справы.

***Мікалай Крыжаноўскі*** *(Жодзінская-Аўтазаводская выбарчая акруга № 86): Надзеі на клірынгавае пагадненьне з Расеяй зьніклі, як ранішні туман. Двухбаковы клірынг і ня мог выратаваць нашу эканоміку, бо паралельна клірынгавым пастаўкам поўным патокам ішлі па камэрцыйных каналах тыя самыя тавары, якія задаволілі гэты невялічкі рынак. Сёньня Расея ўжо адмаўляецца ад прадугледжанай клірынгам нашай прадукцыі і патрабуе не машыны, а заводы. І наш урад ужо іншага выйсьця і не бачыць, як пайсьці насустрач. Я ведаю пазыцыю некаторых кіраўнікоў ураду, якія выйсьце зь цяжкага эканамічнага становішча бачаць толькі ў тым, што неабходна перадаць пад пратэктарат Расеі большую частку буйных прадпрыемстваў Беларусі. Але ж ёсьць нармальныя, узаемавыгадныя эканамічныя адносіны паміж незалежнымі дзяржавамі. Чаму ў сёньняшніх умовах недахопу ў сыравіне і энэрганосьбітах урад ня мае дакладнай праграмы зьніжэньня энэргаёмістасьці і матэрыялаёмістасьці выпусканай прадукцыі? Наколькі зьмянілася, паменшылася энэргаёмістасьць і матэрыялаёмістасьць важнейшых відаў прадукцыі? Хто сёньня адкажа? Чаму практычна не аднаўляюцца асноўныя вытворчыя фонды? Пытаньні можна працягваць бясконца, але ўрад адказу на іх не дае.*

*Выступ у «Розным»*

# СЬПІКЕР КАЖА ПРА ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕРАВАРОТ

Вайсковы пераварот па-беларуску мог адбыцца 8 красавіка. А тое, што адбылося, можна назваць калі не пераваротам, дык паваротам дакладна.

Але — па-парадку.

8 красавіка мы ўнесьлі прапанову перападпарадкаваць Узброеныя сілы Вярхоўнаму Савету — паколькі Саўмін «да гэтай пары не прыступіў да выкананьня дадзенага яму да 1 сакавіка г. г. Вярхоўным Саветам даручэньня пачаць рэалізацыю зацьверджанай на X сэсіі Вярхоўнага Савету Беларусі "Ваеннай дактрыны Рэспублікі Беларусь". Замест гэтага кіраўніцтва ўраду і яго адпаведныя структуры прапаноўваюць Вярхоўнаму Савету прыняць рашэньне аб адмове ад прынцыпу ўзброенага нэўтралітэту як стрыжня названай ваеннай дактрыны».

Але гэтая наша прапанова не прайшла.

Нашы доказы маглі будавацца на неаспрэчнай лёгіцы, нашы прапановы маглі гучаць пераканаўча, мы маглі ўшчэнт разьбіць аргумэнты нашых апанэнтаў — але ўсё вырашала галасаваньне. Дэпутатаў Апазыцыі БНФ было 30, яшчэ столькі ж было тых, хто нас звычайна падтрымліваў, яшчэ столькі ж вагаліся і маглі заняць пазыцыю ў залежнасьці ад асабістых інтарэсаў (неабавязкова палітычных), але 200 дэпутатаў трымаліся маналітам. І арытмэтыка на таблё галасаваньня вырашала ўсё.

У апошнія хвіліны Пазьняк паспрабаваў спыніць галасаваньне, яшчэ раз нагадаўшы, што пытаньне аб калектыўнай бясьпецы мае канстытуцыйны ха-

рактар, паколькі закранае абвешчаны ў Дэкларацыі аб сувэрэнітэце статус нэўтральнасьці. А значыць, рашэньне павінна прымацца двума трацінамі галасоў, а ня так званай простай большасьцю.

Пазьняк: «Гэта канстытуцыйны закон, і таму ўсе папраўкі, усё, што зьнішчае сэнс гэтага канстытуцыйнага закону, імкненьне да нэўтралітэту… Яно павінна галасавацца дзьвюма трэцямі, канстытуцыйнай большасьцю. Я зьвяртаюся да ўсіх дэпутатаў Апазыцыі, да ўсіх сумленных дэпутатаў і паўтараю тое, што сказаў: калі ня будзе пастаўлена галасаваньне, як патрабуе закон — дзьвюма трэцямі, я прашу ўсіх пакінуць гэтыя сэктары і выйсьці за калёны, ня ўдзельнічаць увогуле. У гэтым зале адбываецца злачынства». (Шум у залі).

Шушкевіч: «Я хачу вас папрасіць захоўваць спакой… Фактычна справа ідзе аб чым? Што мы працуем неправавым чынам. І зрабілі ўжо так многа памылак, што калі зробім яшчэ адну (прабачце, я маю права на слова), то нічога дрэннага не адбудзецца. Што да мяне, вы ведаеце, што я буду галасаваць супраць. Я перакананы, што мы такім чынам уваходзім у дрэнную сытуацыю, а астатнія дэпутаты вырашаць гэтае пытаньне сваім галасаваньнем. Такім чынам, галасаваньне пайменнае. (Шум у залі). Хто за тое, каб прыняць пункт 4 у рэдакцыі... (Шум у залі). Я яшчэ раз скажу, я прашу вас сесьці».

Пазьняк: «Я ня сяду, пакуль вы ня скажаце, што зараз ідзе галасаваньне па зьмяненьні сутнасьці Дэкларацыі. Вы як старшыня павінны гэта засьведчыць і сказаць, што для гэтага трэба дзьве трэці. Станіслаў Станіслававіч, калі вы гэтага ня зробіце, то менавіта вы, спадар Шушкевіч, уведзяце ў зман

і дасьцё магчымасьць вось гэтай агрэсіўнай большасьці парушыць галоўны канстытуцыйны закон, і адказнасьць будзе на вас...» (Шум у залі).

Старшыня: «Я прашу вас сесьці. Паважаныя народныя дэпутаты! Я выказаў свае адносіны. Я не магу ў гэтых умовах паступаць інакш, таму што заключэньні камісіі маюцца. Мы можам гаварыць — яны кваліфікаваныя, некваліфікаваныя, розныя думкі ёсьць, плюралізм думак, нічога ня зробіш... (Шум у залі). Значыць, хто за тое, каб зацьвердзіць заключэньне камісіі аб тым, што галасаваць трэба простай большасьцю, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Рашэньне прынята».

У гэты момант трыбуну заняў дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Папкоў.

Папкоў: «Спадары дэпутаты! Тыя, хто...»

Шушкевіч: «Я вам не даваў слова, прашу выключыць мікрафон на трыбуне».

Папкоў: «Шэраг дэпутатаў, якія прагаласавалі тут, зьяўляюцца...»

Шушкевіч: «Я прашу вас пакінуць трыбуну».

Такім чынам, 9 красавіка 1993 году 188 дэпутатаў Вярхоўнага Савету выказалася за далучэньне да сыстэмы калектыўнай бясьпекі, якое ўцягне Беларусь у арбіту вайсковых інтарэсаў Расеі на дзесяцігодзьдзі.

І ўсё ж мне падаецца, што спраўдзяцца калі-небудзь словы Пазьняка пра гістарычную адказнасьць. Тое, што не расстаўляюць па месцах людзі, расстаўляе Гісторыя, хай і праз пакаленьні.

Дэпутаты перайшлі да абмеркаваньня іншага пытаньня парадку дня, калі адбыўся дыялёг, якім лягічна будзе скончыць сюжэт пра калектыўную бясьпеку: камісія па абароне вынесла пытаньне аб

наданьні статусу дзяржаўнай мяжы межам зь Літвой, Латвіяй і Ўкраінай. Гэта азначала ўмацаваньне мяжы да таго тэхнічнага ўзроўню, які ўжо існаваў на мяжы з Польшчай.

І пры гэтым мяжа з Расеяй заставалася адкрытая.

І яшчэ фрагмэнт стэнаграмы:

Голубеў: «Чаму ваенная камісія займаецца межамі, а не Камісія па міжнародных справах? Што, ваенныя зь сёньняшняга дня пачынаюць усё вырашаць тут?»

Шушкевіч: «Я нешта не зразумеў: у нас што, дзяржаўны пераварот?..» (Шум у залі).

Насамрэч, гэта было паваротам — у бок Масквы.

***Алег Трусаў*** *(Мірашнічэнкаўская выбарчая акруга № 33, Менск): Паколькі на гэтым тыдні мы будзем разглядаць пытаньне аб правядзеньні рэфэрэндуму па адносінах да далучэньня Беларусі да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы, я хачу азнаёміць вас з думкай больш чым 2000 грамадзян нашай рэспублікі па гэтаму пытаньню. «Спадары народныя дэпутаты! Мы падтрымліваем ініцыятыву Станіслава Станіслававіча Шушкевіча аб правядзеньні ўсенароднага рэфэрэндуму з фармулёўкай — “Ці падтрымліваеце вы дзяржаўны нэўтралітэт Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адмаўленьне ад ваенна-палітычных саюзаў зь іншымі краінамі і іх аб’яднаньнямі?” Чакаем адпаведнага рашэньня Вярхоўнага Савету. Мы за незалежную, нэўтральную, бязьядзерную Беларусь». Я хачу таксама даць вам статыстыку гэтых зваротаў. Так, тут сярод гэтых больш чым 2000 подпісаў маецца 668 подпісаў жыхароў Менску, 17 подпісаў жыхароў Мар’інай Горкі, 200 подпісаў з Баранавіч і Баранавіцкага раёну, 200 зь Міёр, 252 зь Міёрскага раёну, 163 подпісы зь Дзяржынску, 130 подпісаў з Фаніпалю, 11 зь вёскі Данілавічы Дзяржынскага раёну, 180 з Нясьвіжу і Нясьвіскага раёну, 21 подпіс з Рагачова, 21 подпіс з Гатава пад Менскам, 231 подпіс з Горадні, а таксама подпісы асобных грамадзян з такіх населеных пунктаў, як Віцебск, Бабруйск, Полацак, Наваельня, Янава, Іванаўскі раён, Маларыта, Драгічын, Белаазёрск, Пухавічы, Гомель, Пружаны, Слонім, Чачэрскі раён, Іўеўскі раён, Мядзел, Браслаў, Глуск, Магілёў, Пінск і Дзісна.*

*Выступ у «Розным»*

# ЛУКАШЭНКА РАІЦЬ МНЕ НЯ ВЕРЫЦЬ ШУШКЕВІЧУ

У тэме дамовы аб калектыўнай бясьпецы ёсьць яшчэ адзін сюжэт, які мог вывесьці на іншы, станоўчы для прыхільнікаў незалежнасьці вынік — ды не атрымалася.

Раніцай 8 красавіка мне далі слова ў разьдзеле «Рознае», і я зачытаў лісты, якія мне перадалі. А потым зрабіў нечаканую для дэпутацкай большасьці прапанову.

Сяргей Навумчык: «“Мы з трывогай і надзеяй сочым за тым, як разьвіваюцца падзеі на сэсіі Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, — пішуць жыхары Наваполацку, 400 подпісаў — і калі прапанова аб разьвіцьці эканамічных сувязяў з Расеяй і іншымі дзяржавамі былога Саюзу дае надзею на тое, што мы зможам пераадолець эканамічны крызіс, то прапановы аб уступленьні ў ваенны саюз з Расеяй і рэспублікамі Сярэдняй Азіі і Закаўказьзя выклікаюць толькі трывогу і страх. Гарачыя кропкі ў былым Саюзе не астываюць, а наадварот, падзеі прымаюць усё больш крывавы характар. Але нават Кіргізстан адвёў сваіх салдат з Таджыкістану, а мы стараемся ўвайсьці ў гэты саюз вайскоўцаў”. “Ваенны саюз, — пішуць народныя дэпутаты Наваполацкага гарсавету, — азначае дадатковую нагрузку на эканоміку і фінансы Беларусі, дадатковае зьніжэньне жыцьцёвага ўзроўню народа Беларусі. Гэта азначае, што нашы беларускія хлопцы ў вайсковай форме зноў будуць пасылацца ў гарачыя кропкі, каб тушыць канфлікты сваёй крывёю”».

Шмат каму прававыя ды эканамічныя аспэкты калектыўнай бясьпекі былі незразумелыя, а вось тое, што беларускія хлопцы могуць паехаць ваяваць за межы краіны, людзьмі ўспрымалася як рэальная небясьпека.

І мы, дэпутаты БНФ, зноў і зноў зьвярталі ўвагу нашых апанэнтаў, што, магчыма, расплачвацца за вайсковы саюз давядзецца жыцьцямі суайчыньнікаў.

Я працытаваў тэлеграму ад Незалежнага саюза гарнякоў («Прапановы і настойлівае жаданьне чаго б гэта ні каштавала ўцягнуць нашу нэўтральную дзяржаву ў ваенны саюз з Расеяй і зь іншымі дзяржавамі Закаўказьзя і Сярэдняй Азіі ў нас выклікае зьдзіўленьне і пратэст»), сказаў пра ліст, падпісаны дзьвюма тысячамі жыхароў Менску супраць далучэньня да сыстэмы калектыўнай бясьпекі. Паведаміў, што маю толькі адзін зварот, аўтары якога выступаюць «за» — ад Віцебскага гаркаму толькі што адноўленай камуністычнай партыі.

А затым перайшоў да асноўнай мэты свайго выступу:

«Група народных дэпутатаў зьвяртаецца да старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь і да сэсіі з ініцыятывай: прапануем вынесьці на ўсенароднае галасаваньне (рэфэрэндум) Рэспублікі Беларусь наступнае пытаньне абавязковага характару: «Ці лічыце вы, што Рэспубліка Беларусь павінна быць нэўтральнай і бязьядзернай дзяржавай і не ўваходзіць у ваенныя блёкі?». Варыянты адказу: «так», «не». Гэтую ініцыятыву падпісалі на сёньняшні момант 45 народных дэпутатаў, а трэба 115. Я не сумняваюся, што ў гэтай залі знойдзецца 115 сумленных дэпутатаў. Калі ж не, дык мы выйдзем



НАРОДНЫ ДЭПУТАТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ | НАРОДНЫЙ ДЕПУТАТ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

№________ _____.______________ 199 г

Старшыні
Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь
сп. С.Шушкевічу

Прапануем вынесці на ўсенароднае галасаванне /рэферэндум/ Рэспублікі Беларусь абавязковага характару наступнае пытанне: "Ці лічыце Вы, што Рэспубліка Беларусь павінна быць нейтральнай і без'ядзернай дзяржавай і не ўваходзіць у ваенныя блокі?"

Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь:

Подпісы дэпутатаў, сабраныя аўтарам за рэфэрэндум у справе калектыўнай бясьпекі.



-2-

22 Здановіч Л. 33-я кор.
23 Драган Г.С 131
24 Божко А.Г. 132
25 [illegible] 195 Ковалева
26 176 Какоўка
27 І. Германчук №71
28 Г. Грушавы №41
29 В. Галубовіч №24 Галубоў
30 С. Панкоў №21
31 А. Шут №66
32 В. Малашка, №30
33 М. Маркевіч, №241
34 Мінск Мясніко? 88 с уточнением формулировки [illegible] слова „безъядерная".
35 [illegible] 189 А. Сасноў
36 №2 Трибанов?
37 №187 Б. Савіцкі
38 183 М. Сямкоў?
39 67 П. Холод?
40 Звераў 276 Звераў
41 Бобоченок С. 277
42 Радамонпоўскі? 155
43 Е. Гнусаева? №168
44 Моисеев Г.Ф 175
45 Лукашоў А.В №97
46 Герасім І.М. №63
47 Слабчыкіна? С.І. 111
48 Шедзя? 133
49 Е. 13я Новікаў Аўгэн?
50 15я Тарасенко
51 Н. Колбасно?
52 №310 Лукашенко А.Г.
53 271
54 266
55. 31 Е. Конюта?
56. 137 Семашко И.И
57. Шпакин? А.Н.
58 Шочак А.М. 84
59 Даймоз? 256

52-гі — подпіс Аляксандра Лукашэнкі.

з такой ініцыятывай да народу, і я думаю, забярэм 350 тысяч подпісаў, тым больш што такі досьвед у нас ёсьць».

За некалькі дзён да гэтага выступу да мяне зьвярнуўся Іван Сьцяпура, дарадца Станіслава Шушкевіча, і сказаў, што было б добра прыстрашыць дэпутацкую большасьць рэфэрэндумам. Самому Шушкевічу выходзіць з такой ініцыятывай няёмка, а вось калі б гэта зрабіла Апазыцыя БНФ…

Раней мы ў Апазыцыі абмяркоўвалі варыянт рэфэрэндуму ў пытаньні калектыўнай бясьпекі — і ня ў якасьці элемэнту псыхалягічнай атакі, а як рэальны спосаб спыніць уцягваньне Беларусі ў арбіту вайсковых інтарэсаў Расеі. Калі ж нашыя намеры супалі з намерам Шушкевіча — што ж, тым лепей.

Я напісаў тэкст і пачаў зьбіраць подпісы дэпутатаў.

Першымі падпісаліся Зянон Пазьняк, Валянцін Голубеў, Галіна Сямдзянава, Алег Трусаў, Віктар Аляміеў, Яўген Цумараў, Лявон Дзейка, Лявон Баршчэўскі. 16-м паставіў подпіс Ніл Гілевіч, 37-м і 38-м — члены Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Барыс Савіцкі і Міхаіл Сьлямнёў.

Падышоў я і да Аляксандра Лукашэнкі. «Сяргей, маю пазыцыю ты ведаеш, я за калектыўную бясьпеку, але подпіс пастаўлю. Толькі ты дарэмна спадзеясься, Шушкевіч рэфэрэндум не правядзе!» — сказаў Лукашэнка і паставіў подпіс, 52-гі па ліку. «Ну-ну, лічы як хочаш, — падумалася. — Ты ж ня ведаеш, што мне сказаў Сьцяпура».

Раніцай наступнага дня, 9 красавіка, калі колькасьць подпісаў дасягнула васьмі дзясяткаў, стар-

шыня Вярхоўнага Савету ўзяў слова. Гэта быў адзін з найлепшых ягоных выступаў.

Шушкевіч: «…Я — прыхільнік… варыянту: нэўтральная, палітычна стабільная дзяржава, якая не выдзяляе яскрава ні ўсходніх, ні заходніх прыярытэтаў, а ў сваёй эканамічнай і палітычнай стратэгіі імкнецца быць кантактнай дзяржавай, крыніцай стабільнасьці ў рэгіёне. Сёньня ў нас яўна выяўлены ўсходні прыярытэт, і мы гэта павінны ўспрымаць як рэалію. Мы павінны яго падтрымліваць, разьвіваць, але ён не павінен спыняць іншыя кантакты, у тым ліку кантакты з Захадам».

У гэтым была сутнасьць геапалітычнай пазыцыі Шушкевіча — і Захад, і Ўсход.

Такі падыход мы прыняць не маглі, бо ў кожным кроку насустрач Маскве бачылі пагрозу быць паглынутымі, мы лічылі, што трэба напоўніцу выкарыстаць шанец і як мага далей «адарвацца» ад усходняга суседа.

«Я ня ведаю, ці існуе дзе-небудзь у сьвеце парлямэнт, які б так ставіўся да нацыянальнай мовы, да дзяржаўнасьці, — працягваў Шушкевіч. — На каго мы нападаем? Задумайцеся над гэтым. У свой час Расея гаварыла па-француску. У свой час Расея лічыла, што няма ў яе сваіх талентаў і навукоўцаў. Успомніце Ламаносава... “Ода на день восшествия на всероссийский престол”… “Что может собственных Платонов и быстрых разумом Невтонов…” Чаму ж мы забываемся пра нашу беларускую гісторыю? Чаму мы затоптваем гэта ў гразь? Адкуль гэтая варожасьць да беларускасьці? Чаму мы ўстаём супраць гэтага? Дарэчы, папярэдні Вярхоўны Савет, паважаць давайце яго будзем, адно з найлепшых рашэньняў прыняў пра гэта».

Шушкевіч меў на ўвазе Закон аб мовах, прыняты Вярхоўным Саветам БССР XI скліканьня ў студзені 1990 году.

Далей Шушкевіч прадставіў цалкам рэалістычную пэрспэктыву адмовы Беларусі ад нэўтралітэту:

«Калі мы зараз прымем новую, фактычна ваенную дактрыну, адыдзем ад нэўтралітэту, дык першай рэакцыяй Польшчы будзе: ну, калі яны так, дык жа і нам трэба мацнейшымі быць. І пайшла гонка. А я думаю, што мы маглі б ісьці па шляху звароту да дзяржаў, да той самай Польшчы, да краін Прыбалтыкі, да Румыніі, да Малдовы: маўляў, прыміце нэўтральны стан, заявіце аб тым, што ў вас няма прэтэнзіяў да суседзяў. І я думаю, што мы дасягнулі б вялікіх посьпехаў на гэтым шляху. Справа вось у чым: справа ў палітычнай заяве Вярхоўнага Савету, што мы зьмяняем наш палітычны курс. Толькі так гэта будзе прынята ў сьвеце».

Нарэшце, у прамове ўзьнікла галоўная крыніца ўлады і галоўны арбітар — народ.

«Я лічу, што ў гэтых абставінах ёсьць адзін заход — трэба запытацца ў народа. (Апладысмэнты). Я ўношу прапанову: “У адпаведнасьці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» прашу Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняць рашэньне аб правядзеньні ў маі 1993 году абавязковага рэспубліканскага рэфэрэндуму па вызначэньні характару нэўтралітэту Рэспублікі Беларусь. Прашу ўнесьці ў бюлетэнь для правядзеньня рэфэрэндуму пытаньне: «Ці падтрымліваеце вы нэўтралітэт Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адмову ад уступленьня Рэспублікі Беларусь у любыя ваенна-палітычныя саюзы зь іншымі дзяржавамі або іх

аб’яднаньнямі?»” І хачу вам адказаць адразу: калі народ скажа, што мы павінны быць у гэтым саюзе, я лічу тады, што ня маю маральнага права заставацца старшынём Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь. (Тут Віктар Ганчар выкрыкнуў нешта кшталту — а ці пойдзеце ў адстаўку, калі не прагаласуюць? — С. Н.) Адкажу і вам, паважаны народны дэпутат Ганчар: я адразу падам у адстаўку. (Аплядысмэнты). Але я хачу, паважаныя народныя дэпутаты, каб у тых, хто тут выступае за такі саюз, хапіла мужнасьці зрабіць гэтак сама».

Са свайго боку, мы нагадалі, што Шушкевіч не адзінокі ў сваім жаданьні апэляваць да народа.

«Мы, натуральна, падтрымліваем прапанову старшыні Вярхоўнага Савету аб тым, што гэтае пытаньне павінен вырашаць народ, — сказаў я. — Але мы, у адрозьненьне ад Станіслава Станіслававіча, маем (і я ўчора пра гэта казаў) крыху іншую ініцыятыву, таму я прапаную вынесьці на ўсенароднае галасаваньне (рэфэрэндум) пытаньне аб нэўтралітэце. Станіслаў Станіслававіч, не перад ратыфікацыяй, як вы прапануеце (я разумею вашу прапанову), а перад галасаваньнем у Вярхоўным Савеце. Таму інфармую вас, што на сёньняшні дзень у нас сабраны 91 подпіс народных дэпутатаў, трэба 115. Я таксама думаю, што трэба пайменна прагаласаваць. Магчыма, да некага я не падыходзіў і хтосьці хоча далучыцца».

У мяне быў 91 подпіс, але ініцыятывы Шушкевіча было дастаткова: паводле закону, ён меў права ініцыяваць рэфэрэндум, ягоны подпіс прыраўноўваўся да 115 подпісаў дэпутатаў альбо 350 тысяч подпісаў грамадзянаў Беларусі. Праблема была ў тым, што, паводле таго самага закону, прыз-

начаць рэфэрэндум павінен быў Вярхоўны Савет на чарговай сэсіі, а гэтая была — нечарговая. Такім чынам, пытаньне пераносілася на наступную сэсію.

У канцы красавіка сацыялягічная служба «Грамадзкая думка» правяла апытаньне на тэмы грамадзка-палітычнай сытуацыі.

На пытаньне «Ці падтрымліваеце Вы рашэньне Вярхоўнага Савету аб далучэньні да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы, падпісанай сямю краінамі — членамі СНД», станоўча адказалі 38,3 %, не — 45 %, 15,5 % ня вызначыліся.

У выніку правядзеньня рэфэрэндуму за захаваньне нэўтралітэту выказаліся б 42,6%, за далучэньне да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы — 31,2%.

Паказальныя адказы адносна пытаньняў, якія грамадзяне лічылі неабходным вынесьці на рэфэрэндум.

Пра давер Вярхоўнаму Савету — 16,6 %, пра давер ураду — 9,4 %. Самую вялікую колькасьць набрала пытаньне аб формах уласнасьці на зямлю — 24,6 %.

А самую меншую — пытаньне аб дзяржаўнай мове. За тое, каб выносіць яго на рэфэрэндум, выказаўся толькі 1,1 % грамадзян.

На наступнай сэсіі Шушкевіч адрынуў нашую прапанову аб'яднаць пытаньне аб калектыўнай бясьпецы з пытаньнем аб датэрміновых выбарах, заявіўшы, што ён ініцыюе рэфэрэндум толькі па АДКБ. А потым успрыняў аргумэнты парлямэнцкай большасьці і пагадзіўся вынесьці калектыўную бясьпеку на той рэфэрэндум, на якім будуць абмяркоўвацца «канстытуцыйныя пытаньні». Калі — невядома.

І мне прыгадаліся словы Лукашэнкі, што Шушкевіч рэфэрэндум не правядзе…

Апазыцыі БНФ не ўдалося ўтрымаць Беларусь ад далучэньня да сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД, што паставіла крыж на беларускім нэўтралітэце і на дзесяцігодзьдзі замацавала краіну ў арбіце вайсковых інтарэсаў Масквы.

Праз чвэрць стагодзьдзя мала хто прыгадае, што тэма калектыўнай бясьпекі была адной з галоўных тэмаў палітычнага жыцьця 1993 году. Аднак змаганьне супраць далучэньня да ДКБ мела як мінімум адзін бясспрэчны вынік: у грамадзкай сьвядомасьці трывала замацавалася перакананьне, што беларускія вайскоўцы не павінны гінуць за чужыя інтарэсы па-за межамі Бацькаўшчыны. З таго часу ніводзін палітык, якой бы арыентацыі ён ні быў, не наважыўся паставіць пад сумнеў гэтую ісьціну.

Не паставіў яе пад сумнеў і Аляксандар Лукашэнка, хоць за дзесяцігодзьдзі ягонага прэзыдэнцтва Беларусь цесна прывязалася да ваенна-прамысловага комплексу Расеі. Чаго толькі не было ў сфэры вайсковага супрацоўніцтва Масквы і Менску: і стварэньне агульнай сыстэмы супрацьпаветранай абароны, і супольныя манэўры, і пралянгацыя дамоваў на разьмяшчэньне на тэрыторыі Беларусі расейскіх аб'ектаў, і дэбаты вакол патэнцыйнага зьяўленьня новых расейскіх базаў. Самы «верны саюзьнік» Беларусі, Расея ўдзельнічала ў розных войнах ды вайсковых апэрацыях — ад Данбасу да Сырыі.

Дый афіцыйны Менск у гады прэзыдэнцтва Лукашэнкі мог бы сфармаваць батальён у складзе міратворчых сілаў ААН — я перакананы, што

такая прапанова была б з удзячнасьцю прынятая і палепшыла б адносіны з Захадам.

Але магчымасьць удзелу беларускіх вайскоўцаў у баявых дзеяньнях ніколі не ўзьнікала як патэнцыйная рэальнасьць — гэта тая чырвоная рыса, пераступіць якую Лукашэнка сабе не дазваляе.

І мне падаецца, што дыскусіі ў Авальнай залі ўвесну 1993 году паўплывалі на гэта.

***Сяргей Антончык*** *(Ясенінская выбарчая акруга № 317, Менск): Выклікае трывогу дзейнасьць расейскай разьведкі, дакладней агентаў расейскага КГБ ва ўрадавых і дыпляматычных установах Беларусі. Нядаўна амэрыканскай службай бясьпекі была выяўлена і раскрыта дзейнасьць двух расейскіх агентаў КГБ у Беларускім прадстаўніцтве Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Ёрку. Незразумела, што за шпіёнскія зьвесткі патрэбны былі расейскаму ведамству ў Беларускім прадстаўніцтве... Нельга не заўважыць мэтанакіраванай працы ўраду і пракамуністычнай часткі дэпутацкага корпусу на зьнішчэньне асноў нашай дзяржаўнасьці, такіх інстытутаў, як грамадзянства, дзяржаўная мова, сымбалі дзяржавы... Мой дэпутацкі запыт міністру замежных спраў спадару Краўчанку: па якіх крытэрыях сфармаваны цяперашні кадравы склад прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у ААН і кадравы склад іншых дзяржаўных прадстаўніцтваў Беларусі за мяжой? Запыт да старшыні КДБ спадара Шыркоўскага: хто з членаў і супрацоўнікаў Ураду Беларусі супрацоўнічае са службамі бясьпекі чужых дзяржаў, у прыватнасьці Расеі? Такія зьвесткі ў КДБ ёсьць. Прашу прадставіць у поўным аб'ёме.*

*Выступ у «Розным»*

## ЯК МЫ НЯ СТАЛІ МІНІСТРАМІ І ПАСЛАМІ

— Як у цябе адносіны з супрацоўнікамі МЗС? — неяк запытаўся ў мяне Валянцін Голубеў.

— Ды ніякіх адносінаў, я там рэдка бываю.

І сапраўды — я ўжо не працаваў у парлямэнцкай камісіі па галоснасьці і правах чалавека, быў шараговым дэпутатам, у мяне не было ніякіх асаблівых справаў да супрацоўнікаў МЗС. Затое, як высьветлілася, у іх была да мяне вялікая цікавасьць.

— Карацей, каб ведаў: пасьля словаў Краўчанкі яны ўспрымаюць нас з табой як канкурэнтаў, — патлумачыў Валянцін. — Баяцца, што зоймем іх пасольскія месцы.

1993 год быў годам сапраўднага міжнароднага прарыву Беларусі. Менск наведвалі прэзыдэнты, сьпікеры парлямэнтаў і прэм’еры, у ліпені Станіслаў Шушкевіч паляцеў у Вашынгтон і сустрэўся ў Белым Доме з прэзыдэнтам ЗША Білам Клінтанам. Дэлегацыю Шушкевіч зрабіў выключна намэнклятурную, не запрасіўшы нікога з членаў міжнароднай парлямэнцкай камісіі — дэпутатаў БНФ. Але Шушкевіч, да ягонага гонару, узяў генэральнага дырэктара «Белапану» Алеся Ліпая, і першую сустрэчу кіраўніка незалежнай Беларусі з амэрыканскім прэзыдэнтам асьвятляў кіраўнік незалежнага інфармацыйнага агенцтва.

Дыпляматычныя адносіны зь дзясяткамі краінаў сьвету Беларусь усталявала яшчэ ў 1992 годзе, тады зьявіліся амбасады ЗША, Францыі, Польшчы, Нямеччыны, Турэччыны, а ў 1993-м колькасьць дыпляматычных місіяў павялічылася.

Зь некаторымі амбасадарамі я пасябраваў (наколькі можна назваць гэтым словам адносіны зь людзьмі, старэйшымі за цябе амаль у два разы).

У пачатку 1993-га я набыў аўтамабіль, старэнькую міцубісі, якую часам разганяў да недазволенай лічбы на сьпідомэтры па праспэкце на шляху ў сваё Ўручча — але яшчэ хутчэй імчаў і абганяў мяне чырвоны кабрыялет, кіроўца махаў мне рукой, і я пасьпяваў разгледзець італьянскага амбасадара Джанлюка Бэртынэта — ну а твар бляндынкі хавала хваля валасоў, якія разьвіваліся, як сьцяг над тасканскай кампанэлай. Гэта дзякуючы Джанлюку я ўпершыню паглядзеў «Рым» Фэліні (ён даў відэакасэту), а ўвосень 1993-га ён распавядаў мне пра тое, як уся Італія разьвітвалася з геніяльным кінарэжысэрам.

Амбасадар Турэччыны Тансу Акандан зьдзіўляў мяне веданьнем самых дробных дэталяў палітычнай «кухні» Беларусі — здавалася б, дзе тая Анкара, а дзе Менск, што нагэтулькі ўжо можа цікавіць далёкую краіну ў нашых справах?

Пасла Францыі Клёда Жаліфа разам з жонкай я запрашаў у Віцебск, яны гасьцявалі ў маіх бацькоў. Пазьней у сваіх мэмуарах спадарыня Ані Жаліф напісала, што была зьдзіўленая маёй ацэнкай кампаніі Напалеона, якая цалкам выпадала са звыклай для нашых шыротаў канцэпцыі расейска-францускай вайны. На Ўсьпенскай горцы я паказваў гасьцям з аднаго боку — помнік вайне 1812 году, з другога — будынак КДБ, былы губэрнатарскі палац, дзе Напалеон спыняўся і абдумваў, ці не прыпыніць кампанію і не зазімаваць у Віцебску: «Рушыў далей, на Маскву — а мог бы застацца і аднавіць на завяваных землях Вялікае Княства Літоўскае».

Мы з Галяй часта бывалі ў рэзыдэнцыях у нашых сяброў-амбасадараў у Драздах — Бэртынэта засталася былая дача старшыні КДБ, Анкадану — загадчыка нейкага аддзелу ЦК, а Жаліфу — сакратара па ідэалёгіі. Апошні асабняк межаваў з участкам, дзе стаяла былая дача Машэрава; Шушкевіч адмовіўся там сяліцца. Аднойчы, калі ўжо Лукашэнка быў прэзыдэнтам, ён прымаў Жаліфа і, сярод іншага, выказаў яму папрок, што ў яго занадта часта бывае апазыцыянэр Навумчык. «І не аспрэчвайце, я сам бачыў праз шчыліну ў плоце!» — заявіў прэзыдэнт амбасадару.

Адкрывала і Беларусь свае дыпляматычныя місіі ў замежжы, хоць і зь вялікімі цяжкасьцямі — Масква не прызнавала долю былых савецкіх рэспублік у нерухомасьці СССР за мяжой, і даводзілася набываць будынкі па рынкавым кошце (ЗША пайшло на абмен: яны нам — офіс ў Вашынгтоне, мы ім — у Менску).

У справе ўсталяваньня міжнародных дачыненьняў Беларусі станоўчую ролю адыграў тагачасны міністар замежных спраў Пятро Краўчанка. Я цяпер не ацэньваю ягоныя дзеяньні на пасадзе сакратара Менскага гаркаму партыі (ён кіраваў агітацыйнай кампаніяй супраць моладзевых суполак і новаўтворанага Народнага Фронту), ні пазьнейшую ягоную службу пры Лукашэнку. Не ацэньваю і ягоныя мэмуары, дзе, на маё перакананьне, пададзеныя не заўсёды дакладныя факты пра БНФ і дэпутацкую апазыцыю. У першыя гады беларускай незалежнасьці Краўчанка імкнуўся максымальна пашырыць вядомасьць Беларусі ў сьвеце, не заўсёды сустракаючы пры гэтым падтрымку Кебіча і Шушкевіча. З Шушкевічам у яго ўвогуле былі канфліктныя

адносіны, раз-пораз яны выліваліся на парлямэнцкую трыбуну.

Менавіта Краўчанка выбіраў кандыдатуры амбасадараў — потым яны заслухоўваліся на пасяджэньні камісіі ў міжнародных справах і ў выпадку станоўчай рэкамэндацыі зацьвярджаліся на Прэзыдыюме Вярхоўнага Савету. У 1993 годзе штат МЗС ужо налічваў некалькі дзясяткаў чалавек. І хоць супрацоўнікаў з прафэсійнай дыпляматычнай адукацыяй (выпускнікоў Маскоўскага інстытуту міжнародных адносінаў) там была нязначная частка, але ў іх ужо быў пэўны досьвед працы. І, канешне, ці ня кожны марыў пра пасаду пасла.

Ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла — найвышэйшы для дыпляматаў. Канешне, ёсьць кіраўнік зьнешнепалітычнага ведамства — міністар і яго намесьнікі, але і ім прысвойваецца такі ранг. Звычайна да гэтага ідуць дваццаць ці нават трыццаць гадоў па добрым дзясятку приступак дыпляматычнай лесьвіцы. А тут, з утварэньнем новай дзяржавы, раптоўна ўзьнікла патрэба цягам бліжэйшых гадоў запоўніць некалькі дзясяткаў вакансій — неверагодныя кар’ерныя магчымасьці!

І, адначасна, зьявіліся людзі па-за межамі МЗС, якія маглі заступіць на гэтыя вакансіі. Прычым цалкам у адпаведнасьці з традыцыямі дыпляматыі.

Я маю на ўвазе тых, каго прынята называць «палітычнымі прызначэнцамі».

Былыя міністры, дэпутаты, кіраўнікі рэгіёнаў, партыйныя лідэры, актывісты выбарчых штабоў, нарэшце, навукоўцы, пісьменьнікі і нават акторы, ці асобы, якія адным сваім прозьвішчам сымбалізуюць краіну (як дачка прэзыдэнта Кенэдзі) — у розных дзяржавах і ў розныя часы рабіліся пасламі.

Такая практыка вельмі распаўсюджаная ў Злучаных Штатах, і вельмі часта ў найбольш важныя для зьнешняй палітыкі краіны прызначаюцца якраз не прафэсійныя дыпляматы. Што, канешне, ня можа падабацца дыпляматам кар’ерным.

Асобны выпадак — краіны, у якіх зьмяніўся рэжым або якія ўвогуле ўпершыню зьявіліся на мапе сьвету. Іх прэзыдэнты накіроўваюць у сталіцы сусьветнай палітыкі тых, хто сымбалізуе сваёй біяграфіяй перамены ці новаўтвораную краіну.

І калі ў 1992 годзе ў Канаду новым паслом быў прызначаны дэпутат Вярхоўнай Рады Ўкраіны Ляўко Лук’яненка — канадыйскім палітыкам ня трэба было ніякіх іншых доказаў пра зьмены ў Кіеве: цягам 26 гадоў, якія Лук’яненка, асуджаны на расстрэл за патрабаваньне аддзяленьня ад СССР, украінская дыяспара ладзіла акцыі ў ягоную падтрымку. (У дужках заўважу, што мы страцілі на тыя гады ўдзельніка канфэрэнцый Балта-Чарнамоскага рэгіёну; пан Ляўко ўдзельнічаў у самай першай, у Менску увосень 1990-га).

У Беларусі не было радыкальных дэмакратычных рэформаў — але гэта была новаўтвораная краіна, і тут таксама спрацаваў прынцып палітычных прызначэньняў.

У Беларусі пік адкрыцьця дыпляматычных місіяў і, адпаведна, прызначэньня іх кіраўнікоў прыйшоўся на час, калі ва ўладзе ўжо быў Лукашэнка, і я налічыў дзясятак прызначаных пасламі былых калег па Вярхоўным Савеце XII скліканьня, якія атрымалі пасольскія пасады: былыя старшыня КДБ, старшыня аблвыканкаму, сакратары гаркамаў і райкамаў. Прычым чым больш дэмакратычная была краіна — тым больш пракамуністычная біяг-

рафія была ў новасьпечанага дыплямата. Ну што ж, таксама спосаб прадэманстраваць сьвету вэктар палітычных зьменаў.

Але за часамі Краўчанкі толькі адзін ці два былыя партыйныя сакратары былі прызначаныя пасламі — ён разумеў, што кандыдатуры трэба браць ня толькі з намэнклятурнай абоймы.

Прадстаўніком Беларусі ў Ізраіль паехаў дэпутат, сябра Дэмклюбу Міхаіл Фарфель, пасада генэральнага консула ў Гданьску была прапанаваная дэпутату БНФ Міколу Маркевічу. Дэпутатка Апазыцыі БНФ Вольга Галубовіч паступіла ў дыпляматычную акадэмію, як і старшыня камісіі па справах моладзі, сябра Дэмклюбу Валеры Курдзюкоў (ён склаў свае паўнамоцтвы, і прыхільнікі дэмакратычных пераменаў страцілі ў Прэзыдыюме яшчэ адзін голас).

У адным са сваіх інтэрвію Краўчанка сказаў, што ўважліва прыглядаецца да некаторых дэпутатаў, і назваў Вольгу Галубовіч, Валянціна Голубева, мяне, здаецца, Уладзімера Новіка.

Было сказана, што толькі «прыглядаецца», але і гэтага хапіла, каб супрацоўнікі апарату МЗС зрабілі далекасяжныя высновы.

Аднойчы ў 1992 годзе на прыёме ў гонар дня незалежнасьці Турэччыны, у прысутнасьці амбасадара Тансу Акандана, ці то намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Васіль Шаладонаў, ці то сам Пётра Краўчанка мяне назвалі як магчымага будучага кіраўніка дыпляматычнай місіі ў Анкары. Сказана гэта было, як мне падавалася, паўжартам — таму і адказаў я ў такім самым тоне, дадаўшы, што ня ведаю турэцкай мовы. Потым я даведаўся, што такога кшталту заявы з вуснаў кіраўнікоў краіны

ўспрымаюцца сур'ёзна — магчыма, зьвесткі пра тую размову дайшлі да супрацоўнікаў МЗС.

Але дарэмна беларускія дыпляматы бачылі ўва мне канкурэнта. Я сапраўды лічыў, што для працы на такой пасадзе трэба добра ведаць замежныя мовы, да вывучэньня якіх у мяне ніколі не ляжала сэрца. Адзінай сталай тэмай натацыі майго бацькі ў дзяцінстве да мяне было — «Вучы ангельскую мову!», што я настойліва ігнараваў. Бацька, будучы спачатку на камсамольскіх, а потым на партыйных пасадах, часам выяжджаў у складзе дэлегацый у замежжа і, канешне, адчуваў сябе няёмка побач з тымі, хто мовай валодаў (хоць мовы ведалі або прафэсійныя перакладчыкі, або тыя, чыё сапраўднае месца працы было ў «кампэтэнтнай» установе). Тое самае было і ва ўнівэрсытэце — як ні імкнулася наша выкладчыца Ірына Ўхванава (між іншым, дачка члена дэлегацыі БССР пры заснаваньні ААН Фрола Шмыгава) прывіць мне цікавасьць да мовы Шэксьпіра, яе намаганьні разьбіваліся аб маё ўпартае нежаданьне. Магчыма, таму, што не было і стымулу: карэспандэнцкіх пунктаў у замежжы ў беларускіх газэтаў не існавала, у найлепшым выпадку ў Лёндан я б выбраўся ў тыднёвую турыстычную паездку, ну а чытаць пра змаганьне лёнданскіх рабочых за свае правы ў газэце брытанскіх камуністаў «Morning star» было нецікава. Ніякіх «New York Times», «Newsweek» альбо «Independent» мы і ў вочы ня бачылі.

Калі б я вельмі захацеў і пачаў рабіць нейкія канкрэтныя крокі — думаю, дыпляматычная кар'ера была б цалкам рэальнай, тым больш што зь міністрам Краўчанкам, нягледзячы на нашы палітычныя разыходжаньні, у мяне былі вельмі

добрыя адносіны. Праўда, і цану за гэта давялося б заплаціць вялікую, палітычную: няўдзел у Апазыцыі БНФ, адмаўленьне ад якой бы то ні было крытыкі Кебіча, а гэта для мяне было абсалютна непрымальна. І ня толькі для мяне аднаго.

Так, увосень 1992 году дэпутату Апазыцыі БНФ Міколу Маркевічу перад прызначэньнем на пасаду генконсула ў Гданьску настойліва парэкамэндавалі не падпісваць заяву Апазыцыі БНФ ў сувязі з адмоўным рашэньнем Вярхоўнага Савету наконт рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах. Мікола нашу заяву падпісаў, і ў Гданьск паехаў іншы.

Іншая пазыцыя была ў Вольгі Галубовіч. Пасьля паступленьня ў дыпляматычную акадэмію яна дыстанцыявалася ад апазыцыі, была вельмі абачлівай у выступах на сэсіі, не падпісвала нашых заяваў. Шушкевіч запрашаў яе на сустрэчы з прэзыдэнтамі, якія пачалі наносіць візыты ў Беларусь і, памятаю, у адным з інтэрвію яна сказала нешта кшталту таго, што яе «рыхтуюць» для высокай місіі. Мы не сказалі ёй ні слова папроку.

Больш за тое, выбар Вольгі, як і выбар Валерыя Курдзюкова, быў варты павагі: яны маглі б дамагацца прызначэньня пасламі адразу, іх пазыцыі ў Вярхоўным Савеце давалі ім такія магчымасьці — але яны пайшлі вучыцца, вучыцца фактычна новай для сябе, дыпляматычнай прафэсіі.

Дыпляматычную акадэмію яны скончылі, калі ва ўладзе ўжо быў Лукашэнка, і іх абаіх прызначылі на шараговыя пасады. Курдзюкову спатрэбілася 20 гадоў дыпляматычнай кар’еры, перш чым ён стаў паслом; ня ведаю, з чым гэта зьвязана — на момант напісаньня гэтай кнігі мне зь ім сустрэцца не давялося. А Вольга паехала ў беларускую амбасаду ў

Лёндан. Калі мы з Пазьняком ў ліпені 1996-га былі ў Вялікай Брытаніі, айцец Аляксандар Надсан патэлефанаваў у амбасаду і папрасіў перадаць Вользе, што мы ў яго, і калі яна хоча, маглі б сустрэцца. Зваротнага званка мы не атрымалі. Потым, наколькі ведаю, Вольга выйшла замуж у Вялікай Брытаніі. Канешне, я жадаю ёй самага лепшага ў жыцьці, як і ўсім маім калегам па апазыцыі. У маёй памяці яна застанецца такою, як на вядомым гістарычным здымку: побач з Пазьняком і Голубевым пад бел-чырвона-белым сьцягам у першы дзень Сэсіі Незалежнасьці ў жніўні 1991-га.

Словам, перад дэпутатамі, у тым ліку і апазыцыі, адчыняліся шырокія дыпляматычныя магчымасьці. Але мы разумелі, што ў прапановах, акрамя жаданьня як найлепш прадставіць Беларусь, быў і іншы разьлік: імкненьне нэўтралізаваць апазыцыйных дэпутатаў і колькасна зьменшыць апазыцыю.

У тым самым 1993 годзе мы ўжо ня мелі «свайго» дэпутата ў Прэзыдыюме Вярхоўнага Савету — старшыня камісіі па міжнародных справах і зьнешнеэканамічных сувязях, дэпутат Апазыцыі БНФ Пётра Садоўскі яшчэ за год да таго склаў зь сябе паўнамоцтвы кіраўніка камісіі і, адпаведна, члена Прэзыдыюму, паколькі быў прызначаны амбасадарам у Нямеччыну.

Але гэта быў той — магчыма, адзіны — выпадак, калі лепшай кандыдатуры для кіраўніка дыпляматычнай місіі ня тое што знайсьці, але і прыдумаць было немагчыма.

## Botschafter Sadowski

Калі ў пачатку 1980-х я вучыўся на журфаку, на іншым курсе беларускую мову выкладаў Пётра Садоўскі. Ён зьяўляўся на факультэце толькі на свае лекцыі, заўсёды імпазантны, востры на слоўца, і, як казалі, вельмі патрабавальны на іспытах. Бог мілаваў — залікі я здаваў не яму. Але прываблівала, што, як казалі, у жыцьці Садоўскі таксама размаўляў па-беларуску, што сярод нашых выкладчыкаў было рэдкасьцю.

Выпускніка Суворaўскай вучэльні і Інстытуту замежных моваў (ня ведаю нікога іншага з такім спалучэньнем), Садоўскага можна было ўбачыць і на тэлебачаньні ў праграме, адмыслова прысьвечанай беларускай мове, ён быў старэйшым таварышам у «Майстроўні» (цікаўных адсылаю да кнігі Сяргея Дубаўца «Гісторыя аднаго цуду», якая выйшла ў Бібліятэцы Свабоды). Зусім натуральна Садоўскі ўвайшоў ва ўтвораны 19 кастрычніка 1988 году Аргкамітэт БНФ, а потым быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савету.

Пётра неяк знайшоў вызначэньне стану, у якім мы знаходзіліся ў пачатку 1990-х гадоў: «Мы былі гістарычна шчасьлівыя». Я ня ведаю больш дакладных словаў.

Ён быў адзіным дэпутатам БНФ, якога нам удалося правесьці на пасаду старшыні камісіі Вярхоўнага Савету і, адпаведна, члена Прэзыдыюму. Садоўскі ўзначальваў камісію па міжнародных справах і зьнешнеэканамічных сувязях, значнасьць якой шматкроць павялічылася з дасягненьнем незалежнасьці. Але куды больш важным для нас было ягонае членства ў Прэзыдыюме — гэта была

магчымасьць і ўплыву на пэўныя рашэньні, і атрыманьня інфармацыі, вельмі часта недаступнай для «простых» дэпутатаў.

Але ў Прэзыдыюме ня толькі Садоўскі меў дэмакратычныя перакананьні. Назаву Аляксандра Саснова, які ўзначальваў камісію па сацыяльных пытаньнях, старшыню камісіі па міжнацыянальных сувязях Міхаіла Сьлямнёва, раней згаданага кіраўніка камісіі па справах моладзі Валерыя Курдзюкова, якія збольшага падтрымлівалі на пасяджэньнях Станіслава Шушкевіча. Увогуле, найбольшым прыхільнікам Шушкевіча быў Ніл Гілевіч. Але пры бясспрэчнай адданасьці ідэі нацыянальнага адраджэньня, Гілевіч вельмі рэдка падтрымліваў палітычныя ініцыятывы БНФ, часьцей — выступаў супраць, і пры кожнай зручнай магчымасьці даваў станоўчыя ацэнкі камуністам.

Так што абсалютна пэўную «франтаўскую» пазыцыю ў Прэзыдыюме займаў толькі Пётра Садоўскі.

Але летам 1992 году Садоўскі быў прызначаны амбасадарам у Нямеччыне, зрабіўшыся, такім чынам, адным зь першых амбасадараў незалежнай Беларусі.

Садоўскі раіўся з Пазьняком, але лідэр БНФ без асаблівага энтузіязму ўспрыняў будучае прызначэньне: Народны Фронт страчваў стратэгічна важнае месца ў Прэзыдыюме, якое зь вялікімі намаганьнямі атрымаў у 1990 годзе. Падобнае стаўленьне ў лідэра БНФ было і да іншых магчымых пераходаў дэпутатаў апазыцыі ў сыстэму МЗС, хоць ступень іх рэальнасьці была рознай.

Фармальна Садоўскі пайшоў на паніжэньне — як старшыня камісіі і член Прэзыдыюму ён быў

вышэйшы за міністра, а зрабіўшыся кіраўніком дыпляматычнай місіі, быў абавязаны выконваць распараджэньні намесьнікаў міністра.

Але пасада пасла — магчыма, адзіная ў катэгорыях дзяржаўных пасадаў, да якой нельга прымяніць традыцыйную кар’ерную схему.

Пасол, ці, як у нас яго ўсё часьцей называюць, амбасадар — гэта надзвычайная пазыцыя ў дзяржаўнай структуры (ён і завецца — «Надзвычайны і Паўнамоцны», зь вялікіх літараў). У сусьветнай практыцы пасламі прызначаюцца і былыя міністры, і нават прэм’еры. Пажыцьцёва надаецца дыпляматычны ранг.

Але, мяркую, зусім не рэгаліі былі важныя для Садоўскага, і бяз гэтага ягоная пасада старшыні парлямэнцкай камісіі была надзвычай высокай у новай дзяржаўнай структуры наваўтворанай краіны. Яму, германісту, перакладчыку зь нямецкай, дзесяцігодзьдзямі зьвязанаму з вывучэньнем Нямеччыны, канешне, хацелася максымальна рэалізавацца на пасадзе, лепей за якую для гэтага пакліканьня не было. Ён меў на гэта поўнае маральнае права і, я перакананы, быў найлепшым кандыдатам з усіх магчымых.

У сваёй кнізе «Мой шыбалет», якая ў 2008 годзе выйшла ў Бібліятэцы Свабоды, Садоўскі піша, што супраць прызначэньня на пасаду амбасадара быў старшыня КДБ Эдуард Ширкоўскі — зь невядомай для яго, Садоўскага, прычыны. Думаю, прычына ясная: КДБ хацеў мець амбасадарам кагосьці са «сваіх» людзей, а зусім не актывіста БНФ. Але ў дадзеным выпадку шэфу чэкістаў давялося зьмірыцца: хоць кандыдатура амбасадара і ўзгадняласа з КДБ, але прызначаў і надаваў дыпляматычны

ранг Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету (таму, дарэчы, прызначэньне Садоўскага не было прэрагатывай Кебіча, хоць кіраўнік ураду, безумоўна, таксама мусіў даць сваю згоду).

Вось як прыгадвае амбасадарства сам Садоўскі:

«...Паводле лёгікі, я мусіў скласьці дэпутацкія паўнамоцтвы і пайсьці працаваць выключна ў Міністэрства замежных справаў на дзяржаўную службу. У ведамстве фэдэральнага канцлера, у Міністэрстве замежных справаў Нямеччыны, у сакратарыяце міністра і ў «Рэфэраце 203», які адказваў за тэхнічны бок стасункаў з Рэспублікай Беларусь, доўгі час не маглі прывыкнуць, калі амбасадар Беларусі, закончыўшы выклад афіцыйнага пункту погляду Савету міністраў, казаў: “А зараз я хацеў бы выказаць меркаваньне апазыцыі ў Вярхоўным Савеце…” Слухалі, дарэчы, гэтыя заўвагі часам з большай увагай, чым афіцыйны пункт погляду, бо на пачатку дзевяностых гадоў Нямеччына толькі прыглядалася да Беларусі, намацвала падыходы да адносінаў з новай сувэрэннай краінай у цэнтры Эўропы» ( «Мой шыбалет», с. 299–300).

Канешне, дыпляматычная дзейнасьць Пётры Садоўскага была надзвычай істотнай для завязваньня адносінаў маладой дзяржавы з флягманам эўрапейскай палітыкі. Сама ягоная асоба — інтэлектуала, дзеяча нацыянальнага адраджэньня, паказвала немцам, што перамены ў Беларусі калі яшчэ і не адбыліся — дык цалкам магчымыя.

Але надышлі іншыя часы, і ўвосень 1994 году Садоўскі быў адкліканы з пасады амбасадара. Ён вярнуўся да актыўнай дэпутацкай працы ў Вярхоўным Савеце.

І калі ўзгадваюць, што ў ноч з 11 на 12 кастрычніка 1995 году ў Авальнай залі былі зьбітыя 19 дэпутатаў Апазыцыі БНФ, удзельнікі галадоўкі за Сьцяг, Герб і Мову — кажуць ня ўсю праўду: сярод іх быў і адзін Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь.

## Без міністэрскіх крэслаў

І тут я вымушаны прыгадаць меркаваньні, якія пачалі гучаць пазьней — што трэба было пайсьці на супрацоўніцтва з Кебічам. Некаторыя наўпрост папракаюць — чаму Пазьняк, дэпутаты Апазыцыі БНФ не прынялі прапановы Кебіча заняць пасады ва ўрадзе?

Тэзіс пра тое, што Народны Фронт адмаўляецца ад прапановаў пасадаў ва ўрадзе быў запушчаны яшчэ ў пачатку 90-х гадоў, ці не адразу, як БНФ правёў сваіх прадстаўнікоў у Вярхоўны Савет. «Чаму яны (апазыцыянэры — С. Н.) не адгукаюцца на прапановы кантактаваць, калі ім прапаноўваюць месцы ва ўрадзе: ідзіце, працуйце — у Міністэрства гандлю, у сельскую гаспадарку. Там даказвайце, што вам не патрэбная рублёвая зона, што вы абыдзецеся бяз сувязяў з суседзямі. Дык жа не жадаюць. Таму што, увайшоўшы ў склад ураду, прыйдзецца адказваць. Куды прасьцей пастаяць ля мікрафона, абвінаваціць усіх і ва ўсім, пашумець, памітынгаваць», — заявіў Сяргей Гайдукевіч у інтэрвію газэце «Рэспубліка» 4 лістапада 1993 году.

У наступныя гады я такіх цьверджаньняў чытаў дзясяткі.

Як можна ацэньваць дзеяньні палітычнай арганізацыі, якая адмаўляецца ўвайсьці ва ўрад?

Такое адбываецца рэгулярна ў розных краінах і ў розныя часы. Часам лідэры, чые партыі не ўзялі на выбарах большасьць, адхіляюць такія прапановы з ідэалягічных меркаваньняў (калі кіруючая партыя спавядае дыямэтральна іншыя, непрымальныя пастуляты), часам — зь меркаваньняў тактычных (напрыклад, калі супольны ўдзел ва ўрадзе можа скампрамэтаваць у вачах выбаршчыкаў).

У выпадку з Народным Фронтам было і першае, і другое. Аднак магчымы і трэці варыянт: калі ў выніку адмовы ад кааліцыі да ўлады прыходзіць нейкая іншая, трэцяя сіла, і гэта мае вельмі кепскія наступствы для грамадзтва (менавіта такім чынам, калі Сталін забараніў нямецкім камуністам дамаўляцца з сацыял-дэмакратамі, быў адкрыты шлях да ўлады Гітлеру). Пры такім раскладзе ацэнка нежаданьня апазыцыі ўвайсьці ва ўрад, найхутчэй, павінна быць адмоўнай.

Калі разглядаць падзеі 1993 году ў гістарычнай пэрспэктыве, дык, падаецца, ацэнка адмовы аб’яднацца з уладай павінна выглядаць таксама нэгатыўнай.

Які бы ні быў Вярхоўны Савет, але ўсё ж ён меў элемэнты парлямэнту (у адрозьненьне ад таго ўтварэньня, якое займе Авальную залю пры Лукашэнку), і дэмакратычныя, нацыянальныя сілы былі ў ім прадстаўленыя.

Які бы недэмакратычным і прарасейскім ні быў Кебіч і ягоны ўрад — аднак зьніклых палітыкаў пры ім не было і міліцэйскія дубінкі для разгону мітынгаў не прымяняліся (дый не разганяліся тыя мітынгі).

У пачатку 90-х у Беларусі прысутнічалі пэўныя грамадзянскія свабоды, апазыцыя магла дамагчыся,

хай і рэдка, доступу ў сродкі масавай інфармацыі; нарэшце, над краінай лунаў бел-чырвона-белы сьцяг і «Пагоня» была дзяржаўным сымбалем. Нічога гэтага ня будзе пры Лукашэнку. Чаму б не пагадзіцца на прапановы тады, у пачатку 90-х? Маглі б зрабіць значна больш, чым зрабілі, будучы толькі ў Вярхоўным Савеце.

Аднак ніякай адмовы БНФ увайсьці ва ўрад ці заняць кіруючыя пасады ў міністэрствах не было з той простай прычыны, што ніколі і не было такіх прапановаў.

У часе працы над гэтай кнігай я наўпрост запытаўся Зянона Пазьняка, разумеючы, што, магчыма, ня ўсё ведаю ці на нешта забыўся. Не, не забыўся. Пазьняк пацьвердзіў, што Кебіч ніколі не прапаноўваў ні яму, ні каму-небудзь іншаму з БНФ ніякіх пасадаў ва ўрадзе — ні віцэ-прэм’ерскіх, ні міністэрскіх, ні пасады намесьнікаў міністраў. Не было прапановаў заняць пасады і ў выканаўчых органах рэгіёнаў.

Толькі мне ў чэрвені 1992 году было прапанавана заняць пасаду генэральнага дырэктара «Белінфарму» (былое і будучае «БелТА»), ад чаго я быў вымушаны адмовіцца, паколькі пры наяўнасьці недэмакратычных кіраўнікоў іншых дзяржаўных СМІ карысьць ад мяне была б мізэрнай (да таго ж, я быў сакратаром парлямэнцкай камісіі па СМІ, там, як мне падавалася, можна было прынесьці больш карысьці). Дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Слабчанка ў выніку размовы Пазьняка з Кебічам быў прызначаны кіраўніком Дзяржзнаку, што для нас было стратэгічна важна дзеля неабходнасьці стварыць уласныя грошы.

Вось і ўсё. Безумоўна, калі б Кебіч прапанаваў, напрыклад, узначаліць сыстэму адукацыі і культуры — ніхто з актывістаў Народнага Фронту не адмовіўся б пайсьці ў адпаведныя міністэрствы (працаваў жа Лявон Баршчэўскі намесьнікам дырэктара гуманітарнага ліцэю). Але — не прапаноўваў. Наадварот — калі ў тым самым 1993 годзе мы прапанавалі сваіх кандыдатаў на «інфармацыйны блёк» (прычым ня сябраў БНФ) — Кебіч адмовіўся.

Кебіч і ягонае бліжэйшае атачэньне запрашалі ў структуры ўраду толькі тых асобаў ня зь ліку намэнклятуры, хто мог перайсьці цалкам, да канца, «з вантробамі» на іх бок. Так было з дэпутатам Мікалаем Скарыніным, які ў 1990–91 нібыта сымпатызаваў ідэям дэмакратыі, а зрабіўшыся галоўным дарадцам старшыні Саўміну (так называлася пасада), выступаў за палітычнае аб’яднаньне з Расеяй.

Кіраўнікамі міністэрстваў ад самага пачатку працы Вярхоўнага Савету XII скліканьня прызначаліся былыя работнікі апарату камуністычнай партыі. Зь ліку дэпутатаў міністрам замежных спраў быў прызначаны колішні сакратар Менскага гаркаму КПБ Пётра Краўчанка (паводле Канстытуцыі, ён быў абавязаны пакласьці дэпутацкі мандат, што і зрабіў), некалькі дэпутатаў зь ліку былых партработнікаў былі прызначаныя намесьнікамі розных міністраў. Ніхто з БНФ або дэмакратычных партыяў на такія пасады прызначаны ня быў, нікому з БНФ яны не прапаноўваліся.

Увогуле, маючы фракцыю ў Вярхоўным Савеце, Народны Фронт ня меў ніводнага (падкрэсьліваю — ніводнага) прадстаўніка ў структурах выканаўчых органаў улады — ня толькі ва ўрадзе, але і ў рэгіянальных, абласных, гарадзкіх і раён-

ных выканкамах (за выключэньнем прыгаданага Слабчанкі). Намэнклятура пільна за гэтым сачыла і маналітна трымала ўладу.

І бадай галоўнае: Кебіч і ягонае атачэньне ў 1993 годзе адкрыта сталі на прарасейскія пазыцыі, працавалі калі не на ліквідацыю незалежнасьці краіны, дык істотна затарможвалі ўмацаваньне сувэрэнітэту. І менавіта падтрымка Кебічам праімпэрскіх сілаў дала Васілю Быкаву права ўжыць слова «ворагі» — куды больш экспрэсіўнае слова, чым, да прыкладу, «апанэнты».

А з ворагамі ў палітыцы трэба змагацца.

***Міхаіл Качан*** *(Беларуская рэспубліканская арганізацыя вэтэранаў вайны і працы): Второй съезд партии коммунистов Беларуси сделал обращение к 12-й сессии Верховного Совета Республики Беларусь. «Обращение второго съезда ПКБ — Партии коммунистов Беларуси — (объединенного) к 12-й сессии Верховного Совета Республики Беларусь. Второй съезд Партии коммунистов Беларуси (объединенный) обращает внимание народных депутатов Республики Беларусь на необходимость неотложного рассмотрения вопроса о недопустимости введения свободных цен на продовольствие и товары первой необходимости. Сегодня еще не поздно, по нашему мнению, предотвратить не до конца продуманный шаг, который может привести к социальному взрыву с непредсказуемыми последствиями. Ясно осознавая связь цен с общим состоянием экономики, мы призываем Верховный Совет принять конкретные меры по восстановлению нормальных экономических связей с республиками и регионами бывшего Союза ССР. В противном случае обвальный спад производства, бешеные темпы инфляции, тотальное обнищание большинства населения, стремительный рост безработицы приведут к национальной катастрофе. Делегаты съезда убеждены, что единственный путь избежать этого — через заключение экономического, оборонного и других союзов и соглашений, возродить союзное государство и тем самым выполнить волю народа, выраженную на референдуме 17 марта 1991 года».*

*Выступ у «Розным»*

# БЫКАЎ ВЫСТУПАЕ СУПРАЦЬ ПАМЯРКОЎНАСЬЦІ

Перада мной — тры старонкі машынапісу памерам у палову стандартнага аркуша, ужо пажоўклыя, з праўкамі ад рукі розным чарнілам, што азначае — аўтар некалькі разоў вяртаўся да тэксту. Гэта — выступ Быкава на III зьезьдзе Беларускага Народнага Фронту, які Васіль Уладзімеравіч аддаў мне ў той дзень. Наколькі мне вядома, ён публікаваўся толькі некалькімі фрагмэнтамі.

Між тым, гэта была канцэптуальная прамова, якая ня толькі зафіксавала становішча, у якім знаходзілася беларускае грамадзтва і сам Народны Фронт, але і адказала на найбольш важныя пытаньні ў нацыянальным руху. Я б сказаў нават — шмат у чым вызначыла стратэгію гэтага руху на бліжэйшыя гады.

Перад зьездам Зянон Пазьняк пайшоў да дырэктара Купалаўскага тэатру Івана Вашкевіча, зь якім яны разам (хоць і на розных курсах) вучыліся на акторскім факультэце Тэатральна-мастацкага інстытуту, і папрасіў залю. Вашкевіч пагадзіўся. Ну, а мастацкае аздабленьне ўжо зрабіў аргкамітэт зьезду.

30 траўня было цёпла, я нават не апранаў пінжак — так і праводзіў потым прэсавую канфэрэнцыю ў кашулі. Праўда, пры гальштуку: усё ж падзея вельмі важная.

Асаблівасьць моманту ўсьведамлялі і іншыя дэлегаты, большасьць зь якіх прыехала ў Менск з рэгіёнаў. Апрануліся па-сьвяточнаму. 567 дэлегатаў запоўнілі залю і бальконы.




Галіна Вашчанка і Васіль Быкаў на III зьездзе БНФ.

«Вялікі, шматзначны, амаль сакральны сэнс бачыцца ў тым, што наш III зьезд БНФ сабраўся цяпер у гэтым знакамітым будынку, — пачаў свой выступ Быкаў. — Для самага першага, як вядома, не знайшлося месца на Беларусі, другі адбываўся на краі гораду, затое трэці — у доме, зь якім традыцыйна зьвязана надта многа ў нашай гісторыі і нашай культуры. І тое пра шмат што гаворыць. Найперш пра тое, што наша барацьба ня скончана, што яна ў самай пільніцы, што ворагі нацыі і дзяржавы — побач, што яны ўсё яшчэ не пераможаныя. Хоць і далёка ня ў той моцы-сіле, у якой былі нядаўна, калі хмарным восеньскім днём у Чырвоным

касьцёле жменька беларускіх інтэлігентаў стварала аргкамітэт БНФ. З таго часу мінула багата падзей — горкіх і шчасьлівых, рутынных і трагічных. Нацыя каторы раз атрымала надзею, памкнулася ўстаць з каленяў — да бога і волі, да лепшага людзкага жыцьця. Пуцяводнай зоркай тае надзеі, безумоўна, стаў яе прызнаны палітычны авангард, змагар за шчасьце і волю, наш БНФ».

Прыгадваючы пасяджэньне ў Чырвоным касьцёле 19 кастрычніка 1988 году, калі былі створаныя «Мартыралёг Беларусі» і Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне», Быкаў назваў БНФ палітычным авангардам нацыі. Ён неаднаразова казаў пра неабходнасьць аб'яднаньня дэмакратычных сілаў вакол Фронту — хоць адначасна выказваў шкадаваньне, што разьяднанасьць у прыродзе дэмакратаў, у адрозьненьне ад прыхільнікаў імпэрскай ідэі, якія здольныя аб'ядноўвацца імгненна нягледзячы на рознагалосьсі.

## Не было атмасфэры паразы

Фронт сапраўды быў самай масавай дэмакратычнай арганізацыяй, і нягледзячы на параўнаўча невялікую гісторыю — пяць гадоў — меў у сваім актыве нямала перамог, сярод якіх галоўная — здабыцьцё незалежнасьці. Канешне, гэта было дасягненьнем не аднаго БНФ — незалежнасьць была мэтай некалькіх пакаленьняў нацыянальна арыентаваных беларусаў, якія рыхтавалі глебу для палітычнага рашэньня, дый самому гэтаму рашэньню паспрыялі абставіны, як і зьнешнія, гэтак і ўнутраныя.

Але менавіта БНФ своечасова вылучыў дасягненьне незалежнасьці як галоўную палітычную мэту, здолеў акумуляваць сілы і скарыстаць гістарычны момант.

Звычайна калі гавораць пра дзейнасьць Народнага Фронту, найчасьцей прыгадваюць дэпутатаў. Але Фронт ня быў бы дэмакратычным авангардам, ня меў бы такой масавасьці бяз працы такіх кіраўнікоў і актывістаў, як Юрась Хадыка, Вінцук Вячорка, Валянцін Асташынскі, Валянціна Трыгубовіч, Вера Чуйко, Валер Буйвал, Уладзімер Анцулевіч, Генадзь Банкевіч, Вячаслаў Сіўчык — бяз іх немагчыма ўявіць сабе БНФ у пачатку дзевяностых.

Меў БНФ і паразы, найбольшая прыпадала на папярэдні год, калі ініцыятыва рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах была нерэалізаваная зь віны пракамуністычнай большасьці ў Вярхоўным Савеце.

Тое сапраўды была першая вялікая параза БНФ, і праз дваццаць пяць гадоў, прыгадваючы гэты зьезд у Купалаўскім тэатры, я не магу знайсьці адназначнага адказу на пытаньне, чаму ў залі не было атмасфэры паразы.

Такі настрой быў бы зусім лягічны, бо, па сутнасьці, кіраўніцтва Фронту паставіла на рэфэрэндум усё, ускладала на яго вялікія спадзяваньні, верыла ў тое, што ён адбудзецца, разьлічвала наступныя дзеяньні, сыходзячы з будучых датэрміновых парлямэнцкіх выбараў — і, калі шчыра, ня мела варыянту на выпадак, калі б рэфэрэндум не прызначылі. Проста не ўяўлялася, што парлямэнт можа парушыць закон. А ён — парушыў.

Канешне, былі заявы пра нелегітымнасьць Вярхоўнага Савету, былі звароты да міжнароднай

супольнасьці, але гэта ўжо ня мела практычнага палітычнага значэньня: дэпутаты БНФ былі вымушаныя надалей працаваць у гэтым Вярхоўным Савеце, выкарыстоўваючы ўсе магчымасьці на карысьць нацыянальнага Адраджэньня, адцягваючы наступ аўтакратыі. Напэўна, вось гэтае разуменьне, што няма ніякага іншага выйсьця, як працягваць барацьбу, і было прычынай адсутнасьці апатыі ў дэлегатаў: настрой быў баявы.

## Што было б бяз БНФ

У інтэрвію для гэтай кнігі Вінцук Вячорка, гаворачы пра сабраныя актывістамі БНФ больш як 440 тысячаў подпісаў за рэфэрэндум у 1992-м, сказаў пра іх значнасьць незалежна ад адмоўнага рашэньня Вярхоўнага Савету. «Важна ўведаць, наколькі мацней пачуваліся палітыкі БНФ, маючы за плячыма такую відавочную падтрымку, і колькі ўдалося ім дзякуючы гэтаму зрабіць для замацаваньня яшчэ кволай незалежнасьці», — лічыць Вячорка.

Словы пра «замацаваньне кволай незалежнасьці», на маю думку, тычацца агульнай ацэнкі дзейнасьці Народнага Фронту ў пачатку 1990-х гадоў.

Дзясяткі мітынгаў, пікетаў ды іншых акцый у сталіцы і ў рэгіёнах з патрабаваньнем правядзеньня свабодных выбараў, стварэньня ўласнага войска, адкрыцьця беларускіх школаў, імпрэзы ў гонар гадавінаў важных падзеяў і выбітных асобаў нацыянальнай гісторыі — не прайшлі бясплённа і ролю адыгралі надзвычай важную. Разам з асьветніцкімі высілкамі нацыянальнай інтэлігенцыі, палітычная і культурніцкая дзейнасьць БНФ узьняла грамадства

на значна больш высокі ўзровень нацыянальнага самаасэнсаваньня, прысьпешыла фармаваньне грамадзянскай супольнасьці.

Калі пазьней будуць казаць пра адносную дэмакратызацыю пачатку 1990-х, дык варта разумець, што гарбачоўскай перабудовай «зьверху» быў дадзены толькі імпульс, хоць і вельмі важны — а дэмакратызацыі давялося дамагацца ў супрацьстаяньні з тымі, хто меў рэальную ўладу і ніякіх рэформаў не жадаў.

Каб зразумець ролю тых або іншых асобаў ці палітычных сілаў, варта ўявіць верагоднае разьвіцьцё гістарычнага працэсу бязь іх.

Уявіце сабе пачатак 90-х без рутыннай дзейнасьці актывістаў БНФ — і вы атрымаеце зусім іншае грамадзтва, якое, зусім магчыма, было б няздольнае супраціўляцца аўтарытарызму наступных дзесяцігодзьдзяў.

Прыбярыце з Авальнай залі дэпутатаў Апазыцыі БНФ у 1992–93-х — і вы, найхутчэй, убачыце ліквідацыю пракамуністычнымі дэпутатамі ўсяго, што было дасягнута ў 1991-м.

Вы атрымаеце імгненную адстаўку Шушкевіча, скасаваньне Дэкларацыі аб сувэрэнітэце, дэнансацыю Белавескіх пагадненьняў ды рашэньне аб аб’яднаньні з Расеяй (якое, несумненна, было б падтрыманае Вярхоўным Саветам Расеі і, зусім верагодна, Ельцыным).

Пра такія намеры мы чулі ад нашых апанэнтаў з парлямэнцкай большасьці ледзь не штодзённа — і толькі супраціў Апазыцыі БНФ перашкаджаў іх ажыцьцявіць.

У наступным Вярхоўным Савеце прадстаўнікоў БНФ ужо ня будзе — і парлямэнт ратыфікуе па-

гадненьні з Масквой, якія істотна аслабяць сувэрэнітэт краіны, але на той момант Беларусь ужо мела дзяржаўныя інстытуцыі, уласнае войска, уласную грашовую адзінку, больш сьпелую грамадзянскую супольнасьць — нічога такога не было ў самым пачатку 1990-х, і ліквідацыя незалежнасьці адбылася б хутка.

Без палітычнай «працы штодзённай, шэрай» тысячаў актывістаў БНФ беларускае грамадзтва было б іншым. Мы мелі б іншую Беларусь — а, магчыма, і ня мелі б яе зусім.

## «Маўчалі, трывалі, а што з гэтага маем?»

«Нацыя і воля — вось вечная праблема і калізія, ці можа што быць важнейшае за іх? Ворагі — так, ворагаў у нас заўсёды хапала, не паменела іх і зараз, — казаў Быкаў. — Цяпер, калі шмат што праясьнілася на палітычным небасхіле сьвету, яны апынуліся навідавоку, мы ўбачылі іх і зьведалі ці ня лепей за саміх сябе. Хоць яны і не перастаюць дзівіць нас сваёй д'ябальскай здольнасьцю да пераўвасабленьня, камуфляжу, маскіроўкі зла пад дабро. Тут іхнія фантазіі сапраўды бязьмежныя, і мы іх пазнаём хіба па адной нязьменнай прыкмеце — яны чужынцы нацыі. Усё нацыянальна беларускае — для іх варожае, а ўсё агіднае, варожае для нацыі — іхняе. Іхні сьвяшчэнны кумір — улада, якою яны цяпер з тактычных меркаваньняў змушаны дзяліцца. Але не назаўжды — да іншых часін. І калі нам кажуць: трэба болей цярпімасьці, памяркоўнасьці, трэба менш радыкалізму і рыгарызму, бо важней за ўсё паступовасьць, нацыянальная згода — мы ведаем: гэта гавораць яны ці іхнія адвакаты. Нават



У прэзідыюме III зьезду БНФ.

і тады, калі гавораць па-беларуску. Увесь наш гістарычны вопыт пярэчыць супраць іх д’ябальскай лёгікі. Надта доўга мы былі і цярпімыя, і абачлівыя, памяркоўныя і талерантныя — прыніжаныя і зьняважаныя былі на працягу апошніх стагодзьдзяў, баяліся пакрыўдзіць іншых, стараліся іншы раз прамаўчаць, стрываць. І маўчалі, трывалі, а што з гэтага маем? Дажыліся да таго, што ня стала як жыць!»

Вось гэтая апошняя фраза, якая праз гады ўспрымаецца як мэтафара, у тыя дні мела канкрэтны сэнс.

Жыць сапраўды было цяжка, палавінчатасьць эканамічных рэформаў, якія праводзіў урад Кебіча, адсутнасьць уласнай грашовай адзінкі спараджалі вялікую інфляцыю. Не былі выключэньнем і тыя, хто знаходзіўся ў залі.

Ня быў выключэньнем і сам Быкаў— час ад часу мы дапамагалі яму. І бэнзіну для свайго аўтамабіля Быкаў меў роўна столькі, колькі і мы — 20 літраў на месяц. І пры гэтым Васіль Уладзімеравіч ніколі не наракаў на тое, што вось раней ён жыў заможна, атрымоўваў добрыя ганарары, мог нешта прыдбаць за гэтыя грошы — а з крахам камуністычнай сыстэмы ўсё абрынулася.

Падобнае я аднойчы чуў ад аднаго народнага пісьменьніка — ён паскардзіўся, што быў вымушаны прадаць кніжную сэрыю («Бібліятэка сусьветнай літаратуры», 200 тамоў найлепшых твораў клясыкаў, у савецкія часы — страшны дэфіцыт, так званая «всемирка», валоданьне якой было сымбалем далучанасьці да інтэлектуалаў). Калі я пачаў выказваць спачуваньне, што разумею значнасьць і маштаб страты, ён сказаў: «Ну я прадаў тое, што было на дачы. Дома ў мяне яшчэ адна «всемирка» засталася». Нічога такога нельга было сабе ўявіць з вуснаў Быкава.

Супрацьпастаўленьнем памяркоўнасьці і радыкалізму на карысьць апошняга Быкаў вызначыў стратэгію Народнага Фронту на бліжэйшыя гады як жорсткага супрацьстаяньня з тагачаснай уладай, з камуністычнай намэнклятурай.

## «Законы гісторыі няўмольныя»

«Так, цяпер можна з упэўненасьцю сказаць, што менавіта БНФ напрыканцы XX стагодзьдзя абудзіў нацыю, даў ёй надзею, — працягваў Быкаў. — Так ці інакш прычыніўся да стварэньня іншых дэмакратычных партыяў і плыняў, стаў у авангардзе парлямэнцкай і масавай барацьбы за дзяржаўнасьць

і нацыянальнае адраджэньне, і калі не перамог канчаткова, дык у тым адлюстравалася не заганнасьць ягоных мэтадаў, а найбольш — грандыёзнасьць задачы. Але БНФ і не ўяўляў яе меншай, тая задача сапраўды нечувана грандыёзная, і як цяпер відаць, па сіле хіба не аднаму пакаленьню нацыянальна-сьведамых беларусаў. Як і ў ранейшыя часы найважнейшым робіцца рутынная праца ў народзе дзеля абуджэньня ягонай жа нацыянальнай сьвядомасьці, перакананьня яго ў яго ж нацыянальнай годнасьці, у вартасьці ягонай гісторыі, культуры, мовы. Можа самае страшнае — нацыя апынулася перад пагрозай страты сваёй пасіянарнасьці і задача яе авангарду — адвесьці тую пагрозу. Усё тое куды як няпроста і зойме пэўны гістарычны час. Але тое, відаць, наканавана, цераз яго не пераступіць, законы гісторыі няўмольныя».

Канешне, нам хацелася верыць, што гэты «пэўны гістарычны час» будзе ня вельмі працяглым, ва ўсялякім разе, не на дзесяцігодзьдзі — бо вось у залі сядзіць госьць зь Вільні, лідэр «Саюдзісу» Вітаўтас Ландсбергіс, у Літве ўжо дэмакратыя, а чым мы горшыя за суседзяў?

«Як бы там ні было, БНФ не павінен меншыць імпэт, заспакойвацца на дасягнутым. Тым больш траціць веру ў перамогу дабра і справядлівасьці пры часовых няўдачах. Няўдач і перамог яшчэ будзе нямала. Але ў нас ёсьць гарант — найперш гэта незваротная хада гісторыі, прагрэсу і чалавечнасьці. Нас павінна натхняць сьвятасьць нашае мэты, зарука дасягненьня якой — народная воля, выпрабаванае, узбагачанае вопытам кіраўніцтва БНФ. А таксама ягоны лідэр, які ў шматлікіх варунках барацьбы засьведчыў сваю надзвычайную



Подробности для вас

# Победу одержит тот, кто будет моложе

Олег ГРУЗДИЛОВИЧ, «Знамя юности»

*Сразу два съезда — народнофронтовцев и коммунистов — прошли в минувшие выходные в Минске.*

НАРОДНЫЙ фронт Беларуси принял новую программу, избрал руководящие органы и объявил о создании партии БНФ, под знаменем которой движение намерено участвовать в будущих выборах.

Партия коммунистов Беларуси проделала аналогичную операцию: приняла свою программу и избрала руководство, всерьез претендующее на депутатские мандаты в будущем ВС.

Коротко тенденцию, продемонстрированную обоими съездами, можно обозначить словами «консолидация накануне выборов». Лидер БНФ Зенон Позняк и его ближайшее окружение из числа депутатов оппозиционеров, а также тех, кто на прошлых выборах в ВС не прошел, но надежд на реванш не оставил, осознали, что при нынешней рыхлой структуре БНФ им

...блюдалась и на съезде Партии коммунистов Беларуси. Формально став политической наследницей ушедшей в Лету КПБ, тем не менее, ПКБ не ограничилась только корректировкой названия, а решила не обременять себя порядком скомпрометированными руководителями бывшей КПБ. Из старой гвардии в числе новых семи секретарей только лидер гродненских коммунистов Семенов известен по прежней КПБ. Все остальные — новые лица. Впрочем, не такие они и новые. Виктора Чикина, например, в республике знают как одного из сопредседателей ДСПС и лидера возрожденной компартии. Наверняка он и заправляет «соумвиратом» секретарей ПКБ. Сочетающий демократизм в обращении с людьми с цепкостью опытного оргработника, он также доминировал на съезде коммунистов, как Зенон

...хватизации», подлежит возврату народу. Беларусь видится как нейтральное государство, отказавшееся от ядерного оружия, причем республика вправе рассчитывать за это на компенсацию. Любопытно еще одно положение программы, непосредственно касающееся международного сообщества. БНФ предупреждает международных кредиторов, что в случае прихода к власти его правительство не будет нести ответственности по кредитам, выданным нынешнему правительству не под конкретные программы.

Теперь о программе ПКБ. Нынешние коммунисты собираются преодолеть отчуждение трудящихся от средств производства, соглашаются на присутствие частного сектора, однако основы экономики видят в социалистическом, настаивая на введении контроля за предпринимателями. Они против частной собственности на землю, хотя и согласны на право владения и наследования земли и категориче...

...них было 95 депутатов Советов различных уровней. Политический спектр был представлен так: БСДГ — 32 члена, Белорусская крестьянская партия — 2, национальные демократы — 18, ОДПБ — 2 и 10 участниц женского движения.

На съезде ПКБ было зарегистрировано 539 делегатов, из них служащих — 348, рабочих — 81, колхозников — 56, студентов — 2, работающих по найму в коммерческих структурах — 5. Каждый третий делегат — депутат Советов.

Самый первый вывод из этой статистики таков: социальная база обоих съездов оказалась довольно-таки бедной. Если этот недостаток еще в какой-то мере простителен для БНФ, традиционно опирающегося на политически активную, «нацыянальна свядомую» интеллигенцию, то компартии, претендующей на роль авангарда рабочих, есть над чем задуматься. Одна треть депутатов Советов из числа делегатов съезда ПКБ — с одной

Публікацыя ў газэце «Знамя юности». На здымку справа — Вітаўтас Ландсбергіс і Васіль Быкаў. Ззаду — Сяргей Навумчык і Зянон Пазьняк.

вартасьць. Можна з упэўненасьцю сказаць, што нацыі пашчасьціла на яе лідэра, якім зьяўляецца пасланы нам Богам Зянон Станіслававіч Пазьняк. Дык з Богам у душы — сьвятымі помысламі ў сэрцах — за праўду, дарагія спадары і спадарыні. Паможа нам Бог. Жыве Беларусь!», — завяршыў свой выступ Васіль Быкаў.

## «Пошук ворагаў не паспрыяе уплыву Фронту»

Прамова Быкава была сустрэтая аплядысмэнтамі, але камэнтатары аспрэчылі некаторыя яе палажэньні, як і даклад самога лідэра БНФ ды выступы дэлегатаў.

«Матывы пошуку ворагаў, адмаўленьня ад кампрамісаў і прынцыпаў згоды, узьвялічваньня асобы Пазьняка (на зьезьдзе даходзіла да публічнага прызнаньня ў асабістай любові і адданасьці да Зянона Станіслававіча) — усё гэта, па-мойму, ня будзе спрыяць таму, каб уплыў Фронту пашырыўся, — пісаў аглядальнік «Звязды» Валянцін Жданко. — Наадварот, многіх гэта насьцярожыць і адштурхне ад ідэй — увогуле, дэмакратычных і патрыятычных — якія адстойвае гэты рух. Зянон Пазьняк у сваім дакладзе прывёў вельмі аптымістычныя лічбы папулярнасьці Фронту. Па ягоных зьвестках, ідэі БНФ падтрымліваюць 32–35 працэнтаў гараджанаў і 20–22 працэнты вяскоўцаў. На мой погляд, гэтыя лічбы наўрад ці адлюстроўваюць рэальную раскладку сілаў. Тым больш, што цяпер БНФ перажывае зусім ня час свайго росквіту».

Тым ня менш аглядальнік «Звязды» прызнаў: «Выбары кіраўніцтва паказалі, што Пазьняк застаецца бясспрэчным лідэрам Фронту. Падтрымка, аднак, не была аднагалоснай. Супраць Пазьняка (як, дарэчы, і Быкава, што стала нечаканасьцю) — выказаліся сем дэлегатаў».

Падаючы лічбы падтрымкі БНФ, Пазьняк абапіраўся на вынікі зробленага на замову кіраўніцтва Фронту дасьледаваньня; трэба прызнаць, што іншыя дасьледчыкі прыводзілі сапраўды менш апты-

містычныя лічбы. Аднак Пазьняк казаў не пра гатовасьць галасаваць за БНФ, а пра падтрымку ідэяў руху, і тут, як мне падаецца, ён меў рацыю: значная частка людзей была за дэмакратычныя перамены, што і пакажуць прэзыдэнцкія выбары 1994 году, калі нават паводле афіцыйных дадзеных, Пазьняк і Шушкевіч разам набяруць чвэрць галасоў. Ідэі нацыянальнага адраджэньня сапраўды падтрымала значная частка насельніцтва, але ня большасьць, якой і не хапіла для перамогі.

## «Не прыярытэт, а парытэт»

Была яшчэ адна тэма, якая выклікала крытыку назіральнікаў.

Зянон Пазьняк сказаў на зьезьдзе, што БНФ прытрымліваецца «прынцыпу парытэтных правоў чалавека, грамадзтва і дзяржавы». Гэты прынцып быў агучаны Пазьняком яшчэ на Сойме БНФ, які адбыўся ў сакавіку, але тады пытаньне ставілася як прапанова для абмеркаваньня. «Да чаго прывяло ўвасабленьне канцэпцыі чалавека ў Эўропе? — пытаўся лідэр БНФ. — Яно прывяло да абароненасьці яго правоў, да дабрабыту, да раскрыцьця ягоных здольнасьцяў, да росквіту эўрапейскай цывілізацыі, яно прывяло да міру, у рэшце рэшт. Гэта станоўчыя вынікі. Але ёсьць і нэгатыўныя зьявы. Эўрапейская канцэпцыя чалавека ставіць правы чалавека вышэй за сувэрэнітэт».

Прывёўшы прыклады, калі сацыяльныя праграмы для імігрантаў нэгатыўна адбіваліся на становішчы карэнных жыхароў, Пазьняк заявіў, што «з аднаго боку, гаворыцца аб правох чалавека, аб іх прыярытэце, а з другога боку — праводзіцца

палітыка на прыгнятаньне сваёй уласнай нацыі ды на стварэньне сацыяльна невыгодных умоваў для карэннага насельніцтва, для стварэньня сацыяльных супярэчнасьцяў… На поўначы Бэльгіі летась гэты канфлікт выявіўся такім чынам: 38 адсоткаў флямандцаў на выбарах падтрымалі фашысцкую партыю. Гэта аснова для ўзьнікненьня фашызму ў Эўропе. Зьдзіўляе, што шмат якія палітыкі гэтага не заўважаюць. Менавіта на гэтым паразытуе Лё Пэн, на гэтым вырастаюць новыя фашысцкія партыі. Вось вам прыклад, як прыярытэт правоў чалавека перад сувэрэнітэтам аказаўся, наадварот, заціскаяньнем правоў чалавека і фактычна паставіў пад пагрозу сувэрэнітэт… Нам належыць прапанаваць сваю канцэпцыю. Відаць, у дадзеным выпадку нельга гаварыць пра прыярытэт ці сувэрэнітэту, ці правоў чалавека. Бо сувэрэнітэт — як правы ўсяго народу — гэта таксама правы чалавека! Відаць, варта прызнаць не прыярытэт, а парытэт, роўнасьць гэтых правоў».

Зьезд падтрымаў прапанаваную Пазьняком канцэпцыю, сыходзячы ня столькі з эўрапейскіх прыкладаў, колькі з імкненьня не дапусьціць наступу на нацыянальныя каштоўнасьці пад прыкрыцьцём роўных правоў для прадстаўнікоў усіх нацыянальнасьцяў. Роўнасьць гэтая пад сумнеў ня ставілася, гаворка ішла пра імкненьні ўвесьці дзяржаўнае двухмоўе, што, на думку актывістаў БНФ, адразу б паставіла мову карэннай нацыі ў прыніжанае становішча.

Вось як гэта зафіксаваў аглядальнік газэты «Знамя юности» Алег Грузьдзіловіч:

«БНФ, як сказана ў праграме, выступае за Свабоду, Незалежнасьць і Адраджэньне. Галоўнай

мэтай руху абвяшчаецца свабодны чалавек у адроджанай незалежнай Беларусі. Усяляк адстойваюцца правы чалавека, аднак не на шкоду правам нацыі: Фронт за адзіную дзяржаўную мову — беларускую, пры роўных умовах разьвіцьця культуры для нацыянальных меншыняў».

У цытаванай публікацыі рашэньне не камэнтавалася, аднак адразу пасьля зьезду канцэпцыя парытэту правоў асобы і правоў нацыі выклікала крытыку з боку дэмакратычных лідэраў лібэральнай арыентацыі, якая не сьціхала даволі працяглы час.

## БНФ стварае партыю

III зьезд БНФ заявіў пра стварэньне Партыі БНФ, на той момант — своеасаблівы «юрыдычны парасон», бо існавала верагоднасьць, што грамадзкія арганізацыі (а менавіта ў такім выглядзе быў зарэгістраваны БНФ) ня будуць дапушчаныя да ўдзелу ў выбарах.

Было заяўлена, што Фронт настойвае на рэалізацыі правоў больш як 440 тысяч грамадзянаў, якія ў 1992 годзе выказаліся за рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах, і што новая Канстытуцыя павінна прымацца толькі новым дэмакратычным парлямэнтам. У праграмных палажэньнях дэлегаты пацьвердзілі права прыватнай уласнасьці на зямлю, нэўтралітэт і бязьядзернасьць Беларусі.

Адносна бязьядзернасьці на зьезьдзе было зроблена істотнае ўдакладненьне. Дэлегаты нагадалі, што Беларусь на працягу дзесяцігодзьдзяў несла рызыку захоўваньня на сваёй тэрыторыі ядзернага арсэналу, і гэта дае права беларускаму народу паставіць перад сусьветнай супольнасьцю пытаньне



Дэлегаты III зьезду БНФ .

пра матэрыяльную і палітычную кампэнсацыю. Якой, як вядома, ніколі не было.

Галоўным вынікам зьезду, аднак, мне ўяўлялася рашучасьць актывістаў БНФ змагацца за ўмацаваньне незалежнасьці Беларусі — насуперак камуні-

стам, якія ў той самы дзень таксама правялі свой зьезд.

Гасьцямі зьезду БНФ былі лідэр Народнага Руху Ўкраіны Вячаслаў Чарнавол і старшыня літоўскай партыі «Саюз Айчыны» Вітаўтас Ландсбергіс. На перамовах з Пазьняком яны абмеркавалі ідэю стварэньня Балта-Чарнаморскай садружнасьці і пацьвердзілі намер склікаць канфэрэнцыю ў справе нафтавага калектару (яна адбудзецца ў сярэдзіне ліпеня ў Менску). Разам зь імі, а таксама з Васілём Быкавым, мы правялі прэсавую канфэрэнцыю.

Ну а потым, калі госьці разьехаліся, у фае тэатру накрылі сталы (памятаю, як цягалі іх з Валянцінам Голубевым). Я сядзеў разам з Рыгорам Барадуліным і Васілём Быкавым — узялі па чарцы: мы з Васілём Уладзімеравічам гарэлкі, а Рыгор Іванавіч — мінэралкі.

***Іван Герасюк** (Капыльская выбарчая акруга № 63): У сувязі з заявай міністра хлебапрадуктаў Якушава я вымушаны пачаць шэраг выступленьняў у «Розным» пад агульнай назвай «Карупцыя ў органах дзяржаўнай улады»... У канцы мінулага году з Казахстану на Асіповіцкі хлебакамбінат паступіла збожжа для захоўваньня. 8 тысяч тон гэтага збожжа купілі польскія фірмы па цане 110 даляраў за тону і тут жа перапрадалі палову нашаму міністэрству, але ўжо па 117 даляраў. Аплата фірмам была праведзена на асабістае распараджэньне міністра Якушава ад 6 красавіка. Інакш, без дапамогі палякаў, мы гэтае збожжа ў сваіх жа Асіповічах чамусьці купіць не змаглі. Польскія фірмы атрымалі чысты навар 28 тысяч даляраў. Наколькі мне вядома, за проста так такія падарункі зь дзяржаўнай кішэні ня робяцца... 20 студзеня гэтага году міністар Якушаў падпісаў кантракт на пастаўку 25 тысяч тон збожжа фірме «Эксма» па цане 125 даляраў за тону... 3 мільёны 125 тысяч даляраў меркавалася перавесьці на разьліковы рахунак № 4170502 у Дойчбанку. Якушава не спыніла нават тое, што гэтая фірма ні з кім ня мела ні дамоваў, ні кантрактаў на закупку такой колькасьці збожжа і ня мела нават свайго рахунку за мяжой... Спроба пераводу валюты за мяжу была спыненая. Але чаму яна рабілася?.. Дарэчы, яшчэ 300 тысяч нашых даляраў, ахвяраваных Міністэрствам хлебапрадуктаў нейкаму Казловічу з Залесься, амаль год ужо круцяцца ў Польшчы, прыносячы даходы ня толькі яму. Думаю, КДБ павінен выявіць, каму яшчэ?*

*Выступ у «Розным»*

## ЛУКАШЭНКУ ПРЫЗНАЧАЮЦЬ СТАРШЫНЁМ АНТЫКАРУПЦЫЙНАЙ КАМІСІІ

Ёсьць розныя меркаваньні наконт таго, калі Беларусь збочыла са шляху да дэмакратыі, у які момант надыход аўтарытарызму зрабіўся непазьбежны.

Называюць забарону ў 1992 годзе ініцыяванага БНФ рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах, прыняцьце ў сакавіку 1994-га Канстытуцыі з пасадай прэзыдэнта, нарэшце, абраньне ў ліпені 1994-га на прэзыдэнцкую пасаду Аляксандра Лукашэнкі.

Усе гэтыя падзеі былі для Беларусі вызначальнымі — у горшы бок.

Што да Лукашэнкі, дык практычна ўсё сыходзіцца ў адным: узыходжаньне дырэктара саўгасу «Гарадзец» на пасаду прэзыдэнта было б немагчымым, калі б не вялікая папулярнасьць, атрыманая ім у выніку знакамітай (лепш было б сказаць — сумнавядомай) дзейнасьці на пасадзе старшыні гэтак званай «антыкарупцыйнай» камісіі.

Іншымі словамі, калі б Лукашэнку не абралі старшынём той камісіі — ніколі б ня быць яму прэзыдэнтам.

У гэтым сэнсе пасяджэньне сэсіі Вярхоўнага Савету 4 чэрвеня 1993 году вызначальнае.

А пачыналася яно будзённа.

У разьдзеле «Рознае» выступіў старшыня камісіі па міжнацыянальных адносінах Міхаіл Сьлямнёў, які часта падтрымліваў ідэі Апазыцыі БНФ. Гэтым разам ён выказаўся супраць далучэньня Беларусі да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы, якая рабіла краіну закладніцай вайсковых інтарэсаў Расеі.

Дэпутат ад арганізацыі вэтэранаў Мікалай Жураўлёў выказаў падтрымку міністру абароны Паўлу Казлоўскаму за звальненьні з войску актывістаў БЗВ. Дэпутат-вэтэран інкрымінаваў БЗВ патрабаваньне стварэньня нацыянальнага войска, абарону дэмакратыі, «падрыхтоўку людзей, якія б у выпадку пагрозы маглі б нават са зброяй у руках абараняць сваю радзіму». Усё гэта ў вачах дэпутата (зразумела, тэкст яму пісалі іншыя) выглядала крамолай.

Дэпутат Віктар Кучынскі заявіў, што «была б мая воля, на сёньняшні дзень я б забараніў усялякую палітычную дзейнасьць у Рэспубліцы Беларусь, я маю на ўвазе партыйную дзейнасьць, увёў бы дзяржаўнае канстытуцыйнае кіраваньне».

Пасьля «Рознага» Вярхоўны Савет абмяркоўваў Закон «Аб бюджэтнай сыстэме Рэспублікі Беларусь», потым заслухоўваў справаздачу старшыні Нацбанку Станіслава Багданкевіча і вывучаў Асноўныя накірункі грашова-крэдытнай палітыкі на 1993 год. Гэта былі складаныя пытаньні, з мноствам лічбаў і эканамічных выкладак.

І толькі пасьля гэтага ВС перайшоў да пункту 20 парадку дня сэсіі — «Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь «Аб стварэньні Часовай камісіі Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь для вывучэньня дзейнасьці камэрцыйных структур, якія дзейнічаюць пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіраваньня».

Неабходнасьць стварэньня такой камісіі (тут і ў далейшым буду называць яе так, як яна і ўвайшла ў грамадзкую сьвядомасьць і ў гісторыю Беларусі — антыкарупцыйная) была для ўсіх відавочнай. Канешне, тыя катэджы, якія будавала пры Кебічу чынавенства, у параўнаньні з маёнткамі часоў пер-

шага прэзыдэнта могуць падавацца ня вельмі шыкоўнымі — але тады, на фоне цяжкага эканамічнага становішча і беднасьці, яны ўспрымаліся выклікам.

У дэпутацкім корпусе ішлі гаворкі пра мільённыя (у далярах) крэдыты фірмам, створаным высокапастаўленымі чыноўнікамі з кебічаўскага атачэньня і запісаных на сваіх дзяцей і жонак (вярталіся тыя крэдыты ўжо ў рублях і ў памерах, у тысячы разоў меншых з прычыны гіпэрінфляцыі). Многія сёньняшнія карпарацыі пабудаваныя на капіталах, прыхопленых у часы Кебіча.

Яшчэ на дзясятай сэсіі, па выніках справаздачы выканаўцы абавязкаў генпракурора Кандрацьева «Аб барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю і карупцыяй», ВС прыняў пастанову, адным з пунктаў якой было рашэньне стварыць камісію па вывучэньні дзейнасьці камэрцыйных структур пры органах кіраваньня.

Як паведаміў старшыня камісіі па дзяржаўным будаўніцтве Уладзімер Леўчык, які прадстаўляў праект пастановы на сэсіі, склад камісіі разглядаўся на Прэзыдыюме ВС у студзені 1993-га. Так, прапаноўвалася стварыць камісію зь дзевяці чалавек, а старшынём прызначыць Міхаіла Марыніча.

Леўчык сказаў, што «члены часовай камісіі пры выкананьні сваіх службовых абавязкаў будуць мець права ўваходу і бесьперашкоднага доступу ва ўсе дзяржаўныя і грамадзкія органы, прадпрыемствы, установы і арганізацыі, а таксама камэрцыйныя структуры, знаёміцца ў поўным аб'ёме з усёй дакумэнтацыяй, якая патрабуецца пры правядзеньні праверак, атрымліваць ад службовых асоб і іншых работнікаў неабходныя даведкі і пісьмовыя тлумачэньні па пытаньнях іх дзейнасьці. Ураду,

Пракуратуры, Нацыянальнаму банку, міністэрствам і ведамствам рэспублікі, мясцовым саветам, іх выканаўчым камітэтам неабходна будзе, на погляд нашай камісіі, садзейнічаць рабоце часовай камісіі, забясьпечваць прадстаўленьне ёй дакладнай інфармацыі, аказваць неабходную дапамогу ў выкананьні ўскладзеных на камісію функцый».

Як бачым, паўнамоцтвы ў антыкарупцыйнай камісіі былі надзвычайныя (праўда, практычна ўсе яны ў дэпутатаў ВС меліся паводле Закону аб статусе дэпутата, але іх рэалізацыя часам сутыкалася з чынавенскім супрацівам).

Было ад пачатку зразумела, што камісія (і асабліва яе старшыня) здабудуць «выбуховую» інфармацыю і таму атрымаюць магчымасьць вялікага палітычнага ўплыву.

## Мы вылучаем Сяргея Антончыка

Сяргей Антончык быў адным з найбольш вядомых дэпутатаў — сярод апазыцыянэраў, думаю, ягоная папулярнасьць ішла адразу за Пазьняком. Вялікі аўтарытэт прынесла яму кіраўніцтва красавіцкімі страйкамі 1991-га, калі на вуліцы Менску выйшла каля ста тысяч рабочых. Страйк пагасілі, але Сяргей працягваў узначальваць рабочы рух, езьдзіў па рэгіёнах, наведваў прадпрыемствы, дапамагаў ствараць суполкі незалежных прафсаюзаў.

Сяргей неяк сказаў, што не чытаў «Архіпэляг ГУЛАГ» Салжаніцына — бо ўсё пра ГУЛАГ ведаў ад бацькі, які 17 гадоў правёў у зьняволеньні і распавёў сыну пра тое, як сустрэў у зьняволеньні ўласнага сьледчага, таксама зьняволенага, і чаму, калі ў бараку на нарах паміраў чалавек, начальству

некалькі дзён не паведамлялі — бо можна было атрымаць на яго пайку, і як некалькі разоў перад вызваленьнем яму дабаўлялі новы тэрмін.

Абраўшыся ў Вярхоўны Савет, Сяргей працягваў працаваць на Менскім вытворчым аб'яднаньні апаратчыкам. Такі назоў ягонай рабочай спэцыяльнасьці часам выклікаў кпіны — «апаратчыкамі» называлі чыноўнікаў, супрацоўнікаў апарату таго самага Саўміну. Вось супраць тых апаратчыкаў з чынавенскіх кабінэтаў, якія, як казаў Антончык, «падграбалі пад сябе народнае дабро», Сяргей ваяваў яшчэ зь першых дзён свайго дэпутацтва. Вясной 1990-га зь ім і кінарэжысэрам Юрыем Хашчавацкім мы праехаліся па некаторых дачных пасёлках ЦК і Саўміну — Сяргей зрабіў на відэакамэру зьедлівыя камэнтары, і стужку гэтую потым паказалі дэпутатам на першай сэсіі Вярхоўнага Савету. Тады гэта называлася — змаганьне з прывілеямі.

За тры гады, якія прайшлі з моманту здымак таго нашага фільму, ягоныя героі набраліся досьведу ўжо ня толькі ў выкарыстаньні прывілеяў, але ў прыватызацыі дзяржаўнай маёмасьці — як правіла, даволі сумнеўнай з пункту гледжаньня закону.

Але і Антончык з трыбуны сэсіі і ў газэтных выступах казаў ужо не пра прывілеі, а пра карупцыю як зьяву, прыводзячы ўсё новыя факты і называючы гучныя імёны.

Таму ня дзіўна, што на пасаду старшыні антыкарупцыйнай камісіі Апазыцыя БНФ вырашыла вылучыць менавіта Сяргея Антончыка.

## Дэпутаты называюць кандыдатуры

Натуральна, мы разумелі, што Вярхоўны Савет Антончыка не зацьвердзіць — але, па-першае, дэпутат БНФ атрымліваў права выступу і магчымасьць выкласьці праграму антыкарупцыйных дзеяньняў. А па-другое, ён адцяняў і тым самым надаваў больш шанцаў быць абраным Міхаілу Марынічу, які збольшага нас задавальняў і, як мы ведалі, ня быў зьвязаны з «мафіяй», хоць і займаў пасаду намесьніка старшыні Дзяржкамітэту па зьнешнеэканамічных сувязях — аднаго з самых карумпаваных ведамстваў.

Але, нечакана для ўсіх, Марыніч ад старшынёўства ў Камісіі адмовіўся (чаму — для мяне і да сёньня загадка) і прапанаваў Яўгена Глушкевіча, які ў тым часе працаваў у Кантрольнай палаце. Папрасілі не ўключаць іх у склад камісіі і раней вылучаныя дэпутаты Пісарэвіч і Давідовіч. Валянцін Голубеў, як мы і дамовіліся, вылучыў у склад Камісіі Сяргея Антончыка.

Далей цытую стэнаграму сэсіі (старшыняваў на ёй Станіслаў Шушкевіч).

Старшыня: «Пяты мікрафон. Апошняе выступленьне».

Анатоль Лябедзька: «Па-першае, я думаю, тут не стаіць пытаньне прымаць пастанову ці не, бо гэтае пытаньне ўжо палітычнае. І той, хто ведае, якая сытуацыя цяпер у нас складваецца, павінен зразумець. і калі мы ня прымем сёньня пастановы, то заўтра знойдзецца той, хто заўтра абвінаваціць Вярхоўны Савет, што ён ня хоча вырашаць гэтае пытаньне. І, па-другое, непасрэдна ўлічваючы, што ёсьць два самаадводы, я хацеў бы прапанаваць

таксама канкрэтную кандыдатуру — гэта дэпутат Лукашэнка. І менавіта каб ён узначаліў гэтую камісію. Дзякуй за ўвагу».

Старшыня: «Вельмі добрая прапанова».

Вось жа Лябедзька прапанаваў абраць старшынём антыкарупцыйнай камісіі Лукашэнку, што Шушкевіч ацаніў як «вельмі добрую прапанову». Але гэта яшчэ зусім не азначала, што Лукашэнка будзе абраны — нават у склад камісіі, а ня тое што яе старшынём.

Пасьля таго, як Марыніч зьняў сваю кандыдатуру і прапанаваў Глушкевіча, мы вырашылі не мяняць тактыку, а, як і было дамоўлена, вылучаць на старшыню Антончыка, даўшы яму магчымасьць выказаць антыкарупцыйную плятформу апазыцыі. А галасаваць — і за Антончыка, і за Глушкевіча.

Яўген Глушкевіч да абраньня ў Вярхоўны Савет быў загадчыкам аддзелу Віцебскага абкаму кампартыі, яшчэ раней — першым сакратаром Аршанскага гаркаму, а да таго — камсамольскім работнікам, і на пасадзе старшыні Цэнтральнай рэвізійнай камісіі ўсяго «саюзнага» камсамолу набыў вядомасьць антыкарупцыянэра. Дэпутацкай большасьцю ён успрымаўся ў асноўным станоўча — нягледзячы на тое, што часам падпісваў заявы Апазыцыі БНФ. Словам, ён быў абсалютна «праходной» кандыдатурай на пасаду старшыні антыкарупцыйнай камісіі, за яго б прагаласавалі і экс-камуністы, і дэпутаты БНФ. І, што важна, Глушкевіч сапраўды быў здольны эфэктыўна наладзіць працу (у Кантрольнай палаце ён набыў адпаведны досьвед).

Леўчык прапанаваў прымаць пастанову аб стварэньні часовай камісіі не па пунктах, а ў цэлым, удакладніўшы толькі пэрсанальны склад камісіі

(звычайная практыка ў выпадках, калі не было заўваг па тэксьце).

З улікам таго, што прапанова Леўчыка ні ў кога ня выклікала пярэчаньняў, наступным крокам Шушкевіча, паводле лёгікі, мусіла быць пастаноўка на галасаваньне пэрсанальнага складу камісіі, і толькі потым — выбары яе старшыні (бо тэарэтычна заставалася магчымасьць, што нейкая кандыдатура, напрыклад, той самы Лукашэнка, ня будзе абраная ў склад камісіі і, адпаведна, страціць магчымасьць яе ўзначаліць).

Тут зраблю невялікае ўдакладненьне. Сьпікер парлямэнту нават тады, калі вядзе сэсію ў строгай адпаведнасьці з рэглямэнтам (тады гэта быў Часовы рэглямэнт), заўсёды мае магчымасьць маніпуляваць залай — даць слова аднаму дэпутату і ня даць другому, спыніць спрэчкі і дачасна паставіць пытаньне на галасаваньне. Так, напэўна, бывае ва ўсіх парлямэнтах і ва ўсе часы. У выпадку Вярхоўнага Савету XII скліканьня такія магчымасьці сьпікера значна павялічваліся таму, што парлямэнт працаваў паводле часовага, а не пастаяннага рэглямэнту, і шмат якія тонкасьці не былі прапісаныя.

## Лукашэнку зацьвярджаюць з парушэньнем рэглямэнту

Між іншым, адразу пасьля самаадводу Марыніча я нагадаў пра неабходнасьць прыняць нарэшце пастаянны Рэглямэнт. Аднак кіраўніцтва ВС, як выглядала, задавальняў Часовы рэглямэнт.

Яшчэ на пасадзе першага намесьніка старшыні ВС, калі даводзілася замяняць Дземянцея, Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч навучыўся выка-

рыстоўваць «нерэглямэнтаваныя» магчымасьці сьпікера (ігнараваньне просьбы выступіць, адключэньне мікрафона), а ўжо будучы старшынём — давёў сваё майстэрства да віртуознасьці. Часам гэта ішло на карысьць справе, але ўсё часьцей — у інтарэсах нашых апанэнтаў. Здаралася і так, што Шушкевіч кіраваўся нейкімі толькі аднаму яму вядомымі прычынамі (можа быць, асабістай сымпатыяй альбо антыпатыяй, незалежна ад палітычнай пазыцыі дэпутата).

Была толькі адна магчымасьць атрымаць слова насуперак жаданьню сьпікера — выказацца «па парадку вядзеньня сэсіі», гэта значыць, каб выказаць заўвагу сьпікеру адносна працэдуры вядзеньня. Сьпікер дзеля гэтага быў абавязаны даць слова. І ў такі момант можна было сказаць некалькі фразаў па «іншай» тэме — зразумела, калі пасьпееш да адключэньня мікрафона.

Але і ў гэтым выпадку сьпікер мог «не заўважыць» просьбы выступіць, што ў адносінах да нас, дэпутатаў БНФ, здаралася ўсё часьцей.

Звычайна пры гэткіх маніпуляцыях Шушкевіча мы, дэпутаты БНФ, выстройваліся каля мікрафонаў, патрабавалі слова, пратэставалі — у стэнаграмах сэсіі гэта адзначалася выразам «шум у залі».

Мы чакалі, што пачнецца галасаваньне па складзе камісіі. У крайнім выпадку, Шушкевіч, калі вырашыў памяняць парадак і спачатку абіраць старшыню, мусіў паставіць на галасаваньне ўсе прапанаваныя кандыдатуры.

Але Шушкевіч гэтага не зрабіў.

Ён ня тое што ня даў вылучыць іншыя кандыдатуры на пасаду старшыні (і мы пазбавіліся магчымасьці прапанаваць Антончыка), але нават не па-

ставіў на галасаваньне ўжо вылучаную і абсалютна рэальную, «прахадную» кандыдатуру Глушкевіча, што проста абавязаны быў зрабіць.

Адбылося тое, чаго ніхто ня мог прадбачыць — нагэтулькі беспрэцэдэнтным было парушэньне Шушкевічам працэдуры.

Цытую стэнаграму:

Шушкевіч: «Добра. Паважаныя народныя дэпутаты! Паколькі паважаны народны дэпутат Марыніч Мікалай Апанасавіч, якога... прасіў быў не рабіць яго старшынём… Я думаю, што яго пасада такая, што яму даволі-такі складана, сапраўды, займацца гэтай справай. Давайце Лукашэнку кіраўніком... (Шум у залі). Вы мне прабачце, ну так мне хацелася, каб ён быў вялікім начальнікам, Лукашэнка... (Шум у залі). (“Шум у залі” — гэта мы, дэпутаты БНФ, пайшлі да мікрафонаў і патрабавалі слова “па парадку вядзеньня” — каб спыніць парушэньне сьпікерам працэдуры. Шушкевіч імгненна абыграе гэты працэсуальны тэрмін — “па парадку” — С. Н.). І я па парадку прагаласую. Хто за тое, каб старшынём камісіі быў народны дэпутат Лукашэнка Аляксандар Рыгоравіч, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Вынікі галасаваньня: кворум для галасаваньня 231. Кворум для прыняцьця рашэньня 174. Зарэгістравана 260. Прагаласавала “за” 198. Прагаласавала “супраць” 4. Устрымалася 5. Усяго прагаласавала 207. Не галасавала 53. Рашэньне прынята».

4 чэрвеня 1993 году пачаўся новы этап у біяграфіі Лукашэнкі.

У лёсе краіны — таксама.

***Ніл Гілевіч*** *(Красьненская выбарчая акруга № 77): Зашмат часу і пораху траціцца на асуджэньне Віскулёў, падпісанага там пагадненьня. Пры гэтым камень кідаюць чамусьці толькі ў агарод нашага старшыні Станіслава Станіслававіча Шушкевіча, як быццам мнагавопытны дзяржаўны муж Вячаслаў Францавіч Кебіч не паставіў пад белавескім дакумэнтам свайго подпісу. Шкада, што трацяцца час і сілы на гэты неразважны суд, які адно культывуе ў настроях людзей непатрэбную настальгію па мінулым... У ліку трох галоўных віноўнікаў, якіх яшчэ і дасюль шаржыруюць у некаторых газэтах, таварыша Шушкевіча магло б не быць. Гэта маглі б быць таварышы Ельцын, Краўчук і, скажам, Назарбаеў. А таварыш Шушкевіч спазьніўся б прыляцець. І што? Хіба з гэтага нешта б зьмянілася? Беларусь падпісала б гэтае пагадненьне трошкі пазьней, як гэта зрабілі ўсе астатнія рэспублікі Саюзу.  Па-трэцяе, і гэта галоўнае — усім нам трэба глядзець на рэальны стан рэчаў... Дарэчы, у вуснах многіх нашых грамадзян словы «сувэрэнітэт», «незалежнасьць» сталі словамі зьневажальна абразьлівымі, гучаць як лаянка. Няшчасьце на галаву звалілася — сувэрэнітэт! Жылі-жылі, і раптам на табе — пракляцьце божае — сувэрэнітэт народу дастаўся! Гэты матыў праступае ў некаторых прамовах тут. Пад любым прыкрыцьцем, але давайце пазбавімся ад сувэрэнітэту, бо ва ўсім вінаваты ён. Новая хвароба ў Беларусі — сындром набытага сувэрэнітэту.*

*Выступ у «Розным»*

# НАМЭНКЛЯТУРА СПРАБУЕ СКІНУЦЬ ШУШКЕВІЧА

— Крови хотите нашего Бухарчика? Не дадим вам крови нашего Бухарчика!

Я падышоў усутыч да невялікай групы дэпутатаў-камуністаў у фае Авальнай залі, і тыя ў неразуменьні аслупянелі. Напэўна, потым, калі я адышоў, запыталіся — «Што гэта зь ім?».

Яны маглі ведаць, а маглі і ня ведаць фразу, сказаную на нейкім партыйным форуме Сталіным, калі той абараняў Бухарына ад трацкістаў (яшчэ да таго, як адправіў былога сябра пад чэкісцкія наганы).

Я быў, дзякуй Богу, ня Сталін, дэпутаты — не трацкісты, і гэтая фраза, якая чамусьці ў стрэсавым стане ўсплыла з падсьвядомасьці, мела з рэальнасьцю толькі адно агульнае: крыві сапраўды хацелі, нават прагнулі. У той дзень камуністы спрабавалі адправіць у адстаўку Шушкевіча.

Але адступім на адзін дзень раней.

29 чэрвеня 1993 году Авальная заля была поўная як ніколі — разглядалася пытаньне пра перападпарадкаваньне Камітэту дзяржаўнай бясьпекі.

КДБ падпарадкоўваўся Вярхоўнаму Савету; у рэальнасьці — аднаму старшыні ВС, і як ён распарадзіўся гэтым, будзе асобная гаворка, пакуль жа адзначу, што і Вярхоўны Савет, і старшыня былі канстытуцыйнымі суб’ектамі. А Ўпраўленьне бясьпекі Саўміну на чале зь дзяржсакратаром Генадзем Данілавым, якое імкнулася падпарадкаваць сабе сілавыя структуры — не было прадугледжана ні Канстытуцыяй, ні законамі.

Данілаў быў найбольш набліжанай да Кебіча асобай, а ягонымі намесьнікамі былі лідэр парлямэнцкай групы «Беларусь» Генадзь Казлоў і дэпутат, тады яшчэ палкоўнік (пазьней генэрал) Паўлаў — якія не хавалі імкненьня «аб'яднаць» Беларусь з Расеяй. Таму пераход КДБ у падпарадкаваньне Саўміну азначаў бы ня толькі ўзмацненьне Кебіча, але і ператварэньне Камітэту ў рэпрэсіўны мэханізм (тое, што адбылося пры Лукашэнку). Прычым — прарасейскі рэпрэсіўны мэханізм.

У той дзень Генадзь Казлоў сабраў у Авальнай залі ня толькі максымальную колькасьць дэпутатаў сваёй пракебічаўскай групы, але і «нэўтралаў» — ня ведаю, што ўжо абяцалі апошнім.

Мы, акрамя выступаў на пасяджэньні, скарысталі сваю старую выпрабаваную тактыку — кулюарныя гутаркі з дэпутатамі, патлумачылі ім, чым гэта можа скончыцца і якую небясьпеку гэта будзе мець асабіста для іх (канешне, у кожнага былі або асабістыя ворагі, або нейкія «слабыя» месцы, і ціск на гэткія месцы чэкістамі быў адпрацаваны дзесяцігодзьдзямі).

Вынікі галасаваньня не абрадавалі Вячаслава Кебіча — не хапіла трох галасоў. Усяго толькі трох — але рашэньне не было прынятае. Як заўважыў Ігар Гермянчук, які сядзеў у «менскім» сэктары, непадалёку ад урадавай ложы, «расчараваны Вячаслаў Францавіч моўчкі пакінуў залю, строга зірнуўшы на сваю бяздарную дэпутацкую гвардыю».

Гэтае фіяска толькі разьюшыла парлямэнцкую большасьць,

## «Якобы национальная символика»

«Шум у залі» — такая рэмарка ставілася, калі выступ прамоўцы або сьпікера перапыняўся галасамі дэпутатаў, звычайна гэта было абурэньне або падтрымка. А здаралася — і адно, і другое разам.

«Шум» гэты ствараўся галасамі — ня памятаю, каб нехта ляпаў крышкамі пюпітраў, ці сядзеньнямі крэслаў, або тупаў нагамі. Падчас выступаў прамоўцаў іншыя дэпутаты звычайна не сядзелі моўчкі, дзе-нідзе ў Авальнай залі было чуваць шэпт — але перамаўляліся вось менавіта што ціха, не ствараючы асаблівага дыскамфорту для выступоўцы, выяўлялі павагу. Размоваў па тэлефонах не было — бо мабільных тэлефонаў у Беларусі яшчэ не існавала. Ну а калі «шум у залі» — гэта ўжо ці непавага, ці, наадварот, гарачая падтрымка.

На другі дзень на трыбуну ўзьняўся былы першы сакратар Жыткавіцкага райкаму партыі дэпутат Уладзімер Герасімаў; зьмяшчаю фрагмэнты ягонага выступу на мове арыгіналу.

«Уважаемые народные депутаты, вношу депутатский запрос от группы народных депутатов Председателю Верховного Совета Республики Беларусь Станиславу Станиславовичу Шушкевичу. 19 сентября 1991 года в обстановке после августовского морального террора внеочередная сессия Верховного Совета Республики Беларусь на основании информации руководства Академии наук и ее Института истории утвердила новую государственную символику: бело-красно-белый флаг и герб “Погоня”. Вопрос о принятии этой якобы национальной исторической символики белорусского народа был поднят оппозицией Белорусского народного фронта

в Верховном Совете. Представленное Институтом истории Академии наук заключение по новой государственной символике носит общедекларативный характер, документально не подтверждено и выглядит как историко-литературная импровизация. Такими же по содержанию были и выступления некоторых депутатов…»

У часе наданьня нацыянальным сымбалям статусу дзяржаўных у верасьні 1991 году дэпутатаў пазнаёмілі з афіцыйным заключэньнем Інстытуту гісторыі Акадэміі навук, навуковую аўтарытэтнасьць высноваў пацьвердзіў ня хто іншы, як прэзыдэнт АН Уладзімер Платонаў.

«При решении вопроса о государственной символике народные избранники не могут игнорировать то, что белорусский народ в подавляющем большинстве не принял и что он продолжает сохранять глубокое уважение к прежней государственной символике», — працягваў дэпутат Герасімаў, але не сказаў, адкуль ён зрабіў гэтыя высновы. Мітынгі камуністаў зьбіралі некалькі сотняў чалавек у Менску і пару дзясяткаў — у абласных цэнтрах, і за ўвесь час прыносілі штук пяць сьцягоў БССР, і гэта пры тым, што ніхто іх не забараняў.

«Многие тысячи людей в каждой области республики еще и теперь, спустя полвека, хорошо помнят, как в мрачные годы фашистской оккупации под бело-красно-белым флагом и с гербом “Погоня” белорусские национал-фашисты, полицейские и другие активные пособники гитлеровцев пытали, расстреливали и вешали патриотов, безжалостно уничтожали женщин, стариков и детей, сжигали дотла деревни и села, нередко вместе с их жителями,

насильственно угоняли население на фашистскую каторгу».

Тэма выкарыстаньня нацыянальнай сымболікі ў часе нямецкай акупацыі была абмеркаваная яшчэ ў верасьні 1991 году. Тады ж былы старшыня Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Георгі Таразевіч сказаў, што «фашыстоўскія прапагандысцкія службы дзейнічалі вельмі спрытна і хітра. Тыя дзеячы выкарыстоўвалі гістарычную нацыянальную сымболіку ня толькі ў нас у Беларусі, але і практычна ва ўсіх акупаваных краінах. Гэта тычыцца і Францыі, і Польшчы, і Украіны, і нават Расеі… І самае галоўнае: тое, што здаўна належыць народу, нікому ніколі нельга ні запляміць, ні забараніць, ні зьмяніць».

Але тэма зноў і зноў выводзілася на першы плян камуністамі — пры гэтым яны не жадалі прыгадваць, колькі людзей было расстраляна ў часе бальшавіцкіх рэпрэсій пад чырвонымі сьцягамі.

«И неудивительно, что и минчане, и находившиеся в столице жители других регионов Беларуси, перенесшие все ужасы вражеской оккупации, были беспредельно изумлены и возмущены, когда над Домом Правительства, где заседал Верховный Совет, взвился красно-белый флаг позора и национального предательства. (Шум у залі). В подтверждение этому хочу привести публикацию “Фемиды” в номере 25, которая впервые публикует немецкие документы военных лет, связанные с белорусской национальной символикой. Данную публикацию подписали известные люди в Республике Беларусь, владеющие вопросами истории и архива».

Газэта, якую выдаваў прадпрымальнік Аляксандар Патупа, у тым часе распачала кампанію за

ліквідацыю статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай і наданьне такога статусу расейскай мове; адначасна дыскрэдытавалася і дзяржаўная сымболіка з прыцягненьнем асобаў і дэпутатаў, якія валодалі «вопросами истории и архива», але не заўсёды добра валодалі расейскай мовай.

«И неудивительно... (Шум у залі). Случилось однако так, что народные депутаты не по своей воле... (Шум у залі). В целях установления исторической правды о новой государственной символике Республики Беларусь считаем необходимым, чтобы Председатель Верховного Совета срочно потребовал от Комитета по делам архивов и делопроизводства при Совете Министров Республики Беларусь представить полную информацию о наличии в архивах республики документов и материалов по истории появления на белорусской земле бело-красно-белого флага и герба “Погоня”, о чем доложить народным депутатам Республики Беларусь для принятия решения о целесообразности или нецелесообразности ее утверждения. Благодарю за внимание. Умейте слушать».

Слухаць мы ўмелі, і такія выступы былі намі пачутыя — увесь 1993 год дэпутаты БНФ патрабавалі, каб установы выконвалі прынятыя Вярхоўным Саветам пастановы аб дзяржаўнай сымболіцы. Але пракуратура ніяк не рэагавала на адкрытыя абразы дзяржаўнай сымболікі, а чыноўнікі як маглі адцягвалі разьмяшчэньне «Пагоні» на афіцыйных будынках. Дый на Доме Ўраду «Пагоня» зьявіцца толькі ў наступным годзе і правісіць нядоўга.

## Прапанова Лукашэнкі правальваецца

Дэпутацкае пасьведчаньне Булахаў паклаў з размаху, мікрафоны зафіксавалі пляск далоні аб трыбуну. А стэнаграфісткі — «шум у залі».

Потым выказвалася меркаваньне, што ў пэўнай ступені Шушкевіч сам справакаваў пытаньне аб даверы, рэзка выказаўшыся на адрас старшыні камісіі па заканадаўстве Дзьмітрыя Булахава. У студзені 1993 году Булахаў, знаходзячыся за стырном службовага аўтамабіля, зьбіў жанчыну, якая загінула (сьледзтва прызнала, што Булахаў не парушыў правілаў дарожнага руху і ня мог пазьбегнуць сутыкненьня, але Шушкевіч выказаўся ў тым сэнсе, што калі б Булахаў ня сам быў за стырном — трагедыі не было б). Вось тады Булахаў выйшаў на трыбуну і грымнуў дэпутацкім мандатам.

У пэўнай ступені гэта магло справакаваць дэпутатаў, але галоўнай прэтэнзіяй да Шушкевіча было тое, што, як сьцьвярджалі дэпутаты, сьпікер ня выканаў рашэньне Вярхоўнага Савету ад 9 красавіка і не падпісаў Дамову аб калектыўнай бясьпецы.

Шушкевіч сказаў, што адаслаў лідэрам краінаў — членаў Дамовы ліст, у якім паведаміў пра далучэньне да яе Беларусі, але міністар замежных спраў Краўчанка заявіў, што гэты ліст ня мае юрыдычнай сілы.

Пытаньне пра адстаўку Шушкевіча выразна паставіў дэпутат, былы сакратар ЦК КПБ Ціхіня, яго падтрымаў Лукашэнка, абвінаваціўшы Шушкевіча ў нязгодзе з уступленьнем у сыстэму калектыўнай бясьпекі і, як ён гэта звычайна рабіў, у падпісаньні белавескага пагадненьня.

Прапанова Лукашэнкі пра адстаўку Шушкевіча набрала 163 галасы, а для прыняцьця рашэньня ў той момант патрэбна было 174.

## Апазыцыя БНФ падтрымлівае Шушкевіча

Аднойчы на прэсавай канфэрэнцыі ці нават у часе прамога этэру я прыгадаў свайго пляменьніка Мікіту, калі ён быў яшчэ немаўлём. Пасьля вяртаньня з войска я жыў у бацькоў разам зь сям'ёй сястры і, здаралася, яна даручала мне даглядаць малога. Нічога асабліва складанага ў тым не было, але часам ён капрызаваў і, калі я трымаў яго на руках, лупцаваў мяне па твары як толькі мог. Ня ведаю, што ён мог разумець у год зь нечым, але, пэўна, адчуваў, што якія б драпіны ён мне ні паставіў — я рукі не расьцісну, ня кіну, буду трымаць. Ня тое каб было балюча, але — крыўдна.

«Вось так і Шушкевіч: лупцуе і ведае, што мы яго ня кінем», — патлумачыў я сваё параўнаньне.

У нас было шмат прэтэнзіяў да Шушкевіча — за ягоную непасьлядоўнасьць, за ігнараваньне нашых прапановаў, за адключэньне нам мікрафонаў на сэсіях, за вельмі часта непатрэбныя кампрамісы з Кебічам і з пракамуністычнай парлямэнцкай большасьцю. Урэшце, менавіта на яго мы ўскладалі найбольшую адказнасьць за неправядзеньне ў 1992 годзе рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах, за што паставілі подпісы больш як 440 тысяч грамадзян. Мы разумелі, што Шушкевіч — «дэмакратычная» шырма для намэнклятуры.

І ўсё ж — Шушкевіч ня быў настроены па-праімпэрску, ён выступаў за нацыянальнае Адраджэньне, за незалежнасьць (хоць і непасьлядоўна),

за беларускую мову (пасьлядоўна). Мы разумелі, што ў выпадку адстаўкі Шушкевіча на яго месца ня прыйдзе лепшы.

Працэдура выказу даверу або недаверу не была прапісаная ў Часовым рэглямэнце Вярхоўнага Савету (якім парлямэнт быў абавязаны кіравацца ў сваёй працы), але Віктар Ганчар заявіў, што парлямэнт мае права прыняць якое заўгодна рашэньне. «Калі мы здымем Шушкевіча, дык нічога ня здарыцца, паколькі ён нічога не зрабіў для стабілізацыі эканамічнай сытуацыі», — заявіў Ганчар.

Мы ў апазыцыі абмяркоўвалі сытуацыю нядоўга — толькі вызначыліся з тактыкай, зь лініяй паводзін. Пытаньня — мы «за» або «супраць» Шушкевіча — не ўзьнікала. Было вырашана, што ў выпадку, калі дойдзе да галасаваньня за адстаўку або недавер, будзем зрываць кворум.

Заля была наэлектрызаваная, дэпутаты-камуністы крычалі, ускоквалі зь месцаў, і тут дарэчы будзе працытаваць уражаньне журналіста Максіма Грэка, які назіраў за відовішчам збоку:

«Атака іх сапраўды шалёная, бо кіруе імі не дакладны разьлік, не здаровы сэнс, а страх і прага помсты. Страх за тое, што іх час праходзіць… З другога боку атака — гэта прага помсты, імкненьне апошні раз нашкодзіць, грымнуць дзьвярыма перад сваім канцом. Яны аджываюць, будучага няма. І тычыцца тое як адкормленых у партыйных сьвінарніках парсюкоў, так і атлусьцелай на дзяржаўных раскрадзеных сродках новай буржуазіі — намэнклятуры, якая своечасова апынулася менавіта там, дзе нешта прыватызуецца. І вось тут змыкаюцца інтарэсы Івана Трусава і Генадзя Карпенкі, вось тут і сябруюць камуніст з «дэмакратам». У захаваньні

такога стану і шукаюць апору «товарищи» з «господамі», заклікаючы да «згоды» і «стабільнасьці» («Добры вечар», 3 ліпеня 1993).

Мы абараняялі Шушкевіча — вось фрагмэнт майго выступу: «Што і казаць, папрокаў спадару Шушкевічу можна прывесьці нямала. Адзін зь іх — гэта, магчыма, нежаданьне ці няўменьне сфармаваць моцную каманду зь ліку дэмакратычных дэпутатаў і прадстаўнікоў дэмакратычных плыняў, здольных распрацаваць канцэпцыю пабудовы суверэннай дэмакратычнай дзяржавы, канцэпцыю рэальных эканамічных рэформаў. Такія праграмы і законапраекты распрацоўваліся апазыцыяй БНФ бяз вашай, Станіслаў Станіслававіч, падтрымкі. Гэта быў шанец, але, на жаль, ён ня быў выкарыстаны. Я пра гэта кажу шчыра і адкрыта, але гэтак жа шчыра павінен сказаць і пра тое, што катэгарычна супраць таго, каб вешаць на старшыню Вярхоўнага Савету ўсіх сабак».

Паколькі нежаданьне Шушкевіча падпісаць вайсковы саюз з Расеяй было адной з галоўных да яго прэтэнзіяў з боку парлямэнцкай большасьці, я спыніўся і на гэтай тэме:

«Перакананы, што калектыўная бясьпека, ідэя пра гэты так званы эканамічны саюз — гэта толькі шырма для прыкрыцьця няздольнасьці ўраду вывесьці эканоміку з крызісу… На сёньняшні дзень урад не распрацаваў і не прадставіў ні праграму структурнай перабудовы эканомікі, ні праграму разьвіцьця альтэрнатыўных крыніцаў энэргіі і энэрганосьбітаў, ні праграму канвэрсіі, якую, відаць, найперш трэба было б распрацаваць і прадставіць. Вы абвінавачваеце старшыню, і асабліва дэпутатаў апазыцыі ў тым, што мы выступаем супроць Расеі,

як вы кажаце, “антирусские настроения”. Выбачайце, вы ня знойдзеце ніводнага выступленьня ні лідэра Народнага Фронту Пазьняка, ні дэпутатаў апазыцыі, дзе такая ідэя праводзілася б. Вы ня знойдзеце ніводнага слова супроць Расеі, ніводнага слова супроць расейскага народу. Іншая справа, што мы казалі пра тое, што нельга рабіць стаўку на адзін бок. Ня можа ў сувэрэннай дзяржаве быць вэктар разьвіцьця толькі ў адзін бок, трэба шукаць па ўсіх накірунках».

Працытую яшчэ фрагмэнт выступу Пазьняка: «Сустракаючыся з партыйнымі функцыянэрамі, я заўсёды зьдзіўляўся адной акалічнасьці, што людзі, якія базуюць сваю ідэалёгію на дыялектыцы, абсалютна не разумеюць законаў гэтай дыялектыкі. З пункту гледжаньня тых пытаньняў, якія зараз разьбіраюцца, яны ўжо перасталі быць актуальнымі. Пра які эканамічны саюз зараз можна гаварыць? Пра якую калектыўную бясьпеку? Гэта яшчэ тры месяцы назад гэтае пытаньне было актуальнае, асабліва для вас, калі ў Расеі чакаліся перамены. Цяпер пазыцыя Ўкраіны вам вядомая. Яна ніколі ня пойдзе ў калектыўную бясьпеку. Пазыцыя Казахстану рэзка перамянілася. А гэта дастаткова вялікая дзяржава з магутнымі рэсурсамі. Хто застаўся? Засталася Армэнія, якая ваюе з Азэрбайджанам, і Расея… Да якой калектыўнай дамовы далучацца? Размова можа ісьці толькі аб ваенным саюзе з Расеяй».

Гэтым самым Пазьняк агаліў сутнасьць імкненьня далучыць Беларусь да сыстэмы калектыўнай бясьпекі. Што, уласна, і пацьвердзіў старшыня Магілёўскага аблвыканкаму Мікалай

Грынёў, сказаўшы, што выбар адзін: альбо ў NATO, альбо — пад кіраўніцтва Расеі.

З патрабаваньнем адстаўкі Шушкевіча, паколькі ён «не скрывал неприятия, причем воинствующего неприятия позиции Верховного Совета», выступіў Віктар Ганчар. Пытаньне пра недавер падтрымаў і Генадзь Карпенка — у яго з Шушкевічам была ўзаемная антыпатыя.

## «Хай задушацца гэтым шакалядам»

У Авальнай залі дэпутаты сядзелі па абласьцях. Калі павярнуцца тварам да прэзыдыюму, з правага боку разьмяшчаліся дэпутаты Менску і Менскай вобласьці, потым берасьцейскія. Віцебскія сядзелі па абодва бакі ад цэнтральнага праходу. Затым была Гомельская вобласьць, Магілёўская і, нарэшце, Горадзенская. Дэпутаты ад грамадзкіх арганізацый былі рассаджаныя па ўсёй залі.

Але бліжэйшыя да прэзыдыюму сэктары звычайна займалі не парлямэнтарыі. У левым сэктары сядзелі супрацоўнікі апарату Вярхоўнага Савету (і некалькі дэпутатаў, якіх абіралі ў сакратарыят сэсіі), правы быў адведзены для членаў ураду. У першым радзе сядзеў Кебіч, за ім — ягоныя намесьнікі, далей — міністры. З пэўнага часу адразу за Кебічам сядзелі Данілаў і начальнікі ўпраўленьняў Саўміну. Аднак гэты, правы «урадавы» сэктар выступоўцы часта на трыбуне называлі «левым», паколькі стаялі тварам да залі.

Ня памятаю, каб у дні, калі ішла атака на Шушкевіча, Кебіч сядзеў на сваім дэпутацкім месцы — за падзеямі ў Авальнай залі ён мог сачыць на тэлеманіторы, у кабінэтах Дому ўраду заўсёды ішла



Урадавы сэктар Авальнай залі. У цэнтры — Вячаслаў Кебіч.

трансьляцыя. Але сэктар ураду быў запоўнены большай часткай не міністрамі, а супрацоўнікамі апарату Саўміну, «шэрымі кардыналамі», як мы іх называлі. Яны і кантралявалі працэс, які набываў усё больш небясьпечны для Шушкевіча характар.

Мечыслаў Грыб: «Стварэньне эканамічнага саюзу ў рамках СНД без Дамовы аб калектыўнай бясьпецы — гэта чарговы міт і спроба адарваць Рэспубліку Беларусь ад нашых усходніх суседзяў».

Мікалай Грынёў, старшыня Магілёўскага аблвыканкаму: «Станіслаў Станіслававіч, рыхтуючыся да будучых прэзыдэнцкіх выбараў, хоча выразна і ясна адгарадзіцца ад эканомікі і сказаць: “Гэта яны там няздольныя ў рынку працаваць”. Разваліўшы Савецкі Саюз, ашукаўшы нас на сэсіі Вярхоўнага Савету, на якой мы прагаласавалі за Дамову па

СНД — рублёвую зону, эканамічную прастору... Мы паддаліся на гэтую вуду, былі ашуканыя і павінны папрасіць прабачэньня перад людзьмі… Спадар Пазьняк, вы ж інтэлігентны чалавек, кандыдат навук, чаго вы седзіце і гарлапаніце зь месца? Дзякуй, я бяз вашай падказкі пакуль разьбіраўся і буду разьбірацца!»

Віктар Піскароў, былы міністар унутраных спраў: «Прэзыдэнцкая форма кіраваньня, відавочна, сёньня найбольш прымальная для нашай маладой дзяржавы... Але наш старшыня, па сутнасьці, апынуўся ў апазыцыі да Вярхоўнага Савету, падтрымліваючы і прапагандуючы ідэю аб парлямэнтарнай (так у стэнаграме — С. Н.) форме кіраваньня».

Аляксандар Лукашэнка: «Пытаньне аб адстаўцы сьпікера нашага парлямэнту абмяркоўваецца даўно і небеспадстаўна. Я буду казаць толькі аргумэнты. Калі ўстане гэтае пытаньне, я адназначна буду галасаваць за вашу адстаўку. Эканомікай вы не займаецеся — ня хочаце, ваша палітычная канфрантацыя, якую вы працягваеце, арыентуючыся на Балта-Чарнаморскі саюз, — гэта шлях да развалу і падзелу рэспублікі. Абсурд яшчэ палягае ў тым, што кіраўнік парлямэнту не выяўляе думкі большасьці».

Міхаіл Качан, дэпутат ад вэтэранскай арганізацыі: «Я нядаўна быў сьведкам такой карціны ў Менску і Гомелі: вуліцы аблытаныя спэкулянцкімі ларкамі, група дзетак пераходзіла ад аднаго ларка да другога, і ўсе іх позіркі былі зьвернутыя на ласунак — на шакаляд, які там ляжаў коштам 300–400 рублёў. Хлопцы паміж сабой разгаварыліся і выказалі: “А раней мне мамка купляла шакаляд, а цяпер не — няма за што. Хай яны самі задушацца

гэтым шакалядам". Гэты праклён яны шлюць вам, Станіслаў Станіслававіч. Вы ня толькі зрабілі жабракамі старэйшае пакаленьне, вы адабралі шчасьце, радасьць у нашых дзяцей, што зьяўляецца самым каштоўным і дарагім капіталам для нашай нацыі… Наш народ 17 сакавіка 1991 году выказаўся за захаваньне Саюзу, але хто растаптаў жаданьне народу, хто напляваў на свой народ? Гэта самы галоўны "дэмакрат" — вы, Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, які падпісаў Белавескае пагадненьне насуперак волі народу».

Дэпутату-вэтэрану адказаў Іван Герасюк: «Старшыня нашага Вярхоўнага Савету ў першую чаргу палітык. Палітыку Беларусі сёньня паважаюць у сьвеце, і маючы адбыцца візыт у ЗША сьведчыць аб шырокім міжнародным прызнаньні Беларусі. І я як грамадзянін задаволены, што мой сын ад'яжджае сёньня ў піянэрскі лягер і ніхто па дарозе не падпаліць аўтобус. Я задаволены, што сёньня на вясковы падворак маёй маці не падаюць бомбы. А кіраўніцтва канкрэтна эканомікай — выключна задача выканаўчай улады. Вось з гэтага левага сэктару і трэба спытаць, таварыш Качан, чаму нашы дзеці ці ўнукі плачуць ля камэрцыйных кіёскаў і чаму нас зноў парадавалі новым павышэньнем цэн. І да гэтага сэктару ўсім нам трэба прыглядзецца больш пільна. Не Шушкевіч вінаваты ў тым, што па ліцэнзіях міністэрстваў і розных "камаў" мільярдамі раскрадаюць Беларусь, што ў асобных нашых дзеячоў, блізкіх да выканаўчай улады, зьявіліся даляравыя рахункі ў замежных банках. Прозьвішча ня жонкі Шушкевіча, а жонкі Кебіча фігуравала ў сумнеўнай гандлёвай, для кагосьці выгаднай зьдзелцы. Не Шушкевіч будуе сабе вілу ў маляўнічых мясьцінах пад Менскам, ды

падобную яшчэ ў водаахоўнай зоне ў Папярнянскім сельсавеце. У сьпісе гэтых лятыфундыстаў значацца прозьвішчы нейкіх Кеніка і Мясьніковіча (намесьнікі Кебіча — С. Н.). Я мог бы назваць шмат прозьвішчаў, але Савет міністраў вырас за гэты час настолькі, што мне проста ня хопіць часу».

І вырас апарат Саўміну ў тым ліку і за кошт былых супрацоўнікаў ЦК, менскіх абкаму, гаркаму і райкамаў кампартыі, якія не маглі даравацць прыхільнікам дэмакратыі паразы ў жніўні 91-га.

## «Вы дзейнічаеце па інстынктах»

Мы заклікалі палітычных апанэнтаў да розуму і зьвярталі ўвагу на парушэньні рэгляманту.

Анатоль Вярцінскі: «Мы дайшлі да вельмі небясьпечнай рысы гісторыі нашага Вярхоўнага Савету XII скліканьня… Тут гучала слова “допрос”. Гэта ня толькі “допрос”, гэта “допрос с пристрастием”. Ідзе барацьба ня толькі з Шушкевічам. Шушкевіч выбраны як мішэнь. Ідзе барацьба з тым накірункам, дэмакратычным разьвіцьцём, на шлях якога стала Рэспубліка Беларусь, якая хоча стаць нэўтральнай, бязьядзернай».

Сяргей Антончык: «Я як прадстаўнік рабочых, якія сюды мяне накіравалі, зь вялікім задавальненьнем займуся пасьля вашага галасаваньня падрыхтоўкай агульнапалітычнага страйку з патрабаваньнем адстаўкі ўраду і з патрабаваньнем адстаўкі Вярхоўнага Савету. І ня толькі адстаўкі, а яшчэ з прыцягненьнем да крымінальнай адказнасьці тых людзей, якія раскралі эканоміку, якія прадалі ўсё, што можна прадаць. І таму я прапаную вам адумацца. Сёньня вы дзейнічаеце і працуеце па

інстынктах, але заўтра прыйдзе працьверазеньне. І спадзяюся, што 1991 год паўторыцца, але паўторыцца значна мацней».

Лявон Баршчэўскі: «Можна галасаваць за ўсё, што вы хочаце, гэта ваша права, шаноўнае спадарства, калі ласка. Але чарговы раз парушаць Рэглямэнт — гэта чарговы раз прымушаць недэмакратычным спосабам вырашаць пэўнае пытаньне».

Сяргей Навумчык: «Спадары дэпутаты, прадстаўнікі пракамуністычнай дэпутацкай большасьці! У мяне ўзьнікаюць сумненьні, ці ўвогуле здольныя вы прагназаваць разьвіцьцё падзей у грамадзтве. Вынясеньне ад імя спадароў Лукашэнкі, Прывалава і іншых вось гэтага пытаньня аб адстаўцы Шушкевіча, на жаль, пацьвярджае самыя сумныя прагнозы. Вы не прагназуеце сытуацыю ўвогуле. Якім бы неразумным вы ні лічылі нашае насельніцтва, але людзі здольныя будуць за гэтыя два–тры месяцы разабрацца, што ня можа старшыня Вярхоўнага Савету несьці адказнасьць за рашэньні Вярхоўнага Савету, за 300 дэпутатаў, якія прымаюць гэтыя рашэньні… Вы гаварылі пра хворую эканоміку. Але ўрад павінен несьці адказнасьць за эканоміку. І таму апазыцыя некалькі разоў ставіла пытаньне аб адказнасьці ўраду і пэрсанальна спадара Кебіча. Чаму ж вы тады нас не падтрымалі?»

Вольга Галубовіч: «Шаноўныя калегі, няўжо мы хочам канчатковага распаду нашай незалежнасьці? Няўжо мы гэтага хочам? Няўжо мы хочам, каб сапраўды пачаліся і палітычныя і эканамічныя страйкі?»

Мікалай Крыжаноўскі: «Паглядзіце, хто выступае (супраць Шушкевіча — С. Н.)? Той, хто высту-

паў супраць дзяржаўнай сымболікі, рэзка выступае супраць Шушкевіча, таму што гэта шчыры беларус і таму што ён за адраджэньне Беларусі. Другі выступае — той, хто выступаў супраць дзяржаўнай мовы, сёньня ён таксама выступае супраць Шушкевіча. І справа не ў Шушкевічу. Справа сёньня ў тым, шаноўная большасьць, што вы ўбачылі, што Шушкевіч пачаў займаць прынцыповыя пазыцыі. Калі ён з вамі пагаджаўся, вы яго падтрымлівалі. Калі ён заняў прынцыповую пазыцыю ў адносінах да адраджэньня дзяржаўнасьці і сувэрэнітэту, крочаньня шляхам да нэўтралітэту і бязьядзернасьці, вы паўсталі рашуча».

Генадзь Маісееў: «Гэта звычайны канстытуцыйны дзяржаўны пераварот, несумленны. Падумайце, ёсьць час, пакуль ня позна. Што ж, большасьць у нашым Вярхоўным Савеце (можа быць, палова) — людзі прарасейскай арыентацыі, …якіх савецкая ўлада за семдзесят зь лішнім гадоў існаваньня зрабіла мутантамі».

Мы адчувалі, што нашыя аргумэнты не ўспрымаюцца — выходзілі да мікрафонаў Ганчар, Карпенка, выбягаў Лукашэнка. Лукашэнка нас не зьдзіўляў, а вось тое, што з намэнклятурай зьліліся Карпенка і Ганчар, якія мелі каля дзясятка прыхільнікаў сярод дэпутатаў і называлі сябе дэмакратамі — тое было непрыемна. І небясьпечна: галасоў за недавер магло хапіць.

І тады мы проста ня ўзялі ўдзелу ў рэгістрацыі. Кворуму не хапіла — але намэнклятура ўсё роўна пачала галасаваньне праз бюлетэні. Нават калі б галасоў хапіла, гэта яшчэ б не азначала адстаўкі. Але Шушкевіч апынуўся б у складанай сытуацыі: хутчэй за ўсё, пры недаверы большасьці дэпутац-

кага корпусу, ён вымушаны быў бы падаць у адстаўку. Зрэшты, нашыя апанэнты маглі і не чакаць гэтага кроку, а вынесьці пытаньне ўжо не пра недавер, а пра адстаўку і сабраць тыя самыя патрэбныя галасы (што і зрабілі праз паўгода, у студзені 94-га).

У выніку, за недавер Шушкевічу прагаласавала 166 дэпутатаў — 8 галасоў не хапіла.

## Па сто грамаў. І яшчэ па дзьвесьце

Тут дазволю сабе выказаць меркаваньне, што пэўную ролю ў правале плянаў пракамуністычнай намэнклятуры і групы тых, хто залічваў сябе да дэмакратаў (Ганчара і Карпенкі) адыгралі ня толькі тактыка, але і каляндар.

1 ліпеня, калі ішло галасаваньне, прыпадала на пятніцу, і наперадзе былі выходныя. А ў гатэлях, дзе жылі дэпутаты, былі лядоўні, а ў лядоўнях — гарэлка і закусь. Ужо раніцай некаторыя ўзялі па добрай чарцы. А ў часе, калі рыхтаваліся бюлетэні, дабавілі па другой, а хто-ніхто — і па трэцяй. «На гэты момант некаторыя дэпутаты ўжо былі добра п’яныя. Адзін зь іх, намесьнік старшыні аблвыканкаму, так набраўся, што ледзь трымаўся на нагах. Другі, старшыня райвыканкаму, прыкладна ў такім самым стане нават імкнуўся да мікрафона», — распавёў «Свабодзе» дэпутат Мікалай Аксаміт.

І ўсё ж, хоць і нецьвярозай паходкай, але гэтыя дэпутаты дайшлі да скрыняў для галасаваньня і выканалі свой абавязак перад Кебічам. А вось некаторыя засталіся ў гатэлі (магчыма, заснулі) — ня выключана, што якраз іх галасоў і не хапіла для выказу недаверу Шушкевічу.

Пасьля гэтага некаторыя журналісты ў мяне пыталіся, ці ня мы прывялі дэпутатаў у абдымкі Бахуса, ці не было і спойваньне палітычных апанэнтаў часткай тактыкі Апазыцыі БНФ?

Шчыра прызнаюся: была спакуса сказаць, што так, гэта мы прынесьлі ім гарэлку, мы прапанавалі перад пасяджэньнем «па сто», а ў перапынку — яшчэ «па сто пяцьдзясят». Але — не. Мы тут ні пры чым. Мы, хоць і добра ўжо вывучылі норавы нашых праціўнікаў, але і ўявіць не маглі, што ў такі адказны для свайго патрона момант яны сарвуцца.

Аднак мушу аддаць належнае апанэнтам: праз паўгода, у студзені 94-га, яны ўлічаць памылку і пры галасаваньні за адстаўку Шушкевіча будуць цьвярозыя ўсе як адзін — затое пасьля, як абвесьцяць вынік, гатэлі «Мінск» і «Кастрычніцкая» загудуць ці не да наступнай раніцы.

## «Шушкевіч ёсьць Шушкевіч»

«Найбольш пасьлядоўна і адкрыта адстойвала Вас у гэтай сытуацыі Апазыцыя БНФ. Ці перагледзіце Вы цяпер свае адносіны зь ёю?» — запытаўся карэспандэнт БелаПАНу ў Шушкевіча адразу пасьля спробы зьняць яго з пасады. — «Што тычыцца ацэнкі дзеяньняў апазыцыі ў апошнія дні... Я зразумеў, што яна стала “глыбейшай”. Паглядзіце, наколькі эфэктыўна прымяніла яна яшчэ адну сваю “зброю” — байкот. Адзначу, што па пытаньнях культуры, мовы і гістарычнай спадчыны я заўсёды быў з апазыцыяй. Але па пытаньнях эканомікі трэба капаць глыбей, чым яна гэта робіць...» («Звязда», 3 ліпеня 1993).

Памятаю, я вельмі абурыўся, прачытаўшы гэтыя словы — Станіслаў Станіслававіч зрабіў выгляд, што ня ведае пра нашыя эканамічныя праграмы і законапраекты.

Свой папрок я выказаў Шушкевічу у той самы дзень на прыёме ў рэзыдэнцыі амбасадара ЗША Дэйвіда Сўорца з нагоды амэрыканскага Дня Незалежнасьці.

Амбасадар стварыў нам — Шушкевічу, Пазьняку, Заблоцкаму, Сярэдзічу і мне — умовы для гутаркі (пасадзіўшы нас за адзін стол, а жонак — за іншы), асобна ад іншых гасьцей. Госьці разышліся, а мы працягвалі пераконваць Шушкевіча, што трэба пачаць дзейнічаць рашуча, а менавіта — запатрабаваць адстаўкі Кебіча і ствараць кааліцыйны ўрад. Гэта было неабходна, паколькі стары ўрад не гарантаваў бы дэмакратычнасьці новых выбараў.

Ігар Гермянчук гэтак пракамэнтаваў сытуацыю: «Шушкевіч стаіць цяпер перад выбарам: шукаць і далей “згоды” ці стаць на бок дэмакратаў іісьці радыкальным шляхам, дамагаючыся правядзеньня новых выбараў. Аднак Шушкевіч ёсьць Шушкевіч — малаверагодна, што ён рызыкне выбраць другі варыянт».

Пра выбар сказаў і Лявон Баршчэўскі: «У Шушкевіча цяпер ёсьць шанец дапамагчы дэмакратыі як ніколі. На маю думку, яму нічога не застаецца, як вынесьці на рэфэрэндум пытаньне аб роспуску Вярхоўнага Савету. Калі ж Шушкевіч і гэтым разам праявіць нерашучасьць, на наступнай сэсіі ў верасьні-кастрычніку яго здымуць» («Свабода», 1–15 ліпеня 1993).

Гермянчук і Баршчэўскі не памыліліся — хіба што толькі ў часе, на тры месяцы.

***Валеры Кучынскі** (Кобрынская гарадзкая выбарчая акруга № 125): Была бы моя воля, на сегодняшний день я запретил бы всякую политическую деятельность в Республике Беларусь, я имею в виду партийную деятельность, ввел бы государственное конституционное правление, создал бы соответствующие институты и разобрался со всеми теми вопросами, которые публикуются в печати, в частности, по коррупции, по безобразиям... и одновременно разобрался бы и по другим вопросам, которые столь долго муссируются в прессе, по телевидению, по радио и во многих других учреждениях и организациях. Это во-первых. Во-вторых. Ну разве можно нам, народным депутатам, делать политику на коллективной безопасности! Поднимается одна группа депутатов... народный депутат и заявляет: «Старшыня Вярхоўнага Савету — здраднік, потому что он подписал Беловежские соглашения». Но мы с вами сидели здесь все и единогласно голосовали за эти соглашения. Так почему же, если Председатель Верховного Совета поступил неправильно, мы тогда с вами здесь натискали эти кнопки. Ладно. Допустим, мы были введены в заблуждение, был момент, не разобрались. Не разобрался и я. Ну, что мне — 35 лет, пришел старший лейтенант в Верховный Совет, не хватало немножечко опыта. Но многие здесь сидящие были политиками, занимали посты... они-то должны были видеть, что мы делали и к чему мы шли. Никто не поднялся.*

*Выступ у «Розным»*

# III УСЕБЕЛАРУСКАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ПРЫЗНАЕ РАДУ БНР

Падзея, якая адбылася 6 ліпеня 1993 году ў залі Купалаўскага тэатру, была гістарычнай — бо была працягам гістарычных падзеяў. Але Пазьняк унёс інтрыгу.

«Як вы думаеце, — запытаўся ён, — як у гэтай залі, якая ў сьнежні 1917 году мела 600 пасадачных месцаў, маглі зьмясьціцца 1822 дэлегаты Першага Ўсебеларускага зьезду?»

На пытаньне Пазьняк паабяцаў адказаць пазьней.

III Усебеларуская палітычная канфэрэнцыя паводле задумы арганізатараў павінна была паставіць кропку ў важнай тэме беларускай гісторыі, распачатай на 68 гадоў раней за тысячу кілямэтраў ад Менску — у Бэрліне. І тым самым даць новыя магчымасьці ўстанове, якая лічылася адно толькі сымбалем.

Ініцыятарамі скліканьня канфэрэнцыі былі Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада і БНФ «Адраджэньне». У залі прысутнічаў 91 дэлегат — палова ад палітычных партый і арганізацый Беларусі, другую палову складалі прадстаўнікі беларускіх арганізацый замежжа. Заля і бальконы тэатру былі перапоўненыя, агулам сабралася каля 500 чалавек, у тым ліку і ўдзельнікі Першага зьезду беларусаў сьвету, які днямі меўся распачаць сваю працу.

Першая Ўсебеларуская канфэрэнцыя адбылася ў верасьні 1921 году ў Празе, яна асудзіла Рыскую мірную дамову 1921 году і пацьвердзіла вернасьць

Трэцяй Устаўной Грамаце Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Другая канфэрэнцыя прайшла ў Бэрліне ў кастрычніку 1925 году, на ёй некаторыя кіраўнікі ўраду БНР на чале з Аляксандрам Цьвікевічам склалі свае паўнамоцтвы, прызналі Савецкую Беларусь і вярнуліся ў Менск.

Праз колькі гадоў яны былі рэпрэсаваныя і загінулі.

А яшчэ празь дзесяцігодзьдзі былі апублікаваныя архіўныя дакумэнты, зь якіх вынікала, што складаньне паўнамоцтваў ураду было, у значнай ступені, вынікам апэрацыі НКВД.

Юрыдычна яно было неправамоцнае само па сабе, і Рада БНР у выгнаньні ніколі не спыняла свайаго існаваньня, а ўсе спробы ўсяляк падарваць яе легітымнасьць аказаліся бясплённымі. І гэта — існаваньне і дзейнасьць Рады БНР — стала фактарам палітычнай барацьбы ва ўжо новай палітычнай рэальнасьці, якой стала незалежнасьць Беларусі.

Акрамя кіраўнікоў БНФ і Грамады ў канфэрэнцыі бралі ўдзел лідэры Беларускай сялянскай партыі Яўген Лугін, Партыі народнай згоды Аляксей Кароль, Аб’яднанай дэмакратычнай партыі Аляксандар Дабравольскі, Жаночага Хрысьціянска-дэмакратычнага руху Беларусі Людміла Пеціна. Вёў канфэрэнцыю адзін зь лідэраў Грамады, першы намесьнік старшыні Менскага гарвыканкаму Анатоль Гурыновіч. Разам зь імі ў прэзыдыюме была вядомая перакладчыца зь Вялікай Брытаніі Вера Рыч, сябры Рады БНР Галіна Русак і Янка Запруднік з Амэрыкі, Міхась Лужынскі з Аўстраліі.

У залі — Васіль Быкаў (ён выступіў з прамовай), Вольга Іпатава, гісторыкі Валянцін Грыцкевіч,



Зянон Пазьняк выступае на III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі.

Мікола Ермаловіч, Анатоль Сідарэвіч, ксёндз Ян Матусевіч.

У мяне адчуваньне гістарычнасьці падзеі (усё ж з часу папярэдняй канфэрэнцыі мінула больш за 67 гадоў) сумяшчалася з настроем, які можна назваць баявым — яшчэ не пасьпеў адысьці ад драматычных падзеяў на сэсіі Вярхоўнага Савету, калі пракамуністычная большасьць спрабавала зьняць з пасады сьпікера Станіслава Шушкевіча. Здаецца, калегі па дэпутацкай апазыцыі былі ў падобным стане.

А вось іншыя дэлегаты, асабліва з замежжа, мелі настрой узьнёслы. Што зразумела: прадстаўнікі

дыяспары прыехалі ў Менск для ўдзелу ў Першым зьезьдзе беларусаў сьвету і, уласна, сама канфэрэнцыя была прымеркаваная да гэтай падзеі.

## Рада БНР магла скласьці паўнамоцтвы

Прычыну скліканьня канфэрэнцыі назваў у сваім выступе Зянон Пазьняк: «Нагодай для III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі стаў намер гэтага антынароднага ўраду склікаць зьезд беларусаў сьвету, які хацелі правесьці як чарговы кангрэс. Ці ня дзіва? Тыя, што амаль пяцьдзясят гадоў найбрыдчэйшым чынам аплёўвалі беларускую эміграцыю, паклёпнічалі на яе і працягваюць паклёпнічаць, цяпер зьбіраюць зьезд, запрашаюць тых, каго называлі “фашыстамі” і “вырадкамі”, “предателями родины” на Бацькаўшчыну, выдзяляюць вялікія сродкі. У чым прычына? Прычына простая. Спачатку думалі прыкінуцца незалежнікамі і дэмакратамі і пры дапамозе арганізацыі “Бацькаўшчына”, нашпігаванай кагэбісцкімі “сексотамі” і “стукачамі”, ды на хвалі эміграцкай эўфарыі дамагчыся перадачы паўнамоцтваў і дакумэнтаў Рады БНР гэтаму камуністычнаму ўраду Беларусі (сфармаванаму, дарэчы, яшчэ на бюро ЦК КПБ-КПСС). Гэтак камуністам удалося ашукаць украінцаў. Цяпер, калі стала зразумелым, што зь беларусамі такі фокус не атрымаецца, хочуць прыўлашчыць сабе павагу, заслужыць давер, атрымаць прызнаньне сваёй легітымнасьці ад беларускай эміграцыі, а тым самым падтрымку сваёй антынацыянальнай палітыкі, дараваньне былых злачынстваў і сьмяротных грахоў перад беларускім народам».



Удзельнікі канфэрэнцыі.

Адносна «сэксотаў» у «Бацькаўшчыне» асабіста я ніякай інфармацыі ня меў тады і ня маю цяпер — хоць цалкам верагодна, што КДБ запусьціла ў гэтую арганізацыю сваіх людзей, нейкім чынам кантралявала яе дзейнасьць, бо праца з дыяспарай дзесяцігодзьдзямі была адным з прыярытэтных накірункаў чэкісцкага клопату.

Што тычыцца намаганьняў пераканаць Раду БНР перадаць свае паўнамоцтвы — тут магу сьведчыць, што яшчэ летам 1992 году, калі на запрашэньне Дзяржэпартамэнту ЗША я быў у Злучаных Штатах, я чуў пра гэта ад актывістаў беларускай дыяспары ў Вашынгтоне (ад старшыні Беларускага Кангрэсавага камітэту Расьціслава Завістовіча) і ў Нью-Ёрку (ад сябра Рады БНР Янкі Запрудніка), а таксама некаторых іншых.

Казалі, што гэтую ідэю прасоўвае міністар замежных спраў Пётра Краўчанка, які даволі хутка (не ў апошнюю чаргу — з прычыны добрага валоданьня беларускай мовай і апранутай на сустрэчах з дыяспарай вышыванкі) заваяваў аўтарытэт у амэрыканскіх беларусаў.

Хоць пры размовах з прадстаўніком Беларусі ў ААН Генадзем Бураўкіным (я гасьцяваў у яго некалькі дзён у Нью-Ёрку), наколькі памятаю, гэтая тэма не закранался, зусім магчыма таму, што Бураўкін лепей за міністра ведаў настроі дыяспары і нэгатыўна ставіўся да такой ідэі.

У якой ступені для Вячаслава Кебіча і ягонага ўраду, бальшыня міністраў якога мелі вельмі цьмянае ўяўленьне як пра Акт 25 сакавіка 1918 году, гэтак і пра Раду БНР, была важнай перадача Радай сваіх паўнамоцтваў?

Мяркую, што ў пэўнай ступені паўплываў прыклад Украіны — за два дні да першай гадавіны аднаўленьня незалежнасьці, 22 жніўня 1992 году, прэзыдэнт Украінскай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні Мікола Плавюк у Марыінскім палацы ў Кіеве перадаў паўнамоцтвы прэзыдэнту Ўкраіны Леаніду Краўчуку і заявіў, што Ўкраіна ёсьць правапераемніцай УНР. Пры гэтым у краіне дзейнічала Вярхоўная Рада XII скліканьня, абраная яшчэ пры ўладзе камуністаў. Як казалі мне пазьней актывісты беларускай дыяспары, якія ў 90-ыя гады стасаваліся з украінцамі, неўзабаве некаторыя дзеячы колішняга кіраўніцтва УНР пашкадавалі пра сваё рашэньне як заўчаснае.

Бясспрэчна, што калі б нешта падобнае адбылося ў Менску, паўнамоцтвы б прымалі дзьве асобы — Станіслаў Шушкевіч як сьпікер парлямэнту і

найвышэйшая службовая асоба, і Вячаслаў Кебіч як кіраўнік ураду. Уласна, я ня бачу прычынаў актыўнасьці ў гэтай справе Пятра Краўчанкі ў тым выпадку, калі б Кебіч не плянаваў быць удзельнікам гэтага гістарычнага акту (з Шушкевічам у кіраўніка МЗС былі надзвычай напружаныя адносіны, яны не хавалі ўзаемнай антыпатыі). Лішне казаць, што гэтая акцыя была б запісаная ў актыў Краўчанкі.

У пачатку лета 1993-га, перад Першым зьездам беларусаў сьвету, пытаньне, складзе або не свае паўнамоцтвы Рада БНР, з гістарычна-тэарэтычнага ператварылася ў палітычнае. Кіраўнікі БНФ былі знаёмыя толькі зь некаторымі сябрамі Рады, большая частка членаў якой жыла ў розных краінах і нават на розных кантынэнтах. Засьцерагчыся ад такога кроку можна было толькі аўтарытэтным, прадстаўнічым, важкім палітычным рашэньнем.

Прыняць такое рашэньне і было мэтай III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі.

У дні, калі мы сьвяткавалі ў Празе 100-годзьдзе незалежнасьці БНР, я запытаўся ў цяперашняй старшыні Рады Івонкі Сурвілы, наколькі ўсё ж рэальнай была верагоднасьць складаньня паўнамоцтваў Радай у пачатку 1990-х гадоў.

«Вельмі рэальнай, — адказала Сурвіла. — Старшыня Рады Язэп Сажыч у пэўны момант схіляўся да складаньня паўнамоцтваў, мой муж Янка, які таксама ўваходзіў у Раду, шмат з кім па тэлефоне абмяркоўваў такую магчымасьць. Янка лічыў Раду БНР вялікай каштоўнасьцю беларускага народа і натуральна ж быў супраць такога кроку. Тады ўдалося пераканаць Сажыча гэтага не рабіць».

Адным з аргумэнтаў было і рашэньне канфэрэнцыі ў Менску.

## «Пастанова канфэрэнцыі ў Бэрліне ў 1925 годзе была памылкаю»

Лідэр БНФ лічыў, што Раду БНР зарана «сьпісваць у архіў».

«Беларусы ўсяго сьвету павінны аб’яднаць свае намаганьні і сілы дзеля ўмацаваньня нашай дзяржавы, яе незалежнасьці і эканомікі, навукі і культуры, — заклікаў на канфэрэнцыі Зянон Пазьняк. — Нагадваючы пра нелегітымнасьць Вярхоўнага Савету, павінен адзначыць, што легітымнасьцю валодае якраз Рада БНР. Трэба прыкласьці намаганьні, каб умацаваць Раду, гарантаваць яе палітычнае функцыянаваньне. Мяркую, што трэба прадугледзець працэдуру, каб у пэўны момант гісторыі ці верагоднага безуладзьдзя мець магчымасьць правесьці выбары (ці давыбары) у Раду БНР ад палітычных арганізацыяў мэтраполіі, (гэта значыць, Беларусі), сфармаваць урад і прыступіць да выкананьня абавязкаў. Упэўнены, што сьвятая справа Беларускай Народнай Рэспублікі можа яшчэ ня раз паслужыць нашай дарагой Бацькаўшчыне».

Дэлегаты менскай канфэрэнцыі прызналі пастанову, прынятую ў Бэрліне ў 1925 годзе, памылкай. Рэзалюцыя, падрыхтаваная з удзелам гісторыкаў і юрыстаў, давала гістарычную і прававую ацэнку:

«Пастанова Другой Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі прымалася прыватнымі асобамі. Старшыня Рады БНР Пётра Крачэўскі ды ягоныя наступнікі засталіся верныя ідэалам Беларускай Народнай Рэспублікі, яе Ўстаўных Граматаў, нягледзячы на ўсе намаганьні як бальшавікоў, гэтак і нямецкіх фашыстаў схіліць іх да супрацоўніцтва. У пасьляваенны час Рада БНР усе гады зьяўля-



Выступае Васіль Быкаў.

лася захавальніцай ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі, дзеля чаго была атакаваная бальшавіцкаю прапагандай і фальсыфікатарамі гісторыі. Удзельнікі Трэцяй Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі ўважаюць, што Рада БНР павінна працягваць сваю дзейнасьць да таго часу, пакуль у Рэспубліцы Беларусь на падставе дэмакратычнага выбарчага закону ня будуць праведзены выбары ў новы парлямэнт, пакуль ня будзе прынята дэмакратычная Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, пакуль у краіне не ўсталюецца палітычная і эканамічная дэмакратыя, пакуль зь Беларусі ня будуць выведзеныя ўсе замежныя войскі».

У рэзалюцыі канфэрэнцыі аб палітычным становішчы адзначалася, што існуючая сыстэма не замацоўвае дзяржаўную незалежнасьць, не спрыяе эканамічным рэформам і прыцягненьню замежных

інвэстыцый, адбываецца незаконная прыватызацыя агульнанароднай маёмасьці. Канфэрэнцыя асудзіла рашэньне Вярхоўнага Савету ад 29 кастрычніка 1992 году аб забароне рэфэрэндуму пра датэрміновыя выбары і запатрабавала скасаваць гэтую пастанову і правесьці не пазьней як вясной 1994 году выбары ў новы парлямэнт.

Дэлегаты выказаліся супраць уступленьня ў вайсковы саюз з Расеяй і іншымі краінамі СНД. Таксама гаварылася ў рэзалюцыі пра гарантаваньне свабоды слова, паглыбленьне працэсу нацыянальна-культурнага адраджэньня праз строгае выкананьне Закону аб мовах, рэформу сыстэмы адукацыі ды іншае, што, па сутнасьці, пацьвярджала асноўныя праграмныя палажэньні БНФ, БСДГ ды іншых дэмакратычных партый нацыянальнай арыентацыі.

Было вырашана склікаць IV Усебеларускую палітычную канфэрэнцыю ў 1994 годзе і прысьвяціць яе становішчу беларусаў у сумежных зь Беларусьсю краінах. Такое рашэньне было прынята з улікам абяцаньня Вярхоўным Саветам правесьці ў 1994 годзе датэрміновыя парлямэнцкія выбары (у 94-м выбары прайшлі прэзыдэнцкія, перамог Лукашэнка, і канфэрэнцыя не адбылася).

І ўсё ж III Усебеларуская канфэрэнцыя мела сапраўды гістарычнае значэньне, паколькі ўпершыню пасьля дзесяцігодзьдзяў антыбеларускай палітыкі ў Беларусі пацьвердзіла паўнамоцтвы Рады БНР. Варта нагадаць, што сярод яе дэлегатаў былі ўпаўнаважаныя лідэры практычна ўсіх дэмакратычных партый Беларусі. А таксама — дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, якія прадстаўлялі ня менш як мільён чалавек. Да гэтай канфэрэнцыі




Выступае Валянцін Голубеў.

ніякі іншы дэмакратычны нацыянальны форум ня меў гэткага прадстаўніцтва.

Праз 20 гадоў лідэры апазыцыйных партый і грамадзкіх арганізацый заявяць пра падтрымку Рады БНР, а ў кастрычніку 2012 году ў Вільні падпішуць Мэмарандум, у якім прызнаюць Раду БНР як надпартыйны орган беларускай гістарычнай

дзяржаўнасьці і акрэсьляць супольныя з Радай дзеяньні ў справе абароны беларускай незалежнасьці.

…Ну а ў канцы канфэрэнцыі Пазьняк патлумачыў, як у сьнежні 1917-га амаль дзьве тысячы дэлегатаў маглі зьмясьціцца ў тэатры, заля якога была ў тры разы меншая.

«Першы Ўсебеларускі зьезд працаваў два тыдні і быў арганізаваны паводле прынцыпу парлямэнту. Гэта значыць, для вядзеньня Зьезду быў выбраны старшыня і намесьнікі старшыні, Прэзыдыюм і Рада старэйшын. Дэлегаты былі разьмеркаваныя па сэкцыях і камісіях, якія працавалі асобна і займалі ўсе падсобныя памяшканьні тэатру (буфэт, вэстыбюль, грымёркі, рэпэтыцыйныя пакоі і да т. п.) і нават за межамі тэатру. Вось чаму ўсе дэлегаты ўмясьціліся і былі пры справе. Усе напрацоўкі сэкцыяў кожны дзень сьцякаліся ў Раду старэйшын, якая разглядала іх і праводзіла пленарныя пасяджэньні, на якіх абавязкова прысутнічалі кіраўнікі ўсіх сэкцыяў, камісіяў і групаў і ўсе, хто жадаў. Беларусы гэтым сваім Кангрэсам стварылі тады, фактычна, народны парлямэнт, паказалі выдатны ўзровень арганізацыі, палітычную і юрыдычную дасьведчанасьць у вырашэньні галоўных пытаньняў нацыі», — такое тлумачэньне лідэра БНФ фэномэну запаўненьня беларусамі абмежаванай прасторы.

У тыя дні ня верылася, што беларускі парлямэнтарызм праз тры гады прыпыніцца — ізноў на дзесяцігодзьдзі.

***Ігар Гермянчук*** *(Бараўлянская выбарчая акруга № 71): У Вярхоўным Савеце была ратыфікавана дамова паміж Рэспублікай Беларусь і Расейскай Фэдэрацыяй аб каардынацыі дзейнасьці ў ваеннай галіне. Дык вось, нягледзячы на тое, што вы яе дружна ратыфікавалі, гэтая дамова ня можа мець законнай сілы. Гэта тая самая славутая ліпеньская дамова, згодна зь якой, у прыватнасьці, пад юрысдыкцыю Расеі былі перададзены стратэгічныя сілы, якія разьмешчаны на тэрыторыі Беларусі. Падпісваючы гэтую дамову, спадар Кебіч падпісаў тады два розныя дакумэнты. Адзін зь іх выкладзены на рускай мове, другі — па-беларуску. Я запрасіў рускамоўны арыгінал і выявіў фантастычныя разыходжаньні. У міжнародных дакумэнтах такога кшталту ня можа быць памылак, нават у знаках прыпынку. У беларускамоўным арыгінале, калі я параўноўваў яго з рускім, знайшоў 17 неадпаведнасьцяў па меншай меры. Ёсьць зусім неверагодныя рэчы. Напрыклад: «Кіруючыся Дэклярацыяй аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь ад 27 чэрвеня 1990 года». У рускамоўным арыгінале запісана слушна: «... 27 июля», а ў беларускамоўным — 27 чэрвеня, гэта значыць «июня». Калі ў Кебіча праблемы з чыноўнікамі, то я магу прысласьць яму на дапамогу свайго карэктара.*

*Выступ у «Розным»*

## ШТО ЖУРНАЛІСТЫ РАБІЛІ Ў ПАЛІТЫЦЫ

— Ты паводзіш сябе як журналіст, а не як палітык! — некалькі разоў чуў я такі папрок ад Зянона Пазьняка, калі даваў журналістам інфармацыю, якую, з палітычных мэтаў, варта было б прытрымаць.

Я адказваў жартам — што паводле прафэсіі я і ёсьць журналіст, як жа мне яшчэ сябе паводзіць. Насамрэч, Пазьняк ня меў рацыі: у большасьці выпадкаў я кіраваўся якраз палітычнымі рэзонамі. А з другога боку — менавіта я ў красавіку 1991-га перадаваў стрэйкаму інфармацыю, якая паступала ў Вярхоўны Савет з пракуратуры, у часе закрытых пасяджэньняў выходзіў з Авальнай залі ў фае і расказваў калегам, што адбываецца за зачыненымі дзьвярыма. Ну а што датычыць розных адкрытых парлямэнцкіх дакумэнтаў — дык колькасьць перададзенага мною журналістам не паддаецца падліку.

З трох журналістаў, якія былі ў Апазыцыі БНФ (Ігар Гермянчук, Мікола Маркевіч і я) мне давялося найменш сутыкацца са сваёй прафэсіяй. Ігар рэдагаваў «Свабоду», Мікола — гарадзенскую «Пагоню», ну а да рашэньня Вярхоўнага Савету аб забароне рэфэрэндуму ў 1992 годзе я быў сакратаром парлямэнцкай камісіі па галоснасьці, сродках масавай інфармацыі і правах чалавека. І ўвесь час — каардынатарам Апазыцыі БНФ, адказным за сувязі з прэсай, фактычна, гэта была роля прэсавага сакратара — пасада больш палітычная, чым журналісцкая.

Увогуле, той час мяне пераканаў, што прафэсіі журналіста і палітыка — несумяшчальныя, а канфлікт інтарэсаў, які пры такім спалучэньні ўзьнікае — невырашальны: тут або ты палітык, або — журналіст. У іншым выпадку апынаесься пад пагрозай біць пабітым, як Труфальдына ў п’есе «Слуга двух паноў». Зрэшты, мой асабісты вопыт сьведчыў, што можна пры гэтым мець добрыя адносіны з усімі — і з журналістамі, і з палітыкамі. Досьвед не ўнікальны — герою Гальдоні, як вядома, таксама ўдалося пазьбегнуць пакараньня.

## Рэдактар ад Бога

Увогуле, журналістаў у Вярхоўным Савеце было каля дзясятка. Анатоль Вярцінскі, які рэдагаваў «Літаратуру і мастацтва» ў часы, калі яна была самым сьмелым выданьнем (гэта ён надрукаваў артыкул Пазьняка і Шмыгалёва пра Курапаты), пазьней ён быў абраны намесьнікам старшыні парлямэнцкай камісіі па галоснасьці. Рэдактар «Народнай газэты» Іосіф Сярэдзіч, які для сваіх журналістаў мог дастаць што заўгодна (напрыклад — кабінэты пад рэдакцыю ў Доме ўраду). Іван Герасюк, які выкрываў карупцыю і шмат нэрваў папсаваў Кебічу. Васіль Шачак, карэспандэнт слуцкай раённай газэты. Намесьнік старшыні Дзяржтэлерадыё Браніслаў Сушкевіч.

Аднак для мяне сымбалем незалежнай журналістыкі часоў нацыянальнага адраджэньня зьяўляецца газэта «Свабода», а эталёнам рэдактара незалежнай газэты — Ігар Гермянчук.

Ігар нячаста выступаў на сэсіях, але тыя, хто глядзеў тэлерэпартажы з Авальнай залі, запомнілі



Ігар Гермянчук у Авальнай залі.

хударлявага маладога мужчыну са сьветлымі валасамі і з усьмешкай, часам іранічнай. І — заўсёды элегантна апранутага.

Я ніколі ня бачыў Ігара ў кашулі са свабодным каўняром, бяз гальштука, ці ў футболцы, ці ў швэдры — толькі ў касьцюме і пры гальштуку. Быў яшчэ адзін дэпутат, які таксама апранаўся толькі афіцыйна — Віктар Ганчар. Людзі вельмі розныя, агульнае ў іх — абодва нарадзіліся ў сем'ях, якія нельга было назваць беднымі толькі таму, што афіцыйна такога вызначэньня ў савецкія часы, не існавала. Пры гэтым у Ігара былі два браты і дзьве сястры. І Ганчар, і Гермянчук  усяго дамагліся ў жыцьці выключна і толькі праз свае здольнасьці, ім не было на каго спадзявацца нават у мінімальнай ступені.  Магчыма, ад гэтага — такая ўвага вопратцы.

Але адметнасьцю Германчука была глыбокая нацыянальная сьвядомасьць, менавіта ад яго яшчэ ў студэнцтве я ўпершыню пачуў імёны некаторых дзеячоў беларускага руху пэрыяду БНР.

Зь Ігарам на журфаку мы былі на адным курсе і нават нейкі час жылі ў адным блёку (два пакоі, аб'яднаныя агульным калідорам) у інтэрнаце на Кастрычніцкай. Ён быў старэйшы толькі на год — але ў юнацкім узросьце гэта адчувальная розьніца, тым больш што ён адслужыў у войску. Апошні раз разам мы былі на вайсковых зборах пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту ў ліпені 1994-га — і калі Сяргей Дубавец атрымаў тэлеграму пра сьмерць Уладзімера Караткевіча, мы яго памянулі разам зь Сяргеем і Ігарам, зачыніўшыся ў «ленінскім пакоі» казармы.

Наступны раз мы зь Ігарам убачыліся толькі праз шэсьць гадоў, калі абодва былі абраныя дэпутатамі, яшчэ перад першай сэсіяй. Вось тут ужо нацыянальны балянс — як мне тады падалося — быў зьменены ў іншы бок. Я працаваў у часопісу «Вожык» пад кіраўніцтвам прагрэсіўнага Валянціна Блакіта (Болтача), які скрозь пальцы глядзеў на маю актыўнасьць у БНФ, а Ігар — у прадстаўніцтве ўсесюзнага агенцтва АПН і ў дзейнасьці Народнага Фронту актыўнага ўдзелу ня браў (пэўна, гэтага вымагалі ўмовы агенцтва). Аднак Ігар адразу ўвайшоў у фракцыю БНФ, а неўзабаве і ўзначаліў рэдакцыю «Свабоды» — газэту яму перадаў Сяргей Дубавец, які паехаў у Вільню аднаўляць «Нашу Ніву».

Гермянчук быў рэдактар ад Бога, а «Свабода» — самай папулярнай незалежнай газэтай, калі вымяраць накладам (да 100 тысяч асобнікаў), і самым сьмелым выданьнем краіны, калі ацэньваць вастрыню публікацый. Менавіта Германчуку асобы,

блізкія да найвышэйшых эшалёнаў улады, перадавалі інфармацыю пра карупцыю ў гэтых самых эшалёнах — і Ігар не баяўся яе друкаваць.

Часам казалі, што яго прыкрывае дэпутацкі статус, інакш бы даўно зь ім расправіліся, а газэту закрылі. У гэтым была толькі частка праўды — статус дапамагаў у здабываньні інфармацыі. Але былі і спробы генэральнай пракуратуры прыцягнуць Герменчука да крымінальнай адказнасьці (не набралася належнай колькасьці дэпутацкіх галасоў, каб пазбавіць яго імунітэту), быў і стрэл у акно дома Ігара ў Калодзішчах, гучалі і ананімныя пагрозы. Якраз у 1993 годзе ішоў судовы працэс над «Свабодай» — дзяржсакратар Генадзь Данілаў судзіўся з журналістам Аляксандрам Старыкевічам.

Але Гермянчук не здаваўся. Я перакананы, што ў 1992–1995 гадах «Свабода» была адзінай газэтай, якую калі не чыталі, дык абавязкова гарталі ўсе найвышэйшыя кіраўнікі краіны, усе члены ўраду і ўсе дэпутаты. Калі газэту дастаўлялі ў кіёск Вярхоўнага Савету — яна ляжала перад кожным дэпутатам. Часам Ігар сам уносіў у Авальную залю стос і раздаваў, і тады на пару хвілінаў праца парлямэнту была паралізаваная — усе незалежна ад партыйнай прыналежнасьці праз галовы суседзяў цягнуліся па нумар.

Значную частку тэкстаў у газэце Ігар пісаў сам (звычайна — пад псэўданімамі Пятро Панкратовіч ці Мікола Грынявіцкі), працаваў у рэдакцыі і іншы мой аднакурсьнік — Сяргей Астраўцоў, амаль у кожным нумары былі матэрыялы Алеся Дашчынскага і Алега Грузьдзіловіча, зь якімі праз гады мы будзем працаваць разам у Беларускай службе Радыё Свабода. З публікацый у Свабодзе пачыналі

Паўлюк Быкоўскі, Аляксандар Старыкевіч, Віталь Цыганкоў, якія потым будуць тварамі беларускай незалежнай журналістыкі.

## Змаганьне за этэр

Мае абавязкі каардынатара апазыцыі, адказнага ў тым ліку і за сувязь з прэсай, не прыносілі мне аніякіх цяжкасьцяў, бо добрая палова маіх сяброў была журналістамі, а з большасьцю акрэдытаваных пры Вярхоўным Савеце журналістаў у мяне былі добрыя адносіны.

Мы рэгулярна праводзілі прэсавыя канфэрэнцыі, звычайна ў Доме ўраду ці ў будынку Вярхоўнага Савету па Карла Маркса. З 1993-га, калі дзякуючы намаганьням дэпутаткі Менскага гарадзкога савету Галіны Вашчанкі БНФ атрымаў памяшканьне на Варвашэні, 8 — і ў сядзібе Фронту. Звычайна весьці іх даводзілася мне, зрэдку — Ігару Герменчуку. З журналістаў найбольш актыўнымі былі Пётра Васілеўскі зь «Літаратуры і мастацтва», Алесь Ліпай зь БелаПАНу, супрацоўніца рэдакцыі вяшчаньня на замежжа Беларускага радыё Натальля Баўкалава, карэспандэнты Радыё Свабода Галіна Айзэнштадт і Юры Дракахруст, Леанід Сьвірыдаў з расейскага тэлебачаньня, уласны карэспандэнт маскоўскай газэты «Труд» Сяргей Ваганаў, Уршуля Мікалайчык з польскага агенцтва ПАП, Цэзары Галіньскі з «Газэты выборчай».

Хачу назваць і імёны тых, каго вельмі рэдка можна ўбачыць на фатаздымках з акцыяў БНФ — бо яны самі рабілі гэтыя здымкі: Сяргей Грыц, Уладзімер Панада, Сяргей Плыткевіч.

І вялікім шчасьцем цяперашніх ды будучых дасьледчыкаў найноўшай гісторыі лічу тое, што актывіст Фронту, былы вайсковец Уладзімер Кармілкін на ўсе мерапрыемствы (мітынгі, прэсавыя канфэрэнцыі, пасяджэньні Соймаў) браў фотаапарат і магнітафон. Большая частка фатаздымкаў у гэтай кнізе таксама належаць Кармілкіну.

Аднойчы віцэ-прэзыдэнт Акадэміі навук Радзім Гарэцкі прачытаў дэпутатам апазыцыі лекцыю пра радовішчы карысных выкапняў на тэрыторыі Беларусы (ад нафты да мінэральнай вады) — гэта было адкрыцьцём, што краіна наша зусім ня бедная на прыродныя рэсурсы. Я выклаў тэзісы выступу акадэміка ў прэс-рэлізе, разаслаў па рэдакцыях — некаторыя незалежныя выданьні потым скарысталі гэта ў сваіх публікацыях («Советская Белоруссия» ды іншыя саўмінаўскія газэты, як звычайна, праігнаравалі). З таго часу прэс-рэлізы на розныя тэмы я рабіў рэгулярна.

Ну і бадай самае важнае і самае цяжкае, чым даводзілася займацца — жывыя тэлевізійныя этэры дэпутатаў апазыцыі.

Мы ведалі, што такія перадачы маюць вялікую, бадай што мільённую аўдыторыю. Ведалі гэта і ў Саўміне, і таму былі незацікаўленыя ў тым, каб мы атрымлівалі этэр.

Але тут быў адзін нюанс. Існаваў Закон аб статусе народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь (дарэчы, менавіта так мы называліся юрыдычна — у прававым сэнсе паняцьця «дэпутат Вярхоўнага Савету» да моманту прыняцьця новай Канстытуцыі ў сакавіку 1994 году. Але гэтае вызначэньне — «народны» — падаецца мне занадта прэтэнцыёзным, таму я ўжываю больш звыклы для чытача тэрмін).



Прэсавая канфэрэнцыя Апазыцыі БНФ. Уладзімер Заблоцкі, Лявон Баршчэўскі, Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк і Валянцін Голубеў.

Паводле закону, дэпутатам гарантаваўся доступ да сродкаў масавай інфармацыі. Але да якіх канкрэтна — тых, якія выдаваліся на тэрыторыі ягонай выбарчай акругі, кшталту раённай газэты, ці абласных, ці агульнанацыянальных — у законе вызначана не было.

Зразумела, сама па сабе такая гарантыя ў дэмакратычнай краіне выглядае даволі сумнеўна і нават абсурдна: а што калі раптам кожны дэпутат парлямэнту пажадае выступіць у нейкай газэце ці на нейкім тэлевізійным канале? У грамадзтвах з трывалымі дэмакратычнымі традыцыямі, з канстытуцыйнымі гарантыямі свабоды слова і дзейнасьці незалежнай прэсы такія гарантыі і непатрэбныя: сродкі масавай інфармацыі самі зацікаўленыя ў інфармацыі, якая важная для грамадзтва, пазыцыя дэпутата ці партыйнага лідэра, калі яна вар-

тая ўвагі, будзе пададзеная ў прэсе без усялякага прымусу.

Але ў тым часе, ва ўмовах манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі, такая норма закону безумоўна была на карысьць дэмакратызацыі грамадзтва — бо іншым шляхам мы дамагчыся доступу да таго самага тэлеэтэру не маглі.

І гэтую няпэўнасьць заканадаўчага радка я імкнуўся выкарыстаць напоўніцу: калі гарантаваны доступ да СМІ — выконвайце закон.

За шэсьць гадоў кадэнцыі Вярхоўнага Савету мы атрымалі ня больш дзясятка выступаў у жывым тэлеэтэры — я маю на ўвазе менавіта выступы прадстаўнікоў апазыцыі, а ня ўдзел асобных дэпутатаў у нейкіх тэматычных «круглых» сталах ці паўхвілiннае інтэрвію ў інфармацыйным выпуску.

У часе жывых этэраў мы выкладалі або нашу ацэнку палітычнай сытуацыі ці нейкай падзеі, або прапановы па нейкай тэме (так, у верасьні 1993-га — па праблеме энэрганосьбітаў).

Самым важным быў выступ увечары 23 жніўня 1991 году, напярэдадні надзвычайнай сэсіі Вярхоўнага Савету, калі мы заклікалі людзей прыйсьці на плошчу і падтрымаць апазыцыю ў змаганьні за незалежнасьць. Гэтага этэру мне якраз не давялося доўга дамагацца — на пасяджэньні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету мы запатрабавалі этэр, і нам яго адразу далі. Падобнае адбылося і ў верасьні 1993-га, калі Шушкевіч, абураны паводзінамі кіраўніцтва Саўміну (яны праігнаравалі пасяджэньне) у адказ на маю просьбу распарадзіўся даць нам жывы тэлеэтэр у той самы дзень.

Але звычайна даводзілася прыносіць падпісаны групай дэпутатаў ліст кіраўніку Дзяржтэлерадыё

Аляксандру Сталярову, якога я ведаў яшчэ па Віцебску, дзе ён быў загадчыкам сэктару друку абкаму партыі. Ён адразу мяняўся ў твары, уздыхаў, пачынаў адгаворваць, спасылацца на занятасьць вяшчальнай сеткі, я ў адказ апэляваў да закону аб статусе дэпутата. Ён ведаў, а я разумеў, што ў выпадку адмовы ніякай адказнасьці Сталяроў не панясе — у законе адказнасьць не была прапісаная. Нічым ня скончацца і звароты ў пракуратуру. Але будуць выступы ў «Розным» на сэсіях, артыкулы ў «Народнай газэце», словам, псаваньне нэрваў.

Часьцей за ўсё са Сталяровым я знаходзіў кампраміс, і мы, хай і не адразу, атрымлівалі 40–50 хвілінаў жывога тэлеэтэру. З наступным, прызначаным ужо прэзыдэнтам, кіраўніком тэлебачаньня гэта ўжо было немагчыма.

Недзе ў 1992–1993 гадах незалежныя журналісты падрыхтавалі першы ў краіне даведнік «Хто ёсьць хто ў Беларусі», дзе прадставілі партрэты палітыкаў (выданьне было неафіцыйным і ананімным). Я запомніў пра сябе такія радкі: «Предан Зенону Позняку, хотя и является самым независимым в его окружении. Похоже, что общедемократические ценности для него выше национальных».

Першае было праўдай, наконт другога — ня ведаю (незалежнасьць у палітыцы — катэгорыя адносная). Ну а трэцяе не адпавядала сапраўднасьці — нацыянальныя каштоўнасьці для мяне былі нагэтулькі ж дарагія, як і дэмакратычныя.

***Мікалай Бойка*** *(Ленінская выбарчая акруга № 1, Менск): Я атрымаў ад аднаго з выбаршчыкаў пісьмо, якое ён вельмі хацеў, каб вы таксама паслухалі. «Што ж гэта робіцца ў нашай краіне з мовай? Абмеркавалі, прынялі пастанову, а цяпер заганяюць, як цялят у хлеў, шчырых беларусаў. Дзе ж гэта бачна, каб разбэсціўшыяся хлопцы і дзяўчаты з "Беларускай маладзёжнай" над намі карэннымі беларусамі ставілі эксперыменты, застаўляючы слухаць і размаўляць на нейкай нікому не вядомай мове тарашкевіцы... Адкуль (мусіць з замежжа!) нам навязваюць такія вычурныя словы, як "плян", "рэклята", "Лёндан", "Менск", "Амэрыка", "даляр", "парлямэнт", "дэклярацыя" і шмат іншых?.. Прапаную: забараніць праводзіць усялякія эксперыменты на радыё і тэлебачаньні па прапагандзе тарашкевіцы... Нашыя вялікія беларусы, у тым ліку і моваэнаўцы, вучылі і вучаць нас карыстацца сапраўднай айчыннай мовай, а не нейкай заморскай, на якой гавораць радыё "Свабода", Данчык і іншыя, у тым ліку і ў нашым Вярхоўным Савеце. Між іншым, спадар Данчык ганарыцца, што роднай мове яго навучыла маці. Але гэта не так. Калі праўда тое, што ён гаворыць, што маці яго жыла на Садовай вуліцы ў Мінску, магу з поўнай адказнасцю сцвярджаць, што яна ведала такую беларускую мову, якой валодаю я, бо мы ўсе з Садовай вуліцы вучыліся ў сярэдняй беларускай школе № 6. Адсюль трэба яшчэ разабрацца, хто і дзеля чаго навучыў спадара Данчыка так размаўляць па-беларуску».*

*Выступ у «Розным»*

# БЕЛАРУСЫ СЬВЕТУ ЗЬБІРАЮЦЦА НА ЗЬЕЗД

— Вы ўвесь час мне казалі, што беларусы прыгнечаныя Масквой, што камуністы забараняюць ім гаварыць на роднай мове, і вось я прыляцела ў Менск, ужо няма СССР, на чале дзяржавы беларускі інтэлігент Шушкевіч, і — ніводнага беларускага слоўца на вуліцах! Беларуская гаворка была толькі на Зьезьдзе! — так казала сваім бацькам дачка эмігрантаў, калі вярнулася за акіян пасьля наведаньня зямлі продкаў.

Цяпер, з адлегласьці часу, праз чвэрць стагодзьдзя, Першы Зьезд беларусаў сьвету мне бачыцца найбольшым трыюмфам апошняй хвалі нацыянальнага адраджэньня — зразумела, пасьля абвяшчэньня Незалежнасьці 25 жніўня 1991 году.

Зьезд прайшоў 9–10 ліпеня ў Опэрным тэатры, сабралася больш як 900 ўдзельнікаў.

Аднак гэты зьезд мае ў нечым драматычную перадгісторыю, сьляды якой можна знайсьці ў пэрыядычным друку 1993 году. Я маю на ўвазе стаўленьне да зьезду ў часе яго падрыхтоўкі Сойму Беларускага Народнага Фронту.

Спачатку — цытата.

У сваёй кнізе «Першаму зьезду беларусаў сьвету — 20 гадоў» (Менск, 2013) Леанід Лыч піша: «Складанае становішча ўзьнікла для ЗБС «Бацькаўшчына» ў сувязі з адмовай кіраўніцтва Беларускага народнага фронту «Адраджэньне» ўдзельнічаць у працы Першага зьезду беларусаў сьвету, хаця, як вядома, прыкладна год таму — 6 сакавіка 1992 г. — сябра Сойму гэтага фронту Сяргей Навумчык на пасяджэньні Ўправы ЗБС «Бацьь-

каўшчына» сам унёс такую прапанову і яе ўхвалілі. І толькі канцэнтрацыя ўсёй увагі гэтай арганізацыі на падрыхтоўцы да Першага сходу беларусаў блізкага замежжа на пэўны час адсунула на задні плян прапанову нарадафронтаўца».

Удакладню, што ў той момант я ня быў сябрам Сойму БНФ. Я не прысутнічаў на Ўстаноўчым зьезьдзе ў 1989-м у Вільні і, акрамя таго, ня быў такой ужо заўважнай асобай, каб мяне вылучылі ў Сойм. А калі ўжо стаў дэпутатам парлямэнту і каардынатарам Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце і ў сакавіку 1991-га ў Менску праходзіў II зьезд БНФ — адсутнічаў на ім (быў у шпіталі ў Віцебску) і, што называецца, не патрапіў на вока тым, хто складаў сьпіс. Ва ўсякім разе, у апублікаваным у прэсе сьпісе Сойму майго прозьвішча няма.

Праўда, потым Пазьняк казаў, што вылучаў мяне ў склад кіруючага органу і мела месца тэхнічная памылка — відаць, так яно і здарылася. Але я палічыў непатрэбным высьвятляць, хто вінаваты, дамагацца выпраўленьня сытуацыі (тым больш што Сойм абірае зьезд і толькі ён), і сябрам найвышэйшага органу БНФ я сябе не лічыў. І зусім не пераймаўся з гэтай прычыны, бо цэнтар палітычных рашэньняў даўно ўжо быў у парлямэнцкай апазыцыі, а там працы было вышэй галавы. Канешне, звычайна я прысутнічаў на пасяджэньнях Сойму, але не на ўсіх.

Сапраўды, як нагадвае Леанід Лыч, вясной 1992 году адбывалася пасяджэньне Ўправы Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», ішла падрыхтоўка да форуму беларусаў блізкага замежжа, і я прапанаваў правесьці ў Менску прадстаўнічы зьезд беларусаў усяго сьвету, на які б сабраліся і беларусы сумежных краінаў, і прадстаўнікі дыяс-

пары з-за акіяну. Уласна, выказаць такую прапанову першым мог які заўгодна ўдзельнік таго сходу. Ідэя была падтрыманая міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам.

## Старшыня КДБ: «Эмігранты ўжо накаяліся»

Эмігрантаў мае кожная краіна, і ці ня кожная нацыя мае дыяспары за мяжой. Але толькі ў таталітарных краінах слова «эмігрант» тоесна слову «здраднік».

У Савецкім Саюзе існавала магутная арганізацыя, якая спэцыялізавалася на змаганьні са здраднікамі дзяржаве — КДБ (здраднікамі сямейнымі зь ня меншым імпэтам займаліся партарганізацыі і прафсаюзы).

Ужо некалькі гадоў як пачало мяняцца афіцыйнае стаўленьне да эмігрантаў, якіх у савецкія часы інакш як «паліцаямі» або «здраднікамі Радзімы» не называлі.

Красамоўны прыклад дае ў прыгаданай вышэй кнізе Леанід Лыч, цытата вялікая, але вартая, каб яе прывесьці:

«Цяжка даецца веры, але круты паварот да эміграцыйнай праблемы стаў назірацца на пераломе 80-х — 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя з боку Камітэту дзяржаўнай бясьпекі Беларусі, г. зн. таго органу, які больш за іншых паганіў тых, хто жыў па-за яе мяжой, уносіў уласьцівымі яму сродкамі раздрай у іх асяродзьдзе, не дапускаў і думкі пра збліжэньне, прымірэньне з апошнімі.

Сказанае пацьвярджаецца зьместам праведзенай у сьнежні 1991 г. размовы кіраўнікоў КДБ Рэспублікі Беларусь з журналістамі газэты «Набат»

(№ 17, рэдактар Васіль Якавенка). Сам старшыня КДБ РБ Эдуард Шыркоўскі заявіў, што гэты орган бярэ «на сябе частку адказнасьці за тое, што рабілася ў дачыненьні да нашай эміграцыі ў мінулым... Калі мы аб'явілі сябе сувэрэннымі, незалежнымі, дык збліжэньне з замежжам павінна стаць нашай дзяржаўнай палітыкай».

А з вуснаў намесьніка начальніка адной з упраў КДБ РБ Аляксея Даніліка прагучала такое, чаго раней не пачуў бы і ў самым вузкім коле работнікаў савецкай намэнклятуры: «Нават тыя, хто супрацоўнічаў зь немцамі ў гады акупацыі, не падлягаюць крымінальнаму перасьледу, ім ня трэба баяцца якіх-небудзь рэпрэсій». Тую «неардынарную» размову начальнік аднаго з аддзелаў КДБ РБ Віктар Дзьмітрыеў і сам Шыркоўскі закончылі даволі аптымістычна: «Што да эмігрантаў — трэба даравацць ім усім за тэрмінам даўнасьці і, магчыма, усім пакаяцца» (В. Дзьмітрыеў). «Я ня схільны да таго, каб прасіць нашых эмігрантаў пакаяцца. Яны і без таго ў замежжы накаяліся. Менш ім трэба нагадваць пра гэта» (Э. Шыркоўскі)».

Пакіну гэтую цытату без камэнтароў.

## «Бацькаўшчына» крытыкуе рашэньне Сойму БНФ

Кіраўніцтва «Бацькаўшчыны» распачало падрыхтоўку да зьезду, і сам факт яго правядзеньня не выклікаў ніякага пярэчаньня ў кіраўнікоў БНФ — ва ўсялякім разе, я пра гэта ня чуў. Да пэўнага моманту, пакуль у пачатку лютага Вярхоўны Савет не скасаваў сваё рашэньне аб прыпыненьні дзей-

насьці КПБ-КПСС, прынятае ў гістарычны дзень 25 жніўня 1991 году.

Зрэшты, гэта была толькі нагода — як вядома, пракамуністычныя, праімпэрскія сілы ішлі ў наступ, а ўрад пакідаў усё меней магчымасьцяў для нацыянальнага адраджэньня. 13 лютага Сойм БНФ прыняў рашэньне не падтрымліваць правядзеньне Першага зьезду беларусаў сьвету, паколькі яго могуць скарыстаць у сваіх мэтах антынезалежніцкія сілы.

Пра пастанову імгненна паведамілі дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, навіну паўтаралі ў праграмах тэлебачаньня і радыё, чаго з рашэньнямі Сойму БНФ не было раней і не здаралася пазьней. Несумненна, апарат ураду імкнуўся давесьці да грамадзтва, што ў лягеры патрыётаў адбыўся раскол, а таксама зьменшыць значнасьць зьезду.

Напэўна, гэта была адзіная пазыцыя, па якой у мяне былі разыходжаньні зь некаторымі сябрамі Сойму БНФ. Я лічыў, што браць удзел у зьезьдзе трэба абавязкова, што гэта надзвычайная падзея, вышэйшая за разыходжаньні з кіраўніцтвам Саўміну — зразумела, у выпадку, калі кіраўніцтва гэтае не скарыстае зьезд у сваіх мэтах. Але менавіта ўдзел фронтаўцаў быў бы найбольшай перашкодай для такога.

17 лютага Ўправа ЗБС «Бацькаўшчына» прыняла заяву, у якой скрытыкавала рашэньне Сойму. «Мы ня схільныя ўсьлед за Народным Фронтам панікаваць з выпадку адмены Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь часовай забароны КПБ, бо гэта і так не перашкаджала камуністам аб'ядноўваць свае арганізацыі, толькі што пад іншымі назвамі. Ставіць скліканьне Першага зьезду беларусаў

сьвету, гэтай важнай падзеі агульнанацыянальнага значэньня, у непасрэдную залежнасьць ад прынятага рашэньня наконт камуністычнай партыі — ці не занадта вялікі гонар для іх, ці не завельмі вялікая ўступка нашым праціўнікам?! Менавіта сёньня, у складаных умовах барацьбы за незалежнасьць, за дзяржаўны сувэрэнітэт Беларусі, за нацыянальнае Адраджэньне, патрэбна яднаньне беларусаў сьвету, Бацькаўшчыны з дыяспарай».

Управа ЗБС заявіла, што валтузьня некаторых дзяржаўных СМІ вакол рашэньня Сойму не паўплывае на пастановы кіраўніцтва «Бацькаўшчыны», а таксама на ўхвалы Першага сходу беларусаў блізкага замежжа і XX Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі і Канады, на «жаданьне тысячаў беларусаў з розных канцоў сьвету, якія адчуваюць душэўную патрэбу ў моцнай лучнасьці з Бацькаўшчынай і жадаюць удзельнічаць ва Ўсебеларускім зьезьдзе, пра што нельга было і марыць падчас панаваньня таталітарнай камуністычнай імпэрыі».

Кіраўніцтва «Бацькаўшчыны» выказала меркаваньне, што Першы зьезд беларусаў сьвету павінен «выпрацаваць такія рашэньні, што былі б істотным гарантам нашага Адраджэньня, выбраць прадстаўнічы орган, да думкі якога будуць прыслухоўвацца найвышэйшая заканадаўчая і выканаўчая ўлады Беларускай дзяржавы».

Менская газэта «Добры вечар» (орган праграэсіўнага сталічнага гарсавету) надрукавала заяву «Бацькаўшчыны» на першай паласе, а аглядальнік Максім Грэк (Максім Гілевіч) у камэнтары выказаў спадзяваньне «на перагляд свайго рашэньня Соймам Беларускага Народнага Фронту. Камуністам горш ад таго, што БНФ не паўдзельнічае на

Ўсебеларускім форуме, ня будзе. Горш ад нашай разьяднанасьці будзе толькі нам самім».

Нягледзячы на гэтыя і іншыя заклікі, кіраўніцтва БНФ не пераглядала сваё рашэньне аж да моманту, калі да зьезду засталіся лічаныя дні. Але прычына была ўжо іншая — узьнікла пагроза, што ўрад Кебіча даможацца ад Рады БНР рашэньня скласьці свае паўнамоцтвы. Аднак гэтая засьцярога была зьнятая правядзеньнем III Усебеларускай канфэрэнцыі з удзелам лідэраў партый і прадстаўнікоў дыяспары, якая прайшла напярэдадні Першага зьезду беларусаў сьвету. Канфэрэнцыя пацьвердзіла паўнамоцтвы Рады БНР.

У выніку, кіраўніцтва БНФ узяло ўдзел у працы зьезду, у тым ліку і мы, дэпутаты, а ў штаб-кватэры Фронту на Варвашэні, 8 было наладжана прыманьне гасьцей з замежжа.

## «Нават без аднаго чалавека нацыя няпоўная»

Зьезд сабраўся 8 ліпеня ў Опэрным тэатры. Я крыху спазьніўся на адкрыцьцё, і калі ўвайшоў у залю, ніводнага свабоднага месца ўжо не было — 996 дэлегатаў запоўнілі залю і ўсе бальконы.

«Сёньняшняя сустрэча зьяўляецца зьявай унікальнай», — сказаў Лявон Луцкевіч зь Вільні, магчыма, не разумеючы, што і сам уяўляе сабой сымбаль як нашчадак айцоў-заснавальнікаў БНР.

Настрой ва ўсіх быў узьнёслы, пачуцьці шмат каго з удзельнікаў трапна выказаў у сваёй прамове Станіслаў Шушкевіч:

«За маё жыцьцё я зьведаў розныя штампы, якімі характарызаваліся розныя падзеі, але я абсалютна




Прэзыдыюм Першага зьезду беларусаў сьвету.

перакананы, што мы сёньня з вамі зьяўляемся ўдзельнікамі падзеі гістарычнай. Першы раз за многія гады без прымусу, без падказкі сабраліся беларусы на сваё сьвята, на свой Першы зьезд, і ніхто не перашкаджаў ім гэта рабіць. Ня ведаю, ці многія з вас былі ўпэўненыя ў тым, што мы дажывём да такой падзеі. Я на такое не спадзяваўся. Я думаў, што гэта будзе лёс маіх дзяцей або ўнукаў. Але тое, што мы з вамі дажылі да гэтай падзеі, азначае, што можа быць лепей, чым тое, на што мы разьлічваем».

Адкрыў зьезд Васіль Быкаў.

«Распалася савецкая імпэрыя, але ў нас у галоўным мала што зьмянілася ад гэтага, — сказаў ён. — Нават тыя малыя рэшткі дэмакратыі і свабоды, якія вялікімі высілкамі дэмакратычных сілаў

і, найперш, іх авангарду — Беларускага Народнага Фронту — адваяваныя ў камуны, рызыкуюць быць адабранымі назад. Радзіма патрэбна дыяспары, але і дыяспара патрэбна радзіме. Аптымальны сацыяльна-палітычны лад можа быць збудаваны толькі агульнымі намаганьнямі, толькі высілкамі ўсёй нацыі, як мэтраполіі, так і дыяспары. Нават без аднаго чалавека нацыя няпоўная. Наша нацыя разьяднаная, раскіданая па ўсім сьвеце і ня толькі геапалітычна. Патрэбна аб'яднаньне, калі толькі мы хочам вылезьці з прорвы, з гэтае ваўчынае пасткі, у якой апынуліся напрыканцы XX стагодзьдзя».

Грунтоўны даклад «Беларуская ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасьці» зрабіў віцэ-прэзыдэнт Акадэміі навук Радзім Гарэцкі, які сказаў пра неабходнасьць беларусізацыі ўсіх сфэраў жыцьця. Эмацыйным, як заўсёды, быў выступ Ніла Гілевіча. Выступіў віцэ-прэм'ер Міхаіл Дзямчук, які засяродзіўся на выкананьні Закону аб мовах (і на што, адзначу, ён меў поўнае маральнае права, паколькі ў якасьці міністра адукацыі быў адным з «лабістаў» гэтага закону ў папярэднім Вярхоўным Савеце).

Старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч назваў прычыны замаруджваньня дэмакратычных пераўтварэньняў:

«Трансфармацыя таталітарнага рэжыму ў дэмакратычную дзяржаву — працэс значна больш складаны, чым можна было сабе ўявіць на першым этапе нашай перабудовы, нашай пабудовы незалежнай дзяржавы. Цяжкасьці пераходнага пэрыяду руйнуюць веру простых людзей у тое, што можна такую дзяржаву пабудаваць. Гэта вельмі ўмела выкарыстоўваюць тыя, хто хоча правіць... І мы павінны сабрацца, мы павінны сканцэнтраваць нашыя ін-

тэлектуальныя магчымасьці, мы павінны растлумачыць простаму люду, які штурхаюць увесь час на захады інстынктыўныя, на захады стадныя, што ёсьць іншы шлях, сапраўды дэмакратычны, калі можна з дапамогай народу вырашыць усе асноўныя пытаньні нашага жыцьця. Я перакананы, што ў нас ёсьць чысты шлях да сапраўднай дэмакратыі».

Калі Шушкевіч прамаўляў гэтыя словы, наўрад ці хоць адзін чалавек у залі мог уявіць, што роўна праз год «просты люд» будзе кіравацца менавіта тым, што выступоўца вызначыў як інстынкты і стаднасьць.

## Камяні пры дарозе

Выступіў перад дэлегатамі і лідэр БНФ Пазьняк:

«Я разумею вашыя пачуцьці. Яны прыўкрасныя, таму што і сам ня раз перажываў, калі доўга ад'яжджаў зь Беларусі і потым вяртаўся на гэтую зямлю. Якой яна мілай здавалася! А я ж яе ніколі ня страчваў, толькі разьвітваўся на нядоўгі час. Я ўяўляю вашыя пачуцьці, калі праз 50 гадоў вы вяртаецеся сюды. І я думаю, што для вас большае значэньне мая ня толькі, можа быць, гэты Вялікі тэатар і гэты наш горад Менск, а тыя камяні пры дарозе, тыя дрэвы, тыя сьцяжынкі, па якіх вы хадзілі ў дзяцінстве і якіх вы зараз шукаеце і хочаце пазнаць. Я думаю, што гэта самае таемнае, самае інтымнае і самае высакароднае, што дае чалавеку спатканьне з дарагой зямлёй».

Такі кранальны, лірычны пачатак прамовы Пазьняка неўзабаве саступіў месца даволі жорсткай і бескампраміснай ацэнцы сытуацыі. Лідэр БНФ

заявіў, што рынкавыя рэформы не праводзяцца, адкладаецца прыняцьце нацыянальнай валюты:

«Чаму? Хіба будуць тыя людзі, якія выходзяць амаль кожны дзень у Вярхоўны Савет і аплёўваюць дзяржаўны сьцяг? Хіба будуць тыя людзі, якія цягнуць нас у ваенны саюз з Расеяй, каб мы ехалі ваяваць недзе ў Азэрбайджан ці куды-небудзь у Таджыкістан... Неверагодна, каб дзе-небудзь у Польшчы ці нават у Літве ў парлямэнце разглядалі такое пытаньне — “Быць ці ня быць Літве?”, “Быць ці ня быць Польшчы?”, “Давайце ліквідуем Польшчу. Давайце далучымся да Германіі ці да Расеі”. Ці анархіст, ці камуніст, ці там які-небудзь карычневы, сіне-зялёны, усё роўна — Польшча ёсьць Польшча, польская мова ёсьць польская мова, гэта па-за сумневам. У нас жа беларускую мову зрабілі аб’ектам палітыкі. Яе хочуць вынесьці на рэфэрэндум. Трэба беларуская мова ці ня трэба — давайце выказвацца. Такім чынам, аб’ектыўна пытаньне стаіць так, што пакуль будзе гэты ўрад і гэты Вярхоўны Савет, можам не спадзявацца — ніякіх перамен».

Пазьняк сышоў з трыбуны пад энэргічныя воплескі залі; у прэзыдыюме пляскалі ў ладкі ня ўсе.

## «Сьвет нас высока ацаніў»

Лявон Луцкевіч, Вільня:

«Кансалідацыю… мы разумеем як непазьбежнасьць аб’яднаньня на грунце наступных прынцыпаў: неабходнасьць нацыянальнага адраджэньня, дэмакратычны лад у краіне, які забясьпечыць правы чалавека на ўзроўні міжнародных стандартаў і пагадненьняў, поўная дзяржаўная незалежнасьць з захаваньнем статусу сувэрэннай, нэўтральнай і

бязьядзернай дзяржавы, максымальная дэмілітарызацыя з наяўнасьцю нацыянальнага войска ды недапушчальнасьць уваходжаньня ў якія-кольвек вайсковыя блёкі».

Міністар замежных спраў Пятро Краўчанка:

«Мы разумеем, што трэба будаваць нацыянальную дзяржаву. Я магу сказаць, што сярод кіраўніцтва не было розных падыходаў. Мы маглі весьці спрэчкі толькі ў адным рэчышчы: як, якім тэмпам і ў якой форме і як лепш гэта зрабіць, як зрабіць з найменшымі стратамі для нашай нацыі».

Далей міністар сказаў, што і крэдыты заходнія даюць (нават раней, чым Украіне), і першымі сярод дзяржаў СНД Хэльсынскі акт прадпісалі, і Парыскую хартыю для новай Эўропы, і другімі пасьля Расеі інтэграваліся ў Міжнародны валютны фонд, і «выдатныя стасункі зь вялікімі краінамі сьвету» ўсталяваныя. Таксама Беларусь ратыфікавала пагадненьне аб стратэгічных наступальных узбраеньнях і Лісабонскі пратакол — «без усялякіх агаворак, на сто працэнтаў, без папярэдніх умоў, без палітычных і іншых спэкуляцый. Па сутнасьці, у гісторыі XX стагодзьдзя Беларусь стала адзінай краінай сьвету, якая добраахвотна адмовілася ад утрыманьня і рэальнай магчымасьці стаць ядзернай дзяржавай. І сьвет гэта высока ацаніў, і сьвет нас прызнаў за гэта» — пахваліўся Краўчанка.

Ужо праз пару гадоў новы міністар замежных спраў ня зможа пахваліцца добрым стаўленьнем сусьветнай супольнасьці.

## Дэлегаты патрабуюць адстаўкі міністра абароны

Вострая дыскусія адбылася па вайсковым пытаньні.

Намесьнік старшыні Менгарсавету і адзін з кіраўнікоў БСДГ Анатоль Гурыновіч:

«У вайсковых адзінках, якія зараз называюць Узброенымі сіламі Беларусі, пануюць нэгатыўныя, пагардлівыя адносіны да яе незалежнасьці і нацыянальнага адраджэньня. Большасьць вайскоўцаў варожа ставяцца да беларускай мовы. Не спыняюцца спробы фальсыфікацыі беларускай гісторыі, асабліва тых яе пэрыядаў, якія зьвязаныя з войнамі супраць усходняга дэспатызму. Дагэтуль у вайсковай вопратцы ўжываецца камуністычная імпэрская сымболіка. У войску не спыняецца і нават пашыраецца перасьлед патрыятычна настроеных вайскоўцаў, шалёнаму цкаваньню падвяргаюцца сапраўдныя патрыёты Беларусі, да канца адданыя ідэі беларускай незалежнасьці і адраджэньня, сябры Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, якія некалі ва ўмовах супрацьдзеяньня асоб, зараз кіруючых беларускімі Ўзброенымі сіламі, распрацавалі канцэпцыю стварэньня беларускага войска… Кіраўніцтва міністэрства абароны перашкаджае пераводу на радзіму афіцэраў-беларусаў».

Адразу пасьля выступу Гурыновіча на трыбуну ўзьняўся намесьнік начальніка ўпраўленьня міністэрства абароны падпалкоўнік А. Бакун, які заявіў, што пытаньні абароны зьяўляюцца «выключнай прэрагатывай Вярхоўнага Савету, Савету міністраў і Савету абароны» — гэтыя словы патанулі ў воклічах абурэньня, і ўсё ж падпалкоўнік



У залі Опэрнага тэатру ў часе правядзеньня Першага зьезду беларусаў сьвету.

здолеў сказаць, што тэкст рэзалюцыі «не адлюстроўвае рэчаіснасьці, рэальнага становішча спраў» і прапанаваў зьезду яе не прымаць.

Зянон Пазьняк выказаў шкадаваньне, што дэлегаты зьезду пазбавілі сябе магчымасьці выслухаць прадстаўніка Міністэрства абароны. Лідэр БНФ сказаў, што адстаўка міністра абароны Казлоўскага, за якую выказваліся некаторыя ўдзельнікі, нічога ня зьменіць, паколькі ў Саўміне створаная структура, якая рэальна кіруе войскам, а міністар — «пешка ў руках гэтых ведамстваў» (мелася на ўвазе найперш упраўленьне на чале з Данілавым). Зь лідэрам БНФ пагадзіўся міністар замежных спраў Краўчанка —

«пытаньне больш складанае, як тут абсалютна аб’ектыўна сказаў спадар Пазьняк» —фактычна, Краўчанка прызнаў нелегітымнасьць таго, што Міністэрствам абароны кіруе ўпраўленьне Саўміну.

Тым ня менш, прагаласавалі за Заяву аб вайсковым пытаньні з патрабаваньнем адстаўкі міністра Казлоўскага. Пасьля галасаваньня слова ўзяў старшыня БЗВ Мікола Статкевіч, які, падзякаваўшы дэлегатам за падтрымку, сказаў, што ў яго «чамусьці на душы непрыемна. Занадта будзе ўсім Зьездам, усімі беларусамі сьвету выказваць недавер спадару Казлоўскаму, можа вінаватаму толькі ў тым, што ён занадта паслухмяны выканаўца. Спадар Пазьняк меў рацыю. Таму я зьвяртаюся да Зьезду з просьбай, гэта мая асабістая просьба, зьняць той дадатак да рэзалюцыі па вайсковым пытаньні».

Да вайсковай тэмы вярнуўся ў сваім выступе дэпутат Апазыцыі БНФ Валянцін Голубеў, спасылаючыся на размовы з генэралітэтам. «Я вам скажу з асабістых кантактаў з вышэйшым кіраўніцтвам, з афіцэрамі — гэта антыбеларускае войска. І калі б узьнікла пытаньне: каго абараняць, Беларусь ці Расею? — хутчэй за ўсё загад пастуціў бы абараняць Расею ад Беларусі і наша войска гэта рабіла б».

Ігар Паўлоўскі з Масквы распавёў, як маскоўскія вайскоўцы-беларусы на сустрэчы з тагачасным міністрам у справах абароны, а цяпер намесьнікам міністра абароны генэралам Чавусам запыталіся пра ягонае стаўленьне да незалежнасьці Беларусі і пачулі ў адказ, што Беларусь — гэта заходні фарпост Расеі. Ён прапанаваў не здымаць папраўку пра адстаўку міністра, але ўдзельнікі зьезду прагаласавалі за тое, каб яе выкрасьліць.

## «Палова нашых надзеяў рухнула на мяжы Беларусі»

Гісторык Міхась Чарняўскі выказаў прапановы, якія гучалі на пасяджэньні Цэнтральнай рады БСДГ і тычыліся дзейнасьці Рады БНР. Гаворачы пра пагрозу страты незалежнасьці, Чарняўскі сказаў пра неабходнасьць мець «запасны мэханізм» і прапанаваў наступны альгарытм дзеяньняў:

«Па дамоўленасьці з Радай БНР, якая існуе ў эміграцыі, палітычныя партыі і рухі Беларусі шляхам выбараў папаўняюць Раду. Робяць яе больш прадстаўнічай, каб яна прадстаўляла ня толькі беларусаў эміграцыі, але і дзяржаўніцкія сілы тут, на Беларусі. У Раду БНР выбіраюцца ад партый і рухаў, розных палітычных або грамадзкіх арганізацый. Пасьля гэтага на агульным пасяджэньні Рады БНР выбіраецца малалікі ўрад, дзе былі б асноўныя, вядучыя, галоўныя неабходныя для існаваньня дзяржавы міністэрствы, у якія ўвайшлі б прадстаўнікі як зь ліку эміграцыі нашай, так і зь Беларусі. Гэта павінны быць людзі, якія будуць згодныя ў выпадку небясьпекі пайсьці ў эміграцыю, пакінуць тэрыторыю Беларусі, якая, магчыма, страціць сваю незалежнасьць... Я не заклікаю ўзурпаваць уладу стварэньнем такога ўраду Рады БНР, але я прапаную… стварыць запасны мэханізм дзяржаўны, які, вобразна кажучы, запрацуе адразу ж, як толькі над Домам ураду, магчыма, хто-небудзь захоча скінуць бел-чырвона-белы дзяржаўны сьцяг».

Мікола Ганько, старшыня Згуртаваньня беларусаў Канады: «У сваёй дзяржаве мусіць быць свая мова. Для беларускага народа найлепшай формай

дзяржаўнага ладу будзе якраз парлямэнцкая сыстэма».

Аляксандар Баршчэўскі, Беласток: «Кожны з нас, едучы ў Беларусь, між іншым, і на гэты Зьезд, ехаў з надзеямі, і палова гэтых надзей адразу ж рухнула на мяжы, калі сутыкнуліся з суцэльнай русыфікацыяй».

Вінцэнт Чорны, палкоўнік, выкладчык вайсковай акадэміі, Цьвер, Расея: «Якасны склад беларускіх афіцэраў у афіцэрскім корпусе Расеі, былога Саюзу, вельмі высокі. З гэтымі афіцэрамі і генэраламі, а іх каля 40 тысяч, можна стварыць вельмі надзейнае і эфэктыўнае войска… Украінскія афіцэры, мае сябры, камандзіры палкоў і брыгад, зь якімі я скончыў акадэмію, яны ўжо цяпер усе ва Ўкраіне. Усе, хто хацеў, усе ва Ўкраіне. У нас гэта не праходзіць чамусьці».

Генадзь Лех, старшыня маскоўскай суполкі падтрымкі БНФ, Масква: «Пасьля путчу 1991 году, супраць якога змагаліся і маскоўскія беларускія суполкі, наша таварыства культуры, найбуйнейшая арганізацыя маскоўскіх беларусаў, атрымала пакой з тэлефонам у беларускай амбасадзе. Але праз год нас пачалі выжываць з гэтай амбасады… А вось словы, якімі пачаставалі нас, беларусаў, у нашай так званай беларускай амбасадзе на мінулым тыдні: “Выметайтесь вон в свою Белоруссию!”».

У Рэзалюцыі Зьезду — пакет прапановаў да Вярхоўнага Савету і ўраду: адкрыць прадстаўніцтвы ва ўсіх краінах, дзе ёсьць беларуская дыяспара, прызначэньне прадстаўнікоў рабіць з улікам меркаваньня мясцовых беларусаў, дапамагаць беларусам замежжа ў адкрыцьці культурна-асьветных цэнтраў, спрыяць беларусам замежжа ў атрыманьні

адукацыі ў Беларусі, прыняць закон аб мігрантах і ўцекачах, увесьці спрошчаную працэдуру наданьня беларускага грамадзянства беларусам з дыяспары, якія прыехалі на сталае жыхарства ў Беларусь, устанавіць бязьвізавы рэжым для беларусаў блізкага замежжа і іншае. МЗС было рэкамэндавана выкарыстоўваць беларускую лацінку для афармленьня пашпартоў і іншых дакумэнтаў міжнародных зносін.

Канчалася Рэзалюцыя зваротам да парлямэнту і ўраду абвясьціць дзяржаўным сьвятам 25 сакавіка — дзень абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, спыніць выкарыстаньне гімну былога БССР, прысьпешыць прыняцьце гімну, які б адпавядаў нацыянальным ідэалам, а таксама вярнуць сталіцы яе гістарычную назву — Менск.

Праз чвэрць стагодзьдзя шмат якія дэталі гэтых некалькіх дзён сьцерліся з памяці, але засталося адчуваньне ўзьнёсласьці, адчуваньне сьвята — нягледзячы на ў цэлым крытычныя прамовы, якія гучалі і ў залі і падчас «круглых сталоў». Гэта сапраўды быў эмацыйны зэніт Адраджэньня, ягоная вяршыня — далей ужо нягледзячы на змаганьне нацыянальных сілаў будзе імклівы спад. Але тыя ліпеньскія дні ў Опэрным тэатры застануцца ў гісторыі як нацыянальны трыюмф.

***Пётра Скарабагацька*** *(Лунінская выбарчая акруга № 128): Уважаемые народные депутаты! Вчера в этом зале перед нами выступил заместитель Председателя Совета Министров Костиков Николай Николаевич, который, в общем-то, обнадежил и заверил нас всех, что горюче-смазочные материалы, прежде всего для сельскохозяйственных районов, есть, и они обеспечиваются. Мягко говоря, это не совсем так. Сейчас село живет на горюче-смазочных материалах, которые остались от посевных работ. Это замедлило заготовку кормов. Автобусные маршруты, пассажирские перевозки практически сокращены наполовину. Не всегда даже заправляются машины «Скорой помощи», хлебные машины. Поэтому, уважаемый Николай Николаевич, мне кажется, ваши помощники, ваш аппарат, мягко говоря, не совсем верно вас информируют и не дают правильную, реальную обстановку, которая складывается по районам республики. И прошу помочь в разрешении этой проблемы для сельскохозяйственных районов.*

*Выступ у «Розным»*

## ЭКСПЭРТЫ РАСПРАЦОЎВАЮЦЬ БАЛТА-ЧАРНАМОРСКІ НАФТАВЫ КАЛЕКТАР

Калі ў сакавіку1993-га Пазьняк прасіў мяне ехаць у Беласток на сьвяткаваньне 75-х угодкаў БНР, я супраціўляўся: хацелася быць у Менску на пасяджэньні ў будынку філярмоніі. Апошнім маім аргумэнтам было, як мне здавалася, неабвержнае: няма на чым ехаць, бо «свае» 20 літраў бэнзіну, якія кожны аўтаўладальнік меў на месяц па талёнах, я даўно праезьдзіў. Але аргумэнт не падзейнічаў, і давялося мне тут жа, у Авальнай залі, ісьці на паклон да кіраўніка «нафтавага» ведамства Мардашова — той напісаў запіску на аўтазапраўку, каб мне адлілі 80 літраў бэнзіну. Паехаў я ў Беласток зь дзьвюма запраўленымі каністрамі — каб хапіла на зваротны шлях.

Такая сытуацыя з палівам цягнулася ўвесь 1993 год.

15 ліпеня 1993 году ў Доме літаратара за паўтара дзесяцігодзьдзя яго існаваньня ці не ўпершыню адбыўся форум, дзе пра літаратуру не было сказана ні слова. Тое, пра што гаварылі, з большай верагоднасьцю можна было ўявіць у якім-небудзь энэргетычным ведамстве ці ў праектным інстытуце.

Некалькі дзясяткаў эканамістаў, інжынэраў, праекціроўшчыкаў, навукоўцаў у энэргетычнай і нафтавай сфэры сабраліся на міжнародную канфэрэнцыю краінаў Балта-Чарнаморскага рэгіёну «Шляхі пераадоленьня паліўна-энэргетычнага крызісу».

Увогуле, канфэрэнцыя складалася зь дзьвюх частак — палітычнай і тэхнічнай. Першая адбылася ў сядзібе БНФ на Варвашэні, 8, у ёй бралі ўдзел

палітыкі, а другая — у Доме літаратара. У першай канфэрэнцыі бралі ўдзел пераважна палітыкі Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы і Ўкраіны, у другой — адмыслоўцы ў энэргетычнай сфэры з вышэйназваных, за выключэньнем Польшчы, краінаў. Абодва мерапрыемствы былі скліканыя на ініцыятыву БНФ.

Гэта былі ня першыя форумы Балта-Чарнаморскага рэгіёну — за два з паловай гады да таго, у лістападзе 1990-га, у Менску на ініцыятыву Зянона Пазьняка пры падтрымцы старшыні Народнага Руху Ўкраіны Вячаслава Чарнавола прайшла нарада дэпутатаў парлямэнтаў Беларусі, Латвіі, Літвы, Украіны і Эстоніі.

Пачалася яна ня дзе-небудзь, а ў залі пасяджэньняў Савету міністраў Дому ўраду, гэтае памяшканьне выдзеліў сам прэм’ер-міністар Вячаслаў Кебіч. Аднак ужо пасьля першага званка з Масквы Кебіч сам і запрапанаваў удзельнікам знайсьці іншае памяшканьне. Дэпутаты сабраліся ў пакоі Апазыцыі БНФ у тым самым Доме ўраду, толькі ў іншым крыле. Сярод рашэньняў той нарады быў і намер «распрацаваць агульную энэргетычную праграму, якая б падтрымлівала сувэрэнітэт рэспублік».

Потым быў 1991 год, дэкляраваны сувэрэнітэт зьмяніўся рэальнай незалежнасьцю, а энэргетычная праграма набыла рысы канкрэтнага праекту. Тое быў распрацаваны на чале з намесьнікам старшыні Аб’яднанай дэмакратычнай партыі Станіславам Гусакам праект нафтавага калектару, які павінен быў злучыць нафтаправоды па лініі Адэса-Броды-Вэнтспілс і тым самым істотна зьменшыць паліўную залежнасьць краінаў ад Расеі.

## Энэргетычная перавага ўсходняга суседа

У працы канфэрэнцыі бралі ўдзел адмыслоўцы зь Беларусі, Латвіі, Літвы і Украіны, прычым прадстаўніцтва было даволі высокім, выступілі генэральны дырэктар «Латвіянафты», дарадца прэм'ер-міністра Літвы, намесьнік міністра энэргетыкі Украіны. Фраза «Энэргетычны шантаж Расеі» гучала з вуснаў ці ня кожнага ўдзельніка.

Практычна цалкам гэтай тэме быў прысьвечаны і даклад Зянона Пазьняка.

Лідэр БНФ зрабіў невялікі экскурс у гісторыю, нагадаўшы, што «ідэя эканамічнай каардынацыі краінаў Балта-Чарнаморскага міжмор'я ня новая. Яна ўзьнікла ў пачатку стагодзьдзя ў асяродку беларускіх палітыкаў нацыянальна-адраджэнскага накірунку і ўпершыню прадэкляраваная на дэмакратычным зьезьдзе ў Лязане». Адзначыўшы, што «ў Савецкім Саюзе імпэрская палітыка прэваліравала над эканомікай», «эканамічныя інтарэсы рэспублік ня ўлічваліся», лідэр БНФ выказаў перакана141ньне, што галоўнай эканамічнай праблемай для краінаў Балта-Чарнаморскага рэгіёну зрабілася пытаньне паліўна-энэргетычнага забесьпячэньня. Праблема створаная для нас у значнай ступені штучна і абумоўленая манапольным становішчам Расеі на нафтавым рынку Ўсходняй Эўропы. Для нашых краінаў аднолькава востра паўстала пытаньне стварэньня другіх і трэціх крыніцаў забесьпячэньня нафтай. Праблема не прыняла б нагэтулькі драматычныя формы, калі б наш усходні сусед не выкарыстоўваў сваю часовую энэргетычную перавагу ў палітычных мэтах, галоўны сэнс якіх — стварэньне жорсткай эканамічнай і палітычнай залежнасьці



Канфэрэнцыя краінаў Балта-Чарнаморскага рэгіёну «Шляхі пераадоленьня паліўна-энэргетычнага крызісу», Дом літаратара.

нашых краінаў ад Расеі, забесьпячэньне дамінуючага становішча Расеі ва Ўсходняй Эўропе аж да падаўленьня сувэрэнітэтаў усходнеэўрапейскіх краінаў».

Альтэрнатыву Пазьняк бачыў у каардынацыі намаганьняў у эканамічных і паліўна-энэргетычных пытаньнях усіх краінаў Балта-Чарнаморскага рэгіёну: «Агульная аўтаномная сыстэма забесьпячэньня і дастаўкі нафты можа карэнным чынам зьмяніць становішча, дасьць магчымасьць усім уздыхнуць вальней, перайсьці ад стану выжываньня да грунтоўнага будаўніцтва сваіх дзяржаў, паскорыць эканамічныя рэформы, зьнізіць палітычны ціск з усходу».

У гэтай сваёй прамове Пазьняк выказаў скептычны погляд на пэрспэктыву дачыненьняў з Расеяй і, калі не памыляюся, упершыню сказаў пра

розьніцу паміж постсавецкімі краінамі і краінамі былога сацыялістычнага лягеру.

Прызнаюся, тады гэтая ацэнка падалася мне празьмерна пэсымістычнай: «Гісторыя ўзаемаадносінаў нашых краінаў з усходам і аналіз становішча пераканаўча сьведчаць, што якой бы ні была сыстэма ўлады ў Расеі, якія б мэты яна ні дэклеравала, там заўсёды будуць уплывовыя групы, якія імкнуцца да экспансіі і ціску, да ўзвышэньня ролі палітыкі над эканомікай, да выкарыстаньня эканамічнага шантажу ў імпэрскіх інтарэсах. Палітыка гэтых групаў будзе вызначальнай і тым болей адкрытай, чым больш відавочнай будзе спакуса скарыстацца нашай слабасьцю, разьяднанасьцю і эканамічнай неабароненасьцю».

Цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, паліўна-энэргетычны ціск Крамля, спробы ўплываць нават на вынікі выбараў ня толькі ў былых сацыялістычных краінах, але і ў Заходняй Эўропе, і нават за акіянам, у ЗША — трывіяльныя тэмы заходняй прэсы.

Між іншым, у гэтай самай прамове Пазьняк — калі не памыляюся, таксама ўпершыню — выказаў ацэнку, якую тады скептычна ўспрынялі некаторыя ўдзельнікі канфэрэнцыі з Латвіі, Літвы і асабліва Польшчы:

«Пасьля распаду СССР нашы краіны выпалі з супрацьвагі паміж Усходам і Захадам, якая была склалася, — сказаў старшыня БНФ. — Вырваўшыся з імпэрскіх межаў, кожная з нашых краінаў імкнецца як хутчэй на Захад, імкнецца вярнуцца ў Эўропу, прагне здабыцьця новай стабільнасьці ў сыстэме новых магчымасьцяў. Але Захад існуе ў іншай сыстэме эканамічных каардынатаў. Нават такія краіны, як Польшча, Чэхія, Вугоршчына,

выйшлі далёка наперад. Эканамічна раўнапраўныя партнэрскія адносіны зь імі з гэтай прычыны ўскладненыя».

Сапраўды, у 1990 годзе дэпутаты-камуністы, адкідаючы нашу эканамічную праграму, ставілі ў прыклад Польшчу — маўляў, паглядзіце, да чаго давялі гэтыя рынкавыя рэформы, якая там інфляцыя, якія цэны. А ў 1993-ім ужо мы, прычым з поўным правам, казалі пра былых паплечнікаў па «сацыялістычным лягеры» як пра краіны, дзе рэформы пачалі даваць рэальны, станоўчы для насельніцтва, вынік.

Пры гэтым было ў нас шкадаваньне па страчаных магчымасьцях — страчаных, праўда, яшчэ не да канца, як мы тады лічылі.

«У той жа час мы чуем за сьпінай цяжкае дыханьне старой імпэрыі, якая ўсё яшчэ трымае нас за рукі, спрабуючы вярнуць, — працягваў Пазьняк. — Мы апынуліся як бы паміж Усходам і Захадам. У гэтай сытуацыі найбольш плённым рашэньнем, на мой погляд, было б усьведамленьне агульнасьці сваіх інтарэсаў, разуменьне сваёй ролі як стабілізуючай супрацьвагі паміж Усходам і Захадам… Калі мы не пачнем рабіць крокі насустрач адзін аднаму і аб’ядноўваць намаганьні, накіраваныя на самазахаваньне — мы пагоршым сваё становішча. Калі, напрыклад, у Беларусі з-за штучна створаных умоваў адбудзецца эканамічны абвал і наша краіна страціць частку свайго сувэрэнітэту, вынікам гэтага будзе стварэньне тут расейскага стратэгічнага пляцдарму».

Так і адбудзецца — ад канчатковага эканамічнага краху Аляксандар Лукашэнка ўратаваўся коштам здачы Маскве пэўных элемэнтаў сувэрэнітэту,

найперш, шчыльна прывязаўшы краіну да ваеннага комплексу Расеі; праз чвэрць стагодзьдзя пасьля цытаванай прамовы лідэра БНФ маскоўскія аналітыкі ня будуць хаваць, што Беларусь — стратэгічны пляцдарм Расеі на заходнім накірунку. Але трэба прызнаць, што пачатак быў пакладзены яшчэ Кебічам у 1993 годзе ўцягваньнем Беларусі ў сыстэму калектыўнай бясьпекі СНД.

Што да ідэі стварэньня стабілізуючай супрацьвагі паміж Усходам і Захадам, дык яна не ўспрымалася нашымі балтыйскімі партнэрамі, літоўцамі і латышамі, ва ўсялякім разе ў той ступені, на якую разьлічваў Пазьняк. Яны былі перакананыя, што ўжо адной нагой стаяць у Эўразьвязе і ў NATO. І ў гэтым яны былі недалёкія ад ісьціны, асабліва з улікам таго, што празь сем гадоў яны зрабіліся праўдзейнымі членамі гэтых структураў.

## Па цэнах, вышэйшых за сусьветныя

У сваім выступе Станіслаў Гусак абгрунтаваў неабходнасьць стварэньня Балта-Чарнаморскага нафтавага калектару (БЧНК) найперш энэргетычнай залежнасьцю ад Расеі.

«Аднабаковы арыенцір на пастаўку нафты з Усходу прывёў да таго, што Беларусь цяпер ня мае сродкаў дастаўкі нафты акрамя як зьвязаных з Расеяй», — сказаў ён.

Таксама Гусак прывёў прыклады неадэкватнага, зусім не на карысьць Беларусі, гандлёвага абмену з Расеяй. «За адну тону расейскай нафты Беларусь пастаўляе ў Расею каля трох тонаў калійных соляў, тады як на сусьветным рынку цана адной тоны нафты эквівалентная цане дзьвюх тонаў калійных



Станіслаў Гусак, аўтар праекту Балта-Чарнаморскага нафтавага калектару.

соляў. За трактар Менскага трактарнага заводу, рэалізаваны, напрыклад, у Кітаі, можна набыць па сусьветных цэнах 110–120 тонаў нафты, за той самы трактар, пастаўлены ў Расею, Беларусь атрымлівае 72 тоны нафты».

Прыгадаў Станіслаў Гусак і ўнёсак Беларусі ў нафтавую сыстэму Расеі: «Акрамя таго, штогадовыя ўнёскі Беларусі ў разьвіцьцё інфраструктуры Заходняй Сібіры складаюць дзясяткі мільярдаў рублёў. Беларусь штогод у месцах здабычы нафты пракладае 70 кілямэтраў дарог, узводзіць 6 000 квадратных мэтраў жылья, будуе дзіцячыя садкі, школы, шпіталі, вядзе буравыя работы і гэтак далей. Агульны аб’ём штогадовых выкананых работ бяз кошту матэрыялаў складае 11 мільярдаў рублёў, а з улікам матэрыялаў і іншых расходаў — 65–75 мільярдаў рублёў. Гэта каля 70 мільёнаў даляраў».

Выснова Гусака была сэнсацыйнай: Беларусь набывае расейскую нафту па цэнах удвая вышэйшых за сусьветныя. Мушу сказаць, што такія лічбы (а 70 мільёнаў у 1993 годзе былі вялізнай сумай) Кебіч дэпутатам не называў, калі казаў, што «без Расеі не пражыць».

А ў якасьці выйсьця прапаноўвалася стварэньне краінамі ўласных інжынэрных камунікацый, якія б дазвалялі набываць і транспартаваць нафту па сваіх тэрыторыях зь іншых нафтаздабываючых краінаў.

Існавала некалькі варыянтаў агульнага нафтавага комплексу, найлепшым выглядаў той, пры якім можна было абмінуць расейскую Ўнечу, злучыўшы ўмоўны «паўднёвы» і «паўночны» ўчасткі нафтаправодаў перамычкай. Па тэрыторыі Ўкраіны яна б пралягала на 482 кілямэтры, па Беларусі — на 145 кілямэтраў. Што да Ўкраіны, дык пры такім варыянце патрабавалася б будаўніцтва на яе тэрыторыі дадатковых чатырох памповачных станцыяў. Агулам, стварэньне комплексу, у залежнасьці ад варыянтаў, каштавала б ад 113 да 182 мільёнаў даляраў.

Заўважу, што ў 1993 годзе гэтая лічба ўяўлялася астранамічнай. У параўнаньні з памерамі запазычанасьцяў Расеі, якія Беларусь і Ўкраіна назапасяць за наступныя дзесяцігодзьдзі — гэта хіба што толькі працэнты ад гэтых крэдытаў. Аднак ужо тады, у ліпені 1993-га, агульны настрой удзельнікаў канфэрэнцыі быў такі: трэба ісьці на гэтыя страты, бо яны дазволяць у будучыні зэканоміць значна большыя сродкі.

У выніковым дакумэнце ўдзельнікі канфэрэнцыі зьвярнуліся да парлямэнтаў і ўрадаў Беларусі, Латвіі, Літвы і Ўкраіны з прапановай неадкладна прыступіць да будаўніцтва Балта-Чарнаморскага

нафтавага калектару, даручыць пэўным службам выканаць тэхнічна-эканамічнае абгрунтаваньне. Было таксама прапанавана стварыць рэгіянальны банк разьвіцьця краінаў для фінансаваньня праекту і іншых падобных ініцыятываў у Балта-Чарнаморскім басэйне.

У пачатку ліпеня Вярхоўны Савет РФ выказаў прэтэнзіі на Севастопаль, і ўдзельнікі канфэрэнцыі назвалі гэта парушэньнем Хэльсынскіх пагадненьняў, пагрозай незалежнасьці і сувэрэнітэту Ўкраіны, а таксама стабільнасьці і бясьпецы ва ўсходнім рэгіёне Эўропы.

«Расея свае ўнутраныя праблемы будзе перакладаць на нас, на зьнешні сьвет. Прэтэнзіі Расеі да Ўкраіны — гэта толькі пачатак», — выказаў прагноз кіраўнік Сакратарыяту Народнага Руху Ўкраіны Міхайла Байчышын.

## Шмат журналістаў і мала публікацый

Мне давялося весьці выніковую прэсавую канфэрэнцыю, на якую сабралася шмат журналістаў. Але зусім няшмат было публікацый у дзяржаўных газэтах. Затое зьедлівых рэплік хапала — праект калектару, як і сама ідэя Балта-Чарнаморскай садружнасьці, падавалася няслушнай: навошта нешта будаваць з разьлікам на пэрспэктыву, калі ўжо сёньня, цяпер — вось яны, расейская нафта і расейскі газ?

Ідэя Балта-Чарнаморскай садружнасьці, якую Пазьняк і Чарнавол (палітыкі хай і з аўтарытэтам у пэўных колах грамадзтва, але без рэальнай улады) праводзілі пачынаючы з восені 1990 году, не ма-

гла быць рэалізаваная ва ўмовах, калі ўладу мелі прыхільнікі арыентацыі ў зусім іншым накірунку.

Аднак дзякуючы сыстэматычнаму нагадваньню пра БЧС, гэтая ідэя ўвайшла ў першай палове 90-х у масавую сьвядомасьць. У тыя дні мне даводзілася адказваць на пытаньні звычайных людзей у Віцебску — «Што гэта вы прыдумалі? Якая труба ад Чорнага да Балтыйскага мора?» Тое быў час абнаўленьня ўсіх сфэраў жыцьця, і зьяўленьне гэткіх праектаў не здавалася нечым фантастычным (людзі прызвычаіліся, што тое, што выглядае цалкам нерэальным, даволі хутка можа ўкараніцца ў жыцьцё; як зьнікненьне СССР, напрыклад).

Пры іншым стаўленьні афіцыйнай прапаганды, з правядзеньнем «круглых сталоў» па тэлебачаньні, пры іншым падыходзе Станіслава Шушкевіча і Вячаслава Кебіча — грамадзкая думка ўхваліла б такі праект.

Але адбылося інакш.

Тым ня менш, нават на тым этапе ідэя будаўніцтва Балта-Чарнаморскага нафтавага калектару адыграла станоўчую ролю, і менавіта ў сфэры грамадзкай сьвядомасьці: людзі ўпершыню даведаліся, што можна і не залежаць ад Расеі. Ва ўсялякім разе, не залежаць у той ступені, зь якой фактычна пагаджаўся і якую падтрымліваў урад Вячаслава Кебіча.

## У чым быў перакананы Пазьняк

Што да Пазьняка, які выступіў арганізатарам мерапрыемства, дык сам факт правядзеньня такой прадстаўнічай канфэрэнцыі ў Менску і стварэньня такога сур’ёзнага праекту сьведчыць, што лідэр




Ігар Гермянчук, Зянон Пазьняк, сяргей Навумчык на сустрэчы ў Акадэміі навук.

БНФ быў перакананы, што праз адносна кароткі час (два-тры гады) ён даб’ецца рэальнай ўлады.

Пазьняк пазыцыянаваў сябе так, нібыта ў хуткім часе БНФ прыйдзе да ўлады, а ён — да кіраваньня краінай. Думаю, што ён ні на сэкунду не сумняваўся ў гэтым. Сапраўды, без такога перакананьня гэткія ідэі не фармулююцца і такія праекты не ствараюцца.

Той, хто выкажа папрок ініцыятарам у пражэкцёрстве, мусіць, аднак, прызнаць, што ў нашых апанэнтаў (у дадзеным выпадку, ва ўрадзе Кебіча) — не было роўна нічога, што можна было б супрацьпаставіць паліўнаму шантажу Масквы.

Увогуле, у 1993 годзе адной з галоўных тэмаў выступаў Пазьняка (а магчыма, і галоўнай) была пагроза імпэрскага рэваншу Расеі. Але толькі

зусім невялікая частка грамадзтва ўспрыняла гэты тэзіс. Міжволі прыгадваецца рэакцыя брытанскага насельніцтва ў 1930-я гады на папярэджаньні Чэрчыля пра небясьпеку з боку Гітлера і нацысцкай Нямеччыны (я параўноўваю не рэжымы і не краіны, а рэакцыю людзей). Над Чэрчылем, у лепшым выпадку, сьмяяліся — да моманту, пакуль ня ўзьнікла рэальная верагоднасьць захопу Вялікай Брытаніі.

Праз гады прэзыдэнты краінаў Балта-Чарнаморскага рэгіёну (але без кіраўніка Беларусі) правядуць некалькі самітаў з абмеркаваньнем розных аспэктаў шчыльнага палітычнага і эканамічнага супрацоўніцтва. Канфэрэнцыі рэгіёну будуць адбывацца ў розных фарматах, у розных сталіцах, ад Беларусі будуць запрашаць розных апазыцыйных палітыкаў, але ніколі ня будзе запрошаны адзін з ініцыятараў стварэньня садружнасьці — Зянон Пазьняк (другі ініцыятар, Вячаслаў Чарнавол, будзе ўжо ў магіле). Гэта — стыль сучаснай генэрацыі палітычнага істэблішмэнту, «людзей на хвіліну».

Адносна ж праекту калектару ў 2007 годзе ў часе онлайн-канфэрэнцыі на Радыё Свабода Станіслаў Гусак заўважыў, што «быў страчаны час, які мог пайсьці на карысьць Беларусі... Не хапала палітычнай волі, не хапала проста розуму для таго, каб гэтым займацца зь першага дня, і калі б мы гэта зрабілі, то сёньня можна было б гаварыць пра тое, што Беларусь сапраўды незалежная дзяржава ў паліўна-энэргетычным пляне».

## Зьнікненьне Міхайлы Байчышына

Скончыць гэты сюжэт даводзіцца на трагічнай ноце, днём, які надышоў праз два тыдні пасьля

пачатку наступнага, 1994 году — 15 студзеня. Дзень увогуле для найноўшай гісторыі Беларусі прыкметны. Менавіта ў гэты дзень адбыўся візыт у Менск прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана, выйшаў артыкул Зянона Пазьняка «О русском империализме и его опасности», літоўскія спэцслужбы вывезьлі зь Беларусі лідэраў кампартыі, якія абвінавачваліся ў антыдзяржаўных дзеяньнях (што было нагодай для закрытага пасяджэньня Вярхоўнага Савету Беларусі, на якім Лукашэнка паставіў пытаньне пра адстаўку Станіслава Шушкевіча — гэтым разам выніковa).

А ў Кіеве ў гэты самы дзень, 15 студзеня 1994 году, зьнік Міхайла Байчышын — каардынатар праекту Балта-Чарнаморскага нафтавага калектару, кіраўнік Сакратарыяту Народнага Руху Ўкраіны, «правая рука Вячаслава Чарнавола» (ацэнка колішняга прэсавага сакратара Руху Дзьмітра Панамарчука), вылучаны ў народныя дэпутаты Ўкраіны.

Паводле Станіслава Гусака, «канфэрэнцыю (у справе Балта-Чарнаморскага калектару — С. Н.) плянавалася правесьці ў Кіеве ў 1994 годзе. Тады ўсе дакумэнты я сам рыхтаваў і адправіў у Кіеў, у Народны рух. Там былі дакумэнты, зьвязаныя і зь Міжнародным валютным фондам, які быў гатовы прафінансаваць праектныя работы, і шмат іншых дакумэнтаў, зь якіх было ясна, што ёсьць прадпрымальнікі, гатовыя выдаць сур’ёзныя грошы на пабудову гэтага калектару, і інжынэрныя распрацоўкі — усё гэта было вывезена зь Менску ў Кіеў. І калі ўжо да канфэрэнцыі заставалася дзесяць дзён, на штаб Народнага руху Ўкраіны быў зроблены напад».

Як прыгадвае Дзьмітро Панамарчук, нападнікі прайшлі ў кабінэт Байчышына, але гаспадара ў гэты

момант не было, яны ўдарылі аднаго з ахоўнікаў па галаве і пакінулі будынак. Хто яны былі — засталося невядомым. І ў той самы дзень Міхайла Байчышын зьнік. Зьніклі і ўсе дакумэнты, якія, паводле Гусака, меркавалася разглядаць праз два тыдні.

Пошукі не далі вынікаў, хоць, паводле тагачаснага генэральнага пракурора, была праведзеная маштабная апэрацыя — абсьледавалі тры тысячы пустых кіеўскіх будынкаў, апыталі 30 тысяч чалавек.

Лёс Міхайла Байчышына застаецца невядомы і да сёньня.

***Васіль Сінчылін** (Беларуская рэспубліканская арганізацыя вэтэранаў вайны і працы): В прошедшие дни я встречался со своими избирателями — ветеранами Вооруженных Сил, труда, ветеранами войны и членами минского политического клуба «Коммунист», которые приняли обращение к вам, депутатам Верховного Совета, и поручили мне довести это обращение до вас. «Минский политический клуб призывает народных депутатов Беларуси при рассмотрении нового проекта Конституции учесть следующее. Идеи реставрации капитализма и одновременной защиты трудящихся от капитализма алогичны по форме и содержанию. Возврат к капитализму противоречит коренным интересам трудящихся, а потому и защита от него, даже если бы она была возможна, не имеет для них никакого смысла. Объективные законы диалектики таковы, что исключают возможность развития вспять. Как никто не может направить развитие человека от старости к молодости, так никому не дано повернуть историю обратно от социализма к капитализму. Возникшие на этом пути трудности непреодолимы. Они могут привести только к конфронтации, и даже к гражданской войне. Чтобы ее избежать, необходимо взять курс на сохранение социализма и устранение допущенных в нем перекосов. Следует сохранить экономическую основу социализма в форме общенародной собственности и централизованного управления экономикой».*

*Выступ у «Розным»*

## ХТО ПРЫСЬПЕШВАЕ КАНСТЫТУЦЫЙНЫ ПРАЦЭС

— Бел-чырвона-белы сьцяг і «Пагоню» выкарыстоўвалі фашысцкія акупанты!

— Гітлер насіў штаны — дык што, нам цяпер хадзіць без штаноў?

Гэты дыялёг паміж вэтэранам і Лявонам Баршчэўскім адбыўся ў часе абмеркаваньня праекту Канстытуцыі. Пракамуністычныя дэпутаты імкнуліся скарыстаць кожную зручную нагоду, каб паставіць пад сумнеў прынятыя ў 1991-м рашэньні. Але найбольш гарачыя спрэчкі ў часе прыманьня Канстытуцыі разгарнуліся ў пытаньні ўвядзеньня пасады прэзыдэнта.

У 1993-м Шушкевіч імкнуўся выканаць тое, што Вярхоўны Савет паабяцаў у 1992-м. Тады, адмовіўшы ў правядзеньні рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах, парлямэнт паабяцаў прысьпешыць канстытуцыйныя пераўтварэньні, прыняць новую Канстытуцыю і ў 1994 годзе правесьці выбары ў Вярхоўны Савет.

Спачатку стаўленьне Шушкевіча да асноўных палажэньняў ня шмат адрозьнівалася ад нашай пазыцыі. Ён выступаў супраць увядзеньня пасады прэзыдэнта і за захаваньне нэўтралітэту.

Да прыкладу, у сакавіку 1993-га на нечарговай сэсіі, выказваючы сваё стаўленьне да апошняга на той час варыянту праекту Канстытуцыі, Шушкевіч сказаў: «Згодна з падрыхтаваным праектам выканаўчая ўлада будзе дамінаваць. Разам з прэзыдэнтам у якасьці свайго кіраўніка яна набывае вяршэнства над усімі іншымі дзяржаўнымі орга-

намі, бо прэзыдэнту надаюцца такія паўнамоцтвы, якімі не валодае нават прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі. На маю думку, парлямэнцкая рэспубліка забясьпечвае большы ўзровень дэмакратыі, а аптымальны варыянт — гэта дзяржава, дзе прэзыдэнт зьяўляецца толькі галавой дзяржавы. Невыпадкова, што ў Эўропе існуюць пераважна парлямэнцкія дзяржавы. Такая форма кіраваньня забясьпечвае адкрытасьць, галоснасьць, дэмакратызм прыняцьця рашэньняў, улік разнастайных думак і падыходаў».

Адкрытасьць, галоснасьць, дэмакратызм, плюралізм меркаваньняў — якраз тое, чаго менш за ўсё хацела парлямэнцкая большасьць.

## Рознасьць падыходаў Шушкевіча і БНФ

У нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, захоўвалася галоўнае разыходжаньне з Шушкевічам што да канстытуцыйнага працэсу.

Мы лічылі, што гэты Вярхоўны Савет зь ягонай пракамуністычнай большасьцю, ня ў стане прыняць Асноўны закон незалежнай дэмакратычнай дзяржавы дый ня мае права гэтага рабіць, асабліва пасьля забароны рэфэрэндуму.

І таму працягвалі настойваць на тым, каб спачатку былі праведзеныя выбары ў новы парлямэнт, і ўжо ён, выбраны ў іншых умовах, у незалежнай краіне бязь ціску камуністычных органаў, прыме Канстытуцыю.

Мы разьлічвалі, што нават з улікам уплыву чынавенства на чале з Кебічам гэты новы парлямэнт будзе больш дэмакратычны, чым «наш» Вярхоўны Савет.

Між іншым, ускосна гэта пацьвердзілася: праз два гады, нават пад куды большым ціскам прэзыдэнцкай адміністрацыі, чым гэтага можна было чакаць ад апарату Кебіча, ва ўмовах паклёпу зь дзяржаўных СМІ, абсалютная большасьць кандыдатаў ад БНФ і дэмакратычных партый выйшлі ў другі тур выбараў (як вядома, Вярхоўны Савет быў тады не абраны адразу — прэзыдэнцкая адміністрацыя сьвядома сарвала выбары).

Аднак у Шушкевіча была іншая пазыцыя: спачатку — Канстытуцыя, а ўжо потым — выбары ў найвышэйшы заканадаўчы орган. І цяжка было патлумачыць самому сабе, чаму ж зусім не дурны, інтэлектуальны чалавек не жадае зразумець, што гэтыя дэпутаты няздольныя прыняць дэмакратычную Канстытуцыю.

Ведаю, што некаторыя з маіх паплечнікаў па апазыцыі з пагардай глядзелі на спробы Шушкевіча правесьці тыя або іншыя палажэньні Канстытуцыі — а ў мяне гэтыя спробы выклікалі пачуцьці шкадаваньня, як да чалавека, які б'ецца лбом аб сьцяну.

Шушкевіч настойліва, з месяца ў месяц, у Авальнай залі і ў інтэрвію журналістам, паўтараў, што гэтыя дэпутаты — здольныя працаваць, што ў іх ёсьць «станоўчы патэнцыял».

У ліпені 1993-га ён мог пераканацца ў характары патэнцыялу дэпутацкай большасьці, якая ледзь не адправіла яго ў адстаўку; у студзені 1994-га патэнцыял гэты быў скарыстаны напоўніцу, і Шушкевіч заняў месца шараговага дэпутата ў Авальнай залі.

Пазьней Шушкевіч напіша, што «ні ў дэмакратаў, ні ў старой камуністычнай намэнклятуры не было ўсебаковага глыбокага разуменьня праблемы. Яны

не пайшлі па шляху прыняцьця часовага Асноўнага закону, як, напрыклад, палітыкі Польшчы, а зь недапусьцімай пасьпешнасьцю прынялі Канстытуцыю 1994 году» (С. Шушкевіч, «Неокоммунизм у Беларуси», Скиф, Смаленск, 2002, с. 60–61).

З гэтых радкоў вынікае, што і намэнклятура, і Апазыцыя БНФ імкнуліся прыняць Канстытуцыю як найхутчэй. Аднак менавіта дэпутаты БНФ заяўлялі, што Вярхоўны Савет ня ў стане прыняць Канстытуцыю (пра што я пісаў вышэй), а ў лютым-сакавіку 1994 году нават блякавалі яе прыняцьце, паколькі былі нязгодныя з увядзеньнем пасады прэзыдэнта.

Адносна ж пазыцыі самога Шушкевіча прывяду меркаваньне незаангажаванага дасьледчыка, аўтара манаграфіі, прысьвечанай прыняцьцю першай Канстытуцыі незалежнай Беларусі, які скрупулёзна вывучыў як стэнаграмы сэсіяў Вярхоўнага Савету, гэтак і матэрыялы Канстытуцыйнай камісіі. «…Менавіта былы сьпікер прысьпешваў канстытуцыйны працэс… Абвінавачваючы парлямэнт у тым, што Канстытуцыя пісалася пад прэм’ер-міністра В. Кебіча, С. Шушкевіч, відавочна, забываў, што ён заўсёды займаў пазыцыю В. Шаладонава, які, у сваю чаргу, цесна супрацоўнічаў з прасаўмінаўскім дэпутацкім аб’яднаньнем «Беларусь» (Аляксандар Кур’яновіч, «Конституция независимой Беларуси: разработка, проекты, принятие». 3-е выданьне, «Тесей», Менск, 2012, с. 9).

Ну а галоўнай мэтай аб’яднаньня «Беларусь» было абраньне Кебіча прэзыдэнтам, прычым — як найхутчэй.

## Супраць «моцнага» прэзыдэнта

Ніякія добрыя намеры Шушкевіча што да праекту Канстытуцыі зьдзейсьніцца не маглі: пракамуністычная большасьць не прымала парлямэнцкую рэспубліку і нэўтралітэт. І калі адносна нэўтралітэту Шушкевіч захаваў сваю пазыцыю (хоць і падпісаў у апошні дзень паведамленьне, што Беларусь далучаецца да сыстэмы калектыўнай бясьпекі), дык адносна прэзыдэнцтва паступова перайшоў на пазыцыі намэнклятуры.

Праўда, ён ніколі не выказваўся за варыянт так званага «моцнага прэзыдэнта» (калі прэзыдэнт аднachасна зьяўляецца кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады зь вялікімі паўнамоцтвамі), ва ўсялякім разе, я ня памятаю такіх заяваў Шушкевіча.

Аднак ужо адно тое, што кіраўнік Канстытуцыйнай камісіі зьмяніў пазыцыю і пагадзіўся на ўвядзеньне пасады прэзыдэнта, было важным фактарам.

Па-першае, у тых дэпутатаў, якія вагаліся, фармавалася меркаваньне, што калі ўжо найвышэйшая ў дзяржаве асоба, прычым з дэмакратычнымі перакананьнямі, узяла гэты бок — значыць, ёсьць у ім больш рэзонаў, чым падавалася спачатку. Па-другое (і гэта, на маю думку, больш важна) — магчымасьць прэзыдэнцкай пасады замацоўвалася ў грамадзкай сьвядомасьці.

Вось такія прапановы, кшталту прэзыдэнцтва, зь якімі салідарызаваўся Шушкевіч, мы не падтрымлівалі — і нам хапала галасоў, каб іх заблякаваць.

Пры гэтым мы нязьменна настойвалі на парлямэнцкай рэспубліцы. Так, калі 25 траўня 1993 году разьдзел пра прэзыдэнцтва набраў толькі 97

галасоў, Зянон Пазьняк прапанаваў яго скасаваць і вярнуцца да парлямэнцкай рэспублікі. Як і варта было чакаць, гэтая прапанова не была падтрыманая парлямэнцкай большасьцю.

Пасьля чарговага разгляду пытаньня пра Канстытуцыю мы былі вымушаныя прыняць адпаведную заяву, у якой дэкляравалі свае канстытуцыйныя прынцыпы:

«Мы выступаем за парлямэнцкую рэспубліку, дзе можа выбірацца прэзыдэнт у якасьці кіраўніка дзяржавы.

Перад прыняцьцем новай Канстытуцыі мы ставім прынцыповую ўмову:

Выбары прэзыдэнта павінны адбыцца не раней як праз шэсьць месяцаў пасьля выбараў новага парлямэнту. Аб гэтым, перш чым прагаласаваць за новую Канстытуцыю, павінен быць прыняты спэцыяльны закон. Да выбараў прэзыдэнта абавязкі кіраўніка дзяржавы часова выконвае Старшыня парлямэнту.

Новая Канстытуцыя павінна адлюстроўваць статус унітарнай, незалежнай, прававой, дэмакратычнай дзяржавы і зьмяшчаць абавязковыя палажэньні:

аб нэўтралітэце і бязьядзерным статусе Беларусі;

аб парлямэнце, дзеючым на пастаяннай аснове;

аб муніцыпальнай сыстэме мясцовага кіраваньня;

аб дзяржаўнасьці беларускай мовы, недапушчэньні двухмоўя і таталітарнай палітыкі русыфікацыі Беларусі;

аб прыватнай уласнасьці на зямлю;

аб нацыянальнай валюце, фінансава-крэдытнай і банкаўскай сыстэме, нацыянальным банку з выключным правам эмісіі грошай;

2.

– аб нейтралітэце і безьядзерным статусе Беларусі;

– аб парламенце, дзеючым на пастаяннай аснове;

– аб муніцыпальнай сістэме мясцовага кіраваньня;

– аб дзяржаўнасьці беларускай мовы, недапушчэньні двухмоўя і таталітарнай палітыкі русіфікацыі Беларусі;

– аб прыватнай [redacted] уласнасьці на зямлю;

– аб нацыянальнай валюце, фінансава-крэдытнай і банкаўскай сістэме, нацыянальным банку з выключным правам эмісіі грошай;

– аб дзяржаўнай сістэме нацыянальнай абароны і беларускім войску;

– аб непарушнасьці дзяржаўных межаў і неадчужальнасьці тэрыторыі;

– аб дзяржаўным сьцягу, гербе, гімне і гістарычнай назве сталіцы Беларусі.

Без зацьвярджэньня канстытуцыйных палажэньняў незалежнай дзяржаўнасьці і прававых прынцыпаў дэмакратычнага дзяржаўнага ладу прыняцьце новай Канстытуцыі губляе для беларускай нацыі ўсялякі стваральны сэнс. Канстытуцыя без такіх палажэньняў не павінна прымацца.

Апазіцыя БНФ стаіць на платформе дэмакратычнага будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы, якая гарантуе свабоду, абарону і разьвіцьцё асобы. Мы падтрымліваем канструктыўныя ідэі, што накіраваныя на ўмацаваньне незалежнасьці, на карысьць Беларусі і яе жыхароў.

Дэпутаты Апазіцыі БНФ
у Вярхоўным Савеце:

З. Пазьняк, 9.я — С. Навумчык 121
В. Голубеў 15.я — Л. Дзейка 62
Ю. Беленькі 36-я — Л. Зворык 276
Заблоцкі 30 — В. Какоўка 176
[illegible] — [illegible] 33
[illegible] 30 — С. Антончык 17
[illegible] 66я — Е. Грушаневіч 168


Аламніў 134
Маркевіч 241-ая.
І. Герасімчук 71-я.
Л. Баршчэўскі 174-я
Пазняк 197
У. Новік, 18-я
П. Хадыка 67
Мік. Крыжаноўскі 86
С. Бобагінаў 277
Г. Сямдзянава
Пласцюк Б. 150
Герасюк І. М. 63-я
Слабчанка С. І. - 117

Заява Апазыцыі БНФ у справе прыняцьця Канстытуцыі.

аб дзяржаўнай сыстэме нацыянальнай абароны і беларускім войску;

аб непарушнасьці дзяржаўных межаў і неадчуджальнасьці тэрыторыі;

аб дзяржаўным сьцягу, гербе, гімне і гістарычнай назьве сталіцы Беларусі.

Без зацьвярджэньня канстытуцыйных палажэньняў незалежнай дзяржаўнасьці і прававых прынцыпаў дэмакратычнага дзяржаўнага ладу прыняцьце новай Канстытуцыі страчвае для беларускай нацыі ўсялякі стваральны сэнс. Канстытуцыя без такіх палажэньняў не павінна прымацца.

Апазыцыя БНФ стаіць на плятформе дэмакратычнага будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы, якая гарантуе свабоду, абарону і разьвіцьцё асобы. Мы падтрымліваем канструктыўныя ідэі, накіраваныя на ўзмацненьне незалежнасьці, на карысьць Беларусі і яе жыхароў».

Заява была прынятая 16 чэрвеня 1993 году, яе падпісалі Зянон Пазьняк, Валянцін Голубеў, Юрась Беленькі, Уладзімер Заблоцкі, Лявон Баршчэўскі, Алесь Шут, Сяргей Навумчык, Віталь Малашка, Генадзь Грушавы, Лявон Дзейка, Леанід Зьвераў, Віктар Какоўка, Алег Трусаў, Сяргей Антончык, Яўген Глушкевіч, Віктар Алампіеў, Мікола Маркевіч, Ігар Гермянчук, Ігар Пырх, Уладзімер Новік, Павал Холад, Мікалай Крыжаноўскі, Станіслаў Бабачонак, Галіна Сямдзянава, Барыс Гюнтэр, Іван Герасюк, Сяргей Слабчанка. Усяго 27 дэпутатаў.

Увогуле, чым далей ішло прыняцьце разьдзелаў і артыкулаў Канстытуцыі, тым больш выкалупплівалася зь яе «несавецкіх» прыкметаў. Пры гэтым пракамуністычныя дэпутаты падвяргалі рэвізіі раней прынятыя заканадаўчыя акты.

Напрыклад, у праекце Канстытуцыі не было пазначана, якія менавіта дзяржаўныя герб і сьцяг мае Беларусь — артыкул 19 толькі прадугледжваў, што «сымбалямі Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы зьяўляюцца яе Дзяржаўны сьцяг, Дзяржаўны герб і Дзяржаўны гімн», якія «устанаўліваюцца законам» (паводле стану праекту на 11 сакавіка 1993 году).

Пры абмеркаваньні Канстытуцыі 20 траўня дэпутаты-вэтэраны выступілі супраць дзяржаўных сымбаляў — герба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сьцяга, патрабуючы правесьці адносна іх рэфэрэндум.

Тады гэтая прапанова не прайшла — але роўна праз два гады Лукашэнка правядзе свой рэфэрэндум, і нацыянальная сымболіка будзе замененая на савецкую.

Калі ў прэамбуле праекту Канстытуцыі, прадстаўленага дэпутатам у траўні, захоўваліся згадкі пра ВКЛ і БНР, унесеныя яшчэ ў лёсавызначальным 1991-м, дык ужо ў варыянце паводле стану на 14 кастрычніка 1993-га яны адсутнічалі.

Але да пэўнага часу нам удавалася галоўнае: блякаваць увядзеньне пасады прэзыдэнта.

## Шушкевіч прапануе Канстытуцыйную асамблею

Шушкевіч быў незадаволены тым, што Канстытуцыя ўсё ніяк не прымаецца, і 10 верасьня разаслаў дэпутатам Вярхоўнага Савету зварот, у якім выказаў уласнае бачаньне канстытуцыйнага працэсу. Шушкевіч прапанаваў склікаць Канстытуцыйную асамблею, якая б і прыняла Асноўны закон.

Такую прапанову сьпікер выказваў не ўпершыню — яшчэ ў ліпені, пасьля спробы падкантрольнай Кебічу пракамуністычнай большасьці адправіць сьпікера ў адстаўку Шушкевіч выказаў сумнеў у здольнасьці дэпутатаў прыняць дэмакратычную Канстытуцыю і сказаў пра скліканьне Асамблеі як пра выйсьце з тупіку.

У чым палягалі прапановы Шушкевіча?

Канстытуцыйная асамблея павінна была абірацца з адзінай мэтай — прыняцьця новай Канстытуцыі. Пры гэтым выбары ў Асамблею адбываліся б паводле Закону «Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь», прынятага яшчэ ў 1989 годзе, па 310 акругах (пры гэтым, у адрозьненьне ад Вярхоўнага Савету, не выбіраліся б 50 дэпутатаў ад грамадзкіх арганізацый).

Выбары лічыліся б сапраўднымі незалежна ад колькасьці грамадзянаў, якія прынялі ўдзел у галасаваньні. Члены Асамблеі, паводле прапановы, карысталіся б дэпутацкай недатыкальнасьцю, пасяджэньні яе адбываліся б у адпаведнасьці з Часовым рэгляментам Вярхоўнага Савету.

На разгляд Асамблеі меркавалася вынесьці праект Канстытуцыі, які ўжо быў часткова прыняты на 12-й сэсіі Вярхоўнага Савету ў траўні. Пры гэтым для зацьвярджэньня праекту дастаткова было аднаго чытаньня і большасьці галасоў ад агульнай колькасьці членаў Асамблеі. Пасьля прыняцьця Канстытуцыі і вызначэньня парадку ўвядзеньня яе ў дзеяньне, паўнамоцтвы Асамблеі спыняліся б. Калі б Асамблея не прыняла Канстытуцыю цягам чатырох месяцаў, яе паўнамоцтвы спыніліся б рашэньнем Вярхоўнага Савету.

Шушкевіч лічыў, што «гэты варыянт дазволіць працягнуць працу цяперашняга Вярхоўнага Савету на акрэсьлены Канстытуцыяй тэрмін, зробіць яго гарантам стабільнасьці… Асамблея не дазволіць пэўным палітычным сілам як правага, гэтак і левага кшталту спэкуляваць пралікамі ў нашым заканадаўстве».

Такім чынам, дэзавуявалася б рашэньне Вярхоўнага Савету правесьці датэрміновыя парлямэнцкія выбары не пазьней за 1994 год, прынятае ў кастрычніку 1992-га, калі было адмоўлена ў правядзеньні ініцыяванага БНФ рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах. Шушкевіч каторы ўжо раз паставіў на адну дошку «правых» і «левых», гэта значыць — праімпэрскія антыбеларускія пракамуністычныя сілы і дэмакратычны Народны Фронт.

Старшыня Вярхоўнага Савету і Канстытуцыйнай камісіі таксама выказаў спадзяваньне, што рэалізацыя ягонай прапановы «дазволіць Вярхоўнаму Савету засяродзіць увагу ня толькі на заканатворчай дзейнасьці, але і ўзмоцніць кантроль над дзейнасьцю ўраду. Сёньня гэта вельмі злабадзённае пытаньне… Старшыня Савету міністраў неаднаразова заяўляў, што некаторыя міністры і адказныя работнікі Савету міністраў не адпавядаюць сучасным патрабаваньням». Шушкевіч лічыў, што абраньне Асамблеі дазволіць «знайсьці новыя, маладыя, здольныя палітычныя сілы, праверыць узровень сьпеласьці нашага грамадзтва».

Якія «новыя» палітычныя сілы зьбіраўся шукаць Станіслаў Станіслававіч — невядома: на той момант у Беларусі быў ужо сфармаваны спэктар палітычных плыняў. Некаторыя з тых, хто дапамагаў яму ў прэзыдэнцкай кампаніі 1994 году, потым атры-

маюць незайздросную ацэнку ад яго самога. На тых самых выбарах удасца і «праверыць узровень сьпеласьці нашага грамадзтва».

## У чым былі недахопы прапановы Шушкевіча

Адразу пасьля атрыманьня звароту я напісаў аналітычны агляд пад назовам «Канцэпцыя Станіслава Шушкевіча: выхад з канстытуцыйнага тупіку альбо прыгожая ўтопія», якую і адаслаў Шушкевічу.

Тады я выказаў меркаваньне, што «першая (хоць і вельмі суб'ектыўная) прычына, якая ставіць пад сумнеў магчымасьць прыняцьця Вярхоўным Саветам гэтай прапановы Станіслава Шушкевіча, — артыкул 9 праекту Закону аб Канстытуцыйнай асамблеі. Яна прадугледжвае, што кандыдатамі ў члены Асамблеі «ня могуць быць вылучаныя асобы, якія зьяўляюцца народнымі дэпутатамі Рэспублікі Беларусь». Ужо першая рэакцыя дэпутатаў на пакет дакумэнтаў паказала, што шмат хто зь іх бачыць у прапанове Шушкевіча відавочны падвох. Валодаючы роўнай зь цяперашнім Вярхоўным Саветам легітымнасьцю, Асамблея аднойчы можа «перацягнуць» на сябе функцыі заканадаўчай улады. Як мінімум, Асамблея можа настаяць на тым, каб менавіта яна прыняла новы закон аб выбарах. Вывесьці з-пад свайго ўплыву такі важны закон — з гэтым наўрад ці пагодзіцца як пракамуністычная большасьць, гэтак і Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту».

І далей: «У сёньняшнім складзе Канстытуцыйнай камісіі знаходзяцца найбольш уплывовыя дэпутаты, якія ўзначальваюць парлямэнцкія фракцыі —

да гэтага часу яны мелі, хай і вельмі абмежаваную, магчымасьць дадаваць канцэптуальныя ідэі сваіх партый ў праект Канстытуцыі. З утварэньнем Асамблеі ступень іх асабістага ўзьдзеяньня, безумоўна, зьменшыцца. З другога боку, менавіта амбіцыі лідэраў партый, якія не зьяўляюцца дэпутатамі, могуць павярнуць грамадзкую думку на карысьць Асамблеі, паколькі абраньне ў Асамблею істотна падвышае іх шанцы і магчымасьці прайсьці ў новы парлямэнт».

У гэтых сказах я ў даволі спакойнай, непрадузятай форме паспрабаваў патлумачыць, чаму ў такім варыянце не зацікаўленыя ніякія прадстаўленыя ў парлямэнце палітычныя сілы.

Што да канкрэтна нашых інтарэсаў, дык прапанова Шушкевіча фактычна зводзіла ўплыў парлямэнцкай Апазыцыі БНФ да нуля. Акрамя таго, яна ўтрымлівала патэнцыйную пагрозу стварэньня напружанасьці ў самім Народным Фронце (зьяўленьне новага «цэнтру сілы» ў выглядзе членаў Асамблеі), а гэта было абсалютна недапушчальна ў часе, калі патрабавалася адзінства ўсіх дэмакратычных сілаў, ня кажучы ўжо пра адзінства БНФ. Тое самае тычылася і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, якая мела сваю фракцыю ў парлямэнце (дэпутатыграмадоўцы ўваходзілі ў склад парлямэнцкай Апазыцыі БНФ).

З гэтага варыянту выйгравала толькі «трэцяя сіла», на якую і рабіў стаўку Шушкевіч (хоць ён ніколі так і не патлумачыў, на якія канкрэтна палітычныя партыі ці рухі ён жадае абапірацца. Увесь час казаў, што не на камуністаў і не на Народны Фронт).

Аднак мой скепсіс адносна прапановы Шушкевіча быў выкліканы і больш, так бы мовіць, глябальнай прычынай, чым патэнцыйны раскол у шэрагах БНФ. Існавалі вялікія сумневы ў тым, што склад Асамблеі будзе істотна адрозьнівацца ад складу Вярхоўнага Савету.

«Шушкевіч прапануе правесьці выбары ў Асамблею паводле Закону “Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь” — таго самага закону, паводле якога ўвесну 1990 году быў абраны цяперашні парлямэнт (адзіная зьмена — ня будуць прадстаўленыя 50 дэпутатаў ад арганізацый вэтэранаў і інвалідаў), — пісаў я ў аналітычнай запісцы. — Такім чынам, захоўваюцца ў ранейшых межах выбарчыя акругі, застаецца ранейшай працэдура зацьвярджэньня выбарчых камісій. Прыгадваюцца вартыя жалю пэрыпэтыі трохгадовай даўніны (выбары 1990 — Удакладненьне 2018 г.), зьвязаныя зь недасканаласьцю (магчыма, наўмыснай недасканаласьцю) Закону».

Гэтыя пэрыпэтыі выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет XII скліканьня я пералічыў: «Мясцовая намэнклятура па сваім жаданьні фармавала выбарчыя камісіі. Для вылучэньня кандыдатаў па месцы жыхарства неабходна было сабраць ня меней чым 300 грамадзянаў з абавязковай прысутнасьцю мясцовай улады (апошнія часта не прыходзілі). Камісіі на прыдуманых падставах адмаўляліся рэгістраваць некаторых кандыдатаў. Кандыдаты ня мелі роўнага доступу да сродкаў масавай інфармацыі. Нарэшце, практычна бескантрольная магчымасьць фальсыфікацыі вынікаў выбараў».

І выснова: «Калі ўлічыць, што практычна ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі пракамуністычная намэн-

клятура займае кіруючыя пазыцыі, палітычная актыўнасьць насельніцтва невысокая, тэлебачаньне і радыё, значная частка газэтаў падпарадкаваныя дзяржаве — вынік галасаваньня няцяжка прадбачыць. Абраная паводле цяперашняга закону Асамблея будзе мала чым адрозьнівацца аб Вярхоўнага Савету; значыць, і верагоднасьць прыняцьця Канстытуцыі ў яе дэмакратычным варыянце набліжаецца да нуля».

Ну але галоўнае, як бачылася тады — «відавочна, рэальная магчымасьць прыняцьця новай Канстытуцыі зьявіцца толькі пасьля правядзеньня новых парлямэнцкіх выбараў. Менавіта такі шлях і прапануе дэмакратычная апазыцыя: прыняцьце Закону аб выбарах, які гарантуе квоту ад партый і палітычных рухаў, правядзеньне не пазьней за вясну 1994 году выбараў і ўжо затым — прыняцьце Канстытуцыі».

Вось такі альгарытм канстытуцыйнага працэсу мы прапаноўвалі. Памыліўся я толькі ў тым, што насамрэч Канстытуцыя ўсё ж была прынятая нашым Вярхоўным Саветам — у немалой ступені дзякуючы таму, што ў кастрычніку Шушкевіч ізноў пайшоў у фарватэры патрабаваньняў пракамуністычнай большасьці і прысьпешыў гэты самы канстытуцыйны працэс.

Разьвязка надыдзе ўжо ў наступным годзе, калі новаабраны сьпікер Мечыслаў Грыб назаве сваёй першачарговай мэтай як найхутчэйшае прыняцьце Канстытуцыі і, не зважаючы на папярэджаньні дэпутатаў БНФ пра пагрозу дыктатуры, большасьць Вярхоўнага Савету прыме «прэзыдэнцкую» Канстытуцыю.

У дзень яе прыняцьця 15 сакавіка 1994 году, выступаючы на сэсіі, я назаву такі Асноўны за-

кон «бомбай, якая ўзарве грамадзтва» — яшчэ толькі адчуваючы, але нават не ўяўляючы і ўвесь маштаб узрушэньняў, і іх працягласьць у часе, на дзесяцігодзьдзі. Віктар Ганчар ужо тады абурыўся маімі словамі.

У чарговую гадавіну прыняцьця Канстытуцыі, 15 сакавіка 2018 году, Мечыслаў Грыб у інтэрвію карэспандэнту Радыё Свабода Віталю Цыганкову сказа, што «сёньня я мяркую так, што кідацца ў прэзыдэнцкую форму кіраваньня было небясьпечна».

Правільнае меркаваньне. На жаль, запозьненае.

***Аляксандар Вярцінскі** (Смаргонская гарадзкая выбарчая акруга № 269): Хачу зьвярнуць вашу ўвагу на адну нешараговую падзею ў духоўным жыцьці рэспублікі, а іменна падзяліцца сваімі ўражаньнямі аб першым нацыянальным фэстывалі беларускай песьні і паэзіі, які адбыўся ў Маладзечне, удзельнікам якога мне давялося быць. У першую чаргу я ўражаны не арганізацыйнай формай, хоць і яна таксама была на найвышэйшым узроўні, а глыбокім зьместам, самім духам гэтага сьвята, якое ў значнай меры выявіла сутнасьць таго, што мы называем Адраджэньнем нашай культуры, мовы, самой беларускай нацыі. Тое, што зроблена ў Маладзечне, — гэта прыклад, як трэба змагацца ня словамі, не мітынгоўшчынай за культуру і мову, а як яе, нашу беларускую культуру, даваць людзям, даводзіць да сьвядомасьці кожнага, як закласьці яе ў душу чалавека незалежна ад яго нацыянальнасьці. Такая форма адраджэньня культуры беларускага слова і музыкі не магла ня быць успрынятая ўсім насельніцтвам як іменна вялікае сьвята. Альтэрнатыву такой форме беларускага слова, паэзіі, музыкі цяжка знайсьці. Хачу адзначыць і такі бок фэстывалю — тое, што наш малады бізнэс не заціснуў грошы ў кішэні, а цалкам падтрымаў ініцыятыву старшыні Маладзечанскага гарадзкога савету народных дэпутатаў народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Генадзя Дзьмітрыевіча Карпенкі аб правядзеньні фэстывалю і выдзеліў неабходныя сродкі. Гэтым яшчэ раз было засьведчана імкненьне розных слаёў насельніцтва да сваёй нацыянальнай культуры.*

*Выступ у «Розным»*

# НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ НАБІРАЕ СІЛУ

1 верасьня 1993 году 80% першаклясьнікаў пайшлі ў беларускія клясы.

Гэты факт часам прыводзяць як прыклад беларусізацыі пачатку 90-х, як адно з найвялікшых яе дасягненьняў.

Але вучыліся яны (як і другаклясьнікі, і трэцяклясьнікі — і так аж да 10-й, выпускной клясы) па расейскамоўных падручніках.

І гэта ўжо — сьведчаньне цяжкасьцяў, зь якімі сутыкнулася нацыянальнае адраджэньне, а калі больш дакладна, паказчык выкананьня Закону аб мовах, прынятага яшчэ ў студзені 1990 году Вярхоўным Саветам папярэдняга, XI скліканьня.

У 1993 годзе меўся пачацца новы этап выкананьня гэтага Закону, пра які выканаўчыя органы ўлады — як у сталіцы, гэтак і ў рэгіёнах — пасталіся забыцца. Але актывісты Таварыства беларускай мовы нагадвалі пра яго.

Вось што тлумачыў у інтэрвію мясцовай газэце старшыня Віцебскай гарадзкой рады ТБМ, выкладчык тэхналягічнага інстытуту Валянцін Арлоў:

«Закон увогуле лібэральны, нават занадта. У ніводнай былой рэспубліцы не даецца столькі правоў людзям, якія ня хочуць валодаць мовай. Больш таго, закон адзіны сярод падобных, бо прымушае вывучаць у школах як прадмет расейскую мову.

У чым яго недасканаласьць, на мой погляд? Няма артыкулу, які б абавязваў кіраўнікоў афіцыйных установ і прадпрыемстваў у межах сваёй кампэтэнцыі адказваць за выкананьне Закону.

…К верасьню 1993 году сфэра культуры павінна працаваць на беларускай мове (арт. 28), тэксты афіцыйных абвестак, паведамленьняў, афішаў, рэклямы павінны быць на беларускай мове (арт. 28), аб'явы на транспарце і ў гандлі павінны рабіцца на беларускай мове (разьдзел другі, арт. 9 Дзяржпраграмы), маркіроўка тавараў для Беларусі — таксама на беларускай (арт. 32), мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі павінна быць беларуская (арт. 29)».

Натуральна, у чыноўнікаў і кіраўнікоў прадпрыемстваў быў час, каб падрыхтаваць прадугледжанае законам.

«Было і ёсьць шмат магчымасьцяў памяркоўна, спакойна пашырыць сфэру ўжываньня беларускай мовы ў горадзе ўвогуле, — працягваў Арлоў. — Але якраз гэта сабатуецца, перш-наперш многімі адказнымі асобамі, і нават з найвышэйшага гарадзкога і абласнога эшэлёнаў улады… Боязь зноў-такі сьведчыць, што пераважная большасьць людзей закон так і не глядзелі. Ад звычайнага чалавека ў сэнсе авалоданьня беларускай мовай нічога не патрабуецца!.. А вось тыя, хто мае справу з грамадзкасьцю (на транспарце, у гандлі і г. д.), службовыя асобы ўсіх рангаў, у адпаведнасьці з Праграмай, вызначанай Саветам міністраў рэспублікі, павінны ведаць беларускую мову і карыстацца ёю ў межах сваёй кампэтэнцыі, Калі ты, скажам, старшыня нейкага савету, рабіць афіцыйныя заявы, выступаць, афармляць паперы павінен па-беларуску» («Витьбичи», 18 траўня 1993).

Але вось якраз старшыня Віцебскага гарсавету Валер Неўшаў падаў прыклад стаўленьня да выкананьня Закону. На пытаньне рэдактара газэты Ніны

Тулінавай — «Вам как главе городской власти не обойти стороной национальный вопрос, или, как сейчас модно кричать (sic! — С. Н.) — вопрос возрождения Беларуси. Вы — русский, и если не попадёте в струю “демократов”, придётся нелегко» — адказ такі: «Каждая национальность имеет право на свою культуру, язык, национальные чувства. Но их не надо культивировать искусственно, с нажимом. Исторически сложилось так, что в Витебске преобладает русский язык… Перевод учебников по физике, астрономии, истории, математике сейчас невыгоден ни с научной, ни с экономической стороны. Я понимаю, что белорусский язык должен быть доведён до уровня государственного. Но надо делать это спокойно, размеренно, без давления особенно на простых людей. И только через культуру, народное образование (но опять-таки без давления) поколению за поколением прививать эти чувства. Возрождение Беларуси, повторюсь ещё, должно идти через культуру, через театр».

Фактычна, мэр Віцебску адкладаў беларусізацыю «на пакаленьні», гэта значыць на сотню гадоў, пры гэтым прапаноўваючы вярнуцца на сто гадоў назад, у канец XIX — пачатак XX стагодзьдзяў, калі ініцыятары Адраджэньня праз тэатар і пачыналі. Але тое было ў Расейскай імпэрыі, а цяпер існавала сувэрэнная беларуская дзяржава, з законам, які дзейнічаў ужо чацьвёрты год і які чыноўнік абавязаны быў выконваць. Але — не жадаў выконваць: «Меня часто спрашивают: говорите ли вы по-белорусски. Я думаю, чем говорить безграмотно на любом языке, лучше на нём не говорить» («Витьбичи», 3 красавіка 1993).

Нічога з таго, пра што казаў старшыня Віцебскай гарадзкой рады ТБМ Валянцін Арлоў, не было зроблена ні да верасьня, ні пасьля верасьня, як таго патрабаваў закон. У Віцебскім абласным савеце мой бацька Іосіф Навумчык быў адзіным дэпутатам, які выступаў па-беларуску.

Увогуле, Віцебск зрабіўся апірышчам праімпэрскіх, прарасейскіх сілаў, і гэтаму ў немалой ступені паспрыяў «Славянскі базар», які з пачатку 90-х рэгулярна праводзіўся ўзамен фэстывалю польскай песьні (менавіта для гэтага фэстывалю і была пабудаваная ў 1988 годзе вялікая канцэртная заля). Культурніцкі вэктар быў імгненна памяняны: ня Захад, а Ўсход, канкрэтна — Расея. Памятаю, як на адным з канцэртаў інтэрмэдыя нейкіх двух артыстаў з Украіны, дзе абсьмейвалася незалежнасьць Украіны і Беларусі, выклікала авацыю 5-тысячнай залі — і гэта быў не адзіны гэткі жарцік на фэстывалі. У краіне, дзе ўлада паважае сваю дзяржаву, такі канцэрт быў бы апошнім, арганізатары былі б прыцягнутыя да адказнасьці. А ў Віцебску «Славянскі базар» да зусім нядаўняга часу быў трыюмфам расейскай эстрады ня самага лепшага гатунку і штогод рабіў моцную праімпэрскую ін’екцыю ў сьвядомасьць віцяблянаў. Ня дзіўна, што пад песьню «Офицеры, офицеры, ваше сердце под прицелом, за Россию и свободу до конца» — пяцітысячная заля ўстае.

Прыехаўшы ў Віцебск у траўні 2016-га пасьля 20-гадовай адсутнасьці, я ўбачыў спрэс зрусыфікаваны горад — такім маглі б быць Тула, Вятка альбо Кемерава. Расейскамоўныя вітрыны (нават з «Ъ» ), расейскія цыбуліны на храмах, аднаўленьня якіх дамагаліся мы ў канцы 1980-х — пачатку 90-х,

і за некалькі дзён я пачуў толькі адно беларускае слова (калі не лічыць родных і сяброў). Затое таксісты, не стрымліваючы сябе ў нэгатыўнай ацэнцы Лукашэнкі («маленькие зарплаты»), хацелі, каб прыйшоў Пуцін і навёў парадак («и зарплаты нам сделал, как в России»).

Канешне, у 1993-м Віцебск ня быў выключэньнем — па ўсёй Беларусі Закон аб мовах, прыняты яшчэ Вярхоўным Саветам XI скліканьня, ня дзейнічаў, бо проста сабатаваўся чыноўнікамі. Пра гэта казалі з трыбуны сэсіі кіраўнікі парлямэнцкай камісіі Ніл Гілевіч, Алег Трусаў, Лявон Баршчэўскі, Яўген Цумараў, дэпутаты Апазыцыі БНФ — але словы ляцелі ў паветра. Вялізнымі намаганьнямі камісіі Гілевіча ўдалося нешта прасунуць у галіне адукацыі і культуры — але і толькі.

Прыклад чыноўнікам паказваў старшыня Савету міністраў Кебіч, выступаючы выключна па-расейску.

Тут я павінен адзначыць, што іншымі былі пазыцыі некаторых членаў ураду — віцэ-прэм’ера Міхаіла Дземчука, міністра інфармацыі Анатоля Бутэвіча, міністра культуры Яўгена Вайтовіча, міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі — пры сваім партыйна-камуністычным мінулым, пры часам непрымальных для нас палітычных поглядах, гэтыя асобы сымпатызавалі нацыянальнаму Адраджэньню. Ва ўсялякім разе, рабілі яны значна больш, чым маглі б рабіць пры цалкам індыфэрэнтным стаўленьні да беларушчыны іх галоўнага патрона.

Хоць былі і прыемныя сюрпрызы там, дзе, здавалася, іх чакаць не даводзілася.

У газэце Міністэрства абароны «Во славу Родины» існавала сталая рубрыка ўрокаў беларускай мовы (кожная публікацыя займала амаль паласу), вяла іх Валянціна Раманцэвіч. Другі год выходзіла тэматычная гістарычная рубрыка «Паходня» з тэкстамі, якія зрабілі б гонар што «Літаратуры і мастацтву», што «Свабодзе», што «Навінам БНФ».

У рубрыцы «Знаёмыя незнаёмцы» газэта зьмяшчала інтэрвію зь дзеячамі нацыянальнай культуры і літаратуры. Пералічу загалоўкі: «Калі кожны заб’е “крыжака» ў сваім сэрцы, мы, можа, і прыйдзем да чалавечага жыцьця» (пісьменьнік Кастусь Тарасаў), «Мы павінны ведаць такую гісторыю, якой яна была, хай нават там былі і непрыемныя моманты» (археоляг Георгі Штыхаў), у іншым нумары — гутарка з Вольгай Іпатавай. Пра былых дысыдэнтаў і актывістаў дэмакратычнага руху — герояў сваёй кнігі «Іншадумцы», уганараванай Дзяржаўнай прэміяй Беларусі — распавёў Аляксандар Уліцёнак. На беларускай мове пісалі адказны сакратар газэты падпалкоўнік Сьвятаслаў Асіноўскі, капітан Аляксандар Карлюкевіч. Скажам, рэпартаж апошняга зь Першага зьезду беларусаў сьвету вызначаўся куды большай аб’ектыўнасьцю, чым у «Советской Белоруссии», падрабязна пераказваліся выступы Васіля Быкава ды іншых прамоўцаў, якія крытыкавалі ўрад і міністра абароны.

## Падручнікі распавядаюць пра Курапаты і пра Гарэцкага

Цяпер, калі я пішу гэтую кнігу, афіцыйнай прапагандай сьвядома культывуецца адмоўнае стаўленьне да пачатку 1990-х гадоў — як да пэры-

яду нібыта безуладзьдзя і галечы, калі толькі невялікая купка нацыянальнай інтэлігенцыі ды бізнэсоўцы радаваліся пераменам, а большасьць людзей ахапілі роспач і адсутнасьць пэрспэктывы. І толькі Лукашэнка адкрыў новыя гарызонты. Маўляў, быў «бардак» — стаў «парадак».

Добра адказаў на такія закіды тэатральны крытык, журналіст Вячаслаў Ракіцкі:

«Бачылі простыя людзі пэрспэктывы, чакалі пераменаў, верылі ў іх. З гэтай надзеяй выходзілі дзясяткі тысяч людзей на вуліцы і плошчы. Гэта для мяне, маёй мамы, маіх сяброў, калегаў, суседзяў былі шчасьлівыя і поўныя надзеяў гады. Мы радаваліся краху агіднай імпэрыі, краху чорнай ідэалёгіі камуністаў. Слова "бардак" датычна агулам 1990-я гадоў зьневажае мяне і асабіста.

На пачатку 90-х усё, што мы рабілі, было падпарадкавана лёгіцы пераменаў, незалежнасьці. Паступова нашы справы зьліваліся ў сыстэму. І ў палітыцы, і ў культуры. Пра культуру, да якой я меў дачыненьне. Была адмененая цэнзура. У Купалаўскім тэатры ішлі дзясяткі гадоў забароненыя "Тутэйшыя". Геніяльны быў спэктакль. На "Беларусьфільме" ўзьніклі самастойныя кінастудыі, вынікам — шэраг вельмі цікавых фільмаў. Беларуская рок-музыка знайшла сабе месца ў мастацкай прасторы.

Я быў галоўным рэдактарам першага незалежнага культурніцкага часопіса "Спадчына", у якім мы вярнулі сотні раней забароненых тэкстаў. З рэдакцыі я бег выкладаць у першы недзяржаўны Інстытут сучасных ведаў, паралельна набраў упершыню абсалютна беларускамоўны курс драматургаў ва Ўнівэрсытэце культуры. І на Плошчу

пасьпяваў. Тое, што рабілася ў культурнай сфэры і вылівалася ў сыстэму, гэта найвялікшае ў гісторыі Беларусі нацыянальна-культурнае будаўніцтва.

А ўжо ў другой палове 1990-х новая ўлада, якая стала на калені перад Масквой, пачала разбураць зробленае. І дасягнула неўзабаве жахлівых посьпехаў. Каб выкарыстоўваць слова “бардак”, прынамсі трэба расплюшчыць вочы, вывучыць найноўшую гісторыю. І не пляваць у чысты калодзеж, якім гэтая гісторыя і ёсьць».

Канкрэтызую словы Вячаслава Ракіцкага пра нацыянальна-культурнае будаўніцтва.

У адукацыі адбываўся сапраўдны нацыянальны прарыў — у вышэйшых навучальных установах не паўсюль, але пачалося выкладаньне па-беларуску. Беларускі гуманітарны ліцэй стаў экспэрымэнтальнай беларускамоўнай пляцоўкай для новых праграмаў, мэтодык і нават новых школьных прадметаў, якіх у краіне дагэтуль не выкладалі — гісторыі і культуры беларускай мовы, усясьветнай літаратуры.

У 1993 годзе падручнікі савецкага часу мяняліся на новыя.

У вучэбным дапаможніку «Беларусь — мая Радзіма», зацьверджаным Міністэрствам адукацыі Беларусі для сярэдняй школы, абвяшчэньне незалежнасьці БНР 25 сакавіка 1918 году падавалася як «акт вялікага гістарычнага значэньня», распавядалася пра рэпрэсіўны характар калектывізацыі і высылку тысяч беларускіх сялян у Сібір, пра зьнішчэньне нацыянальнай інтэлігенцыі, пра Курапаты — «фактычна такімі курапатамі была пакрытая ўся беларуская зямля». У разьдзеле, прысьвечаным сучаснасьці, казалася, што з 1991 году «над намі




Марка, прысьвечаная Максіму Гарэцкаму.

лунае спрадвечны бел-чырвона-белы нацыянальны сьцяг. А наша «Пагоня», якая парвала ланцугі камуністычнай тыраніі, зноў імчыць у пагоню за шчасьцем і воляй беларускага народа».

Менавіта ў 1993 годзе ўрочышча Курапаты — месца масавых расстрэлаў ахвяраў бальшавіцкіх рэпрэсій — было ўнесенае ў Дзяржаўны сьпіс гісторыка-культурных каштоўнасьцяў.

У лютым маштабна былі адзначаныя 100-я ўгодкі Максіма Гарэцкага. У Менску ў тэатры імя Янкі Купалы прайшла ўрачыстая вечарына з удзелам старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча, намесьніка старшыні Саўміну Міхаіла Дзямчука, міністраў культуры і інфармацыі Яўгена Вайтовіча і Анатоля Бутэвіча. А на Магілёўшчыне, у Малой Багацькаўцы быў адкрыты музэй пісьменьніка, у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі

прайшлі юбілейныя літаратурныя чытаньні і ўрачыстае пасяджэньне, была адкрытая мэмарыяльная шыльда.

Ва ўрачыстасьцях на Магілёўшчыне ўзялі ўдзел ня толькі пляменьнік пісьменьніка віцэ-прэзыдэнт Акадэміі навук Радзім Гарэцкі, літаратары Янка Брыль і Ніл Гілевіч, рэктар Горацкай акадэміі, але і віцэ-прэм'ер Міхаіл Дзямчук, намесьнік міністра культуры Ўладзімер Гілеп, кіраўнікі Мсьціслаўскага і Горацкага раёнаў, і нават кіраўнік Вяземскай раённай адміністрацыі (Расея).

Праз дваццаць гадоў уявіць такі дзяржаўны ўзровень і маштаб ушанаваньня памяці рэпрэсаванага беларускага літаратара будзе немагчыма, а дом у Горках, дзе жыў Гарэцкі (адзінае жытло пісьменьніка, якое яшчэ захавалася на тэрыторыі Беларусі), будзе зьнесены — мясцовае начальства рыхтавалася да правядзеньня «Дажынак» з удзелам Лукашэнкі, а дом замінаў дарозе да амфітэатру, дзе адбывалася «сьвята ўраджаю».

## Айцы БНР, Купала і Геніюш

«Небагата, але шчасьліва і цікава» — так можна было б ахарактарызаваць нашае з жонкай жыцьцё ў 1993-м, і ня толькі таму, што былі маладыя.

Небагата — таму што я ўжо не працаваў на сталай пасадзе ў парлямэнцкай камісіі, і наш месячны сямейны бюджэт складаўся, калі не памыляюся, з 35–40 даляраў. Гэта сапраўды было няшмат. Неяк сябра прапанаваў перакласьці на беларускую інструкцыю для сокавыціскалкі фірмы Bosh. Працу трэба было зрабіць да раніцы, затое аплата — аж 20 даляраў! Усю ноч перакладалі, але пасьпелі.

А шчасьліва — вось якраз у тым ліку і таму, што замежныя фірмы, якія прыходзілі ў Беларусь, лічылі нормай зьвяртацца да людзей на беларускай мове, што з кожным днём беларускасьць пашыралася, і зваротнай дарогі, як нам здавалася, ня будзе.

І, канешне, гэта было цікава — новыя кнігі, новыя спэктаклі, новыя выставы.

Але тут я хачу зрабіць адно прызнаньне.

У пачатку 1990-х я не чытаў «Нашу Ніву», не чытаў кнігі аўтараў, якія раней былі забароненыя, і творы, якія выходзілі. І зусім не таму, што «Наша Ніва» была нявартым выданьнем — вельмі вартым. І аўтары, якія падпісвалі мне кнігі, справядліва лічацца клясыкамі беларускай літаратуры.

У той час, здаецца, я не прачытаў ніводнага твора мастацкай літаратуры.

Хоць да гэтага і пасьля — чытаў і чытаю шмат.

Тады я не чытаў нічога іншага, што не было непасрэдна зьвязана з актуальнай палітыкай.

Бо ўсе сілы гэтай палітыцы аддаваў.

Гэта ня значыць, што паміж сэсіямі парлямэнту, пасяджэньнямі апазыцыі, сустрэчамі з выбаршчыкамі і мітынгамі зусім не было вольнага часу — ён быў, канешне. Але я пераключаўся не на літаратуру. Бо чытаньне ці перачытваньне сур’ёзнай мастацкай літаратуры для мяне — гэта таксама праца, якая, даючы асалоду, адначасна забірае ўсяго, нават калі гэта творы, якія я ведаю на памяць.

Калі адзін знаёмы скрывіўся ва ўхмылцы пасьля такога майго прызнаньня, я сказаў, што калі б шмат чытаў — мяне трэба было б судзіць народным трыбуналам і пакараць найвышэйшай мерай. Бо тады б ужо не засталося сілаў на палітыку — на тое, у чым

палягала мая і маіх калегаў па апазыцыі галоўная на той час місія.

А чытаць у 1993 годзе было што.

Часопіс «Спадчына», дзе фармальным рэдактарам быў Іван Чыгрынаў, але рэй вялі Вячаслаў Ракіцкі (пазьней ён заняў пасаду галоўнага рэдактара), Кастусь Тарасаў і Вінцук Вячорка, вяртаў у масавую сьвядомасьць дзясяткі імёнаў, падзеяў і тэкстаў, ключавых для беларускай гісторыі і сьветапогляду, але забароненых цягам дзесяцігодзьдзяў.

У 1993-м на старонках «Спадчыны» зьявіліся публіцыстыка Антона Луцкевіча (у рубрыцы «Вяртаецца да чытача» — зрэшты, амаль усё ў часопісе вярталася да чытача), п’еса «Рагнеда» Пётры Крачэўскага, эпісталярый Сымона Рак-Міхайлоўскага (гэта ў сакавіцкім нумары, да 75-х угодкаў БНР), тэксты Вацлава Ластоўскага, цягам году друкаваліся фрагмэнты кнігі Сагановіча «Невядомая вайна» (1654–1657), Юзафа Вольфа «Князі на абшарах Вялікага Княства Літоўскага ад канца XIV ст.» і Вацлава Пануцэвіча «Кс. Вінцэсь Гадлеўскі», публікаваліся дасьледаваньні Анатоля Грыцкевіча, Валянціна Голубева. Наклад часопіса (дзяржаўнае выданьне!) быў амаль 9 тысяч асобнікаў.

У 1993-м у кніжных вокладках працягвалі выходзіць тэксты, якія ў дзяржаўных выдавецтвах не друкаваліся дзесяцігодзьдзямі. Назаву некалькі.

Першае — зборнік вершаў і артыкулаў Янкі Купалы «Жыве Беларусь», кніга, якую, паводле прадмовы ўкладальніка Вячаслава Рагойшы, «яшчэ гадоў пяць-шэсьць таму выдаць было немагчыма. Дастаткова сказаць, што некаторыя творы, якія друкуюцца тут, нават у энцыкляпэдычным даведніку «Янка Купала» (1986) ня згадваліся зусім».

І другое — надрукаваныя, як і купалаўскі зборнік, у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ўспаміны Ларысы Геніюш «Споведзь», у якіх яна, сярод іншага, прыгадвае драматычныя эпізоды перадачы паўнамоцтваў сьмяротна хворым старшынём Рады БНР Васілём Захаркам у Празе, арышт і перасылку ў СССР, допыт у кабінэце Цанавы з патрабаваньнем аддаць архіў БНР, зьдзекі сьледчых і гады ў ГУЛАГу.

А ў выдавецтве «Ўнівэрсытэцкае» выйшла «Кароткая гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага.

У 1993-м беларусы замежжа вярталіся на Бацькаўшчыну ня толькі ў якасьці дэлегатаў Першага зьезду беларусаў сьвету, але і як аўтары кніг — у выдавецтве «Беларусь» у перакладзе з ангельскай выйшла кніга Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША». «У тэксьце кнігі выкарыстаны правапісны варыянт беларускае мовы, які ўжываецца ў друкаваных выданьнях беларусаў паваеннае хвалі эміграцыі», — патлумачыў перакладчык Сяргей Шупа ўжываньне «тарашкевіцы», і гэта, напэўна, было першае, за дзесяцігодзьдзі, выданьне на «данаркамаўскім» правапісе такім салідным накладам у дзяржаўным беларускім выдавецтве.

У дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшлі 3-ці і 4-ты тамы Збору твораў Васіля Быкава, з «Круглянскім мастом» і «Мёртвым не баліць», быў падрыхтаваны да друку том з быкаўскай публіцыстыкай — у тым ліку прадмовамі да кнігі Аляксандра Лукашука «Зьдзек» і Зянона Пазьняка «Сапраўднае аблічча», да артыкулу Пазьняка і Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці», выступамі на першым і другім зьездах БНФ. Том будзе здадзены ў набор у жніўні 1993-га — ужо



Вечарына памяці Тодара Кляшторнага. Прамаўляе Ніл Гілевіч, за сталом — Аляксандар Лукашук, Анатоль Вярцінскі, Мая Кляшторная.

праз год вышэйназваныя тэксты наўрад ці былі б уключаныя дзяржаўным выдавецтвам. Увогуле, у 1993-м былі здадзеныя ў набор шмат якія надрукаваныя ў наступным, 1994-м годзе, кнігі — аўтары і рэдактары якіх, як гаворыцца, пасьпелі «ўскочыць у апошні вагон».

У выдавецтве «Беларусь» працягвалася сэрыя «Плошча Свабоды» — выйшлі зборнікі публіцыстыкі Ніла Гілевіча і Сяргея Законьнікава, у якіх аўтары востра гаварылі пра лёс нацыі і беларускай мовы.

Канкурэнцыю дзяржаўным складалі прыватныя, незалежныя выдаўцы. Так, у выдавецкім цэнтры «Бацькаўшчына» выйшаў зборнік эсэ Ўладзімера Арлова «Мой радавод да пятага калена», у якім

было зьмешчана цяпер ужо культавае эсэ «Незалежнасьць — гэта…» («… Незалежнасьць — гэта калі ад нараджэньня да скону пачуваесься сваім чалавекам на сваёй зямлі. Я веру, што калі-небудзь так будзе. Бо іначай проста ня варта жыць»). Магчыма, твор, які даў назоў зборніку — «Мой радавод…», сам Арлоў не адносіць да ліку сваіх найлепшых — але гэта адзін з маіх любімых ягоных тэкстаў.

## Космас маладых літаратараў

Цяпер ужо не ўзгадаю, хто з аднакурсьнікаў — ці Сяргей Дубавец, ці Ігар Гермянчук — прывёў мяне на зборку «Майстроўні» ў пачатку 80-х гадоў. Хадзіў я туды два ці тры разы, потым перастаў: нічога цікавага. Сьпяваюць песьні, нейкія фальклёрныя сьвяты ладзяць, ну дык падобнага я наглядзеўся, калі на студэнцкай практыцы ў аддзеле культуры абласной газэты пісаў пра калгасныя клюбы. «Ты, дзядзька, не разумееш, гэта ж — іншае», — запаліў сваю трыццаць пятую за дзень цыгарэту Дубавец, але прымушаць мяне ня стаў.

Пра тое, што гэта сапраўды было нешта зусім іншае і што пасьля сьпеўных вечарынаў невялікая група пасьвечаных стварала — хай пакуль што ў марах — правобраз незалежнай Беларусі, я тады ня ведаў.

«Майстроўня», хоць узьнікла яна самастойна і незалежна, працягвала незалежніцкую традыцыю суполкі «На паддашку» Яўгена Куліка і Зянона Пазьняка, а потым перадала эстафэту моладзевым ты культурніцкім суполкам — «Тутэйшым», «Талацэ». «Узгор'ю», «Паходні» — і такім чынам гэтая эстафэта ідэі беларускай незалежнасьці дайшла да

ўтварэньня Беларускага Народнага Фронту і была пераможна рэалізаваная 25 жніўня 1991 году.

Гэта сапраўды была перамога, і шмат каму здавалася, што канчатковая. У тым сэнсе, што пры ўсіх складанасьцях з дэмакратыяй, з эканамічнымі рэформамі, рэформы і дэмакратыя будуць прабіваць сабе дарогу, а незалежнасьць — тым больш незваротная.

Думаў так і я. Гісторыю нельга павярнуць назад — гэта была папулярная фраза ў той час. І многія з творчых людзей сышлі з палітыкі, пакінуўшы яе тым, хто згодны быў ёй займацца. Сярод іх быў і Сяргей Дубавец, які вярнуўся ў літаратуру і аднавіў у Вільні выхад «Нашай Нівы».

Маладое пакаленьне літаратараў — тыя, хто ўваходзіў у «Тутэйшыя», ці нават яшчэ ў «Майстроўню» — перайшло ад грамадзкай дзейнасьці да «чыстай літаратуры», і ў гэтым сэнсе прыкладам ці нават своеасаблівым маніфэстам можа быць інтэрвію таго самага Сяргея Дубаўца, зь якога прыведу такі фрагмэнт:

«Літаратура адначасова была палітыкай; палітыка вельмі часта пераходзіла ў літаратуру. І тое, і другое было неакрэсьлена. Але цяпер, калі беларуская дзяржаўная палітыка набывае акрэсьленасьць і самастойнасьць, і нацыянальная мара такім чынам ператвараецца ў рэальнасьць — а тое для мары пэўная «сьмерць» — для беларушчыны ёсьць выйсьце ў Космас, на касмапалітычны ўзровень. Беларушчына — стартавая пляцоўка, зь якой мы выходзім у сьвет творчасьці. У ёй мы набываем сьветапогляд, набываем галоўнае дзеля творчасьці — мову, каторая ёсьць мысьленьне, і з

тым выходзім у Космас, дзе наша мара і мае быць» («Літаратура і мастацтва», 5 лістапада 1993).

Пазьней Сяргей Дубавец адчуе, што зарана было разьвітвацца з палітыкай, напіша не адзін дзясятак тэкстаў з самых актуальных, злабадзённых нагодаў, але тады, у 1993-м, сапраўды здавалася, што лёс мары вырашаецца недзе ў Космасе, а не ў Авальнай залі і не плошчах ды выбарчых участках, што літаратарам ужо ня трэба займацца палітыкай і, як бы там ні было, а нацыянальная ідэя будзе толькі замацоўвацца — як і сама Незалежнасьць.

Беларуская літаратура сапраўды выходзіла ў Космас — але і сусьветная літаратура рабілася здабыткам чытача. І калі Ўладзімер Арлоў у інтэрвію таму самаму «ЛіМу» цытаваў згадку пра Менск у рамане Генры Мілера «Тропік Рака», дык мусіў нагадваць, што ў СССР раман быў забаронены. У пачатку 90-х творы сусьветных клясыкаў загучалі па-беларуску.

У Менску ладзілі выставы мастакі суполкі «Пагоня» з творамі Генадзя Драздова, Яўгена Куліка, Міколы Купавы, Аляксея Марачкіна, Віктара Маркаўца, Сержука Цімохава, Льва Талбузіна, Яўгена Шатохіна. У Магілёве ўпершыню прайшоў міжнародны фэстываль духоўнай музыкі «Магутны Божа».

## Захоўваючы традыцыі нацыянальнай згоды

Асаблівасьць нацыянальнага Адраджэньня пачатку 1990-х у тым, што яно адбывалася пры ўважлівым стаўленьні да правоў нацыянальных меншасьцяў, з павагай да іх часам няпростай і трагічнай гісторыі.

Перада мной — зварот групы дэпутатаў Вярхоўнага Савету «Захавайма добрыя традыцыі».

«Нядаўна невядомымі асобамі быў учынены акт вандалізму на яўрэйскіх могілках у Барысаве, — нагадвалі аўтары звароту. — Раней падобныя выпадкі, на жаль, мелі месца ў Ельску, Рэчыцы, Воршы, Бабруйску. Нічога, апроч абурэньня, усё гэта ня можа выклікаць у нас, народных дэпутатаў Беларусі — людзей, якім добра вядомыя палітычныя і маральна-псыхалягічныя наступствы такіх падзей.

Наша родная зямля — Рэспубліка Беларусь — традыцыйна была добрай Бацькаўшчынай ня толькі для беларусаў, але і для прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, якія зьвязалі зь ёй свой лёс. Беларусы ў сваёй агромністай большасьці заўсёды вызначаліся талерантнасьцю і гасьціннасьцю ў дачыненьні да рускіх, палякаў, яўрэяў, літоўцаў, татар… У цяжкія гады фашысцкай акупацыі нашыя дзяды і бацькі ня раз ратавалі яўрэйскіх жанчын і дзяцей ад немінучай пагібелі.

Дарагія суродзічы! Давайце зробім усё, каб захаваць добрыя традыцыі нацыянальнай згоды ў нашым агульным доме — Беларусі. Не дамо невукам і авантурыстам разьдзьмуць у нас полымя канфліктаў!»

Гэты зварот падпісалі народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь Лявон Баршчэўскі (ён і быў аўтарам тэксту), Пётра Садоўскі, Алег Трусаў, Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк, Яўген Глушкевіч і Віктар Радамысьльскі (гераманах Віталій).

З нацыянальным адраджэньнем было зьвязанае і адраджэньне ў Беларусі ўніяцкай царквы. У 1993 годзе ўжо працаваў Закон аб свабодзе веравызнаньняў, да стварэньня якога аўтар гэтых радкоў меў



ЗАХАВАЙМА ДОБРЫЯ ТРАДЫЦЫІ!

Нядаўна невядомымі асобамі быў здзейснены акт вандалізму на яўрэйскіх могілках у Барысаве. Раней падобныя выпадкі, на жаль, мелі месца ў Ельску, Рэчыцы, Оршы, Бабруйску. Нічога, апроч абурэння, усё гэта не можа выклікаць у нас, народных дэпутатаў Беларусі -- людзей, якім добра вядомыя магчымыя палітычныя і маральна-псіхалагічныя наступствы такіх падзей.

Наша родная зямля -- Рэспубліка Беларусь -- традыцыйна была добрай Бацькаўшчынай не толькі для беларусаў, але і для прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, якія звязалі з ёй свой лёс. Беларусы ў сваёй агромністай большасці заўсёды вызначаліся талерантнасцю і гасціннасцю ў дачыненні да рускіх, палякаў, яўрэяў, літоўцаў, татар... У цяжкія гады фашысцкай акупацыі нашыя дзяды і бацькі не раз ратавалі яўрэйскіх жанчын і дзяцей ад немінучай пагібелі.

Дарагія суродзічы! Давайце зробім усё, каб захаваць добрыя традыцыі нацыянальнай згоды ў нашым агульным доме -- Беларусі. Не дамо невукам і авантурыстам раздзьмуць у нас полымя канфліктаў!

Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь:

Л. Баршчэўскі (174-я),
П. Садоўскі, 46
А. Трусаў 33
С. Навумчык 118
З. Пазьняк 9-я
Е. Глушкевіч №168
[illegible] №158

Заява дэпутатаў пасьля вандалізму на яўрэйскіх могілках.

непасрэднае дачыненьне, уніяцкая царква атрымала магчымасьць засноўваць свае парафіі. Гісторык Сяргей Абламейка прыгадвае, што ў той год ён падрыхтаваў не адзін статут для рэгістрацыі такіх парафіяў.

Вялікі артыкул віцебскага краязнаўцы Міхася Паўлава «Пакутніцкі крыж айца Ясафата», прысьвечаны лёсу Ясафата Кунцэвіча, быў надрукаваны ў «ЛіМе» — аўтар пісаў, што «даўно пара асэнсаваць Унію з іншых (не прарасейскіх — С. Н.) пазыцый, убачыць, што дала яна справе незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага, суседам і гістарычным супернікам якога была Масковія, што набірала моц і была гатовая «бараніць» інтарэсы праваслаўя ў Беларусі (і Ўкраіне) нават цаною зьнішчэньня беларускай дзяржаўнасьці і беларускага народа» («Літаратура і мастацтва», 10 верасьня 1993).

Неўзабаве ў Беларусі зьявяцца дзясяткі ўніяцкіх парафіяў — але на момант, калі я пішу гэтыя радкі, уніяцкая царква як адзіная агульнанацыянальная рэлігійная арганізацыя застаецца незарэгістраванай. Ёй ня вернуты ніводзін храм і ніводзін новы храм пабудаваць не дазволена, і вернікі моляцца ў розных прыстасаваных памяшканьнях.

## Заслугі энтузыястаў і аматараў

Калі аналізуеш здабыткі 1993-га на ніве нацыянальнага Адраджэньня, прыходзіш да высновы, што яны — хутчэй не заслуга дзяржаўнага апарату (як мусіла б быць), а вынік высілкаў нацыянальнай інтэлігенцыі.

Пацьверджаньнем гэтага зьяўляецца статыстычны аналіз дынамікі пэрыядычных выданьняў,

праведзены ў лябараторыі этнічнай геаграфіі Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту і апублікаваны ў кастрычніку 1993-га: «Калі ў 1990 г. колькасьць беларускамоўных газэт перавышала колькасьць расейскамоўных (132 і 88), дык ужо ў 1992 г. дынаміка зьмяняецца на карысьць расейскамоўнай пэрыёдыкі (163 газэты на расейскай мове і 157 газэт на беларускай). Падобнае назіраецца і ў адносінах часопісаў. Калі ў 1990 г. выходзіла 22 часопісы на беларускай мове і 16 на расейскай, дык у 1992 г. расейскамоўных часопісаў ужо выходзіць 50, а беларускамоўных усяго толькі 30».

«Беларуская дзяржава па-ранейшаму, на жаль, не зацікаўленая ні ў чым беларускім, — адкамэнтаваў гэтыя лічбы тыднёвік «Літаратура і мастацтва» (29 кастрычніка 1993). — Нават абвяшчэньне незалежнасьці мала што зьмяніла ў стаўленьні дзяржаўных інстытутаў да мовы, культуры, традыцый карэннай нацыянальнасьці… Па ўсім відно: а) што энтузіязм і аматарства вычарпалі свае магчымасьці ў справе нацыянальнага адраджэньня; б) што бяз новых выбараў і новай улады нам не абысьціся».

Выбары — прэзыдэнцкія — адбудуцца ў наступным годзе, але «новая» ўлада перакрэсьліць шмат што са зробленага «энтузіястамі і аматарамі».

***Сяргей Навумчык*** *(Віцебская-Чыгуначная выбарчая акруга № 181). Рады праінфармаваць вас, спадары дэпутаты, што ўчора створана Беларуская асацыяцыя свабодных сродкаў масавай інфармацыі. У звароце да грамадзян і сродкаў масавай інфармацыі адзначаецца, што рэанімаваныя бальшавіцкія сілы пачалі наступ на сродкі масавай інфармацыі дый на многіх журналістаў. Менавіта таму паслухмяная ўладнаму чыноўніцтву фэміда цкуе Аляксандра Старыкевіча, уласнага карэспандэнта маскоўскай газэты «Камерсант дэйлі» і супрацоўніка газэты «Свабода». Менавіта таму былі адхілены ад кіраўніцтва і працы ў вядомай тэлеперадачы НіКА, а потым выкінуты за парог Белтэлерадыёкампаніі журналісткі Марына Бабкіна і Святлана Іванова. Менавіта таму адбываецца службовае цкаваньне таленавітага калектыву радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная»... Менавіта таму ўцягнуты вярхушкай лагойскай раённай улады ў судовую цяганіну палітычны аглядальнік «Народнай газэты» Сяргей Плыткевіч. Менавіта таму за апошнія два гады «скарачаецца па штату» служба фотакарэспандэнтаў агенцтва Белінфарм, дзе зь пятнаццаці творчых супрацоўнікаў засталося шэсьць. Распачынаецца суд над вядомай пісьменьніцай, публіцысткай Святланай Алексіевіч. Яна сказала праўду пра брудную вайну ў Аўганістане. Выжываецца зь Беларусі ўласны карэспандэнт расейскай інфармацыйнай тэлеперадачы «Вести» Леанід Сьвірыдаў. Сьпіс можна доўжыць.*

*Выступ у «Розным»*

## СМІ АГІТУЮЦЬ СУПРАЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

«З аглядам рэспубліканскіх і цэнтральных газэт вас пазнаёмілі...» — такую фразу ў 1993 годзе па агульнабеларускім нацыянальным радыё слухачы чулі ледзь не штодня.

На трэцім годзе незалежнасьці для дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі «цэнтрам» усё яшчэ заставалася Масква, а сама незалежнасьць была часовым кур'ёзам.

Іншую пазыцыю займаў незалежны друк. У Менску выдавалася «Свабода» — газэта, дзе галоўным рэдактарам быў Ігар Гермянчук, раскуплялася ў шапіках імгненна. У Горадні выходзіла «Пагоня» пад рэдакцыяй Сяргея Астраўцова, у Віцебску Барыс Хамайда рэдагаваў газэту «Выбар». Пад кіраўніцтвам Алеся Ліпая разгарнулася першае ў Беларусі прыватнае інфармацыйнае агенцтва «БелаПАН».

У пачатку студзеня 1993 году ў «Народнай газэце» я апублікаваў артыкул «У чыіх руках цэнзарская дубінка?», дзе, патрабуючы гарантаванага доступу для Народнага Фронту і дэмакратычных партый да дзяржаўных СМІ, пісаў: «Зрэшты, ёсьць у нас партыя, якая бесьперашкодна і ў любым памеры выкарыстоўвае аплачаны падаткаплатнікамі этэр. Гэта — партыя ўлады, партыя пракамуністычнай намэнклятуры, якая, зрабіўшы ведамасную ракіроўку, не зьбіраецца рызыкаваць сваёй кіруючай роляй» («Народная газэта», 5 студзеня 1993).

За увесь год сытуацыя не зьмянілася ў лепшы бок, наадварот, мне як каардынатару парлямэнцкай апазыцыі, адказнаму ў тым ліку і за сувязь з

прэсай, зрабілася куды цяжэй дамагацца тэлеэтэру для дэпутатаў апазыцыі, хоць права доступу да СМІ нам было гарантавана законам. Калі не памыляюся, у 1993 годзе нам удалося атрымаць жывы этэр у студыі нацыянальнага тэлебачаньня толькі адзін раз.

Але самая вялікая праблема была не ў манапалізацыі той самай «кіруючай намэнклятурнай партыяй» дзяржаўных СМІ. Праблема і нават небясьпека палягала ў тым, што па тэлебачаньні і радыё, у газэтах са шматтысячным накладам рэгулярна і пасьлядоўна вялася антыдзяржаўная, антынезалежніцкая прапаганда.

Тут я кажу не пра крытычныя ацэнкі стратэгіі ці тактыкі Беларускага Народнага Фронту, якія (хоць і рэдка) можна было прачытаць у выданьнях, якія стаялі на пазыцыях нацыянальнага адраджэньня.

З маім сябрам, аглядальнікам «Звязды» Валянцінам Жданко мы часта спрачаліся пра некаторыя аспэкты дзейнасьці БНФ (зрэшты, з часам у нейкіх ягоных словах я ўбачыў ісьціну — як і ён у некаторых маіх), але ў мяне ніколі не было сумненьня ў тым, што Валянцін за незалежнасьць Беларусі, за беларускую мову.

«Звязда», хоць і лічылася газэтай Вярхоўнага Савету, вельмі рэдка друкавала заявы апазыцыі («Народная газэта» рабіла гэта часьцей), але я ніколі не чытаў на яе старонках ніводнага абразьлівага слова супраць дзяржаўных сымбаляў, беларускай мовы, ніводнага слова сумневу ў мэтазгоднасьці незалежнай беларускай дзяржавы (за выключэньнем хіба што нейкіх лістоў чытачоў, якім тут жа ў нумары давалася правільная ацэнка).

Іншай была «Советская Белоруссия» — гэтае выданьне Савету міністраў з паўмільённым накла-

дам зрабілася рупарам антыбеларускіх, антынезалежніцкіх сілаў.

«З прыходам Ігара Асінскага “СБ” больш-менш вызначылася, — прыгадвае тагачасная супрацоўніца «Советской Белоруссии» Людміла Масьлюкова. — Добра, сувэрэнітэт — але без душка нацыяналізму. Расея нам бліжэй, чым Захад» (Натальля Кулінка, Натальля Фядотава. «Время несбывшихся надежд», Вільня, Логвінаў, 2014, с. 134). Адчуваецца, што слова «добра» ў дачыненьні да сувэрэнітэту ўжытае ў значэньні «нічога ня зробіш». Калі не лічыць фармальных заяваў ураду, дзе ўжывалася слова «сувэрэнітэт» — ніякім чынам газэта незалежнасьць Беларусі не падтрымлівала. А пад «нацыяналізмам» разумеўся Беларускі Народны Фронт.

І ўсё ж цэнтральныя дзяржаўныя газэты («Советская Белоруссия», «Рэспубліка») хоць і падтрымлівалі курс Кебіча на інтэграцыю з Расеяй, крытыкавалі з нумара ў нумар Апазыцыю БНФ, друкавалі артыкулы за наданьне расейскай мове статусу дзяржаўнай нароўні зь беларускай — але пры гэтым захоўвалі пэўныя нормы (выключэньнем могуць быць хіба што публікацыі самой Масьлюковай, якая ў сваіх выразах у бок БНФ апускалася ледзь не да вулічнай лаянкі).

А вось рэгіянальная дзяржаўная прэса ў выразах ня стрымлівалася.

Важны момант: сумарны наклад абласных і раённых газэт шматкроць перавышаў наклад той самай «СБ» — людзі звыкла падпісваліся і куплялі мясцовыя выданьні, хоць бы дзеля абвестак.

І ад нашых аднадумцаў-фронтаўцаў з розных рэгіёнаў Беларусі мы ведалі, што, за вельмі рэдкім

выключэньнем, настрой мясцовых газэтаў быў прарасейскі і антыдэмакратычны.

## «Я ел шашлык в Тбилиси, пил вино в Кишинёве, ловил крабов на Дальнем Востоке. Кто я теперь?»

Прыкладам сьвядомай антынезалежніцкай пазыцыі была газэта «Віцьбічы» — орган Віцебскага гарадзкога савету.

Газэта ў 1992–93 гадах выдавалася накладам больш як 66 тысяч асобнікаў — значыць, у 300-тысячным горадзе яна трапляла ў кожную другую сям'ю. Я сабраў толькі некаторыя найбольш паказальныя цытаты і падаю іх на мове арыгіналу, каб у чытача склалася максымальна поўнае ўражаньне ад нюансаў падачы матэрыялаў.

Вось дарэчы: ні ў водным нумары «Витьбичей» я не знайшоў нейкіх наўпроставых заклікаў да ліквідацыі Беларусі як сувэрэннай дзяржавы — што магло б успрымацца пракуратурай як антыканстытуцыйны, антызаконны акт (хоць падобныя заклікі ў іншых выданьнях ніякіх прававых наступстваў для іх аўтараў і рэдактараў ня мелі; пракуратура глядзела на такое скрозь пальцы). Але, як вядома, прапаганда «ў лоб» мае значна меншы эфэкт, чым прапаганда тонкая і прыхаваная...

Ці ня ў кожным нумары газэты чытачу навязвалася думка, што незалежнасьць і дэмакратыя — гэта вельмі кепска.

«В результате развала единого народно-хозяйственного комплекса страны резко обострилась экономическая ситуация в Республике Беларусь… Мы, народные депутаты Витебской области всех

уровней, поддерживаем предложения правительства, …и требуем тесного экономического союза с Россией и Казахстаном на основе единой рублёвой зоны и коллективной безопасности» (3 красавіка 1993).

Пытаньні журналіста В. Касьцюкевіча да сакратара Менскага абкаму УКПБ (Усесаюзнай камуністычнай партыі бальшавікоў), загаловак — «Делу Ленина-Сталина верны!»: «Коль речь зашла о диктатуре, то что вы можете сказать о БНФ?», «А как вы относитесь к суверенной и независимой Беларуси?», «По вашему мнению, как долго ещё продлится эта разруха?» (10 красавіка 1993).

«Скажем решительное “да” возрождению СССР и своё решительное “нет” новым буржуазным конституциям» (15 красавіка 1993).

Пра крадзеж каляровых мэталаў: «Раздумья о моральном облике некоторых двуногих в эпоху демократических преобразований» (17 красавіка 1993).

«Сталин был великим человеком необычайной энергии и исключительной силы воли» (Черчилль), … хотя, видимо, могло быть и некоторое количество безвинных… Никто другой, как главный коммунист страны, начал развал державы. На следующем этапе три коммуниста с многодесятилетним стажем в Беловежской пуще завершили уничтожение древнего государства. А несколько десятков тысяч (так у тэксьце — С. Н.) коммунистов из Верховных Советов России, Беларуси и Украины утвердили это уничтожение» (гэты артыкул Л. Бользіна надрукаваны на дзьвюх палосах газэты).

А вось рэпартаж з футбольнага матчу. Футбол у Віцебску любяць, прачытае публікацыю шмат,

і таму — «Вожделенное “окно в Европу”, о котором трубили вовсю меньшевики, большевики и хлопцы ограниченного по количеству и качеству контингента БНФ, набирающие и постигающие азы служения народу по немецким букварям…» (20 красавіка 1993).

А вось фрагмэнты артыкулу Сяргея Голубева:

«Если бы несколько лет назад кто-нибудь стал всерьёз уверять, что весной 1993 года в стране будет происходить то, что сегодня действительно происходит (и страна будет вроде бы отменена), то такого прорицателя несомненно ждал бы сумасшедший дом... Совсем скоро должны будем мы овладеть родным языком, отправив “оккупационный” — русский — на свалку истории. Ещё раньше собираются научить наконец-то наших детей разговаривать на родном языке, развернув “адраджэнне” по всему фронту»…

Зьвяртае ўвагу гэтае «страна вроде бы отменена» — значыць, былі спадзяваньні на рэстаўрацыю СССР.

Пра беларускую мову:

«Мертворождённая химера практически испарилась, лишившись поддержки государственного аппарата принуждения» (гэта пра згортваньне беларусізацыі ў 1930-х). «Но изоляция наиболее оголтелых проводников белорусизации не означала полную отмену последней, и вплоть до своего бесславного конца партаппарат затрачивал громадные средства на издание не читаемой народом белорусскоязычной литературы, заставляя изучать белорусский язык в вузах, издавая на нём газеты».

А гэта — пра незалежнасьць:




Плякат на мітынгу БНФ.

«С получением (из рук так нелюбимой ими сегодня Москвы) независимости открылись радужные перспективы — как же, одних послов уважающей себя державе потребуется не меньше сотни, и оклады министрам не надо в Москве утверждать (как тут не укреплять драгоценную независимость, не заняться возрождением белорусской культуры, не выучить белорусский язык!.. Не глядя вверх (гэта значыць, на Маскву — С. Н.), нетрудно считать себя самым высоким. Всё дело в точке отсчёта. Как говорится, среди слепых и кривой король. Воистину, пигмеи вырастают, разрушая. Вот почему сегодня белорусскоязычная интеллигенция видит врага в каждом, кто отстаивает всего лишь своё право говорить на русском языке. Вот какова подоплёка т. н. возрождения белорусской культуры…».

Такім чынам, тыя, хто за адраджэньне нацыянальнай культуры — «слепые», «кривые», «пигмеи».

«Ответьте, почему вы с порога отметаете робкие предложения о придании русскому языку, языку, на котором говорит абсолютное большинство народа, статуса государственного наравне с белорусским! Чем вызвано агрессивное навязывание милого вашему сердцу Гаруна вместо Есенина или кого-то там ещё вместо Толстого?.. Порадуйте нас своими творениями, новыми или созданными давно… Где белорусскоязычный Распутин? Где ваши белорусскоязычные Шукшин, Бондарчук?.. Конечно, в компании с Нилом Гилевичем многие из вас могут претендовать на вакансию живого классика. Безусловно, непревзойдённым в мировой истории останется ваше крупнейшее творческое достижение — перевод мультфильмов на белорусский язык, предельно красноречивый показатель вашего нравственного интеллектуального уровня и творческого потенциала...»

Сапраўды, у 1992-93 гадах па тэлебачаньні некаторыя мультфільмы ішлі ў перакладзе на беларускую мову — з гледзішча праціўнікаў Адраджэньня, беларусы і на гэта ня мелі права.

«“Адраджэнцы” сегодня правят бал на белорусской земле. Но добро и истина не на их стороне... И народ, конечно, разберётся, где его правда», — выказваў спадзяваньне Сяргей Голубеў у нумары за 4 траўня 1993-га. Тады ён быў выкладчыкам тагачаснага пэдінстытуту, цяпер — прафэсар Віцебскага пэдунівэрсытэту (значыць, магчымасьці несьці сваё разуменьне ў студэнцкія масы будучых пэдагогаў павялічыліся).

«“Считаете ли вы необходимым предоставление русскому языку в Республике Беларусь статуса государственного наравне с белорусским?” Анкету с таким вопросом распространила на последней сессии горсовета среди народных избранников группа депутатов. Из 83 розданных листков вернулось 73. “Нет” двуязычию сказали 7 депутатов, 2 дали нестандартный ответ, 1 — не ответил. Таким образом, 86,3 % опрошенных не хотели бы изменять русскому языку, на котором, кстати, целиком шла упомянутая сессия».

Заўважым — на чацьвёртым годзе дзеяньня Закону аб мовах сэсія ішла не на дзяржаўнай мове.

Але ня гэта хвалявала аўтара публікацыі.

«В своей приверженности русскому языку депутаты не оригинальны. По данным опросов населения республики, проведённых независимо тремя группами социологов из Белгосуниверситета и АН Беларуси в 1989–1992 годах, иметь два государственных языка хотели бы от 70,4 до 73,3 % опрошенных. Думают на белорусском от 2,3 до 7 % населения, на двух языках — от 30,7 до 31,5 %, на русском — от 56,3 до 30,7 %. Как подчёркивает «Советская Белоруссия», опубликовавшая в № 58 эти сведения, воля народа должна быть основой власти правительства. Если оно, конечно, хочет, чтобы его поддерживали массы. И тем, кто ратует за полное и безоговорочное “беларускамоўе”, следовало бы сначала с помощью референдума выявить свою позицию» (8 траўня 1993).

«А надо ли бояться слова “империя”?» — загаловак артыкулу А. Мішурнага, зь якога працытую толькі адну фразу: «Нет ни одного народа, который

в Российской империи подвергался бы геноциду» (11 траўня 1993).

«Будь готов спасать Россию» — загаловак яшчэ адной публікацыі, у якой апэратыўна інфармавалася, што «на днях вышел четвёртый номер газеты витебских славянофилов “Русь Белая”, который открывается воззванием части наиболее радикально настроенных граждан Беларуси о привлечении к уголовной ответственности сп. Шушкевича С. С. за развал Союза» (15 траўня 1993).

«Переход на белорусский язык создаст немалые экономические трудности» (25 траўня 1993).

«Сожаление о том, что празднование 49-й годовщины освобождения Витебска от немецко-фашистских захватчиков проходит на на том фоне, о котором мечтали освободители, выразил председатель городского Совета В. Неушев на торжественном заседании, что состоялось в пятницу в драмтеатре... Главное — потеряно единство народов, разделённых границами и рвущимися к власти политиками» (29 чэрвеня 1993).

«Тихие радости “змагароў” за “незалежны кавалак кілбасы”» — назоў рэплікі пра адзначэньне віцебскімі патрыётамі перамогі ў бітве пад Воршай: «Вечером, 8 сентября, на площади Свободы собралась горстка “нашчадкаў”, числом не превосходящая семью пингвинов на арктической льдине. Тусовка была неплохо срежиссирована. Каждый держался за древко. Флага. Как и положено члену — держался крепко… Вроде, запрещена была сия сходка. Какой-никакой властью. Посему стражи порядка могли бы препроводить “змагароў” да “нашчадкаў” в нужное место. Можно было бы хоть в




Карыкатура ў газэце «Віцьбічы» супраць сьвяткаваньня гадавіны бітвы пад Воршай.

тот лесок, под той же Оршей… Как в XVI веке...» (11 кастрычніка 1993).

«Всё, что сегодня происходит в Беларуси — это финал политиканов, разваливших Союз», — кажа Вячаслаў Афанасьеў, дэпутат гарсавету (16 верасьня 1993).

Гэта той самы Афанасьеў, які ў канцы 1991 году ў тых самых «Витьбичах» пісаў: «Я ел шашлык в Тбилиси, пил вино в Кишинёве, ловил крабов на Дальнем Востоке. Кто я теперь? Гражданин какой державы? Да Бог со мной. А за что проливал кровь в Армении полковник Забабурин, который с генеральской должности командира десантно-штурмовой бригады после ранения был переведён на должность витебского облвоенкома?.. А упразд-

нение и развал органов КГБ?.. Сегодня у меня одна надежда — на армию» (14 сьнежня 1991).

Але тое было ў першыя месяцы незалежнасьці, калі газэта друкавала падборку чытацкіх лістоў пад загалоўкам «Нас предали» — «… вместо праздника Великого Октября народу подарили праздник Рождества» (17 студзеня 1992), пужала, што «если армия разбежится по своим национальным квартирам, то через три месяца нас ждёт гражданская война» (31 студзеня 1992), зьдзіўлялася — «вы ратуете за национальную культуру, но ведь это же, извините, нелепость» (21 лютага 1992).

Але і праз два гады існаваньня незалежнай Беларусі газэта не зьмірылася з гэтай незалежнасьцю.

«Два года так называемого «независимого» существования бывших братских республик друг без друга хорошо показали, к чему мы движемся» (9 кастрычніка 1993).

«Группа депутатов приехала в Москву и поставила вопрос перед российскими парламентариями ребром: нужна ли Беларусь России или нас преднамеренно выталкивают, по словам Лукашенко, “ногой в мягкое место”. Хоть и грубо, но точно» (А. Мішурны, сустаршыня Славянскага Сабору «Белая Русь», 16 верасьня 1993).

«В Могилёве сессия уже приняла решение обратиться к другим облсоветам с предложением о вступлении в РФ на конфедеративной основе: реформы в России хоть и медленно, но идут. У нас же одни разговоры» (3 жніўня 1993).

С. Гаварушкін, старшыня віцебскай асацыяцыі «аўганцаў»: «Мы серьёзно озабочены тем, что наши народы и государства всё больше отдаляются друг

от друга. Мы вместе прошли Афганистан и хотим дальше жить вместе» (9 кастрычніка 1993).

У чэрвені ўзьніклі складанасьці з пастаўкай з камбінату ў расейскай Кандапозе газэтнай паперы, «Витьбичи» выйшлі на паперы няякаснай — і ў нумары адразу прапанавана тлумачэньне:

«Люди, которые кричат о суверенитете, видимо, никогда не работали на производстве... Теперь, получая свежий номер газеты на бумаге, будто взятой из подшивок за двадцатые или военные годы, вы можете трижды в неделю своими глазами видеть, какого цвета на самом деле наш суверенитет… Но переводить на неё справедливее было бы сначала те издания, которые так ратуют за суверенитет». Артыкул надрукаваны 17 чэрвеня 1993 году і падпісаны супрацоўнікам газэты А. Тулбусавым, тагачасным дэпутатам савету Чыгуначнага раёну Віцебску.

Празь некалькі нумароў газэта зноў друкавалася на звычайнай паперы, але працягвала тройчы на тыдзень накладам 66 тысяч асобнікаў публікаваць матэрыялы, напоўненыя нянавісьцю да незалежнасьці Беларусі, зьдзекам зь беларускай мовы, ня кажучы ўжо пра абразы на адрас актывістаў БНФ ды іншых дэмакратычных арганізацый.

Дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што некалькі разоў былі зьмешчаныя інтэрвію ці артыкулы прыхільнікаў беларушчыны (пераважна дэпутатаў), але яны патаналі ў беларусафобскіх матэрыялах.

Прыходзячы ў кожную другую віцебскую сям’ю, газэта фармавала ў вялікай часткі віцяблянаў меркаваньне, што незалежная Беларусь — гэта дрэнна, што распад СССР — злачынства, што менавіта

дэмакраты і дэмакратыя вінаватыя ў эканамічных цяжкасьцях (хоць дэмакраты не былі ва ўладзе, а дэмакратыя толькі прабівала сабе дарогу).

Пазьней рэдактар «Витьбичей» Ніна Тулінава атрымае званьне ганаровага грамадзяніна Віцебску.

## «Мы — за прыярытэтнае разьвіцьцё цалкам беларускамоўных СМІ»

Але віцебская газэта была не адзіным у Беларусі выданьнем, якое ставіла пад сумнеў існаваньне Беларусі як самастойнай дзяржавы.

«Не згушчу фарбаў, калі скажу, што зробленае і тое, што робіцца шматлікім калектывам сродкаў масавай інфармацыі па нацыянальна-культурным Адраджэньні, вельмі далёка не адэкватна таму, чаго ўдалося некалі дасягнуць гэтай катэгорыі творчай інтэлігенцыі па дэфармацыі нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў, — тактоўна заўважаў доктар гістарычных навук Леанід Лыч. — У мінулым прэсай, радыё і тэлебачаньнем быў узяты такі імклівы разьбег па пачварнай інтэрнацыяналізацыі нашага духоўнага жыцьця, што ён па інэрцыі яшчэ і сёньня робіць страшэнныя разбуральныя абароты, бязьлітасна падбіраючы пад сябе кволыя парасткі беларушчыны. Хто мог падумаць, што з ажыўленьнем нашага нацыянальнага руху, дасягненьнем Беларусьсю юрыдычнай дзяржаўнай незалежнасьці, такую бліскучую перамогу на яе тэрыторыі атрымае рускамоўны пэрыядычны друк? Такое мо ня сьнілася нават асобам зь яскрава акрэсьленымі імпэрскімі замашкамі» («Літаратура і мастацтва», 7 траўня 1993).

Адметнасьць была ня толькі ў тым, што расейскамоўны друк атрымаў перамогу ў накладах і колькасьці выданьняў (прапорцыя беларускамоўных і расейскамоўных газэт на канец 1992 году склалася як 157 да 163). Новаўтвораная расейскамоўныя прэса, у асноўнай масе, насьцярожана альбо нават варожа ставілася да нацыянальнага Адраджэньня.

Вось цытата з артыкулу кнігавыдаўца Аляксандра Патупы з заснаванай ім газэты «Фемида», якая паказвае стаўленьне да беларускай незалежнасьці: «Национал-патриоты попались на удочку знаменитого ленинского тезиса о “самоопределении вплоть до отделения”, и втащили 10-миллионный народ в страшный эксперимент… Думаю, что Беларуси и России следует срочно (в августе) приступить к комплексным переговорам о воссоздании единой системы — во имя совместного выживания. Причём подчеркну: для распадающейся России это не менее важно» («Фемида», №32, жнівень 1993).

Сытуацыя ў СМІ прымусіла нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, выступіць з адмысловай палітычнай заявай, якую давялося пісаць мне. Мы разумелі, што нейкага адміністрацыйнага ціску быць не павінна, што найлепшай гарантыяй свабоды слова можа быць толькі адпаведны закон і фінансавая незалежнасьць прэсы, але адначасна і прапаноўвалі пэўныя кадравыя рашэньні.

Заява, прысьвечаная сытуацыі ў СМІ, была зьмешчаная ў «Народнай газэце» 2 верасьня 1993 году.

Мы адзначалі, што «тэлебачаньне і радыё, Белінфарм, значная частка пэрыядычных выданьняў апынуліся ў фінансавай залежнасьці ад Савету міністраў і ня могуць супрацьстаяць ідэалягічнай цэнзуры, аб’ектыўна адлюстроўваць дзеяньні

ўраду. Манапалізацыя шэрагу газэт і часопісаў, падпарадкаваньне выдавецтва «Беларускі Дом друку» Гаспадарчаму ўпраўленьню Савету міністраў, звальненьні і цкаваньне прагрэсіўных журналістаў, спыненьне вяшчаньня незалежных тэлекампаній, адмова ў прадстаўленьні дэпутацкай Апазыцыі законнага права на этэрны час — гэтыя і многія іншыя прыклады характарызуюць інфармацыйную палітыку ўраду як супярэчную прынцыпам свабоды слова».

У заяве была зьвернутая ўвага на стварэньне ў апараце Савету міністраў структураў, якія былі непадкантрольныя Вярхоўнаму Савету і «узялі на сабе функцыі колішніх ідэалягічных аддзелаў ЦК камуністаў з уласьцівымі ім мэтадамі адміністрацыйнага ціску на рэдактараў і творчыя калектывы» — упраўленьня інфармацыі на чале з Васілём Драгаўцом і аддзелу друку, радыё і тэлебачаньня на чале зь Сяргеем Паваляевым (розьніцу ў функцыях наўрад ці здолелі б растлумачыць самі Драгавец і Паваляеў, агульным быў ідэалягічны ціск на прэсу).

Нагадваючы, што «Канцэпцыя інфармацыйнай палітыкі, распрацаваная Апазыцыяй БНФ, прадугледжвае найперш прыняцьце такога закону аб свабодзе слова, які б забясьпечваў журналістам і грамадзянам бесьперашкодны доступ да інфармацыі і поўную магчымасьць выказваньня перакананьняў», мы пералічылі некаторыя неабходныя крокі — рашэньне Вярхоўнага Савету пра дэманапалізацыю СМІ, прычым «тым газэтам і часопісам, якія сёньня фінансуюцца Саветам міністраў (а фактычна — падаткаплатнікамі), гарантавалася б як мінімум на год пэўнае забесьпячэньне зь бюджэту




Гэты здымак наведаньня Курапатаў прэзыдэнтам Польшчы Лехам Валэнсам у суправаджэньні Зянона Пазьняка ў чэрвені 1993 газэта «Свабода» аздобіла такім камэнтаром: «Вельмі часта здараецца, што афіцыйная прэса не заўважае істотных падзеяў і фактаў, вартых публікацыі. Магчыма, у іх палітыка такая, а можа ўся праблема ў прафэсіяналізьме. У выніку ж людзі не атрымліваюць цікавай і разнастайнай інфармацыі. Дарэчы, польская прэса адзначыла, што прэзыдэнт Лех Валэнса спаткаўся зь лідэрам БНФ Зянонам Пазьняком. Нашае ж тэлебачаньне так старанна рабіла "рэпартаж", каб у кадр, крый Божа, ня трапіў Зянон Пазьняк. У "агитпропа" (так завецца гэты жанр) — свае законы».

і спрыяньне ў акцыянаваньні з удзелам працоўных калектываў».

Мы лічылі, што дзяржава павінна спрыяць разьвіцьцю незалежных, прыватных тэле- і радыёкампаній, інфармацыйных агенцтваў і пэрыядычных выданьняў, і вось што прапаноўвалі:

«Мэтазгодна спрашчэньне працэдуры рэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі. З тым, каб зьняць фінансавы цяжар з падпісчыкаў, забясьпечыць усім катэгорыям насельніцтва доступ да сродкаў маса-

вай інфармацыі праз невысокі іх кошт, мэтазгодна на адпаведны тэрмін вызваліць газэты і часопісы, за выключэньнем рэклямна-камэрцыйных і эратычных, ад усіх відаў падаткаў. Трэба ўвесьці дыфэрэнцыяванае падаткаабкладаньне паліграфічных прадпрыемстваў. У той частцы іх дзейнасьці, якая зьвязаная з абслугоўваньнем СМІ, павінны быць падатковыя льготы. Дзяржава павінна выдзяляць пэўныя датацыі за распаўсюджваньне прэсы».

Як бачна, дзяржаўнай прэсе гарантавалася тое, чаго не было ў постсацыялістычных краінах, дзе фінансаваньне былых дзяржаўных газэт абразалася аднамомантна і цалкам.

Фактычна мы прапаноўвалі пераходны пэрыяд (мінімум год), у часе якога супрацоўнікі той самай «Советской Белоруссии», якія і рабіліся б саўладальнікамі выданьня, атрымлівалі б фінансавую дапамогу — значна большую, чым тую, на якую магла б разьлічваць ад пачатку незалежная газэта «Свабода», дзе калектыў быў у дзясяткі разоў меншы. Але нават гэта журналістаў дзяржаўнага друку не задаволіла, пра што крыху ніжэй.

«Інтэграцыя Беларусі ў сусьветную інфармацыйную прастору не павінна супярэчыць працэсу адраджэньня, — лічылі дэпутаты БНФ. — Мы — за прыярытэтнае разьвіцьцё цалкам беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі».

Таксама мы — ад імя ня толькі БНФ, але і дэмакратычных партый і рухаў — прапанавалі кандыдатуры асобаў, «здольных ажыцьцявіць праграму рэфармаваньня прэсы, радыё, тэлебачаньня». На пасаду старшыні Дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі прапаноўваўся Генадзь Бураўкін (тагачасны сталы прадстаўнік Беларусі ў ААН), галоўным рэдакта-

рам «Советской Белоруссии» — Іван Макаловіч (намесьнік галоўнага рэдактара «Народнай газэты», былы рэдактар «Звязды»), рэдактарам «Белорусской нивы» — карэспандэнт «Литературной газеты» Анатоль Казловіч.

«Гэтыя людзі не зьяўляюцца членамі БНФ ці партый, але мы добра ведаем іх прыхільнасьць да прынцыпаў дэмакратыі», — сьцьвярджалася ў заяве, пад якой падпісаліся дэпутаты Пазьняк, Заблоцкі, Навумчык, Трусаў, Голубеў, Баршчэўскі, Новік, Крыжаноўскі, Беленькі, Алампіеў, Антончык, Шут, Холад, Малашка, Сямдзянава, Гермянчук, Маркевіч, Тарасенка і Слабчанка.

Гэтую заяву пісаў я, і неўзабаве ў тэлефоннай размове Генадзь Бураўкін папракнуў, што я падаў ягоную кандыдатуру, зь ім не параіўшыся. Аднак я зрабіў гэта, памятаючы нашу гутарку ў ліпені 1992-га ў Нью-Ёрку, калі на маё пытаньне, ці вярнуўся б ён на ранейшую сваю пасаду старшыні Дзяржтэлерадыё, Бураўкін адказаў станоўча. Але я ў сваім рэвалюцыйным палітычным імпэце не ўлічыў тонкасьцяў, якія былі вядомыя дыплямату і экс-міністру Бураўкіну; канешне, я ўскладніў ягоныя адносіны з Кебічам, за што і па сёньня адчуваю віну.

Ужо пазьней, праз гады, калі мы абмяркоўвалі тую сытуацыю з Генадзем Мікалаевічам у Празе, ён сьмяяўся — але тады яму было не да сьмеху. Але нідзе публічна Бураўкін пра гэтыя нюансы не казаў.

## «Нашы аўтары не абражаюць Незалежнасьць, дзяржаўныя Сьцяг і Герб»

«Я прачытаў у адной газэце...» — назваў свой водгук аглядальнік «Знамени юности» Андрэй Дзяменцьеўскі, тлумачачы манапалізацыю СМІ эканамічнай залежнасьцю: «Калі ня ўласнаму ўраду, дык усё роўна камусьці, але “прадавацца” давялося б… Прэса ва ўсім сьвеце заўсёды ад некага залежала: ад “левых”, ад “правых”, ад ураду, ад апазыцыі, ад мафіі, ад густаў, амбіцый, апэтытаў. “Дэмакратычна” настроеныя дэпутаты БНФ у сваім памкненьні маніпуляваць прэсай неарыгінальныя» («Знамя юности», 3 верасьня 1993).

Рэпліка ў «Советской Белоруссии» была падпісаная «Калектыў СБ» і называлася «Безь мяне мяне ажанілі», сутнасьць была закладзеная ў загалоўку, а сканчалася словамі — «Калі ўжо БНФ шчыра заклапочаны лёсам пэрыядычных выданьняў, дык, магчыма, варта б пачаць са сваіх, якія сёньня пыляцца на прылаўках кіёскаў?»

У Народнага Фронту было толькі адно выданьне — газэта «Навіны БНФ», якая не атрымлівала ні капейкі дзяржаўных датацый. Безь дзяржаўнай падтрымкі выдавалася і «Свабода», дзе галоўным рэдактарам быў Ігар Гермянчук, але гэта была незалежная газэта (у пацьвярджэньне магу сказаць, што большасьць заяваў Апазыцыі БНФ там не друкаваліся — Ігар рабіў стаўку на арыгінальныя, журналісцкія ці палемічныя тэксты). Якія яшчэ выданьні мелі на ўвазе супрацоўнікі «СБ» — засталося загадкай.

Затое загадчык аддзелу друку, радыё і тэлебачаньня Савету міністраў Сяргей Паваляеў наўпрост

назваў, якія: тыя, што выходзяць на беларускай мове.

У парлямэнцкай «Народнай газэце» Паваляеў надрукаваў рэпліку, у самой назьве якой пазьдзекаваўся з тарашкевіцы — «Вот такая “ідэалёгія”», сам жа тэкст ад пачатку напісаны ў разьвязным стылі: «“За што я люблю кітайцаў — дык гэта за іх тэрмасы”. Гэты жарт зь вядомай інтэрмэдыі чамусьці ўвесь час прыходзіць у галаву, калі сутыкаесься з чарговай заявай апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце рэспублікі, якая тычыцца сродкаў масавай інфармацыі. Як у перасьпелай мадам, у якой тры галоўныя клопаты ў жыцьці, так і ў адпаведных заявах — тры «галаўныя болі»: манапалізацыя, ідэалягізацыя і партакратызацыя».

Сьцьвярджаючы, што менавіта ўрад быў ініцыятарам падтрымкі СМІ і зьняцьця падаткаў на распаўсюджваньне беларускамоўнай прэсы (апошняе недакладна — гэта была заслуга парлямэнцкай камісіі па адукацыі і культуры на чале з Гілевічам, Трусавым, Баршчэўскім і Цумаравым), Паваляеў папракае гэтымі самымі датацыямі беларускамоўную прэсу: «Газэта “ЛіМ”, сымпатыі якой манапольна акрэсьленыя, атрымлівае, пры дэкаратыўным накладзе, мільённыя датацыі дзяржавы!»

Зьедлівы камэнтар у падобнай танальнасьці — што беларускамоўная прэса мае датацыі, але мала каму цікавая — надрукаваў рэдактар газэты «Европейское время» Сямён Букчын.

Крытыка нашай заявы прагучала і з вуснаў сустаршыні прарасейскага «Руху за дэмакратычныя рэформы» Вольгі Абрамавай у інтэрвію газэце «7 Дней»: «Патрабаваньне Апазыцыяй БНФ прыярытэтнага разьвіцьця цалкам беларускамоўных срод-

каў масавай інфармацыі зусім блізкі да ўвядзеньня цэнзуры па моўнай прыкмеце. Хітруе Апазыцыя і прапануючы кадравыя зьмены. На першы погляд, яна вылучае людзей фармальна беспартыйных, але грамадзкасьці яны вядомыя менавіта адданасьцю нацыянальнай ідэі».

Абрамава акцэнтавала ўвагу на «адданасьці менавіта нацыянальнай ідэі» як на нечым сумнеўным. У гэтым самым 1993 годзе Абрамава, разам з Аляксандрам Патупам, працягвала патрабаваць рэфэрэндуму аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай.

Затое калектыў тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» нас падтрымаў. Аглядальнік Пётра Васілеўскі заўважыў, што адказ Паваляева «як і ўсё, што выходзіць зь нетраў Саўміну — на расейскай мове. Відавочна, што загадчык аддзелу друку, радыё і тэлебачаньня дзяржаўнай мовы сваёй краіны ня ведае і ведаць не зьбіраецца. Толькі два словы ў тэксьце беларускія — ідэалёгія і гарбата, і тыя абразьліва ўзятыя ў двукосьсе».

Аўтар прыгадаў «мільённыя датацыі», якімі Паваляеў папракаў «лімаўцаў» (у 1993 годзе тыднёвік атрымаў 14 мільёнаў рублёў датацый, даляр тады каштаваў дзьве тысячы рублёў, адпаведна, гэта было 7 тысяч даляраў — на 52 нумары, па 134 даляры на адзін нумар, і гэта — на выданьне, якое было адзінай газэтай творчай інтэлігенцыі краіны). Аглядальнік тыднёвіка пісаў: «Па-першае, гэтыя мільённыя датацыі не ідуць ні ў якое параўнаньне з датацыямі, што выдаткоўваюцца на, скажам, “Советскую Белоруссию”. Па-другое, мы маем права сьцьвярджаць, што падчас падпісной кампаніі “ЛіМ” быў падвергнуты дыскрымінацыі… Летам

мне давялося быць у Браславе. У гэты горад “ЛіМ” папросту не паступае. Як казалі кіяскёры, апошні раз газэту “Літаратура і мастацтва” яны бачылі летась… Між тым, “Мы и время”, “Политика. Позиция. Прогноз” і іншыя “левыя” выданьні ідуць у “глыбінку” бесперапынна».

Названыя аглядальнікам газэты былі ня проста левыя, а спавядалі агрэсіўна-антынезалежніцкую пазыцыю, друкуючы з нумару ў нумар абразы ў бок беларускай мовы, дзяржаўных сымбаляў, патрабуючы прыцягнуць да адказнасьці ініцыятараў распаду СССР.

«Мы, у адрозьненьне ад іншых выданьняў, не друкуем на сваіх старонках абразьлівыя для беларускай дзяржавы і нацыі опусы. Нашы аўтары не абражаюць Незалежнасьць, дзяржаўныя Сьцяг і Герб, не заклікаюць да грамадзянскай вайны ў імя “государственного двуязычия” … Дык, можа, т. Паваляеў проста недакладна выказаў сваю думку? Можа, ён хацеў сказаць, што газэта “ЛіМ” атрымлівае дзяржаўную датацыю, нягледзячы на тое, што выходзіць на беларускай мове і патрабуе выкананьня палажэньняў Канстытуцыі Беларусі, якія абвяшчаюць нашу краіну сувэрэннай і нэўтральнай? Альбо нават так: дзяржава фінансуе выданьне газэты “ЛіМ”, хоць Саўмін ставіцца да незалежнасьці Беларусі без пашаны?» («Літаратура і мастацтва», 10 верасьня 1993).

Заява нашая была апублікаваная ў пачатку верасьня, у наступныя тыдні антынезалежніцкія і праімпэрскія тэндэнцыі ў дзяржаўных газэтах і на тэлебачаньні зрабіліся нагэтулькі выразнымі, што ўжо не парлямэнцкая апазыцыя, а камісія Вярхоўнага Савету па пытаньнях галоснасьці, сродкаў

масавай інфармацыі і правоў чалавека была вымушаная разгледзець пытаньне «Дзяржаўны суверэнітэт, канстытуцыйная законнасьць і сродкі масавай інфармацыі».

Пасяджэньне вёў намесьнік старшыні камісіі Анатоль Вярцінскі (пасада старшыні была вакантная). Прадстаўнікі Савету міністраў праігнаравалі запрашэньне і на пасяджэньне не зьявіліся. У афіцыйным рашэньні камісіі адзначалася, што «дзейнасьць значнай часткі сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку і дзяржаўных, носіць нелаяльны характар у адносінах да дзяржаўнасьці і суверэнітэту Беларусі». Было прызнана мэтазгодным ліквідаваць упраўленьне інфармацыі і грамадзкіх сувязяў Саўміну і аддзел друку, радыё і тэлебачаньня Саўміну, паколькі яны дублявалі дзейнасьць Міністэрства інфармацыі і нацыянальнага прэсцэнтру. Самому Міністэрству інфармацыі было прапанавана разгледзець мэтазгоднасьць знаходжаньня на пасадзе старшыні нацыянальнай Дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Аляксандра Сталярова.

Але рашэньні камісіі мелі дарадчы характар. Мы спадзяваліся на падтрымку Станіслава Шушкевіча, колькі разоў я чуў ад ягоных дарадцаў: «Прыміце рашэньне, а Стась падтрымае» — але не падтрымаў.

Дзяржаўная прэса, за выключэньнем некалькіх выданьняў, толькі нарошчвала агрэсіўнасьць супраць незалежнасьці і агітацыю за інтэграцыю (а па сутнасьці — аб’яднаньне ) з Расеяй. Няспынна гучалі абвінавачаньні ў бок БНФ і дэмакратычных партый.

Такім быў інфармацыйны фон і ўсе наступныя месяцы, да прэзыдэнцкіх выбараў у чэрвені 1994-га.

І таму я ніколі не пагаджуся з тымі, хто кажа, што нібыта дзяржаўная прэса была супраць Лукашэнкі.

Дзяржаўныя, урадавыя СМІ зь іх вялікімі накладамі і вялізным ахопам этэру падтрымлівалі антынезалежніцкія, прарасейскія ідэі — тыя самыя ідэі, зь якімі ішоў на выбары Лукашэнка. Зрэшты, як і Кебіч.

«Мы выступалі з Аляксандрам Лукашэнкам з аднолькавых ідэалягічных пазыцый, змагаліся не адзін з адным, а за прэзыдэнцкае крэсла, розьніца была толькі ў падыходах да дасягненьня пастаўленых мэтаў. І таму галоўным вынікам… варта, мабыць, лічыць паразу стаўленікаў нацыяналістычных сілаў Зянона Пазьняка і Станіслава Шушкевіча. Чый уклад у агульную перамогу над кандыдатамі ад БНФ — мой ці Аляксандра Лукашэнкі — быў больш важкім, хай вырашыць час», — напіша Кебіч у сваіх мэмуарах.

Чый уклад большы — сапраўды, вызначыць цяжка, але і ўклад дзяржаўных СМІ ў перамогу над «нацыяналістычнымі сіламі», трэба прызнаць, быў немалы.

***Валеры Ціхіня** (Сьветлагорская-Маладзёжная выбарчая акруга № 232): Вчера в Минске состоялось расширенное заседание Координационного комитета Народного движения Беларуси. Руководители политических партий и общественных объединений приняли Заявление. «Народное движение Беларуси заявляет о полной поддержке деятельности народного депутата Республики Беларусь Лукашенко... Стремление БНФ затушевать истинную причину, списав все на партгосноменклатуру и комноменклатурное правительство, и нажить себе политический капитал на трагедии белорусского народа нельзя расценить иначе, как безнравственное. Народное движение Беларуси считает, что причина разверзшейся трагедии коренится не столько в плохих чиновниках, сколько в самой стратегии реформ, осуществляющихся не в интересах народа, а за счет народа, не в интересах Беларуси, а в интересах Запада...» Заявление подписали руководители Славянского собора «Белая Русь», Фонда Республики Беларусь по социальной защите военнослужащих, Союз офицеров Республики Беларусь, Организация ветеранов Республики Беларусь, Движение за демократию, социальный прогресс и справедливость, Комитет солдатских матерей Республики Беларусь, республиканское народно-патриотическое движение «Отечество», общественно-культурное объединение «Полесье», Партия коммунистов Беларуси. Всего подписали 22 руководителя политических партий, объединений.*

*Выступ у «Розным»*

# ЛУКАШЭНКА ГАТОВЫ НА КАЛЕНЯХ ПАЎЗЬЦІ Ў РАСЕЮ

Бясспрэчна, у чытачкі ці чытача кнігі ёсьць незамужняя альбо сястра, альбо дачка, альбо ўвогуле проста знаёмая. Уявіце, што яна выйшла замуж за брытанскага прынца, менавіта гэтая гэтая канкрэтная дзяўчына. І не кажыце, што гэта немагчыма, паколькі імавернасьць нават адзін на мільярд — якая ні ёсьць, але імавернасьць.

Калі вы ўсё роўна ў такое ня верыце (і правільна робіце) — дык прызнаюся, што ў сярэдзіне 1993-га магчымасьць Лукашэнкі заняць пасаду кіраўніка дзяржавы падавалася абсалютнай большасьці палітычных актывістаў менш імавернай, ды ўвогуле — проста нулявой.

Праз гады ў інтэрвію карэспандэнту Радыё Свабода Вользе Караткевіч Зянон Пазьняк скажа: «У Вярхоўным Савеце літаральна ніхто сур'ёзна ня ставіўся да Лукашэнкі. Гэты чалавек не карыстаўся ніякай павагай, ніхто ня мог уявіць, што ён можа быць прэзыдэнтам. Акрамя аднаго чалавека, прозьвішча якога я назаву, які зь небясьпекай ставіўся. Гэта Сяргей Навумчык. Ён мяне папярэджваў, што "Зянон Станіслававіч, прыгледзьцеся, гэта дастаткова небясьпечная істота". Калі мы ўжо прыгледзеліся, то было позна. Ён ужо перайшоў тую мяжу, за якой ужо, незалежна ад яго дзеяньняў, гралі тыя працэсы, якія ў гісторыі выносілі на хвалю такіх вось авантурыстаў. Ня толькі ў нашай краіне такое было. Так што, на вялікі жаль, гэта было заўважана ўжо позна» (Радыё Свабода, 26 чэрвеня 2006).

Пасьля такіх слоў ёсьць спакуса самазадаволена казаць: «А я ж папярэджваў!», але я павінен удакладніць ацэнку Пазьняка адносна майго бачаньня Лукашэнкі ў тым часе.

Успрыманьне гэтае базавалася не на нейкім палітычным прагнозе, а на асабістай антыпатыі, якая тады ўжо была ўзаемнай.

У інтэрвію магілёўскай газэце летам 1993 году ў якасьці кіраўніка антыкарупцыйнай камісіі Лукашэнка з усіх дэпутатаў апазыцыі прыгадаў мяне як прыклад карупцыі: Навумчык аўтамабіль набыў! Выглядала, ён уважліва за мной сачыў, пры тым што за ўвесь год паміж намі адбылася, можа, пара кароткіх дыялёгаў. Ягоныя зласьлівыя камэнтары да маіх выступаў на пасяджэньні Канстытуцыйнай камісіі ці дэпутацкіх нарадаў я звычайна пакідаў без адказаў; зрэшты, аднойчы не стрымаўся: «Навумчык, табе трэба ў псіхушку!» — «Саша, адразу пасьля цябе!», і гэты абмен рэплікамі дакладна перадае характар нашых узаемаадносінаў.

Аднак я адчуваў неверагодную інтуіцыю Лукашэнкі, ягоную здольнасьць вучыцца нават у сваіх палітычных апанэнтаў, не саромеючыся прагалаў у ведах — так, аднойчы, калі мы ўтрох сядзелі ў кабінэце дарадцы Шушкевіча Івана Сьцяпуры, ён папрасіў мяне патлумачыць значэньне выразу «a priori».

Я разумеў, што Лукашэнка куды больш небясьпечная для Народнага Фронту, увогуле для ідэяў незалежнасьці фігура, чым гэта многім здаецца, і настойваў на публічным выкрываньні і абвяржэньні ягоных заяваў. Але каб сур'ёзна ўспрыняць яго менавіта як будучага кандыдата на пасаду кіраўніка дзяржавы — не, гэтага ў мяне не было (дый ве-

рылася яшчэ, што нам удасца не дапусьціць увядзеньня прэзыдэнцтва).

Аднак сапраўды — ад маіх прапановаў дыскутаваць з Лукашэнкам адмахваліся, казалі, што гэта толькі створыць яму рэкляму, што ня варта лішні раз згадваць ягонае прозьвішча. Увогуле, такая пазыцыя была правільнай — аднак было ўжо запозна. Мне было зразумела, што «цягнік пайшоў», што калегі-журналісты ўжо зрабілі сваю справу, цягам некалькіх гадоў вылучаючы Лукашэнку хоць бы нават і ў якасьці забаўнага пэрсанажа, ці, як кажа сёньняшняя моладзь, «фрыка». Лукашэнка ўжо фігураваў у апытаньнях «За каго б вы прагаласавалі на прэзыдэнцкіх выбарах?»

Варта сказаць, што сама ідэя ўвядзеньня прэзыдэнцтва ў немалой ступені была ўнесеная ў грамадзкую сьвядомасьць і замацавалася ў ёй праз камічную форму. А менавіта — заявамі «графа» Прушынскага, які ўспрымаўся як экзальтаваная фігура з гэткай самай экзальтаванай амбіцыяй. У 1992–1993 гадах не было, здаецца, ніводнай газэты, якая б не апублікавала зь ім інтэрвію ці не напісала пра ягоны намер зрабіцца прэзыдэнтам; як бы камічна ні выглядаў пры гэтым сам «граф», у сьвядомасьці чытачоў пры гэтым замацоўвалася верагоднасьць увядзеньня прэзыдэнцкай пасады.

## Альянс праімпэрскіх сілаў

Здараецца, што аналізуючы падзеі ў іх рэтраспэктыве, бачыш лёгіку і заканамернасьць, і нават дакладны разьлік у тым, што раней здавалася неверагодным ці пра што зусім ня думалася.

У апублікаваным дзёньніку пачатку 1970-х (не ўспамінах, якія пішуцца пост-фактум, а менавіта ў дзёньніку) аднаго з адказных супрацоўнікаў ЦК КПСС праскоквае зацемка, што старшыня КГБ Андропаў, паводле блізкай да яго асобы, мае намер заняць пасаду Генэральнага сакратара. Тады ніхто не разглядаў Андропава ў якасьці генсека, называлі іншыя кандыдатуры. Нават пры моцных пазыцыях КГБ здавалася немагчымым, што шэф гэтай установы зойме галоўную пасаду ў краіне. І тым ня менш, праз дзесяць гадоў гэта здарылася, і апублікаваныя ўспаміны ды архіўныя матэрыялы сьведчаць, што Андропаў пасьлядоўна і мэтанакіравана ішоў да сваёй мэты. Шлях гэты, канешне, мог быць спынены з розных прычынаў, але здарылася так, што фініш быў пасьпяховым.

Нешта падобнае бачыш, калі аналізуеш палітычны шлях Лукашэнкі: нават тыя ягоныя крокі, якія ў 1993-м здаваліся нелягічнымі, нават абсурднымі — дакладна кладуцца ў выбудаваную лёгіку дарогі да найвышэйшай улады.

І альянс з праімпэрскімі, пракамуністычнымі, антынезалежніцкімі сіламі таксама выглядае абсалютна невыпадковым. Пры гэтым, гэта быў ня шлюб з разьліку, а шлюб з каханьня.

Ідэю аднаўленьня СССР высоўвалі самыя артадаксальныя аб’яднаньні, якія тады ўспрымаліся маргінальнымі — адноўленая камуністычная партыя, Славянскі сабор «Белая Русь», Саюз афіцэраў. Іх пікеты зьбіралі ня больш за 10–15 чалавек. На самае вялікае іх сьвята — дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі — у Менску сабралася ня больш як тры сотні пад чырвонымі сьцягамі СССР.

Шмат кім з маіх знаёмых і аднадумцаў іх заявы ўспрымаліся як голас зь мінулага, вяртаньне да якога магчыма хіба што толькі ў машыне часу. Некаторыя нават раілі не кранаць іх у сваіх выступах і артыкулах («Толькі лішнюю рэкляму ім ствараеце»), асабліва часта такі папрок гучаў у бок Пазьняка, які нязьменна казаў пра магчымасьць камуністычнага рэваншу.

Але мы ў Народным Фронце лічылі інакш, бо нам, асабліва дэпутатам, былі бачныя мэханізмы і прывадныя пасы гэтага працэсу — ішлі яны з Масквы, ад праімпэрскіх, пракамуністычных сілаў, якія аб’ядналіся вакол старшыні Вярхоўнага Савету Расеі Хасбулатава і віцэ-прэзыдэнта Руцкога, праз апарат Савету міністраў Беларусі (праціўнікі незалежнасьці былі аб’яднаныя ў «Народное движение Беларуси» на чале з начальнікам аднаго з упраўленьняў Саўміну Сяргеем Гайдукевічам).

Але рупарам гэтых сілаў у Беларусі быў Лукашэнка, і калі раней я прывёў аналёгію шлюбу з каханьня, дык мушу прызнаць яе не зусім дакладнай, бо ў шлюбе задзейнічаныя двое, а тут было адно цэлае, зьяднанае і непарыўнае.

У жніўні 1993-га Лукашэнка разам з дэпутатамі Генадзем Казловым і Мікалаем Скарыніным у Маскве правёў перамовы з Русланам Хасбулатавым адносна палітычнага аб’яднаньня Беларусі і Расеі. Тады яшчэ было незразумела, чым скончыцца супрацьстаяньне Ельцына і ягоных апанэнтаў, але было відавочна, што ў выпадку перамогі Хасбулатава Масква ўзяла б курс на ліквідацыю беларускай незалежнасьці. І паказальна, што саюзьнікамі ў гэтай справе былі людзі з атачэньня Кебіча (Казлоў быў намесьнікам начальніка ўпраўленьня грама-

дзкай бясьпекі і абароны Савету міністраў Данілава, Скарынін — дарадцам старшыні Савету міністраў Кебіча).

Абсалютна немагчыма сабе ўявіць, каб паездка ў Маскву адбывалася бяз згоды Кебіча, альбо што Казлоў і Данілаў утрымаліся б на сваіх пасадах, калі б Кебіч быў нязгодны зь іх пазыцыяй. Дый сама паездка — толькі эпізод у шэрагу пэрыядычных заяваў Казлова і Скарыніна пра неабходнасьць аб'яднаньня з Расеяй (што фактычна азначала ліквідацыю Беларусі як незалежнай дзяржавы). Адно слова Кебіча — і такія заявы былі б спыненыя. Але наадварот — у жніўні і ў верасьні 1993-га Кебіч сам казаў пра ліквідацыю СССР як пра памылку.

Тая паездка ў Маскву суправаджалася публікацыяй 26 жніўня інтэрвію Лукашэнкі ў маскоўскай камуністычнай газэце «Правда» пад красамоўным загалоўкам «Да возродится!» Аднавіцца, паводле перакананьня Лукашэнкі, павінен быў Савецкі Саюз — у форме новай імпэрыі. Лукашэнку было недастаткова эканамічнага саюзу, ён патрабаваў палітычнага, прычым поўнага аб'яднаньня: «Трэба пачынаць рух да адзінай нармальнай дзяржавы». І яшчэ: «Трэба неадкладна стварыць адзіную дзяржаву нават зь дзьвюх нашых рэспублік (Беларусі і Расеі — С. Н.) Зразумейце, для іншых народаў былога СССР гэта будзе магутным стымулам».

Таму інтэрвію наканавана ўвайсьці ў гісторыю яшчэ з адной прычыны — яно было прадметам выступу ў «Народнай газэце» Васіля Быкава.

## «Дзеля ўлады яны згодныя аб’яднацца з самім д’яблам»

Артыкул Быкава быў надрукаваны 1 верасьня, праз некалькі дзён пасьля інтэрвію Лукашэнкі. Ніколі раней Быкаў не прысьвячаў нейкай публікацыі асобны артыкул, прычым, калі ўлічыць тэхналягічны працэс выхаду «Народнай газэты» (нумар рыхтаваўся за суткі да выхаду), Васіль Уладзімеравіч напісаў свой тэкст адразу.

Я ня памятаю, каб Васіль Уладзімеравіч удзельнічаў у нашых абмеркаваньнях на тэму, пра якую я пісаў вышэй — ці трэба спрачацца з Лукашэнкам, бо гэта толькі зробіць яму дадатковую рэкляму (я лічыў, што трэба). Я ўвогуле не прыпамінаю, каб ён згадваў Лукашэнку ў размовах да гэтай сваёй публікацыі. Але форму Быкаў абраў, на мой погляд, ідэальную: ён цытуе Лукашэнку, але нідзе ня згадвае ягонага прозьвішча. Іншымі словамі, кажа пра яго як пра зьяву. І зьяву вельмі небясьпечную.

«Народы былога Савецкага Саюзу мелі нядаўна шчасьлівую магчымасьць пазнаёміцца ў «Правде» з адметным сваёй незвычайнасьцю матэрыялам, — пісаў Быкаў. — Маецца на ўвазе інтэрвію з выразна малітоўнаю назвай “Да возродится!”, арганізаванае ўласным карэспандэнтам гэтай газэты па Беларусі. Канешне, у свой час у гэтай газэце даводзілася чытаць і не такія матэрыялы (зрэшты, і ў пазьнейшы таксама), але каб з гэткай ашаламляльнай адкрытасьцю паставіцца да кволай незалежнасьці краіны, дзе нарадзіўся і жывеш, дзе будуць жыць твае дзеці, — такое трэба пашукаць у наш час сярод самай чырвона-карычневай прэсы».

Не называючы імя Лукашэнкі, Быкаў ахарактарызаваў яго як «перапалоханага чалавека, які за гады ідэалягічнага ачмурэньня, відаць, так і не разабраўся ў гістарычнай сутнасьці часу».

Быкаў зьвяртае ўвагу, што «ствараецца ўражаньне, быццам шаноўны народны дэпутат толькі ўчора спусьціўся з космасу на нашу грэшную зямлю і ўбачыў, што тут “народ обнищал”, што вакол жах і непарадкі, і яго напаткала шчасьлівае азарэньне: “поодиночке из беды не выбраться”. Быццам і ня ведае, што Беларусь болей за 70 гадоў згодна і вернападдана існавала у “едином и нормальном государстве” і менавіта ў ім дажылася да сёньняшняга жаху і бязладзьдзя, калі “нет нефти, горючего, простаивают комбайны, перекрывается газ, нет новых российских денег”. (Заўважце, усё ў безасабовай форме, усе няшчасьці быццам па волі лёсу.) Што і казаць, тое сапраўды жахліва. Толькі якая сувязь паміж “нет нефти, горючего” і сувэрэннасьцю краіны?»

Быкаў назваў галоўную, на ягоны погляд, прычыну прагі рэваншу з боку антыдэмакратычных праімпэрскіх сіл: «Глядзіш, народ раптам паразумнее, забярэ зямлю і пачне ладзіць жыцьцё на свой лад, як спрадвеку ладзілі яго продкі і ладзяць цяпер па ўсім сьвеце — на аснове здаровага сэнсу і прыватнай уласнасьці. Значыць, спадзяванка адна: звыклы камуністычны рэжым, дзе так салодка жылося вялізнай зграі партыйна-гаспадарчых захрыбетнікаў. І цяпер, спахапіўшыся, яны пачалі адмаўляць у сувэрэннасьці краіне, у якой звыклі валадарыць. Так, цяпер кепска — і зьбядненьне, і разлад, якія яны спрабуюць сьпісаць на дэмакратаў, на славуты разрыў сувязяў, на ізаляцыянізм

як палітыку нацыяналістаў. Але ўсё тое — чыста бальшавіцкая прапаганда, замяшаная на гёбэльсаўскіх рэцэптах: чым болей неверагодная хлусьня, тым ахвотней у яе паверацъ. Дзе ў Беларусі тыя дэмакраты, пры якой служаць уладзе? Жменька дэпутатаў БНФ у Вярхоўным Савеце... Астатнія — камуністы ў сталіцы і раёнах».

Васіль Быкаў прыгадваў забарону Вярхоўным Саветам рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах, казаў пра рэанімацыю камуністычнай партыі, пра магчымасьці парлямэнту і ўраду ў межах сувэрэннай улады наладзіць разумнае гаспадараньне — і пра іх нежаданьне гэта зрабіць у чаканьні «звыклых указаньняў з Масквы».

«Нацыяналізм бывае розны, — пісаў Быкаў, — як і яго палітычныя антыподы. Характар яго вызначаюць шмат якія элемэнты нацыянальнай сутнасьці, геапалітычнай канкрэтнасьці. Нацыяналізм датчан ці фінаў, напрыклад, зусім іншая зьява, чым арабскі нацыяналізм. Зноў жа, у пэўных абставінах нават і антыподы могуць стацца роднаснымі, калі не па форме, дык па сэнсе. Прыгадаем расейскі бальшавізм і нямецкі фашызм, гэтыя два канцы адной палкі. Беларускі нацыяналізм больш вядомы як нацыянал-дэмакратызм, ён ня супраць каго-небудзь, ён — за. Найперш за лёс свае нацыі».

У 1993 годзе надаць слову «нацыяналізм» станоўчае значэньне — гэта было вельмі сьмела.

«Сувэрэннасьць нацыі і дзяржавы — адна з самых сьвяшчэнных даброт супольнага чалавечага існаваньня, і толькі ва ўмовах скажонай, перакуленай сьвядомасьці зьяўляецца патрэба тое даказваць, — пераконваў Быкаў. — Толькі зьнешні вораг ці ўнутраны здраднік можа ў наш час выступаць

супраць права народа на самавызначэньне, на самастойнасьць яго існаваньня... Нацыянальная незалежнасьць, дзяржаўная сувэрэннасьць нацый і народаў сталі адметнай вяхой напрыканцы XX стагодзьдзя. Іншая справа — як распарадзіцца той сувэрэннасьцю, як на яе аснове наладзіць эканоміку, урэгуляваць прававое жыцьцё. Вядома, у нас яны ладзяцца з рук вон кепска. І тут галоўная прычына ў кіраўніцтве, ва ўладзе. Стала відавочна, што са зьменай сацыяльных адносін патрэбная і зьмена ўлады».

Завяршаў свой артыкул Быкаў словамі пра «генэралаў ВПК» і «чырвоных фэадалаў», якія не жадалі саступіць маёмасьць, якая гарантавала ім уладу: «А ўжо з уладай яны не расстануцца, нават каб для яе ўтрыманьня спатрэбілася заключыць “калектыўнае пагадненьне” або аб’яднацца з самім д’яблам».

Нумар «Народнай газэты», у якой быў надрукаваны артыкул Васіля Быкава, выйшаў накладам 500 400 асобнікаў (паўмільёна).

Гэта значыць, што кожны, хто хоць у нейкай ступені цікавіўся палітыкай, мог гэты артыкул прачытаць і зрабіць высновы. І, канешне, чыталі яго дэпутаты Вярхоўнага Савету — у тым ліку і тыя, хто праз паўгода ініцыюе альбо падтрымае вылучэньне Лукашэнкі ў прэзыдэнты.

Ну а на самога Лукашэнку словы Быкава калі і паўплывалі, дык у адваротным кірунку — праз два тыдні пасьля публікацыі, 13 верасьня ў Менску праімпэрскія пракамуністычныя сілы правялі «Кангрэс народаў Беларусі» з удзелам прадстаўнічай дэлегацыі з Масквы — тых, каго мы называлі «чырвона-карычневымі».

Выступ Лукашэнкі зрабіў сапраўдны фурор, а ягоныя словы пра гатовасьць «на каленях паўзьці ў Расею» выклікалі авацыю. Пад чырвонымі сьцягамі Лукашэнка заявіў: «На нашай зямлі быў зьнішчаны вялікі Савецкі Саюз. Адсюль, менавіта адсюль павінен пайсьці рух па стварэньні новай вялікай дзяржавы».

І калі гэтыя словы можна назваць рытарычнай кульмінацыяй антынезалежніцкай пазыцыі Лукашэнкі, дык ягоная паездка ў Маскву, выступ у Дзяржаўнай думе і ўдзел у перамовах паміж кіраўніцтвам урадаў Беларусі і Расеі варта лічыць палітычным замацаваньнем гэтай пазыцыі. Лукашэнка заявіў, што за падпісаньне дамовы аб аб’яднаньні грашовых сыстэмаў Беларусі і Расеі Кебічу трэба паставіць помнік пры жыцьці.

Мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, запатрабавалі пазбавіць Лукашэнку дэпутацкіх паўнамоцтваў, што было цалкам лягічна: чалавек, які дамагаецца ліквідацыі дзяржавы, не павінен вырашаць лёс гэтай дзяржавы. Але цалкам натуральна і тое, што нашая прапанова не была прынятая парлямэнтам, большасьць дэпутатаў якога падзялялі погляды Лукашэнкі. Падзялялі, але маўчалі, бо былі разумнейшымі. Альбо — лічылі сябе такімі.

***Генадзь Казлоў*** *(Сьляпянская выбарчая акруга № 26, Менск): В «Народнай газеце» был опубликован «Зварот апазіцыі БНФ да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь», в котором ставился вопрос о лишении депутатских полномочий депутатов Скорынина, Козлова, Лукашенко, Ивана Трусова, Гринева... Опять-таки для любопытных, которые то и дело твердят о построении правового государства, сообщаю всем то, что должен был сделать Генеральный прокурор: заключение Генеральной прокуратуры. Прокуратура сообщает, что по обращению народных депутатов Республики Беларусь Позняка, Заблоцкого, Голубева и других Прокуратурой республики проведена проверка. В ходе проверки доводы авторов о подготовке событий в Москве на прошедших в Минске Конгрессе народа Беларуси и съезде Союза офицеров не подтвердились. «В выступлениях участников Конгресса и съезда Союза офицеров, в том числе и в вашем выступлении в Москве, отсутствовали какие-либо призывы к противозаконным действиям. В связи с чем оснований для возбуждения уголовного дела Прокуратура республики не нашла»... Так что, господа, замените крапленую колоду, если хотите играть честно... В свою очередь группа депутатов в ближайшее время планирует встречу с вновь избранными депутатами России.*

*Выступ у «Розным»*

# ШУШКЕВІЧ І КЕБІЧ СВАРАЦЦА І МІРАЦЦА

Калі ў пачатку 1993-га Кебіч запытаўся ў мяне, ці чытаў я ягоны выступ перад творчай інтэлігенцыяй у Міры, дзе ён казаў пра нацыянальнае Адраджэньне («Чытаў, Вячаслаў Францавіч. Вельмі добра!») дык у сярэдзіне году ні мне, ні каму-небудзь іншаму ён такімі прамовамі не хваліўся.

Прэм'ер пачаў самабічаваньне за ўдзел у падпісаньні Віскулёўскіх пагадненьняў аб ліквідацыі Савецкага Саюзу: у верасьні падчас наведаньня Гомельскай вобласьці ён увогуле выказаўся за аднаўленьне СССР у «абноўленым выглядзе».

У жніўні і ў верасьні атачэньне Кебіча правяло некалькі нарадаў дэпутатаў-кіраўнікоў рэгіёнаў, пра якія не паведамлялася ў прэсе. Пазьней будуць казаць пра сустрэчу ў нейкім лесе, якую правёў старшыня Гарадзенскага аблвыканкаму Дзьмітры Арцыменя — найбольш верагодны кандыдат намэнклятуры на месца старшыні парлямэнту замест Шушкевіча.

Як мне ўдалося высьветліць, апытаўшы праз чвэрць стагодзьдзя некаторых былых кіраўнікоў, насамрэч было некалькі нарадаў — некалькі з удзелам Кебіча і некалькі ў абласьцях.

Менавіта на такой нарадзе Кебіч заявіў, што Антановіч абяцае яму 75–85 % падтрымкі і перамогу ўжо ў першым туры прэзыдэнцкіх выбараў, пра што згадваецца ў пачатку кнігі.

Галоўнай тэмай нарадаў была падрыхтоўка да прэзыдэнцкіх выбараў (для гэтага трэба было ўнесьці прэзыдэнцтва ў Канстытуцыю — тут ім на руку было імкненьне Шушкевіча фарсіраваць

прыняцьце Канстытуцыі, нягледзячы на нашыя патрабаваньні даручыць гэта будучаму дэмакратычнаму парлямэнту). Пытаньне аб адстаўцы Шушкевіча абмяркоўвалася ў чыста тэхнічным пляне — тое, што яго трэба здымаць, сумненьняў у кіраўнікоў не было. Арцыменя сапраўды быў кандыдатам на пасаду сьпікера, хоць і не адзіным (20 верасьня 1993 году ён быў застрэлены каля свайго дома; у сэйфе знайшлі 30 тысяч даляраў, што ў той момант складала тры гадавыя зарплаты старшыні Вярхоўнага Савету).

15 верасьня Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету разглядаў сытуацыю ў паліўна-энэргетычным комплексе, паколькі дэфіцыт нафты зрабіўся ўжо праблемай палітычнай. Аднак ніхто з кіраўніцтва Савету міністраў на пасяджэньне Прэзыдыюму (які фактычна выконваў функцыі найвышэйшага органу ў перапынках праміж сэсіямі) — не зьявіўся, хоць пра пасяджэньне ва ўрадзе ведалі. Патэлефанавалі ў Саўмін — але замест віцэ-прэм'ера, які адказваў за паліўны комплекс, прыслалі намесьніка старшыні Дзяржпляну Аляксея Баршча. Віцэ-прэм'ер Станіслаў Брыль зьявіўся толькі праз гадзіну.

Я быў на гэтым пасяджэньні. Такое паказное сьвядомае ігнараваньне кіраўніцтва парлямэнту прымусіла пачырванець нават тых членаў Прэзыдыюму, якія падтрымлівалі Кебіча, бо гэта ўжо быў плявок у твар, ім паказалі, што яны — нішто. Шушкевіч рэзка выказаўся на пасяджэньні прэзыдыюму.

## «Белаграсэрвіс» пастаўляе рэактыўнае паліва на Бэрмудзкія выспы

Працэдура атрыманьня (а больш дакладна, «выбіваньня») жывога тэлеэтэру для дэпутатаў апазыцыі звычайна займала ў мяне тыдзень, але 15 верасьня мы атрымалі этэр у той самы дзень: раззлаваны паводзінамі саўмінаўскага кіраўніцтва Шушкевіч даў каманду задаволіць нашую просьбу, і яна імгненна была выкананая (вось мог жа, калі хацеў).

Мы — Зянон Пазьняк, Уладзімер Заблоцкі, Юры Беленькі, Віктар Алампіеў і аўтар гэтых радкоў — увечары прыехалі ў тэлестудыю на вуліцу Камуністычную. Перадача працягвалася 40 хвілінаў.

Мы пацьвердзілі сваё патрабаваньне аб адстаўцы Кебіча: «Я заўважыў, што ўпершыню — фактычна, упершыню — сёньня на Прэзыдыюме старшыня Вярхоўнага Савету вымушаны быў прызнаць, што гэты ўрад ня здольны кіраваць эканомікай, кіраваць дзяржавай, — сказаў Пазьняк. Тое, што тры гады мы гаворым, цяпер яны вымушаныя былі прызнаць. Ну, натуральна, прапанавалі, што рабіць, які выхад? А выхад зразумелы: у нармальных дзяржавах ідзе адстаўка ўраду і новыя выбары, альбо фармуецца кааліцыйны ўрад».

У часе жывога этэру Пазьняк падаў сваё бачаньне прычынаў імкненьня Кебіча аб'яднацца з Расеяй: «Ідзе вельмі небясьпечны працэс, які можна ацаніць як ажыцьцяўленьне змовы беларускай і расейскай кіруючай камуністычнай намэнклятуры, накіраваны на ліквідацыю нашай дзяржавы. На ліквідацыю яе незалежнасьці і сувэрэнітэту. Не прымаецца палітычнае рашэньне (бо ўсім было б адразу ясна),




У студыі на жывым тэлеэтэры. Уладзімер Заблоцкі, Зянон Пазьняк, Сяргей Навумчык, Віктар Аламліеў і Юры Беленькі, верасень 1993.

а ідзе, прапануецца такі шлях праз зьнішчэньне сваёй фінансава-крэдытнай сыстэмы, праз падпарадкаваньне яе іншай дзяржаве. Якія ж прычыны? Чаму менавіта ўрад дзяржавы — беспрэцэдэнтны выпадак! — выступае супраць незалежнасьці сваёй дзяржавы? Людзі разумеюць, што яны робяць».

Галоўнай прычынай крызіснай сытуацыі Пазьняк назваў урад: «Незалежнасьці дамагліся Народны Фронт і дэмакратычныя сілы, а дзяржава апынулася ў руках намэнклятуры камуністычнай, якая ўвесь час выступала супраць гэтай незалежнасьці. Для іх дзяржава ня мае ніякай каштоўнасьці. Яны выступалі супраць Адраджэньня, супраць мовы. І вось гэтая дзяржава апынулася ў іх руках. Яны ніколі не кіравалі дзяржавай. Яны ня маюць

гэтага вопыту. Пры КПСС яны выконвалі ўказаньні з Масквы. І самае вялікае, чым яны займаліся — гэта пабудовай прасёлачных дарог».

Дэпутат Віктар Аляміеў распавёў пра карупцыю ў паліўна-энэргетычнай сфэры: у часе, калі паліва не хапала для беларускіх спажыўцоў і не было чым запраўляць камбайны ў часе сяўбы — створаныя чыноўнікамі камэрцыйныя фірмы атрымлівалі ліцэнзіі і прадавалі набытае за бюджэтныя грошы паліва ў замежжы, прыбытак клалі сабе ў кішэню.

Алампіеў: «Я паспрабую прывесьці некаторыя лічбы, якія пакажуць, куды дзяецца частка нафтапрадуктаў. Магу сказаць, што наша рэспубліка засталася верная выкананьню "інтэрнацыянальнага доўгу". Мы пастаўляем нафтапрадукты і ў краіны СНД, і дапамагаем такім "слабаразьвітым" краінам, як Нямеччына, ЗША, Нідэрлянды. Мы туды пастаўляем і мазут, і дызпаліва, і бэнзін і што заўгодна. У сельскай гаспадарцы вялізныя праблемы. Вось няма дызпаліва. А мы за сем месяцаў у краіны СНД і замежжа паставілі, па адных лічбах, 176 тысяч тон, па другіх — 250 тысяч тонаў. А па дадатковай інфармацыі намесьніка старшыні Савету міністраў Косьцікава — яшчэ 5,4 тысячы тонаў. Аднаму Ўсявышняму вядома з гэтай арытмэтыкі, куды і колькі пастаўлена. Мазут: адны дадзеныя сьцьвярджаюць, што мы 145 тысяч тон паставілі розным спажыўцам за межы рэспублікі, а іншыя кажуць, што 215 тысяч тон. Можна назваць рэактыўнае паліва, авіяцыйны керасін. Бэнзіну паставілі 22 тысячы тонаў. І што самае цікавае, я выявіў, што нашыя арганізацыі, такія як "Белаграсэрвіс", пастаўляюць рэактыўнае паліва нават на

Бэрмудзкія выспы. Можа, там нейкую фэрмэрскую гаспадарку арганізавалі?»

Нашыя заявы ў часе жывога тэлеэтэру прыйшліся недаспадобы кіраўніцтву ўраду, і праз некалькі дзён іх паспрабавалі абвергуць у той самай студыі кіраўнікі найбуйнейшых прамысловых аб’яднаньняў Менску; разам зь імі ў студыі быў і Дзьмітры Булахаў.

Ляйтматыў выступаў прыхільнікаў Кебіча (у тым ліку і Булахава) быў просты: усё пад кантролем.

## Шушкевіч сварыцца з Кебічам

Шушкевіч рабіў усё больш рэзкія заявы на адрас Кебіча: 16 верасьня, на другі дзень пасьля пасяджэньня Прэзыдыюму і жывога этэру дэпутатаў апазыцыі, на прэсавай канфэрэнцыі, камэнтуючы ацэнку прэм’ерам Віскулёўскіх пагадненьняў як памылковых, ён сказаў, што «калі Вячаслаў Францавіч лічыць гэта сваёй памылкай, ну відавочна трэба было б саступіць месца тым, хто гэта памылкай ня лічыць і можа працаваць на падставе ратыфікаваных Вярхоўным Саветам матэрыялаў».

У тыя дні са мной сустрэўся Іван Сьцяпура, дарадца Шушкевіча. Ён сказаў, што Шушкевіч надзвычай абураны паводзінамі Кебіча, што канфлікт паміж імі дасягнуў найвышэйшага напалу, што атачэньне прэм’ера паводзіць сябе ўсё больш нахабна, што інцыдэнт на Прэзыдыюме быў апошняй кропляй, якая перапоўніла чару.

«Шушкевіч сасьпеў» (менавіта так і было сказана) да самых рашучых дзеяньняў, гэта значыць — да адстаўкі Кебіча. Але Шушкевіч ня хоча

сам рабіць першы крок у ініцыяваньні нечарговай сэсіі, на якой можна зьняць Кебіча, а «умераныя», «цэнтрысцкія» прыхільнікі сьпікера ў дэпутацкім корпусе — неарганізаваныя, дый могуць пабаяцца выступіць адкрыта. Было б вельмі добра, каб Апазыцыя БНФ адкрыта падтрымала Шушкевіча.

Ад блізкіх да Шушкевіча людзей у апараце Вярхоўнага Савету (таго самага дарадцы Івана Сьцяпуры або кіраўніка аддзелу прэсы Васіля Вараб'ёва) я ўжо не ўпершыню чуў пра тое, што Шушкевіч «сасьпеў», што трэба яго падштурхнуць, падтрымаць, «падставіць плячо».

Апошнім разам такое было ў красавіку, калі дарадцы Шушкевіча, якія «сасьпеў да рашучых дзеяньняў», прасілі падтрымаць ідэю пра рэфэрэндум аб уваходжаньні ў сыстэму калектыўнай бясьпекі і я зьбіраў подпісы народных дэпутатаў. Як вядома, гісторыя з рэфэрэндумам скончылася нічым.

Але сказана, што надзея памірае апошняй, і я перадаў просьбу Пазьняку.

Уласна, гэта цалкам супадала з нашымі плянамі — мы заяўлялі пра неабходнасьць скліканьня нечарговай сэсіі, але тут была нагода зьвярнуцца непасрэдна да старшыні Вярхоўнага Савету.

Такую заяву (альбо, як яго яшчэ называлі, «адкрыты ліст»), мы напісалі.

«Паважаны Старшыня, — пісалі мы, — дзеяньні праімпэрскіх і пракамуністычных сілаў на Беларусі ставяць пад пагрозу існаваньне нашай незалежнасьці і дзяржавы. У органах улады адкрыта гаворыцца аб рэанімацыі СССР і імпэрскай адміністрацыйнай сыстэмы. Адкрыта зьневажаецца наша дзяржава, наша гісторыя і мова, нашы нацыянальныя дзяржаўныя сымбалі.

… Усе антыбеларускія ініцыятывы падтрымліваюцца і ініцыююцца Саветам міністраў Беларусі. Тым самым груба, бессаромна парушаюцца абавязкі перад народам і законы дзяржавы. Змоўніцкая антыбеларуская пазыцыя Саўміну выкліканая, перш за ўсё, поўным правалам палітыкі ўраду ў эканоміцы, што паставіла ў вельмі цяжкае становішча наша грамадзтва. Каб пазьбегнуць адказнасьці, людзі, надзеленыя ўладай, што загразьлі ў мафіёзных дачыненьнях, гатовыя чарговым ашуканскім чынам здаць абрабаваную ім дзяржаву і прадаць беларускую незалежнасьць расейскай дзяржаве і расейскай мафіі.

У сувязі з вышэйсказаным прапануем тэрмінова склікаць нечарговую сэсію Вярхоўнага Савету па пытаньні адстаўкі недзеяздольнага кіраваньня Савету міністраў і аб фармаваньні кааліцыйнага ўраду Беларусі».

Заяву падпісалі Зянон Пазьняк, Сяргей Антончык, Уладзімер Заблоцкі, Сяргей Навумчык, Віктар Алампіеў, Павал Холад, Алесь Шут, Іван Герасюк, Юры Беленькі, Барыс Гюнтэр, Алег Трусаў, Віктар Какоўка, Лявон Дзейка, Лявонці Зданевіч, Галіна Сямдзянава, Ігар Пырх, Мікола Маркевіч, Мікалай Аксаміт, Мікалай Крыжаноўскі, Віктар Малашка, Яўген Цумараў.

## Шушкевіч мірыцца з Кебічам

Спадзяваньні на рашучасьць Шушкевіча чарговы раз пацярпелі паразу: ён праігнараваў наш зварот і не скарыстаўся сваім канстытуцыйным правам склікаць сэсію.

Больш за тое — на наступным пасяджэньні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету 29 верасьня Шушкевіч ужо сядзеў побач з Кебічам, яны ўсяляк дэманстравалі ўзаемную прыязнасьць, і Шушкевіч спыняў усялякія нашыя спробы ўзьняць пытаньне аб адказнасьці ўраду і асабіста прэм’ера за цяжкую сытуацыю ў паліўна-энэргетычным комплексе.

«Шушкевіч раптам спыніў усялякія выпады на адрас сваіх учорашніх апанэнтаў. На пасяджэньні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету 29 верасьня старшыня парлямэнту і кіраўнік ураду сядзелі за сталом побач і ніводным словам не закранал адзін аднаго. Больш за тое, Шушкевіч рашуча спыняў спробы дэпутатаў апазыцыі схіліць абмеркаваньне да тэмы адказнасьці ўраду за правал у забесьпячэньні рэспублікі энэрганосьбітамі. З колаў, блізкіх да прэм’ер-міністра, стала вядома, што напярэдадні Шушкевіч правёў шырокія кансультацыі з прадстаўнікамі парлямэнцкай большасьці, а таксама меў гутарку і зь Вячаславам Кебічам. Па-за сумневам, Шушкевіч чарговы раз, зусім нечакана для сваіх прыхільнікаў, даў “задні ход” і не асьмеліўся на апошні рашучы крок, да якога яго пастаянна штурхала апазыцыя і які мог карэнным чынам паўплываць на ягоны палітычны лёс. Гэты крок — патрабаваньне адстаўкі ўраду і яго прэм’ер-міністра», — пісаў я ў пачатку кастрычніка ў выпуску штотыднёвага актуальнага аналізу інфармагенцтва «Павет».

Неўзабаве мы яшчэ раз запатрабуем ад Шушкевіча скліканьня нечарговай сэсіі — гэта ўжо будзе наўпрост зьвязана з драматычнымі падзеямі ў Маскве і актывізацыяй антынезалежніцкіх сілаў у Беларусі.

***Галіна Сямдзянава** (Наваградзкая гарадзкая выбарчая акруга № 262, Горадзенская вобласьць): Я зрабіла запыт да старшыні КДБ і старшыні Савету міністраў. Спадар Шыркоўскі своечасова даў адказ. Якое ж было маё абурэньне і зьдзіўленьне, калі з парушэньнем тэрмінаў я атрымала ад Саўміну за подпісам начальніка ўпраўленьня грамадзкай бясьпекі і абароны спадара Данілава той самы адказ, які яшчэ 10 дзён таму мела за подпісам старшыні КДБ. У сувязі з гэтым пытаньне. Ці варта трымаць у Савеце міністраў вялікі штат чыноўнікаў з салíднымі акладамі, якія займаюцца не канкрэтнай справай, а перасылаюць паперкі з адной арганізацыі ў другую і займаюцца каардынацыяй грамадзка-палітычных рухаў камуністычнага накірунку за дзяржаўны кошт?*

*Выступ у «Розным»*

# БНФ ПАДТРЫМЛІВАЕ РАШУЧАСЬЦЬ ЕЛЬЦЫНА

Увесь 1992 год мы гаварылі пра рэфэрэндум і датэрміновыя выбары. У 1993-м і рэфэрэндум, і выбары адбыліся — але не ў Беларусі, а ў Расеі.

У красавіку ў Расеі адбыўся рэфэрэндум пра давер да прэзыдэнта і пра неабходнасьць датэрміновых выбараў. 58,75 % удзельнікаў рэфэрэндуму выказаліся за давер, 53 % ухвалілі сацыяльна-эканамічную палітыку Ельцына і ягонага ўраду, 49,5 % палічылі патрэбным датэрміновыя выбары прэзыдэнта і 67,2 % былі за тое, каб правесьці датэрміновыя выбары народных дэпутатаў Расеі.

І хоць вынікі рэфэрэндуму ў частцы датэрміновых выбараў ня мелі абавязковага характару, прэзыдэнт Барыс Ельцын успрыняў іх як падтрымку народа ў супрацьстаяньні з камуністычным парлямэнтам.

21 верасьня Ельцын заявіў, што распускае Вярхоўны Савет і прызначае новыя выбары. Паводле Канстытуцыі Расеі, Ельцын ня меў права на такі крок — але, як ён заявіў, перад гэтым вычарпаў усе магчымасьці канстытуцыйнага разьвязаньня канфлікту паміж прадстаўнічай і выканаўчай уладай. Заходнія лідэры, у асноўным, падтрымалі Ельцына.

Дзеяньні Ельцына і цяпер ацэньваюцца па-рознаму, найперш адносна іх канстытуцыйнасьці. Паводле майго перакананьня (гэтак сама я лічыў і ў 1993 годзе), трэба найперш браць пад увагу сутнасьць тагачаснай расейскай Канстытуцыі, якая была прынятая яшчэ ў савецкія, камуністычныя часы, і менавіта таму была вельмі прыдатная для

антыдэмакратычных, шавіністычных сілаў. Закладзеныя ў расейскім Асноўным законе нормы яны выкарыстоўвалі напоўніцу, каб спыніць дэмакратычныя і эканамічныя рэформы (якія Ельцын усё ж праводзіў, хоць і непасьлядоўна) і вярнуць грамадзтва ў таталітарызм. Гэта былі тыя самыя сілы, зь якімі салідарызаваліся камуністы і шавіністы ў Беларусі, гэта да іх у Маскву езьдзілі Лукашэнка, Казлоў і Булахаў. Аддаць Расею ў іх рукі было б непараўнальна горш, чым парушыць нормы Асноўнага закону.

Быў і яшчэ адзін важны аспэкт: Ельцын, распускаючы Вярхоўны Савет, абвяшчаў рэфэрэндум аб новай Канстытуцыі і, адначасна, выбары новага парлямэнту. Такім чынам, ён даваў народу права вызначыць дзяржаўны лад, а менавіта народ у дэмакратычных краінах і ёсьць крыніцай улады.

Гэтае рашэньне Ельцына (як і празь некалькі дзён штурм будынку Вярхоўнага Савету), на мой погляд, было адзіным шанцам спыніць «чырвона-карычневых», якія, захапіўшы ўладу ў Маскве, безумоўна, не спыніліся б на Расеі — і першай была б зьнішчаная Беларусь як сувэрэнная дзяржава, балазе ў кіраўніцтве Саўміну хапала прыхільнікаў Хасбулатава і Макашова і праціўнікаў беларускай незалежнасьці.

Зь цягам часу, аналізуючы падзеі восені 1993-га, я пераканаўся, што Ельцына можна папракнуць толькі ў адным — ня ў тым, што ён зрабіў, а ў тым, чаго не зрабіў.

У першыя тыдні пасьля правалу ГКЧП у жніўні 1991-га, калі абрынулася КПСС, калі аўтарытэт Ельцына быў у народзе як ніколі высокі (у адрозьненьне ад рэнамэ прэзыдэнта фармальна існуючага

СССР Гарбачова), калі чыноўнікі і ў Маскве, і ў рэгіёнах баяліся за свой лёс і гатовыя былі выканаць які заўгодна загад пераможцы (а менавіта Ельцын справядліва лічыўся пераможцам) — вось у гэтыя тыдні кіраўнік Расеі мусіў зрабіць самыя рашучыя крокі, каб канчаткова зьнішчыць рэшткі камуністычнай сыстэмы.

Гэта было б лягічна і гістарычна справядліва — як справядлівай і неабходнай была ліквідацыя рэштак нацысцкага дзяржаўнага ладу і нацысцкай ідэалёгіі ў Нямеччыне. Тады, у 1945-м, нікому зь пераможцаў не прыходзіла ў галаву спыніцца перад пытаньнем — а ці адпавядаюць іх дзеяньні законам Трэцяга Райху? А ці не закрануць яны пачуцьці сотняў тысяч «простых» членаў нацысцкай партыі, якія непасрэдна ня мелі дачыненьняў да злачынстваў гітлераўскага рэжыму?

Прызнаньне ўказам злачыннага характару камуністычнай партыі і яе забарона, забарона камуністычных і пракамуністычных выданьняў, вынас Леніна з Маўзалея, ліквідацыя КДБ і поўнае, у максымальна кароткі тэрмін, адкрыцьцё яго архіваў, прызначэньне новых выбараў у парлямэнт (які, калі б абіраўся ў верасьні-кастрычніку 1991-га, адназначна быў бы дэмакратычным) — вось толькі некаторыя дзеяньні, якія мусіў бы зрабіць Ельцын у канцы жніўня — пачатку верасьня.

Такія крокі станоўча паўплывалі б і на сытуацыю ў іншых былых рэспубліках, у Беларусі (Апазыцыя БНФ, натуральна, ня мела такіх магчымасьцяў, якія меў Ельцын. Ня меў іх і новаабраны старшыня Вярхоўнага Савету Шушкевіч).

Замест гэтага ў апошнія дні жніўня Ельцын вуснамі свайго прэсавага сакратара пагразіў былым

савецкім рэспублікам, якія асьмеліліся абвясьціць незалежнасьць, а потым на некалькі тыдняў паляцеў у рэзыдэнцыю пад Сочы. Чым ён займаўся ў той рэзыдэнцыі — невядома; памятаю, адны казалі, што абдумвае палітычныя пляны, другія — што па-руску адзначае перамогу. Зусім магчыма, што рацыю мелі і адны, і другія.

Так ці інакш, але час быў страчаны. Тры месяцы пайшлі на змаганьне з Гарбачовым за ўладу і супольна з Гарбачовым — у імкненьні захаваць тое, што называлася Савецкім Саюзам. Пасьля падпісаньня пагадненьняў аб ліквідацыі СССР у Віскулях пачаліся гайдараўскія эканамічныя рэформы. На першым іх этапе ўзровень жыцьця людзей вельмі моцна пагоршыўся, мільёны апынуліся ў жабрацтве, аўтарытэт Ельцына пачаў зьніжацца, і ён ужо ня меў той падтрымкі, якая дазваляла б яму зрабіць тое, што ён мог зрабіць увосень 1991-га.

Затое антыдэмакратычныя пракамуністычныя сілы пачалі ўмацоўваць свае структуры і свой аўтарытэт. Менавіта з гэтымі сіламі і стасаваліся антынезалежніцкія арганізацыі ў Беларусі (Славянскі Сабор «Белая Русь», камуністычная партыя, Саюз афіцэраў ды іншыя, якія ўвайшлі ў склад так званага Народнага руху Беларусі на чале зь Сяргеем Гайдукевічам).

## Барадулін: Расейскі мядзьведзь прачнуўся

«Расея раздвойваецца, — пісаў у верасьні 1993-га аглядальнік «Звязды» Валянцін Жданко. — Выканаўчая ўлада на месцах, прызначаная прэзыдэнтам, у асноўным падтрымлівае яго. Мясцовыя саветы ў значнай колькасьці выпадкаў сталі на бок Кансты-

туцыі і Вярхоўнага Савету. На жаль, такое супрацьстаяньне можа стаць дэтанатарам кровапраліцьця, грамадзянскай вайны. Яно павінна ахаладзіць тых нашых прыхільнікаў аб'яднаньня з Расеяй, якія з такім патасам гаварылі ў апошнія месяцы пра канфэдэрацыю і фэдэрацыю».

Валянцін Жданко ў сваёй публікацыі даў меркаваньні «вядомых у нашай краіне людзей».

«Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі: Лічу, што падзеі, якія адбыліся ў Маскве, лягічныя, яны павінны былі адбыцца нават раней. Нарэшце гэты расейскі мядзьведзь прачнуўся і рашуча заявіў тое, што трэба было заявіць. Думаю, што большасьць павінна падтрымаць Ельцына. Таму што Ельцын пры ўсіх яго недахопах усё-такі працягвае лінію дэмакратыі. Думаю, гэта трохі астудзіць пал і пыл нашых працаўнікоў так званага парлямэнту, якія хочуць увайсьці ў Расею як састаўная яе частка, пакончыць зь незалежнасьцю. У нас на Беларусі то ў свой час прымервалі канфэдэратку, то цяпер канфэдэрацыю прымерваюць. Думаю, што ўсё-такі пара нам прымераць свой нацыянальны гарнітур і мець свой нацыянальны твар.

Сяргей Гайдукевіч, старшыня Народнага руху Беларусі: Як ставіцца да чалавека, які праігнараваў усе канстытуцыйныя нормы? А калі заўтра, гледзячы на старэйшых братоў у бліжнім замежжы, нехта ў нас на Беларусі захоча парушыць Канстытуцыю? У мяне няма ніякіх сумненьняў, што Ельцын атрымае ад расейскіх рэспублік і рэгіёнаў адэкватную рэакцыю. Нехта таксама захоча праігнараваць усе ягоныя ўказы і стаць самастойным. Мы страцілі магутную дзяржаву — а цяпер і Расею па кусках разарвуць, застануцца краі і вобласьці.

І скупяць іх разам зь Беларусьсю за даляры і нямецкія маркі. А мы потым будзем гаварыць, што незалежныя… Я не падпісаў заяву аб імкненьні да канфэдэрацыі з Расеяй, якую перадаў Генадзь Іванавіч Казлоў (каардынатар групы «Беларусь», пракебічаўскай парлямэнцкай большасьці, першы намесьнік начальніка ўпраўленьня грамадзкай бясьпекі і абароны Савету міністраў. Паказальна, што адзін з кіраўнікоў абароны дзяржавы выступіў за ліквідацыю незалежнасьці гэтай дзяржавы — С. Н.). Чаму? Як можна аб'ядноўвацца зь дзяржавай, калі незразумела, што зь ёй будзе заўтра. А заўтра, можа здарыцца, таварыш Хасбулатаў абвесьціць сябе адзіным законьнікам і здолее перамагчы Ельцына. І яны зьнішчаць выканаўчую ўладу. А далей што будзе? Таму я быў і застаюся за эканамічны саюз са славянскімі народамі. І вельмі шкадую, што ўсё так адбылося ў Расеі… А адбываецца там распад дзяржавы. Бо абласныя, краявыя, гарадзкія саветы выконваць указ Ельцына ня будуць — яны прынялі гэтае рашэньне на сваіх сэсіях і прэзыдыюмах. А выканаўчыя органы, прызначаныя прэзыдэнтам, будуць патрабаваць выкананьня… Можна ўявіць, якім драматычным будзе працяг сытуацыі.

Сяргей Навумчык, каардынатар Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце: Зразумела, што падзеі ў нашых усходніх суседзяў ня могуць не адбіцца на палітычных працэсах, якія ідуць на Беларусі. Мы сьведкі таго, што так заўсёды бывае. Апазыцыя БНФ прыняла заяву, у якой падтрымала дзеяньні прэзыдэнта Расеі Ельцына, выказала спадзяваньне, што яны пойдуць на карысьць дэмакратызацыі і на карысьць народу Расеі. Адначасова Апазыцыя прыняла адкрыты ліст да Старшыні Вярхоўнага Савету

Станіслава Шушкевіча, у якім прапануе як мага хутчэй склікаць сэсію, каб разглядзець на ёй пытаньне аб стварэньні часовага кааліцыйнага ўраду і абвяшчэньні даты новых парлямэнцкіх выбараў. Я перакананы, што Ельцыну ўдасца задуманае, народ яго падтрымае. І такія больш радыкальныя дэмакратычныя зрухі ў Расеі станоўчым чынам паўплываюць і на падзеі на нашай зямлі.

Міхась Савіцкі, народны мастак СССР: «Я не настолькі палітык, каб меркаваць, хто мае, а хто ня мае рацыі ў гэтай блытаніне, хто зь іх больш парушае закон — Вярхоўны Савет або Ельцын. Ясна іншае: Ельцын пайшоў на рэзкую канфрантацыю, аж да расколу і магчымасьці грамадзянскай вайны. Я лічу, што гэта правакуе ня столькі Вярхоўны Савет, колькі Ельцын. І таму ня згодны з падтрымкай, якую выказаў ад свайго імя, гаворачы ад імя Беларусі, Станіслаў Шушкевіч. Наша пазыцыя ў гэтым выпадку павінна быць староньняя. Мы настолькі залежныя эканамічна, што — хто б ні быў пры ўладзе ў Расеі — зь імі трэба мець кантакт. У нас павінна быць пазыцыя неўмяшаньня. А асабіста я лічу гэты крок з боку Ельцына правакацыйным» («Звязда», 25 верасьня 1993).

Міхась Савіцкі какетнічаў, адмаўляючы сябе як палітычную фігуру. Ён быў народным дэпутатам СССР, пасьля абвяшчэньня незалежнасьці падтрымліваў панславісцкія, арыентаваныя на Расею, групоўкі. Ну а Сяргей Гайдукевіч увогуле быў актыўным палітыкам, высокапастаўленым чыноўнікам апарату Савету міністраў і па сумяшчальніцтве кіраўніком Народнага руху Беларусі, у які, як я ўжо казаў, уваходзілі самыя антынезалежніцкія арганізацыі.

Плач па страце «магутнай дзяржавы» — традыцыйны элемэнт тагачасных інтэрвію Гайдукевіча. «Я не заклікаю да вяртаньня ў колішні СССР. Не падабаецца слова Саюз — дай Божа, давайце заменім яго іншым. Але разбураны агульны дом трэба аднаўляць» — заявіў ён праз паўтара месяца («Рэспубліка», 4 лістапада 1993). Не інакш, Беларусь домам Гайдукевіч не лічыў, дом у яго разуменьні — толькі «агульны». І, канешне, з Расеяй.

«Апанэнты часта называюць вас чырвона-карычневымі?» — запытаўся ў тым інтэрвію ў «Рэспубліцы» журналіст Ігар Гукоўскі, актыўны член Славянскага сабору «Белая Русь», які выступаў супраць незалежнасьці Беларусі і за аб’яднаньне з Расеяй. «Відавочна, таму, што ў склад НРБ уваходзяць камуністы і Славянскі сабор», — адказаў Гайдукевіч. Але менавіта спалучэньне кампартыі і Славянскага сабору (як казалі тады, СС «Белая Русь») мы тады называлі камуна-фашызмам у Беларусі. Дарэчы, «Рэспубліка» была органам Савету міністраў; за ўсе гады існаваньня газэты ня памятаю, каб газэта зрабіла інтэрвію зь лідэрам БНФ Зянонам Пазьняком ці дэпутатамі Апазыцыі БНФ.

Насамрэч, аб’ядноўвацца з Расеяй Гайдукевіч вельмі жадаў — да моманту, пакуль «чырвона-карычневыя» ў Маскве нарошчвалі энэргію наступу на Ельцына і ягоных рэфарматараў. Пацьверджаньне таму — шматлікія заявы арганізацыяў, якія ўваходзілі ў Народны рух Гайдукевіча. Але «прачнуўся мядзьведзь», як сказаў Барадулін — і запахла паразай, і Гайдукевіч вырашыў пачакаць, чыя возьме. Ну а праз тры гады, калі ўвосень 96-га Лукашэнка зламае Канстытуцыю, Гайдукевіч яго

падтрымае, забыўшыся на свае словы пра «канстытуцыйныя нормы».

Між іншым, у тым жа самым нумары «Звязды» была зьмешчаная пастанова Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету за подпісам Станіслава Шушкевіча ў справе грашова-крэдытнай палітыкі, дзе ўхваляліся захады Саўміну і Нацыянальнага банку (ім кіраваў Станіслаў Багданкевіч) «па стварэньні рублёвай зоны новага тыпу і аб'яднаньні грашовай сыстэмы Расейскай Фэдэрацыі з грашовай сыстэмай Рэспублікі Беларусь». Так што працэс паступовага аб'яднаньня на ўзроўні «ўмераных» (у адрозьненьне ад радыкальных шавіністычных) палітыкаў працягваўся няўхільна.

## Ельцын падаўляе пракамуністычны мяцеж

У кастрычніку ў Маскве пракамуністычныя, шавіністычныя сілы паспрабавалі захапіць уладу, адбыўся штурм тэлецэнтру. Вынікам быў абстрэл з танкавых гарматаў Белага дому, дзе забарыкадаваліся дэпутаты Вярхоўнага Савету. CNN ды іншыя сусьветныя тэлекампаніі вялі наўпроставую трансьляцыю з Масквы, а ў Менску ва ўладарных калідорах чакалі, хто пераможа. Перамог Ельцын.

Бадай, ёсьць патрэба патлумачыць сутнасьць маскоўскай падзеі і нашае да яе стаўленьне, паколькі вельмі часта яна інтэрпрэтуецца як расстрэл аўтарытарным прэзыдэнтам законнага парлямэнту. Адпаведна, тыя, хто выказаўся тады ў падтрымку Ельцына, падвяргаюцца крытыцы нават з боку, здавалася б, дэмакратычна настроеных палітыкаў, публіцыстаў і аўтараў біяграфічных дасьледаваньняў. Так, давялося чытаць гэткае адносна заявы

пісьменьнікаў, прынятай у тыя дні (так званы «ліст сарака двух»).

«Няма ні жаданьня, ні неабходнасьці падрабязна камэнтаваць тое, што здарылася ў Маскве 3 кастрычніка, — пісалі аўтары. — Адбылося тое, што не магло не адбыцца з-за нашых з вамі бестурботнасьці і глупства, — фашысты ўзяліся за зброю, спрабуючы захапіць уладу. Дзякуй Богу, армія і праваахоўныя органы апынуліся з народам, не раскалоліся, не дазволілі перарасьці крывавай авантуры ў згубную грамадзянскую вайну, ну а калі б раптам?.. Нам не было б каго вінаваціць, акрамя саміх сябе. Мы “жаласьліва” прасілі пасьля жніўеньскага путчу (1991-га — С. Н.) ня “помсьціць”, не “караць”, не “забараняць”, не “закрываць”, не “займацца пошукамі вядзьмарак”. Нам вельмі хацелася быць добрымі, велікадушнымі, памяркоўнымі. Добрымі... Да каго? Да забойцаў? Памяркоўнымі... Да чаго? Да фашызму? І ведзьмы, а дакладней — чырвона-карычневыя пярэваратні, абклеілі на вачах міліцыі сьцены сваімі атрутнымі лісткамі, …тлумачачы, як менавіта яны будуць усіх нас вешаць... Мы не заклікаем ні да помсты, ні да жорсткасьці, хоць смутак аб новых нявінных ахвярах і гнеў да халаднакроўных іхных катаў перапаўняе нашы (як, напэўна, і вашы) сэрцы... Гісторыя яшчэ раз дала нам шанец зрабіць шырокі крок да дэмакратыі і цывілізаванасьці. Не выпусьцім жа такі шанец яшчэ раз, як гэта было ўжо не аднойчы!».

Аўтары ліста заклікалі расейскага прэзыдэнта забараніць пракамуністычныя і нацыяналістычныя партыі і пэрыядычныя выданьні, увесьці ў дзеяньне пакараньне за прапаганду фашызму і шавінізму, спыніць дзейнасьць Зьезду народных

дэпутатаў і Вярхоўнага Савету Расеі, а таксама Канстытуцыйнага суду (які фактычна стаў на бок Вярхоўнага Савету).

Падпісалі ліст, сярод іншых, Бэла Ахмадуліна, Марыета Чудакова, Віктар Астаф’еў, Грыгоры Бакланаў, Барыс Васільеў, Данііл Гранін, Юры Каракін, Юры Нагібін, Булат Акуджава, Анатоль Прыстаўкін, Роберт Раждзесьцьвенскі, акадэмік Дзьмітры Ліхачоў. З усіх літаратараў рэспублік былога СССР ліст падпісалі толькі двое — беларусы Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў; мяркую, паколькі Адамовіч жыў тады ў Маскве, ён і мог прапанаваць Быкаву паставіць подпіс (але, магчыма, гэта зрабіў сябра Быкава Валянцін Аскоцкі, чыё прозьвішча таксама стаіць у сьпісе падпісантаў).

Паўтаруся, што факт падпісаньня ліста сёньня (2018 год) збольшага асуджаецца нават у дэмакратычных колах расейскага грамадзтва, ня кажучы пра абразы і праклёны з боку пракрамлёўскіх адэптаў «русского мира». Для мяне гэта — дакладны індыкатар пераменаў, якія адбыліся ў расейскім грамадзтве, адыход некуды ў бок ад каштоўнасьцяў дэмакратыі. Тады, у кастрычніку 1993-га, подпісы пад зваротам толькі ўмацавалі ў маіх вачах аўтарытэт (у тым ліку — і маральны) маіх любімых аўтараў, кнігі якіх я чытаў у юнацтве і, дасьць Бог, буду чытаць у старасьці.

## БНФ патрабуе пазбавіць Лукашэнку дэпутацкіх паўнамоцтваў

Дэпутаты Апазыцыі БНФ, адразу выступілі ў падтрымку рашучых дзеяньняў Ельцына. Пасьля маскоўскіх драматычных падзеяў мы прынялі зва-

рот, які лічу найбольш важным у 1993 годзе, нароўні з заявамі супраць уваходжаньня Беларусі ў сыстэму калектыўнай бясьпекі.

«Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь ухваляе рашучыя дзеяньні прэзыдэнта Расеі спадара Ельцына па ліквідацыі чарговага фашыстоўска-камуністычнага мяцяжу ў Маскве, распачатага экстрэмістамі 3 кастрычніка. Мы выказваем спачуваньні родным і блізкім нявінна забітых людзей у Расеі, асуджаем камуністычных і фашыстоўскіх забойцаў.

Апазыцыя БНФ лічыць, што злачынныя сілы разбою і вайны ў Расейскай Фэдэрацыі вялі падрыхтоўку да мяцяжу ў Маскве сумесна з камуністамі і пракамуністычнымі, праімпэрскімі арганізацыямі на Беларусі, зьвяртае ўвагу на сувязь дзеяньняў камуністаў Беларусі і Расеі. Грамадзкім выяўленьнем гэтай сувязі і падрыхтоўкі мяцяжу стаў так званы “Кангрэс народу Беларусі”, зьмест якога быў скіраваны на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасьці і аднаўленьне таталітарнага СССР.

Грамадзтва Беларусі стала сьведкам здрады Радзіме часткі дэпутатаў пракамуністычнай большасьці Вярхоўнага Савету Беларусі, якія ўступілі ў злачынную змову са старшынём былога Вярхоўнага Савету Расеі і арганізатарам крывавага мяцяжу — Русланам Хасбулатавым і іншымі чырвона-карычневымі сіламі, узначальванымі сп. Зюганавым, Сьцерлігавым і інш. Усё гэта адбывалася пры спагадных адносінах пэўных структураў і асобаў ураду Беларусі (Г. Данілава, С. Гайдукевіча, В. Паўлава і інш.).

І. Сярэдзічу – просьба надрукаваць у бліжэйшым нумары.
С. Навумчык

**ЗВАРОТ**
**Апазіцыі БНФ да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь**

Апазіцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусі ўхваляе рашучыя дзеяньні прэзідэнта Расеі спадара Ельцына па ліквідацыі чарговага фашыстоўска-камуністычнага мяцяжа ў Маскве, распачатага экстрэмістамі 3-га кастрычніка. Мы выказваем спачуваньні родным і блізкім нявінна забітых людзей у Расеі, асуджаем камуністычных і фашысцкіх забойцаў.

Апазіцыя БНФ лічыць, што злачынныя сілы разбою і вайны ў Расейскай Федэрацыі вялі падрыхтоўку да мяцяжа ў Маскве сумесна з камуністамі і пракамуністычнымі, праімперскімі арганізацыямі на Беларусі, зьвяртае ўвагу на сувязь дзеяньняў камуністаў Беларусі і Расеі. Грамадзкім выяўленьнем гэтай сувязі і падрыхтоўкі мяцяжу стаў так званы "Кангрэс народу Беларусі", зьмест якога быў скіраваны на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і аднаўленьне таталітарнага СССР.

Грамадзтва Беларусі стала сьведкам здрады Радзіме часткі дэпутатаў пракамуністычнай большасьці Вярхоўнага Савета Беларусі, якія ўступілі ў злачынную змову са Старшынёй былога Вярхоўнага Савета Расеі і арганізатарам крывавага мяцяжа – Русланам Хасбулатавым і іншымі чырвона-карычневымі сіламі ўзначальваемымі сп. сп. Зюганавым, Стэрлігавым і інш. Усё гэта адбывалася пры спагадных адносінах пэўных структураў і асобаў урада Беларусі (Г.Данілава, С.Гайдукевіча, В.Паўлава і інш.).

Мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ, настойваем на тэрміновым скліканьні нечарговай Сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі.

Мы патрабуем ад Савета Міністраў Беларусі тэрміновых захадаў. Менавіта:

– забясьпечыць бясьпеку тэрыторыі Рэспублікі Беларусі ад пранікненьня злачынных груповак і асобаў пасьля разгрому фашысцка-камуністычнага мяцяжа ў Расеі;

– тэрмінова ўвесьці дакументальны і мытны кантроль на межах Беларусі з Расеяй, а ў бліжэйшы час разглядзець пытаньне аб увядзеньні візавага рэжыму;

– забараніць дзейнасьць камуністычных і праімперскіх партыяў і арганізацыяў на Беларусі (ПКБ-КПБ-КПСС, ДСПС, Саюз афіцэраў, Славянскі Сабор "Белая Русь").

Мы зьвяртаемся да Генеральнага пракурора Беларусі сп. В.Шаладонава з патрабаваньнем прыступіць да рассьледваньня антыдзяржаўнай дзейнасьці гэтых арганізацыяў, ступені іх удзелу ў камуністычным мяцяжы ў Расеі і ў падрыхтоўцы гэтага мяцяжу.

Мы лічым неабходным паставіць пытаньне перад Вярхоўным Саветам аб пазбаўленьні дэпутацкіх паўнамоцтваў народных дэпутатаў Беларусі Генадзя Казлова, Мікалая Скарыніна, Аляксандра Лукашэнкі, Івана Трусава, Мікалая Грынёва, якія выступілі супраць незалежнасьці Беларусі. Мы ставім пытаньне аб рассьледаваньні Генеральным пракурорам Беларусі іх магчымага ўдзелу ў падрыхтоўцы камуністычнага мяцяжу у Расеі і ў дзеяньнях накіраваных на ліквідацыю суверэнітэта і дзяржаўнасьці Беларусі пра што большасьць зь іх неаднаразова публічна засьведчылі.

Мы патрабуем неадкладна спыніць распаўсюджваньне на Беларусі расейскіх камуністычных і фашыстоўскіх газэт ("Правда", "Советская Россия", "День" і г.д.).

Мы лічым недапушчальным знаходжаньне на тэрыторыі Беларусі кіраўнікоў кампартыяў іншых краінаў (сп.сп. Буракявічуса, Шведа і інш.), якія прасьледуюцца ў гэтых краінах па закону за крымінальныя дзеяньні.

Народныя дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце:
З.Пазьняк, У.Заблоцкі, В.Голубеў, Л.Баршчэўскі, М.Крыжаноўскі, С.Навумчык, Г.Сямдзянава, Б.Гюнтар, А.Трусаў, В.Алампіеў, С.Антончык, У.Новік, Ю.Беленькі, Л.Зданевіч, І.Пырх, Л.Тарасенка, В.Малашка, І.Германчук, Л.Дзейка, І.Герасюк, А.Шут, П.Холад, Я.Цумараў, В.Даўгалёў (член дэпутацкай групы "Згода").

Заява дэпутатаў Апазыцыі БНФ з патрабаваньнем пазбавіць А. Лукашэнку дэпутацкіх паўнамоцтваў.

Мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, настойваем на тэрміновым скліканьні нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету Беларусі.

Мы патрабуем ад Савету міністраў Беларусі тэрміновых захадаў. Менавіта:

Забясьпечыць бясьпеку тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ад пранікненьня злачынных груповак і асобаў пасьля разгрому фашыстоўска-камуністычнага мяцяжу ў Расеі;

Тэрмінова ўвесьці дакумэнтальны і мытны кантроль на межах Беларусі з Расеяй, а ў бліжэйшым часе разгледзець пытаньне аб увядзеньні візавага рэжыму;

Забараніць дзейнасьць камуністычных і праімпэрскіх партыяў і арганізацыяў на Беларусі (ПКБ-КПБ-КПСС, ДСПС, Саюз афіцэраў, Славянскі сабор “Белая Русь”).

Мы зьвяртаемся да Генэральнага пракурора сп. В. Шаладонава з патрабаваньнем прыступіць да расьсьледаваньня антыдзяржаўнай дзейнасьці гэтых арганізацыяў, ступені іх удзелу ў камуністычным мяцяжы ў Расеі і падрыхтоўцы гэтага мяцяжу.

Мы лічым неабходным паставіць пытаньне перад Вярхоўным Саветам аб пазбаўленьні дэпутацкіх паўнамоцтваў народных дэпутатаў Беларусі Генадзя Казлова, Мікалая Скарыніна, Аляксандра Лукашэнкі, Івана Трусава, Мікалая Грынёва, якія выступілі супраць незалежнасьці Беларусі. Мы ставім пытаньне аб расьсьледаваньні Генэральным пракурорам Беларусі іх магчымага ўдзелу ў падрыхтоўцы камуністычнага мяцяжу ў Расеі і ў дзеяньнях, накіраваных на ліквідацыю сувэрэнітэту і дзяржаўнасьці Беларусі, пра што большасьць зь іх неаднаразова публічна засьведчылі.

Мы патрабуем неадкладна спыніць распаўсюджаньне на Беларусі расейскіх камуністычных і фашыстоўскіх газэт (“Правда”, “Советская Россия”, “День” і г. д.).

Мы лічым недапушчальным знаходжаньне на тэрыторыі Беларусі кіраўнікоў кампартыяў іншых краінаў (спсп. Буракявічуса, Шведа і інш.), якія прасьледуюцца ў гэтых краінах па закону за крымінальныя дзеяньні».

Заяву падпісалі Зянон Пазьняк, Уладзімер Заблоцкі, Валянцін Голубеў, Лявон Баршчэўскі, Мікалай Крыжаноўскі, Сяргей Навумчык, Галіна Сямдзянава, Барыс Гюнтэр, Алег Трусаў, Віктар Аляміеў, Сяргей Антончык, Уладзімер Новік, Юры Беленькі, Лявонці Зданевіч, Ігар Пырх, Леанід Тарасенка, Віталь Малашка, Ігар Гермянчук, Лявон Дзейка, Іван Герасюк, Алесь Шут, Павал Холад, Яўген Цумараў, Васіль Даўгалёў — пасьля апошняга прозьвішча ішло пазначэньне «член дэпутацкай групы «Згода».

Калі б тое, чаго мы патрабавалі, было зроблена — гісторыя Беларусі наступных дзесяцігодзьдзяў склалася б інакш. Хапіла б аднаго толькі пазбаўленьня дэпутацкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі. Але для гэтага патрэбны быў зусім іншы ўзровень палітычнай адказнасьці і нацыянальнай сьвядомасьці большасьці дэпутатаў.

Тым ня менш, зварот меў эфэкт большы, чым шмат якія папярэднія нашыя заявы.

У мае функцыі як каардынатара Апазыцыі БНФ уваходзіла сувязь з прэсай, у тым ліку распаўсюд нашых заяваў. Найперш, я паслаў факсам тэкст у парлямэнцкую «Народную газэту», пазначыўшы, каб перадалі галоўнаму рэдактару Сярэдзічу для

публікацыі ў найбліжэйшым нумары. Гэта, натуральна, была просьба, а ніякі не загад. Звычайна Сярэдзіч друкаваў нашы заявы, але часам патрэба паставіць на паласу нейкія апэратыўныя матэрыялы адцягвала публікацыю на некалькі дзён. Тут жа трэба было неадкладна, і таму я пазначыў на заяве — «Просьба надрукаваць у найбліжэйшым нумары».

Але гэтага аказалася дастаткова, каб пазьней, на сэсіі Вярхоўнага Савету, Лукашэнка абурана заявіў, што, маўляў, Навумчык дае ўказаньні Сярэдзічу («Народная газэта» надрукавала нашу заяву) Думаю, ён сам цудоўна разумеў, што ніякіх загадаў я рэдактару не даю, проста разьюшыла наша патрабаваньне пазбавіць яго дэпутацкіх паўнамоцтваў.

І яшчэ адно пасьляслоўе да падзеяў восені 1993-га ў Маскве, якія адгукнуліся ў Беларусі. У самы крытычны час прэзыдэнта Расеі Ельцына ягоны ўрад у Менску падтрымалі Станіслаў Шушкевіч, дэпутаты Апазыцыі БНФ, лідэры дэмакратычных партый. Кебіч і ягонае атачэньне і «примкнувший к ним» Лукашэнка былі на баку чырвона-карычневых апанэнтаў Ельцына.

Але зусім хутка, у студзені 1994-га, Ельцын і пальцам не паварухне, каб ўратаваць ад адстаўкі Шушкевіча (дастаткова было аднаго тэлефоннага званка расейскага прэзыдэнта Кебічу), і ніколі, ніводнага разу за ўсе наступныя гады свайго прэзыдэнцтва ня выкажа падтрымку дэмакратычным сілам Беларусі.

Ельцын са спакойным сэрцам успрыме зьбіцьцё дэпутатаў Апазыцыі БНФ у красавіку 1995-га, не адкажа на наш супольны да яго і амэрыканскага прэзыдэнта Біла Клінтана зварот з заклікам выка-

зацца ў абарону дэмакратыі ў Беларусі (ад прэзыдэнта ЗША словы падтрымкі прагучаць), нарэшце, Ельцын будзе абдымацца-цалавацца з Лукашэнкам — у тым ліку і пры падпісаньні дамовы аб стварэньні «саюзнай дзяржавы».

Відавочна, расейскі дэмакрат канчаецца там, дзе пачынаюцца імпэрскія інтарэсы.

***Пётра Шкапіч*** *(Старобінская выбарчая акруга № 92): У панядзелак у Салігорскім раёне адбыўся сход кіраўнікоў сельскай гаспадаркі і прадпрыемстваў АПК. На сходзе адзначалася, што далей працаваць на вёсцы стала немагчыма. Няма паліва для трактароў і аўтамашын, няма мазуту для ацяпляльных кацельняў, няма газу ў кватэрах сяльчан, няма грошай для набыцця самага неабходнага для аплаты працы. У той жа час нарыхтоўшчыкі завінаваціліся вяскоўцам 1,5 мільярда рублёў, а яны бяруць і бяруць крэдыты ўжо пад 210 працэнтаў гадавых, каб разьлічыцца за электраэнэргію, якую з панядзелка таксама пачалі адключаць у калгасах, не даючы падаіць кароў у належны час. Не бачачы выйсьця з такога становішча, гаспадаркі працягваюць заніжаць пагалоўе жывёлы, хаця сваёй цэнавай палітыкай урад змусіў ужо за 4 гады зарэзаць толькі ў Салігорскім раёне 16 710 галоў буйной рагатай жывёлы і 12 300 сьвіней, 19 і 35 працэнтаў адпаведна... Засталося адно выйсьце, па словах майго калегі Журка Міхаіла Міхайлавіча: завесьці астатніх буронак на мясакамбінаты, на апошніх літрах саляркі і бэнзіну, атрымаць у сярэднім на калгас 1,5 мільёна рублёў, палажыць іх пад 200 працэнтаў на дэпазыт у камэрцыйны банк і мець на гэтым 200–300 мільёнаў рублёў на месяц. Гэтых грошай хопіць на заработную плату, без работы і турботы, і на мазут нават па камэрцыйных цэнах, каб грэць дзетак. І ўраду дакучаць ня будзем сваімі праблемамі. Зіму пражывём, а там — Бог бацька.*

*Выступ у «Розным»*

# ШУШКЕВІЧ АДМАЎЛЯЕЦЦА СТВАРАЦЬ КААЛІЦЫЙНЫ ЎРАД

У мяне захаваўся магнітафонны запіс гутаркі Шушкевіча з дэпутатамі Апазыцыі, якая адбылася 6 кастрычніка ў будынку Вярхоўнага Савету на Карла Маркса ў пакоі 408. Першы і апошні раз Шушкевіч сустрэўся з намі на ўласнае жаданьне. Перад гэтым ён атрымаў нашу заяву наконт падзеяў у Маскве (я даслаў яе ў сакратарыят старшыні парлямэнту па факсе).

На сустрэчы былі дэпутаты БНФ Зянон Пазьняк, Валянцін Голубеў, Алег Трусаў, Павал Холад і аўтар гэтых радкоў, дэпутат Іван Бамбіза. Апошні ня вымавіў ні слова і праз некалькі дзён быў абраны намесьнікам старшыні Вярхоўнага Савету. Таксама прысутнічаў целаахоўнік Шушкевіча.

Сустрэча гэтая магла б (ці не ў апошні момант) павярнуць гісторыю Беларусі ад спаўзаньня ў аўтарытарызм — калі б мела той вынік, на які мы разьлічвалі. Мы хацелі, каб Шушкевіч выкарыстаў надзвычай спрыяльны для яго і для дэмакратычных сілаў момант — перамогу Ельцына, зь якім ён меў добрыя адносіны, відавочны правал эканамічнай палітыкі ўраду і запатрабаваў адстаўкі Кебіча, фармаваньня пераходнага кааліцыйнага ўраду і прызначэньня новых выбараў. Пры гэтым Шушкевіч меў магчымасьць праз доступ да жывога тэле- і радыёэтэру зьвярнуцца па падтрымку непасрэдна да беларускага народу.

Напэўна, гэта адзіны захаваны для гісторыі запіс адной зь дзьвюх сустрэчаў Шушкевіча з дэпутатамі Апазыцыі БНФ (першая была ў сьнежні 1991-га,

перад падпісаньнем пагадненьняў у Белавескай пушчы), і мне падалося важным зьмясьціць яе запіс цалкам.

## Сэсія павінна быць палітычнай

Шушкевіч: У апошні час узмацнілася такая тэндэнцыя — даваць шэраг даручэньняў Старшыню Вярхоўнага Савету, даваць іх праз сродкі масавай інфармацыі і пасьля казаць, што ён неяк не рэагуе на іх, не паважае пазыцыі дэпутатаў, і гэтак далей. Учора па факсу я атрымаў зварот Апазыцыі БНФ да кіраўніцтва Вярхоўнага Савету. Вось гэты факс. Па факсу, заўважаю. І подпіс унізе, напісана: «Подпісы дэпутатаў завяраю. Каардынатар Апазыцыі Навумчык». І па факсу атрымаў! Атрымаў я таксама тэлеграму ад Магілёўшчыны. «У сувязі з кровапралітным дзяржаўным крызісам у Расеі і масавымі зваротамі нашых занепакоеных выбаршчыкаў — жыхароў мяжуючай з гэтай дзяржавай вобласьці, мы, дэпутаты Магілёўскага абласнога савету, патрабуем неадкладнага склíканьня надзвычайнай сэсіі Вярхоўнага Савету рэспублікі па разгляду пытаньняў унутрыпалітычнай і эканамічнай сытуацыі на Беларусі, зьвязаных з падзеямі ў Маскве. Дэпутаты Магілёўскага абласнога савету». Ну, і тут — Рослава, Будынка, Плотнікава... і шэраг подпісаў... Рабеньнікаў, Каваленка, Дзямчук...

Я хачу вось што сказаць. Сэсія Вярхоўнага Савету — гэта проста ня жарт. І я быў прыхільнікам таго, да такіх жорсткіх падзей у Маскве, каб склікаць сэсію раней, нечарговую. Але справа ў тым, што любую сэсію трэба рыхтаваць. Бо проста сабраць дэпутатаў і зрабіць з гэтага сход вялікі,

абмяркоўваць любыя пытаньні — я ня маю маральнага права выкарыстаць сваё канстытуцыйнае права, каб такі сход сабраць. Я сёньня зьвяртаюся да дэпутатаў Апазыцыі: скажыце, калі ласка. Вы заклікаеце неадкладна склікаць сэсію. Гэта можна зрабіць. У якой ступені вамі падрыхтаваны матэрыялы, каб іх разглядаць на гэтай сэсіі?

Навумчык: Самае галоўнае пытаньне — Закон аб выбарах, Станіслаў Станіслававіч, Вы ведаеце, падрыхтаваны паўтара года назад, Ён прайшоў пэўную апрабацыю, калі зьбіралі подпісы на рэфэрэндум, і ён гатовы для прыняцьця.

Шушкевіч: Скажыце, калі ласка, што зьмянілася з таго часу, калі Вярхоўны Савет разгледзеў гэтае пытаньне і прыняў па ім рашэньне?

Голубеў: Можна, я адкажу? Станіслаў Станіслававіч, і Вы, і мы, і ўсё грамадзтва сёньня разумее, што Беларусь павінна вызначыцца палітычна, на сёньняшні дзень. І калі склікаць надзвычайную сэсію, яна будзе ня столькі «эканамічнай», колькі «палітычнай». Падзеі, якія адбыліся ў Расеі, яны прайшлі пэўную падрыхтоўку і на Беларусі. Тое, што Вярхоўны Савет пасьля забароненага рэфэрэндуму выказаўся пра выбары ў сакавіку 1994 году, — ня зроблена ніводнага кроку ў гэтым накірунку. І калі зараз склікаць надзвычайную сэсію, мы б бачылі неабходнасьць разгледзець там такія пытаньні. Пытаньне новай Канстытуцыі. Пытаньне поўнасьцю падрыхтаванае. Рашэньне аб прызначэньні даты нечарговых выбараў у Вярхоўны Савет, таму што тэрмін губляецца. Дакумэнт, па якім павінны праводзіцца выбары ў сакавіку 1994 году, павінен, па меншай меры, у лістападзе — пачатку сьнежня ўжо быць даведзены да грамадзкасьці

рэспублікі. Акрамя таго законапраекту аб выбарах, які падрыхтаваны Апазыцыяй, — вы пыталіся, ці мы гатовыя? — ён падрыхтаваны, ён быў раздрукаваны для дэпутатаў Вярхоўнага Савету, ён быў надрукаваны для грамадзтва Рэспублікі.

Мы ведаем, што існуюць яшчэ два законапраекты аб выбарах. Вярхоўны Савет павінен хаця б пагаварыць, вызначыцца, і на сёньняшні дзень мы лічым, што Вярхоўны Савет, у сувязі з чарговымі падзеямі ў Расеі, у сувязі з тым, што шэраг дэпутатаў Вярхоўнага Савету, якія працуюць на вельмі адказных пасадах, выступалі і выступаюць супраць незалежнасьці Беларусі, — за аднаўленьне старога, таталітарнага ладу ў нашай дзяржаве, — таксама павінна гэтае пытаньне быць разгледжана. І калі Вярхоўны Савет сёньня, вось у гэтыя дні, ня вызначыцца па гэтых пытаньнях прынцыповых, палітычных, — то мы ня бачым, як можна разглядаць якія б там ні было эканамічныя пытаньні. І дарэчы, пакуль мы ня вызначымся палітычна, мы мяркуем так, на Вярхоўным Савеце — што нам рабіць? — мы ня маем ніякіх падставаў разглядаць ніякія ратыфікацыйныя дакумэнты ні аб калектыўнай бясьпецы, што прапануецца, ні аб стварэньні якой-небудзь адзінай грашовай сыстэмы з Расеяй, што актыўна прапануецца той самай камуністычнай большасьцю. Мы бачым, што палітычна Вярхоўны Савет павінен вызначыцца. І яшчэ. Станіслаў Станіслававіч! Зусім нядаўна, у 1991 годзе, прыблізна ў такой самай сытуацыі, Вы, калі не былі Старшынём Вярхоўнага Савету, выступалі за скліканьне нечарговай сэсіі якраз для вызначэньня палітычных пытаньняў. Сёньня вы лічыце, што гэтага рабіць ня трэба.

## Ужо няма нават уяўнага плюразізму

Шушкевіч: Я адкажу на ўсе вашыя пытаньні. Я хачу паслухаць, хто яшчэ з прадстаўнікоў Апазыцыі — аўтараў звароту, можа нешта дадаць.

Навумчык: Тут можна дадаць толькі тое, што Валянцін Фёдаравіч забыўся сказаць, ці пакінуў гэта астатнім, — пытаньне, што мы ставім, пра стварэньне кааліцыйнага ўраду. Справа ў тым, што, натуральна, пры існаваньні гэтага ўраду — я ўжо не бяру іншыя моманты, такія як раскраданьне дзяржаўнай маёмасьці, патаканьне, фактычна, карупцыі, і гэтак далей — пры існаваньні гэтага ўраду немагчыма правесьці далей ніякія дэмакратычныя выбары. Калі мы толькі паглядзім, якую палітыку праводзяць гэты Савет міністраў, яго старшыня Кебіч і тыя людзі, хто вакол яго, скажам, хоць бы ў галіне сродкаў масавай інфармацыі, — гэта тое, што мне бліжэй прафэсійна, таму я хачу пра гэта сказаць, — мы зразумеем, што фактычна сытуацыя пагоршылася нават у параўнаньні з 90-м ці 89-м годам. Ужо няма таго хоць бы ўяўнага плюралізму, які быў, падаўляюцца ўсялякія публікацыі, не пускаюць на паласу.

Але самае горшае, што ня толькі ня дадзена права дэмакратычным і іншым партыям — дэмакратычным партыям — голасу, але, на жаль, сродкі масавай інфармацыі, дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, вядуць антыдзяржаўную палітыку. Заўтра ў нас будзе адпаведная камісія па гэтым пытаньні, мы там будзем канкрэтна гаварыць, прымаць, відаць, пэўныя канкрэтныя рашэньні. Але справа ў тым, што гэты кааліцыйны ўрад, як мы лічым, павінен дасягнуць трох мэтаў.



Антыкарупцыйны мітынг БНФ. Валянцін Голубеў, Зянон Пазьняк, Уладзімер Заблоцкі, Сяргей Навумчык.

Першая — гарантаваць пачатак передумоваў для рыначных рэформаў, спыніць гэтае раскраданьне маёмасьці. Другое — гарантаваць правы асобы, у тым ліку і права свабоды слова. І трэцяе — правесьці выбары. Гэта ўрад на 7–8 месяцаў, гэта ўрад бяз гэтага старшыні Савету міністраў, гэта ўжо, так сказаць, адназначна, і працэдуры галасаваньня па гэтым урадзе могуць быць распрацаваныя, яны ў нас таксама ёсьць.

Шушкевіч: Дзе яны ў вас ёсьць? Вы мне прапануеце склікаць сэсію. Вы не накіравалі ніводнага распрацаванага дакумэнта. Ніводнага!

Пазьняк: Няма сэнсу вам накіроўваць. Усё, што накіравана...

Шушкевіч: Тады ня трэба да мяне зьвяртацца!

Пазьняк: А мы да вас не зьвярталіся!

Шушкевіч: Вы мне прабачце...

Пазьняк: Прабачце, вы нас запрасілі сюды.

Шушкевіч: Вось ваш подпіс стаіць, пад пісьмовым зваротам! Я нешта не разумею.

Пазьняк: Подпіс — гэта пачаць сэсію.

Шушкевіч: Так.

Пазьняк: Так. Але вы ж адмовіліся...

Шушкевіч: Я ж вам кажу: як жа я яе магу пачаць, калі няма ніводнага дакумэнта? Добра. Хто яшчэ хоча выказацца з прадстаўнікоў звароту? Калі ласка.

Трусаў: Станіслаў Станіслававіч, мы ставілі пытаньне і ставім, што гэтую сэсію, для таго, каб яе склікаць, ня трэба распрацаваных дакумэнтаў.

Пазьняк: Так!

## «Беларуская дзяржава стане Северо-Западным краем»

Трусаў: Я вам растлумачу, чаму. Таму, што зараз ад вас асабіста вырашаецца лёс: ці будзе дзяржава Беларусь такая, ці яе ня будзе. Старшыня і яго Саўмін — гэта зразумелая рэч. Яго выступ у Гомелі, у нас ёсьць стужка... яго выступ у Мазыры паказаў, што яму незалежная Беларусь ня трэба. Я сам бачыў па тэлебачаньні, як ён заявіў, што «вы немножко подождите, мы этот постепенно Союз восстановим. Вы немножко подождите». Раз. Падругое. Ідзе шалёная кампанія супраць нашай мовы, супраць сымболікі, супраць усяго сьвятога. Больш таго, паглядзіце, што робіцца. Вы выказваецеся ў падтрымку Ельцына — а ў той час ідуць пікеты насупраць расейскага пасольства ў падтрымку

Хасбулатава і гэтага самага... Руцкога. Ідзе шалёная кампанія па беларускім тэлебачаньні, у прэсе. Вось зараз пачытайце «Советскую Белоруссию» Вось тут, чытаем спачуваньне тым, хто прайграў гэты, як кажуць, крывавы путч. І я лічу, што калі вы і надалей будзеце праводзіць такую тактыку «згоды», то гэтая «згода» скончыцца тым, што беларуская дзяржава стане Северо-Западным краем. Такую сытуацыю ў Расеі, ну, цяжка пракантраляваць. Што там будзе нейкае перамога дэмакратыі. Вы бачыце, што там ужо цэнзура пачалася. Ну, і ўсё астатняе.

Дык вось, мне здаецца, што калі вы выступіце за скліканьне сэсіі, мы павінны абмеркаваць два пытаньні. Падтрымка рашэньня Прэзыдыюму аб паліўна-энэргетычным крызісе — там дакладна было сказана, прэзыдыюм вырашыў пакараць вінаватых — што сказаў Кебіч? Адным словам: «Мы з гэтым разьбяромся». Бо паліўны крызіс паскараецца, бэнзіну як не было, так і няма. У нашай сельскай гаспадарцы ўраджай, як кажуць, хутчэй за ўсё да канца не зьбяруць. Страты велізарныя нанесены. І мне здаецца, што да гэтай сэсіі ня трэба дакумэнтаў нейкіх. «Дакумэнты» такія: адстаўка ўраду і стварэньне кааліцыйнага ўраду, бо ўсе краіны былой сацдэмакратыі прайшлі праз гэта. І Польшча прайшла, і ГДР, Баўгарыя, і Вугоршчына. Таму што з гэтым урадам дзяржаву толькі можна загубіць. І гэта разумеюць ужо ня толькі члены Апазыцыі. І ўсё, два пытаньні на гэтай сэсіі. А потым склікаецца дзявятага (лістапада — С. Н.) нармальная сэсія, з усімі гэтымі дакумэнтамі. Таму што зараз урад адседзіцца, зьбярэ ўсіх гэтых «ампілаўцаў» пад сваё крыло, усіх «хасбулатаўцаў», умацуецца,

і зноў пачнецца тая самая сытуацыя. Вы ж ведаеце, хто тут прыяжджаў.

Шушкевіч: Калі вы кажаце, што пасьля пачнецца «нармальная», дык што, гэтая будзе «ненармальная»?

Трусаў: Я маю на ўвазе «нармальная» альбо «вялікая» сэсія, чарговая.

Шушкевіч: Чарговая?

Трусаў: Чарговая. А надзвычайная па часе маленькая, як звычайна робіцца.

## «Я не разумею, што такое ў Вашай трактоўцы “кааліцыйны ўрад”»

Шушкевіч: Добра, дзякую. Хто яшчэ мае намер выказацца? Усё, так? Ну давайце цяпер разьбірацца. Я паўтараю яшчэ адзін раз, што няма больш простай задачы, чым даць заданьне Старшыню Вярхоўнага Савету выканаць тую работу, якую павінны выканаць самі ініцыятары, калі яны такую ініцыятыву праяўляюць. Вось я хачу канстатаваць гэта. Шаноўны Валянцін Фёдаравіч! Рэспубліка Беларусь, на Вашу думку, павінна вызначыцца палітычна. Так? Бо ня зроблена ні кроку па рэалізацыі выбараў у сакавіку 1994 году. На жаль, я проста ня ведаю, чаму вы так дэзінфармаваны. І на пасяджэньні Прэзыдыюму, і пры рабоце камісій зроблена ўсё, каб прадставіць на сэсію дакумэнты, і пры любых варыянтах, ці будзе прынятая Канстытуцыя, ці ня будзе прынятая Канстытуцыя, правесьці выбары ў сакавіку 1994 году. Я лічу, гэта справа гонару Вярхоўнага Савету. Для гэтага нечарговую сэсію склікаць ня трэба. Трэба добра падрыхтаваць чарговую сэсію. Я лічу, што павінна быць глыбокая эша-

лянаваная абарона. Гэта значыцца, у залежнасьці ад таго, як будуць разгледжаны асноўныя палітычныя пытаньні, — а менавіта канстытуцыйнае, — каб пры любым варыянце гэтыя выбары былі праведзены. Я лічу, што калі Вярхоўны Савет зрабіў такую заяву, гэта трэба выканаць. Гэта выхад з таго, што можна назваць, ну, у пэўным сэнсе палітычным крызісам. Гэта першае пытаньне.

Цяпер — па Канстытуцыі. Па Канстытуцыі таксама, нельга сёньня зьбіраць сэсію. Тлумачу чаму. Мы вызначылі тэрмін, да якога павінны былі паступіць папраўкі, і толькі ад тых, хто мае права заканадаўчай ініцыятывы, і фактычна гэтыя папраўкі з улікам таго, што Акадэмія навук накіравала нам выпадкова папраўкі выпадковага чалавека, — гэтую памылку яна выправіла толькі ўчора. Фактычна, канчаткова... Ну, быў такі казус, я проста вам тлумачу. Фактычна толькі сёньня, і мы абмяркоўвалі гэта з кіраўнікам, з намесьнікам кіраўніка рабочай групы Канстытуцыйнай камісіі, толькі сёньня можна, ну, падрыхтаваць, пачаць такую дэталёвую падрыхтоўку паправак з раздрукоўкай думкі Канстытуцыйнай камісіі, так, а пасьля гэта трэба зацьвердзіць на Канстытуцыйнай камісіі, таму што гэта рабочая група будзе. Немагчыма зрабіць гэтае пытаньне раней. Таму адказваю на ваша пытаньне. Калі гаварыць вельмі сур'ёзна — Канстытуцыя не падрыхтавана для разгляду сёньня і будзе падрыхтавана праз два — два з паловай тыдні. Гэта значыцца, да пачатку новай сэсіі.

Цяпер. Закон аб выбарах павінен быць у лістападзе. Я прашу ў вас прабачэньня. У Расеі прызначаны — давайце паглядзім на суседзяў — выбары на 12–13 сьнежня. А закону фактычна няма. І няўжо




Патрабаваньне актывістаў БНФ стварыць кааліцыйны ўрад.

мы так дрэнна адрозьніваемся ад нашых суседзяў, што мы ня будзем мець закону? Ёсьць два варыянты падрыхтоўкі закону. І абодва распрацаваныя падыходы. Я лічу, што альтэрнатыўны, ваш праект, ёсьць, ён можа быць разгледжаны, калі ласка, але ён ужо раз быў разгледжаны і адкінуты. Цяпер, значыцца, будзе закон. Які закон? Як папраўкі да існуючага закону. Ня трэба кідацца адразу ў роспач, таму што можна зрабіць абсалютна дэмакратычны закон, і вы ведаеце, і вы накіроўваецеся ў Вену зараз, і мы зможам далажыць, што ў нас будзе дэмакратычна. Вы настойваеце на прапарцыйнай альбо зьмешанай сыстэме. Баюся, што Вярхоўны Савет рэальна, я думаў, што ведаю думку большасьці

дэпутатаў, будзе настойваць на мажарытарнай сыстэме, як такі плаўны пераход. Ну тут, прабачце, я ня ведаю, што зрабіць, каб было па-вашаму, а ня так, як па-«вярхоўнасаветаўскаму». Легітымнага шляху ня бачу.

Цяпер так. «Прапануецца разгледзець пытаньне аб калектыўнай бясьпецы на гэтай сэсіі». Хто гэта вам сказаў?! Не прапануецца! Такой прапановы Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету ня ўносіць. Ня ўносіць! Чаму ня ўносіць? Гэтае пытаньне абмяркоўвалася на Прэзыдыюме Вярхоўнага Савету, мы вырашылі, што і так многа складаных пытаньняў, якія могуць выклікаць заклапочанасьць у грамадзтве, і непакой. Таму мы маем на ўвазе наступную сытуацыю. Пагадненьне падпісана, але для Беларусі яно ня дзейнічае, таму што не ратыфікавана, і пытаньне аб ратыфікацыі не выносіцца, ва ўсялякім разе цяпер. Ускосна, ускосна — давайце будзем шчырымі — яно выносіцца ў наступным выглядзе, таму што калі мы будзем ратыфікаваць Статут СНД, мы павінны вызначыцца: ці ратыфікуем мы пазыцыі па калектыўнай бясьпецы, ці не. І я думаю, тут павінна праводзіцца работа пэўная, калі вы хочаце адстойваць свой пункт гледжаньня, гэта ня заклікамі такімі рабіць. Яна павінна весьціся, гэтая работа. Я, у прыватнасьці, лічу, што гэтыя разьдзелы Пагадненьня СНД... я буду галасаваць за тое, каб яны ўвайшлі ў папраўкі, каб іх не ратыфікаваць. Сваю пазыцыю я даўно вызначыў па гэтым пытаньні і, як вы ведаеце, яе не мяняў.

Цяпер паважаны Сяргей Іосіфавіч. Я не разумею, што такое ў вашай трактоўцы «кааліцыйны ўрад». І давайце мы сёньня на гэтую тэму пагаворым. Заклікаць да ўтварэньня кааліцыйнага ўраду — я

ня ведаю, кааліцыю якіх сіл вы маеце на ўвазе. Ну, ёсьць клясычнае разуменьне, што такое кааліцыйны ўрад, тады дамаўляюцца пэўныя палітычныя рухі аб тым, якое прадстаўніцтва, якія крэслы будуць. Што я вам скажу. Мне здаецца, што ў той структуры ўраду, якая цяпер існуе, рабіць кааліцыю пад тыя пасадачныя месцы, якія ёсьць — ну гэта, прабачце, будзе недарэчнасьцю. Таму што структура такая, ну, груваcткая, цяжкая, структура, мне здаецца, алягічная, неабгрунтаваная, і гэта наша з вамі бяда, што мы ня маем закону аб Савеце міністраў. Гэта, дарэчы, папрок і ўраду, які гэты закон не прадстаўляе, і... Ну, тут я з вамі згодзен, тут... Я лічу, што спачатку трэба выпраўляць сытуацыю са структурай ураду, а пасьля гаварыць аб нейкай кааліцыі. Цяпер. Вось вы заўтра зьбіраеце камісію, і як вы сказалі, я прыводжу вашы словы, «па антыдзяржаўнасьці сродкаў масавай інфармацыі»…

Навумчык: Антыдзяржаўнай дзейнасьці ў некаторых сродках масавай інфармацыі.

Шушкевіч: …і ўжо лічыце, што гэтае пытаньне можна разглядаць на сэсіі. Ну дзе ж лёгіка, прабачце? Вы спачатку кажаце, што для гэтай мэты трэба склікаць нечарговую сэсію, так, а толькі заўтра разглядаеце...

Навумчык: Не, выбачайце. У нас ёсьць праект пастановы Вярхоўнага Савету пра дэманапалізацыю, які можна прымаць ужо сёньня.

## «Вы хочаце забараніць пікеты?»

Шушкевіч: Вы зьвяртаецеся да мяне, каб я выкарыстаў канстытуцыйнае права склікаць нечарговую сэсію, я вас прашу: дайце мне тыя праекты

дакумэнтаў, базуючыся на іх, я магу выкарыстаць гэтае канстытуцыйнае права. А проста лёзунгавым шляхам — ну вы мне прабачце, я гэтага рабіць ня буду. Цяпер. Я з вамі ня згодзен, шаноўны Алег Анатольевіч. Э, вы прабачце, мне захацелася сказаць «Анатоль Ільіч», бо супраць сьвятла вы выглядаеце, як Вярцінскі. Алег Анатольевіч. Вы кажаце — ня трэба дакумэнтаў. Ну, гэта ж несур’ёзная гаворка. Гэта несур’ёзная гаворка. Значыць што? Мы зробім вялікі сход, будзем абмяркоўваць праблемы мовы, праблемы пікетаў. А што, Вы хочаце забараніць пікеты?

Трусаў: Я ня гэта меў на ўвазе.

Шушкевіч: Ну, а як... Ну, вам не падабаецца пазыцыя гэтых людзей, якія пікетуюць, дык што я магу зрабіць. Я, можа, іх праціўнік большы, чым вы, таму што ёсьць заклікі ўжо... робяць пікеты каля дома, у якім я жыву. І мае суседзі-дэпутаты арганізуюць там...

Пазьняк: Давайце сур’ёзна гаварыць! Ён жа гаворыць пра адстаўку ўраду — што вы пра пікеты гаворыце? Што вы нас пазвалі і пачынаеце, як у цырку, нешта прыкідвацца? Быццам вы не разумееце, пра што ідзе гаворка.

Шушкевіч: Выступіце...

Пазьняк: Я яшчэ выступлю, калі будзе магчымасьць.

Шушкевіч: Я хачу вам сказаць: я вас усіх выслухаў. Вам не падабаецца мой пункт гледжаньня?

Пазьняк: Ды няма ніякага вашага пункту гледжаньня!

Шушкевіч: Як жа няма?

Пазьняк: Вы гаворыце не пра тое! Мы гаворым пра адстаўку ўраду — а вы пра пікеты.

Шушкевіч: Я вельмі дзякую вам за ваша разуменьне сытуацыі. Ня я пра пікеты — а Алег Анатольевіч шаноўны пра пікеты. Ня я пра пікеты.

Пазьняк: Слухайце. Вы хоць двума вушамі слухайце, у такім разе.

Шушкевіч: Так. Зянон Станіслававіч. Я слухаў уважліва. Вы хочаце выступіць — я вас слухаю. Я пасьля адкажу. Калі ласка.

## «Вы мне кола ыратавальнае кідаеце? А я вам кажу: ня трэба!»

Пазьняк: Добра, я вам скажу вось што. Тая работа, якую робіць Кебіч — актыўная работа — па развалу дзяржавы Рэспублікі Беларусь, па зьнішчэньню яе сувэрэнітэту, — яна поўнасьцю падтрымліваецца вашай пазыцыяй. Вашай пазыцыяй нічоганерабленьня, безініцыятыўнасьці. Больш таго. Няма ніякай розьніцы — ці дзяржава Беларусь пойдзе ў пашчу Расеі хасбулатаўскай, ці яна пойдзе ў пашчу Расеі ельцынаўскай. Усяроўна вынік будзе той самы. І калі Ельцын расправіцца з камуністамі, — а ён расправіцца, гэта чалавек-танк, ён даказаў гэта ня раз, — ён будзе праводзіць тую самую геапалітыку, якую праводзіў усе гэтыя два гады. Войны ў Грузіі, у Таджыкістане, у Прыднястроўі. Яны стварылі гэтую банду, яны пастваралі гэтых баевікоў, яны захлынуліся гэтай самай крывёю, яны прыехалі іх страляць. Вось у чым справа.

Таму ваша пазыцыя зараз абсалютна неініцыятыўная, вы не выкарыстоўваеце момант. Таму што заўтра будзе позна. «Хараша ложка к абеду». Вы прадаўжаеце тую самую палітыку, якую намеціў Кебіч па ліквідацыі нашых магчымасьцяў у

фінансава-крэдытнай сыстэме. Тое, што вы зараз падтрымліваеце аб'яднаньне грашовых сыстэм — гэта поўная ліквідацыя сувэрэнітэту, гэта зразумела што. І ў гэтай сытуацыі, калі вы ня выкарыстаеце зараз — а з кожным днём вашыя магчымасьці падаюць — калі Вы ня выкарыстаеце зараз мінімальных магчымасьцяў, то 9 лістапада, хутчэй за ўсё, вас ня будзе. Вас ня будзе каму падтрымліваць болей.

Шушкевіч: Добра, дзякуй, у вас усё? Значыць, я разумею, што ваш зварот накіраваны на тое, каб, ня дай Бог, я ня страціў сваёй пазыцыі, ня страціў падтрымкі, і вы проста зьвярнуліся да мяне, каб мяне падтрымаць. Я вам удзячны.

Пазьняк: Не, ня так. Прабачце, што вы, што Кебіч — для нас адно і тое. І каб былі гарантыі — вам трэба ісьці абодвум. Таму што ня можа быць дзяржава закладнікам двух пасрэдных людзей, якія паміж сабою як бараны сталі, і таўкуцца. Вось што! Вы несяце такую самую адказнасьць, як Кебіч, за гэта ўсё, і вы павінны пра гэта ведаць. Поўную адказнасьць вы несяце, і ня думайце, што вы...

Шушкевіч: Зянон Станіслававіч, Вы зноў будзеце пачынаць некалькі разоў? Я вас выслухаў...

Пазьняк: Пра вас размова ня ідзе.

Шушкевіч: Добра. Значыцца, калі растлумачыць вашу пазыцыю, вы мне кола гэтае выратавальнае кідаеце, а я вам кажу: ня трэба!

Пазьняк: А мы Вам ня кідаем кола выратавальнае.

Шушкевіч: Вы ж так сказалі! Што калі я ня выкарыстаю момант...

Пазьняк: Мы вам прапанавалі сабраць нечарговую сэсію...

Шушкевіч: Я вам адказваю...

Пазьняк: Таму што вы займаеце адпаведнае месца. Быў бы на вашым месцы Казлоў — мы прапанавалі б Казлову сабраць сэсію.

## «Зьменіцца сытуацыя — Кебіч зноў будзе гаварыць адваротнае»

Холад: Станіслаў Станіслававіч, у вас тыдзень таму на Прэзыдыюме была іншая пазыцыя. І па пытаньні Канстытуцыі, і па пытаньні выбараў, і па пытаньні ўнутранай і зьнешняй, гэтак скажам, палітыкі, сытуацыі ў рэспубліцы. А сёньня ў вас зусім іншая пазыцыя.

Шушкевіч: Не, паслухайце мяне. Я магу сабраць сэсію, калі яна падрыхтавана. І калі Прэзыдыюм паказвае, што ён ня можа яе падрыхтаваць, і кажа так: «Бярыце на сябе!» — у мяне пазыцыя была тая самая. Я хачу, каб было такім рашэньне Прэзыдыюму. Гэта значыцца, што Прэзыдыюм падзяляе са мной адказнасьць па падрыхтоўцы сэсіі. А вы ставіце пытаньне, каб я склікаў сэсію і цалкам адказваў за падрыхтоўку. Я кажу: я магу гэта зрабіць. Дапамажыце мне яе падрыхтаваць.

Навумчык: Шаноўны Старшыня...

Шушкевіч: Адну хвілінку! І нічога, акрамя лёзунгаў, у вас на сёньняшні дзень няма.

Навумчык: У якой ступені была, выбачайце, падрыхтавана сэсія 25 жніўня 1991 году? Акрамя таго, што падрыхтавала Апазыцыя, не было нічога. Але была ж палітычная сытуацыя, якая вымагала пэўных палітычных дзеяньняў. Тое самае і цяпер, Станіслаў Станіслававіч.

Шушкевіч: Прабачце. Там у першы дзень, 19-га, разам з вамі я патрабаваў скліканьня сэсіі, таму

што там было зразумела, што адбываецца: была пагроза разбою, разгрому і гэтак далей. І тут вы ацэньваеце так жа сытуацыю? Я ацэньваю цяпер яе інакш. Я яе ацэньваю інакш. Што да ўраду. У Вас ёсьць прапановы па ўраду?

Навумчык: Ёсьць.

Шушкевіч: Я ня ведаю, як я буду склікаць сэсію, калі такія прапановы... Вы да мяне, акрамя звароту, нічога не даслалі. І я павінен растлумачыць, ну, акрамя вас, трыццаці там чалавекам, усім астатнім тромстам, што я склікаў сэсію па вашай прапанове — а ў мяне ніводнага дакумэнта.

Навумчык: Станіслаў Станіслававіч, а што зьмянілася, выбачайце, сапраўды, за тыдзень, калі вы на Прэзыдыюме гаварылі за нечарговую сэсію, прайшоў тыдзень, прайшоў пераварот у Маскве — што зьмянілася?

Шушкевіч: Я ж вам ужо растлумачыў. Для гэтага павінна была быць згода старшыняў камісій — падрыхтаваць адпаведны дакумэнт. Такой згоды няма, і я не магу пайсьці на такую рызыку вялікую. І надзвычайнай сытуацыі, як вы размалёўваеце, я ня бачу.

Навумчык: Вы лічыце, што мэтазгодна і да гэтага часу абапірацца на гэтых старшыняў, на гэтыя камісіі, выбачайце?

Шушкевіч: А гэта ня мой выбар. Гэта ваш выбар, Вярхоўнага Савету.

Навумчык: Мы не галасавалі за гэтых старшыняў.

Холад: Мне зусім не зразумела. Я не палітык, а гаспадарнік. Значыць, калі Вы прапаноўвалі разглядзець Канстытуцыю, закон аб выбарах — дык Вы ж ня проста пажаданьне выказвалі на Прэзыдыюме

29-га? Сыходзілі, верагодна, з аналізу, што гэтыя дакумэнты гатовыя? А сёньня кажаце што дакумэнты не гатовыя, гэтыя тры дакумэнты.

Шушкевіч: Я вам адказаў на гэтае пытаньне.

Пазьняк: На апошнім Прэзыдыюме вы сказалі аб неабходнасьці разабрацца з урадам, зь яго дэзінфармацыяй па паліўна-энэргетычным пытаньні, Косьцікава... Гэтага ж трэба здымаць, Косьцікава, гэта ж элемэнтарна...

Шушкевіч: Я хачу вам сказаць, што я згодзен з гэтым падыходам, але...

Пазьняк: Але вы адмовіліся, вы сказалі другое. Вы сказалі: урад працуе з патроенай энэргіяй. Гэты «ўрад», калі ён зразумеў, што над ім небясьпека, павярнуўся на 180 градусаў. Тое, што Кебіч гаварыў два тыдні, тыдзень назад — цяпер ён гаворыць адваротнае. Зьменіцца сытуацыя — ён ізноў будзе гаварыць адваротнае. Хіба можна так? Вы мяняеце тут жа сваю пазыцыю! У вас сябра зьявіўся ў Маскве.

## «Урад добра папрацаваў»

Шушкевіч: Трэба завяршаць гэтую размову. Я адкажу на гэта ваша пытаньне. Вы хочаце, ну... зламаць структуру, паказаць яе непрыгоднасьць, і гэтак далей, і гэтак далей. Я кажу: у тых умовах, у якіх я канкрэтна знаходжуся, у мяне ёсьць толькі адзін захад: выпраўляць. І рабіць так, каб яна працавала лепей. Я думаю, што сёньняшняя заява старшыні Савету міністраў, якая надрукавана ў «Народнай газэце», — вы ж чытаеце толькі свой зварот — тут канстатацыя якіх пазыцый: і па ўраджаі, мне здаецца, і па паліве, я ня маю іншых зьвестак — я зьвяз-

ваюся з абласьцямі, сытуацыя выпраўляецца. Так, і выпраўленая ў значнай ступені. Чаму ж я павінен ісьці ў атаку на ўрад, склікаць цяпер сэсію, дарэчы, адрываць у тым ліку людзей ад уборкі ўраджаю, а яны кажуць, што мы не паедзем на сэсію, што ў нас такая сытуацыя, — чаму я павінен гэта рабіць? Чаму я не павінен рабіць сумленна, падрыхтоўваць новую сэсію і рабіць тыя захады, якія я магу рабіць бяз сэсіі?

Пазьняк: Фэнамэнальна! Усяго два тыдні назад была зусім іншая сытуацыя, Прэзыдыюм разглядаў, зь лічбамі, з усім... Цяпер Кебіч робіць заяву, што ўсё «о’кей», і — усё, вы ўжо нічога ня можаце рабіць.

Шушкевіч: Я Вам хачу сказаць, што калі я выходжу на вобласьці, і крытычнага становішча з нафтай, з палівам, з бэнзінам няма — то ўрад добра папрацаваў.

Навумчык: Ну вы паспрабуйце праехаць ад Менску да Віцебску не на машыне з аховай, а нармальна, і паглядзіце, якая сытуацыя з палівам. Але справа тут, Станіслаў Станіслававіч, крыху ў іншым. Я ня ведаю, здаецца, вам...

Шушкевіч: Лічбы ёсьць!

Навумчык: Мы чулі, выбачайце, на той сэсіі лічбы ад Косьцікава, і пэўныя завярэньні, і ведаем, якая цана гэтым завярэньням.

Шушкевіч: Не, назавіце мне раён, назавіце мне канкрэтныя гаспадаркі, дзе крытычная сытуацыя, дзе ўраджай гіне ад адсутнасьці паліва. Назавіце. Цяпер! Я паеду туды. Назавіце мне цяпер!

Навумчык: З шэрагу раёнаў Магілёўскай вобласьці людзі ня могуць трапіць у абласныя цэнтры, не працуюць аўтобусы...

Шушкевіч: Гэта — іншае пытаньне. Ёсьць абмежаваньне па ўраджаі. Я ведаю, што скараціліся. Гэта рыначны падыход. Нерацыянальныя маршруты. Мы ў бюджэце не знаходзім такіх сродкаў. Гэта факт — але гэта так. Няма такіх сродкаў, каб існавалі аўтобусныя маршруты, няма сродкаў у бюджэце, вось тут у чым справа.

Пазьняк: Ну там і гаспадарка паралізавана...

Шушкевіч: Гаспадарка не паралізавана.

Холад: Ды людзям за трыццаць кілямэтраў у шпіталь немагчыма патрапіць! Вось пра што гаворка.

## «Выйдзіце з ініцыятывай!»

Трусаў: Вы цудоўна ведаеце: структура Савету міністраў нагадвае ЦК КПБ. Гэтых камітэтаў розных і службаў больш, чым міністэрстваў. Калі міністры нават не сядзяць з Кебічам, а сядзяць, як хлопчыкі, ззаду, а тут сядзяць нейкія невядомыя нам людзі. Калі мы да канца года захаваем старую структуру Саўміну — нас нічога добрага не чакае, што б там ні было ў Расеі ці ў Вашынгтоне. Вы паглядзіце, што атрымліваецца, як раздзьмуўся гэты апарат.

Шушкевіч: Спадар Трусаў, а як яго зьмяніць?

Трусаў: Як зьмяніць? Вельмі проста — пачаць з кіраўніка.

Навумчык: Выйдзіце з ініцыятывай!

Шушкевіч: Вас падтрымае Вярхоўны Савет?

Навумчык: Выйдзіце з ініцыятывай!

Шушкевіч: Вас падтрымае Вярхоўны Савет?

Навумчык: Народ падтрымае.

Пазьняк: І можа падтрымаць Вярхоўны Савет, калі правільна арганізаваць работу.

Навумчык: Калі падтрымае народ — падтрымае і Вярхоўны Савет. Вярхоўны Савет не падтрымліваў незалежнасьць яшчэ ў траўні 1991 году.

Шушкевіч: А вы знайшлі захад, каб вырашыць на гэтым Вярхоўным Савеце пытаньне аб незалежнасьці?

Навумчык: Народ стаяў на Плошчы.

Шушкевіч: Вы мне прабачце, знайшлі захад ці не?

Пазьняк: Мы — знайшлі.

Шушкевіч: Дык трэба шукаць і цяпер, такі, каб Вярхоўны Савет прыняў рашэньне.

## «А потым будзе вінаваты Шушкевіч»

Трусаў: Калі мы на Вярхоўным Савеце паставім пытаньне аб справаздачы спадара Кебіча, не такое, як ён прывык, а па-сапраўднаму: хто вінаваты ў тым, што Рэспубліка Беларусь панесла шматмільённыя страты ў сельскай гаспадарцы — я казаў на Прэзыдыуме — і хто за гэта адказны? Канкрэтна!

Шушкевіч: Я думаю, што можна ставіць такое пытаньне, для гэтага ня трэба нечарговай сэсіі.

Трусаў: Гэта першае. Другое пытаньне. Чаму Саўмін ня ўносіць прапановы аб структуры Саўміну. Калі яны ня ўносяць — мы самі можам унесьці, дэпутаты таксама зразумеюць і зробяць. Я не сумняваюся, што значная частка дэпутатаў, і тых самых аграрнікаў, якія засталіся бяз паліва, падтрымаюць. Усё, цягнік пайшоў. Чаму не было нафты раней?

Шушкевіч: Хутчэй будзе паліва тут, калі мы склічам сэсію?

Трусаў: Хутчэй.

Шушкевіч: Ведаеце, каб я быў у гэтым перакананы — я б такі падыход падтрымаў. Я не магу пераканаць у гэтым нават членаў Прэзыдыюму.

Трусаў: А потым будзе вінаваты Шушкевіч.

Холад: У членаў Прэзыдыюму машыны заўсёды запраўленыя. А вось што робіцца ў нас у раёне, калі сёньня яшчэ стаіць ячмень, авёс, палова бульбы. У які заўгодна калгас паедзьце ў Лагойскім раёне. Я ўчора ў Вялейскім раёне быў — тое самае.

Шушкевіч: Я гаварыў з кіраўніцтвам гэтых раёнаў...

Холад: Вы гаварылі з кіраўніцтвам абласьцей…

Навумчык: Вось на будаўніцтва катэджаў у іх — так, бэнзіну хапае... І ўсяго іншага.

Шушкевіч: Для такой гаворкі я нечарговую сэсію зьбіраць ня буду.

Голубеў: Можна я задам адно пытаньне?

Шушкевіч: Калі ласка.

Голубеў: Станіслаў Станіслававіч! Той Вярхоўны Савет, якому застаецца, па вашым выказваньні, існаваньня два месяцы...

Шушкевіч: Чаму два месяцы? Да сакавіка!

Голубеў: А, ну разумееце, калі ўжо пачнуцца выбары... Я вось і да таго вяду: ці можа гэты Вярхоўны Савет, які ўжо сам, як вы кажаце, прымае... дайшоў да таго, што ён павінен сысьці з арэны... Ці мае ён маральнае і палітычнае права прымаць тыя — я гэтага слова не пабаюся — прымаць лёсавызначальныя для Беларусі рашэньні, тыя пытаньні, якія ўнесеныя ў парадак дня сэсіі. Маральна і палітычна — ці можа? І другое. Станіслаў

Станіслававіч, вось са мной выбаршчыкі мае — у мяне і заўтра будзе сустрэча, і я сустракаўся ў акрузе — мяне пытаюцца: ці праўда, што зараз дэпутаты Вярхоўнага Савету актыўна займаюцца стварэньнем розных пасадаў, структураў для таго, каб было куды ўцячы. Ці праўда, што многія зараз ужо ўцякаюць зь Вярхоўнага Савету на гэтыя створаныя пад сябе пасады?

Шушкевіч: Вы перада мной ставіце пытаньне? Я такога ня ведаю.

Голубеў: Ня ведаеце?

Шушкевіч: Ня ведаю. А вось я вам магу адказаць іншую пазыцыю. Што кваліфікаваныя дэпутаты, якія могуць займацца заканадаўчай, заканатворчай дзейнасьцю, якія ну нават, можа, ня маючы юрыдычнай кваліфікацыі, засвоілі гэтае пытаньне, — так многа вакансій, напрыклад, у тым самым апараце СНД, — я ўчора меў гаворку з Каратчэнем (выканаўчы сакратар СНД — С. Н.), — што гэта проста праблема! Проста праблема.

Пазьняк: Тут праблема з СНД.

Шушкевіч: Але гэта структура, якая фінансуецца і па якой ёсьць рашэньне шырокае, і я думаю, што яна будзе жыць значна даўжэй, чым, ва ўсялякім разе, Вярхоўны Савет гэтага скліканьня. Так што тут з пункту гледжаньня прагматычнага, таго, які вамі ўзьняты... Вось вам... І ня трэба ствараць гэтыя пасады — яны ёсьць. Яны ёсьць, і там патрабуюцца людзі.

Голубеў: Ці можа гэты Вярхоўны Савет...

Шушкевіч: Прапануйце іншы легітымны шлях.

Навумчык: Выбары!

Голубеў: Мы ж прапануем...

Шушкевіч: Вы, прабачце, я вам зараз растлумачу, што робіце. Вы хочаце азлобіць гэты Вярхоўны Савет, ну каб яны не адбыліся і ў сакавіку... Маё разуменьне.

Даўгалёў: Станіслаў Станіслававіч! Існуе пэўны нарматыўны тэрмін ад моманту прыняцьця закону да пачатку выбараў…

Шушкевіч: Я ўжо адказваў вам на гэтае пытаньне. Калі вы ставіце яго па-расейску, я патлумачу. У Расеі выбары будуць адбывацца 12–13 сьнежня. Нарматыўны тэрмін гэты існуе ў старой дзяржплянаўскай сыстэме, і там была процьма бюракратаў, якія толькі іх і падтрымлівалі і іншага нічога ня ведалі. Існуе нармальны, сэнсавы тэрмін. Я лічу, што калі прымем у лістападзе закон аб выбарах, то выбары правесьці ў сакавіку — няма праблем.

Даўгалёў: Але ў нас жа няма нават першага чытаньня закону аб выбарах!

Шушкевіч: А яно і не патрэбна! Адказваю на ваша пытаньне. Мы таксама вывучалі яго дэталёва. Закон аб выбарах можа быць прыняты — дарэчы, там і па паўпрапарцыйнай, прапарцыйнай сыстэме — як папраўкі да існуючага Закону аб выбарах і да Канстытуцыі існуючай. Іншага легітымнага шляху я ня бачу. Калі вы яго бачыце — прапануйце.

## «Вы ў тупіку знаходзіцеся!»

Пазьняк: Вось тое, што прапануеце вы — гэта якраз шлях захаваць намэнклятуру. Таму што легітымны выхад быў адзіны. Які пацьвердзіўся чатырыста сарака тысячамі подпісаў людзей, якія сабралі іх за правядзеньне рэфэрэндуму аб новых выбарах. І рашэньнем, якое было прынята. І вы

паспрыялі таму, каб Вярхоўны Савет парушыў і Канстытуцыю, так сказаць, і ўсё. І зараз ёсьць у Вярхоўнага Савету адзіны легітымны шлях. Адзіны. На які ён, канечне ж, ня пойдзе. Гэта прыняць тое рашэньне, якое было выстаўлена на рэфэрэндум. Закон гэта дазваляе. Іншага шляху няма, і ня будзе.

Шушкевіч: Ну, як яго прыняць, можа мне падкажаце?

Навумчык: Закон! Прыняць той Закон, які выносіўся на рэфэрэндум...

Шушкевіч: Як яго прыняць?

Пазьняк: Тая фармулёўка, якая прадстаўлена...

Шушкевіч: «За» будзе 50 галасоў. Што будзем рабіць далей? Я гавару, што гэтак і будзем хадзіць па вуліцах, і гаварыць: «Мы дэпутаты, вось...»

Пазьняк: Правільна.

Шушкевіч: Тупік!

Пазьняк: Гэта вы ў тупіку знаходзіцеся! Я вам канстатую,..

Шушкевіч: Я шукаю іншага шляху...

## «Вы ім няўгодны толькі таму, што Вы не крадзяце»

Пазьняк: Канстатую, што гэты Вярхоўны Савет знаходзіцца ў тупіку. Ніякіх захадаў вы не шукаеце. Усё, што вы тут зараз прапаноўваеце — Вы гуляеце з намі ў пінг-понг. Мы зьвярнуліся да чалавека, які ня хоча праяўляць ніякай ініцыятывы і гуляе з намі, так сказаць, у славесную баталію. Але мы вам прапануем шлях: што цяпер, паколькі ўрад яўна засьведчыў сваё банкруцтва, ён засьведчыў сваю антыдзяржаўнасьць — у выказваньні свайго старшыні, у змове зь мяцежнікамі, гэта ж лёгка даказваецца,

гэта відавочна, яны гэтага не хаваюць — у вас жа ёсьць органы адпаведныя, прытым менавіта вам падпарадкоўваюцца (КДБ — С. Н.)... І вось мы прапаноўваем шлях: адправіць у адстаўку гэты ўрад. Калі мы адправім... Але магчымасьць такая ёсьць! Увесь закон, уся, як кажуць, мараль, усё права зараз на нашым баку. І з кожным днём мы страчваем гэтую магчымасьць. Кебіч пачынае рабіць вось такія заявы дэмагагічныя — і вы паказваеце: вось, Кебіч зрабіў такую заяву! Ды ён скуру сваю ратуе, таму ён робіць такую заяву! Вось у чым справа.

Цяпер. Структура ўраду. Структура ўраду намі распрацавана, цяпер яна паглыбляецца, але яна ня будзе цяпер, мы ня можам цяпер яе паказваць, і мы ня можам зараз гаварыць пра тыя кандыдатуры і гэтак далей, гэта не публічная размова, гэта, як кажуць, тады, калі ўжо будзе сапраўды шлях да гэтага. Тады сапраўды людзі зьбіраюцца, і тады ідзе канкрэтная размова. Але нават калі ня будзе гэтага, калі нават адзін прэм’ер-міністар, які нясе абсалютную, як кажуць, стопрацэнтовую адказнасьць за ўсё, і Косьцікаў, канкрэтна, крымінальны элемэнт, — калі гэтыя людзі будуць прынятыя — усё. Тады мы ставім пытаньне — і абавязаны Вярхоўны Савет паставіць — аб структуры, таму што ў Саўміне нелегітымныя структуры працуюць. Хто такі Данілаў? І гэтае ведамства, якое напрасткі было зьвязана з Хасбулатавым, Зюганавым, падрыхтоўвалі гэты мяцеж? Вы ведаеце, што сорак баевікоў было паслана ад Саюзу афіцэраў у Маскву, і яны там змагаліся? Займаецца КДБ імі? Займаецца Міністэрства ўнутраных справаў? Не займаецца! І яны прыедуць сюды са сваімі «акээмамі» (аўтаматамі Калашнікава — С. Н.). Вось у чым справа.

Тут, як кажуць, калі людзі, як кажуць, пагарэлі на мокрым дзеле, — вы пачынаеце разважаць, што яны заяву, бачыце, зрабілі, што ўсё «о'кэй». Дык ня ўсё ж «о'кэй» — выйдзіце на дарогу, паглядзіце! Усё дрэнна.

Потым. У любой сытуацыі, вы ж зразумейце, што яны паставілі пытаньне тады, калі вы, як кажуць, сталі ім папярок дарогі, — калі вы не стаялі ім папярок дарогі, вы ім былі добры. Усё, яны вас аднагалосна падтрымлівалі. Як толькі гэтая вось «калектыўная бясьпека» — і нават не ў «калектыўнай бясьпецы справа»... Вы проста ня іх чалавек, вы — не намэнклятура. Яны разумеюць, што вы ім няўгодны, толькі таму, што вы не крадзяце, ну шчыра давайце гаварыць. Толькі таму вы ўжо «ня іх». І таму яны вас — хоць вы зрабілі ўсё для іх — яны вас вырашылі выгнаць, таму што падрыхтоўвалася гэтая змова з лета 92-га году (вы павінны гэта ведаць, калі вы гэтым цікавіліся) з Масквой. І цяпер, калі яны пагарэлі на гэтай справе, вы што думаеце, што ўсё добра, урад стаў тройчы працаваць? За месяц — калі вось ня будзе выкарыстаны гэты момант — за месяц яны створаць тут тое самае, толькі іншымі сродкамі, што хацеў стварыць Хасбулатаў. І вы пазбавіцеся цалкам падтрымкі. Таму што восем галасоў у вас толькі было ў запасе — хоць былі ўсе сілы кінутыя (маецца на ўвазе спроба адстаўкі Станіслава Шушкевіча летам 1993-га, ініцыяваная пракамуністычнай большасьцю — С. Н.). Цалкам! Вось у чым справа. Таму давайце гэтае пытаньне вырашаць зараз.

Шушкевіч: Так, добра. Хто-небудзь яшчэ?

Холад: Яны і сёньня носяць сьпіс са 188 подпісамі (за адстаўку Шушкевіча — С. Н.) Сёньня. Пад носам трасуць.

## «КДБ падпарадкоўваеца Вам!»

Шушкевіч: Добра. Я ўсё зразумеў. Яшчэ ёсьць жадаючыя?

Трусаў: Тое самае прапаную наконт ураду. Станіслаў Станіслававіч, вось вы спасылаецеся на рашэньне Прэзыдыюму. Яно ёсьць, так. Але вы цудоўна ведаеце, што як мінімум 30 % па маіх падліках, можа я памыляюся, рашэньняў Прэзыдыюму ўрадам ня выкананыя. Больш таго. Урад прымае пастановы свае, пячэ, як бліны, якія парушаюць нашы законы, Вярхоўнага Савету. Хаця б пра гэта пагаварыць дастаткова, колькі можна назваць такіх пастановаў Саўміну, якія парушаюць нашы законы. Возьмем апошнюю так званую пастанову аб прывілеях для народных дэпутатаў. Што гэта такое? Як гэта назваць? Гэтыя прывілеі? Пэнсію будуць плаціць немаведама якую! Гэта што, Вярхоўны Савет прыняў гэтыя прывілеі, і гэтыя дэпутаты? Гэта ж прыняў Саўмін — незаконна, нелегітымна. І я магу назваць цэлы шэраг законаў, па адукацыі па той самай. Саўмін пячэ пастановы любыя, любыя распараджэньні, не выконвае нашы законы, не выконвае нашы, як кажуць, пастановы Прэзыдыюму — і ўсё нармальна?

Другое, я лічу, што трэба пытаньне паставіць аб справаздачы Саўміну аб развале нашай эканомікі — а ён цалкам у гэтым вінаваты — і аб тых стратах, што Беларусь панесла з-за гэтай «нафтавай» сыстэмы. І аб пакараньні вінаватых. Усё гэта

можна, і для гэтага дастаткова два ці тры дні. Я думаю, што тыя дэпутаты, якія маўчалі, зараз скажуць сваё слова. І прагаласуюць — нават калі яно і ня будзе прынята для галасаваньня. Таму што ўсё-такі сумленных дэпутатаў у парлямэнце дастаткова, каб зрабіць свае вывады.

Шушкевіч: Яшчэ?

Пазьняк: З дэпутатамі трэба весьці размову, трэба сабраць іх па абласьцях, а ня з членамі Прэзыдыюму толькі гаварыць. Вы маеце такую магчымасьць. Ну ёсьць людзі сапраўды са здаровым сэнсам там, а ня толькі з адкручанымі мазгамі...

Навумчык: Я памятаю, Дземянцей два разы прыходзіў, зьбіралі там тую віцебскую дэлегацыю...

Пазьняк: А яны ладзяць гэтую «тайную вячэру», гэта ж усе ведаюць усё... Вы ж павінны зараз як старшыня Вярхоўнага Савету з гэтымі дэпутатамі сабрацца, пагаварыць, з тым самым Кулаковым. Тую самую Віцебскую вобласьць... А што творыць Грынёў? Яны ўжо змову ўтварылі. З Чарнігаўскай, з Бранскай, з Смаленскай, Віцебскай і Гомельскай абласьцямі. Яны заяўляюць адкрыта, што яны будуць ствараць свой мытны саюз, і гэтак далей. Што гэта такое? Трэба ж, як кажуць, нейкія канфэрэнцыі, трэба з дэпутатамі сустракацца, весьці работу, а вы седзіце, толькі інтэрвію даяце...

Шушкевіч: Ужо ў нас паўторы пайшлі. Так. Усё?

Навумчык: Ну, і апошняе — КДБ. Падпарадкоўваецца вам! Калі ласка — прыяжджаюць сюды ўсе гэтыя палітычныя ўблюдкі, выбачайце, Макашоў, Сьцерлігаў, у іх тут бяруць інтэрвію, героямі ходзяць, выдаюць сябе… Выбачайце, калі гэта КДБ — яно павінна стаяць, так бы мовіць, на аба-

роне дзяржаўнай незалежнасьці, дзяржавы. Яно павінна адпаведныя і дакладныя дзеяньні прымаць.

Шушкевіч: Што, напрыклад?

Навумчык: Ды элемэнтарна — высылка. Пасадзілі ў самалёт, за шэсьць гадзін, дастаткова...

Голубеў: Станіслаў Станіслававіч…

Шушкевіч: Так, я ўжо чую, што вы ўжо ўсе паўтараецеся.

Голубеў: Не, прашу прабачэньня, яшчэ адно. Вы зьяўляецеся, па сутнасьці, у нас Галоўнакамандуючым, Вы ўзначальваеце Савет бясьпекі.

Шушкевіч: Прабачце, такога ў заканадаўстве няма.

Голубеў: Старшыня Савету бясьпекі...

Шушкевіч: Яшчэ раз кажу: не зьяўляюся я Вярхоўнакамандуючым. Гэта — на вашу думку. А на маю, і на Канстытуцыю, і на заканадаўства — не зьяўляюся. Так што... Давайце кінем гэту гаворку.

Голубеў: Тады, значыць, вы не зьяўляецеся той галоўнай асобай, якая стаіць на ахове дзяржаўнасьці Рэспублікі Беларусь?

Шушкевіч: Не, я Старшыня Савету бясьпекі, я ім з яўляюся.

Голубеў: Вось я тады хачу задаць пытаньне. Як вы можаце цярпець на дзяржаўных пасадах людзей, якія выступаюць супраць дзяржавы Беларусь? Я не кажу «незалежнасьці» — супраць дзяржавы Беларусь.

Шушкевіч: Ну каго? Каго пэрсанальна?

Голубеў: А я магу назваць І Данілава, я магу назваць і Скарыніна...

Навумчык: І Гайдукевіч...

Шушкевіч: Гайдукевіч не зьяўляецца цяпер ніякім...

Навумчык: Не, выбачайце, Гайдукевіч — намесьнік старшыні камітэту па абароне афіцэраў у Саўміне...

Голубеў: Я ведаю, што ўсе прозьвішчы вы ведаеце ня горш, чым мы.

## «Лукашэнка мае права дэпутацкай недатыкальнасьці»

Шушкевіч: Так. Ну, цяпер я адкажу, на гэтым і скончым. Я хачу перш адказаць на вашы пытаньні. Я магу займацца толькі тым, дзе ёсьць ну хаця б нейкая верагоднасьць вырашыць пытаньне легітымным шляхам. З тымі пытаньнямі, дзе я ня бачу ніякай магчымасьці вырашыць гэта законным, дзяржаўным шляхам, — я займацца не магу. У адрозьненьне ад вас, прабачце. Ну, шэраг вашых прапаноў базуецца не на тым, на чым трэба. Цяпер я вам перш за ўсё адкажу, Сяргей Іосіфавіч. Вам падабалася, калі вас раней ціснула КДБ? Вам падабалася, калі там было 30 кастрычніка? (Разгон акцыі на Дзяды 30 кастрычніка 1988 — С. Н.) Вам падабалася гэта? Не, вам не падабалася. І мне не падабалася. Навошта ж вы хочаце мяне падпіхнуць на тое, каб я ўпоперак закону выкарыстоўваў КДБ для сьлежкі і для іншых там захадаў. Я не ведаю, якія парушэньні закону зрабілі Макашоў, іншыя...

Навумчык: Выступалі супраць дзяржавы.

Шушкевіч: У нас свабодны ўезд з Расеі. Яны прыехалі на запрашэньне нашых грамадзкіх арганізацыяў, зарэгістраваных Мінюстам, і праводзілі...

Пазьняк: Яны праводзілі антыдзяржаўную дзейнасьць супраць Рэспублікі Беларусь.

Навумчык: Гаворка не пра «сьлежку», ні ў якім разе!

Шушкевіч: А тыя, хто там былі найбольшымі антыдзяржаўнікамі, яны маюць права дэпутацкай недатыкальнасьці. Напрыклад, дэпутат Лукашэнка. Вы мне скажыце. Я выказаў сваю думку і па гэтаму пытаньню, і ні віляў я ніколі. Я выказаў. Але што ж — я не магу зьбіраць іх і вось трэсьці кулакамі «Давайце гэта зробім!» Я павінен знайсьці шлях — як гэта зрабіць. Я яго шукаю. Сумленна шукаю. Цяпер далей. Што да баевікоў — вы ведаеце, у мяне, я вам шчыра кажу, хоць я маю інфармацыю шырокую, ад розных — у мяне такіх зьвестак няма. Я пацікаўлюся больш дэталёва. Магчыма, тут ёсьць нейкі недагляд. Але думаю, што каб туды былі накіраваны баевікі адсюль, то гэтая інфармацыя ў мяне б была. Думаю, што вы памыляецеся. Што пэрсанальна да Скарыніна — ён мае дэпутацкую недатыкальнасьць, і я вам скажу, я ня ведаю, як нават кіраўніку ўраду, калі б ён захацеў зараз яго адсунуць са сваёй пасады, — як гэта зрабіць. (Закон забараняў звальняць дэпутата з працы безь ягонага жаданьня — С. Н.) Так, як я, прабачце, вас, хоць бы я вылез тут... у гэтае акно, я вас не магу зьняць з вашай пасады, падабаецца гэта ці не.

Пазьняк: А гэта не пасада, гэта зусім іншае, адна справа — урад, другая справа — парлямэнт.

## «Я магу абапірацца толькі на тых, хто ёсьць»

Шушкевіч: Я адказваю на ваша пытаньне. Ня можна зволніць з пасады, і таму ня трэба мяне падштурхоўваць на гэтыя захады. Цяпер наконт

парушэньняў закону. Тут вы маеце рацыю. Маеце рацыю. Шэраг нарматыўных актаў міністэрстваў і Савету міністраў не адпавядаюць нашаму заканадаўству. Такое заданьне дадзена нашаму юрыдычнаму аддзелу, гэта будзе ўключана ў той даклад, які я рыхтую, але я не магу падрыхтаваць яго на нечарговую сэсію, гэта складанае пытаньне. Чаму, калі мы зьбіраем адну групу юрыстаў, яны лічаць, што парушэньне ёсьць, калі зьбіраецца група саўмінаўскіх юрыстаў — яны вельмі адукаваныя, можа нават значна лепш, чым нашы — яны кажуць, што не, парушэньняў няма. Дзе той орган, які павінен вырашыць спрэчку? Наша камісія па заканадаўстве? Не жартуйце са мной так. Прабачце, пэрсанальна па Данілаву. Ні адна асоба мяне так не абражала. Я вельмі ўдзячны вам, за тое, што вы ня думаеце, што я злодзей, але я ня злодзей, ніколі ня быў хабарнік і ня буду. Я гэта вам гарантую. І калі афіцыйная асоба дае такую абразу, я вам скажу, я нават трубку тэлефонную не падымаю, калі мне сакратар кажа, што звоніць Данілаў, таму што я не хачу рукі забруджваць, я не хачу мець кантактаў з такім чалавекам. Я выказаў кіраўніку ўраду. Я кажу, што я лічу, што недапушчальна мець такіх несумленных людзей на такой пасадзе. Бо я кажу... Яго пазыцыя ня мае доказаў, але правесьці такую пазыцыю, што я вязу хабар з Кітаю дзяржаўным самалётам, гэта, прабачце, недапушчальна. Я нават па тэлефоне зь ім не магу гаварыць, я наогул не пушчу яго... ну... да свайго кабінэту. Няхай яго прымае нехта іншы тут, таму што гэта недапушчальна. Ну дык што ж, я буду хадзіць па плошчы і крычаць пра гэта?

Цяпер — «паставіць справаздачу аб развале эканомікі». Я думаю, што пытаньне справаздачы ўраду стане на гэтай сэсіі. Стане. Яшчэ кажу: а калі цяпер гэта зробім, то страцім яшчэ ўраджаю болей. Гэта маё разуменьне. Цяпер — па абласьцях. Вы даяце слушную параду: сёньня Кузьняцоў зьбірае дэпутатаў Віцебскай вобласьці, гэта яго заданьне, і будзе гаварыць аб тых актуальных пытаньнях, якія трэба вырашаць. І работа гэтая ідзе....

Пазьняк: Кузьняцоў?! Ха-ха-ха...

Шушкевіч: Ну, я магу абапірацца толькі на тых, хто ёсьць, прабачце. Я сустракаўся з Кулаковым, дарэчы, сустракаўся з Грынёвым, яны ведаюць мой пункт гледжаньня. Сустракаўся за гэты пэрыяд. Я ведаю пра тую «вячэру», але ніколі я ня стану на шлях, каб выкарыстаць падпарадкаваныя мне альбо Вярхоўнаму Савету органы на супрацьпраўныя дзеяньні.

Навумчык: А яны — супрацьпраўна!

Шушкевіч: Я адказваю вам на ваш запыт. Калі вы прадставіце... Давайце падвядзём такія вынікі. Калі вы прадставіце матэрыялы, якія паказваюць, дакумэнты, што можна склікаць нечарговую сэсію і яна прынясе карысьць — я на гэты шлях пайду. Інакш я на гэты крок не пайду. Дзякую за ўвагу.

Даўгалёў: Станіслаў Станіслававіч, але год таму вы Арцыменю давалі грамату, разумееце… А сёньня — вам трыццаць гадоў працаваць трэба, каб такія грошы зарабіць, што ў ягоным сэйфе..

Навумчык: Якая «сьлежка»? Калі падымаецца на трыбуну і нясе, што тут трэба... Якая сьлежка — ня трэба сьлежкі, тут парадак проста павінен быць...

Шушкевіч: Усяго добрага.

Пасьля гэтых слоў Шушкевіч з ахоўнікам пакінулі памяшканьне.

— Будзем абмяркоўваць? — запытаўся я Пазьняка.

— Паспрабуй сабраць праз гадзіну Апазыцыю, — адказаў ён.

Праз гадзіну мы сабраліся ў нашым 383-м пакоі ў Доме ўраду. Аднадушна прыйшлі да высновы, што ў нашых дзеяньнях на Шушкевіча спадзявацца не выпадае.

***Лявон Дзейка** (Клецкая выбарчая акруга № 62): Я зачытаю вам заяву II зьезду Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў. «... У праваднікоў бруднай прапаганды прамываньня мазгоў усіх часоў і народаў прыёмы тыя самыя. Падрыхтоўка інфармацыі згодна з гэтымі прыёмамі простая: спачатку распусьціць плётку, абвінавачаньні, а потым павесьці ўсіх на барацьбу з тым, пра каго плётка распушчана. Здольнымі нашчадкамі мастакоў бруднай прапаганды мінулага паказалі сябе аўтары ананімных заявак 7 верасьня і 5 лістапада, падпісаных "Совет Министров Республики Беларусь". Яны абвінавацілі БЗВ і іншыя дэмакратычныя рухі ў распальваньні міжнацыянальнай варожасьці, стварэньні ўзброеных аддзелаў, ледзь не ў жаданьні зброяй скінуць урад... Гэткая хлусьня, што мела месца ў заяве Савету міністраў ад 7 верасьня, засталася беспакаранай, разьвілася і фактычна вырасла да спробы дзяржаўнага перавароту 9 лістапада. Заявай 5 лістапада найбольш артадаксальныя прадстаўнікі правячай намэнклятуры хацелі стварыць крызісную сытуацыю ў грамадзтве для ўвядзеньня надзвычайнага становішча, забароны дэмакратычных і патрыятычных арганізацый... Мы заўжды карысталіся законнымі мэтадамі, а тых, хто імкнецца пераступіць гэтую апошнюю рысу, БЗВ папярэджвае, што яны будуць несьці асабістую адказнасьць у адпаведнасьці з законам і шыльда "Савет міністраў" іх не ўратуе».*

*Выступ у «Розным»*

# КЕБІЧ УВОДЗІЦЬ ВОЙСКІ Ў ДОМ ЎРАДУ

У пачатку кастрычніка Вячаслаў Кебіч прадэманстраваў, што палітык ён ня толькі гнуткі, але і эластычны, здольны імгненна перакруціцца на 180 градусаў.

Адразу пасьля перамогі Ельцына над «чырвона-карычневымі», літаральна ў той самы дзень Кебіч выступіў з заявай, у якой падтрымаў «курс дэмакратычных рэформ і пераўтварэньняў, якія праводзяцца ўрадам Расеі» — нібыта не ягоныя найбліжэйшыя паплечнікі яшчэ ўчора абдымаліся з тымі, хто абяцаў гэты расейскі ўрад павесіць на Краснай плошчы.

Кебіч прыгадаў і беларускія «дзяржаўнасьць» і «сувэрэнітэт». Але — пахваліўся, што «мы падышлі ўсутыч да стварэньня эканамічнага саюзу і цьвёрда перакананыя ў тым, што толькі коштам аб’яднаньня можна аднавіць абарваныя гаспадарчыя сувязі».

Так што — не зусім на 180 градусаў павярнуўся Кебіч, магчыма, толькі на 90. Але мы былі перакананыя, што не павярнуўся ні на градус, што заявы пра дэмакратыю і сувэрэнітэт — толькі словы напалоханага чалавека

І вось тут бы Шушкевічу — званок Ельцыну, заручыцца ягонай падтрымкай (інфармацыі пра пазыцыю Кебіча ў апошнія месяцы хапала) і запатрабаваць адстаўкі ўраду (ці хоць бы сваіх асабістых праціўнікаў — Данілава, Казлова). Але …

За некалькі дзён перад сэсіяй, якая была прызначаная на 9 лістапада, мы правялі антыкарупцыйны мітынг перад будынкам Вярхоўнага Савету на Карла Маркса. Прыйшло некалькі тысяч чалавек,

і яны падтрымалі нашае рашэньне ісьці на сэсію з патрабаваньнем адстаўкі ўраду Кебіча.

5 лістапада Савет міністраў выступіў са зваротам, у якім абвінаваціў БНФ у закліку да стварэньня баявых дружын, узброеных выступаў ды распальваньня міжнацыянальнай варожасьці. Як нам адразу стала вядома, тэкст пісаўся ў кабінэце прэссакратара прэм’ера Ўладзімера Замяталіна.

6 лістапада прадстаўнікі дэмакратычных сілаў выступілі з заявай, у якой абвергглі сьцьвярджэньні ўраду.

«Мы проціпастаўляем правакацыйным, гвалтоўным дзеяньням ураду цывілізаваныя крокі ў межах законнасьці. Мы патрабуем ад Вярхоўнага Савету прыняць канстытуцыйнае рашэньне — стварыць пераходны ўрад і правесьці датэрміновыя выбары паводле новага сапраўды дэмакратычнага выбарчага закону, за што падпісаліся 442 тысячы грамадзянаў Беларусі, патрабуючы рэфэрэндум», — гаварылася ў заяве, падпісанай лідэрамі трынаццаці партыяў і арганізацыяў, у тым ліку БНФ, БСДГ, ЗБС «Бацькаўшчына», БЗВ, ТБМ.

## Шушкевіч дапускае ўвядзеньне расейскага рубля

8 лістапада ў 14 гадзінаў Станіслаў Шушкевіч правёў прэсавую канфэрэнцыю, якая нас моцна расчаравала. Шушкевіч сказаў, што падтрымае «ўсе пазыцыі гэтай Канстытуцыі» (а значыць, і прэзыдэнцтва), дапусьціў магчымасьць увядзеньня расейскага рубля («нават увядзеньне ўласнай валюты не супярэчыць адзінай рублёвай зоне, паколькі абапірацца будзе на расейскі рубель»).

На пытаньне журналіста Аляксандра Старыкевіча, як ён ацэньвае перавод спэцназу на казарменнае становішча (гэта значыць — прывядзеньне ў баявую гатовасьць), распаўсюд нібыта ад імя БНФ улётак з заклікам да пагромаў і ці ня бачыць ён у гэтым ініцыятывы Саўміну, Шушкевіч адказаў: «Я адрынаю такое падозраньне. Ня трэба правакатараў атаясамліваць з урадам. Надышоў час паважаць уладу».

Выглядала, што імпэт, які Шушкевіч меў у верасьні, сышоў. У кабінэтах апарату Вярхоўнага Савету казалі, што нібыта сьпікер і прэм'ер разам хадзілі ў лазьню, і «Стась замірыўся з Францавічам».

Мы ўсьведамлялі, што спадзяваньні Шушкевіча на «замірэньне» з Кебічам наіўнае: было вядома, што лідэр групы «Беларусь» Генадзь Казлоў сабраў 188 подпісаў дэпутатаў для адстаўкі Шушкевіча (пры тым, што дастаткова было 173 галасы). Між іншым, гэткая самая колькасьць — 188 дэпутатаў— прагаласавала 9 красавіка за далучэньне Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі.

Але Шушкевіч усё яшчэ верыў Кебічу. Нам, як выглядала — не.

## Генэрал-палкоўнік на пасяджэньні Апазыцыі БНФ

У 15 гадзінаў 8 лістапада мы сабраліся ў нашым 363-м пакоі ў правым крыле Дому ўраду. На пасяджэньне прыйшоў міністар унутраных спраў генэрал-палкоўнік Уладзімер Ягораў, што было надзвычайна.

Міністар сказаў, што яму вядома толькі пра «афіцыйныя» ўлёткі БНФ (тыя, дзе мы патрабавалі




Пратакол пасяджэньня Апазыцыі БНФ з удзелам міністра ўнутраных спраў Уладзімера Ягорава.

адстаўкі Кебіча і фармаваньня кааліцыйнага ўраду ды заклікалі людзей на Плошчу, у гэтым не было нічога антызаконнага), ні пра якія іншыя яму не дакладалі. Акрамя выпадку, калі ў корпусе Белдзяржунівэрсытэту зьнялі нешта напісанае ад рукі. Генэрал пацьвердзіў, што, паводле ягоных зьвестак, правакацыйныя ўлёткі ад нібыта ад імя БНФ рыхтаваліся ў апараце Саўміну. Ягораў сказаў, што сытуацыя вельмі напружаная. «Мае падначаленыя рыхтуюцца да любога разьвіцьця падзей», — зафіксаваў я словы міністра ў пратаколе пасяджэньня.

Мы вырашылі ісьці на сэсію з патрабаваньнем адстаўкі Кебіча. Заставалася яшчэ кволая надзея, што Шушкевіч усё ж, хоць бы з інстынкту самазахаваньня, нас падтрымае. Тым больш што ў яго і ў нас зьявіліся новыя і нечаканыя саюзьнікі — старшыня КДБ Эдуард Ширкоўскі і міністар унутраных спраў Уладзімер Ягораў (пра іх адкрыты ліст да Вярхоўнага Савету — асобная глава кнігі).

Пазьняк назваў «абракадабрай» пастаноўку пытаньня аб адстаўцы адначасна і Кебіча, і Шушкевіча, чаго дамагаўся Лукашэнка — Шушкевіч можа толькі выйсьці з прапановай адстаўкі ўраду, і гэта ён абавязаны зрабіць.

Лідэр БНФ прапанаваў першым пытаньнем сэсіі вынесьці адстаўку Кебіча, калі гэта ня пройдзе — паспрабаваць сарваць кворум. Яго падтрымаў Генадзь Карпенка, які ці не ўпершыню прыйшоў на пасяджэньне Апазыцыі БНФ, бо разьлічваў на пасаду кіраўніка кааліцыйнага ўраду. Уладзімер Заблоцкі выказаўся за тое, што пакідаць сэсію ня варта, трэба «рыхтаваць грамадзкую думку».

Было зразумела, што адкрыцьцё сэсіі будзе для нас няпростым.

## Ліст Шушкевічу

Увечары таго дня, 8 лістапада, я атрымаў інфармацыю, што да Дому ўраду сьцягваюцца войскі; не выключалася, што Кебіч перад пачаткам сэсіі пойдзе на ўвядзеньне надзвычайнага становішча.

Я напісаў ліст да Шушкевіча, у якім падрабязна выклаў усю вядомую мне інфармацыю і яшчэ раз пацьвердзіў, што Апазыцыя БНФ яго падтрымае, калі ён у пачатку сэсіі пойдзе на рашучыя крокі (гэта значыць — запатрабуе адстаўкі Кебіча і запрапануе стварэньне кааліцыйнага ўраду).

Да мяне ва Ўручча, дзе я жыў, прыехаў адзін з ахоўнікаў Шушкевіча, узяў мой ліст і паабяцаў, што ён будзе перададзены адрасату неадкладна.

І сапраўды — назаўтра плошча перад Домам ураду была ачэпленая міліцыяй і амапаўцамі, у самім Доме ўраду была вялікая колькасьць людзей у форме.

Ужо ў першыя хвіліны працы сэсіі, у адказ на зачытаную ўлётку нібыта БНФ, Зянон Пазьняк назваў яе правакацыяй і запатрабаваў ад Генэральнага пракурора распачаць сьледзтва.

Натуральна, пракуратура ня высьветліла, хто аўтар паклёпу. Гэтак сама, як праз паўтара года не адшукае таго, хто ў часе галадоўкі дэпутатаў БНФ пазваніў у міліцыю і паведаміў пра нібыта закладзеную ў Авальнай залі бомбу. Аднак ужо тады з вартых даверу крыніцаў мы ведалі імя ініцыятара абедзьвюх правакацый. Хоць для мяне найбольш яскравай характарыстыкай палкоўніка Ўладзімера Замяталіна (прэс-сакратара пры Кебічу і начальніка ўпраўленьня інфармацыі адміністрацыі, а потым віцэ-прэм’ера пры Лукашэнку) зьяўляецца ягоная



Кардон міліцыі перад Домам ураду.

фраза, што доля беларускай мовы ў Беларусі ў дачыненьні да расейскай не павінна перавышаць адной дзясятай.

## «Кансэрватыўная большасьць раптам палюбіла сьпікера»

Пазьней Станіслаў Шушкевіч абвінаваціць мяне ў тым, што ў для сваіх кніг я выбіраю толькі выгадныя для БНФ факты, выстаўляючы яго ў непрывабным сьвятле.

Таму працытую словы журналіста, які ў той дзень знаходзіўся ў Авальнай залі. І прайшоў туды ўсяго толькі пяць разоў паказаўшы пропуск — бо Аляксандра Старыкевіча на сэсію не пускалі ўвогуле, Ігару Герменчуку і Васілю Даўгалёву давялося падключаць міністра ўнутраных спраў Ягорава, а 38 дэпутатам па выніку інцыдэнту зьвяртацца да

Генэральнага пракурора (канешне, ніхто ня быў пакараны).

Вось як апісваў пачатак сэсіі аглядальнік тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Міхась Замскі:

«Сьпікер парлямэнту прапанаваў ад імя Прэзыдыюму ВС пачаць працу з праекту новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Гэтая прапанова многімі дэпутатамі была расцэненая як спроба адсунуць на задні плян пытаньні вастрэйшага сацыяыльна-эканамічнага крызісу ў рэспубліцы, вывесьці з-пад крытыкі ўрад, які нясе найбольшую адказнасьць за эканамічны развал. Ля мікрафонаў адразу выстраіліся чэргі. З. Пазьняк, які атрымаў слова адзін зь першых, патрабаваў у катэгарычнай форме паставіць пытаньне аб адстаўцы ўраду В. Кебіча. Яго падтрымалі калегі па Апазыцыі народныя дэпутаты А. Трусаў, М. Крыжаноўскі, С. Навумчык, У. Заблоцкі і іншыя. Хоць і не ў такой катэгарычнай форме, але патрабавалі пачаць працу сэсіі з абмеркаваньня пытаньняў, зьвязаных з пераадоленьнем заняпаду эканомікі, многія іншыя парлямэнтарыі. Яны прывялі шматлікія факты заняпаду прамысловасьці, сельскай гаспадаркі рэспублікі. Дзясяткі прадпрыемстваў апынуліся на мяжы спыненьня — вычарпаныя ўсе фінансавыя і матэрыяльныя рэсурсы, рабочыя па некалькі месяцаў не атрымліваюць зарплату. Ня лепшыя справы і ў аграрным сэктары — фактычна засталіся няўбранымі на значных плошчах многія сельскагаспадарчыя культуры, рэзка зьнізілася вытворчасьць жывёлагадоўчай прадукцыі. І яшчэ адзін характэрны штрых: за апошні год экспарт нашай прадукцыі зьнізіўся на 44 працэнты…

Прызнацца, мне падумалася, што бурная дыскусія, у часе якой прагучала пераканаўчая крытыка ўраду, прымусіць пераважную большасьць цьвяроза паставіцца да прапаноў апазыцыі. Дарэмныя спадзяваньні: ніводная зь іх не прайшла. Гэтым разам кансэрватыўная большасьць парлямэнту раптам палюбіла сьпікера і ахвотна падтрымала ягоную прапанову пачаць працу сэсіі з паартыкульнага прыняцьця Канстытуцыі» («Літаратура і мастацтва», 12 лістапада 1993).

Што прыкметна, апантаныя прыхільнікі ўступленьня Беларусі ў сыстэму калектыўнай бясьпекі ўжо не казалі пра яе як пра спосаб забясьпечыць прадпрыемствы заказамі — было відавочна, што, як мы і прагназавалі, ніякага станоўчага эфэкту на эканоміку красавіцкае рашэньне Вярхоўнага Савету аб падпісаньні дамовы ня мела. Але і адмаўляцца ад таго рашэньня парлямэнцкая большасьць не зьбіралася: усё, што прывязвала Беларусь да Масквы, успрымалася гэтымі дэпутатамі як перамога.

Шушкевіч вырашыў «не абвастраць» сытуацыю і, як варта было чакаць, знайшоў у гэтым падтрымку парлямэнцкай большасьці.

На нейкі час верныя Кебічу дэпутаты пакінулі Шушкевіча ў спакоі — і старшыню Вярхоўнага Савета, напэўна, падалося, што небясьпека зьнікла. Але тое толькі быў тактычны ход намэнклятуры: яны вырашылі зрабіць сумнеўную справу рукамі Лукашэнкі.

Лукашэнка на сэсіі трос нашай заявай, у якой мы патрабавалі пазбавіць яго паўнамоцтваў, зь ягоных вуснаў ізноў гучаў звыклы набор абвінавачаньняў у бок Шушкевіча, і нарэшце — «з настойлівасьцю, што набывае маніякальны характар» (Міхась

Замскі) Лукашэнка вынес прапанову адправіць у адстаўку і Шушкевіча, і Кебіча. Гэта быў хітра разьлічаны ход: было зразумела, што парлямэнцкая большасьць за адстаўку Кебіча не прагаласуе, а вось Шушкевіча зьняць з пасады могуць.

Нам было ясна, што дзеяньні Лукашэнкі цалкам скаардынаваныя з атачэньнем Кебіча.

Лукашэнка паводзіў сябе нагэтулькі агрэсіўна, што ў адзін момант захапіў трыбуну, і Шушкевіч вымушаны быў спыніць пасяджэньне.

Але гэта не спыніла пагрозу адстаўкі сьпікера.

Хоць менавіта тады ў Шушкевіча нечакана зьявіліся вельмі ўплывовыя саюзьнікі.

***Уладзімер Шаўцоў*** *(Мазырская сельская выбарчая акруга № 221): «Зварот. Для ўсіх нас вельмі важна ў гэты цяжкі час захаваць законнасьць у грамадзтве... Шмат што ў вырашэньні гэтай задачы залежыць ад гатоўнасьці праваахоўных органаў і іншых сілавых структур служыць перш за ўсё закону і дзяржаве. Але тыя працэсы, якія ўсе мы назіраем вакол гэтых структур, выклікаюць сур'ёзную заклапочанасьць. Перш за ўсё мы маем на ўвазе стварэньне не прадугледжанага Канстытуцыяй, не зацьверджанага Вярхоўным Саветам і не падкантрольнага яму Дзяржсакратарыяту па барацьбе са злачыннасьцю і нацыянальнай бясьпецы, які спрабуе па сутнасьці кіраваць Міністэрствам унутраных спраў і Міністэрствам абароны і нават умешваецца ў справы Камітэту дзяржаўнай бясьпекі. Самую сур'ёзную заклапочанасьць выклікае таксама незаконнае стварэньне спэцслужбаў, дзеяньне якіх не прадугледжана існуючымі законамі і знаходзіцца па-за кантролем Вярхоўнага Савету. Да чаго гэта можа прывесьці, паказалі падзеі ў лістападзе, калі ў грамадзтве абсалютна на роўным месцы была створана крызісна небясьпечная сытуацыя...» Зварот падпісалі Партыя народнай згоды, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Беларуская хрысьціянска-дэмакратычная злучнасьць, Таварыства беларускай мовы, Беларускае згуртаванае вайскоўцаў, Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі і Беларуская сялянская партыя.*

Выступ у «Розным»

## ШЫРКОЎСКІ І ЯГОРАЎ ЗЬВЯРТАЮЦЦА ДА ДЭПУТАТАЎ

Некалькі разоў у фае Дому ўраду старшыня КДБ Шыркоўскі браў мяне за локаць і імпэтна гаварыў тое самае: «Якія сволачы, а? Я там працаваў, у Віцебску, а яны — “Чужак, яго зь Менску прыслалі!” Ну, ня сволачы?» — «Сволачы, Эдуард Іванавіч, сволачы!» — адказваў я. — «То-та!».

Гэты наш традыцыйны дыялёг тычыўся падзеяў вясны 1990-га, калі Шыркоўскі, тады яшчэ першы намесьнік старшыні КДБ БССР, балятаваўся ў Вярхоўны Савет па адной зь віцебскіх акругаў, суседняй з маёй. Я быў перамог у першым туры выбараў і дапамагаў паэту, рэдактару часопіса «Полымя» Сяргею Законьнікаву, які ішоў у адной акрузе з Шыркоўскім.

Хоць змаганьне было напружаным, але мушу засьведчыць, што апанэнты ў адносінах адзін да аднаго паводзілі сябе карэктна. Ніякіх прэтэнзіяў не магу выказаць і да падначаленых Шыркоўскаму мясцовых чэкістаў, якія, канешне, былі ў ягонай камандзе, але ніякіх сумнеўных мэтадаў супраць канкурэнта свайго шэфа не прымянялі.

А вось хто прымяняў такія прыёмы (якія безь перабольшаньня можна назваць подлымі) — дык гэта мясцовае партыйнае начальства, найперш супрацоўнікі райкаму партыі, у якіх была «свая» кандыдатура. Законьнікава яны абвінавачвалі ў тым, што ён як «бээнэфавец» хоча паўтарыць Баку і Сумгаіт (там былі крывавыя міжнацыянальныя канфлікты), а Шыркоўскаму інкрымінавалі тое, што ён «прысланы зь Менску» (тое самае — што

не мясцовы і ня будзе апекавацца віцебскімі выбаршчыкамі — казалі і пра Законьнікава). Пры гэтым Шыркоўскі яшчэ некалькі месяцаў перад тым працаваў у Віцебску начальнікам абласнога ўпраўленьня КДБ.

У выніку, у той раз па гэтай акрузе не перамог ніхто, Законьнікаву не хапіла літаральна некалькіх дзясяткаў галасоў (мая цётка, якая працавала членам камісіі аднаго з участкаў, потым злосна сказала: «Эх, каб ведала — укінула б!»).

Тая выбарчая гісторыя і нашыя дыялёгі ў кулюарах Вярхоўнага Савету выразна адлюстроўваюць атмасфэру таго часу, часу пераменаў.

У 1930-х сакратар райкаму, які б наважыўся выступіць ці патаемна нешта рабіць супраць намесьніка наркама НКВД, быў бы сьцёрты ў лягерны пыл.

У 1970-х мясцовае начальства за вялікую ўдачу палічыла б атрымаць такога «вясельнага генэрала», прычым ня якога-небудзь генэрала артылерыі (зь якога хіба што фэервэрк выпрасіш), а генэрала КДБ. Ужо чые запыты, а звароты такога дэпутата ў Міністэрства аўтамабільных дарог, каб заасфальтавалі вуліцу, ці ў Дзяржснаб, каб выдаткавалі цэглу на будаўніцтва паліклінікі, — выконваліся б імгненна.

Але ў канцы 1980-х ад страху пазбавіліся і рабілі генэралу дробныя гадасьці, а ў пачатку 1990-х Шыркоўскі, ужо старшыня КДБ, толькі і мог сабе дазволіць, што скардзіцца на віцебскае начальства.

У 2000-х страх перад чэкістамі вернецца.

У мяне былі своеасаблівыя адносіны з Шыркоўскім, заснаваныя на знаёмстве яшчэ па Віцебску. Якраз у 1993 годзе я паспрабаваў дамагчыся рассакрэчаньня справы забойцы прэзыдэнта ЗША Кенэ-

дзі Лі Гарві Освальда, якая была вернутая ў архіў КДБ Беларусі з Масквы. Перамовы з кіраўніцтвам камітэту ішлі доўга, адзіны рэальны вынік — я стаў першым чалавекам не ў чэкісцкіх пагонах, які патрымаў тую справу ў руках, а таксама пагутарыў з «куратарам» Освальда — усё гэта, зрэшты, падрабязна апісана ў кнізе Аляксандра Лукашука «Освальд у Менску» (больш поўнае выданьне — «Галіяфы», 2017).

Вось тады і давялося пабываць у кабінэце старшыні КДБ, дзе партрэт «жалезнага Фелікса» быў заменены на нейкі пэйзаж з возерам і бярозкамі. Шыркоўскі любіў паразважаць пра цяжкую сытуацыю і «дэстабілізуючыя фактары» (праўда, фактары без фактуры — «Ты сам усё ведаеш, навошта мне табе называць»), а аднойчы паўжартам-паўсур'ёзна прапанаваў мне ісьці ў КДБ прэс-сакратаром — «Уяўляеш, які будзе знак перабудовы органаў!»

Канешне, да прапановы я паставіўся з жартам, але КДБ сапраўды перабудоўваўся. Ва ўсялякім разе, тады так падавалася: адкрываліся архівы, чэкісты самі друкавалі артыкулы пра рэпрэсаваных. Памятаю, як на Дзяды, магчыма, у гэтым самым 1993 годзе, калі мы праходзілі па праспэкце, супрацоўнікі КДБ выйшлі на прыступкі свайго будынку і моўчкі стаялі — без капелюшоў.

У мяне таксама засталіся добрыя ўражаньні ад тых некалькіх маладых афіцэраў дзяржбясьпекі, якія былі ў ахове Станіслава Шушкевіча.

Ня думаю, што Шыркоўскага можна назваць чалавекам дэмакратычных поглядаў, але ён ня быў сатрапам.

Зрэшты, магчыма, гэта была гульня пад «новыя часы».

## Шушкевіч — шэф КДБ

Ня маю намеру ствараць палітычны партрэт старшыні КДБ — у кантэксьце падзеяў першых гадоў беларускай незалежнасьці важна тое, што, паводле закону, Камітэт дзяржаўнай бясьпекі падпарадкоўваўся Вярхоўнаму Савету.

Але мэханізм гэтага падпарадкаваньня вызначаны ня быў. На практыцы гэта выглядала так, што толькі старшыня Вярхоўнага Савету атрымліваў рэгулярную, практычна штодзённую інфармацыю з КДБ і толькі яму старшыня КДБ дакладаў тое, што лічыў патрэбным дакласьці.

Нават «профільная» камісія Вярхоўнага Савету па пытаньнях нацыянальнай бясьпекі, абароны і барацьбы са злачыннасьцю (заўважым — на першым месцы «нацыянальная бясьпека»), якую ўзначальваў Мечыслаў Грыб, — нават яна такой інфармацыі ня мела, і старшыня КДБ на даклады да кіраўніцтва парлямэнцкай камісіі не хадзіў. Ведаю таксама, што ніколі парлямэнцкая Камісія па пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правах чалавека, членам якой я зьяўляўся, ня мела дакладаў з КДБ (натуральна, я не бяру ў разьлік нашу перапіску ў справе рэабілітацыі рэпрэсаваных).

Тыя парлямэнцкія камісіі, якія зьвярталіся ў камітэт па нейкую інфармацыю, звычайна яе атрымлівалі (напрыклад, гэтым карыстаўся Пётра Садоўскі ў бытнасьць старшынём камісіі па міжнародных сувязях і зьнешнеэканамічнай дзейнасьці), але гэта былі адзінкавыя выпадкі.

Такім чынам, Станіслаў Шушкевіч фактычна адзіны атрымліваў рэгулярную інфармацыю ад Ширкоўскага.

Які аб’ём быў гэтай інфармацыі, што расказваў старшыня КДБ сьпікеру парлямэнту, у якой ступені і наколькі глыбока закраналася сытуацыя, якую прынята называць «унутрыпалітычнай», ці паведамляў Шыркоўскі Шушкевічу пра ўзаемаадносіны ўнутры партый (кіраўнікі КДБ заяўлялі, што не вядуць палітычны вышук), пра ўзаемаадносіны кіраўніцтва ўраду — магу толькі здагадвацца. Але ў студзені 94-га, калі Вярхоўны Савет адправіў яго ў адстаўку, Шыркоўскі сказаў Пазьняку: «Я рабіў для Шушкевіча ўсё!» Нам таксама было вядома, што Шыркоўскі інфармаваў Шушкевіча пра найбольш яскравыя факты карупцыі ў дзяржаўным апараце (ні адзін, ні другі гэтага не хавалі).

Словам, ад канца 1991-га і да студзеня 1994-га, да сваёй адстаўкі, цягам больш як двух гадоў Станіслаў Шушкевіч быў самым інфармаваным чалавекам у краіне.

Акрамя самога Шыркоўскага, зразумела.

І адзіным чалавекам, якому падпарадкоўваўся КДБ.

Пэўна, варта ўдакладніць — адзіным у Беларусі, бо ці выйшаў КДБ цалкам з-пад кантролю Лубянкі — спрэчнае пытаньне (пасьля сваёй адстаўкі Шыркоўскі пераехаў у Маскву).

Такая сытуацыя давала Шушкевічу вялікія магчымасьці для дзеяньняў.

І што асабліва важна — Шушкевіч мог разьлічваць на падтрымку Шыркоўскага.

І тут трэба нагадаць, што Савет міністраў і дзяржсакратар Данілаў неаднаразова рабілі спробы перавесьці КДБ ва ўласнае падпарадкаваньне, але гэта ім не ўдавалася: мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, заўсёды выступалі супраць, да нас далучаліся ін-

шыя, і нават ня ўсе падкантрольныя Кебічу дэпутаты былі згодныя даць прэм’еру канчаткова поўны кантроль над краінай.

Не атрымаўшы посьпеху легітымным шляхам, атачэньне Кебіча пачало дзейнічаць ціха, праз створаныя і непадкантрольныя (у адрозьненьне ад міністэрстваў) так званыя «галоўныя ўпраўленьні» Савету міністраў. Галоўная роля тут адводзілася Генадзю Данілаву, чыё ведамства выступала ініцыятарам далучэньня Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі.

У пэўны момант спробы кантролю зрабіліся нагэтулькі нязноснымі, што супраць выступіў і міністар унутраных спраў Уладзімер Ягораў, які быў членам ураду і падпарадкоўваўся Кебічу паводле Канстытуцыі. Кебічу, але не Данілаву.

## Генэралы КДБ і МУС абараняюць Канстытуцыю

У адзін з апошніх дзён восені 1993-га мне пазванілі адразу некалькі журналістаў і запыталі, ці сапраўды Шыркоўскі і Ягораў выступілі супраць Кебіча? Спачатку я падумаў, што гэта нейкая ня надта прадуманая дэзінфармацыя, бо нічога падобнага ў Беларусі яшчэ не здаралася. Аднак неўзабаве я трымаў у руках некалькі аркушаў — ліст, які неўзабаве быў распаўсюджаны і сярод дэпутатаў.

Ліст меў назоў «Пра некаторыя пытаньні дзяржаўнага ўладкаваньня Рэспублікі Беларусь», падпісаны быў Шыркоўскім і Ягоравым 20 лістапада 1993 года.

Журналісты ня мелі рацыі — ліст ня быў супраць Кебіча, больш таго, ён меў два адрасы, Шушкевічу

*Председателю Верховного Совета*
*Республики Беларусь*
*С. С. Шушкевичу*

*Председателю Совета Министров*
*Республики Беларусь,*
*В. Ф. Кебичу*

*Уважаемый Станислав Станиславович!*
*Уважаемый Вячеслав Францевич!*

***О некоторых вопросах государственного устройства Республики Беларусь***

Комитет государственной безопасности в течении 1992-93 годов неоднократно информировал высшие органы власти и управления республики о негативных процессах в Вооруженных Силах, вызванных торопливостью при их реформировании (*NN* 3/1-30-92г., 3/1-290-92г., 3/1-114-93г.), однако вносимые предложения были оставлены без внимания.

Выступая на X-й сессии Верховного Совета Беларуси (ноябрь 1992г.) Председатель КГБ отмечал, что одной из причин тяжелого положения в Вооруженных Силах, офицерского корпуса являются поспешность принятых решений о судьбе КБВО, допущенные перекосы в реформировании армии.

Это было обусловлено некомпетентностью отдельных лиц из числа представителей Верховного Совета и Совета Министров, участвовавших в подготовке для рассмотрения высшими органами власти и управления документов и предложений.

Как показало время, ошибочным решением явилось создание самостоятельных Пограничных войск, да еще и с Главным управлением, Железнодорожных и войск Гражданской обороны. Это привело к необоснованным колоссальным финансовым и материальным затратам государственных средств.

Представляется, что в практике кадровой политики Вооруженных Сил Республики сегодня решающими критериями при назначении на должности становятся личная преданность, наличие близких связей в определенных правительственных кругах. Это привело к беспрерывным перестановкам и назначениям командных кадров. Так, только за полтора года в Министерстве обороны сменилось четыре заместителя министра; все командующие общевойсковых и танковых армий, начальники их штабов, командующий ПВО. Аналогичная си-

Ліст старшыні КДБ Э. Шыркоўскага і міністра ўнутраных спраў У. Ягорава, распаўсюджаны сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савету.

– 4 –

С явным превышением своих полномочий и в нарушение существующих правил Госсекретариат самостоятельно принял решение о ввозе в республику крупной партии оружия из России, опять же проигнорировав позицию МВД по этому вопросу.

На основании изложенного полагаем:

– в целях значительного сокращения расходов на созданный управленческий аппарат целесообразно переподчинить войска Гражданской обороны и Железнодорожные войска Министерству обороны Беларуси, а Погранвойска – КГБ, что значительно сократит количество руководящего состава и сохранит огромные материальные средства; повысит их эффективность.

– Госсекретариат, как структура, не предусмотренная Основным Законом государства, и, исходя из этого, не обладающая никакими властными полномочиями является излишней. Считаем, что дальнейшее вмешательство Госсекретаря Г.И. Данилова в работу органов военной контрразведки, МВД и Внутренних войск не может быть терпимо.

Данное письмо 23 ноября с.г. будет распространено среди депутатов Верховного Совета, которые, как мы надеемся, примут соответствующие решения по поднятым вопросам.

*Председатель Комитета госбезопасности Республики Беларусь*

Ширковский Э.И. Ширковский.

„20" ноября 1993 года.

*Министр внутренних дел Республики Беларусь*

Егоров В.Д. Егоров.

„20" ноября 1993 года.

№ 205

і Кебічу, і аўтары зьвярталіся да абодвух — «Паважаны Станіслаў Станіслававіч! Паважаны Вячаслаў Францавіч!»

Аўтары зьвярталі ўвагу на «нэгатыўныя працэсы ва Ўзброеных Сілах», на прызначэньне на кіруючыя пасады паводле прынцыпу «асабістай адданасьці». Адмоўна ацэньвалі стварэньне самастойных Памежных войскаў («гэта прывяло да неабгрунтаваных калясальных фінансавых і матэрыяльных затратаў»).

Раней памежнікі ўваходзілі ў структуру КДБ, а з моманту вылучэньня Памежных войскаў у асобную структуру імі камандаваў былы камандзір Віцебскай дэсантнай дывізіі, дэпутат Вярхоўнага Савету Яўген Бачароў, якога называлі генэралам, цалкам падкантрольным Данілаву. Фактычна, Данілаў атрымаў даволі моцную ўзброеную групоўку. Шыркоўскі і Ягораў сьцьвярджалі, што Памежныя войскі ўзялі на сябе функцыю спэцслужбы: «уводзячы КДБ і іншыя органы ўлады ў зман адносна сапраўдных мэтаў, карыстаючыся падтрымкай Дзяржсакратара па барацьбе са злачыннасьцю і нацыянальнай бясьпецы, камандуючы Памежнымі войскамі стварыў АСАМ («асобную службу актыўных мерапрыемстваў»). Апошняя, падмяняючы органы дзяржаўнай бясьпекі і ўнутраных справаў, праводзіць па ўсёй тэрыторыі рэспублікі апэратыўна-вышуковыя дзеяньні ў поўным аб'ёме».

Далей аўтары сканцэнтраваліся на Дзяржаўным сакратарыяце па барацьбе са злачыннасьцю і нацыянальнай бясьпецы, які ўзначальваў Генадзь Данілаў.

Дзяржсакратарыят «якога-небудзь заўважальнага ўплыву на ўмацаваньне правапарадку ў рэспу-

бліцы… ня робіць, але патрабаваньняў узгадняць чыста службовыя пытаньні ад яго ідзе аж занадта… Мэта самасьцьвярджэньня і стварэньня бачнасьці сваёй дзейнасьці, значнасьці сярод праваахоўных органаў выяўляецца ў настойлівым імкненьні Дзяржсакратарыяту і асабіста Г. Данілава падпарадкаваць сабе кадравую палітыку МУС… Аналіз дзеяньняў Г. Данілава дазваляе з усёй пэўнасьцю зрабіць выснову пра ягоныя спробы ўсталяваць сярод кіраўніцтва МУС атмасфэру падазронасьці і рознагалосьсяў».

Прыводзіліся і канкрэтныя факты — так, «зь відавочным перавышэньнем сваіх паўнамоцтваў і ў парушэньне існуючых правілаў Дзяржсакратарыят прыняў рашэньне пра ўвоз у рэспубліку вялікай партыі зброі з Расеі, ізноў жа праігнараваўшы пазыцыю МУС».

Шыркоўскі і Ягораў прапаноўвалі перападпарадкаваць войскі Грамадзянскай абароны і Чыгуначныя войскі Міністэрству абароны, а Памежныя войскі — КДБ.

Але галоўным было іншае: «Дзяржсакратарыят як структура, не прадугледжаная Асноўным Законам (Канстытуцыяй — С. Н.) дзяржавы і якая, сыходзячы з гэтага, не валодае ніякімі ўладнымі паўнамоцтвамі, зьяўляецца залішняй. Лічым, што далейшае ўмяшаньне дзяржсакратара Г. І. Данілава ў працу органаў зьнешняй контравыведкі, МУС і Ўнутраных войскаў цярпець нельга».

Тут упершыню на такім высокім узроўні была прызнаная неканстытуцыйнасьць створаных Кебічам структураў — раней пра гэта казалі толькі мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ.

У апошнім абзацы Шыркоўскі і Ягораў паведамлялі, што ліст 23 лістапада будзе распаўсюджаны сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савету, «якія, як мы спадзяемся, прымуць адпаведнае рашэньне па ўзьнятых пытаньнях».

## БНФ абараняе генэралаў

Саюзьнікі ў палітыцы могуць быць розныя — сталыя і часовыя, ідэйныя аднадумцы і апанэнты. Здараецца, што менавіта з часовымі саюзьнікамі зь лягеру ідэйных апанэнтаў дасягаюцца найбольшыя перамогі (прыклад — альянс Чэрчыля, Рузвэльта і Сталіна).

Думаю, што аўтарам ліста падавалася парадаксальным, што іх, былых камуністаў (Шыркоўскі свайго часу працаваў сакратаром райкаму камсамолу, а Ягораў — сакратаром ЦК камсамолу Беларусі), пракамуністычная большасьць падтрымаць адмовілася, а падтрымалі тыя, з кім яны калісьці змагаліся (Ягораў пэўны час служыў у КДБ, у структуры, якая займалася дысыдэнтамі — якраз тады, калі супраць Пазьняка ўжываліся рэпрэсіі за ўдзел у нацыянальным руху).

Аднак для нас было важна, што гэтыя два генэралы знайшлі ў сабе сьмеласьць выступіць супраць спаўзаньня краіны ў беззаконьне. Як потым нам стала вядома, яны разумелі, што нашая падтрымка будзе мець хіба што маральнае і палітычнае значэньне, але спадзяваліся яны на рашучыя дзеяньні Шушкевіча.

Наяўнасьць прозьвішча Кебіча сярод двух адрасатаў нікога не падманула: Шыркоўскі і Ягораў тым самым давалі прэм’еру шанец выправіць сытуацыю,

хоць бясспрэчна, што мізэрнасьць такога шанцу была для іх відавочная. Выступаючы супраць найбліжэйшага палітычнага паплечніка і асабістага сябра Данілава (і адначасна — асабістага ворага Шушкевіча), сілавыя міністры фактычна выступалі супраць Кебіча і ў падтрымку Шушкевіча.

Ва ўсякім разе, Шушкевіч мог разьлічваць на іх падтрымку, і гэта карэнным чынам мяняла расклад сілаў — ён цяпер мінімальна залежаў ад Вярхоўнага Савету.

У той сытуацыі гэта азначала шмат, калі ня ўсё. Нават калі ня браць у разьлік Барыса Ельцына, якога Шушкевіч падтрымаў у драматычныя дні кастрычніка і які мог бы адгукнуцца на просьбу Шушкевіча аб падтрымцы ў адказ. Але ў дні адстаўкі Шушкевіча Ельцын такой падтрымкі ня выказа — праўда, і просьбы не было.

## Магчымасьці Шушкевіча пашыраюцца

Ліст Ягорава і Шыркоўскага адкрываў перад Шушкевічам магчымасьці, пра якія яшчэ нядаўна можна было толькі марыць.

Канешне, мы ў тыя дні абмяркоўвалі, што мог і што мусіў зрабіць старшыня Вярхоўнага Савету, прычым цяпер ужо нават ня ставячы наперад пазыцыю большасьці дэпутатаў (гэта была ўлюблёная адгаворка Шушкевіча, у пэўных выпадках справядлівая — парлямэнцкая большасьць здольная была заблякаваць якую заўгодна прапанову).

Шушкевіч мог заявіць пра неабходнасьць адстаўкі ўраду Кебіча, фармаваньня кааліцыйнага пераходнага ўраду, прыняцьця новага закону аб выбарах і іх прызначэньня на вясну 1993 году (апошняе,

дарэчы, было абавязкам Вярхоўнага Савету паводле ўласнага рашэньня ў кастрычніку 1992 году).

Такі альгарытм дзеяньняў мы прапаноўвалі, і ён бы ўратаваў краіну ад таго, што адбылося неўзабаве (адстаўка Шушкевіча, прыняцьце пад ціскам атачэньня Кебіча прэзыдэнцтва і пасьля выбараў — спаўзаньне Беларусі ў аўтарытарызм). А галоўнае, гэта было цалкам рэальна.

Безумоўна, надзвычайнай сэсіі мусіла папярэднічаць падрыхтоўка.

У Шушкевіча была інфармацыя ад Шыркоўскага пра сумнеўныя камэрцыйныя гешэфты некалькіх дзясяткаў дэпутатаў, і індывідуальныя гутаркі з гэтымі дэпутатамі цягам некалькіх дзён прымусілі б іх узважыць сваю пазыцыю. Магчыма, гэта і не зусім прыгожы мэтад — але прыдатны, каб засьцерагчыся ад вялікай бяды ў будучыні. Як кажуць, людзі — не анёлы, такі мэтад прымяняецца ў парлямэнцкай практыцы пераходных краінаў.

Шушкевіч мог выступіць у жывым этэры тэлебачаньня і радыё з фактамі пра карупцыю ў структурах ураду (і гэта былі б рэальныя факты, іх яму ў вялікай колькасьці даваў Шыркоўскі).

І гэта было б тое, што завецца «інфармацыйнай бомбай».

Якая, акрамя іншага, перацягнула б на сябе антыкарупцыйныя чаканьні грамадзтва, і даклад Лукашэнкі ўжо ня меў бы таго эфэкту, які атрымаў (а найхутчэй, таго дакладу зусім бы не было — бо сэсія мусіла прыняць толькі рашэньні пра адстаўку Кебіча, пераходны кааліцыйны ўрад і новыя выбары).

Зусім няшмат трэба было Шушкевічу, каб стварыць адпаведную атмасфэру ў грамадзтве. Уласна,

такая атмасфэра ўжо існавала, у немалой ступені ў выніку дзейнасьці БНФ — атмасфэра недаверу Кебічу і чаканьня пераменаў.

А якраз незадоўга да ліста міністраў Шушкевіч меў магчымасьць пераканацца, што менавіта актыўныя энэргічныя і сьмелыя дзеяньні маюць эфэкт у няпростых сытуацыях.

Пасьля забойства старшыні Горадзенскага аблвыканкаму Дзьмітрыя Арцымені Шушкевіч паехаў на сэсію Горадзенскага абласнога савету — пад узмоцненай аховай.

Горадзенскія дэпутаты, большасьць зь якіх складала намэнклятура, даведаліся пра магчымы прыезд Шушкевіча і ўжо прадчувалі асалоду, як «уваляць яму, як каню» — і за «развал Саюзу», і за «разгул дэмакратыі».

Аднак выгляд ахоўнікаў з аўтаматамі, якія ўвайшлі ў залю, прыклеіў языкі, і «народныя абраньнікі» імгненна зьмянілі сваю пазыцыю ды прагаласавалі не за сваю крэатуру, а за прапанаванага сьпікерам Сямёна Домаша.

Розныя варыянты дзеяньняў былі ў Станіслава Шушкевіча пры падтрымцы старшыні КДБ і міністра ўнутраных спраў.

Ніводзін зь іх скарыстаны ня быў — Шушкевіч спадзяваўся, што яму ўдалося дасягнуць згоды, і Беларусь у новы 1994 год увойдзе «шляхам канстытуцыйных пераўтварэньняў».

Але да канца 1993-га адбылася яшчэ адна падзея — перадапошняя ў шэрагу драматычных падзеяў гэтага году, якой, аднак, давялося быць вызначальнай.

***Павал Холад*** *(Плешчаніцкая выбарчая акруга № 67): Депутат Лукашенко, ссылаясь на документ, полученный из ремонтно-строительного управления Совмина, обвинил Станислава Шушкевича в неполной оплате ремонтных работ на 4 объектах. Затем в подтверждение того, что Станислав Шушкевич за все расплатился, он огласил в этом зале (и газеты напечатали) записку, подписанную вами, Вячеслав Францевич. Вот ее содержание. «Уважаемый Станислав Станиславович, проверка РСУ не окончена. Никто справку не подписывал и не визировал. Здесь полная фальсификация. Там ничего ненормального нет. Все в порядке. С уважением. Кебич». 16 декабря 1993 года за номером 10/349 этим же совминовским управлением выданы справка и поясняющий документ, подписанный начальником управления Н. П. Свиридовичем и главным бухгалтером Р. Ф. Кожушко... «Заказчиком Шушкевичем С. С. внесена оплата за выполненные работы: 1992 год — 191 636 рублей, 1993 год — 626 400 рублей. Всего 818 тысяч 36 рублей. Задолженности по выполненным объектам на 1 декабря 1993 года нет». Подписи. Печати. Уважаемый Вячеслав Францевич, коль вы утверждаете в данной Шушкевичу записке, что использованный Александром Лукашенко документ — фальсификация, то кто же в РСУ Совмина фальсификатор?.. И не считаете ли вы правильным (как в таких случаях поступают порядочные люди) с этой трибуны принести извинения Станиславу Шушкевичу за своих подчиненных из управления Совмина, которые сфабриковали документ?*

*Выступ у «Розным»*

# ЛУКАШЭНКА ВЫСТУПАЕ З ДАКЛАДАМ — НАМЭНКЛЯТУРА Ў ЗАХАПЛЕНЬНІ

«Што ж ты, Саша, наляцеў на Навумчыка, папракаў яго “іншамаркай” — ты ж бачыў гэтую развалюху, ты ў яе нават сесьці не захочаш?» — «А навошта Навумчык заявіў, што “Лукашэнка ня той чалавек?” Увогуле, Мікалай, адыдзі ўбок, хіба ня бачыш — я катком пайшоў на апазыцыю!»

Гэтыя дыялёг з Аляксандрам Лукашэнкам дэпутата апазыцыі Мікалая Крыжаноўскага ў фае перад Авальнай заляй я ня чуў, але Мікалай неаднаразова пераказваў яго, прычым пераказваў у розныя гады, не зьмяніўшы ніводнага слова, таму дакладнасьць дыялёгу гарантую.

14 сьнежня 1993 году Авальная заля была перапоўненая — ня толькі дэпутаты, але і ўрад у поўным складзе, супрацоўнікі апарату Вярхоўнага Савету і Савету міністраў, журналісты і дыпляматычны корпус. Выступу Лукашэнкі чакалі.

Выступ Лукашэнкі ў якасьці старшыні так званай антыкарупцыйнай камісіі 14 сьнежня і ягоныя адказы на пытаньні 15 сьнежня зьявіліся ня толькі этапнымі для ягонай палітычнай біяграфіі, але і вызначальнымі для будучыні Беларусі. (Пазьней у сьвядомасьці людзей і ў ацэнках палітолягаў яны будуць аб’яднаныя пад адным назовам — «антыкарупцыйны даклад Лукашэнкі».)

## «Я не чакаў выкрыцьця асабліва вялікіх фактаў ад спадара Лукашэнкі»

Гэтага выступу чакалі, чаканьне гэтае накручвалася дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі, Лукашэнка прамаўляў у наўпроставай радыётрансьляцыі, і ля прыёмнікаў сядзелі мільёны. Уласна, у гэтыя дні было вырашана, хто будзе прэзыдэнтам Беларусі.

Важнасьць моманту разумеў і сам герой дня: Лукашэнка ўзышоў на трыбуну ў новым гарнітуры (здаецца, шэра-блакітнага колеру).

Нам удалося дамагчыся, каб з альтэрнатыўным дакладам выступіў Сяргей Антончык, і вось ён сапраўды прывёў факты злоўжываньняў і карупцыі на самым версе выканаўчай улады, і назваў прозьвішчы, і абвінаваціў Лукашэнку ў тым, што той сьвядома ў сваім дакладзе не назваў гэтых імёнаў, — але даклад Сяргея ня меў таго эфэкту, як выступ Лукашэнкі, бо адбываўся не ў рэжыме жывой радыётрансьляцыі і быў фактычна замоўчаны дзяржаўнымі СМІ.

Ну а разьюшылі Лукашэнку гэткія мае словы ў часе абмеркаваньня ягонага дакладу:

«Я не чакаў выкрыцьця асабліва вялікіх фактаў ад спадара Лукашэнкі. Гэта ня тая асоба. Але і без таго гэтая справаздача асабіста ў мяне пакінула пачуцьцё расчараваньня. Праўда, выступы іншых дэпутатаў — членаў камісіі і, у прыватнасьці, Сяргея Антончыка, далі больш фактаў. Бо калі справаздача ўтрымлівала ў асноўным больш палітыку, нават не палітыку, а палітыканства, дык выступленьне Антончыка было пабудавана на фактах і толькі на фактах. Я перакананы, што калі б яму далі

не 30 хвілін, а гадзіну і 30 хвілін, то і яшчэ засталіся б факты. “Я готов предоставить информацию о крупных руководителях”, — сказаў спадар Лукашэнка, але не прадаставіў. “Имеется информация об участии высших должностных лиц в торговле оружием”, — але чаму тут, на гэтай парлямэнцкай трыбуне, гэтая інфармацыя не была названая? Мне ў ліку іншых народных дэпутатаў ужо, напэўна, тры разы з гэтай трыбуны даводзілася выступаць з запытамі пра справу «Белмедполя», дзе працуе спадарыня Алена Кебіч і куды былі перададзеныя 3 мільёны даляраў для закупу мэдычнага абсталяваньня. Няма адказу».

У выступе я нагадаў, што «ў нас за гэты год толькі 20 тысяч рублёў узята падатку за транзыт, транзыт таго транспарту, які праходзіць па тэрыторыі Беларусі. Вось гэта злачынства супраць дзяржавы. Гэта праява таго, што ўрад абсалютна не клапоціцца пра дзяржаўныя інтарэсы».

20 тысяч рублёў у тым часе — гэта дзесяць даляраў; хто з урадоўцаў быў зацікаўлены ў тым, каб патэнцыйныя мільёны не пайшлі ў бюджэт, ці альтруістычным было такое зацікаўленьне — пра гэта Лукашэнка не казаў. Як не сказаў і пра сытуацыю вакол 3 мільёнаў даляраў для фірмы, дзе працавала жонка Кебіча, пра што і дэпутаты апазыцыі, і газэта «Свабода» казалі і пісалі ўвесь 1993 год.

## Даклад пісалі людзі Кебіча

Выступам Лукашэнкі 14–15 сьнежня можна было б прысьвяціць ня тое што асобны разьдзел кнігі, а і цэлую кнігу. Але я ня буду гэтага рабіць: больш

важна сказаць пра тое, хто насамрэч быў стваральнікам дакладу.

І ўсё ж — некалькі словаў пра ягоны зьмест, паколькі ён тычыўся і нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, і мяне асабіста.

Пазьней маю ацэнку таго дакладу як сумесі праўды, напалову праўды і заведамай хлусьні будуць цытаваць біёграфы Лукашэнкі, таму тут расшыфрую: праўдай былі названыя імёны чыноўнікаў невысокага рангу, паўпраўдай — наяўнасьць у мяне і Заблоцкага, як гэта вынікала з выступу Лукашэнкі, замежных (мелася на ўвазе — не савецкай ці расейскай вытворчасьці) аўтамабіляў (насамрэч, тое былі старыя, «дабітыя» машыны, кожнай — больш за дзесяць гадоў), ну а поўнай хлусьнёй было сьцьвярджэньне, што апазыцыя замешаная ў карупцыі гэтак сама, як і ўлада.

«Каля кармушкі і чыноўнікі, і апазыцыянэры хрукаюць аднолькава», — надрукавала «Советская Белоруссия» словы Лукашэнкі.

Адказваючы на пытаньні з трыбуны сэсіі, Лукашэнка сказаў: «Ответ Наумчику. Первое. Нет, ни с Шушкевичем, ни с вами, Вячеслав Францевич, я не согласовывал наш материал. Да, Сергей, я действительно не рос в черных обкомовских “волгах” и на черной икре (сьмех у зале) и жизнь видел не через ветровое стекло той черной “волги”».

Чорная ікра і чорны аўтамабіль, ва ўяўленьні Лукашэнкі, былі атрыбутам сям’і сакратара абкаму партыі, якім мой бацька быў да жніўня 1991 году. У залі сапраўды стаяў рогат, карэктна пазначаны ў стэнаграме «сьмехам у залі».

Сяргей Антончык, Апазыцыя БНФ: «Я проста абураны, калі дэпутат Лукашэнка папракае дэпу-

тата Навумчыка толькі ў тым, што ён зьяўляецца сынам работніка абкаму. Бо так пры Сталіне людзей... А я сын рэпрэсаванага. Бацьку страціў у сямнаццаць гадоў. Але гэта не перашкаджае мне сябраваць і быць у нармальных адносінах з чалавекам, бацька якога, можа быць, быў па іншы бок барыкад. І толькі тыя сталіністы за тое, што нехта сябраваў з Троцкім ці яшчэ з кімсьці, саджалі ў турмы. Таму я прасіў бы, каб Лукашэнка папрасіў прабачэньня перад дэпутатам Навумчыкам».

Канешне, ніякага прабачэньня Лукашэнка не папрасіў, а большасьць дэпутатаў была задаволеная словамі пра «чорную ікру» і зусім ня ўбачыла ў падобных пасажах ніякай небясьпекі.

Празь некалькі гадоў прыгаданыя Сяргеем Антончыкам сталінісцкія мэтады расправы з апанэнтамі ўвойдуць у сілу і будуць каштаваць жыцьця некаторым з тых, хто ў той момант знаходзіўся ў Авальнай залі і ўхваляў словы Лукашэнкі.

Адказваючы 15 сьнежня на маё сьцьвярджэньне, што ягоны выступ быў узгоднены з найвышэйшымі асобамі, Лукашэнка заявіў, што «Нет, ни с Шушкевичем, ни с вами, Вячеслав Францевич, я не согласовывал наш материал». Гэта таксама была хлусьня напалову.

І не таму, што з Шушкевічам свой даклад Лукашэнка сапраўды не ўзгадняў. Не ўзгадняў ён яго і з Кебічам. Лукашэнку проста не было патрэбы насіць свой тэкст да Кебіча — таму што пісаўся гэты тэкст разам зь людзьмі Кебіча, пры поўным спрыяньні Кебіча і пры поўным кантролі Кебіча.

Вось што праз гады сказаў тагачасны галоўны рэдактар «Советской Белоруссии», а пазьней рэдактар (паводле некаторых зьвестак — фактычны

суаўтар) мэмуараў Кебіча, Ігар Асінскі: «14 сьнежня 1993 году на ўнутраным развароце газэты быў надрукаваны антыкарупцыйны даклад Аляксандра Лукашэнкі… публікацыя, ва ўмовах строгай сакрэтнасьці падрыхтаваная журналісткай Людмілай Масьлюковай, выклікала неверагодны ажыятаж у грамадзтве. Увесь розьнічны наклад разышоўся за лічаныя хвіліны… А празь некалькі гадзінаў Аляксандар Лукашэнка выступіў з гэтым дакладам на сэсіі Вярхоўнага Савету, зрабіўшы, магчыма, самы важны крок да вяршыняў дзяржаўнай улады» (Натальля Кулінка, Натальля Фядотава. «Время несбывшихся надежд», Вільня, Логвінаў, 2014, с. 173–174).

Варта ўдакладніць сказанае Асінскім — тэкст дакладу друкаваўся ў форме інтэрвію з супрацоўніцай газэты Людмілай Масьлюковай. Але гэта дэталь, а галоўнае — прызнаньне тагачаснага рэдактара газэты Савету міністраў, што ён меў тэкст яшчэ перад тым, як ён быў зачытаны з трыбуны Вярхоўнага Савету.

А вось прызнаньні самой Масьлюковай (якая адным са сваіх палітычных дасягненьняў лічыць тое, што, калі балятавалася ў ВС-13 у 1995 годзе, «у сваёй акрузе нямала крыві папсавала суперніку Валянціну Голубеву — самаму гарластаму з БНФ» (там сама, с. 141).

Яна кажа, што даклад Лукашэнкі пісаўся з удзелам журналістаў «СБ».

Масьлюкова не хавае радасьці: «Поўны фурор, і над разваротам — маё імя буйным шрыфтам. Але! Ідэя Лукашэнкі. Гэта ён узначаліў у парлямэнце антыкарупцыйную камісію, якая і рыхтавала яму даклад — лёсавызначальны і для яго самога, і для ўсёй

краіны. Факты “нарылі” прафэсійныя сьледчыя. Канцэпцыю выбудоўваў палітык Васіль Новікаў (будучы кандыдат у прэзыдэнты ад камуністычнай партыі — С. Н.). Усе разам мы з Аляксандрам Рыгоравічам ацэньвалі, што атрымліваецца. Ён даклад ухваляў, але тыкаў у старонкі пальцам: маўляў, тут, вось тут і яшчэ вось тут я свой “фіціль” устаўлю. На мой погляд, менавіта “фіцілі” і зрабілі палымянай тую ягоную прамову з парлямэнцкай трыбуны…» (там сама, с. 136).

У інтэрвію Аляксандру Фядуту для ягонай кнігі Масьлюкова кажа: «Малумаў правяраў дакладнасьць фактуры, Сазонаў пастаўляў “сьвяжак”, каб нешта ўзмацніць, Новікаў адсочваў жорсткасьць лёгікі, разьвіцьцё думкі. А я, як і належыць журналісту, гарэзьнічала над тэкстам» (Аляксандар Фядута. Лукашенко. Политическая биография. Масква, «Референдум», 2005, ст. 94).

І Асінскі, і Масьлюкова блытаюць даклад, адказы на пытаньні і інтэрвію — але ў дадзеным выпадку важна тое, што ўсё гэта пісалася з дапамогай супрацоўнікаў газэты Савету міністраў. Прычым ня проста журналістаў, а давераных Кебічу асобаў. Ня лішне заўважыць, што Масьлюкова мела непасрэдны доступ да Кебіча: «Я мела, як кажуць, “доступ да цела” прэм’ера. Вячаслаў Францавіч даў мне тэлефон свайго ахоўніка, каб, у выпадку неабходнасьці, я магла наўпрост выйсьці на яго» («Время несбывшихся надежд», с. 145).

Прызнаньні Людмілы Масьлюковай пацьвярджаюць тое, пра што мы ведалі. І, бадай, апошняя яе цытата: «Ня без удзелу “СБ” быў адпраўлены ў адстаўку сьпікер парлямэнту Станіслаў Шушкевіч — “белавескі зубар”. Так яго называлі, таму

што ён як кіраўнік Беларусі 8 сьнежня 1991 году падпісаў у Віскулях вось гэта: “Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік як… геапалітычная рэальнасьць спыняе сваё існаваньне”» (там сама, с. 135). І праз 20 гадоў Масьлюкова гневаецца з прычыны ліквідацыі СССР і ганарыцца датычнасьцю да адстаўкі Шушкевіча.

Калі можна казаць пра нейкую долю віны Шушкевіча ў кантэксьце дакладу Лукашэнкі, дык яна толькі ў тым, што ён, Шушкевіч, не надаў праблемам карупцыі асаблівай увагі. Але калі Шушкевічу можна закінуць ігнараваньне тэмы карупцыі, дык Кебічу — непасрэднае спрыяньне сумнеўнаму ўзбагачэньню. Зусім розная ступень вінаватасьці.

Міжнародная няўрадавая арганізацыя Transparency International, якая вывучае стан карупцыі ў розных краінах сьвету, невыпадкова пазначае свой штогадовы рэйтынг менавіта як «успрыманьне» карупцыі.

Гэтым самым на першае, асноўнае месца выводзіцца нават ня сам рэальны ўзровень карупцыі, а ягонае ўспрыманьне насельніцтвам (у момант, калі я пішу гэтыя радкі, у індэксе Transparency International, Беларусь знаходзіцца на 68-м месцы, паміж Сэнэгалам і Аманам).

У 1993 годзе ў Беларусі ўзровень жыцьця пагоршыўся, і многія зьвязвалі гэта з дэмакратычнымі і эканамічнымі рэформамі (хоць тое было якраз вынікам адсутнасьці такіх рэформаў). Але каб убачыць, хто імкліва багацее, ня трэба было разьбірацца ў паліталёгіі: багацелі чыноўнікі ды тыя, хто быў да іх набліжаны. БНФ прапаноўваў прыняць пакет антыкарупцыйных законаў, у тым ліку і пра асновы службы ў дзяржаўным апараце, нават

зладзіў некалькі антыкарупцыйных мітынгаў — але ўсё гэта ігнаравалася найвышэйшым кіраўніцтвам краіны. Заканадаўства, якое б паставіла бар'еры для карупцыі, не было.

У выніку тэма карупцыі зрабілася тым самым рычагом, якім краіна ад хай сабе і недасканалай, але дэмакратыі — была павернутая да аўтарытарызму.

## «Аляксандар Лукашэнка — беларускае ЧК»

Жаданьне аматараў інтрыгаў выкарыстаць некага супраць ворага можа вылезьці бокам: прадмет маніпуляцыі з інструмэнта ператвараецца ў маніпулятара, і вось ужо інтрыганы гойсаюць марыянэткамі ў ягоных руках.

Кебіч хацеў скарыстаць Лукашэнку ў змаганьні з Шушкевічам, «маладыя ваўкі» (Булахаў, Ганчар, Сініцын) рабілі з Лукашэнкі таран супраць Кебіча. У выніку, Лукашэнка абыграў іх усіх.

З моманту «антыкарупцыйнага» выступу Лукашэнкі адзіным спосабам спыніць яго на шляху ў прэзыдэнты было не дапусьціць самога прэзыдэнцтва (дэпутаты апазыцыі спрабавалі гэта зрабіць, байкатуючы галасаваньне) альбо падвысіць узроставую мяжу для кандыдатаў да 40 гадоў (Лукашэнку было 39). Аднак, да пэўнага часу, парлямэнцкая большасьць глядзела на Лукашэнку як на таран супраць БНФ і зусім не ўспрымала яго як сур'ёзную пагрозу Кебічу. І Лукашэнка сваім дакладам яшчэ болей «закалыхаў» намэнклятуру.

Асабліва спадабаўся пракамуністычным дэпутатам закід у бок Станіслава Шушкевіча — пры рамонце ягонай кватэры былі скарыстаныя магчы-

масьці гаспадарчага ўпраўленьня Савету міністраў. Лукашэнка прыгадваў нейкія скрыні зь цьвікамі.

Аднак тады я заўважыў, што калі і папракаць Шушкевіча — дык у тым, што ўвесь рамонт і кватэры і прыватнай дачы ад пачатку і да канца ня быў зроблены гэтым самым упраўленьнем пры шчыльным кантролі КДБ, паколькі любая замежная выведка заплаціць якія заўгодна грошы прыватнай будаўнічай фірме, каб паставіць ў часе рамонту свае «жучкі».

Празь месяц на закрытым пасяджэньні Вярхоўнага Савету Лукашэнка абвінаваціць Шушкевіча ў тым, што ён не абараніў супрацоўнікаў расейскай выведкі, якія працавалі ў беларускім прадстаўніцтве ААН у Нью-Ёрку і якіх выслалі з ЗША. «Наших, российских людей не защитил!» — абурыўся Лукашэнка і ўнёс прапанову аб адстаўцы Шушкевіча. Гэтым разам праімпэрская, пракамуністычная большасьць дамаглася свайго.

Але ў народнай сьвядомасьці адстаўка Шушкевіча ўвязаная з дакладам Лукашэнкі.

*Аляксандар Лукашэнка — беларускае ЧК*
*Мільёны праварoніў — скінуў Стася з-за цьвіка!*

— даслалі чытачы ў «Звязду» на конкурс прыпевак.

Як і іншыя дэпутаты Апазыцыі БНФ, я ня ўдзельнічаў у галасаваньні 26 студзеня 1994 году за адстаўку Шушкевіча. Мы ўвогуле не апускалі бюлетэні ў скрыні, хоць і разумелі з настрою большасьці дэпутацкага корпусу, што гэтым разам нам ня ўдасца заблякаваць галасаваньне. Калі позна ўвечары старшыня падліковай камісіі абвясьціў сумныя для Шушкевіча вынікі, пасяджэньне сэсіі

скончылася, і Шушкевіч выйшаў у бакавыя дзьверы за прэзыдыюмам — звычайна ён пакідаў свае рэчы ў пакоі за Авальнай заляй (кабінэт старшыні быў ужо ў будынку былога ЦК).

Я пайшоў усьлед за Шушкевічам. Спачатку я хацеў выказаць заўвагі адносна ягонага выступу перад галасаваньнем (выступ сапраўды быў ня самым удалым), але калі ўжо ўвайшоў у пакой, проста выказаў спачуваньне. Шушкевіч ужо быў у паліто і зьбіраў у папку паперы, а потым надзеў шалік.

Гэта быў ірляндзкі шалік шэра-крэмавага колеру са сьветлымі палоскамі на канцах, якія ў пачатку 80-х завезьлі ў Савецкі Саюз у даволі вялікай колькасьці (невядома зь якой нагоды — здаецца, «калашнікавы» ў Ісьляндыю Масква не пастаўляла). Набыць яго можна было толькі «па знаёмстве», але ён быў даволі распаўсюджаны.

Я глядзеў на гэты стары шалік, які папраўляў на сабе чалавек, што яшчэ чвэрць гадзіны таму быў кіраўніком дзяржавы, і адчуваў, наколькі абсурдным было абвінавачаньне яго ў карупцыі з вуснаў сіпатага дырэктара саўгасу. Я дакладна ведаў, што некаторыя намесьнікі старшынь аблвыканкамаў клалі сабе ў кішэню сотні тысяч даляраў хабару за ліцэнзіі на рээкспарт нафты, што «актывы» аднаго зь віцэ-прэм'ераў ацэньваліся на дваццаць мільёнаў даляраў, што сотні менш значных чыноўнікаў мелі фірмы, якія штомесяц прыносілі ім даходы ў дзясятак разоў большыя за афіцыйныя зарплаты — і ўсё гэта мог мець ён, кіраўнік дзяржавы. Мог, пры жаданьні. Але — не захацеў, і вось цяпер сыходзіць, маючы тое, з чым і прыйшоў на найвышэйшую пасаду.

Была ў гэтым нейкая вялізная несправядлівасьць, адчуваньне якой абвастрылася потым, калі той дырэктар саўгасу стаў прэзыдэнтам і разам са сваім атачэньнем паказаў зусім іншыя спосабы жыцьця і іншы ўзровень уласнага дабрабыту.

Каля я вяртаўся ў Авальную залю, я думаў пра тое, што яшчэ пару гадзінаў таму, калі б Шушкевіч патэлефанаваў Ельцыну і папрасіў падтрымкі — расейскі прэзыдэнт адным званком Кебічу мог бы спыніць тое, што адбылося ў Авальнай залі. Але цяпер было ўжо позна.

— Ён яшчэ не даедзе дадому, а спэцсувязь у кватэры адключаць, — нібыта прачытаў мае думкі сустрэты ў фае каардынатар парлямэнцкай большасьці Генадзь Казлоў.

## Подпіс пад навагодняй ялінкай

Перад адстаўкай Станіслаў Станіслававіч пасьпеў зрабіць яшчэ адзін гістарычны ўчынак.

У апошні дзень 1993-га, 31 сьнежня, старшыня Вярхоўнага Савету Шушкевіч усё ж падпісаў дакумэнт, у якім заявіў, што Беларусь далучаецца да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы.

Дацiснулі.

Настоящим уведомляется, что

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ

присоединяется к

ДОГОВОРУ О КОЛЛЕКТИВНОЙ БЕЗОПАСНОСТИ,

подписанному на заседании

Совета глав государств

Содружества Независимых Государств

в г.Ташкенте 15 мая 1992 года

С.С.Шушкевич

Председатель Верховного
Совета Республики Беларусь

Совершено в г.Минске 31 декабря 1993 года

Дакумэнт, падпісаны Станіславам Шушкевічам, аб далучэньні Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД.

# УДЗЯЧНЫ ВУЧАНЬ ПАПРАЎЛЯЕ НАСТАЎНІКА

Пасяджэньні Вярхоўнага Савету штодня пачыналіся разьдзелам «Рознае» — імі адкрываюцца і разьдзелы гэтай кнігі. Але для гэтага выступу я раблю трайное выключэньне: цытую яго, хоць ён адбыўся не ў 1993-м годзе, а ў наступным. Не скарачаю яго, як іншыя, а даю поўны фрагмэнт стэнаграмы. І — стаўлю яго не ў пачатку разьдзелу, а завяршаю ім кнігу.

Аўторак, 1 сакавіка 1994 году. Заля пасяджэньняў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь. 9 гадзін 30 хвілін. Старшынствуе Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь М. І. Грыб.

Старшыня: Добрай раніцы, паважаныя народныя дэпутаты! Прашу заняць свае месцы. Будзем прыступаць да працы, пачнём з «Рознага»… Слова мае Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч.

Шушкевіч С. С. (Адоеўская выбарчая акруга № 44, г. Менск): Паважаны Старшыня! Шаноўныя дэпутаты! Я баюся, што вы зараз будзеце выключаць мікрафон, таму што мой аналіз таго пытаньня, па якому ў нас адбываецца галасаваньне, паказвае, што фактычна мы хочам у адсутнасьць Канстытуцыйнага суду, у адсутнасьць структуры, якая дае тлумачэньне законаў, прыняць адразу тры разьдзелы нашай Канстытуцыі, па якіх вы, паважаны Мечыслаў Іванавіч, адразу станеце прэзыдэнтам, у вас будуць функцыі. Прачытайце артыкул 106. І таму, хоць ідзе галасаваньне, я кажу, што такім чынам народ уводзіцца ў зман, Вярхоўны Савет уво-

дзіцца ў зман. І мы хочам зрабіць фактычна пераварот. Я лічу, што гэта недапушчальна. А цяпер па тэме. Паважаныя народныя дэпутаты! Ці можа быць законапаслухмяным народ, калі Вярхоўны Савет не зьяўляецца законапаслухмяным? Гэтага ня можа быць. Вярхоўны Савет прыняў рашэньне, прыняў пастанову зацьвердзіць заяву аб канстытуцыйных пераўтварэньнях. Сёньня 1 сакавіка. Дзе ж наша сумленьне? Дзе ж нашы датэрміновыя выбары, аб якіх мы абʼявілі? Мы падменьваем сёньня... Я разумею, што вам вельмі хочацца сядзець на гэтых месцах, бо вы да другой работы не ўсе здатныя. (Шум у залі). І таму, дзе ж наша сумленьне?

Старшыня: Выключыце мікрафон, таму што ідзе зьнявага народных дэпутатаў. Прабачце, але гэта так. Гэта ваша слова, Станіслаў Станіслававіч.

Шушкевіч С. С.: (Не чуваць) … а сёньня падманваем народ і ўводзім яго зноў у зман. Мы хочам, каб людзям зрабіць іншае абяцаньне. Я хачу сказаць, я вельмі многа сустракаюся зь людзьмі, яны вам ужо ня вераць, і мне прыемна гэта бачыць. (Шум у залі).

Старшыня: Паважаныя народныя дэпутаты! Выключаць мікрафон, калі чалавек ганьбіць народных дэпутатаў, — гэта не мая школа. Гэта школа майго папярэдніка. Я так зрабіў, як мяне вучылі.

# ПАКАЗЬНІК АСОБАЎ

**К**

**М**

**С**

**Ц**



**Ч**



**Ш**

# ПРА АЎТАРА

Сяргей Навумчык нарадзіўся ў 1961 годзе ў Паставах. У 1964 годзе з бацькамі пераехаў у Віцебск. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ, служыў у войску, працаваў у віцебскай абласной газэце. Публікаваў артыкулы ў абарону архітэктурнай спадчыны Віцебску. У 1988 годзе быў ініцыятарам грамадзкай кампаніі супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС, удзельнічаў ва ўстаноўчым сходзе таварыства «Мартыралёг» і Беларускага Народнага Фронту 19 кастрычніка 1988 г.

З сакавіка 1990 па студзень 1996 — дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі XII скліканьня, быў каардынатарам парлямэнцкай апазыцыі БНФ. Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі ВС 24–25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьці Беларусі. Аўтар шэрагу законапраектаў. Удзельнічаў у галадоўцы дэпутатаў Апазыцыі БНФ 11–12 красавіка 1995 г. супраць ініцыяванага Лукашэнкам так званага рэфэрэндуму аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымбаляў герба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць парлямэнт.

У жніўні 1996 г. атрымаў палітычны прытулак у ЗША. З 1999 — супрацоўнік Радыё Свабода. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, ляўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча.

## SUMMARY

1993 is considered by many to be the most dramatic of all years in the brief period of Belarusian democracy.

It was then that a multi-party system of government was put in place, new independent newspapers started to appear, and names and events long banned by the communist regime once again started to seep into the national consciousness. Minsk hosted the first convention of world Belarusians in 1993, bringing together representatives of the Belarusian diaspora from five continents. The Belarusian parliament declared that all nuclear weapons be removed from the country's territory.

But it was also in 1993 that anti-democratic forces in Belarus consolidated their positions. The communist party resumed its activity, and Belarus joined the Moscow-controlled CIS Collective Security Treaty Organization.

Author Siarhiej Navumčyk, who was a parliamentary deputy in that pivotal year, describes the achievements and defeats of Belarus's then leader Stanislau Šuškievič, a man with strong democratic convictions who nonetheless relied little on the support of existing political parties. Navumčyk analyzes the reasons behind the political rise of future president Alaksandar Lukašenka, who in 1993 earned prominence by associating himself closely with populist anti-corruption campaigns.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03–25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка.**
**Сто песень.**
**2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.